Кніга першая

# Скрыжалі памяці

У трох кнігах

***З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны***

Мінск, «Беларускі кнігазбор», 2005

# ЗАГУБЛЕНЫЯ Ў ПОЛЫМІ САРАКАВЫХ

Не адна ваенная навала пракацілася па беларускай зямлі, пакідаючы папялішчы і руіны, а ў людскіх сэрцах — гора і пакуты. Аднак менавіта XX стагоддзе застанецца ў гісторыі як адно з самых крывавper-трагедыйных, і найперш з тае прычыны, што гітлераўскі фашызм у гады Другой сусветнай вайны знішчыў мільёны чалавечых жыццяў. Кожны трэці беларус загінуў у полымі суровага ліхалецця. Смерць аднаго чалавека — гэта невымерная трагедыя, бо разам з ім гіне цэлы свет, а што тады казаць пра цану людскіх ахвяр усяго нашага народа. Ужо больш за паўвека не знікаюць «памяць вайны, раны вайны, боль чалавечы» (А. Бачыла). І сёння, бадай, няма такой хаты, дзе не адгукалася б рэха жудаснай і спусташальнай вайны 1941–1945 гадоў: нехта з родных, блізкіх людзей загінуў ці прапаў без вестак, хтосьці прайшоў праз франтавыя выпрабаванні або перажыў акупацыю, камусьці давялося пакутаваць у фашысцкай няволі…

Пачалося змаганне з вераломным агрэсарам на зямлі Беларусі ў Брэсцкай крэпасці. Для беларусаў і іншых савецкіх народаў тое ліхалецце стала Айчыннай вайной: яны вялі барацьбу не за міфічныя ідэалы і абстрактныя савецкія лозунгі, а самаахвярна і мужна баранілі родныя вёскі і гарады, свае сем'і, бацькоўскі край, жыццё на зямлі. У першыя дні вайны наш пясняр Янка Купала з упэўненасцю сказаў, што беларус не апусціць пакорліва галавы перад чужаземным захопнікам, бо ў яго ёсць уласная годнасць, жывая душа, свае гераічныя традыцыі і святыні. У артыкуле «Узнімайся, народзе мой, на вялікую расплату!» ён пісаў: «Нямецкі фашызм топча нашу мілую, родную, слаўную беларускую зямлю. Ён зруйнаваў нашы гарады, ён стаіць над нашай душою, гэты бязлітасны кат, якому мала адной крыві, які прагне рваць і таптаць душу народа». Янка Купала, які заўсёды змагаўся за сацыяльна-палітычнае і духоўнае адраджэнне Беларусі, у гэты гістарычна адказны час клікаў да змагання з ворагам «за самае галоўнае ў жыцці» — «за свабоду, за існаванне беларускай нацыі». У звароце да сям'і славянскіх народаў ён вітаў «барацьбу… за вашу і нашу незалежнасць, за вашу і нашу перамогу». Гітлераўскі генеральны план «Ост» быў скіраваны на татальнае вынішчэнне славянскага свету. Жудасная катастрофа напаткала і яўрэйскае

насельніцтва розных краін. Захопнікі неслі з сабой смерць, гвалт, рабаўніцтва. Гітлераўцы ператварылі Беларусь у зону канцэнтрацыйных лагераў і гета, дзе гінулі ваеннапалонныя, жанчыны і дзеці, людзі з розных краін Еўропы, на нашай зямлі былі спалены разам з жыхарамі шматлікія вёскі, разбураны гарады з гістарычнымі помнікамі архітэктуры і культуры. Злавесны наступ фашызму зрабіўся рэальнай пагрозай для чалавечай цывілізацыі. Знакаміты генерал і прэзідэнт Францыі Шарль дэ Голь пісаў: «У нас адна-адзіная нязменная мэта. Мы перапоўнены рашучасцю знішчыць Гітлера і ўсе знакі нацысцкага рэжыму. Нішто не зможа прымусіць нас адступіцца ад гэтага, нішто». Супраць «карычневай чумы» паўсталі цэлыя народы, беларускі люд таксама не захацеў скарыцца грубай сіле і жыць у рабстве.

Ваенны час змусіў спазнаць цяжкія выпрабаванні і творчую інтэлігенцыю. Паводле падлікаў Л. Кароткай, «248 пісьменнікаў Беларусі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны» (Гонар і боль // Полымя. 2003. № 5. С. 172). Літаратары апранулі вайсковыя шынялі і ішлі на фронт, многія змагаліся ў партызанах і антыфашысцкім падполлі, іншым давялося выжываць ва ўмовах акупацыі, асобныя былі змушаны прайсці праз пакуты ў гета. Франтавікам выпаў неймаверна цяжкі і суровы лёс, яны сустрэліся са смерцю вочы ў вочы, падымаліся ў атаку пад смерчам куль і асколкаў. Маршал Г. Жукаў сказаў: «Я лічу, што моладзь прынесла галоўную ахвяру ў вайне». Гэты ж славуты палкаводзец, каго сёння называюць ваенным геніем, дакладна акрэсліў лёсавызначальны характар той вайны: «Мы схапіліся з фашызмам, калі амаль уся Еўропа была ім пераможана. Мы заставаліся для многіх людзей і нацый апошняй надзеяй. Свет замёр у чаканні ў 1941 годзе: выстаім мы ці фашысты і тут возьмуць верх? Для нас саміх гэтая схватка была найвялікшым выпрабаваннем». Нацысцкая Германія кінула на СССР добра ўзброеныя арміі і дывізіі, і таму ў пачатку вайны савецкія войскі не здолелі спыніць магутнага і вопытнага агрэсара (былі таму і іншыя прычыны, як, да прыкладу, знішчэнне рэпрэсіўнай машынай у 1937–1938 гадах таленавітых савецкіх военачальнікаў і камандзіраў). Толькі за першы месяц абарончых баёў на нашай зямлі палеглі сотні тысяч салдатаў і афіцэраў, тысячы чырвонаармейцаў трапілі ў фашысцкі палон. У 1941 годзе загінулі на фронце Леанід Гаўрылаў, Андрэй Ушакоў, Рыгор Суніца, Мікола Сямашка, Уладзімір Рагуцкі, Сямён Ляльчук, Іван Шапавалаў, Міхась Юдэлевіч і іншыя пісьменнікі Беларусі. Жорсткія, кровапралітныя баі вымагалі новых і новых ахвяр. Пры абароне Сталінграда ў 1942 годзе смерцю храбрых палеглі ваенны карэспандэнт паэт Алесь Жаўрук, малодшы лейтэнант празаік Хвядос Шынклер, камандзір мінамётнай батарэі паэт Аркадзь Гейнэ.

Паэт Анатоль Вялюгін пабачыўся з Хвядосам Шынклерам, які добраахвотнікам пайшоў на фронт, на станцыі Камышын падчас бамбёжкі фашысцкай авіяцыі. Тую сустрэчу ён прыгадваў у кнізе «Мы

іх не забудзем» (1949):

«— Ну, як? — спытаў я, калі заціхла чарговая бамбёжка.

— Нічога, — Шынклер абтрэсваў з шынеля вапняны пыл. — Усё ж гэтага ніколі не прамяняю на ціхі, цёплы закутак, дзе можна памерці з нецярплівасці, чакаючы чарговай зводкі. Дый да Беларусі нам бліжэй адгэтуль…»

У змаганні з ворагам склалі свае галовы франтавікі і літаратары Мікола Сурначоў, Рыгор Жалязняк, Мікола Нікановіч, Аляксей Коршак, Алесь Мілюць, Сяргей Крывец, Захар Барсук, Павел Левановіч, Алесь Пруднікаў, Тодар Курбацкі, Леў Талалай, Рува Рэйзін, Эдуард Галубок, Барыс Іофе, Эля Каган, Пётр Калбыка, Генадзь Шведзік, Уладзімір Ясючэня і інш. Дзякуючы паэтам і пісьменнікам наша літаратура, вобразна кажучы, стала ў баявыя шэрагі, ішла дарогамі вайны, набліжала перамогу. Палкае мастацкае слова заклікала да барацьбы з фашызмам як найвялікшым агульнанародным злом. У тыя грозныя, навальнічныя дні пісьменнікі зведалі глыбокія ўзрушэнні і пакутны боль, пісалі з вялікай душэўнай самааддачай, грамадзянскай страснасцю. Яны, узяўшы ў рукі зброю, ратавалі Радзіму і галоўныя духоўныя каштоўнасці, гінулі з любоўю да жыцця і родных людзей. Магілы нашых землякоў, якія змагаліся з фашызмам, раскіданы на абшарах ад Масквы да Брэста, а таксама па ўсёй Еўропе.

Жыццёвы і творчы шлях дачасна закончыўся і для некаторых іншых пісьменнікаў, хто ўключыўся ў антыфашысцкую дзейнасць на акупіраванай тэрыторыі. За сувязь з партызанамі паплаціўся жыццём паэт Алесь Дубровіч (1942), у гестапаўскім засценку была закатавана кіраўнік падпольнай групы пісьменніца і журналістка Вера Харужая (1942), у Слуцку гітлераўцы расправіліся з падпольшчыкам празаікам Уладзімірам Кандраценем (1943), у Чэрыкаве пасля допытаў і экзекуцый быў расстраляны падпольшчык паэт і журналіст Іван Дзенісенка (1943), на Лагойшчыне падчас прарыву блакады загінуў падпольшчык і партызанскі разведчык празаік Рыгор Мурашка (1944). Літаратары Беларусі ўліліся ў народны рух за вызваленне роднай зямлі, не шкадавалі свайго жыцця дзеля перамогі над гітлераўскімі захопнікамі. На той вайне былі свае змагары і героі, іх мужнасць, адвага і самаахвярнасць сведчаць пра нязломны гераічны, патрыятычны дух беларусаў і іншых народаў, якія ўзняліся на змаганне з фашызмам. Савецка-германская бойня, нібы вір, засмактала вялікія чалавечыя рэсурсы, ненажэрная мясарубка вайны перамалола іх з бязлітаснай жорсткасцю.

Беларусь у 1941–1945 гадах зведала ахвярнасць вялікай крыві, згубнасць нацысцкай палітыкі, заснаванай на агрэсіі і гомафобіі, ідэі ўсясветнага панавання Трэцяга рэйха. Ахвярай таго гістарычнага часу сталі многія ўчарашнія мірныя людзі. У блакадным Ленінградзе сканаў удзельнік абароны горада на Няве паэт Янка Бобрык (1942), у Мінскім гета загінулі Сара Каган (1941) і Рахіль Брохес (1942), з канцлагера Асвенцім не вярнуўся бібліяфіл і літаратурны крытык

Рамуальд Зямкевіч (1943 ці 1944). За савецкім часам не заўсёды згадвалі тых ахвяр фашызму, хто апрача літаратурнага занятку вёў душпастырскую дзейнасць. У Плешчаніцах гестапаўцы арыштавалі, а затым расстралялі праваслаўнага святара — былога заходнебеларускага выдаўца, рэдактара і пісьменніка Аляксандра Каўша (1943), пасля турэмнага зняволення сканаў ксёндз і пісьменнік Пётра Просты, свецкае імя якога Ільдэфонс Бобіч (1944), у ахопленай полымем Варшаве загінуў пратэстанцкі святар — паэт і бібліяфіл Гальяш Леўчык (1944). У суровых і надзвычай складаных умовах акупацыі чалавек апынаўся перад выбарам, ён нярэдка быў змушаны шукаць шлях да выжывання і паратунку. Але часам тыя спадзяванні былі марнымі. Так, ілюзіі наконт «новай улады» мусіў страціць драматург і празаік Мікола Ільінскі, якога гітлераўцы закатавалі ў засценках СД (1943).

На скрутны ваенны час прыпадае і раптоўная, загадкавая смерць Янкі Купалы (1942). Нямала пісьменнікаў загінулі ў віхуры вайны без вестак, пры нявысветленых акалічнасцях, як у выпадку са Змітраком Астапенкам, а некаторым, як Васілю Быкаву, пашэнціла цудам уратавацца ад пагібелі і пасля цяжкіх раненняў ды атрыманых роднымі пахаронак вярнуцца дадому.

Праз Беларусь пралёг баявы шлях больш за 120 пісьменнікаў усіх рэспублік былога Савецкага Саюза. Для трынаццаці з іх наша родная зямля стала вечным прыстанкам. Каля Лельчыц загінуў 29-гадовы рускі пісьменнік і журналіст Іван Меншыкаў (1943), пры вызваленні Беларусі паў смерцю храбрых узбекскі паэт Султан Джура (1943), у самы разгар аперацыі «Баграціён» Грузія страціла паэта Мірзо Гелавані (1944).

«Тысячы шчодрых натхненняў, шчаслівых світанняў загублена лютай вайной» (К. Кірэенка). На сённяшні дзень пра асобных пісьменнікаў і творча адораных маладых людзей мы маем вельмі скупыя біяграфічныя звесткі, трэба намагацца адшукаць тэксты і матэрыялы пра іх.

Пераможнага салюту не прычакаў наш зямляк, франтавік паэт Канстанцін Клімковіч. У студзені 1944 года варожы снарад разарваўся ля ног маладога лейтэнанта, аднапалчане пахавалі яго на ўскрайку вёскі Краснаполле, што на Жытоміршчыне. Канстанцін Клімковіч родам са станцыі Пагарэльцы, што знаходзіцца на ўчастку чыгункі Баранавічы — Стоўбцы. Тут мінулі яго дзіцячыя гады, калі ён захапляўся творамі Купалы і Коласа, адсюль ён пайшоў на вайну. У лісце да брата Захара ён пісаў: «По этим безлесым просторам когда-то мчалась конница ханов Золотой орды. И она растаяла на этих просторах, как снег, как зловещее привидение. От нее не осталось ничего. Теперь эту землю топчут фашистские орды. Их ожидает такая же участь…» Там, на фронце, у час кароткіх перапынкаў паміж баямі, нараджаліся вершаваныя радкі, прасякнутыя пафасам змагання і верай у перамогу:

Размахнись, всенародного мщенья
Боевая рука, и ударь!
Дуй смелее, весны дуновенье,
Разжигай нашей мести пожар!

Канстанцін Клімковіч напісаў вершы «Дорога на запад», «К любимой незнакомке», «Ночным бомбардирам» і іншыя творы, у якіх, на думку А. Літвіна, «не ўсё… вылучаецца дасканаласцю ў мастацкіх адносінах, але ў іх гарыць святлом, іскрыцца страсная, палкая душа паэта-патрыёта», увасоблена тое, «чым былі напоўнены нялёгкія салдацкія будні» (Во славу Родины. 1964. 6 сент. С. 3).

Міхась (Міхаіл) Карнейчык да вайны працаваў загадчыкам пачатковай школы ў Пухавіцкім раёне. У гады ўсенароднага змагання з фашызмам ён узяў у рукі зброю. Аднак у той жа час не забыўся на паэтычную творчасць. У рукапісным часопісе «Партызан» (1943. № 4. 18 сак.) змешчаны яго твор пад крыптанімам М. К. «Партызанская песня» М. Карнейчыка ўключана ў зборнік фальклору ваеннага часу «Лясныя песні» (1974):

Хай баляць нам крывавыя раны,
Што ўчыніў злы фашысцкі дракон.
Сёння ў бітву ідуць партызаны,
І мы ворага выкінем вон.

Вяртаючыся з разведкі, партызан Карнейчык натрапіў на варожую засаду, апынуўся ў палоне і быў расстраляны ў вёсцы Лапічы.

Пісьменнік Антон Зорскі загінуў у 1941 годзе пры абароне Масквы. Нарадзіўся ён у вёсцы Малюшына на Краснапольшчыне. Да 1917 года закончыў народнае вучылішча і гімназію, працаваў некаторы час настаўнікам Палужскай школы. У 1919 годзе быў прызначаны рэдактарам газеты «Чырвоны кліч». Затым жыццёвы шлях прывёў яго ў Маскву, куды яго запрасілі на працу ў «Крестьянскую газету». У 1928 годзе выйшла яго кніжка «Пастухи», а трохі пазней зборнік «Наряд». Ён таксама аўтар п'есы «Корень зла» і іншых твораў. У 20-я гады беларуса А. Зорскага добра ведалі ў маскоўскім літаратурным асяродку, да яго творчасці вельмі прыхільна ставіўся паэт Міхаіл Ісакоўскі. Асноўная тэма яго творчасці — вёска і яе жыццё. Напрыканцы 20-х гадоў Антон Яфімавіч вярнуўся на радзіму, пабудаваў у пасёлку Зялёны Гай уласны дом, а таксама яшчэ адзін дом для сваякоў. Менавіта гэта і дало падставу залічыць пісьменніка ў шэрагі «класавых ворагаў». У Зялёным Гаі Зорскі разам з сям'ёй праводзіў летні адпачынак, тым не менш ён уступіў у калгас «Шлях да камунізму». Вось што гаварылася ў высновах камісіі па заяве вядомага на той час журналіста і пісьменніка адносна несправядлівых абвінавачванняў: «Такім чынам, гэта сям'я ўяўляе сабой кулацкі букет, які хаваецца за Зорскім» (*Антоненка В., Ліхавец*

*А., Мельнікаў А.* Як раскулачвалі пісьменніка // ЛіМ. 1999. 29 кастр. С. 13). З цяжкасцю А. Зорскаму ўдалося тады пазбегнуць фізічнай расправы.

Ужо блізіўся жаданы дзень Перамогі, калі ў баях на рацэ Одэр абарвалася жыццё паэта і крытыка Аляксандра Нікалаенкі (1945). Дзіцячыя і юнацкія гады яго прайшлі ў вёсцы Лялеўшчына, што ў Гарадоцкім раёне. На пачатку 30-х гадоў падаўся на Украіну ў пошуках заробку, адтуль пераехаў у Маскву, дзе пачаў працаваць на авіяцыйным заводзе. Адначасова завочна вучыўся, падвышаў сваю адукацыю. У другой палове 30-х гадоў А. Нікалаенку беспадстаўна арыштавалі і на два гады кінулі ў сталінскую турму. Пасля выхаду на свабоду яму было забаронена пастаянна жыць у Маскве і Ленінградзе, таму пасяліўся на станцыі Чашча Ленінградскай вобласці. З пачаткам вайны ён апынуўся на фронце, удзельнічаў у многіх баях, быў тройчы паранены, вызваляў Беларусь.

На ўсю вёску толькі ў хаце Нікалаенкаў віселі партрэты Купалы, Коласа і Багдановіча. Ад'язджаючы з роднай Лялеўшчыны на Украіну, юнак пакінуў два сшыткі вершаў, якія, на жаль, не ацалелі. Пісаў вершы і байкі, а пазней спрабаваў свае сілы ў жанры літаратурнай крытыкі. Выступаў з публікацыямі ў тагачаснай даваеннай перыёдыцы, а ў гады вайны — у франтавым друку.

Гібель таленавітай творчай моладзі — непапраўная страта для нацыянальнай культуры. Асабліва цяжкімі і балючымі былі вынікі вайны для беларускай літаратуры, якую яшчэ ў гады сталіншчыны напаткала масавае фізічнае вынішчэнне пісьменніцтва. Для многіх з тых, хто загінуў, яшчэ толькі займаўся жыццёвы золак і распачынаўся шлях у літаратуру, але смерць без шкадавання падкошвала будучыню беларускага мастацкага слова.

Аглядаючы сабраную для гэтага выдання творчую спадчыну, трэба адзначыць, што ў многіх выпадках напісанае пазначана пячаткай таленавітасці, прываблівае арыгінальнасцю думак і неўвядальнасцю пачуццяў, вылучаецца адметнай мастацкай формай. Хрэстаматыйнай стала славутая балада Міколы Сурначова «У стоптаным жыце»:

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце…

Гэтая балада моцна ўразіла А. Твардоўскага, які зрабіў пераклад сурначоўскага твора на рускую мову.

Аляксей Коршак у 1942 годзе напісаў выдатны верш «Паранены», у якім лірычны герой з шчымлівым болем развітваецца з родным

краем:

От і ўсё.
За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Пра творчы патэнцыял Рыгора Суніцы можа яскрава пасведчыць хаця б адзін яго твор — «На сконе дзён», першая беларуская лірычная секстына. Прыклады можна доўжыць.

Вядома, асобным літаратурным тэкстам бракуе дасканаласці, майстэрства, выяўляецца ідэалагізаваны падыход, але ж не будзем празмерна строгімі суддзямі, памятайма пра юнацкі і вельмі малады ўзрост аўтараў гэтых твораў, пра агульны ўзровень развіцця тагачаснай літаратуры і пра тое, што ім, на жаль, ужо не было наканавана дапрацаваць свае радкі ці пераасэнсаваць свой творчы плён.

Ужо даўно прыспела пара годнага ўшанавання памяці тых, хто праз ваеннае ліха не паспеў здзейсніць свае творчыя задумы, напісаць галоўныя кнігі жыцця. Сёння друкавання традыцыйных біяграфічных нататак з нагоды юбілейных датаў недастаткова, бо варта апублікаваць нямала з таго, што засталося ды ацалела з літаратурнай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі падчас тых трагічных ваенных падзей. Трэба зазначыць, што дзеля вяртання і асэнсавання іх творчасці нямала зрабілі ў свой час беларускія пісьменнікі, удзельнікі вайны Сцяпан Александровіч, Анатоль Вялюгін, Рыгор Бярозкін, Аляксей Зарыцкі, Кастусь Кірэенка, Паўлюк Пранузa, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Калеснік, Янка Казека, а таксама літаратары, гісторыкі, музейныя супрацоўнікі, архівісты, тэкстолагі Варлен Бечык, Рыгор Рэлес, Станіслаў Шушкевіч, Павел Пруднікаў, Рыгор Шырма, Ян Скрыган, Генадзь Кісялёў, Расціслаў Платонаў, Антаніна Лысенка, Арсень Ліс, Георгій Юрчанка, Янка Саламевіч, Лідзія Арабей, Уладзімір Ліўшыц, Ганна Запартыка, Лілія Балыніна, Дзіяна Гальпер, Ніна Цвірка, Вольга Дэконская і інш. Зробленае папярэднікамі ў значнай ступені аблегчыла падрыхтоўку пісьменніцкай спадчыны да друку. Тым не менш мною працягвалася пошукавая праца ў бібліятэках і архівах, вынікам якой з’яўляецца найперш папаўненне літаратурнага і эпісталярнага матэрыялу для гэтага выдання. Мая шчырая ўдзячнасць за дапамогу супрацоўнікам Нацыянальнага архіва Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Нацыянальнага гістарычнага архіва, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна, Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі. Вернуты з забыцця некаторыя імёны, адмыслова для гэтага выдання напісаны ці дапрацаваны старэйшымі

пісьменнікамі ўспаміны пра сяброў і таварышаў па літаратуры, зроблены пераклады з ідыш Рыгорам Рэлесам, Артурам Вольскім, Рыгорам Барадуліным, Феліксам Баторыным, Вольфам Рубінчыкам. Удакладнены ці ўзноўлены асобныя біяграфічныя звесткі. Зрэшты, у гэтым плане пры падрыхтоўцы біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (пад рэд. праф. А. Мальдзіса) значную працу прарабілі Ірына Багдановіч, Сцяпан Лаўшук, Анатоль Верабей, Рыгор Рэлес і інш.

Збор матэрыялу і падрыхтоўка выдання да друку заняла багата часу — больш за пяць гадоў. Даводзілася звяртацца па кансультацыі і парады да многіх людзей, якія маюць тое ці іншае дачыненне да жыцця і творчасці загінуўшых пісьменнікаў. Прыдаліся згадкі і звесткі Рыгора Рэлеса, Паўла Пруднікава, Сяргея Грахоўскага, якія, на вялікі жаль, за той час, калі рыхтаваўся рукапіс да друку, пакінулі наш зямны свет. Укладальнік выказвае падзяку пісьменнікам, даследчыкам літаратуры, гісторыкам, бібліятэкарам, архівістам, журналістам — усім, хто супрычыніўся да гэтага выдання, а менавіта: Міколу Аўрамчыку, Івану Навуменку, Янку Брылю, Рыгору Барадуліну, Янку Саламевічу, Віталю Скалабану, Ганне Запартыцы, Уладзіславу Вяроўкіну-Шэлюту, Алесю Марціновічу, Сцяпану Лаўшуку, Адаму Мальдзісу, Эмануілу Іофе, Георгію Юрчанку, Васілю Жураўлёву, Уладзіміру Паўлаву, Міколу Мятліцкаму, Алесю Карлюкевічу, Георгію Чыгіру, Афрыкану Літвіну, Людміле Рабок, Дзмітрыю Давідоўскаму, Анцінеі Мурашцы, Алісе Шыловіч, Леаніду Маракову, Ірыне Ратнікавай, Уладзіміру Адамушку, Мікалаю Шчэрбачэню, Віктару Мацвеенку, Фрыдзе Фінкель, Міхасю Скоблу, Ларысе Андросік, Ірыне Коваль. Асаблівая падзяка Алене Бельскай за дапамогу ў падрыхтоўцы шматлікіх тэкстаў да друку.

Час бяжыць хутка і няўмольна. Міне 70, 80, 90 і 100 гадоў пасля вайны. Новым пакаленням наканавана захоўваць памяць пра яе. Трэба ведаць горкую праўду пра вайну, не забываць яе герояў і ахвяр, каб падобнае ніколі не паўтарылася. Пра тое, каб не абмялела народная памяць, хваляваўся паэт-франтавік Пімен Панчанка:

Можа рознае быць…
І які б ні ўз'юшыўся вецер,
Мы Радзіму сваю
Адстаім, не шкадуючы сіл.
Аднаго толькі страшна,
Каб заўтра, пасля нашай смерці,
Раўнадушнае племя
Не жыло каля нашых магіл.

*(«Магілы»)*

Не верыцца, што ў Беларусі калі-небудзь знікне памяць пра палеглых і забітых пісьменнікаў, пра іх трагічны лёс, пра тое, што вайна нясе найвялікшыя страты, нішчыць маладосць і каханне, красу жыцця і чалавечае шчасце. Хочацца спадзявацца, што гэты збор творчай спадчыны, які выходзіць на пачатку XXI стагоддзя, будзе кнігай-памяццю і своеасаблівым літаратурным помнікам пісьменнікам Беларусі, якія загінулі ў гады фашысцкай агрэсіі. Няхай Бог апякуе душы забітых, закатаваных, памерлых ад ран і голаду. Вечная слава і

## УСЁ РАДЗІМЕ АДДАЛІ...

*Памяці беларускіх паэтаў,*
*якія гераічна загінулі*
*на Вялікай Айчыннай вайне*

Гэта застанецца ў вяках — подзвіг народа ў найвялікшай з усіх войнаў і подзвіг літаратуры, якая была з народам у свяшчэннай бітве за свабоду Радзімы.

Незвычайны і нечуваны ўдзел брала ў гэтай бітве савецкая літаратура. Больш за тысячу членаў Саюза пісьменнікаў СССР пайшлі на фронт. За ўдзел у баях супраць фашысцкіх захопнікаў каля пяцісот з іх былі адзначаны баявымі ўзнагародамі, васемнаццаць удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Каля чатырохсот аддалі жыццё за Радзіму.

У трагічным спісе загінуўшых — беларускія паэты Змітрок Астапенка (1900–1944), Янка Бобрык (1905–1942), Леанід Гаўрылаў (1918–1941), Аркадзь Гейнэ (1919–1942), Алесь Дубровіч (1906–1941), Алесь Жаўрук (1910–1942), Рыгор Жалязняк (1914–1942), Аляксей Коршак (1920–1945), Сяргей Крывец (1907–1945), Рыгор Суніца (1909–1941), Алесь Мілюць (1908–1944), Алесь Пруднікаў (1910–1941), Уладзімір Рагуцкі (1917–1941), Мікола Сурначоў (1917–1945), Мікола Сямашка (1914–1941), Андрэй Ушакоў (1912–1942). І празаікі Павел Лmargin Левановіч (1914–1943), Рыгор Мурашка (1902–1944), Мікола Нікановіч (1902–1944), Хвядос Шынклер (1903–1942). І пісьменнікі з Беларусі, якія пісалі на рускай і на яўрэйскай мовах, — Эля Каган (1908–1945), Сямён Ляльчук (1916–1944), Рува Рэйзін (1911–1942), Леў Талалай (1908–1942), Іван Шапавалаў (1907–1941), Генадзь Шведзік (1914–1942), Міхась Юдэлевіч (1914–1941). Гэты спіс можна працягваць. Разам з тымі, хто паспеў ужо заявіць аб сабе ў літаратуры, гінулі і тыя, хто яшчэ толькі спрабаваў голас, — Тодар Курбацкі, Алег Радзівонаў, Уладзімір Ясючэня...

Памяць пра іх — у нашых сэрцах.

**«Імёны іх прачытай і запомні...»** Творы паэтаў, якія аддалі жыццё за савецкую Радзіму ў час Вялікай Айчыннай... Гэта адна з самых дарагіх, святых старонак нашай паэзіі. І самых балючых. Нават калі чытаеш светлыя, прамяністыя радкі з іх даваеннага «шырокага рання» (словы Змітрака Астапенкі), не можаш пазбавіцца ад смутку: як рана,

дачасна абарваліся маладыя жыцці! як многа маглі яны яшчэ стварыць сапраўднага, важкага!

Леаніду Гаўрылаву, Аркадзю Гейнэ, Аляксею Коршаку было па 23 гады, Уладзіміру Рагуцкаму — 24, Міколу Сямашку і Міколу Сурначову — па 27, Рыгору Жалезняку — 28, Андрэю Ушакову — 29... Алесю Жаўруку, Змітраку Астапенку, Рыгору Суніцы толькі перасягнула за трыццаць. Назаўсёды засталіся яны ў гэтым узросце, і вершы, якія былі, па сутнасці, яшчэ толькі і пачаткам, абяцаннем, — сталі іх пасмяротнай спадчынай. Няма цаны гэтай спадчыне, бо подпісы пад ёю ў канцы зроблены крывёю сэрца.

Яшчэ ў 1935 годзе Андрэй Ушакоў напісаў верш «Многаму ім ты ў жыцці абавязан», дзе былі такія радкі:

Навекі, як вобраз бацькоў сваіх,
Імёны іх прачытай і запомні.
Ты пройдзеш па полі, па сцежках лясных,
Праз ціхі вечар і ясныя промні.

Каб даць спакой здранцвелым нагам,
Прысядзеш спачыць у цяньку пад вязам.
І, можа, будзе зусім няўцям,
Як многаму ім ты ў жыцці абавязан.

Мы многаму абавязаны ім за іх воінскі подзвіг. Мы абавязаны і іхняй песні, непаўторнай і незабыўнай, душэўна і паэтычна важнай. Маладыя паэты-франтавікі «навечна згаслі, спяць у брацкіх магілах, і сёння нават не ведаеш, дзе яны, гэтыя магілы, — пад Брэстам, у данскім стэпе, над Волгай, за Дунаем ці Одэрам...» (А. Вялюгін). А вершы іх — маладыя, шчырыя, свежыя, светлыя — працягваюць жыць не толькі па праву памяці, але і па праву грамадзянскай паэтычнай вартасці...

**«Наш час — вясна!»** Яны хараша, прыгожа ўваходзілі ў жыццё і паэзію. Былі 30-я гады, час вялікіх пераўтварэнняў і вялікіх поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва. Савецкая ява акрыляла маладое пакаленне, якое ўзрастала ўжо ва ўмовах сацыялізму, адкрывала перад ім велічныя прасторы для натхнёнай дзейнасці. Маладыя паэты ад першых крокаў адчувалі сваю далучанасць да лёсу Радзімы, натхняліся часам, глыбока прымалі ў душу ўсё лепшае, што было ў савецкім ладзе жыцця: дух роўнасці і братэрства, палымяны патрыятызм, веру ў светлую будучыню, пачуццё высокай грамадзянскай адказнасці за сваю Радзіму.

Радаснай, наскрозь веснавой, вельмі адкрытай была ад самага пачатку іх лірычная споведзь.

«Таварыш мой, вялікае ёсць шчасце быць сябрам сонца, песні і вясны...» — гэта радкі Аляксея Коршака.

«Наш час — вясна!» — радасна ўсклікаў Леанід Гаўрылаў.

Адчуваннем вясны жыццёвай, вясны паэтычнай поўніліся іх творы, і гэта было іх арганічнае, жывое адчуванне, дадзенае самім часам.

Мы ў свет вялікі увайшлі,
Гарачым сонцам абагрэты, —
Гаспадары сваёй зямлі,
Гаспадары сваёй планеты, —

Так пісаў Мікола Сямашка, і яго радкі праўдзіва і шчыра выяўлялі агульны настрой усяго пакалення, гарачы энтузіязм, радасную апанаванасць жыццём. Яны былі такімі ўсе, паэты гэтага пакалення, — радаснымі, мэтаімкнёнымі, адкрытымі жыццю, рамантыкамі-жыццялюбамі.

Той свет, які раскрываўся ў іхнім паэтычным слове, здаецца прасторным і прыгожым, вельмі прывабным, адухоўленым добрымі пачуццямі.

Ты выйдзі у сад. У гэты цёплы вечар
Так добра ў ім — расцвіўшым, маладым.
І неба сіняе з любоўю чалавечай
Прасцерла рукі зорныя над ім.

Гэтыя радкі Міколы Сямашкі, як і яго словы: «Здаецца, шчасця да мяне ніхто не адчуваў яшчэ», — перагукаюцца з многімі вершамі Жаўрука, Коршака, Гаўрылава і іх сяброў, паплечнікаў, якія пазней разам з імі сталі ў строй абаронцаў Радзімы — Аркадзя Куляшова і Пімена Панчанкі, Кастуся Кірэенкі і Анатоля Вялюгіна, Аляксея Зарыцкага і Аляксея Русецкага, Алеся Бачылы і Міхася Калачынскага, Міколы Аўрамчыка і Рыгора Няхая. Адна высокая паэтычная хваля ўздымае іх, адкрывае ім «бяскрайнія шумлівыя прасторы» (Л. Гаўрылаў), дорыць «ветравое» адчуванне часу. Лёгкай, пругкай хадою ідуць яны насустрач жыццю, насустрач сонцу, пяюць сяброўства, каханне, услаўляюць свет, які ўжо належыць ім, маладым гаспадарам зямлі:

Зірні перад сабою, і пабачыш
Прасторы неабдымныя, як мора,
І колераў яснейшых разнастайнасць —
Зялёную зямлю і неба сінь,
Магутныя, шырокія прасторы,
Што дыхаюць размахамі жывымі
Адвечнай маладосці і жыцця.

*(А. Коршак)*

Вядома, былі ў гэтым апяванні жыцця і словы, як адзначаў А. Суркоў, «велеречивые», надараліся (няма патрэбы некага прыхарошваць) радкі несамастойныя і няспелыя, але ішлі яны ад шчырых сэрцаў, мелі крыштальна чыстыя вытокі.

«У мяне цяпер абсалютна аптымістычны дух, больш, аптымізм, які перамяшаны з рамантызмам. Я зусім шчыра веру ў чалавека, у яго добрыя якасці. Я веру ва ўсё тое лепшае, што мае на нашай зямлі сваю

назву. Веру ў пачуцці кахання, сяброўства, жаласці і інш. ... Веру ў сяброў, у каханую... Веру ў думку...» — так пісаў у адным з лістоў малады пісьменнік, наш зямляк з Магілёва Міхась Малочка, жыццё якога неўзабаве абарвала вайна.

Дух сумлення, абсалютнай маральнасці, пазбаўленай эгаізму жыццёвай актыўнасці пранізваў іх жыццёвыя мэты. «Калі жыць для сябе, дык лепш зусім не жыць», — запісаў у сваім дзённіку яшчэ школьнікам М. Малочка.

Дзень мінуў, і сонца круг патух,
Запаліўшы воблакі праменнем.
Што карыснага зрабіў, мой друг,
Ты правер перад сваім сумленнем.

Каб не мучыў сорам перад тым,
Як апошняя часіна прыйдзе,
Што ты век пражыў жыццём пустым,
Што нашчадкі на цябе у крыўдзе.

Гэта ўжо радкі Андрэя Ушакова. Дух высокага ідэалу, свядомай мэты пранізваў усё іх жыццё.

«Ці ўсе былі ў нашым пакаленні Карчагінымі і Гайдарамі, Кашавымі і Матросавымі? — пісаў паэт, былы франтавік Сяргей Нараўчатаў. — Вядома, не! Але без таго асяроддзя, без тых самаахвярных хлопцаў, сярод якіх яны выраслі, не было б іх саміх. Па-за штодзённай савецкай рэчаіснасцю немагчыма фарміраванне такіх характараў, рамантычных і непахісных, мужных і даверлівых, суровых і пяшчотных».

Заканамерным працягам лірычнай споведзі пакалення сталі словы аб вернасці народу, Радзіме. Кожны з маладых паэтаў добра адчуваў перад вайною сваё месца ў гераічным і трывожным часе як месца адказнае, кожны ўсведамляў свой галоўны абавязак, які гісторыя восьвось ускладзе на іх маладыя плечы.

Недарма так рашуча, упэўнена гаварылі яны пра сваё месца ў страі, недарма загадзя мужна, ахвярна прадвызначалі ўласны лёс.

...Азёр блакітнасць залатую
І шыр бяскрайнюю палёў.
Радзіму бачу, за якую
Ў смяротны бой ісці гатоў.

*(М. Сямашка)*

«Недаром за полгода до начала войны мы написали по стиху на смерть друг друга. Это означало, что знали мы...» Гэта — сучаснае сведчанне Б. Слуцкага, таксама паэта франтавога пакалення.

Ваеннае навальнічча набліжаецца, усё чутней яго пагрозлівыя грымоты. І маладое пакаленне, рыхтуючыся да суровых выпрабаванняў,

ужо займае абаронныя рубяжы на савецкіх граніцах, ужо ўдзельнічае ў першых ваенных канфліктах з імперыялістычнымі сіламі.

«За працай наша маладосць, юнацтва наша па заставах», — пісаў малады паэт Тодар Курбацкі ў «Полымі рэвалюцыі» (1940. № 2). Ён таксама неўзабаве аддаў жыццё за Радзіму. Яшчэ да пачатку Вялікай Айчыннай многія паэты (Міхась Калачынскі, Аляксей Зарыцкі, Алесь Бачыла) апранулі армейскія шынялі, прынялі баявую прысягу.

«Хай будзе бой, хай — паміраць... Але за край, брат, пастаім мы...» — гаварылася ў адным з вершаў А. Бачылы. Алесь Ушакоў у 1940 годзе піша верш «Разведчык»: «Азвярэлы вораг рыне на яго, шлючы праклён. Смерцю труса не загіне, не патрапіць у палон. Да апошняе хвіліны будзе мужным і пакіне для сябе адзін патрон». Жальбай спавіты радкі верша «Песня дзяўчыны» (1938) А. Гейнэ пра загінуўшага байца: «Ты ляжыш і не ўстанеш ніколі, згас твой погляд навек агнявы. Галаву апусціўшы, на волі ходзіць сябра твой — конь баявы».

Яны былі гатовы да бітвы з фашызмам. Іх вершы пра гераічную Іспанію, іх публіцыстычныя водгукі на падзеі на Захадзе выяўлялі магутны зарад гэтай гатоўнасці.

...У светаўспрыняцці, душэўным ладзе, паэтычнай прыўзнятасці, рамантычнай акрыленасці іх твораў было шмат агульнага. Але хораша высвечвала ў кожнага і сваё, адметнае. Спеўны верш, мяккая лятуценнасць Алеся Жаўрука; бадзёрая і стрыманая танальнасць твораў Андрэя Ушакова; гарманічная з’яднанасць парыванняў і засяроджанасці ў Міколы Сямашкі; тонкая паэтычнасць Леаніда Гаўрылава; прыгожая суладнасць пачуццяў з навакольным светам Аляксея Коршака...

Чытаеш і адчуваеш у кожным выпадку: «...гэта былі б крылы для высокага і шчырага палёту» (так пісаў К. Кірэенка пра Л. Гаўрылава). Гэтыя вершы адкрывалі ўнутраны свет цудоўнага пакалення, выявілі асаблівую сардэчную цеплыню, радасць, рашучасць, лепшыя народжаныя новым часам якасці савецкай моладзі, узбагацілі псіхалагічны лад і ўнутраны змест усёй беларускай савецкай лірыкі.

**«Ляжыць ён, як віцязь...»** І вось наступіў час суровых выпрабаванняў. Тое, што ў даваенных вершах маладых паэтаў часам магло здавацца рыторыкай, дэкларацыйнасцю, было пацверджана аддадзеным за Радзіму жыццём.

Мы ў гэтым кляліся калісь —
У гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
Клятвы нашыя мусяць спагнацца.

*(З. Астапенка)*

Яны засталіся ва ўсім вернымі сабе ў гэты суровы час. Яшчэ больш трывалым стаў іх духоўны, маральны кодэкс, у якім усё — Радзіма, маці, каханая, сябры — вельмі зблізілася і паяднапася з усім іншым

дарагім, запаветным. Яны яшчэ, хто колькі паспеў, напісалі на франтавых дарогах новыя творы, і тое, што не згубілася, мела такі запас жыццёвасці, унутранага агню, што і сёння азарае нас сваім святлом.

Сурначоў, Коршак, Жаўрук, Астапенка стварылі ў час вайны вершы, якія сталі сапраўдным здабыткам нашай паэзіі. Як гаварыць пра гэтыя вершы? Вызначаць іх паэтычныя вартасці? Захапляцца іх пранізлівай лірычнай сілай? Дзівіцца праніклівасці і чысціні? Услухоўвацца ў франтавое водгулле і ісці ўслед за іх думкай-марай пра спакой на зямлі, пра вяртанне ў родныя мясціны? Вычытваць балючую, трагічную ноту, якая да мяжы абвастрала пачуцці?

Але як іначай, без поўнай душэўнай аддачы, без многіх думак пра лёс самога паэта і пра многія-многія лёсы, без многіх складаных асацыяцый з перажытым у вайну народам, — як жа без усяго гэтага прачытаеш, напрыклад, верш Міколы Сурначова «У стоптаным жыце» — твор суровай і пяшчотнай велічы, выключнага лаканізму і вялікіх душэўных абсягаў.

Ніколі не ехаць
Хлапцу маладому
Да блізкага гаю,
Да роднага дому.

Над ім асыпаюцца
Слуцкія краскі,
Абсмалены колас
Схіліўся да каскі.

Ляжыць ён, як віцязь,
У стоптаным жыце.
Маці спаткаеце —
Ёй не кажыце.

Напісаўся гэты верш у горкі час адступлення ў сорак першым годзе і ціха, стрымана выказаў вялізны боль тых драматычных абставін. А ўвабраў у сябе, здаецца, цэлыя стагоддзі, матчын смутак, людское шкадаванне... У сваіх паэтычных глыбінях ён сыходзіцца з народнай песняй — шмат бярэ ад яе і пашырае яе прасторы. Родны дом, краскі, колас, жыта, маці... Усё тут так проста згадана, а такую незвычайную мае сілу. Недарма гэты верш пераклаў на рускую мову А. Твардоўскі.

Верш «У стоптаным жыце» меў для нашай паэзіі ваеннага часу асаблівае значэнне, бо ўжо на пачатковым перыядзе вайны, калі пераважалі творы агітацыйна-публіцыстычнага кірунку, адкрываў новыя магчымасці лірычнага псіхалагізму. Вобраз ціха, у невядомасці загінуўшага воіна, малюнак здратаванага, гвалтоўна парушанага мірнага жыцця, унутраны гістарызм, падтэкставы велічны вобраз Радзімы, —

усё гэта было вельмі істотным для паглыблення нашай паэзіі ў новыя душэўныя, псіхалагічныя глыбіні чалавека на вайне.

Іншыя творы Сурначова таксама шмат адкрывалі ва ўнутраным свеце, перажываннях савецкага чалавека ў час вайны. Мы прачытаем у яго, як «акопны спеў журыўся па айчыне», як нараджаліся ў сэрцах байцоў словы клятвы і прага помсты, як многа месцілася ў душах людзей... «Старонка мая, у смутку ты сына свайго не кляні! Мне ў кожным лясным закутку сняцца твае кляны, хваёвыя пералескі, кветак мядзвяны пах, узняўшыя снег пралескі як зараз стаяць у вачах». Роднае, вечнае...

Алесь Жаўрук паспеў напісаць нямнога. Засталося некалькі яго вершаў на беларускай і рускай мовах, сёе-тое з франтавых запісаў, лісты да родных і блізкіх. Але ён дадаў сваё важкае слова да паэтычнага летапісу вайны — пра цяпло Радзімы, пра гераізм воінаў, пра пакуты дзяцей на вайне...

Пра дачасную гібель, пра вялікія страты, пра боль Радзімы незабыўна сказаў Аляксей Коршак у вершы «Параненым»:

От і ўсё.
За светлы край азёрны,
За вясну ў палёх,
Неба сіняе у кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Нада мной шуміць ракіта кволая,
Пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлая
Злой тугі жарства...

Далёка за свой час сягнулі і вершы Змітрака Астапенкі, яго паэма «Эдэм», што ўвабралі і лірычны свет успамінаў пра юнацтва, мірны час, і эпічныя прасторы народнага жыцця ў вайну, і драматычны напал змагання.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас пазірае...

*(З. Астапенка)*

Спраўдзілі яны сваю клятву. Іх гістарычны баявы подзвіг дапоўнены і выдатна раскрыты ў паэтычных словах, якія нельга забыць.

**Вечная памяць.** Так, загінуўшыя ў вайну паэты пакінулі нам неўміручую, жывую спадчыну. Гэта спадчына — наша вялікае духоўнае, маральнае багацце, цудоўны паэтычны скарб. Ці беражом мы яе? Ці аддалі мы належнае памяці загінуўшых паэтаў-франтавікоў? Шмат што зроблена, асабліва клопатамі іх сяброў. Выдадзены кнігі «Ніколі іх не забудзем» (1949) і «Крывёю сэрца» (1967), дзе сабраны творы паэтаў,

якія загінулі на вайне. Выпушчаны пасмяротныя кнігі вершаў М. Сурначова, А. Жаўрука, А. Коршака, А. Ушакова, Л. Гаўрылава. Напісаны ўспаміны, артыкулы... За гэта мы павінны быць удзячнымі найперш А. Вялюгіну, К. Кірэенку, А. Зарыцкаму, М. Аўрамчыку, С. Александровічу, Р. Бярозкіну.

Але гэтага мала, мала! Патрэбны зборнікі матэрыялаў, успамінаў, дакументаў. «Сябры паэта, што загінуў, вянкамі ўсыпалі імя. Жыве сястра. Яе ўспамінаў дасюль, здаецца, і няма», — напісаў у адным з вершаў пра Сурначова Аляксей Пысін. Так, неабходна сабраць успаміны родных і блізкіх. Трэба паўней перавыдаць спадчыну, выправіць памылкі ў некаторых публікацыях, даць чытачам кнігі вершаў Сямашкі, Рагуцкага... Трэба шукаць магілы герояў. Трэба стварыць разгорнутыя нарысы пра нашых паэтаў — каб было што прапанаваць юным чытачам.

Ён юным стаў у строй паэтаў,
Ён па трывозе зброю ўзяў.
Прадбачыў лёс і лёс свой ведаў,
Калі пра віцязя пісаў?

*(А. Пысін)*

Яны зрабілі для нас усё, што маглі. Яны далі нам важны ўрок грамадзянскасці, сумленнасці, душэўнай чысціні. Мы ўдзячны ім за гэта і таксама павінны зрабіць усё, што зможам. Дзеля іх і дзеля нас саміх. І дзеля нашчадкаў.

*1981–1985 гг.* *Варлен БЕЧЫК*

## РАНІШНЯЙ ПЕСНІ ЗАСТУПНІКІ

Вы па-салдацку на палях вайны,
Як на палях старонак вечнасці,
Палеглі абарванымі радкамі,
Паэты Беларускай стараны,
Ваіцелі з паглядамі хлапечымі,
Мысліцелі з шурпатымі рукамі,
Што рызыцы даверылі чаўны.

Вы з велічнага роду мужыкоў,
Вянчанага цапамі і сякерамі,
Прайшлі ад Сталінграда да Берліна,

Астапенка,
Гаўрылаў,
Гейнэ,
Дубровіч,
Жалязняк,
Жаўрук,
Коршак,
Крывец,
Мілюць,
Пруднікаў,
Рагуцкі,
Суніца,
Сурначоў,
Сямашка,
Ушакоў.

Вас выглядала сонца ў вечным цераме,
Шукалі гнёзды ўдовы-курапаткі,
Каліну роспачы заломвала быліна.

Калеснікі,
Бердаж,
Бешанковічы,
Галубічы,
Віцебск,
Сянно,
Вуглы,
Дубна,
Скорычы,
Стары Дзедзін,
Цёплы стан,
Чыгуначная будка ля Старога Сяла,
Слабада,
Барылы,
Рабяткі, —

Не ў замеці вянкоў,
А ў памяці вякоў.
Не летапісцы — ратнікі,
Свае
Пазычылі вы ў дрэў і ў птушак
прозвішчы,
Каб бараніць дубровы і нябёсы.
Калі вясна ад снегу адтае,
Калі гукае вырай след свой босы,
Вас беларускай песні не стае.
І мова беларуская пра вас
У верасні
Свой
Піша
Першы сказ.

*Рыгор БАРАДУЛІН*

# Змітрок
# АСТАПЕНКА

Змітрок (Дзмітрый Емяльянавіч) Астапенка нарадзіўся 23 лістапада 1910 г. у в. Калеснікі Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Хіславіцкі раён Смаленскай вобласці) у сям'і настаўнікаў. У некаторых крыніцах называецца іншая дата нараджэння — 14 (29) лістапада (звесткі НКУС).

У 1920 г. разам з сям'ёй пераехаў на радзіму бацькі ў в. Сяргееўка, што на рацэ Сож, на мяжы з Беларуссю (паводле згадак сястры пісьменніка Н. Е. Астапенка). Скончыў Мсціслаўскі педагагічны тэхнікум (1929). Пасля пераехаў у Мінск (1929), вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута, працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Пазней працаваў выкладчыкам нямецкай мовы ў г. Нікалаеве, пэўны час жыў у Маскве і выкладаў рускую мову і літаратуру ў 252-й школе. Першы раз быў арыштаваны ў 1933 г., другі — 5 снежня 1936 г., беспадстаўна абвінавачаны і асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Адбываў тэрмін у Сібіры. На пачатку вайны звярнуўся ў Народны камісарыят абароны і быў накіраваны на фронт. Удзельнічаў у Карпацка-Дуклінскай ваеннай аперацыі. У афіцыйных крыніцах гаворыцца, што прапаў без вестак у кастрычніку 1944 г.

у Карпатах, на тэрыторыі Славаччыны, куды быў перакінуты з Масквы ў складзе падраздзялення разведчыкаў. Існуюць іншыя меркаванні наконт гібелі пісьменніка, год смерці называецца 1945-ты. Падрабязней гл.: *Марціновіч А.* Дзе ж ты, храм праўды?: Літ.-крытыч. арт., эсэ. Мн., 1996. С. 42–52; *Маракоў Л.* Шасцёра на фотаздымку // Роднае слова. 1999. № 5–6. С. 22–26; *Юрэвіч Л.* Камэнтары: Літаратуразн. арт. Мн., 1999. С. 161–163; *Глыбінны У.* Вялікія дарогі (Пра мінулае). [Мічыган], 1997. С. 129–135.

Змітрок Астапенка — паэт, празаік, перакладчык. Выступаў таксама пад псеўданімамі З. Лірнік, Клім Качкін (разам з Ю. Таўбіным). Друкавацца пачаў з 1926 г. У розныя гады ўваходзіў у літаб'яднанні «Маладняк», «ТАВІЗ», БелАПП. У 30-я гг. выдаў зборнікі паэзіі «На ўсход сонца» (1931), «Краіне» (1931), «Абураныя» (1932). Аўтар навукова-фантастычнага рамана «Вызваленне сіл» (1932). Падчас Вялікай Айчыннай вайны стварыў цыкл вершаў «Спаленая вёска», паэму «Эдэм» (1944), вершаваную аповесць «Ганна» (1944), шэраг апавяданняў: «Компас», «Карыкатура», «Штраф» і інш. (1943–1944). Спрабаваў свае сілы ў драматургіі: п'еса «Запалім люлькі» (1943), захаваўся план камедыі «Туфелька» [1940-я]. У 1957 г. выйшла «Выбранае», у 1968 г. у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» — «Вершы і паэмы», у 1991 г. — том выбраных твораў «Пад шум дажджу».

Пісаў вершы і прозу для дзяцей. Выдаў кніжку-малюнак «Трактар» (1933). Разам з Ю. Таўбіным стварыў казку «Пра мядзведзя Самуся», вершы «Як яны рака злавілі», «Агацін тата», «Разумны Клім» і інш. Творы З. Астапенкі для дзяцей друкаваліся ў часопісах «Беларускі піянер» і «Іскры Ільіча».

Выдатна валодаў некалькімі замежнымі мовамі: польскай, нямецкай, чэшскай. Пераклаў на беларускую мову раманы М. Горкага «Маці» (1932), Л. Первамайскага «Ваколіцы» (1931, разам з М. Багуном), аповесць П. Голубева «Завіруха» (1930), творы рускіх, чэшскіх, украінскіх аўтараў.

# ПАЭЗІЯ

## ЗІМОЙ

Зараслі паляначкі,
Тонуць у снягу...
Ой, як лёгка саначкі
Сцежкаю бягуць...

Лес з галлём аснежаным
Замерз і стаіць,
Шлях яшчэ няезджаны,
Палазом скрыпіць...

Мчацца лесам саначкі,
Ціха, ні гу-гу...
Зараслі паляначкі,
Тонуць у снягу.

*15 снежня 1926 г.*

## ВАСІЛЬКІ

Пад нябеснай сінню глыбокаю
У жытнёвых шнурох ля ракі
Засінелісь мяжой сінявокія
У блакітных палёх васількі.
Рассцілалася вокал жытнёвая
Залацістая спелая гладзь,
Перапёлка ў ночку ліпнёвую
Адбівала ў жытох: «Падзі спаць»...
І плыла навакол задуменная,
Светлазорная, ціхая ноч.

Межань песні насіў ціхазвонныя
Над лугамі ў сівых туманох.
Колькі казак і песень тых марылась,
Нават нельга і ўспомніць усіх!..
Раннем сонейка росы крышталіла,
Углядалася ў нівы, аўсы.
Нікла цемра пад сонца праменнямі,
Расплываўся туман ля ракі.
І смяяліся зноў па-вясенняму
У жытнёвых палёх васількі.

*1927 г.*
*Смаленшчына*

## НА СМЕРЦЬ ПАЎЛЮКА ТРУСА

Не рыдай так безумно над ним,
Хорошо умереть молодым!

Не рыдайце так жаласна
Надмагілкавай песняю...
Так жыццё абарвалася,
Так хвіліны пранесліся...

Над крутымі адхонамі
Аганькамі узлётнымі
Дні прайшлі у натхнёнасці,
Смерць — у ціхай самотнасці.

За хадою імпэтнаю
Зніклі межы купчастыя...
Гэта — доля паэтава,
Неразгадная... частая...

З буравеем і холадам,
З песняй сэрца музычнаю —
Паэтычная моладасць
І каханне трагічнае.

Не рыдайце так жаласна,
Струнаў чыстыя россыпы!
Колькі іх абарвалася
І назад не звароціцца!!

Колькі знікла з сутоннямі,
Жаваронкамі веснімі,
З залатымі імёнамі,
З незапомнымі песнямі...

Будзе новая моладасць,
Будзе з постаццю новаю...
З буравеем і... холадам,
І з усмешкай вясноваю...

А жыццё абарвалася,
І хвіліны пранесліся...
...Не рыдайце ж так жаласна
Надмагілкавай песняю!..

*1929 г.*
*Мсціслаў*

* * *

Гаварылі звонкія цапы,
Заклікалі восень на даліны...
На таку мякінны гостры пыл,
Ля асеці груд каласавіны.

А насупраць новае гумно
З гучнаю арцельнай малатаркай.
Восень цэдзіць бурае віно
На лісты, расквечаныя ярка.

На узлессі шастаюць лісты,
А лясы, як птушкі, затужылі.
На загоне грэчкавым пустым
Журавы махаюць белым крыллем.

Восень ходзіць, кідае лісты
Ды бярэ ў балоце журавіны,
А як пройдзе — шастаюць лісты
І злятаюць з дрэваў на даліны.

Гэткі добры, гэткі любы час,
Хоць і сум агортвае паволі.
Малатаркі звоняць раз у раз.
Ла-та-та! — разносіцца па полі.

Гаварылі гумны на зары,
Заклікалі восень на даліны,
Вось і восень ў золаце гарыць
І кідае лісце ў каляіны.

Ла-та-та! — заходзяцца цапы...
Ла-та-та! — імкнецца дрыгаценне.
На таку мякінны гостры пыл,
Лёгкі пыл апаў на прыгуменні.

*1929 г.*
*Мсціслаў*

## З ПЕСЕНЬ ПРА МУЛЯРОЎ

1

Спакойна, з гутаркай звычайнай,
Пад чырвань ліпеньскай зары,
На сцены, выстыглыя занач,
Па сходках лезлі муляры.

Быў вецер поўны сноў і ласкі...
І вось пад імі (з вышыні)
Грымучы горад разаслаўся
І запаліў вітрын агні.

Як пчолы, лёталі трамваі,
За горад беглі цягнікі.
У небе хмары выплывалі
Чаўнамі зыбкае ракі.

Ішла хадой няспыннай праца
Пад стукат кельні і цаглін...
А ўнізе горад разаслаўся
І запаліў агні вітрын.

2

Купаецца цёплае сонца
Над вечна магутнай зямлёй,
І льецца на сцены бясконца
Пад ветраў ласкавы прыбой.

Стаяць муляры на узвышшы…
Ўгару рыштаванні растуць.
І вежы, спяваючы зычна,
Да вольнага сонца кладуць.

А цэгла маўчыць і бялее,
І сохне на сонцы цэмент.
І з цэглай ўзрастаюць надзеі
На вышках узведзеных сцен.

Ўсё вышай, і вышай, і вышай
Прыбой сакавіты вятроў.
Ўсё вышай, і вышай, і вышай
Пад сонечны спеў муляроў.

*Красавік 1930 г.*
*Менск*

* * *

У размеранасць строгую слоў
Укладу я сягоння жаданні.
Песня знікне і прыйдзе ізноў,
Завіхруецца палкая кроў,
То — змаганне.

Як гавораць, мінаюць гады...
Дзень мінае, прыходзіць наступны.
Дзень наступны — дзень малады
Парыванняў і клопатаў рупных.

Дзень наступны! Вітаю цябе
Ў жыватворчым і радасным плёне...
У гордым ходзе і барацьбе
Зменіш ты агнязарнае Сёння.

У твае залатыя агні
Зазірнуць бы...
                    а потым хай грозяць —
Хоць і смерць... хоць і гэтыя дні,
Абарваныя на паўдарозе.

*1929 г.*

# РУМЕНКІ З РАДЗІМЫ

## 1. УЗОРНЫЯ ЛІШТВЫ НА ДОМЕ

Узорныя ліштвы на доме,
На ліштвах рукою гарэзнай
Якісьці мастак невядомы
Цудоўных фігур навырэзваў.

А там, у акне, з-за фіранкі,
Дзяўчына глядзіць і смяецца
І штосьці таўчэ беспрастанку
Ў бліскучай мядзянай мяжджэрцы.

Ударыць, і ўдар металёвы,
Як музыка, чуцен адгэтуль,
І песень вясёлыя словы
Раджаюцца ў сэрцы паэта.

Радачка, ну дзе цябе знаў я?
А стрэча ізноўку ці будзе?..
Мне сум нешта зноў заціскае
Мае неспакойныя грудзі.

Скажы!.. — А дзяўчына фіранкай
Закутала вокны са смехам...
І смех на вішнёвым прыганку
Рассыпаўся срэбным рэхам.

На даху ўсміхнуліся ляскі,
Замоўклі ў цішы аканіцы...
З якойсьці забытае казкі
Мне гэтая песня трызніцца.

*1929 г.*

## 2. РАЗВІТАНАК

Забывайцеся, цьмяныя ночы, —
Маё першае цяжкае ліха!
За твае невыказныя вочы
Я па свеце пайшоў маталыгай.

Не такі ўжо я прыкры лагоднік,
Каб аддаць свае песні за лоні.
Маё сэрца гарыць, як паходня,
На пустым неўзараным аблонні.

Пацалункамі вусны мне паліш,
Але вось з улюбёнай купалкай
Развітаецца заўтра купаліш,
Кучаравы, зялёны і палкі.

Пацалункамі вусны мне паліш,
І заходзіцца сэрца ад болю...
На ірдзельным зялёным купаллі
Я знячывілі кінуўся ў поле.

Прывітайце, лясы і даліны,
Затуманьце чарнявыя вочы!..
Конча ў сонца шукаць цеплыні мне! —
Яе у сэрцы знайду колькі хочаш.

Дык забудзьцеся ж, палкія ночы, —
Маё першае горкае ліха!
За твае невыказныя вочы
Я па свеце пайшоў маталыгай.

*Верасень 1929 г.*
*Смаленшчына*

## 3. ВЫБЯГАЛА ЛЮБАЯ З ХАТЫ У ПРАВОДЗІНЫ

Выбягала любая з хаты у праводзіны,
Сцежкі упрыгожыла голлямі смуродзіны,
Як ішла ў праводзіны.

А за тымі сцежкамі, ў далячыні пеннай,
Зара-зараніца мыецца купенай,
Белаю купенай.

Белаю купенай, ціхімі стакроткамі, —
Каб жа тыя сцежачкі не былі кароткімі,
Не былі кароткімі.

Дзякуй табе, любая! Я даю абетку —
Завітаю хутка я, завітаю ўлетку,
Завітаю ўлетку.

Сустракай на выгане ўвечары ў нядзелю
З звонкімі лічбанамі, з яркаю бандэляй,
Сустракай ў нядзелю.

Завітаю ўвечары, завітаю ўпрыцем
З доляю шчасліваю ды з інакшым жыццем,
З доляю і з жыццем.

*Красавік 1929 г.*
*Смаленшчына*

## ШЫРОКАЕ ПОЛЕ, БУЯНЫ РАЗГОН

*Ю. Таўбіну і А. Куляшову*

Шырокае поле, буяны разгон...
Ах, песні, ах, песні!
Я склаў вас нязграбна...
Крыштальнага неба глыбокі затон
Хвалюе шырокага травеня радасць.

Гады за гадамі ідуць у нябыт,
Мінаюць гады за гадамі,
Мае радакі, дарагія сябры,
Ці ж сонца юнацтва не з намі?!

Мы гэтак нядаўна ад вёсак прыйшлі,
І вось пацяклі бясканцова —
І вечная праца ў прасторах зямлі,
І любая праца над словам.

Нас часта хвалююць зданнёвыя сны,
Блуканні далёкай Трырэмы, —
І часта мы рокат і шолах лясны
Прымаем за словы паэмы.

Мае радакі, як шырокі палі!
Юнацтву вялікаму — слава!
А гэтыя ўзлёты і росквіт зямлі
Ці зможам у песні уславіць?

Шырокага неба вясёлая муць
Хвалюе вясновую радасць...

Ах, песні, ах, песні,
Чаму ж вас, чаму
Я склаў так няўдала, нязграбна?

*Лістапад 1929 г.*
*Мсціслаў*

## ЛІРЫЧНАЯ ЗІМА

Як вецер песні запяе
Пад зімавым завей разбегам,
Агні юнацкія паэм
Завеяць студзень хоча снегам.

Ён разрысуе вокны мне
Цвятамі дзіўнае краіны...
Ў сумётах стане сыпкі снег,
І разуквеціць сосны іней.

Камін загасне агнявы,
Як дроў бярозавых не хопіць,
І завіецца, як жывы,
У жэрале змярцвелы попел.

І пойдзе вецер, як жабрак,
З сняговай торбаю жабрачай…
Са злосці свісне у кулак,
З тугі заенчыць і заплача.

Ён будзе йсці сабе ў прастор
Ад вёскі шэрай і да вёскі,
І будзе слухаць чорны бор
Шалёных песень адгалоскі.

Радача любы, ты з пуцін
Паўночных веяў і сумётаў
Ка мне дахаты прыляці
У час натхнення і самоты!

Прыйдзі, як будзе сніць зямля
Пра дні вясны зеленавокай,

І грукні ў дзверы: «Гэта я
Прымчаў з шляхоў сваіх далёкіх...»

Тады патроху раскажы
Пра горды сум дарогі снежнай,
І пра Урала рубяжы,
І пра сібірскі гул таежны...

Як спяць на поўначы маржы,
Як спяць нарвежскія фіёрды...
Як ля ільдзістае мяжы
Лёг акіян халодна-горды.

Я зачаруюся на міг
І пад сняжыстыя павевы,
Пад гул дарогаў снегавых
Складу вясновыя напевы...

Румянкі яркія паэм
Зачырванеюць на марозе...
А ты — мне песні запяеш
І снегам стукнеш на парозе.

*Снежань 1929 г.*
*Мсціслаў*

* * *

Добры дзень, мая красуня,
Беларуская зіма!..
Ля дарог бялеюць пуні
І стаяць кляны тарчма.

На абветраным прасторы
Снег праносіцца ў імглу...
І шапоча, і гаворыць,
І нямее на шляху.

І пад ветру гучны посвіст
Над сумётамі лагчын
Пяць дарог сышліся ў ростань
І пабеглі ўдалячынь.

З аднаколерным абліччам,
З гібкім выкрутам змяі
Пабрысці з сабою клічуць
У нязнаныя краі.

Палі белыя палотны
На далёкія шляхі.
Адзінота. Адзінота...
І наўсцяж снягі, снягі...

Мару, думаю і шчыльна
Прытуляюся да стрэх.
У палёх нібы дзяўчына
Рассыпае ціхі смех.

Паглядае з-за сумётаў
Ля маўклівага сяла
Казка-сон, што незваротна
Адышла і адцвіла.

Мары, мары і лятункі!..
Гэта бродзіць-грае кроў...
Палкасць слоў і пацалункаў
Не вароціцца ізноў.

На аснежаным прасторы
Ветры коцяцца ў імглу...
Снег ляціць, і не гаворыць,
І нямее на шляху.

Свежым сенам пахнуць пуні.
Мары, мары... ўсё хлусня!
Добры дзень, мая красуня,
Невыказная зіма!..

*Студзень 1930 г.*
*Мсціслаў*

## ЛЕС

Зноў ты, лес!.. Дыхнуў і будзіш сілы...
Зноў шумяць дубовыя лісты.
Лёг таемна змрок зялёна-сіні
На твае вяршыні і кусты.

Сцежка, пратаптаная звярамі,
Цягне у нязведаны паход.
На траве — вясёлкавыя плямы
Сонца і расквечаных лістот.

Радасна і шумна лес ракоча...
Ён — не мне. Я знаю, што не мне...
Кожная галінка і лісточак
Ладзіць гімны проспе і вясне.

Ў гэтым шуме — радасць і прыгожасць,
Лес шуміць, і шастаюць лісты.
Ногі дзеразою мне трыножаць
Нізкія пукатыя кусты.

Я блукаю... Сцежку загубіў я...
Ўсюды лес... Навокал звон лісця.
Хіляцца з насмешкаю рабіны.
Ясені ад смеху шалясцяць.

Ціха йду. Шумяць-звіняць асіны,
У траве звярыныя сляды.
Зноў ты, лес! Дыхнуў і будзіш сілы,
І шумяць дубовыя лісты.

*Чэрвень 1929 г.*
*Смаленшчына*

## ПА ВЯРШЫНЯХ ШУМНЫХ СОСЕН

Па вяршынях шумных сосен
Хісткім крокам крочыць свежасць.
Узняліся ўгору, ў просінь
Бору гольчастыя вежы.

Мора моху. Мухаморы
Чырванеюць на ўзлессі.
Лес-пралесак. Росы-зоры,
Тонкіх тропаў шэпты-песні.

Добра крочыць стромкім борам,
Соннай сцежкай слацца слаўна!

І душу аддаць прасторам,
І забыцца ў стоме баўнай.

Ціха йду. Ліецца просінь
Праз іголчастыя вежы.
Па вяршынях шумных сосен
Хісткім крокам крочыць свежасць.

*Чэрвень 1930 г.*

* * *

Пакідаю, пакідаю
Вуліц роспачны прыбой, —
Чую — неба расцвітае,
Чую зоры над сабой.

Прада мной гарыць зарою
Казкі-захаду пажар.
Нада мною, нада мною
Залатыя звенні хмар.

Пабрыду цяпер туды я,
Дзе шырокія сады,
Дзе на гоні залатыя
Дождж павіс, як сіні дым.

Дзе у квецені красуе
Вечны травень, вечны госць...
...Дзе, натхнёны, я пачую
Ў кожным слове маладосць.

*1930 г.*

## З НІЗКІ «ПАЎДЗёННАЕ МОРА»

### НА ЎЗМОР'І ВЕЧАР…

На ўзмор'і вечар. Ціха яркне
Абрыс вячэрніх сонных хваль…
Сваю любімую, татарка,
У гэты вечар заспявай!

Арлы арлуюць ў небе зранку
І ў горы кружацца назад...
Я назаву цябе, каханка,
Звычайным імем — Хацімат!..

Чамусьці сэрца у трывозе
Ў прыбой вячэрні і туман...
Спявай што-небудзь на парозе,
Мая красуня — Хацімат!..

Аб чым, пытаеш?.. Хоць аб моры!
Яго я бачу ў першы раз...
Спявай аб тым, як гаснуць зоры
Ля вашых хат у ночны час!..

Спявай аб тым, як навальніца
Шукае морскія шляхі
І з дальняй Турцыі зарніцы
Маўкліва ліжуць небасхіл.

Аб тым, як шквал злятае раптам,
Узбіўшы валаў морскі хмель
І як без ветразей і мачтаў
Імчыць на скалы карабель.

Мне любы віхраў завыванні
І рокат мора у валох,
Бо ўсё жыццё ідзе ў змаганні
І дні ідуць мае ў шляхох...

Спявай, красуня!..
Сёння — штылі...
І дрэмле мора далягляд.
Глядзі — ў якой маўклівай стыні
Далёкіх гораў вадаспад!..

Спявай, пакуль загаснуць зоры!..
А заўтра — пойдзема з табой
Збіраць у кошыкі па ўзмор'і,
Што занач выкіне прыбой...

*Жнівень 1929 г.*
*Алушта*

## У ПОРЦЕ

Цэлы дзень ішла работа ў порце,
Разгружалі баржы, караблі...
Цэлы дзень у морскай пазалоце
Снегавыя ветразі плылі.

У партовым горадзе заўсёды
Галасоў шумлівы перабой,
Пераборы морскія мелодый
І ў суровым рокаце прыбой.

На мастках смуглявыя матросы
Колькі песень ведаюць такіх
Аб краінах казачна-заморскіх
І тубылках стройных, агнявых...

Мора шэпча ласкава і квола
І калыша ціха караблі...
Паплыла медуза каля мола
Да крутой базальтавай скалы.

Спяць пад сонцам сінія прасторы,
Вецер ціхі хваль не скалыхне...
— Ёсць у вас, у Беларусі, мора? —
Запытаўся нехта у мяне.

Я смяюся весела й паціху...
У канатах вецер шалясціць.
Мора дрэмле, мора сыпле іскры,
Як агні паўночныя зарніц.

*Жнівень 1929 г.*
*Севастопаль*

* * *

Хвалі сонныя, хвалі дрымотныя мне
Сны забытыя зноў нагадалі,
Ты, мой прывід, плывеш і на хісткім чаўне
Ловіш сонечнай сеткаю далі.

І на дне, мабыць, гэткая ж свежая гладзь,
Прахалода і сонечных блікаў трымценне...
Бачыш — тонка-празрыстыя,
ледзьве відаць —
Парасоны медуз на падводным каменні.

І ніжэй, дзе сузмрок сіняваты імгліць,
Сцены белай маланкаю ціха мільгнулі...
Дрэмле морскае дно, і стаяць караблі,
Што з камандай калісьці даўно патанулі.

Пэўна —
бура была... наляцеў ураган...
Цераз палубу хвалі салёныя білі...
Збіты хваляй шалёнаю быў капітан,
І у ветразях глуха вятры галасілі...

Ноч і бура схавалі на дно караблі,
А як сонца плыло ў супакоеных далях, —
Мора ціха сінела... медузы плылі
І бялявыя чайкі купаліся ў хвалях.

З таго часу праходзіць па палубе краб
І за бортам хаваецца, хуткі і жвавы,
Дзе схіліўся матрос, апускаючы трап,
Са смяротнай усмешкай на твары кастлявым.

*Ліпень 1930 г.*
*Ялта*

## ВЕЦЕР НА МОРЫ

Быццам неба — шырокае сіняе мора.
Бесканцовасць і дальняя сізая муць.
Я стаю на спякотным пажоўклым узгор'і,
Там, дзе сонца і яшчаркі ў скалах жывуць.

Нескончоныя хвалі у бегу разгонным
Паняслі мае думы, памкнулі кудысь.
Гаварлівых цыкадаў цымбальным стазвонам
Зачарована дальняя светлая высь.

Раптам...
Хмары набеглі, і даль пацямнела,
Забяleліся хвалі саянам снягоў.
У сталёвыя колеры ўбралася неба,
І па моры узмахамі вецер прайшоў.

І ад гэтай хады закудравіўся пенай
На затопленым пляжы рытмічны прыбой.
І памчаліся хвалі, як белыя сцены,
Пасправчацца з далёкай пустой сінявой.

Але вецер прамчаўся...
і даль задрамала,
І чарнявыя скалы заснулі ізноў,
Супыніліся разам шумлівыя хвалі
І нібы апусціліся з пенай на дно.

Зноў, як неба, шырокае сіняе мора.
Караблі адплываюць у казачны край.
Жоўкнуць, смягнуць у сне залатыя ўзгор'і.
Між падводных каменняў застыў чорны краб.

*1930 г.*
*Севастопаль — Херсанес*

## СТАЗВОНЫ

Выходзяць думкі з берагоў,
І песні рвуць за імі следам,
Сваіх імкнёных рубяжоў
Ніколі я не пераеду.

Я неразвоннае жыццё
У песнях юнасці вітаю.
Краіна песень дарагая!
Ў цябе я сонечным гасцём.

Імкнецца песенная гаць.
У ёй пялёсткі сыплюць зоры.
За што я вас так пакахаў,
Палёў вясёлыя прасторы?

Ці мо таму, што ў вас узрос,
Што ў вас убачыў сонца-далі!
Ці кудры шоўкавых бяроз
Мне гэту думку нашапталі.

Імкнецца песенная гаць,
А ў песнях — жніўнае аблічча…
Нашто шляхоў сабе шукаць,
Калі прастор вясёлы кліча?..

*1928 г.*

* * *

Высокі дом, шчаслівы дом,
Рукой сумленнай майстра зроблен.
З высокіх яблынь звоняць кроплі
Увечар за яго вакном.

Пасля дажджу такая радасць
Прайсці праставалосы сад.
Няспынна пахне палісад,
І спеюць агуркі на градах.

Я зноў прыйшоў у гэты дом.
Тут будзе спын маім шуканням.
Навала шумная з дажджом
Над ім заціхла на змярканні.

Нікога ў ім цяпер няма,
Нікога й не было, прызнацца.
Супольнікаў сваіх па працы
Я зроду жаднага не маў.

Яны прайшлі, як шум дажджу, —
З тым разышоўся, той — памершы…
Я зноў сам-насам тут хаджу,
Выношваючы ў думках вершы.

Увечары, калі у сад
Ўрываецца наземны вецер, —
Пішу на той жа самы лад
Пад лопат яблынькава вецця.

З героямі маіх паэм
Цяпер ніколі я не ладжу...
Яны супроць адменных тэм...
...Ўвесь повен сад глухога плачу
Дажджу свінцовых кропляў...
Вось
Я зноў адзін з сабой сам-насам.
Самота нелюдскђя скрозь,
Ажно задумаешся часам.

Глыбокай ноччу нада мной,
Здаецца, нехта ў белым стане...
Сад пахне шалаю вясной,
І белы месяц на паркане.

Магчыма, гэта зноўку тая —
Ў звычайныя прыйшла часы,
І гладзіць ціха валасы,
І тое, што пісаў, — чытае.

Я зноў спакойны. Нада мной
Той самы свет, якім быў зроблен.
Сад пахне даўнаю вясной,
Ўсе дрэвы ў шуме звонкіх кропляў.

Даволі позна. Ўсе ўжо спяць.
І я ізноўку ў сваіх вершах
Не адступаю ні на пядзь
Ад светлых дум маіх найпершых.

Да позняй ночы прахаджу,
Наскрозь запоўнены, шчаслівы...

Усё ідзе, як шум дажджу,
Як светлых вёснаў цёплы лівень.

*1932 г.*

## НА ШЧАСЦЕ ПЕСЕНЬ

Прымі мяне ў свае абыймы,
Неперាможнае жыццё!
Рукамі дужымі, грубымі
Расклаў я светлы мой касцёр.

На вогнішчы яго вясёлым
Дрыжыць мільённы шумны смех, —
Аб чым прыснілі мае сёлы,
Зямлёй натруджаны лямех.

Гняла пачварная прытуга
У моры згадак і надзей.
На шчасце песень, цвёрдасць духа
Я не згубіў між дробных дзей.

Збярогшы песень белы статак,
Прайду, як сон мае зямлі.
Пакіну іншым сотні згадак,
Як тыя, што да нас прайшлі.

Начэй не сплю ў глухую бессань
З усімі разам і за ўсіх.
А сэрца ў тым жа ладзе б’ецца,
Як б’ецца у сяброў маіх.

Спакойна будучыню стрэнем,
Ва ўсіх якая уваччу...
Такім, як дыямент, як крэмень,
Сягоннячы я быць хачу.

Я буду першым з самых першых —
І сынам сонечнага дню,
Аддаўшы краю ў шчырых вершах
Сваю сумленную данню.

*Жнівень 1932 г.*

# З ЗАТОК ЭКЗОТЫКІ

## ПАД ЗНАКАМ СОНЦА

Я плыву на ўсход, дзе сонца
Крэсліць круг сваіх арэль.
Мора дыша — і бясконца
Б'юцца хвалі ў карабель.

Прада мною ў морскай стыні —
Далеч, сонца і глыбінь.
За кармой плывуць дэльфіны,
П'юць вятроў салёных сінь.

Будзь здаровы, добры лоцман,
Дай судну належны ход!..
Ты вядзі яго да сонца —
Ўсё далей, на ўсход, на ўсход...

Безразважна, дружна й моцна
Б'юцца хвалі ў карабель...
Я плыву на ўсход,
і сонца
Крэсліць круг сваіх арэль.

*1931 г.*
*Батумі — Феадосія*

* * *

Позна ноччу з шырокай гавані,
Забіраючы хуткі ход,
Выбіраўся ў далёкае плаванне
Перагружаны параход.

Ён з рыданнем сірэны горасным
Люстра гавані пеніў, сек,
Паварочваючы ўсім корпусам,
Уздыхаючы, як чалавек.

І ля ўзгор'я паўвыспы дальняе,
Каля ценяў пахмурых гор

Пракрычаў ён сваё развітальнае,
Пакідаючы ціхі порт.

Параход, мне таксама хочацца
Ў акіян пайсці за табой! —
Ў край, дзе захад крывёю сочыцца
За высокай тваёй кармой.

Будзем выспы мінаць празрыстыя,
Будзем разам ісці на ўсход,
Праз чужыя парты і прыстані,
Акіянскі мой параход!

Там, дзе неба празрыстым рэшатам
Сее зор залаты разліў, —
Я знайду цябе, сонца, урэшце там —
На Цэйлоне ці Самалі!

Параход закурыў у просіні,
Тры адрывістыя гудкі.
Дзве трубы зачарнелі профілем,
Як працягнутых дзве рукі.

Толькі пырснуў маяк праменнямі
На туманны і ціхі ўсход,
Дзе з далёкай глухой сірэнаю
Знік у просіні параход.

*1931 г.*
*Батумі*

* * *

Выплываю з затокі экзотыкі
У шырокі жыцця акіян,
Пад пасатаў вільготныя дотыкі
Выпростваю сонцу стан.

З чарнаморскіх шырокіх гаваняў —
З Феадосіі, з Туапсе —
Караблі далёкага плавання
Ў небасхіл плывуць пакрысе.

Падпарадкуючыся компасам
І не слухаючы вятроў,

Кожны крэсліць зялёным корпусам
Падзаходных улонняў кроў.

Пад камандаю капітанавай
Загарэлы дзяцюк-матрос,
Галавою махнуўшы каштанавай,
Да жывога старна прырос.

А над ценямі сіне-зялёнымі
Недасяжных Цэйлонаў і Яў
Небасхіл пагражае цыклонамі
І барометр нізка упаў.

І я добра сягоння ведаю,
Што ў далі, дзе звіс небасхіл,
Акіян пагражае бедамі,
Вымагаючы гарту і сіл.

Хопіць сілы і хопіць гарту мне,
Моцны човен жывых паэм.
Смела з компасамі і картамі
Небяспечны прайду Мальстрэм.

З тварам строгім, як рысы готыкі,
Сонцу выпрастаўшы свой стан,
Выплываю з заток экзотыкі
У шырокі жыцця акіян.

*1932 г.*

## НА БЕЛЫМ ПАГОРКУ

На белым пагорку
Мы гуртам юнацтва страчалі,
Курылі махорку,
Смяяліся ў ясныя далі.

На сонца, на зоры,
На цёмныя пушчы глядзелі,
Ў лясныя азёры
Кідаліся з белай адмелі.

З юнацкіх гасцёвак
На шлях выбягалі шырокі.

Між сцежак жыццёвых
Сабе выбіралі дарогі.

Расталі ў тумане,
Прабеглі, як лёгкія хвілі,
Гады нашай рані,
Якіх мы тады не лічылі.

Вайна і пажары
На нашую долю прыпалі,
Варожыя хмары,
Цалункі смяротнае сталі.

Смыляць нашы сэрцы,
Працятыя гневам і болем.
Час іхняе смерці —
Час клятвы святой перад боем.

Хоць крыўдна, хоць горка, —
Будзь мужным і цвёрдым,
як крэмень.
На белым пагорку
Сваю перамогу мы стрэнем.

*Красавік 1943 г.*

## РУСАЛКА

Ля крыніцы ў бары я сустрэўся з дзяўчынай,
Дзе забытых руін абамшэлая цэгла.
Колькі часу прайшло, а забыць немагчыма.
Колькі спраў і падзей паміж намі прабегла.

Колькі майскіх начэй мы прабавілі з ёю
Ля крыніцы ў бары, над забытай руінай.
Яна гэткай была веснавой, маладою!
Яе звалі русалкай — лясною дзяўчынай.

Размятала вайна нашых ясеняў лісце
Ля забытых руін, на сасновых прагалках.
Беларускія хлопцы на ўсход падаліся,
Ў беларускіх лясах засталася русалка.

Зноў гараць беларускія нівы і хаты.
Над руінамі ўкленчыла ў путах краіна.
У няволі ў нямцах сохнуць нашы дзяўчаты.
Беражы цябе Божа, русалка-дзяўчына!

І лятуць і грымяць па краі ураганы,
Гэта помсты народнае вокліч лунае.
Ля забытай руіны ідуць партызаны,
Іх вядзе цераз пушчу дзяўчына лясная.

Яе лічаць русалкай за доўгія косы,
За прадонныя вочы, за дзіўную ўдачу.
Яе немцы няўлоўнаю лічаць якойсьці,
Па ёй кулі і шаблі нямецкія плачуць.

Воз чырвонцаў гестапа дае за спайманку,
Ды русалку жывою спаймаць немагчыма.
Яна дзеўчына з пушчы, яна партызанка,
Яе клічуць русалкай — лясною дзяўчынай.

*Красавік 1943 г.*

## СПАЛЕНАЯ ВЁСКА

### 1

Над сажалкаю тужаць ліпы,
Па ветры гойдаючы шаты.
Ім сняцца шумныя сялібы,
Вясковы ранак і дзяўчаты.

За бугаём каровы самі
Ідуць на пасціва з рыканнем.
Дым пахне хлебам і блінамі,
І добрым сном, і хатнім раннем.

Ідуць у жоўты жнівень людзі
З касамі, з песняю бяспечнай...
Здавалася, што так і будзе,
Здавалася, што так навечна,

Што вечна будзе — ранак, вечар,
І ноч з салодкім адпачынкам,

І голас песні чалавечай
Над плодным здобраным суглінкам.

2

Яны прыйшлі... З якой планеты?
З якога краю і сяла?
Знянацку рушылі ў багнеты,
Як пудкі злодзей — з-за вугла,
Як воўк, згалелы да шкілета,
На цягавітага вала.
Здаецца б, людзі? Не, не людзі.
Звяры? Не бачылі такіх.
Ў крыві па пояс, сэрцы ў брудзе,
Жывая смерць дзяцей, старых.
Зямля, свае парваўшы грудзі,
Нямцамі ахрысціла іх.

І дымам, дымам сталі хаты,
І пусткай сталі гарады.
І бег народ, з дамоў прагнаты,
Ў лясы, у пушчы, хто куды, —
Усе байцы, усе салдаты,
Сябры адзінай грамады.

Па цёмных пушчах вокліч рынуў:
«Да зброі ўсе! Да слаўных дзей!
За волю, шчасце, за Айчыну!..»
І людзі рушылі хутчэй
Ў атрады — паляваць звярыну,
Што з хаты выгнала людзей.

О любы край! Твае законы —
З сівое мудрасці вякоў.
Іх зноў пацвердзілі загоны
І гнеўны роздум мужыкоў,
Дзяцей замучаных праклёны:
«Бі! Смерць за смерць і кроў за кроў!»

3

Дзе тая вёска, тая хата?
Дзе добры кут касцоў і жней,

Што жыў ні бедна, ні багата,
А да багатага бліжэй?

Дзе тыя мілыя нам душы?
Дзе імі выпешчаны сад —
Вясковы сад, дзе спелі грушы
І сыпаў лісце лістапад?

Няма той вёскі, той сялібы.
І хаты ў пяць акон няма.
Пажарышча вартуе ліпа,
Паўабгарэлая сама.

Пажарышчы ў пустым завуллі.
І толькі коміны пячэй
На папялішчах — як бабулі
Над трупамі сваіх дзяцей.

Тут былі справы нелюдскія.
Тут за бацькоў — за партызан —
Гарэлі дзеці і старыя,
Сядзібы вечныя сялян.

Пажарышча ляжыць, як дата,
Як сургучовая пячаць
На тым прыказе камендanta:
«Спаліць. Тубыльцаў расстраляць».

Яшчэ чуваць той крык смяротны,
Шчэ носіць вецер стогн пакут.
А цёмны лес шуміць гаротна:
«Хай пухам вам зямля. Мы тут...»

«Мы тут!..» І ў золкі ранак хмуры
Кусалі вусны ў кроў бацькі,
Як шлі на штурм камендатуры,
Як рвалі фрыцаў на шматкі.

О любы край! Твае законы —
З сівое мудрасці вякоў.
Яны у кожным з нас — да скону:
«Мсці! Смерць за смерць і кроў за кроў!»

4

Над цёмным прудам тужаць ліпы
Тугою вешчаю, крылатай —
Па жоўтых нівах, па сялібах,
Па дыме над сялянскай хатай,

Па ручаі, па буйным жыце,
Па песні ў вераснёвы вечар,
Па непахісным дабрабыце,
Па ціхім шчасці чалавечым.

Чакайце, ліпы, — шчасце будзе!
Ледзь сціхне бою адгалосак, —
І зноў збудуюць вёску людзі
І сотні новых лепшых вёсак.

І будзе чутны спеў знаёмы —
Запеў дзяўчат і лісцяў шорах,
І будзе гніць у чарназёме
Пракляты і забіты вораг.

І будзе лес шумець дрымучы —
Таксама, як шумеў спрадвеку.
І будзе вечным, неўміручым,
Нязломным шчасце чалавека.

*21 верасня 1943 г.*

* * *

Не кажы, не абяцай,
Не бяры такое ролі!..
Ходзіць сонца.
Шэпча гай.
Вецер блукае па полі.

На зямлю прыйшла вясна,
За сялом прысела з краю.
Адгадай — каторы з нас
Першы вымавіў: «Кахаю»?..

Не кажы цяпер, маўчы,
Не кажы — пачуе вецер...
Скажаш ноччу — уначы
Ціхім стане ўсё на свеце.

Не закідвай за спіну
Косы шоўкавыя — змеі.
Я спаткаў з табой вясну,
Я без слова зразумею.

Над сялом і за сялом
Пахне бэзам і язмінам...
Хай жа будзе — ясным сном,
Ясным, светлым успамінам.

Ходзіць сонца над табой, —
Хай жа ходзіць так няспынна!
Прытуліся галавой
Да маіх грудзей, дзяўчына...

*5 снежня 1943 г.*

* * *

Абяцаўся колькі раз
Кінуць вершы і каханне,
Не хадзіць у позні час
Ля чужых акон да рання;

Не глядзець чужых дзяўчат,
Не чапаць тугія косы,
Не хадзіць любоў страчаць
На чужыя санцаплёсы.

Абяцаўся ўзважваць, перш
Чым рабіць там што-якое,
Лепш упіцца, чым за верш
Сесці з гэткай галавою.

Што гарэлка! Без віна
Кожны п'яны ў нас, паверце...

Вершы дзіўныя й без нас,
Ачмурэўшы, піша сэрца.

Колькі бачыў. Колькі жыў.
Колькі раз кідаўся ў схватку!
Я б цяпер шчаслівы быў,
Каб пачаць усё спачатку.

Каб з сівое галавы
Срэбны груз гадоў быў зняты,
Каб спявалі — я і вы,
Каб кахалі нас дзяўчаты.

Я не стаў бы абяцаць,
Я накрыў бы стол гасцінны —
Вершы дзіўныя пісаць,
Піць віно жыцця няспынна.

*5 снежня 1943 г.*

* * *

Паклянёмся любіць наш край!..
Паклянёмся,
                што ў нашыя сэрцы
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці.

Мы у гэтым кляліся калісь —
У гады залатога юнацтва.
Гэты час і пара надышлі —
Клятвы нашыя мусяць спагнацца.

Той, хто вырас на гэтай зямлі,
Хто ўсмактаў яе цяжкія сокі, —
Ведай:
        час і пара надышлі
На геройства,
                на подзвіг высокі.

І цяпер, калі грому гармат
Кулямёт падпявае па-брацку,

Ўспомні брата забітага, брат,
Ўспомні, сын, скатаванага бацьку!

Будзем помніць, як цяжкі кашмар,
Як баёў і нягоды выснову, —
Ненавіснага ворага твар,
Ненавісную ворага мову.

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас паглядае.
Ў нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

*6 снежня 1943 г.*

## ЭДЭМ

*Урывак з рамана*

Эдэм... выраз такі у кніжках ёсць.
Ён значыць — край, дзе добра ўсім жывецца.

### 1

Хай спіць ля бацькава парога госць, —
Хто спіць, гавораць людзі, той не шкодзіць.

Стажары гаслі. Разам з імі ноч
Канала ўсцеж — памалу, ледзь прыкметна.
Счарнеў усход, і раптам, быццам нож,
Бліснула стужка чырвані рассветнай.
З-за бору промень, гостры, як лязо,
Ударыў неба і ўтануў у ране,
І з неба кроў — над рэчкай, над лазой —
Лінула ўніз...
Так пачалося ранне.
Тады на плёс з ружовае лазы
Хтось пудка выйшаў. Аглядзеў ўвесь бераг.
Напіўся ў рэчцы. Выцер валасы.
Зірнуў на чоўнаў нерухомы шэраг.
І стаў на плёсе — нібы адлягло
Ад сэрца нешта — нейкае цяжкое...

На тым баку віднелася сяло,
Збягаючы з пагорка над ракою.
«Мой край, — прамовіў ён. — Мая рака!
Мае сяло! Здалеў-такі дапасці!
О Божа мой! Ці не твая рука
Вяла мяне ў згібенні і ў няшчасці?»
Блішчэлі белай цэркаўкі крыжы.
У бліжнім доме хтось адкутаў дзверы.
Па-над калодзежамі, у цішы,
Ледзь чутна пелі мокрыя асверы.
Ён плакаў і глядзеў, бо перад ім
Яго сяло было, яго радзіма.
Так, пэўна, плакаў даўна пілігрым,
Даклыбаўшы да сцен Ерусаліма.
Надрэчных вербаў ціхі перашум
Ішоў праз плёс, праз смутак чалавечы.
Вось так стаяў бы — каб ні слоў, ні дум,
Каб не чапаў ніхто цябе век-вечны.
Ён дыхаў туманом, што над ракой,
Як дым, клубіўся. Піў хваёвы вецер.
І вечны мір, і вечны супакой
Стаяў над ім, на ўсім, здаецца, свеце.
— Дай Божа, — ён шаптаў, — зажыць ціхом!
Каб скончылася тут мая дарога,
Каб меў зямлю сваю, свой бацькаў дом, —
Я ж не пакваплюся крануць нікога.
Дай Божа зноў загоны-дзірваны
Узняць на хлеб старым бацькоўскім плугам!
Дай Божа не пабачыць больш вайны,
Не тыркацца па свеце валацугам!» —
Так ён шаптаў гарачкава, і чах
Ягоны шэпт у трысніковым шуме.
Адумаўся. Памацаў на плячах
І пот і соль салдацкае кашулі.
Хацеў памыць яе, але яна
Разлезлася ў руках яго шматкамі.
«Вось і яе паела ўсю вайна!» —
Сказаў ён і шпурнуў яе на камні.
І зноў у гушчырню лазы залез.
Прылёг на кінуты дзіравы нерат.
Ў абеды меўся быць ён на сяле,

Разведаўшы, аднак, усё наперад.
Салдацкая прывычка назаўжды,
Як трасца, моцна ўелася ў косці:
«Пазіцыя, — ўсміхнуўся, — хоць куды!
Разведаем — ці ёсць у хаце госці!»
Ён абламаў лазовае галлё
І ўпіўся п’яўкаю — сваім паглядам
На схіл гары, на ціхае сяло,
На бацькаў дом з сядзібаю і садам.

Дом быў на ўзгорку, проста над ракой.
Ён высіўся драўляным светлым гмахам,
З прыгожай абшалёванай страхой,
З высокім жоўтым бурштыновым дахам.
Здаецца, бацька выйдзе, а за ім
І маці з’явіцца на светлым ганку,
І бацькаў бас пракоціцца: «Юхі-ім!..
Дзе ты прапаў, нячысты дух, ад ранку?»
Ён бураю прамчыцца па сяле
І ўмомант з бацькам за сталом ачнецца.
Даўно бліны з мачаннем на стале.
Яечня матчынай рукой пражэцца.
О Божа мой! Калі то ўсё было?
У дваццаць восьмым! Значыцца —
трынаццаць
Таму назад!.. Хутчэй бы як дазнацца,
Ці немцы ё ў сяле? Але сяло
Пустым здаецца, і падступны сон
Павекі склейвае і б’е ў калені, —
Занадта многа цяжкіх, страшных дзён
Прайшло ў хадзе, ва ўцёку, ў адступленні.

...Усё адступае полк іх. Божа мой! —
Яны шчэ думаюць аб перамозе!
Я міру хочу! Я хачу дамоў!..
Я ваяваць не згодзен і не ў мозе!
Дамоў хачу! Даволі з мяне, досць!
Дамоў хачу! Там, як гэта завецца, —
Эдэм... выраз такі у кніжках ёсць.
Ён значыць край, дзе добра ўсім жывецца.
Хачу туды! Таварыш камандзір!
Усё адно — цяпер мы ў абкружэнні —

Пусці мяне, усіх — каго куды!
Пусці! Вось, хочаш, стану на калені!
Не хочаш сам, дык дай застацца мне
Жывым. Я ж селянін, я — беспартыйны.
Таварышы-браты! Канец вайне!
Мы — не на фронце, мы — ў глыбокім тыле!..
Дамоў, браткі, — каму куды бліжэй!
Мне недалёчка — вёрст пад паўтараста...
Хто гэта стрэліў? Божа мой — Андрэй!
Андрэй Саковіч — муж сястронкі Насты!
Дармо, Андрэй! Я ўцёк! Вось я — жыву!
І стрэл твой родным цяжка адрыгнецца.
Ідзі сабе, шукай сваю Маскву!
Калі цябе ўжо не забілі немцы!
Ён спаў. Абуджваўся і мармытаў...
І лезлі ў рот зялёнай плоймай мухі.
Ён спаў, і ў сне зубамі скрыгатаў
І Богу жаліўся на злыбеды і мукі,
І ўсё адзін той самы сон страшны
Яго душыў і за жывое кратаў —
Вайна... ўсё здані-прывіды вайны,
І сковыт мін, і строкат аўтаматаў.
Ён спаў і ў сне гарачкава трызніў
Аб бойках, аб паходнай смертнай стоме,
Аб спадчыне — сваіх палосах сніў,
Аб гаспадарцы, аб бацькоўскім доме.
Даволі чорных сноў ягоных, досць!
Як ён казаў — канец вайне, і годзе!
Хай спіць ля бацькава парога госць, —
Хто спіць, гавораць людзі, той не шкодзіць.

У абед прачнуўся ён. Бярозы ў дзве
Ужо стаяла ў сінім небе сонца.
Яно блішчэла ў росах на траве,
На родным даху — на ягоным гонце.
Сяло сінела здаля — за ракой,
Паміж садоў, між польнага мурогу.
Ён чуў, як ліўся ў сэрца супакой,
Што ён знайшоў ля бацькава парогу.
З ружовай кветкі сонечны матыль
Зляцеў і сеў на брудную пілотку.
Канец вайне! Вось ён — глыбокі тыл!

Як ціха тут! Як марыцца салодка!
І ўсё, што ён дагэтуль пераніжыў,
Здавалася далёкім, немагчымым...
Канец вайне! Другія рубяжы
Цяпер стаяць прад ім, перад Юхімам!
Ён выцягся. Узняўся на лакцёх.
Хацеў напіцца — перасохла ў роце...
І раптам — быццам бы сухі гарох
Са свістам сцёбнуў па рачным чароце.
Ого! Дык, значыць, ёсць яшчэ вайна!
Ён да зямлі прыпаў з салдацкім матам
І ў той жа міг па голасе пазнаў
Знаёмы трэск нямецкіх аўтаматаў.
Яны ішлі купацца на раку
Усім узводам і для супакою
Страчылі чэргамі па лазняку.
Паперадзе, як грозны бог вайны,
Граза занятых гарадоў і сёлаў —
Ішоў высокі афіцэр п'яны
І гергетаў з салдатамі вясёла.
Ля рэчкі ўзняўся развясёлы гвалт,
Адбіты рэхам на чужацкай мове.
І раптам «бог вайны» ускрыкнуў: «Хальт!»
І з аўтаматам стаў напагатове, —
На тым баку, паміж лазы й трысця,
З густых кустоў вылазячы паволі,
Ішоў Дзікун, абдзёрты і паўголы,
Трымаючы з анучкі белы сцяг.
Ён нёс яго, як свой ратунак, нёс —
Высока ўзняты, шчыры, без падману,
І йшоў нясмела цераз жоўты плёс —
Лясны дзікун з Майн-Рыдава рамана.
І «шыссэн ніхт» праз рэчку ім крычаў,
І, перайшоўшы, смешна стаў жагнацца...
Узвод глядзеў-глядзеў... тады пачаў
Адразу крыўдна-весела смяяцца...
..............................................................

## ЭПІЛОГ

— Маўчы, ён нежывы. — Яго забілі?
— Не, дзетухна. Відаць па ўсім — ён сам...

Ён не загінуў. Цераз колькі дзён,
Абдзёрты, дзікі, напалову голы,
У дальняй пушчы апынуўся ён.
Дарогай ён мінаў жытло і сёлы
І абыходзіў за вярсту людзей,
Бо іх баяўся. Быў той год багаты
На арахі, і імі кожны дзень
Жывіўся, быццам дзік, Юхім Кашлаты,
І гэтым жыў. Як чорныя вятры,
У пушчы дні і ночы праляталі.
Шаптала ноч яму імя сястры,
А дні імя Саковіча шапталі...
І ён зрываўся і далей ішоў,
Абы ісці, абы не быць на месцы.
Звінеў над ім зялёны шум лістоў.
Праз іхны шум ён ясна чуў, як дзесьці
Рыдала й плакала яго сястра...
Праз тыдзень ён узбіўся на зямлянку
У пушчы. Дахам ёй была кара,
І тапаром, без піл і без рубанка,
Была ўся чыста зроблена яна.
Была ўжо ноч, калі ён так шчасліва
Знайшоў яе. Да вузкага акна
Прыпаў ён тварам і — застыў ад дзіва:
Прад ім стаяў царкоўны аналой —
Курэлася кадзіла сінім дымам.
Старэнькі поп, павернуты спіной
Да здзіўленага край Юхіма,
Укленчыў, молячыся, ён хрысціў
У самаробнай ліпавай купелі
Дзіцё. Далей удвох сядзелі
Бабуля і малое год шасці.
Вось павярнуўся ён, і ўміг Юхім
Пазнаў — то быў «вясёлы поп» Макарый...
Ён прыгадаў той страшны дзень, з якім
Знік поп старэнькі ў баравым гушчары.
Ён прыгадаў, як між зялёных ніў

У дзень павешання цяжкой ступою
Ішоў Макарый з кайстрай за спіною
І як Юхім за ім тады сачыў.
І ён падумаў: вось надзейны той
Прыязны друг, каго ён не баіцца,
З якім сваім адчаем, і тугой,
І крыўдамі ён можа падзяліцца,
З каторым можа ён зрабіцца зноў
Былым Юхімам, спраўным чалавекам,
Каторы дасць прашчэнне ад грахоў
Хрыстовым імем ныне і навекі,
Бо і Хрыстос не праклінаў сваіх
Забойцаў, калі імі быў распяты, —
Дык чым жа горшы ад забойцаў тых
Нямецкі стараста Юхім Кашлаты?
Вось кут, дзе ён нарэшце адпачне,
Дзе знойдзе добры схоў ад партызанаў!
Абы пражыць вайну, а па вайне,
Дасць Бог, пачне сваё жыццё ён занаў.
Так думаў ён і да квадрата шкла
Цікоўна прынікаў зарослым тварам.
Хутчэй бы гэтая кабета йшла
Дамоў ды стрэўся ён з айцом Макарам!
Але яна не йшла. Сваё радно
Ля печкі на падлозе разаслала —
Відаць, бабулька тут заначавала...
Тады Юхім пастукаў у акно.
Той стук нясмелы ўчуўшы, без спалоху
Айцец Макарый выйшаў да парогу.

А. Макарый

Хто тут? Заходзьце!..

Юхім

Добрай ночы вам,
Святы айцец Макарый!..

А. Макарый

З чым прыйшлі вы?
І хто вы ёсць?

Юхім

Я самы нешчаслівы
З усіх людзей, і Бог, напэўна, сам

Мяне праз ноч прывёў сюды да вас
Па словы прошчы ў гэты кут ратоўны.

А. М а к а р ы й

Калі няшчасны вы — у добры час!
Тут — Божы храм, і я — святар царкоўны.

Ю х і м

О, дзякуй вам. Але чаму ў бары
Вы, як і я, схаваліся ад свету?
Вы кінулі сяло. З тае пары
Вы зніклі, не пакінуўшы і следу.

А. М а к а р ы й

Я так зрабіў, як першы хрысцьянін,
Каб храм зрабіць уласнымі рукамі
І жыць у беднасці і каб яны —
Айчыны ворагі — у рускім храме
Не смелі гаспадарыць. Да мяне
З вакольных сёл ідуць у пушчу людзі —
Хто ў Бога верыць, хто ў святой вайне
Застаўся чэсным і век чэсным будзе.
Я ўжо стары й адзін. Мая сям'я —
Народ, катораму служу без платы,
Як толькі ўмею. А хто вы?

Ю х і м

Хто я?
Я ваш духоўны сын — Юхім Кашлаты.

А. М а к а р ы й

Юхім Кашлаты? Стараста? Такіх
Сыноў духоўных я не знаю ў краі.
Вы ворагам служылі. Хай жа ў іх
Ваш будзе схоў, а я вас не прымаю.
Ідзеце з Госпадам!..

Ю х і м

Святы айцец!
Я каюся! Я з гора вар'яцею!
Я гіну ў пушчы! Мне прыйшоў канец!
Яны забралі ўсё ў мяне, зладзеі, —
Сястру і дом мой і майму дабру
Знайшлі канцы...

А. М а к а р ы й

Такая ўзнагарода
За здраду вашу... Уласную сястру
Вы ім аддалі. На крыві народа
Хацелі збудаваць вы ўласны дом.
Вас праклiналі чэсныя ўсе людзі.
Але — не дадзена збавення Юдзе,
Як вам не далі жыць гаспадаром.
Ідзеце прэч!

Ю х і м

Вы гоніце мяне
На смерць у лесе, бо няможна далей
Так жыць, як я жыву...

А. М а к а р ы й

Вы альбо не
Вось так на смерць сястру сваю аддалі
І ўвесь народ — усю маю сям'ю!
Чаго ж вы хочаце яшчэ на свеце?

Ю х і м

Маўчыце, поп! Маўчыце, бо заб'ю!

А. М а к а р ы й

Забіць мяне?! Няшчасны! Што ж, забеце!..

*(Грозна.)*

Юхім Кашлаты! Ў гэты ночны час
Уладаю, што я ад Бога маю,
Тут аддаю анафеме я вас
І імем Госпада навекі праклінаю!
Будзь проклят здрадніка Іуды сын —
Ад сёння і навек-вякоў! Амін!
Зняўшы срэбны бліскавічны крыж,
Стаяў прад старастам айцец Макарый,
І столькі велічы было на твары
Ягоным грозным, што Юхім, як мыш,
Нырнуў у цемру і паміж ялін
Пабег, як звер бяжыць ад чалавека,
І бегла ўслед: «Ад сёння і давеку...
Будзь прокляты на век-вякоў! Амін!..»
...........................................................

Уранні па дарогам баравым
Ішла з ахрышчаным дзіцём бабуля
З шасцігадовым каля ног малым,
І толькі яр сасновы абмінула,
Як закрычаў малы: між светлых дрэў,
Дзе лёталі па сініх кветках пчолы
І птушкі цвіркалі — як здань, вісеў
Страшлівы труп, абдзёрты і паўголы.

М а л ы

Хто гэта, баба? Што ён робіць там?

Б а б у л я

Маўчы! Ён нежывы.

М а л ы

Яго забілі?

Б а б у л я

Не, дзетухна. Відаць па ўсім — ён сам...

М а л ы

А, ведаю — то немцы з ім зрабілі.

*7 ліпеня 1944 г.*

## ГАННА

*Урывак з аповесці*

### I. ЛІСТЫ АБ КАХАННІ

1

Дайце рады, скажэце, як быць,
Калі раптам прыходзіць каханне?
Калі сэрца ад зірку трымціць
І ад слова займае дыханне,
Калі траціш спакой назаўжды
І душа не прымае спакою, —
Дзе прычына такое бяды?
Раскажэце — што гэта такое?..
Я б хацеў майскай ноччу пачаць
Гэта доўгае апавяданне

Пра вясну, закаханых дзяўчат,
Аб расстаннях, аб дзеўчыне —
Ганне;
Я б хацеў, каб лады салаўя
Ў кожным слове маім прагучалі,
Каб і вы гэтаксама, як я,
Маю Ганну душой пакахалі;
Я б хацеў расказаць вам... але
Аб усіх расказаць немагчыма.
Справа простая — ў нейкім сяле
Закахалася ў хлопца дзяўчына.
Гэта быў месяц сонца й надзей,
Чэрвень быў, сорак першага году.
На сяле жыў настаўнік Андрэй,
Чарнабровы, вясёлы заўсёды.
Ад дзесятага класа й ніжэй,
Не кранаючы нашае Ганны,
Ўсе дзяўчаты былі да вушэй
У настаўніка пазакаханы.
Бо ніхто так не долеў, як ён,
З гэткай любасцю, з гэткім запалам
Маляваць словам вобразы дзён,
Зводзіць з Пушкіным і Купалам;
Бо ніхто так, як ён, не умеў
Захапіць слухача і парою
Слёзы выклікаць раптам і гнеў
За гаротныя справы героя.
Усё міналася з часам, жыццё
Уступала ў сваё уладанне,
І праходзіла пачуццё
Неасмысленага кахання,
Толькі ў сэрцы, як добры знак,
Твар настаўніка беззаганны
Заставаўся.
Але не так
Развінуліся справы у Ганны.
Вось і скончана школа. Прайшоў
Пазаўчора апошні экзамен.
Смех і жарты таварышоў,
Дні то з радасцю, то са слязамі —
Усё мінулася ў свой чарод,
Усё прайшло, як туман на світанні...

Вось ужо васемнаццаты год
Пачынаецца ў чэрвені Ганне.
Ўчора бацька навесяле
Жартаваў: «Жаніха ёй шукаю...»
Поўнач. Спіць ужо ўсё на сяле,
Толькі Ганна чагосьці чакае,
Каля месячнага акна
Яна села адна ў задуменні —
Ў белай хустачцы з палатна,
Рукі спушчаны на калені.
Як жа ўсё гэта выйшла? Калі
Пачыналася?.. Гэткая дура!.. —
Заўважыла толькі тады, як пайшлі
Іспыты па мове і літаратуры.
Запыталі мяне. Пачала
Гаварыць пра Анегіна і Таццяну,
А ён сядзеў там з краю стала
І глядзеў на мяне гэтак дзіўна і цьмяна.
І я раптам адчула — душой,
Што любіла я Пушкіна небеспрычынна,
Што лістала «Анегіна» ягонай рукой
І глядзела на Ленскага — яго вачыма,
Што я гэтым даўно жыву,
Што яно ўжо даўно мяне паліць,
Што яго не выпаліш, як з жыта траву,
Не кінеш у вір, як вянок на Купалле.
Дзе ж развага мая была?
Як жа я не прыкмеціла гэта?
Я — шкалярка, дзяўчына з сяла,
Ён — настаўнік з сталічнай асветай.
Што зрабіў ты, Пушкін, са мной!
Што рабіць мне — парай хоць ты нам!..
Адчыніла у сад акно,
Сад дыхнуў у пакой язмінам.
Над ракою — туман, нібы дым,
Пахне мятай і сенам свежым.
Шэпча ноч — і усё аб адным,
Усё тым жа пушкінскім вершам.
Моўчкі стала каля стала
На аблічча з тугой нямою.
На плячо яе цяжка лягла
Каса залатою змяёю.

А каханне — той самы змей —
Смокча кроў, трушчыць сэрца дзяўчыны.
Уздрыгнулася: заўтра Андрэй
Выязджае на адпачынак.
А яна — пазастанецца тут
І па восені ў горад паедзе —
Паступаць без яго ў інстытут,
Без яго бавіць дні свае недзе.
Хай жа будзе хоць што!.. Як знарок
Падвярнуўся канверт, і паволі
Надпісаў на ім сам алавок:
«Толькі вам, і нікоменьку болей».

*4 лютага 1944 г.*

# ТВОРЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## СНЫ ЗАЙЦА

Замяла завея
Белая ды злая
Поле і лясы...
Спіць пад галлём елак
У лесе шэры заяц,
Свішча ў нос касы.
Ўсе цяпер на печы,
А яму дык нечым
Плеч пагрэць сваіх.
Толькі вецер свішча...
Справіў ён ігрышча
У хвалях снегавых.
Вось і сніцца зайцу
(Нібы гэта ў байцы)
Раздзівосны сон:
Нібы на прыволлі
Поле — ўжо не поле.
І не заяц ён...
Нейкім дзіўным чынам,
Неякай прычынай
Стаў ён — селянін!
І ў кажусе-хутры
Едзе ён на хутар
На сваім кані.
А які ж ён грозны!
А які сур’ёзны!
З рота — нейкі дым.
Цёпла яму й шчасна,
Толькі крыкне часам:
— Ну, баржджэй, гняды!

Конік жа рахманы —
Ой, які слухмяны! —
Пойдзе ўраз трушком.
Едзе ён ды едзе
Па праклятым следзе
На санях бачком.
Вось праехаў поле,
Ўз’ехаў на пасёлак —
Тут двары, сады,
Колькі ў гэтых праслах
Сустракаў ён часам
Гора ды бяды!..
Вось у гэтых гумнах,
Ціхіх ды задумных,
Каля тонкіх сліў
Сволачам Мікітам
За капусту біты
Ён калісьці быў.
Тут вось у Міцюхі
Грыз ён з галадухі
Яблыкі ў садку...
Ой, было нямала,
Як тады папала
Прутам па баку!..
Эх, ды лепей кіну
Ўспамінаць, як гінуў
Ад звяроў, людцоў,
Бо ўжо стаў цяпера
Я не шэрым зверам,
Не дурным зайцом.
Засцягнуў ён хутра
Ды паехаў хутка
З замеці-гары.
Ад тугі-назолы
Плюнуў на пасёлак,
На садкі-двары.
Едзе ён, мінае
Поле-клін за гаем,
Сум разбіўся ўшчэнт.
Вось ужо і хатка...
Зірк ў вакно — аладкі
Жонка там пячэ.

У вакно рукою
Сына за сабою
Кліча ён на двор.
Хлопец выбягае,
Гнедку распрагае
Ды вядзе ў хлявок.
Сам стары спяшае
Ў хату ды чакае
Шамоўкі даўно.
На сале па густу —
Каша ды капуста
І капа бліноў.
Міску з’еў, другую...
Жонка ўсё частуе:
— Еж! нябось замёрз!
Грэецца памалу,
Ажно пот папёр.
З’еў ды на палаці...
Стала ціха ў хаце.
Грэе кожны кут.
Сын сядзіць на лаўцы,
Падплятае лапці
Бацьку-старыку.
Спіць ён, засынае,
Думка йдзе, мінае,
Нельга знаць, аб чым.
Раптам... штось зрабілася,
Нібы столь
Звалілася...
Ой, пяском засыпала,
Рожкамі зарыпала.
Валіцца кулём...
Ложкі, крошкі, вугаллё...
— Стой, — крычыць ён, —
стой! —
Але тут ставінаю,
Нейкаю ламінаю
Яму поўху — хлоп!
Ўстаў, прачнуўся заяц.
Замець вакол, замець.
Стогнуць верасы.
— Дзе бліны, аладкі?

Дзе палаткі, хатка?
Дзе канёк, дзе сын?
Каб ты правалілася!
Гэта ж мне прыснілася.

## ЯК ЯНЫ РАКА ЗЛАВІЛІ*

У прыпарны летні дзень
Ў хаце хлопцам не ўсядзець.
Вось і выбеглі на горку
Янка, Паўлік ды Рыгорка.
А за горкаю, за гаем,
Ціха рэчка прабягае
Праз лагчыны, праз масты,
Праз зялёныя кусты.
Каля лодкі
Плешчуць плоткі.
Прамільгнулі ў цішыні
Лёгка, дружна
Пад каругай
Валацугі-акуні.
Верхаводачкі пад мосцікам
Водзяць хвосцікам.
Уцякае ад яршоў
Стайка дробных печкуроў.
Самавіты дзядзька сом,
З вусам, з белым жыватом,
Па вадзе пляснуў хвастом.
А на самым дне ракі
Ходзяць гуртам шчупакі.
Рэчцы ж хочацца хутчэй
Пакупаць малых дзяцей...
Перабеглі тут за горку
Янка, Паўлік ды Рыгорка.
Каля вербаў ды ракіт
Мчацца хлопцы да ракі.

* Верш напісаны разам з Ю. Таўбіным.

Распрануліся
на хаду,
Пакідаліся
у ваду.
Паўцякалі ў глыб ракі
Акуні і шчупакі.
Кінуліся плоткі
З яршамі пад лодкі.
Толькі белы дзядзька сом
Ціха ходзіць за кустом.
З крыкам, з радаснай гамонкай
Паплылі наперагонку
Янка ды Рыгорка.
А Паўлюк маленькі стаў
Ля кудлатага куста
І заплакаў раптам горка.
Гэта рак-ліхадзей,
Як пабачыў дзяцей,
Узлаваўся наўздзіў,
За нагу яго схапіў.
Плача Паўлік, плача,
Ля берага скача.
Да яго наперагонку
Плывуць Янка ды Рыгорка.
Выцяглі на бераг,
На пясочак шэры.
Кажа Паўлік: «Нібы
Укусіла рыба...» —
«Што тут ён вярзе:
Гэта ж рак на назе».
Рака знялі з ножкі,
Паклалі у кошык,
Прынеслі дахаты,
Паказалі тату.
Цётка Марыля
Рака зварыла.
Елі рака, елі —
Дагэтуль не з’елі.
Так не стала рака —
Згінуў небарака.

* * *

Учора шчэ гулі спраўлялі
Над краем снягі завірух,
А сёння — блакітныя далі
І хмар разварушаны пух.

На прызбах, на латах адталін
Малыя з відна да відна
Пільнуюць, як з сіняй аддалі
Ідзе залатая вясна.

Цяпер не трывожаць іх сцюжы,
Завеі з зімою ўцяклі.
І вось на люстраныя лужыны
Майструюць яны караблі.

Вось ветразь і сцяг адмысловы.
Ля мачты стаіць капітан.
З паперы матросы... — Гатова!
Плыві ў далячынь-акіян.

Адзін прабіраецца смела,
Вось ветразь другі нацягнуў,
А трэці ля купіны белай
Ў крыштальнай вадзе затануў.

За тым акіянам, напэўна,
Ёсць гожых зямель берагі.
І вось прыгажун карабель мой
Прычаліць да гэтых краін...

Ідуць караблі, адплываюць —
Што хвілю хутчэй і хутчэй...
І весела іх праваджаюць
Задумныя вочы дзяцей.

## РАЗУМНЫ КЛІМ*
*Жарт*

Слаўны хлопчык, смелы Клім,
Спаў сягоння да паўдня...
Ўстаў заспаным ён такім
І ад сну увесь размяк.

А тут Кліму ад турботы
Нельга вольна і ўздыхнуць:
Абувацца трэба ў боты
Ды і порткі нацягнуць.

Кліча ён братоў сваіх —
І вялікіх, і малых.

Прыбягае брат Андрэй —
Ад усіх братоў вышэй.

А за ім малы браток —
Прыкаціўся, як клубок.

Так братоў прыбегла з пяць
Гультаю дапамагаць.

Адзін скінуў коўдру ўбок,
А другі насунуў бот.

Узяліся дзецюкі
За шырокія парткі:
— Не хадзіць жа без парток!
— Скокай, Клім, сюды, браток!

З ложка Клім у порткі — скок!
— А-я-яй, мае ж браточкі!

Засталіся ад парток
Разадраныя шматочкі...

І падраныя парткі
Клім да ночы зашываў.

З таго часу ён ніколі
Гультая больш не спраўляў.

---

* Верш напісаны разам з Ю. Таўбіным.

# АЛІ

Ля Чорнага мора,
Дзе ў водблісках хваль
Плывуць караблі
У далёкую даль,
Дзе бераг пясчаны
Ля чорнай скалы
Апырсквае, ліжа
Вясёлы прыліў,
Дзе ўвысь кіпарысы
Прыгожа ўзраслі —
Там жыў татарчонак Алі.

Ён жыў у завулках
Старой Балаклавы
Пад сонцам гарачым,
Пад сонцам ласкавым.
Замурзаны, чорны,
Вясёлы, разгульны —
Сапраўдны смуглявы
Малы беспрытульны.
Па вуліцах бегаў
І спаў на зямлі
Малы татарчонак Алі.

Абпалены сонцам,
Апрануты ў зрэб'е,
На рынку ў гандляркі
Цягаў сабе хлеба,
На ўзмор'і з хлапцамі
Лавіў сабе крабаў
І біўся з хлапцамі,
Чарнявы і зграбны...
А недзе далёка
Плылі караблі
І клікалі ўдалеч Алі.

І думаў Алі:
Як вялікім ён стане,
Дык будзе, напэўна,
Тады капітанам,
Што некалі, з часам,

Па хвалях шумлівых
Яго павязе
Карабель ганарлівы.
І будзе ён плаваць
На тым караблі —
Малы татарчонак Алі.

Аднойчы без літасці
Збіты хлапцамі
Сядзеў ён, мяшаючы
Кроў са слязамі...
І нейкі марак
Да яго падышоў,
Пагладзіў завіткі
Яго валасоў,
Пытаючы гучна:
— Як клічуць, малы?
І ціха сказаў татарчонак: — Алі!

За днём супакоены
Вечар прыходзіў.
Прачнуўся Алі
На даўгім параходзе.
Вясёлы марак,
Што яго прыцягнуў,
Са смехам спытаў у яго:
— Адпачнуў?
Даў хлопцу памыцца...
— Гатовы? — спытаў, —
Хадзем, цябе кліча
Ўгару капітан.
Ў каюце ў Алі —
За словам слова —
Пайшла з капітанам
Даўгая размова.
Сказаў капітан:
— Дык ты згодзен, малы?
І ціха сказаў татарчонак Алі:
— Але!

Пляскаліся хвалі
І біліся з шумам.
Назаўтра пайшоў

Параход да Батума.
Ішоў параход,
І на палубе белай
Стаяў татарчонак,
Вясёлы і смелы.
Сачыў, як знікалі
Абрысы зямлі,
Як ля Балаклавы
Ішлі караблі.
Сачыў ён, як хвалі
Плылі і плылі, —
Маленькі матрос
Татарчонак Алі.

# ПРОЗА

## ВЫЗВАЛЕННЕ СІЛ
*Урыўкі з рамана*

### ЧАСТКА ПЕРШАЯ

#### I

Дужы, агніста-рыжы арангутанг біў валасатымі кулакамі сабе ў грудзі.

Ад гэтых удараў плыло гулкае рэха і заціхала ў змроку. Здавалася, нехта б'е ў вялізны тугі бубен, і гул бубна плыве здалёк праз густы лес, трывожны і ўзбуджаны. Так некаторыя дзікія плямёны, б'ючы ў волатны бубен, падаюць за некалькі вёрст іншаму племю сігнал ваеннае трывогі.

Бух... бух... бух...

Гулі рыжыя валасатыя грудзі.

Бух... бух... Гар-р-р... р-р... Ыі-і-і-й-я-а-а!

Рыжая поўсць стаўбурчылася на дужым загрыўку. Маленькія яркія вочкі бліскалі пад моцнымі надброўнымі дугамі.

А-а-а!.. Р-р-р!.. Гха!.. Кха!.. Мр-р-р!..

З ікластага чырвонага рота ярасна рваліся глухія невыразныя ўскрыкі.

Бух!.. бух!.. бух!..

Рыжы арангутанг быў нечым дужа раззлаваны. Яго калматыя ногі спружыніліся, нібы рыхтуючыся скокнуць, рукамі ён біў у грудзі. Гостры звярыны пах вісеў у паветры, душным і парным.

Бух... бух...

Грудзі гулі настойліва і грозна. Недзе ў цёмным кутку палахліва ўскрыкнула маленькая малпа. Піскнула нейкая птушка.

Твар арангутанга быў скрыўлены ярасцю. Нос раз'юшана чмыхаў. Цякла, пырскала з рота ліпкая сліна.

Бух... бух... бух...

Зграбная прыгожая дзяўчына з залатымі валасамі тулілася да мужчыны перад клеткаю з арангутангам.

Выходзячы з Берлінскага заасаду, яны спыніліся перад ім і вось ужо колькі часу глядзелі на раз'ятраную малпу.

— Чаму ён такі раззлаваны, любы? — запыталася дзяўчына.

— Нейкі дурань парнуў яго парасонам праз краты.

Мужчына гаварыў з моцным акцэнтам. Ён няправільна вымаўляў па-нямецку і, гаворачы, падшукваў патрэбных слоў. Відаць, гэта быў чужаземец. Паміж чорных, шэрых гарнітураў наведвальнікаў заасаду нязвычна бялелася яго вышытая кашуля. Твар быў тонкі, кашчавы. На высокі лоб падалі русыя валасы.

Напэўна, у заасад ён пайшоў толькі дзеля дзяўчыны, бо зусім не цікавіўся ім. Ён нецярпліва пазіраў на раззлаванага арангутанга і гладзіў загарэлаю грубаватаю рукою маленькую дзяўчыніну ручку, выглядаючы сам заклапочаным.

— Ну, пойдзем, Валер! — нарэшце сказала яна.

Яны выйшлі разам з натоўпам на шумную вуліцу і пайшлі да вакзала Зоо.

Па дарозе дзяўчына звонка смяялася і вясёла гаварыла са сваім спадарожнікам. Залатыя кучаравыя яе валасы рассыпаліся над лобам, і яна лёгкім узмахам галавы папраўляла іх.

— Я не магла цябе дачакацца, Валер, — гаварыла яна. — Я лічыла кожны дзень, які заставаўся да твайго прыезду. А ты нядобры — спазніўся на цэлы тыдзень!

— Не мог, Эльза, — гаварыў мужчына. — Мяне затрымала віза. Але я таксама імкнуўся ў Берлін. Я сумаваў на радзіме, па табе.

— І толькі адзін ліст за ўвесь час ад'езду?

— Я спадзяваўся хутка цябе ўбачыць, Эльза.

Савецкі інжынер Валер Богуш, прысланы ў Берлін для паглыблення кваліфікацыі, толькі ўчора вярнуўся, адбыўшы кароткі водпуск у СССР. На радзіме, у беларускім калгасе, недзе на самай мяжы з Польшчаю, ён прабыў толькі тры тыдні. За гэты час ён, бадай, адвык ад руху, шуму Берліна і цяпер з цікавасцю ўзіраўся ў яго шумныя вуліцы.

Нейкім бязмэтным здаваўся гэты рух.

Горад шалёна імчаўся. Здавалася, вось ён адарвецца ў сваім буйным імпэце ад зямлі. Але і заўтра і паслязаўтра тыя ж самыя

пахмурыя канторы, высокія гатэлі, крыклівыя кафэшантаны, тэатры будуць стаяць на месцы, як стаялі. Тыя самыя людзі будуць праходзіць, імчацца па вуліцах, несучы тыя самыя клопаты, думкі. Богуш мацней сціскаў Эльзіну руку. Ён ізноў адчуваў сябе самотным на гэтых вуліцах. Эльза нешта звонка расказвала яму. Аўто, пралятаючы па наглянсованым асфальце, заглушалі яе голас. Яна гаварыла галасней, смяялася, і Богуш, слухаючы яе, шчасліва ўсміхаўся.

<...>

V

Увечары да Богуша прыйшоў Оскар Штальман.

Богуш канчаў пісаць ліст і, прывітаўшыся, папрасіў прабачэння:

— Пачакайце крыху мяне — я зараз скончу, і тады пагаворым.

Оскар Штальман паклаў на крэсла капялюш і прысеў на канапу, закурыўшы сігару. Абыякавым позіркам ён аглядаў сцены пакоя. Яны былі бадай што пустыя. Толькі над сталом у драўлянай рамцы вісела невялічкая карціна, напісаная алеем. На карціне было грузкае непраходнае балота. Па «вакне» — маленькім азярку, якое прабівалася з балота, на хісткім чоўне стаяў селянін. У роце ў селяніна была кароткая люлька. Ён касіў з чоўна зялёную асаку. Бурая багна хлюпала навакол. Штальман доўга глядзеў на карціну і думаў: «Мабыць, гэта ландшафт з Богушавае радзімы».

І запытаўся у Богуша:

— Гэта ў якой краіне?

— Палессе. Мазыршчына.

Богуш шпарка дапісваў апошнія радкі. Скончыўшы, надпісаў на канверце адрас і запрасіў Штальмана бліжэй да стала. Ён выцягнуў са століка дзесятак спісаных аркушыкаў паперы.

— Вось гэта, — сказаў Богуш, — тое, што перадаў мне мой таварыш на радзіме. Гісторыя гэтага дакумента дужа цікавая...

Штальман падсунуўся бліжэй да стала і нарыхтаваўся слухаць.

— Вось паслухайце, — пачаў Богуш. — Прыблізна ў пачатку сусветнае вайны мой таварыш, які жыве цяпер там, на маёй радзіме, робячы рамонт у адным касцёле на Палессі, выпадкова знайшоў захаваную пад плітамі касцёла скрыню. У гэтай скрыні была машына. Як расказваў мой таварыш, тая машына мела незвычайную сілу. Яна пускала тонкія праменні блакітнага колеру, якія без перашкод праходзілі праз метал і камень. Мала таго,

паводле гаворкі таго чалавека, праменні мелі здольнасць разбураць і рабіць на попел жывую арганічную матэрыю. Так, напрыклад, калі ён там, у касцёле, неасцярожна абыходзіўся са сваёю знаходкаю, блакітныя праменні, знянацку ўпаўшы на голуба, што ляцеў за вокнамі, ператварылі яго ў попел, які рассыпаўся па ветры. Сцены касцёла, расказваў мне таварыш, былі прабіты праменнямі наскрозь... Ён мне расказваў шмат дзіўнага пра гэту машыну. Сказаць папраўдзе, я да гэтага часу яму не веру. Не ведаю нават, чым можна растлумачыць такую фантастычную выдумку. Але ён перадаў мне гэтыя паперы. Ён захапіў іх тады з касцёла. І, ведаеце, у мяне з'явілася фантастычная думка. Тут гаворыцца пра атамны апарат.

Штальман здзіўлена падняў бровы і ў неразуменні зірнуў на Богуша:

— Ён нармальны, той ваш таварыш?

— Зусім здаровы чалавек, — сказаў Богуш. — Калі б гэта мне сказаў хто іншы, я не паверыў бы яму і не звярнуў бы на гэту справу ніякае ўвагі. Але цяпер я павінен разабраць гэтыя паперы.

— Пачнем... — коратка сказаў Штальман. — О, ды тут напісана па-нямецку!

Штальман агледзеў укрытыя рысункамі і формуламі балонкі і пачаў голасна чытаць.

Вось як пачынаўся ўрывак нямецкага рукапісу*:

«Такім чынам выходзіць, што вызваленне ўнутрыатамнае энергіі, аснаванае на прымусовым, падначаленым чалавецтву распадзе атамнага ядра, немагчымая рэч.

Я быў у адчаі, бо сам сабе давёў, што тое, да чаго я ўсё жыццё імкнуўся, немагчыма. Уся мая шматгадовая праца, на якую я паклаў усе сілы, маёмасць і энергію, была дарэмнаю. Вынікі гэтае вялізарнае працы давялі мне, што працаваць было не варта.

Дурны! Я стаяў ужо на парозе разгадкі вялікае таямніцы.

Праца не была дарэмнаю. Яна, разам са сваім вынікам, дала мне глыбокія веды аб тым атаме, які я дарэмна стараўся разбіць, каб вызваліць яго вялізарную энергію. Яна дала мне веданне складу гэтых атамаў, іхніх камбінацый, з якіх складаецца свет і ўсё, што ў ім ёсць. Гэта праца дала мне разгон для новых адважных думак, якія прывялі мяне да перамогі. Яна, нарэшце,

---

* Тут выкінуты амаль усе формулы і рысункі, якія б былі цяжкімі і нуднымі для чытача.

дала мне магчымасць вынайсці шэраг удасканаленых прылад, што дапамаглі мне перамагчы канчаткова.

На працягу мае працы я пераканаўся, што маса і энергія, папершае, эквівалентны адно аднаму і, па-другое, здольны ператварацца адна ў другую. Маса можа ператварацца ў энергію. Калі ў якой-небудзь замкнёнай сістэме адбываюцца працэсы, у выніку якіх памяншаецца агульная маса целаў, якія складаюць гэту сістэму, дык такая змена масы павінна весці за сабою вылучэнне адпаведнае колькасці энергіі.

Гэтыя тэарэтычныя высновы вялі мяне да перамогі.

Неяк, зусім выпадкова, я пераглядаў ужо даўную гіпотэзу Проўта, які даводзіў, што ўсе элементы з'яўляюцца пабудоваю з аднаго першапачатковага элемента — вадароду. Я ведаў, напрыклад, што чатыры атамы вадароду складаюць сабою гелій.

І вось у часе доследу над вызначэннем атамнае вагі гелію і вадароду я напаткаў цікавую з'яву.

Я ўбачыў, што атамная вага вадароду роўна 1,008. Гэта было мне вядома і раней, але цяпер мне кінулася ў вочы тое, што атамная вага гелію, які складаецца з 4 атамаў вадароду, роўна толькі 4,000. Яна павінна была быць роўнай 4 • 1,008 = 4,032. Але ж бясспрэчным фактам з'яўляецца тое, што атамная вага гелію роўна 4,000. Значыцца, недастатковыя 0,032 адзінкі атамнае вагі зніклі ў працэсе стварэння з атамаў вадароду гелію. Скажам, пры ўтварэнні 4,000 грам гелію з 4,032 грама вадароду знікае 0,032 грама масы.

Як я ўжо ведаў, маса і энергія эквівалентны. Маса можа ператварацца ў энергію. Значыць, гэта маса ў 0,032 грама ператварылася ў энергію, якая і вылучылася ў часе ўтварэння гелію, у часе сінтэзу* элементаў — гелію з вадародам, як вылучаецца цеплыня пры гарэнні запалкі. Гэта перавярнула ўсе мае думкі.

Для мяне было ўжо лёгка падлічыць гэту вызваленую энергію. Гэта колькасць энергіі (Е), выражаная ў эргах, будзе роўна колькасці масы, якая знікла (дэфекту масы) у грамах (Т), памножанай на квадрат хуткасці святла, выражанае ў сантыметрах за секунду (С)**.

Значыцца, калі адбываецца сінтэз — утварэнне 4,000 грам гелію з 4,032 грама вадароду, дык пры дэфекце масы ў 0,032 грама Е (энергія) будзе роўна:

$E = 0{,}032 \cdot (3 \cdot 10^{10})^2 = 2{,}9 \cdot 10^{19}$ эрга, або 700 000 000 вялікіх

* Злучэння.

** Хуткасць святла — 300 000 км за сек. У сантыметрах — $3 \cdot 10^{10}$ (трыццаць мільярдаў).

калорый*.

Гэта азначае — столькі цеплыні, колькі атрымліваецца, калі спаліць 80 000 кг лепшага каменнага вугалю.

Калі ж дэфект масы будзе роўны 1 гр, дык —

$E = 1 \cdot (3 \cdot 10^{10})^2 = 9 \cdot 10^{20}$ эргаў, або 20 000 000 000 (20 мільярдаў) вялікіх калорый. Гэта роўна энергіі, якая атрымаецца, калі спаліць 2 500 000 кг вугалю.

Гэта велізарная энергія далёка перавышае тую, якая вылучаецца пры распадзе атамаў.

Гэта перавярнула ўсе мае думкі. Значыць, энергія вызваляецца не толькі пры распадзе атамаў, які (распад), як я пераканаўся, не падначалены чалавеку, але і сінтэзам іх.

Трэба было вынайсці спосаб сінтэзу элементаў.

Далей я скажу ў гэтым маім рукапісе, як я вынайшаў спосаб сінтэзу гелію з вадароду і ў чым ён заключаецца. Гэта было дужа простаю рэччу, як бываюць простымі большасць вялікіх вынаходак. Паўтараю, што толькі шматгадовая праца над гэтым пытаннем дазволіла мне зрабіць гэта. Скажу на гэтых балонках адно, што мой спосаб сінтэзу дазваляе вылучаць вадарод непасрэдна з вады і адначасова сінтэзаваць яго ў гелій, вызваляючы пры гэтым энергію. Вада павінна быць пры гэтым хімічна чыстаю. Далей, паводле апісання і рысункаў майго апарата, вы ўбачыце, што яна павінна падавацца строга дакладнымі порцыямі, для чаго ў апараце зроблена адпаведная прылада.

Я вынайшаў спосаб сінтэзу элементаў, вымераў колькасць энергіі, якая вызваляецца ў часе сінтэзу. Але я не ведаў аднаго. Я не ведаў, у якім выглядзе будзе вылучацца энергія пры сінтэзе. Я не ведаў, ці дазволяць чалавецтву формы, у якія выльецца гэта невычэрпная энергія, аддаць яе на карысць усяго чалавецтва. Я не ведаў, ці здолее чалавек падначаліць сабе вызваленую ім сілу, накіраваць яе на мільёны рухавікоў, фабрык, заводаў, машын...

Гэта грандыёзная невычэрпная колькасць энергіі дала б чалавецтву надзвычайныя магчымасці. Яна дазволіла б яму перарабіць зямлю, узняцца над тою жахліваю хаатычнасцю, у якой яно марнее. Яна б перайначыла ўсе грамадскія суадносіны на нашай планеце ці, можа, зусім бы адкінула іх, стварыўшы новы лад, вызваліўшы чалавецтва ад усяго, што дагэтуль замінала яму расці, ісці да росквіту...

Мае наступныя доследы паказалі, што энергія, якая вызваля-

---

* Адна вялікая калорыя роўна $4{,}2 \cdot 10^{10}$ эргаў.

лася пры маім спосабе сінтэзу элементаў, вылучаецца ў выглядзе асаблівых электрамагнітных ваганняў. Гэта былі праменні, якія знаходзіліся недзе далёка ў недаследаванай яшчэ частцы спектру ўправа ад ультрафіялкавых праменняў...»

— Чорт падзяры!.. — тут не хапае некалькіх балонак!!.

Штальман спыніўся і пачаў перакідваць балонкі рукапісу. Але патрэбных балонак не было.

— Чалавек, які перадаў мне гэты рукапіс, — сказаў Богуш, — помніцца, казаў, што яму нехта перашкодзіў, калі ён быў у касцёле з атамнаю машынаю. Спяшаючыся, ён хаваў машыну і рукапіс на старое месца, а гэта — паасобныя старонкі, якія выпалі з рукапісу і былі згублены на касцёльнай падлозе. Ён потым сабраў што мог і збярог да гэтага часу. Але давайце чытаць далей...

«Такім чынам мой апарат мог быць толькі страшнаю прыладаю разбурэння. Гэткую незвычайную сілу чалавек яшчэ не сустракаў. Дзеянне гэтых праменняў жудаснае. Яны праходзяць праз усё і не ведаюць перашкод. Гэта была б самая страшная машына разбурэння, якую чалавецтва магло вынайсці за час свайго існавання.

Гэта вырашыла лёс майго апарата.

Цяпер я пераходжу да пабудовы першага ў чалавечай гісторыі атамнага апарата, пабудаванага на аснове вызвалення энергіі пры сінтэзе элементаў (у дадзеным выпадку пры ўтварэнні гелію з вадароду). Я раскажу пра пабудову апарата, які, на жаль, мае толькі сілу знішчаць, апарата, які я назваў па праву вынаходцы атамірам прафесара...

Два галасы разам ускрыкнулі, выгукваючы праклёны і лаянкі на дзвюх мовах.

— Donner wetter!!!

— Каб цябе перуном спаліла!!! Адзін... Адзін толькі радок! — нібы прасіў у некага Богуш...

Ён вырваў у Штальмана рукапіс і, нанова перачытаўшы яго канец, запытаўся:

— Што гэта азначае: «Гэта вырашыла лёс майго апарата?» Які лёс прызначыў свайму атаміру вынаходца?

Штальман нічога не адказаў. Ён застыў у задуменні. Яго твар зрабіўся летуценным, мёртвым. Думкі яго луналі недзе далёка. Нібы сам сабе ён гаварыў:

— Калі толькі гэта праўда... тады гэта — разгадка таго, што дарэмна стараюцца разгадаць найбуйнейшыя людзі свету. Калі толькі гэта не містыфікацыя, дык гэта — адкрыццё, роўнага якому

ў свеце яшчэ не было. Калі атамір існуе ў сапраўднасці, ён адкрывае новую эру тэхнікі.

І раптам ён устаў і ўпэўнена сказаў Богушу:

— Але я ўпэўнены, што гэта хлусня! Сучаснаю навукаю даведзена, што вызваліць нутрыатамную энергію нельга. Гэта немагчыма! Праўда, наколькі я ведаю, тут некаторыя новыя думкі, але ўсё ж гэта немагчыма. Вы зрабіліся ахвяраю містыфікацыі.

Богуш задумна перагартаў пажоўклыя, дробна спісаныя балонкі.

За сцяною імпэтным тэмпам зайграў раяль. Сын фраў Амаліі, што прыехаў на вакацыі, развучваў новы факстрот.

— Аўтар рукапісу, — гаварыў далей Штальман, — відаць, мае багатую эрудыцыю. Я б хацеў ведаць яго. Магчыма, гэта маньяк-вучоны, які звар'яцеў на сваёй «вынаходцы»... Ваш таварыш не сказаў адраса касцёла, дзе ён знайшоў рукапіс?

— Гэта недзе ў Польшчы, — адказаў Богуш. — Адраса ён мне не сказаў ніякага, ён нікому не хоча давяраць свае тайны. Гэты рукапіс ён даверыў мне першаму. Я павінен паслаць яму навуковую ацэнку ўсяго гэтага.

— Напішэце яму, што гэта ўсё — хлусня і немагчымая рэч, — параіў Штальман.

— Але ж ён сам бачыў апарат! — сказаў Богуш.

Штальман нічога не сказаў. Ён моўчкі пацiснуў плячыма і насунуў капялюш.

— Да пабачэння, гер Богуш! — сказаў ён. — Мне няма часу. Дужа ўдзячны, што вы даверылі мне «тайну» вашага таварыша. Але мая думка — усё гэта містыфікацыя. Да пабачэння!

Богуш паклаў у шуфлядку рукапіс і моўчкі раскланяўся.

Дома Оскара Штальмана чакаў бацька. Ён падняўся з крэсла насустрач яму і ўсхвалёвана сказаў:

— Забастоўка спынена, Оскар! Мы пайшлі на ўступкі рабочым.

— Што-о?!.

Сын стаяў перад бацькам раззлаваны і гнеўны. Замяшаны, збянтэжаны стары Штальман гаварыў:

— Таварыства несла вялікія страты. Так доўга працягвацца не магло.

Оскар Штальман некаторы час гнеўна глядзеў на бацьку, потым махнуў рукою і выйшаў з пакоя. У прыхожай ён кінуў пакаёўцы капялюш і бразнуў дзвярыма кабінета. Доўгі час ён задумны хадзіў па кабінеце, потым рашуча сеў за стол і ўзяўся

за трубку тэлефона.

<...>

VIII

У рэдакцыю невялічкае берлінскае газеты бомбаю ўляцеў, запыхаўшыся, рэпарцёр Паўль Крумер. Ён расчыніў дзверы ў кабінет рэдактара і крыкнуў на хаду:

— Гер Берг! Я з нечуванаю, незвычайнаю сенсацыяй. Аддайце зараз жа загад аб падвойным тыражы сённяшняга нумара. Гэта нешта надзвычайнае! Я заўсёды казаў вам, што я, рэпарцёр Паўль Крумер, здольны на вялікае...

— Пакуль што я не бачу гэтага «вялікага», — стрымана перапыніў рэпарцёра рэдактар. — У чым рэч, Паўль?

Рэпарцёр дрыготкімі рукамі выцягнуў фотаздымак і працягнуў рэдактару разам з дробна спісанымі балонкамі інтэрв’ю.

Бровы ў рэдактара здзіўлена палезлі ўгору. Потым рэдактар пачаў незвычайна хвалявацца, і нарэшце ён шпарка запытаўся у рэпарцёра:

— Вы першы атрымалі інтэрв’ю? З іншых газет пра гэта пакуль не ведаюць?

— Можаце быць пэўнымі, гер Берг! — захаплёна адказаў Паўль. — Інтэрв’ю атрымаў толькі я адзін, і гэта правільна, як правільна тое, што мяне завуць Паўль Крумер. Гэта было так выпадкова...

Рэдактар, усхвалёваны, устаў і моцна пацiснуў рэпарцёру руку:

— Малайчына, Паўль! Малайчына... Алё! — кінуўся ён да тэлефона. —Так! Гаворыць рэдактар. Прыспешце выпуск! Падвойны тыраж... Матэрыял — пасылаецца зараз...

Рэдактар кінуў трубку і пачаў бегаць па кабінеце:

— Гэта надзвычайна! Гэта сенсацыя! Поспех нашай газеты бясспрэчны.

Тонкі зграбны Паўль бегаў за рэдактарам і падпяваў:

— О так!.. Гэта незвычайна!.. Гэта сенсацыйна!.. Вы не ўяўляеце, што будзе сёння ўвечары ў Берліне... Надзвычайна!

Чарговае пасяджэнне Берлінскага навуковага таварыства па вынаходжанні новых крыніц энергіі адбывалася ў вялізнай залі Вышэйшае тэхнічнае школы на Берлінерштрасе.

А дзесятай гадзіне шырокая заля Вышэйшае тэхнічнае школы пачала напаўняцца. Мора прафесарскіх галоў хвалявалася ад

строгае высокае катэдры дакладчыка да задніх шароўлаў. Тут былі лысыя з рэдкімі кусцікамі валасоў, што задзёрыста тырчэлі над высокімі лбамі, былі густыя сівыя шавялюры ў колер морскай пены, падобныя на львіныя грывы. Таварыства па вынаходжанні новых крыніц энергіі было паважанай арганізацыяй. Як гаварыў гер Стронг, прафесар фізіка-тэхнічнага інстытута, які быў на чале таварыства, перад ім ляжала шырокая будучыня.

Заля шумела, была поўная ажыўлёнымі гаворкамі.

— А! Гер Зімель! Як жывеце-маецеся?

— Дзякуй... Нішто. Крыху шумна сёння...

У другім кутку:

— Сёння сход абяцае быць ажыўленым. Вы не знаходзіце гэтага, гер Штампф?

— Э-э... Так! Так!

У шчыльным гурце каля катэдры пачыналіся палкія дэбаты. Кашчавы, са зморшчаным, як у егіпецкае муміі, тварам прафесар нешта даводзіў тоўстаму, прысадзістаму калегу з сівою шчэццю валасоў на галаве.

— Э-э... Вы не разумееце, гер Гальскэ, аднае рэчы, што энергія сама па сабе неўміруча... Яна... Э-э... так сказаць... зменьвае выгляд і...

— ...Але ж апошнія доследы ў Паўднёвай Амерыцы са збіраннем сонечных праменняў давялі...

Гурт удзельнікаў сходу стаяў каля вялізнае абвесткі, нешта запісваючы сабе ў блакноты.

На абвестцы першым пытаннем сходу было:

«1) Даклад праф. Стронга на тэму «Сусветныя праблемы энергетыкі»: I) Сучасныя крыніцы энергіі; II) Сусветныя запасы апалу; III) Скарыстанне новых крыніц энергіі і IV) Праблема скарыстання ўнутрыатамнае энергіі».

Апошняе пытанне выклікала ў зале самыя гарачыя спрэчкі. Усё таварыства ўжо даўно падзялілася на два заядла-варожыя бакі. Адны стаялі за магчымасць скарыстання нутрыатамнае энергіі, другія даводзілі адваротнае.

Вось і цяпер гэтыя спрэчкі пачалі выбухаць з новаю сілаю, поўнячы залю ўсё большым шумам. Да таго ж сход сёння дужа доўга не пачынаўся. Стрэлка перапаўзла праз дзесятую гадзіну, а катэдра дакладчыка ўсё яшчэ заставалася пустою. Гэта нервавала некаторых найбольш нецярплівых членаў навуковага таварыства.

Раптам усё разам суцішылася, гамонка памалу спынілася, і ўсе ў залі павярнуліся да катэдры.

Сівы кашчавы прафесар Стронг узняўся да катэдры і падняў руку. Ён нецярпліва чакаў, пакуль заля сцішыцца зусім, і потым загаварыў:

— Gnädigen Frauen und Herren...

Толькі цяпер некаторыя заўважылі, што прафесар Стронг быў нечым усхвалёваны.

Яго голас быў хрыплы і дрыготкі.

— Дазвольце паведаміць шаноўнаму сходу, што спосаб вызвалення нутрыатамнае энергіі... Спосаб вызвалення энергіі… Вынайдзены!

Па берлінскіх вуліцах бегалі жвавыя газетнікі і выкрыквалі сенсацыйныя паведамленні:

— Сенсацыя! Толькі ў нашай газеце!

— Вынаходка атамнага апарата!

— Незвычайнае навуковае адкрыццё!

— Атамны апарат японскага вучонага!

— Яго завуць — Фуказава Токудзо!

— Крыніца невычэрпнае энергіі!

Сенсацыя абляцела вячорныя вуліцы Берліна.

У кафэ, у трамваях, на панелях людзі вырывалі .ў газетнікаў газеты. Шмат хто ўпершыню чуў пра атамную энергію, але ўсе адчувалі надзвычайную сенсацыйнасць паведамлення.

На вуліцах, у рэстаранах, у аўто ішлі палкія гутаркі.

— Вы ведаеце?

— Гэта мае надзвычайнае значэнне!

— Праблема апалу вырашана...

— Рост тэхнікі.

Людзі спыняліся на вуліцах і гаварылі:

— Вы чыталі? Апарат мае пакуль што толькі разбуральную сілу.

— Гэта небяспечна... У выпадку вайны...

— Глупства! Гэта толькі пачатак... Цяпер...

— Хто гэты Фуказава?

— Адкуль ён узяўся?

Два маладыя афіцэры ў новых формах, праходзячы, узбуджана гутарылі:

— Гэта японскія хітрыкі. Яны б захавалі гэту страшную зброю...

— Глупства!.. Небяспека вайны адамрэ... Гэта ж невычэрпныя запасы энергіі...

Па берлінскіх вуліцах бегалі газетнікі. Гаварылі, што ўвесь тыраж быў распрададзены, што друкаваўся новы і што выдаўца газеты вельмі нажыўся на гэтым выпуску.

Імя рэпарцёра Паўля Крумера было на вуснах у кожнага.

Сенсацыйнае паведамленне прафесара Стронга выбухам бомбы ўразіла залю Вышэйшае тэхнічнае школы. Спачатку стаяла мёртвая цішыня. Усе прафесарскія галовы былі ў замяшанні павернуты да катэдры, да якое прыхіліўся прафесар Стронг, выціраючы хусткай лоб. Да прафесара падышоў яго асістэнт Карль Клем, з якім ён рэдка калі разлучаўся, і, далікатна нахіліўшыся, нешта прашаптаў Стронгу. Тады той падняўся і, абапершыся на катэдру, узмахнуў газетаю, якая хавала гэткую сенсацыю.

— Панове! — усё яшчэ хвалюючыся, пачаў ён. — Тут, — прафесар яшчэ раз узмахнуў газетаю, — каротка паведамляецца аб адкрыцці спосабу вызвалення нутрыатамнае энергіі. Навуковыя факты і абгрунтаванні, пададзеныя ў газеце, не пакідаюць ніякага сумнення. Геніяльны вынаходца падышоў да гэтае праблемы зусім з нечаканага пункту погляду, пра які мала хто з нас думаў, і мне хочацца верыць, што атамны апарат сапраўды існуе. Панове, вітаю вас і ўсё чалавецтва з найвялікшым у свеце адкрыццём!

Якраз у гэты момант служкі ўнеслі пачкі газет. Незвычайны шум змяшаўся з шэлестам газетных аркушаў і напоўніў да краю залю.

— Хлусня! Газетная выдумка! — чулася з аднаго кутка.

— Не мыслю... калі ўдумацца ў гэтыя абгрунтаванні...

— Я не магу гэтаму паверыць! — крычаў у другім кутку залі нейкі маленькі чарнявы чалавек.

— А тым часам... — адказвалі яму, — тым часам — перад намі апарат... Вырашэнне праблемы надзвычай арыгінальнае. Гэта — навуковы факт...

Каля катэдры, навакол прафесара Стронга, збіліся сівыя кіраўнікі таварыства і, хвалюючыся, перачытвалі газету.

— Вы думаеце, гер Стронг, што гэта праўда? — запытаўся сівы, з вялізнаю барадою сакратар праўлення.

— Я ўпэўнены ў гэтым! — адказаў той.

Бязвусы асістэнт Стронга кінуў на сакратара абураны позірк. Як гэты чалавек адважваецца сумнявацца ў тым, у чым перако-

наны яго прафесар? Асістэнт нервова прыціскаў газету да грудзей. На газетным аркушы чарнела вялікімі літарамі незвычайная сенсацыя:

«Найвялікшы здабытак чалавечае думкі! Атамная энергія вызвалена! Вынаходка атамнага апарата. Атамір мае незвычайную разбуральную моц! Інтэрв'ю нашага карэспандэнта з геніяльным вынаходцам».

Далей ішлі дробныя ўсхвалёваныя радкі:

«Наша газета мае гонар першаю паведаміць пра найвялікшае з адкрыццяў, якое калі-небудзь было на нашай старой планеце.

Учора з Японіі ў Берлін прыехаў славуты такійскі прафесар Фуказава Токудзо, які вынайшаў атамны апарат.

Фуказава Токудзо ўсё жыццё працаваў над праблемаю вызвалення энергіі, што заключана ў атамах, гэтых маленькіх цаглінках, з якіх складзена ўсё жыццё, што існуе на свеце. Яшчэ мала каму вядома, што атамы хаваюць у сабе невычэрпныя крыніцы магутнае энергіі, вызваленне якое азначае поўны пераварот у сусветнай тэхніцы, азначае новую эру чалавецтва. Мы дазволім сабе падаць некаторыя параўнанні, якія пакажуць нашым чытачам усю веліч гэтае вынаходкі. Спальванне аднае тоны лепшага вугалю ў чыстым тлёне дае каля $5 \cdot 10^{16}$ эргаў энергіі, а знішчэнне (атамны распад) аднае тоны вугалю дае $9 \cdot 10^{26}$ эргаў. У 18 000 мільёнаў разоў больш! Пры звычайным спальванні вугалю мы знімаем толькі «пенку» з заключанае ў ім энергіі. Рэшта застаецца нескарыстанаю ў выглядзе дыму, шлакаў, цеплыні. Пры знішчэнні ж (атамным распадзе) матэрыі вугалю нічога не застаецца — ні дыму, ні цеплыні, ні шлакаў. Калі б мы ўмелі вызваляць цалкам усю энергію матэрыі, дык 400 грам вугалю з лішкам хапіла б для таго, каб рухаць на працягу чатырнаццаці дзён усе фабрыкі і заводы, паравозы, параходы, сілавыя ўстаноўкі цэлае дзяржавы.

Можаце ўявіць сабе ўсю важнасць адкрыцця спосабу вызвалення атамнае энергіі!

Вялікі Фуказава Токудзо вынайшаў гэты спосаб!

Геніяльны Фуказава Токудзо пабудаваў асаблівы атамны апарат, над якім ён працаваў усё сваё жыццё. Атамір Фуказава Токудзо мае надзвычайна разбуральную моц. Наконт гэтага японскі вучоны гаварыў, аднак, вельмі асцярожна і туманна.

У інтэрв'ю з нашым карэспандэнтам Фуказава Токудзо меў ласку паведаміць, што пры развязку гэтае праблемы ён пайшоў па шляху не прымусовага распаду атамаў, а сінтэзу элементаў.

Гэта зусім новы навуковы пункт погляду.

Потым геніяльны вынаходца падаў нашай газеце асноўныя ідэі і навуковыя абгрунтаванні свайго адкрыцця, загадзя напісаныя яго старою рукою на простым кавалачку паперы. Мы асобна падаем іх унізе.

Самы спосаб сінтэзу элементаў — ключ свае вынаходкі, Фуказава Токудзо пакуль што трымае ў сакрэце. У гутарцы з нашым карэспандэнтам японскі вучоны быў ласкавы заўважыць, што атамір мае пакуль што толькі разбуральную моц, і таму ён баіцца аддаць сучаснаму чалавецтву яго сакрэт. Але ў асноўным праблема атамнае энергіі развязана, і ён неўзабаве спадзяецца знайсці спосаб ужытку гэтае энергіі на мірныя мэты. Тады Фуказава Токудзо зараз жа абвесціць пра гэта чалавецтву.

Колькі слоў пра самога Фуказава Токудзо.

Японскі вучоны прыняў нашага карэспандэнта ў простым пакоі гасцініцы «Парыж». Ён быў апрануты ў квяцістае кімано, якое дужа пасуе да яго. Гасцінна прапанаваўшы праз перакладчыка сесці, вучоны пачаставаў госця моцнаю японскаю сакэ, пасля чаго пачаў гутарку. Ён расказаў шмат эпізодаў з свайго жыцця і працы. Фуказава Токудзо паходзіць з старога славутага роду японскіх князёў. Змалку навука вабіла яго, і ён праз яе пакінуў усё, чым жыў раней. Паводле палітычных поглядаў Фуказава Токудзо з'яўляецца староннікам манархічнага ладу. Пра камуністаў вучоны гаворыць з нянавісцю, але палітыцы ён наогул аддае мала ўвагі. Навука дарэшты запоўніла яго геніяльны розум.

Самае цікавае ў Фуказава Токудзо — гэта яго вочы. Яны заўсёды непакойна бегаюць і дапытліва ўзіраюцца ў кожнага, нібы шукаючы развязкі вялікіх праблем, што стаяць перад вучоным. Рухі Фуказава Токудзо вызначаюцца нервовасцю, парывістасцю, якая час ад часу прарываецца праз яго будыйскі велічны спакой. Здаецца, ён парываецца ўцячы ад мітусні Еўропы да ўрачыстае цішыні навуковага кабінета.

У Берліне Фуказава Токудзо прабудзе да канца месяца, каб потым працягваць свой падарож па Еўропе. З вучоным заўсёды ездзіць яго слуга ангелец Джэк — прыклад пачцівасці і сумленнае адданасці свайму вялікаму гаспадару.

Развітваючыся, Фуказава Токудзо падаў матэрыялы для нашае газеты і сказаў:

— Тут выкладзены асноўныя ідэі мае працы, кароткія навуковыя абгрунтаванні вынаходкі. Хай ваша газета выдрукуе іх разам з інтэрв'ю. Буду вельмі рады паведаміць вашу газету пер-

шай пра канчатковы развязак праблемы мірнага скарыстання нутрыатамнае энергіі.

Пасля гэтага Фуказава Токудзо стомлена апусціўся на крэсла, і яго слуга пачціва праводзіў нашага карэспандэнта да дзвярэй».

На гэтым карэспандэнцыя канчалася. У газеце былі змешчаны тры здымкі. На адным, поруч з нейкаю дзіўнаю прыладаю, непадобнаю ні на адну з сучасных машын, быў зняты кашчавы маленькі чалавечак з рэдзенькаю мангольскаю бародкаю і акулярамі на шчылінках-вачох. Адна рука старога ляжала на дзіўнай прыладзе, а другая была засунута за столку японскага кімано. Пад здымкам ішоў подпіс: «Фуказава Токудзо каля свайго атаміра».

Другі здымак уяўляў сабою Джэка, слугу вучонага. Дужы дзяцюк, па-напалеонаўску скрыжаваўшы рукі, глядзеў шырокім тварам з газетнага аркуша. Надзвычай скептычная ўсмешка расцягвала яго вусны. Здавалася, што ён смяецца з усяе Еўропы, якая была нічым супроць вялікага гаспадара.

На трэцім здымку вучоны стаяў поруч з танклявым карэспандэнтам і артыстычным жэстам паказваў яму на свой атамір. Зграбны карэспандэнт нешта чыркаў у блакноце.

Асістэнт прафесара Стронга ўздыхнуў і паклаў на стол газету. Ён думаў пра гэтага дзіўнага Фуказава Токудзо, у атамір якога ён шчыра паверыў. І яму здавалася, што са з’яўленнем геніяльнае вынаходкі ўсё на зямлі зменіцца, усё набудзе зусім іншыя формы, прадыктаваныя поступам новае энергіі. У яго ўяўленні паўставалі сотні тысяч заводаў, фабрык, што ў шалёных тэмпах рухалі пасы, колы, выкідвалі ў свет груды тавараў, якія амаль нічога не каштавалі. Вялізныя гарады жылі буйным жыццём шчаслівых вялікіх людзей, вызваленых гэтаю вялікаю невычэрпнаю энергіяй ад працы. Па матэрыках імчаліся маланкамі змяістыя цягнікі. Вялізныя вагоны-аэрапланы прарэзвалі паветра. І маленькія атамы вугалю кожнага кавалка матэрыі ўлівалі ў жылы планеты ўсё новыя струмкі жыцця, штурхалі яе людзей усё далей наперад сваёю невычэрпнаю сілаю.

І чалавецтва ўзрастала. У вачох асістэнта ўзнімаліся новыя гарады палацаў, паркаў і садоў. Гула зямля ад руху незлічоных машын, матораў, якія рухала энергія маленькіх атамаў, нарэшце вызваленых чалавекам. Чорныя шахты ўрэзваліся ў глыб зямлі. Грандыёзныя тунелі прарэзвалі горныя хрыбты. Чалавецтва нястрыманаю лаваю перакочвалася па земнай кулі ў вечным імкненні наперад да новых заваёў.

І зямля ўжо не здавальняла яго... Вочы людзей звернуты ўжо на далёкія зоркі-планеты. Дзіўныя апараты пад штуршкамі атамнае энергіі імчацца ў эфірныя прасторы, пранізваюць метэорныя стромы, падаюць на пустэльні далёкіх планет. І там чалавек падначальвае сабе новыя стыхіі, дыктуе свае ўласныя законы, сваю волю.

Асістэнт апусціўся на крэсла. Дзіўныя атамы! Крыніца невычэрпных размоў са старым прафесарам Стронгам, якога ён так паважаў, як найвялікшага у свеце. Стары прафесар быў упэўнены, што чалавек нарэшце вызваліць энергію, закладзеную ў атамах, і тады надыдзе новая эра чалавецтва.

Пасля марудных доўгіх заняткаў прафесар часам клікаў асістэнта ў свой кабінет і там, курачы сігару, марыў разам з ім пра той час.

— Ніякія грамадскія зрухі, — казаў прафесар Стронг, — не зробяць таго, што дасць гэты магутны поступ зноў народжанае тэхнікі, велічнае хады навукі. У вокамгненне знікнуць прамысловыя крызісы, адамруць жудасныя войны, што ўзрушалі адвеку старую зямлю, і над чалавецтвам паўстане адзінае сонца, сонца чыстае навукі.

Светлыя асістэнтавы вочы летуценна глядзелі праз залю. Ён і не заўважыў, як шум у залі сціх, людзі ўсталі і пачалі разыходзіцца.

Прафесар Стронг мякка крануў яго старою рукою і сказаў:

— Ну, Кароль, хадзем!

Сход навуковага таварыства ўхваліў паслаць да японскага вучонага дэлегацыю, каб дакладна даведацца аб яго адкрыцці і папрасіць Фуказава Токудзо зрабіць даклад пра сваю незвычайную вынаходку. Прафесар Стронг запрашаў паехаць разам з ім і асістэнта.

Узрушаны Карль Клем узняўся і моцна сціснуў руку прафесара.

— Я хачу верыць у гэтага Фуказава Токудзо! — усхвалёвана сказаў ён прафесару. — Я перакананы ў тым, што ён сапраўды развязаў гэту праблему. Мне хочацца пабачыць яго.

— Цішэй, сынку! Не гэтак горача! — з усмешкаю адказаў Стронг.

Ён ужо апранаў каля выхада паліто, а твар яго быў гэткі ж узрушаны і ўсхвалёваны, як і ў яго асістэнта.

## IX

Хуткае аўто імчала па берлінскіх вуліцах, адлюстроўваючы-

ся ў гладкім асфальце.

Каля маладога чалавека, апранутага па-еўрапейску, з усходняй нерухомасцю Буды паважна сядзеў чалавек з японскім тварам. Вялізныя рагавыя акуляры сядзелі на носе гэтага чалавека, чорны капялюш кідаў цень на сіваватую рэдзенькую бародку, што тырчэла пэндзлем на падбароддзі. Яркае кімано цвіло на пахмурых берлінскіх вуліцах нейкаю экзатычнаю кветкаю і нагадвала здзіўленым берлінцам маленькія выспы Ніпона, японскае сонца, белую вяршыню Фудзіямы, далёкія краіны Усходу.

За незвычайным чужаземцам сядзеў дужы дзяцюк. Ён быў больш звычайны, але і ў ім было штось такое, што прыцягвала ўвагу.

На твары дзецюка была напісана вялікая павага і пашана да чужаземца. Ён ветла нахіляўся да яго і далікатна яму ўсміхаўся.

Асістэнт Карль моўчкі сядзеў каля прафесара Стронга і абыякава сачыў, як насустрач аўто беглі ўсхвалёваныя вуліцы, міналіся шматпавярховыя дамы. Сівы сакратар праўлення таксама маўчаў, пахмура седзячы на заднім сядзенні.

Услед беглі яшчэ два аўто з прадстаўнікамі навуковага таварыства па вынаходжанні новых крыніц энергіі, і зычныя гудкі палохалі людзей, што перабягалі праз вуліцу.

— Як вы думаеце, прафесар, — сказаў пасля доўгага маўчання асістэнт, — ці прадэманструе нам Фуказава Токудзо свой апарат?

— Не ведаю, сынку! — адказаў прафесар Стронг і зноў замоўк, нешта абмяркоўваючы ў думках і нервова пагладжваючы сівую бародку.

Пахмуры сакратар праўлення кашлянуў і прахрыпеў:

— Мне здаецца, панове, што гэты Фуказава Токудзо прыехаў сюды спецыяльна, каб прадаць сваю вынаходку нямецкаму ўраду.

Летуценны асістэнт пачырванеў ад абурэння і з крыўдаю ў голасе сказаў:

— Ну вы ўжо скажаце!.. Гэта вялікі чалавек навукі, і ён не захоча, бясспрэчна, нажывацца на сваёй вынаходцы. Апрача таго, ён жа сам не хоча покуль выдаваць сакрэту атаміра, каб не даць у рукі чалавецтву гэткае страшнае зброі. Не, я не паверу ў гэта.

— Чаго б ён у такім выпадку прыехаў сюды? — прабурчэў сакратар.

Асістэнт на хвіліну задумаўся, а потым горача сказаў:

— Вы ж чыталі, што Фуказава Токудзо знатнага паходжання. Можа, ён з палітычных меркаванняў пакінуў радзіму. Можа, ён у навуковым Берліне хоча да канца давесці сваё адкрыццё.

Малады асістэнт усё больш захапляўся. Ён незнарок ухапіўся за руку прафесара Стронга і горача сказаў:

— Можа, ён згадзіцца на нашы прапановы і будзе працаваць далей з нашымі вучонымі аж да поўнага развязку праблемы.

Асістэнт захліпнуўся ад хвалявання.

Прафесар Стронг мякка ўсміхаўся.

— Не гэтак горача, дарагі мой! — з усмешкаю сказаў ён.

Прафесар нецярпліва паглядаў на гадзіннік і відавочна хваляваўся.

Усё беглі насустрач пахмурыя вуліцы. Народ ішоў па панелях, перабягаў вуліцы, гэткі ж заклапочаны і сумятлівы, як заўжды.

«Яны яшчэ не ведаюць нічога, — шаптаў сам сабе асістэнт. — Яны яшчэ не ведаюць, што жывуць напярэдадні вялікага зруху».

І асістэнт уяўляў, як гэта звычайнае шэрае жыццё горада пачне рухаць дзіўная ўсемагутная энергія, змятаючы, адкідаючы, як недарэчнае, усё цяжкае, ганебнае для чалавека.

«Чалавецтва вырасце на цэлую галаву», — успамінаў ён Стронгавы словы, і яму здавалася, што ўжо ідуць гэтыя вялікія людзі велічна-магутнае навукі. Іхнія твары дыхаюць розумам, яны ўпэўнены ў саміх сабе, і цяжкія штодзённыя клопаты ўжо не трывожаць іх.

Штуршок аўто вывеў асістэнта Карля з задумы. Гэтак жа беглі стракатыя вуліцы. Аўто праляцела праз мост на мутнай Шпрэе і бегла далей па наглянцованым асфальце. Прафесар Стронг у задум'і курыў сігару, а ззаду сівы сакратар аблакаціўся на спінку і так застыў.

Асістэнтавы думкі пабеглі ізноў роўна і імкненна.

«Калі б жыў бацька! — усплыло раптам асістэнту. — Ён жа таксама шмат працаваў над праблемаю нутрыатамнае энергіі. Дзе дзявалася яго праца? Чаго ён дамогся? Праклятая вайна! Чаму гэтая атамная энергія не прыйшла тады, у 1914 годзе, і не ператварыла вайны ў смешны фарс?»

І раптам перад асістэнтам усплыў ізноў балючы малюнак, створаны ягонай фантазіяй, памстлівымі думкамі, абуранымі недарэчнаю бацькаваю смерцю.

Расійскі фронт. Недзе каля бацькавага маёнтачка выбухаюць стрэлы. Сунуцца азвярэлыя расійцы. Яны барадатыя, у шэрых

шынялёх, і ўсе чамусьці падобныя на гэтага савецкага інжынера Богуша. Вось яны ўрываюцца ў ціхі кабінецік Бернгарта Клема, цягнуць яго. Ён нямецкі шпіён. Па падлозе раскіданы паперы. Там — вынікі шматгадовае бацькавае працы. Заліваецца агнём кабінет.

...Каля сценкі — схіленая постаць Бернгарта Клема з валасамі сівымі і даўгімі. А насупраць — шэрыя шынялі, вінтоўкі, накіраваныя яму ў грудзі. І нейкі барадаты (як ён падобен на гэтага інжынера Богуша!), не спяшаючыся, аддае каманду: «Р-раз!..»

— О-о-о!.. — вырвалася супроць волі з асістэнтавых вуснаў.

Пахмуры сакратар праўлення спалохана зірнуў на Карля, а прафесар Стронг устрывожана ўзяў асістэнта за руку.

— Што, з вамі, Карль?

Але асістэнт ужо зноў глядзеў на шпаркія вуліцы, што беглі за аўто, і спакойна сказаў Стронгу:

— Так, прафесар... Нервы. Вы не зважайце.

Прафесар Стронг дапытліва глядзеў у твар свайму асістэнту і нібы пра сябе гаварыў:

— Вам патрэбен адпачынак, Кароль. Вы стаміліся, я бачу. Вы апошні час замнога займаецеся. Я раю вам узяць водпуск.

Асістэнт нічога не адказаў, і прафесар Стронг пачаў ласкава гутарыць з ім:

— Вы ведаеце, Кароль, што я заўсёды цікавіўся вашым лёсам. Ваша ўпартая праца над атамнаю тэорыяй прыцягнула мае сімпатыі да нас. Вы хочаце працягваць справу вашага нябожчыка-бацькі...

Прафесар задумаўся на хвіліну, потым пачаў распытваць у асістэнта пра універсітэцкія заняткі, таварышаў:

— Як маецца чарнявая Элен! — хітранька, нібы між іншым, запытаў ён і з усмешкаю заўважыў, як чырвоная фарба заліла асістэнтаў твар.

Клемава аднакурсніца Элен — яго стары раман. Ён цягнецца з леташняга года. Але апошні час справа з ёю чамусьці не ладзілася. Асістэнту Карлю здавалася, што яна пачала аддаляцца ад яго. І гэта страшэнна мучыла асістэнта.

— Яна дужа многа працуе цяпер, — прамармытаў ён. — Я рэдка з ёю бачуся. — І з захаваным нездавальненнем дадаў: — Яна цяпер працуе разам з гер Богушам. Вы ведаеце яго? Савецкі падданы...

— Богуш? Гер Богуш? — у задуме адазваўся прафесар. — Здольны малады чалавек, вельмі здольны... надзвычай упарты і

здольны чалавек. Шмат абяцае ў будучым.

— Праўда? — з усмешкаю прагаварыў Карль. — Ён камуніст, прафесар!

— Камуніст? — перапытаў стары. — Камуніст? — і раўнадушна дадаў: — Ну дык што ж? А вы адкуль гэта ведаеце?

— Я ўпэўнены ў тым! — пераконана сказаў асістэнт.

— Ну што ж? — ізноў раўнадушна паўтарыў прафесар і зусім ужо спакойна сказаў: — Вы ведаеце, Карль, што я ад палітыкі стаю вельмі далёка, нават больш таго — я не цікаўлюся ёю.

Карль замоўк і запаліў папяросу.

Вуліцы пацішэлі. Самі дамы зрабіліся меншымі — цэнтр быў ужо далёка, і народ ішоў па вуліцы рэдкімі кучкамі без усякага спяшання і мітусні.

За высокімі каштанамі паказаўся шэры дом, і стракатая шыльда пракрычэла яркім скляпеннем літараў: «Гатэль «Парыж». Аўто спыніліся, і дэлегацыя пачала вылазіць з аўто.

Узыходзілі па шырокіх сходках гасцініцы шумна. Ускудлачаны прафесар гер Штампф нават жартаваў:

— Ну вось мы і пабачым зараз гэтага японскага генія.

Але ўбачыць японскага вучонага дэлегацыі не ўдалося. Клем потым з прыкрасцю ўспамінаў пра гэта, а прафесар Стронг узрушана гладзіў бараду і паўтараў:

— Не разумею!.. Проста не разумею!

Справа ў тым, што на званкі ў пакой, заняты Фуказава Токудзо, пасля доўгага, проста непрыстойнага, чакання, выйшаў нейкі дужы дзяцюк з вялізнымі чырвонымі рукамі і, крытычна змераўшы позіркам дэлегацыю, коратка сказаў:

— Фуказава Токудзо цяпер нікога не прымае. Ён дужа хворы і просіць прабачыць наведвальнікаў.

Дэлегацыя перакінулася збянтэжанымі позіркамі, а ўсхвалёваны асістэнт зрабіў спробу загаварыць з дзецюком:

— Але ж паслухайце, паважаны. Гэта дэлегацыя Берлінскага навуковага таварыства. Я мыслю, што шаноўны Фуказава...

— Не прымае, кажу вам! — даволі груба паўтарыў дзяцюк і ўзяўся за клямку дзвярэй. Потым ізноў павярнуўся да гасцей і мякчэй дадаў:

— Ён хворы, дужа хворы і ляжыць у ложку...

І зачыніў дзверы.

— Што ж, хворы — значыць, хворы... — ненатуральным голасам сказаў прафесар Стронг. І разгублена пачухаў пераносіцу. — Пойдзем, калегі!..

Збянтэжаная дэлегацыя рушыла ўніз па сходках у поўным

неразуменні таго, што адбылося.

Праз хвіліну аўто зрушылі з месца і плаўна пакацілі па вуліцы ад негасціннага гатэля «Парыж».

# ФРАНТАВЫЯ АПАВЯДАННІ

## ШТРАФ

Яго мяккі нос-бульбіна гаварыў аб добразычлівым характары, густая сівізна ў вусах — аб узросце чалавека, самі вусы, натапыраныя і жорсткія, — аб вядомай цвёрдасці, а сіняя міліцэйская форма — аб няўхільным усведамленні абавязку. Але па яго нябесна-блакітных вачах было відаць, што гэта самы летуценны міліцыянер у горадзе.

Ён зрабіў апошнюю глыбокую зацяжку — да адказу, так што агонь, падабраўшыся да вуснаў, затрашчаў у срэбры вусоў, і абурана выплюнуў цыгарку. Падышоў трамвай, густа абвешаны людзьмі, і на прыпынку пачалося тое, што ён звычайна называў «базар». Ішоў штурм уваходнай пляцоўкі. Трашчалі пінжакі і насоўваліся галаўныя ўборы. Хтосьці, вельмі малады і вельмі энергічны, парушаючы правілы пасадкі ў трамвай, прабіваўся локцямі супраць цячэння. Вось ён нарэшце вываліўся з гушчыні цел і з палёгкай уздыхнуў.

— Таварыш! Плаціце штраф. — Голас міліцыянера быў сумны і непрыемны. Тут толькі ён заўважыў за плячыма парушальніка дзяўчыну, сінявокую і бялявую. Яна яшчэ трымалася за локаць спадарожніка.

— Калі ласка, таварыш! Дзе тут ЗАГС? — спытала яна, усё яшчэ прыціскаючыся да спадарожніка.

Трамвай пайшоў, і яны стаялі на плошчы ўтраіх: міліцыянер, ён і яна. Іх залівала незвычайна вясёлае майскае сонца, і людзі, праходзячы міма ў невядомасць, добразычліва ўсміхаліся ім.

Ён таксама ўсміхнуўся ім, гледзячы праз іх галовы на сіняе неба з малочнымі воблакамі. Усё было светлае і сіняе — неба, яе вочы, яго вочы і яго міліцэйская форма.

— ЗАГС? Хвіліначку! — Голас яго быў мяккі і прыемны, як сонца. Ён гартаў адрасную кніжку, пазіраючы на пару. Яна была задумлівая, крыху сумная. («Напэўна, яму хутка на фронт», — падумаў міліцыянер.) Ён быў зусім спакойны і меў выгляд чала-

века, які прыняў цвёрдае і канчатковае рашэнне. («Напэўна, нядаўна раптам сустрэліся і ён вырашыў аформіцца перад ад’ездам», — думаў міліцыянер.) Яму ўявілася, што вось гэты сімпатычны хлопец (ліха з ім, не буду штрафаваць) заўтра, а можа быць, сёння вечарам ад’язджае. Дзяўчына з блакітнымі вачыма яго праводзіць. «Чакай мяне!» — гаворыць ён ёй словамі верша, і дзяўчына з вільготнымі вачыма вільготным голасам адказвае: «Буду».

— Вуліца Дабралюбава, дваццаць, таварыш!

Ён старанна казырнуў ім і, усміхаючыся як мага святлей, дадаў: «Жадаю доўгага шчасця і кахання».

Ён хацеў дадаць яшчэ што-небудзь — сонечнае, добразычлівае, жартаўлівае, але куточкі вуснаў у дзяўчыны засмучана ўздрыгнулі і вочы яе сталі вільготныя.

— Вы памыліліся, таварыш, — нявесела ўсміхнуўшыся, сказаў яе спадарожнік. — Мы ідзём разводзіцца. — І ён дакрануўся да шапкі, збіраючыся пайсці.

Цень набегла на плошчу і на нябесныя вочы міліцыянера. Ён глядзеў на засмучаны твар дзяўчыны і яе сум.

— А цяпер, грамадзянін, плаціце штраф. За выхад праз пасадачную пляцоўку.

Голас яго быў сумны і непрыемны.

## КАРЫКАТУРА

Фатограф марна настойваў на іншай позе і асабліва на тым, каб яна прыапусціла каўнер — цудоўны пушысты каўнер, у якім зусім патанаў яе твар.

— Вашаму мужу на фронце больш важна будзе бачыць ваш твар, а не каўнер, — буркліва сказаў ён, звяртаючыся больш да ўяўляемага мужа. Па змоўніцкім позірку, які яна кінула пры гэтым на лейтэнанта, фатограф зразумеў, што яны яшчэ не муж і жонка.

— Здыміце, як яна хоча, — коратка сказаў лейтэнант, і фатограф скарыўся.

Ён нават згадзіўся зрабіць картачкі значка раней звычайнага тэрміну. Лейтэнант атрымаў іх праз некалькі дзён, і фатограф, крытычна разглядаючы іх, сказаў:

— Картачкі, вядома, я зрабіў добрыя, але, ведаеце, таварыш, атрымалася неяк... трывіяльна.

Лейтэнант прыйшоў дадому надта не ў гуморы. Яго таварыш — мастак — сядзеў за сталом і маляваў.

— Прывітанне закаханым! — кінуў ён цераз плячо і прыкрыў малюнкі газетай. — Была тут, чакала цябе з картачкамі. Прынёс? Пакажы.

— Не, — сказаў лейтэнант, і ад таго, што ён схлусіў без патрэбы, расстроіўся канчаткова. Ён прылёг на канапу... і замоўк.

— Ну, ці хутка жэніцеся? — пытаў, малюючы, мастак. — Спяшайся, спяшайся, душа мая, бо хутка паедзем. Дадатковы адпачынак на наладжванне сямейных спраў не спадзяешся атрымаць?

— Адчапіся!

— А ведаеш, — не сумеўся мастак, у яе цудоўны карыкатурны твар. Не-не, супакойся — яна прыгожая, але рысы яе твару дазваляюць рабіць удалыя шаржы. Ды, між іншым, вось глядзі. Я тут крыху маляваў яе.

Пад газетай было каля дзесятка надзіва падобных накідаў дзяўчыны. Усюды яна была ў адной позе, і малюнкі здаваліся на першы погляд копіямі аднаго накіду. Але чым пільней углядаўся лейтэнант, тым больш ясна ён бачыў, што кожны малюнак схопліваў і ўскрываў усё новыя рысачкі аблічча дзяўчыны — з той жа паслядоўнасцю, як кожны новы дзень іх знаёмства. Некаторыя рысы паўтараліся і падкрэсліваліся так бязлітасна рэзка, што малюнак станавіўся шаржам.

— Ну, як?! — спытаў мастак.

— Ты распрануў яе ўсю, — з запінкай сказаў лейтэнант. — Душу яе распрануў...

— Ага! — задаволена ўсклікнуў мастак. — Але ведаеш, апошні і завяршаючы накід ніяк не выходзіць. Нечага не мог схапіць. Вось, глядзі.

Гэта была адкрытая карыкатура. Але лейтэнант нікольki не пакрыўдзіўся. Ён дастаў картачкі. Мастак востра зірнуў у іх і зарагатаў.

— Каўнер! Ха-ха! Вось яно — гэтае самае!

Некалькімі штрыхамі ён закончыў апошні малюнак. Лейтэнант закусіў вусны, зірнуўшы на яго. Потым моўчкі лёг на канапу і адвярнуўся да сцяны. Мастак выйшаў.

Яго падняў стук у дзверы — прыйшла яна.

— Прынёс картачкі? — спытала яна, ахарошваючыся перад люстэркам. — Ведаеш, мяне тут маляваў твой таварыш. Ён цудоўна малюе. Ты чаму такі расстроены? Што-небудзь здарылася? Што табе сказалі наконт водпуска? Даюць?

— Не, — лейтэнант рашуча падняўся і сеў: — Заўтра я еду на фронт.

Ён спакойна і цвёрда глядзеў ёй у твар. І па яго позірку яна зразумела, што яны ніколі, ніколі не стануць мужам і жонкай.

# ЛІСТЫ

Письмо посылаю через волю.

*1 февраля 1941 г.*

Дорогая Лена и Нина!

Обращаюсь к нам двоим потому, что надеюсь, что ты, Лена, перешлешь это письмо Нине.

Во-первых, сообщаю, что вашу хотя небольшую, но дорогую для меня посылку я получил еще 20/1, т. е. ровно через 11 дней после отправки ее. К сожалению, я не смог сразу ответить на твое, Лена, письмо, полученное мной 27/1, так как был сильно болен. Так как это письмо тебя дома не может достать, то шлю его на Псков, а папе пишу отдельно.

Посылка ваша пришла в полном порядке: сало не испортилось и не могло испортиться зимой, сахар тоже — не пахнет табаком и не смешался с ним. Табак тоже пришел в порядке. Также конфеты.

В общем, всё в порядке и вам обеим — большущее спасибо!!!

Отвечу первым долгом на твои, Лена, вопросы. От тебя я получил на сегодня два письма: первое с фотографией и второе — после посылки.

Поговорить со мной по телефону нельзя. Во-первых, это обойдется очень дорого, а во-вторых, — не разрешат. Так что придется эту фантазию оставить. Будем надеяться, что поговорим, когда увидимся, без телефона, — обо всем: о прошлом и о будущей жизни, в которой, я надеюсь, вы обе будете безусловно счастливы. Что касается меня, то тут о счастье речи быть не может, — у меня жизнь испорчена, и навсегда. Ты, Лена, напрасно пишешь, что не может быть, чтобы человек всю жизнь был «несчастным». Как раз у меня так и выходит — ведь молодость у меня разбита и проходит, здоровье отнято, а жизнь без молодости и здоровья для меня не имеет или почти не имеет цены. И Овод, о котором ты, Лена, пишешь, тоже жил и умер глубоко «несчастным» человеком. Но довольно об этом, а то выходит, что я опять жалуюсь на жизнь.

О своей жизни здесь писать не буду — я писал подробно папе и в основном — Нине; вероятно, ты, Лена, от папы всё узнала. Сейчас мое положение точно такое же, — если бы не ваши посылки, не знаю, что из меня получилось бы на сегодня.

Признаюсь, Нина, я уже думал, что ты не хочешь меня знать. Теперь я знаю, что ты училась и что вам было самим не до меня. Прямо не верится, что у тебя с Борисом сын и что ему уже четыре года.

Какое счастье! — ты за эти годы получила хорошее образование и 4-летнего сына. А я! — за это же время потерял здоровье, молодость и нет у меня ни сына, ни надежд на счастье. Какой ужасный контраст! Но я опять начинаю «жаловаться» — довольно!

Очень прошу вас в феврале выслать мне еще посылку, т. к. присланной Леной хватит очень ненадолго, особенно табаку. Что посылать, знаете сами, — я писал раньше. Основное — табак, житы и сахар. Очень хорошо было бы, даже обязательно, — вышлите имеющиеся в продаже таблетки: «мясной бульон, лапшевник» и др., т. е. такие консервированные кубики, из которых, развел их в кипятке, можно получить кашу, бульон, лапшу и прочее. Это стоит недорого и очень удобно для посылки. Обязательно пришлите. Не забудьте также выслать десятокдва спичек — здесь их совсем нет.

Да, напишите также, где Женя и когда он будет дома.

Ну, на этом кончаю. Желаю вам обеим успехов и счастья. Спасибо, что не забываете меня — я этого никогда не забуду.

Крепко целую тебя, Лена, и тебя, Нина.

Жду письма и посылки.

Ваш *Митя.*

Адрес тот же: г. Новосибирск, почт. отд. № 6 почт. ящик № 5/3, мне.

*19 сентября 1944 г.*

Дорогой брат!

Я уезжаю — уезжаю гораздо дальше, чем думал, и на более долгое время. В то время, когда ты получишь это письмо, я, вероятно, буду уже в пути. Многое нужно было бы сказать, но в письме приходится ограничиться только частью. Жаль, что ты уехал.

Во-первых — не беспокойся особенно обо мне, а также и о себе. Всё будет хорошо.

Во-вторых — вопрос о Лене, Шурике и обо всей семье. Откровенно говоря, я боюсь, что ты, увлекшись новой жизнью, живя далеко, забудешь о родных по крови и о том, что ты несешь известные обязанности по отношению к ним — т. е. помогать, пока они не стали на собственные ноги.

Я прошу тебя помнить одно — помощь Лене и Шурику нужна лишь теперь, когда они беспомощны и когда жизнь очень трудна. Если ты думаешь отложить помощь им до более легких времен, то будет поздно, она им не понадобится. Во-вторых, помощь им, пусть будет не такой большой, но она должна быть регулярной, постоянной, а не случайной, время от времени.

Конечно, это не значит, что ты должен отказывать себе для помощи им, — ты много потерял и перестрадал и имеешь право на лучшую жизнь. Но если ты вообще махнешь рукой на свою долю помощи, помни — тебе будет очень стыдно! Это тебе не простится никогда: ни мной, ни другими членами нашей семьи.

Я буду говорить конкретно. Моя доля помощи Лене и Шурику состоит вот в чем. Я устроил Лену в институт, взял ей пропуск (через свое начальство), прописал ее, поселив вместе с Тоней. Вместе с Тоней они будут жить и получать ту помощь, которая положена им за меня. Шурик в этом учебном году будет в деревне. В следующем году он будет взят в Москву и устроен на учебу — если не перерастет, то в суворовскую школу. О выборе места учебы Шурика позаботятся. Денежная и другая помощь Лене, Шурику и Тоне будет невелика, но постоянна. Вот всё, что я смог сделать для своей семьи. Я думаю, что — немало, хоть и недостаточно для сносной жизни. В остальном они ждут помощи от тебя, от Нины и от Али — в первую очередь от тебя.

Дорогой Женя! Если думаешь остаться для меня самым близким и родным — не забывай эту мою и твою семью — Лену, Шурика и Тоню. Не делай это во вред и лишение для себя, но не забывай. Тот факт, что ты, находясь второй месяц в Латвии, не соизволил написать ни одного письма (за исключением записки с требованием выслать подошвы), наводит меня на грустные размышления. Это говорит о нечуткости и недостатке родственного чувства. Не будь писем Жорки и его жены, я ровно ничего не знал бы о тебе и мог бы думать о тебе всё что угодно. К счастью, у тебя, по-видимому, всё в порядке и, судя по словам т. Ушакова, ты живешь неплохо. Рад за тебя.

Итак, Женя, уговоримся, что ты будешь по силе возможнос-

ти регулярно помогать Лене и Шурику. Помощь эта должна выражаться в ежемесячной присылке Лене денег — сколько ты сможешь. Лена же этими деньгами будет делиться с Шуриком, когда он будет находиться здесь. Кроме того, если будешь иметь возможность — помогай одеждой. Лена приехала совершенно голая. Из 2 тысяч от Дронова я получил для Лены только одну. Вторую получить не надеюсь.

Следовательно, туфли покупать не на что. Хорошо, если мне перед отъездом удастся получить что-нибудь из одежды и обуви для них. Если же не получу — Лена останется без туфель.

Пальто из твоего сукна она шьет (еще не заказано, но всё приготовлено для пошивки). Нужно купить подкладку, но она обойдется так дорого, что выгоднее пустить под подкладку твой черный репс, а платье купить готовое.

Дальше. Я очень прошу тебя поставить себе в правило посылать родным (маме и Лене) письма хотя бы раз в месяц. Это очень важно и нужно.

Вот и всё. Больше в письме ничего не стоит писать. Я уезжаю очень расстроенный и обеспокоенный судьбой и жизнью семьи — т. е. Лены, Тони и Шурика, но большего, чем я сделал, я сделать не могу и должен на этом ехать. Надеются на тебя — но и в этом не уверен. В общем, скверно.

До свиданья. Крепко целую и желаю тебе счастья. Береги себя и будь осторожен в жизни. Помни также то, что, если я буду жив, я никогда не оставлю тебя. Не оставляй же и ты родных.

*Митя.*

Подошев высылаю две пары. Одну оставил на всякий случай Лене.

Помни о том, что мы говорили в трамвае в день твоего отъезда.

*29 сентября 1944 г.*

Привет бабушке — Любови Ивановне.

Мои дорогие, Тоня и Лена!

Здесь, (неразб.) Сейчас хмурый день, (неразб.) лужи воды. Вдали, когда проясняется, видны (неразб.). На душе, несмотря на пасмурную погоду, хорошо. Грустно только от разлуки с вами, но ведь это должно было быть, это был мой долг.

Вечером мы вылетаем. Сейчас около 4–5 ч. вечера. Поже-

лайте в душе мне удачи и счастья. Впрочем, когда вы получите это письмо, я буду уже далеко, на месте.

В Москве я передал одному человеку письма мамам (двум), Але и Нине. Он их должен вам принести. Это письмо направляю с летчиком.

Не забудьте в будущем году устроить Шурика. Крепко вас обеих целую, тебя, пчелка, тебя, сестренка! Тонюська, как тебе спалось первую ночь без меня?

Не грусти — впереди счастье.

Весь Ваш *Митя.*

Передайте мой сердечный привет Дм. Ив-чу.

Напомните в первых числах октября ему о дровах.

Еще раз целую тебя, уголек, и тебя, Леночка!

*Митя.*

*7 октября 1944 г.*

Мои дорогие — Тонюська, Леночка!

Вот я уже почти на месте. Через 2–3 часа иду дальше па запад. Пользуюсь случаем написать вам письмецо, которое передаст вам Семен Николаевич. Это письмо придет к вам нескоро, и я в то время буду еще дальше, чем сейчас, но мое сердце всегда с Вами, мои родные.

Чувствую себя прекрасно. Здоровье хорошее. Эти дни жил, как на курорте, и если бы не война и не сознание, что враг кругом и очень близко, было бы еще лучше.

Вокруг меня (неразб.). Склоны поросли елями и буком. Сейчас солнце. Вчера, позавчера тучи цеплялись за наши палатки. Шли дожди.

Тонюська! Родная! Помни, что я надеюсь на тебя, что всю свою жизнь я связываю с тобой и только с тобой. Я вернусь — может быть, нескоро, — но обязательно вернусь к тебе, и ты поверь, что я сумею сделать тебя счастливой. Будь же крепка духом и ты, как я, и жди — крепко, верно жди, как может ждать честная советская женщина. Помни — к тебе придет герой и любящий до смерти муж. В общем, я надеюсь на тебя — не подведи, — мне будет очень больно.

Леночка! Учись и развивайся — вот всё, что от тебя требуется. Будь осторожна и осмотрительна в жизни как девушка. Не забывайте обе вы Шурика. Передайте мой привет Жене, маме в Сергеевке, маме в Хабаровске, Нине, Але и в первую очередь —

Шурику.

Я вместе с этим письмом пишу Дм. Ивановичу, чтобы он обеспечил вам действительную помощь — продуктами, промтоварами, обращайтесь к нему, не стесняясь, — это не нищенство, а помощь, которую вы должны получать по праву.

Смотрите, чтобы в будущем году Шурик был устроен в Москве — Дм. Иванович поможет.

Обязательно зайдите, получив письмо, к Семену Николаевичу. Это — капитан, с которым я вместе летел, — мой начальник. Он очень хороший человек и на словах скажет то, что я не могу вместить в письме.

Сколько интересного расскажу я вам, возвратившись. Сколько переживаний! Например — перелет через линию фронта, парашютный прыжок ночью в горные леса и многое другое.

Мои родные! Вероятно, после этого письма я надолго не буду иметь возможности написать вам. Вы не смущайтесь этим. Дм. Ив-ч будет вам сообщать обо мне всё, что будет известно. И ты, Тоня, как бы долго я ни молчал, помни, что я всегда с тобой и живу надеждой встретиться с тобой.

Ну — время кончать. Сейчас ухожу — пешком, в горы, навстречу опасностям, в огонь борьбы. Я ничуть не боюсь опасностей, презираю врага, люблю вас, мои родные. Ждите!

Ваш *М.*

(Получено 15 марта 1945 г.)

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Аркадзь КУЛЯШОЎ*

## МАНАЛОГ
*Урывак*

*Памяці паэтаў З. Астапенкі і Ю. Таўбіна*

*

Калі і дзе, я ўдакладняць не стану
Таго, што больш не выклікае прэк,
Бесчалавечнасць выпаліла рану
На часе тым, што адышоў навек.

А забыццё, каб сцерці з нешматслоўнай
Зямлі бесчалавечную віну,
Схавала месца смерці безназоўнай
Пад дыванам, сатканым з дзірвану.

І хоць дзірван, што рану ўкрыў старанна,
Стаў палыном на мёртвай глебе той,
Не зарасла зямлі жывая рана,
А зарасла зямля яе травой.

Дзе б я ні быў, дзе б мне ні давялося
Убачыць дол сівы ад палыну,
Пякуча сэрца сціснецца, і лёс я
Загінуўшых без весткі памяну.

*

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасць вам?
Дзе дзверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсці? Якіх пытацца брам?

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

Няма куды сваю жалобу ўскласці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэтым шчасці
У маладосці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславенне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я — ваша памяць, вы — маё сумленне,
Я — дрэўка, вы — трывалы сцяг на ім.

*

Устоіць той, хто варт,
На старт, сябры, на старт!

*Юлі Таўбін*

Быў кожны з вас адважных стартаў варты,
Шкада, што фініш быў не вартым вас.
Па-рознаму адлегласць паміж стартам
І фінішам нам адмярае час.

Адным, хто доўга жыў, зрабіўшы мала, —
Кароткім падарожжам за труной;
Другім, хто шмат зрабіў, пражыўшы мала, —
Адлегласцю ў бяссмерце даўжынёй.

Нядоўгім быў ваш век, як век падзёнак,
Мае сябры!.. Суровы сівер змёў
Са старту вас. Вы — кнігі без старонак,
Лісты без дрэў, дарогі без слядоў.

Нялёгка мне працягам быць тых самых
Няходжаных шляхоў, быць вартым тых
Спраў абарваных, кніг недапісаных,
Якім не ўзняцца з фінішаў сваіх.

*1964–1965 гг.*

*Аляксей ЗАРЫЦКІ*

## ДАЛЁКІЯ МАЛАНКІ

*Змітраку Астапенку, выдатнаму беларускаму паэту і мужнаму афіцэру-дэсантніку, загінуўшаму смерцю харобрых у славацкіх Татрах у канцы 1944 года*

Ужо маладосць
ахінаецца лёгкім замгленнем,
Ды помню сустрэчы з табой
ад апошняй да першай,
Як некалі ў коле сяброў
ты чытаў з захапленнем
Паэта аўстрыйскага Лјнау слынныя вершы.

Пра трох цыганоў-абадранцаў
радкі не забыты,
Як першы на скрыпачцы йграў,
Неўтаймоўны, імклівы.
Другі сваю люльку курыў бесклапотна,
Нібыта
На свеце ён самы багаты і самы шчаслівы.

А трэці цыган,
Той цымбалы павесіў на дрэва
І ў зацені спаў,
ашчаперыўшы голаў рукамі,
І вецер па струнах
праносіўся звонкім павевам,
І сны залатыя
у сэрцы цыганскім блукалі.

Далёка-далёка і стэпам плылі, і лясамі,
Гучалі нязмоўчна жывыя чысцюткія зыкі.
Ці гэта цымбалы ігралі на ветрыку самі,
Ці гэта спявала бяссоннае сэрца музыкі?

Не знаю, не ведаю, дружа...
Ужо, як зарніцы,
Успыхваюць зырка
У далях гадоў успаміны,

І Лјнау томік стаіць у мяне на паліцы,
Бяру і гартаю, і верш твой знаходжу любімы.

Чытаю паволі, а гукі нямецкае мовы
І чэзнуць, і блякнуць,
як тыя асеннія краскі,
І шум спакваля нарастае
дняпроўскай дубровы,
І чую я зноў словы родныя матчынай казкі:

Музыка ссівелы,
Музыка бывалы, удалы,
У нашых краях з ім
спраўлялі вяселлі й радзіны.
У пушчы ён лёг у цяньку прыкархнуць,
А цымбалы
Даверыў галінам разгатай задумнай каліны.

Якія ж цымбалы ў старога!
Сыграць на іх можна
Не толькі ўсе песні
Майго прыдняпроўскага краю, —
Жыццё чалавека,
Са шчасцем ягоным трывожным,
Ад зыбкі да скону
Вам тыя цымбалы сыграюць.

Як спіцца салодка музыку
ў няходжанай нетры,
І сніцца яму:
Ён ізноў і бадзёры, і юны.
А струны цымбальныя
Кратае злёгеньку ветрык,
І ціха яму адгукаюцца чуйныя струны.

Так вёсны і зімы
ў нязменнай чаргуюцца змене,
Не хоча стары развітацца з юнацкімі снамі.
І чуецца часам
у гэнай пушчанскай глухмені,
Як струны пявучыя недзе пазвоньваюць самі.

І казка ўсё гэта,
Тым часам ужо і не казка:

Шукальнікі ж ёсць,
Што пачулі чароўнае йгранне
І ў нашых барах,
На зямлі звонкапесеннай наскай,
Шукаюць цымбалы дзівосныя ўночы і ўранні.

Выразна і я тое йгранне, здараецца, чую
І ў пушчах падоўгу блукаю,
шукальнік няўдалы,
З юнацкіх гадоў верасы лесавыя тапчу я,
Шукаючы ўпарта цудоўныя тыя цымбалы.

А часам так блізка,
А часам так блізка, здаецца,
На струнах уразлівых
Ветрык пралётам іграе,
Што сэрца маё,
Ужо не юнацкае сэрца,
Ад шчасця,
Вялікага шчасця,
На міг замірае.

Не ведаю я —
Ці то струны звіняць?
Ці то, мусіць,
Крыніцы плюскочуць,
Спрабуюць вятры свае крылы?
Ці гэта душа маёй маці,
Маёй Беларусі,
Усё напаўняецца ўладнаю песеннай сілай?

Хвала і святлу, і любові,
І марам, і мроям
У музыцы чуецца гэтай,
У вабным гучанні,
І вечная слава загінуўшым нашым героям,
Якіх мы з бяссмерцем
у нашых радках заручалі.

Калісьці я поруч з табою,
мой дружа-юнача,
Ішоў праз гады на гучанне зазыўнае гэта.

І разам мы трызнілі
песеннай звонкай удачай,
І разам шукалі нялёгкага шчасця паэта.

Я помню дагэтуль усё —
І пахілены домік,
Дзе стрэліся мы
на пачатку жыццёвага маю,
І Лјнау, браце, табою падораны томік,
Як сведчанне дружбы юнацкай
і сёння хаваю.

Не знаю, таварыш,
ці ўрэшце мне выпадзе шчасце
Знайсці самагуды-цымбалы
У пушчы вясновай.
Адно спадзяюся —
Яшчэ паталаніць мне скласці
Жаданую песню,
Сказаць запаветнае слова

Пра наша сяброўства,
Пра нашу матулю-краіну,
Дзе вецер-юнак маладосцю заўжды павявае,
Дзе кожны курган у глыбінях затоіў быліну,
Дзе кожнае сэрца,
Дзе кожнае дрэўца
Спявае.

І, можа, яшчэ маё слова праз горы й даліны
Туды даляціць,
Аж да самай старонкі славацкай,
Дзе спіш ты, мой дружа,
далёка ад любай Айчыны
Ужо колькі вёсен і зім
у магіле салдацкай.

*1972 г.*

*Ян СКРЫГАН*

## РЭКВІЕМ

Змітрок Астапенка кватараваў у Завакзаллі непадалёк ад мяне. Аднаго разу, калі я зайшоў да яго, ён папытаўся:

— Што табе гаворыць такая назва: «Запалім люлькі»?

Некалькі хвілін я падумаў. Я заўсёды любіў чужыя добрыя назвы, гэтая бясспрэчна падабалася мне. У ёй быў малюнак. Мне ўяўляўся адзінокі пакой, вечар, і за маўклівым сталом, не запальваючы святла, сядзяць даўнія сябры. Можа, пасля вялікіх дарог і доўгіх разлук яны сабраліся, каб усё дарагое кожнаму ўспомніць. Мужчынскія ўспаміны, якія праз усе выпрабаванні лёсу праносяць суровую вернасць. І ў тых успамінах абавязкова будзе вобраз жанчыны... Я так і сказаў: вельмі добрая назва.

— На вершы ці на прозу?

— На вершы. А можа, нават і на прозу. На такі суровы марскі раман.

Астапенка хадзіў па пакоі, мне здавалася, нават не вельмі мяне слухаючы. Высокі, сухатвары, узрушаны нейкаю неспакойнаю думкаю.

— Трохі ўгадаў, — сказаў ён. — Пакуль што гэта нізка вершаў, але так я збіраюся назваць усю кнігу. Новую, вядома. Толькі яшчэ не ведаю, куды яна мяне завядзе... Мора, пра якое ты гаворыш, таксама мяне спакушае, якраз мне і трэба мужныя, суровыя людзі.

Невядома, па якой сувязі Астапенка раптам успомніў, як быў на граніцы з Польшчаю. Сваю «Ноч на станцыі Негарэлае».

Ах, не ў гэтым жа справа, што ёсць Беларусь
На усходзе й на захадзе!..
Справа не ў гэтым!
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго невыказна вялікага свету!
І калі уяўляю, што там, за мяжой,
Вісне чорная ночка у колеры сажы,
Мне шкада не адной Беларусі маёй,
А падзелены свет неабсяжны.

— Ты разумееш, аж страшна, — сказаў ён сваім ціхім голасам. — Паласаты слуп, ступіў за яго, і — канец! Адзін толькі крок дзеліць свет папалам...

Нейкі пэўны час, памятаю, я заўважыў, што Астапенка мала дзе

бываў, стаў задуменны, заклапочана-ўзрушаны. Мог сустрэцца твар у твар на вуліцы, але не пазнаць і прайсці міма. Мог радасна паціснуць руку, пачаць вельмі жывую размову і тут жа забыцца на яе, недагаварыць і пабегчы. У мяне ён раптам папытаўся, ці не хачу я пабыць у Германіі. Чаго? Навошта? Якім чынам?

— Ах, гэта я так сабе. Давай пойдзем да мяне, ды я табе пачытаю новыя вершы.

Але вершаў ён не чытаў, а, як толькі зачыніў дзверы, здзівіў новым пытаннем: ці хачу я пабачыць усё, што робіцца ў яго ў доме?

— Не разумею, — паціснуў я плячыма.

— Ну вось так: зараз рассунуцца сцены, і ты ўбачыш усіх жыхароў гэтага дома, можа, каторага нават за не вельмі прыстойным заняткам. Хочаш?

— Нейкая ў цябе сёння буйная фантазія.

— Чаму буйная? Нармальная! Проста ты не ведаеш, што я зрабіў вялікае адкрыццё. Я разгадаў таямніцу жыцця матэрыі, і ў маіх руках цяпер вельмі страшная сіла. Я магу ў любым парадку сінтэзаваць атамы, а значыць, маёй волі няма канца. Магу ўсюды быць, усё знаць, усё бачыць, лёгка разбураць усё тое, што чалавеку на шкоду, і гэтак жа лёгка аднаўляць. Калі яно трэба.

Я паглядзеў на Астапенку з няяснаю трывогаю. Падобных жартаў ад яго я ніколі не чуў, і калі гэта жарт, то дзеля чаго ён? Астапенка хадзіў па пакоі мяккаю, украдліваю хадою, раптам як бы заспяшаўшыся. Твар сухі, рэзка акрэсленыя губы, прамы нос, нешта татарскае ў сківіцах. У чорных, тонка прычэсаных валасах акуратны, цвёрды прабор з правага боку.

— Ну што, паверыў? — суняўся ён перада мною. Вочы цёмнакарыя, вузкія, бадай што да самых зрэнкаў прыкрыты млявымі павекамі. І таму, што яны так прыкрыты, у іх вечна тоіцца нешта як бы не зусім табе даверанае. Папытаўся і дазволіў паявіцца на губах хітраватай, таксама скупой, усмешцы. — Ты як хочаш, а я павінен верыць, бо іначай у мяне нічога не выйдзе. Пішу раман, — паясніў ён. — Першая частка ўжо гатова. Хачу даць назву «Вызваленне сіл», а можа, яшчэ перадумаю... Тайну атама адкрыў не я, а мой герой, і сваім сакрэтам ён хоча знішчыць стары свет. І ўжо колькі часу, як я сам сябе баюся, усё здаецца, што не ён, а я валодаю гэтаю страшнаю тайнаю.

Ён сеў у крэсла і бегла расказаў некалькі эпізодаў. Усе падзеі развіваюцца ў Германіі, дзе на той час пачынаў асталёўвацца фашызм. Мяне, памятаю, дзівілі не сюжэтныя ходы, самыя неймаверныя па страхаце і смеласці, а тое, што герой найдасканалейшым чынам ведаў Берлін. Вуліцы, плошчы, помнікі, службовыя цэнтры, глухія куткі.

Ведаў, як прайсці да іх найкарацейшым спосабам. Ведаў, якім ліфтам і на які наверх падняцца, каб з некім пабачыцца ці заблытаць сляды.

— Чакай, — перапыніў я яго, — горад ты таксама выдумляеш? Бо калі чытацьме немец, то адразу зловіць цябе на падмане.

Зноў па Астапенкавых губах прабегла лёгкая хітраватая ўсмешка.

— Калі б мяне скінулі з неба ўночы ў любым пункце і сказалі, што трэба пайсці ў нейкі другі любы пункт, я зрабіў бы гэта лёгка, ні ў кога не пытаючыся, — сказаў ён. — Берлін я ведаю, як самы прававерны берлінец, ніколі там не бываўшы.

...Трыццаць другі год быў вельмі цяжкі. Бывала, па дарозе дадому, пачынаючы ад Віленскага рынку і да самага вакзала, усю восень я бачыў, як уздоўж тратуараў, уціскаючыся ў цень ад дамоў ці агароджаў, масціліся маўклівыя, зняможаныя людзі, найбольш жанкі, або цэлымі сем’ямі, з дзецьмі, параскладаўшы на доле ўвесь свой скарб: коўдры, ручнікі, падушкі, вышываныя строі, каптуры, сувоі палатна — выбірай што хочаш, толькі дай кавалак хлеба, ці круп, ці збажыны. То быў засушлівы год, асабліва на Украіне. Нялёгка было і ў нас.

Зайшоў неяк тае восені да мяне Астапенка. Мы заседзеліся доўга. Пара было ісці ў горад, каб дзе павячэраць. Але Астапенка сказаў, што атрымаў з дому пасылку, і запрасіў да сябе.

— Я пайду папрашу гаспадыні, каб яна чаго згатавала — бульбы падсмажыла ці яечню спякла. Ну, а да чаю ёсць сала, масла. Так што ты праз паўгадзінкі прыходзь. Роўна праз паўгадзіны, — паўтарыў ён і пайшоў сваёю дробнаю мяккаю хадою.

Праз паўгадзіны я быў у Астапенкі, але дзверы ў яго пакой не адчыніліся. У цёмны калідор выглянула гаспадыня і сказала, што Змітрака дома няма.

— Быў, забягаў толькі што, — паясніла яна.— Палажыў свае кніжкі, паперы і некуды скоранька пабег.

Я пастаяў хвілін колькі каля брамкі і ціха пабрыў у горад. Перайшоў вузкі доўгі масток над чыгуначнымі пуцямі, Прывакзальную плошчу, колішні Віленскі рынак, перароблены ў сквер, з яшчэ маладымі кволымі дрэўцамі. Жоўты свежы пясок на дарожцы перасыпаўся пад нагамі. З вуліцы Карла Маркса павярнуў на Урыцкага і застыў, здзіўлены. На рагу стаяў Астапенка і, выцягнуўшы шыю, паверх людскіх галоў некуды далёка ўзіраўся.

— Змітрок! — гукнуў я.

Ён пудка зірнуў на мяне, шырока здзівіў вочы і схапіўся за галаву.

— Божачка мой, — сказаў ён, — памарока нейкая найшла на

мяне. Гэта ж ты быў у мяне?

— У цябе.

— Ну от жа — як пярун спаліў памяць. Разумееш, мне трэба тут аднаго чалавека сустрэць, — ён вінавата ўсміхнуўся, — успомніў, прыйшоўшы ад цябе. Ну і пабег, і, мабыць, спазніўся...

Ён зноў выцягнуў шыю і заклапочана азірнуў вуліцу. І нават не заўважыў, калі я яго пакінуў.

Потым я бачыўся з Астапенкам пры акалічнасцях іншых. Мы былі ў Сібіры. Аднаго разу ён зайшоў да мяне ў барак, падсеў на нарах, худы, знябыты, у вачах тузаўся адчай. У змроку слабенькіх рэдкіх лямпак сама што раздавалі вячэру. Вядома, неважнецкую, але ў Астапенкі і гэтага не было: ён на работу не хадзіў. Паліўку я з'еў сам, а рыбкаю і драбком цукру падзяліўся.

— Што ты сабе думаеш, Змітрок? — сказаў я яму. — Гэтак жа можна і зусім згібець.

Астапенка паглядзеў на мяне сваімі цёмна-карымі вачмі і ціха, каб не чулі суседзі, сказаў:

— Я ўжо другі раз ем выгнанніцкі хлеб, дакуль жа можна? Я мушу нешта зрабіць. Заняцца нечым больш карысным і важным... Доўга я тут не буду ўсё роўна. Хочаш разам?..

Мне здалося, што я правільна зразумеў яго, і, каб перасцерагчы далейшыя ўдакладненні, сказаў, што гэта жарты дурныя. Найпершае, што мне трэба, дык гэта тое, каб давесці, што я не вінаваты, а дзеля гэтага я павінен быць жывы.

— Не, дык я не пра ўцёкі, — раптам весела ён разрагатаўся.

Па нядоўгім часе нашу цяслярскую брыгаду пасадзілі ў дзве машыны, прыкрылі ад марозу брызентам і павезлі на другія будоўлі. З Астапенкам я нават не пабачыўся.

Пачуў я пра яго ўжо толькі ў Мінску. І зразумеў, якой карыснай і важнай работы ён шукаў сабе. Ён зрабіў так, як некалі і намысліў на тых далёкіх сібірскіх нарах. Мяне здзівіла не толькі смеласць учынку, а і веліч яго. Як, якім чынам ён умудрыўся тайна папасці на той бок фронту, у варожы тыл? Загінуў ён, выконваючы партызанскае спецзаданне. Мне ўспомніўся і той вечар, калі чытаў ён «Ноч на станцыі Негарэлае», і той боль, што свет падзелены папалам.

На сцяне ў Саюзе пісьменнікаў вісіць белая мармуровая дошка з прозвішчамі, напісанымі залатымі літарамі, усіх тых, хто ў Айчынную вайну аддаў сваё жыццё за бацькаўшчыну. Сярод іх і імя Змітрака Астапенкі. Як шкода, што невядома яго магіла, каб можна было схадзіць да яе і зрабіць тое, чаго не ўдалося пры жыцці, — развітацца з ім.

*1970 г.*

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

## ЛЁС ПАЭТА

Нядаўна — у каторы раз! — я перагортваў старонкі кніг беларускіх пісьменнікаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны. І стала да болю крыўдна, што мала яшчэ намі зроблена для ўвекавечання памяці гэтых пісьменнікаў, мала расказана пра іх жыццё.

«З 1942 года, — чытаю я пра Змітрака Астапенку ў кнізе «Пісьменнікі Савецкай Беларусі», — паэт знаходзіўся на фронце. У 1944 годзе ён загінуў смерцю героя, змагаючыся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў». І больш ні слова пра франтавое жыццё паэта.

І я паставіў сабе за мэту знайсці ненадрукаваныя творы майго сябра Змітрака Астапенкі, сабраць біяграфічныя звесткі аб ім.

Працы мелася шмат.

Даведаўшыся, што ў Мінску жыве сястра Змітрака Амяльянавіча — Ніна, у Маскве — сястра Алена і жонка Антаніна, а ў Рызе — брат Яўгеній, я, зразумела, найперш звярнуўся да іх і праз некалькі дзён ужо меў магчымасць разглядаць рукапісы і пісьмы паэта.

Вось радкі з пісьма ад 19 верасня 1944 года, пасланага з Масквы брату Яўгенію:

«Дарагі брат, я ад’язджаю — ад’язджаю куды далей, чым думаў, і на больш доўгі час. У той час, калі ты атрымаеш гэта пісьмо, я, напэўна, буду ўжо ў дарозе. Многае трэба было б сказаць, але ў пісьме даводзіцца абмежавацца толькі часткаю. <...>

Далей. Я вельмі прашу цябе паставіць сабе ў правіла пасылаць родным (маме і Лене) пісьмы хоць бы раз у месяц. Гэта вельмі важна і патрэбна. <...>

Да пабачэння. Моцна цалую і жадаю табе шчасця. Памятай таксама, што калі я буду жывы, я ніколі не забуду і не пакіну цябе. Не пакідай жа і ты родных».

29 верасня 1944 года Змітрок Астапенка пасылае пісьмо жонцы і сястры:

«Прывітанне бабулі — Любові Іванаўне.

Мае дарагія, Тоня і Лена!

Тут зараз пахмурны дзень. На душы, нягледзячы на пахмурнае надвор’е, добра. Сумна толькі ад разлукі з вамі, але ж гэта павінна было быць, гэта быў мой абавязак.

Увечары мы вылятаем. Зараз каля 4–5 г. вечара. Пажадайце ў душы мне ўдачы і шчасця. Зрэшты, калі вы атрымаеце гэтае пісьмо, я буду ўжо далёка, на месцы. У Маскве я перадаў аднаму чалавеку

пісьмы мамам (дзвюм), Але і Ніне. Ён іх павінен вам прынесці. Гэтае пісьмо накіроўваю з лётчыкам. Не забудзьце ў наступным годзе ўладкаваць Шурыка [брата.— *С. Ш.*]. Моцна вас абедзвюх цалую: цябе, пчолка, цябе, сястрычка. <...>

Увесь ваш *Міця»*.

7 кастрычніка 1944 года ляціць пісьмо ў Маскву жонцы Антаніне Цімафееўне і сястры Алене:

«Мае дарагія — Танюська, Леначка! Вось я ўжо амаль на месцы. Праз 2–3 гадзіны іду далей на захад. Карыстаюся выпадкам напісаць вам пісямко, якое перадасць вам Сямён Мікалаевіч. Гэта пісьмо прыйдзе да вас няскора, і я ў гэты час буду яшчэ далей, чым цяпер, але маё сэрца з вамі, мае родныя.

Адчуваю сябе цудоўна. Здароўе добрае. Гэтыя дні жыў, як на курорце, і калі б не вайна і не ўсведамленне, што вораг наўкол і вельмі блізка, было б яшчэ лепш.

Вакол мяне крутыя горы. Схілы гор параслі елямі і букам. Цяпер сонца. Учора, пазаўчора хмары чапляліся за нашы палаткі. Ішлі дажджы.

Танюська, родная! Памятай, што я спадзяюся на цябе, што ўсё сваё жыццё я звязваю з табою, і толькі з табою. <...>

Колькі перажыванняў! Напрыклад, пералёт праз лінію фронту. Парашутны прыжок ноччу ў горныя лясы і многае іншае.

Мае родныя! Напэўна, пасля гэтага пісьма я надоўга не буду мець магчымасці напісаць вам. Вы не трывожцеся гэтым. Дзм. Ів-ч будзе вам паведамляць пра мяне ўсё, што будзе вядома.

І ты, Тоня, як бы я доўга ні маўчаў, памятай, што я назаўсёды з табою і жыву спадзяваннем сустрэцца з табою.

Ну — час канчаць. Зараз іду — пешшу, у горы, насустрач небяспецы, у агонь барацьбы. Я зусім не баюся небяспек, пагарджаю ворагам, люблю вас, мае родныя. Чакайце!»

І ўсё. Пісем больш не было. Праз некалькі год на запытанне жонкі паэта Краснапрэсненскі раённы ваенны камісарыят Масквы паведаміў, што Дзмітрый Амяльянавіч Астапенка, знаходзячыся на фронце, прапаў без вестак у кастрычніку 1944 года.

Змітрок Астапенка, як відаць з архіўных матэрыялаў, у 1942 і 1943 гадах знаходзіўся не на фронце, а ў Маскве, старанна рыхтаваўся да работы ў партызанскіх атрадах у тыле ворага.

У гэты перыяд і былі напісаны ім аповесць у вершах «Ганна», паэма «Эдэм» і шмат лірычных вершаў.

Паэт меў доступ да варожага прапагандысцкага друку, што відаць з неапублікаванага пісьма «У чым ваша kredo» <...>

«Гэтыя словы, якія стаяць эпіграфам тут, — піша Змітрок Аста-

пенка, — я ўзяў з газетнага артыкула В. Казлоўскага, надрукаванага ў «Беларускай газеце» ад 11.IX 1943 г. Іх напісаў чалавек, які запэўняе беларускі народ, што ён, Казлоўскі, з'яўляецца яго сумленным патрыётам, што ўсімі яго дзеяннямі кіруюць любоў да свайго народа, да сваёй айчыны, іх жыццё, іх дабрабыт.

Я таксама люблю свой народ — беларускі народ, з якім звязаны ўсімі ніткамі істоты як паэт, як грамадзянін. Я люблю яго вялікай чалавечай любоўю — увесь, цалкам, выключаючы нязначную кучку эксплуататараў, людзей, якія жывуць або думаюць жыць потам і нават крывёю. Такая любоў патрабуе ад кожнага актыўных дзеянняў на карысць народа, асабліва ў той момант, калі яго жыццё знаходзіцца ў смяртэльнай небяспецы. Такая любоў мяркуе наяўнасць ідэі, — іменна ідэі, якая ідзе з зямлі і крыві народа, з яго душы і сэрца. Я маю гэтую ідэю, я спакойна і горда заяўляю, што нашу гэтую сваю ідэю ў сваім сэрцы і душы.

І з вышыні гэтага спакою і гонару я абвінавачваю Казлоўскага. Абвінавачваю ў тым, што ён здрадзіў беларускаму народу, што ён кашчунствуе, гаворачы пра любоў да яго, што ён не мае ніякай шчырай, сапраўднай ідэі...»

Дзе ж загінуў Змітрок Астапенка? Дзе ён прызямліўся на парашуце? З якіх месцаў пайшоў на ворага, прыціснуўшы да грудзей аўтамат?

Змітрок Астапенка добра ведаў апроч сваёй роднай і рускай мовы яшчэ чэшскую, польскую і нямецкую мовы. З яго архіва, што захаваўся у родных, відаць, што паэт вывучаў чэшскую літаратуру. Засталіся нататкі пра вялікага чэшскага паэта Яна Калара.

Можна меркаваць, што ў барацьбе з нямецкімі фашыстамі на чэшскай зямлі Змітрок Астапенка загінуў смерцю храбрых за свабоду братняга народа.

*1960 г.*

*Павел ПРУДНJКАЎ*

## ПАЭТ-ВОІН

Змітрок Астапенка пачаў пісаць і друкавацца вельмі рана. Ужо ў 1926 годзе, калі яму яшчэ не споўнілася і 16, яго вершы пачалі з'яўляцца на старонках акруговай газеты «Наш працаўнік» і літаратурна-мастацкага альманаха «Маладняк Клімаўшчыны», якія ў той час выдаваліся ў Клімавічах. Гэта тады, калі паэт стаў студэнтам Мсціслаўскага педтэхнікума. Праз які-небудзь год яго вершы можна было пра-

чытаць у газеце «Чырвоная змена» і часопісе «Маладняк».

Пра гэты час вельмі хораша расказаў у сваёй паэме «Далёка ад акіяна» Аркадзь Куляшоў. Хто не ведаў тады пра мсціслаўцаў? Імі захапляліся, пра іх гаварылі. Я быў яшчэ вучнем Мілаславіцкай сямігадовай школы, але пільна сачыў за перыядычным друкам і навінкамі мастацкай літаратуры, таму што сам ужо спрабаваў свае сілы ў літаратуры, нават лічыўся «школьным паэтам». І, вядома ж, не мог не ведаць пра Мсціслаўскі «ліцэй».

Раннія вершы Змітрака Астапенкі, як і наступныя, былі прасякнуты шчырай любоўю да маці-Радзімы:

Мы славу, вялікую славу пяём
Табе, дарагая краіна!

Так пісаў паэт у 1928 годзе. І вось, з'яўляючыся франтавым салдатам, ужо ў 1943 годзе ён як быццам пераклікаецца з Астапенкам-юнаком:

Паклянёмся любіць наш край!
Паклянёмся, што ў нашыя сэрцы
Не ўкрадзецца ні страх, ні адчай,
Ні спалох немінучае смерці!

І як бы падмацоўваючы сваё крэда, ён на ўвесь голас заяўляе:

Паклянёмся Радзіму любіць!
Яна з верай на нас паглядае.
Ў нашых сэрцах жыве й будзе жыць
Наша даўняя клятва святая!

І сапраўды, як само яго жыццё, уся творчасць Змітрака Астапенкі цалкам аддадзена і служыла сваёй Радзіме, свайму народу.

Адной з цэнтральных у творчасці Змітрака Астапенкі была тэма калгаснай вёскі, якой ён прысвяціў большасць сваіх вершаў, аповесць «Ганна» і паэму «Эдэм». Як толькі нарадзіліся першыя калгасы, паэт едзе ў вёску, славіць новае яе жыццё.

Змітрака Астапенку ведалі не толькі як выдатнага паэта, але і як добрага прапагандыста мастацкага слова. Яго часта можна было пачуць і на літаратурных вечарах у Доме пісьменніка, і па рэспубліканскім радыё, і на сустрэчах у фабрычна-заводскіх клубах, і ў калгасных хатах-чытальнях, у школах.

Мне не раз даводзілася разам з Астапенкам выступаць перад чытачамі, і заўсёды я здзіўляўся яго энергіі, нястомнасці, уменню прыцягнуць да сябе слухачоў. Шчыра кажучы, я па-сяброўску яму зайздросціў у гэтым.

Што мне асабліва падабалася ў Астапенку, дык гэта яго сяброўская шчырасць і прамата. Яму заўсёды ва ўсім можна было верыць і

давярацца. Для сябра ён гатоў быў аддаць усё. Мы ўсе тады здзіўляліся і нават зайздросцілі моцнаму сяброўству «мсціслаўцаў» — Астапенкі, Таўбіна, Куляшова. Гаварылі, што яны колькі год жылі «камунай», нават кашалёк мелі агульны, не гаворачы ўжо пра вопратку і абутак...

Змітрок Астапенка добраахвотна пайшоў у Чырвоную Армію, мужна змагаўся з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны. Ён да апошняга дня заставаўся верным сынам-патрыётам сваёй Радзімы.

Колькі бачыў. Колькі жыў.
Колькі раз кідаўся ў схватку!
Я б цяпер шчаслівы быў,
Каб пачаць усё спачатку, —

гаворыць паэт у адным з апошніх сваіх вершаў, напісаным у снежні 1943 года, менш як за год да сваёй гераічнай смерці.

Ужо з'яўляючыся франтавіком-разведчыкам, Змітрок Астапенка напісаў такія буйныя творы, як вершаваная аповесць «Ганна» і паэма «Эдэм», якія пасля сталі хрэстаматыйнымі.

Ён загінуў у час вызвалення Славакіі ў кастрычніку 1944 года. Але Змітрок Астапенка жыве і сёння між нас. ён ніколі не пакідае нас са сваімі звонкімі вершаванымі радкамі. Творамі яго захапляецца моладзь, асабліва школьнікі. Яго лірычныя вершы, а таксама паэма «Эдэм» з'яўляюцца настольнымі кнігамі юных чытачоў.

У 150-й школе сталіцы рэспублікі адкрыт музей, прысвечаны паэтам-франтавікам — «Да штыка прыраўнялі пяро», у якім пачэснае месца адведзена жыццю і творчасці Змітрака Астапенкі. З вялікай цікавасцю прачытаюць школьнікі і яго зборнік «Крывёю сэрца».

Ён быў і застаецца сярод нас.

# Захар
# БАРСУК

Захар Барсук нарадзіўся ў 1915 г. у г. Смалявічы на Міншчыне.

Закончыў яўрэйскую школу ў родным горадзе. Вучыўся на яўрэйскім аддзяленні літаратурнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута. Пасля заканчэння вучобы (1937) быў прызваны на вайсковую службу. Удзельнік паходу ў Заходнюю Беларусь у 1939 г. і савецка-фінляндскай вайны. Загінуў на фронце ў 1942 г. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Дэбютаваў у друку ў 1931 г. Пісаў на ідыш. Друкаваўся ў газетах «Юнгер ленінец» («Юны ленінец»), часопісе «Штэрн» («Зорка») і некаторых іншых. У 30-я гг. асобнымі выданнямі выйшлі кніжкі для дзяцей «Чалюскінцы», «Мамлакат». Вершы З. Барсука ўключаны ў зборнік «Лира» (М., 1985).

Спрабаваў творчыя сілы ў крытыцы.

У газеце «Літаратура і мастацтва» друкаваўся па-беларуску.

# ПАЭЗІЯ

## Я РАЗВІТАЎСЯ З ЖЫЦЦЁМ...

Я развітаўся са сваім жыццём,
І мусіў я
На снег калючы ўпасці.
А мне насустрач
Раптам выйшла шчасце,
І выжыў я ў завеі пад крылом.

Пакуль застаўся я
Адзін з траіх…
Сябры мае
Халодным сном заснулі.
Гарачыя застылі ў сэрцах кулі,
Сябры недалічылі дзён сваіх.

Сябры заснулі непрабудным сном —
Акрыла цёмнай коўдраю завея.
Лютуе роспач, і мароз шалее,
І вецер б’е каляным бізуном.

Ад жаху ледзянее ў жылах кроў.
І неба нада мной
Чарнее ў скрусе.
І я змагацца з ворагам
Клянуся
І за сабе,
І за сваіх сяброў.

# КАЛІ ПАДУМАЕШ...

I

Калі падумаеш, што ўжо ніколі
Дадому не прыеду я,
Тады
Душа адчуе ўвесь цяжар няволі,
І не ўцячы нікуды ад жуды.

Але тады,
Калі ў распале бою
Ўцякае вораг,
Не хапае слоў
Для радасці,
І ўжо хвілінай тою,
Здаецца, нараджаюся наноў.

II

Калі ў разведку выйдзеш
Пацямночы,
Няўтульна
Аднаму ў сваёй журбе.
Снарад
Патрапіць у цябе не хоча,
Цаляе куля
Абмінуць цябе.

З параненым табою
Смерць жартуе,
І дазваляе смерць
Табе пажыць.
Цябе здзіўленне лютае
Бінтуе,
І страшна
Скура на табе дрыжыць.

Калі з разведкі
Праз агонь і хмары
Вяртаешся,
Нібыта з небыцця,
Ты над сваім жыццём
Дрыжыш, як скнара,
Ад шчасця весялішся,
Як дзіця.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор РЭЛЕС*

## ЗАХАР БАРСУК

У кагорце яўрэйскіх пісьменнікаў у даваеннай Беларусі Захар Барсук быў самым маладым. Біяграфічныя звесткі пра яго засталіся вельмі скупыя. Вядома толькі, што родам ён з Смалявічаў. Там скончыў яўрэйскую школу. Потым вучыўся на яўрэйскім аддзяленні літфака Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага, які ў наш час стаў універсітэтам і носіць імя паэта Максіма Танка. Да вайны Захар Барсук выдаў дзве невялікія кнігі для дзяцей. Друкаваўся ў дзіцячай газеце «Юнгер ленінец», у часопісе «Штэрн» і іншых выданнях.

Закончыўшы інстытут, Захар Барсук служыў у арміі. У 1939 годзе ён удзельнічаў у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь. Затым разам з вайсковай часцю быў перакінуты на фінскі фронт. Пасля заканчэння вайны з Фінляндыяй атрымаў адпачынак і прыехаў у Мінск. Памятаю, ён распавядаў мне пра ваенныя падзеі, у якіх браў удзел. Пасля адпачынку Захар вярнуўся ў армію. На гэтым мая сувязь з ім абарвалася.

У маёй памяці ён назаўсёды застаўся маладым. Захар быў бландзістым, сярэдняга росту, хударлявы, голас меў мяккі, задушэўны. Ён быў схільны да жартаў, любіў апавядаць смяхотлівыя гісторыі. Крыўды ж пераносіў цярпліва. Не згадаю выпадкаў, каб ён з кімсьці пасапрачаўся ці пасварыўся.

Яўрэйскі паэт Зяма Цялесін аднойчы прыгадаў смешны выпадак з Барсуком. Захар, трапіўшы ў Маскву, вырашыў пазнаёміцца з вядомым дзіцячым пісьменнікам Львом Квітко. Квітко добра прыняў Захара, яны доўга гаманілі. Але позна ўвечары гаспадар спахапіўся, што няма свабоднага ложка, каб пакласці госця спаць. Давялося ўладкаваць яго на начлег… у дзіцячым ложку, які быў, праўда, не зусім маленькі. «Вы ж дзіцячы пісьменнік, — сказаў Квітко, — дык вам не прывыкаць…»

# Янка
# БОБРЫК

Янка (Іван Іванавіч) Бобрык нарадзіўся 21 ліпеня 1905 г. у мястэчку Глуск на Магілёўшчыне.

У 1925 г. паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля заканчэння універсітэта (1929) настаўнічаў у Мілаславіцкай сямігадовай школе Клімавіцкага раёна. У 1931 г. паступіў у аспірантуру Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Ленінградзе. Пасля заканчэння вучобы (1934) быў навуковым супрацоўнікам гэтай акадэміі. Затым працаваў рэдактарам кінастудыі Белдзяржкіно, а з 1938 г. галоўным рэдактарам ва ўпраўленні па справах мастацтва Ленінградскага гарвыканкама. Удзельнік абароны Ленінграда: узводзіў абарончыя збудаванні, у шэрагах народных апалчэнцаў удзельнічаў у баях. Я. Бобрык, знясілены і спакутаваны, сканаў 25 жніўня 1942 г. у блакадным Ленінградзе. Пахаваны на Піскароўскіх могілках.

З вершамі ў друку пачаў выступаць з 1924 г. Разам з А. Звонакам і Я. Туміловічам выдаў зборнік вершаў «Пунсовае ранне» (1926). Аўтар паэмы «Галіна» (1930).

Пісаў артыкулы па гісторыі кіно і па пытаннях развіцця беларускай кінематаграфіі. Выступаў у перыёдыцы з апавяданнямі і нарысамі.

# ПАЭЗІЯ

## ПЯЛЁСТКІ СІНІЯ

Пялёсткі сінія,
пялёсткі агнявыя
асыпаў за гарою дзень...
Над кроўю воўка
воўк завые...
Дзе мне таварыша
шукаць, ну дзе?!

Ці там,
ці там мо, дзе варожасць?
Ці там,
дзе шчырасць-боль?..
Шыпы не звянуць,
звянуць рожы,
красой апаўшаю
аздобяць дол.

Пясок і жвір,
халодны камень,—
як адзіноцтва між сяброў.
Мае вы сосны,
сосны-пальмы!
І смех дзяўчат,
крамянасць зор.

*1926 г.*

## НА АЗЁРАХ...

На азёрах белыя лілеі
і маўклівасць ціхая, як рань...
Радасць звонкая у лесе —
пурпурова-сіняя зара.

На душы не будзе скрухі,
хай пагарда, скаргі скрозь.
Нежывое твань закруціць —
ў маладосці не астыне кроў.

І калі праплача навальніца,
зацвітуць скрыжалі у агні...
А загубіць
свой імпэт крыніца —
хвалям больш не зазваніць.

На азёрах белыя лілеі
і маўклівасць ціхая, як рань.
Калі ў ціш імклівасць не павее,
дык сэрца не пакроіцца ад ран.

*1926 г.*

* * *

Прытулі ты мяне, як сыночка,
Залацістая пушча мая…
Хоць пайшоў ад цябе цёмнай ночкай,
А прыйшоў светлай раніцай дня.

І прыйшоў, бо душой не пад’юдзіў
У жыцці я цябе ані раз.
Няхай кажуць, хай кажуць мне людзі,
Што дарэмна нясу табе дар...

Расцалую я шастанне лісцяў
Ды бярозы вячэрні павеў...
Маёй радасці слёзы зліліся
Ў малінова-зялёну павець.

Прытулі ж ты мяне, як сыночка,
Задумёнасцю светлай абвей.
Я табе буду віці вяночкі
За твой погляд таёмны вачэй.

*1926 г.*

* * *

1

Шум маліновы
сцелецца ў далях,
акордам жаласным звініць…

А залатыя
занізі караляў
з бярозы коцяцца уніз.

2

Паў на калені
вецер ля ялінаў,
паў на калені і заціх.

І вось перада мною
маці з сынам —
і ростань... зымкаюць лісты.

3

Бягуць, віюцца
сцежкі, пуцявіны:
пражытае схіляецца ля іх,

і свеціцца яно,
гарыць і гіне,
як мілавіцай, зорны небасхіл.

*1926 г.*

## ЗАСПЯВАЙ МНЕ ПЕСНЮ...

Заспявай мне песню, заспявай ты, вецер;
захвалюйся, рэчка, зашумі, трысцё!
Можа, мая радасць са слязьмі заўецца
і крышталь бяроза сабярэ ў крысо.

Бо сягоння гора, ну а заўтра — шчасце;
бо сягоння слёзы, ну а заўтра — смех.
Раніцой выходзіў на дарогу часта...
Я душу, не камень — як другія — меў.

Ах мой лес вясёлы, лес мой задумёны;
верасы, нізіны... і сасна, і пель* .
Сабяру брусніцы з купінак у жменю,
падару дзяўчыне за мінорны спеў.

Пацалуе месяц хвалі на крыніцы
і акропіць срэбрам поле і сяло.
Павіліся сцежкі, павіліся ніцы,
як на сэрцы ў суме ўецца весялосць.

Бо сягоння гора, ну а заўтра — шчасце;
бо сягоння слёзы, ну а заўтра — смех.
Раніцой выходзіў на дарогу часта...
Я душу, не камень — як другія — меў.

*20 чэрвеня 1926 г.*

## БАЦЬКУ

Я стаю... схіліўся... мары дзесьці там,
дзе сваё дзяцінства я жыццю аддаў.

Мой ты любы, родны, мой ты дарагі —
і сінее постаць у вачах маіх...

А хвіліны льюцца, ціха далавах,
і з усмешкай ветлай вісне галава.

Ты любіў з натхненнем, пад вячэрні свіст,
казку аб мінулым варушыць, як ліст.

* Пель — круглая балоцістая мясціна на пясчанай глебе.

Мы сядзім на печы, спахмурнеў лучнік,
за акном агеньчык замігаў і знік...

— Не іначай чэрці там спраўляюць баль —
і спалох, і холад, і няма забаў...

За ракой русалкі, і гушчар, кусты,
завіваюць косы у галлі густым.

І ліецца хваляй іх жалобны спеў...
І замоўкла маці... золак ружавеў.

І было так ціха, ціха, як у сне, —
на душы і холад, і мяцель, і снег…

Быў малым і верыў, а цяпер, ну дзе?!
як пуцінай вітай ў ясны выйшаў дзень.

А цяпер нек дзіўна — люба разам з тым
ўспомніць аб мінулым у жыцці сваім.

І хвіліны льюцца, ціха далавах…
і пад песню ветру не шуміць трава.

Мой ты любы, родны, мой ты дарагі...
І знікае постаць у вачах маіх.

*1926 г.*

## САСОНКІ Ў ШЭРАНІ…

Сасонкі ў шэрані, сасонкі гаманілі
у вечар аксамітна-шэры...
Лілеі-зораньki гарэлі
на просіні паркальнай над далінай
у вечар аксамітна-шэры.

Сасонкі мілыя, сасонкі дарагія:
то зашумяць, то заціхаюць...
А думы снежнымі шляхамі
Там дзесьці ў далячыні белай гінуць
і ўсё шумяць і заціхаюць.

Там, дзе іскрынкамі асыпаў месяц гаці,
ля ставу хваляў перазвоны...

І сэрца зноў маё палоніць
лясная шыр і чуласць родных хатаў,
ля ставу хваляў перазвоны.

*1926 г.*

## ЦІХА, ТАК ЦІХА НАЎКОЛА

Ціха, так ціха наўкола,
голас ветру заснуў у трысці...
Вэлюм змроку павіс па-над полем...
Не спыняецца рэчка гусці.

Не спыняецца рэчка гусці,
бомкаюць срэбныя хвалі...
А ў алешніку, Дубні густым —
чуецца — коні зайржалі.

Чуецца, коні зайржалі —
ў аксаміце начлег зашугаў...
Весялосць мая дарагая,
сэрца — рэчка, душа — сіні гай.

*1926 г.*

## АГНІ... ЛІСЦЁ...

*

Ізноў я сярод лясоў, ізноў слухаю, як звоніць сасоннік ды шуміць беразняк, — і ў гэтым звоне, у гэтым шуме чую я нешта роднае, блізкае...

Змрок цярушыцца наўкола,
наўкола цярушыцца змрок.

Павольна ў палёх пачынаюць бліскаць на сінеючай шырме аганькі...

Аганькі беларускае хаты...

Вопратка вечару ўбіраецца брыльянцістым дожджыкам. Рознакалёрным бляскам пераліваецца на ёй дожджык брыльянцісты.

Ціха
        павольна,
павольна
            і ціха
кроплі дажджу
                    мігацяць,
                            мігацяць...

Чуласцю светлай мой дух аплятаюць,
чароўнасцю дзіўнай варожаць мяне.

Аганькі!
Аганькі!
Залацістыя!
У сэрцы маім вам квітнець...

Але нядоўга цешылі сэрца яны. Хутка адзін за адным, адзін за адным знікалі павольна, бы знічкі ў небе...

І раптам няма той прыгожасці, стройнасць парушана,

бо жыццё не вянок з васількоў, —
але рэчка між скалаў і гор...

*

Іду, праціскаюся далей у гушчу лясную...

Бачу я хатку, хатку адну, што прытулілася там каля гаю, стаіць у разважанні глыбокім яна, задуменнасць чало агарнула, стаіць, як заблудзіўшыся ў нетры лясной...

Наўкол адны дрэвы... яе ахінулі...
Дрэвы не хочуць маўчаць,
бо падружыліся з ветрам так моцна,
        моцна яны падружыліся з ім...
Сыплецца лісце,
сцелецца лісце
з шолахам дзіўным на дол,
і аздабляе з музыкай лісце
залатымі каралямі дол...

Згубілі прыгожасць дрэвы, няма хараства, што было, але дрэвы ніяк не сумуюць... дрэвы не хочуць маўчаць...

Пашто сумаваць! калі з новай вясною ізноў закрасуе ў іх маладосць, завіхрыцца вясною і радасць...

...Не вярнуць толькі мне маладосці пялёстак, якія асыпаў я на жыццёвых шляхах...

Не вярнуць, не вярнуць...

Бо жыццё —
жыццё не вянок з васількоў!..

*1926 г.*

## СОСНЫ

Ой, не плачце, струны, зашуміце сосны,
Ля ракі шумлівай ды у вечар росны —
Зашуміце сосны!

Зашуміце, сосны, зашуміце рана,
Ласкаю абвейце майго сэрца раны —
Зашуміце рана.

Зашуміце рана, рана-параненьку,
Ды не навявайце долі мне ліхенькай —
Рана-параненьку...

Рана-параненьку, калі зоры гаснуць,
Прытулю на ростань, як дзяўчыну красну, —
Калі зоры гаснуць...

Калі зоры гаснуць і цвіце світанне,—
Хіба ж вас забуду, вашае вітанне —
Ў сіняе світанне...

У сіняе світанне каля хатак ветлых
Расцалую вас я — не дазволю ветрам —
Каля хатак ветлых.

*1927 г.*

## У ДАРОЗЕ

Торба і Менск за плячыма,
Крывенькі кіёк у руках...
Наперадзе — мэта, радзіма
І ліпа з сукамі на дах...

Сонцам абмытыя грудзі
Аддаў жартаўліваму ветру;
Веру: ён іх не застудзіць...
Чупрыну ж — хваёваму веццю…

Ашчаперыў лес я рукамі,
Вачыма упіўся ў прастор.
А потым укленчыў на камень
І рукі на сонца прасцёр.

Беларуская хатка на ўзвышшы
Гасцінна мяне прыняла.
Пялёсткамі сыпалі вішні...
Ні жалю, ні смутку няма...

*1925 г.*

* * *

Клумнага дню
Вартаўнік —
Сонца агністае,
На расстанні з ім
Цалавалася.

І, закрыўшыся хустачкай
З берагамі яскравымі —
Хмаркай сіня-шэраю,
Горка плакала...

Дыяментамі-слязьмі
Заліваючыся, —
Лес званлівы аблівала
Бляскам залатым.

І, праводзячы, лавіла
Поглядам лупатым,
Уцякаючы ў далі,
Дзень гарлаты.

Клумнага дню
Вартаўнік —
Сонца агністае
Злезла адпачыць,
Каб назаўтра з большай сілай
Жыццё завіхрыць...

* * *

І было увосень... Я сказаў аднойчы:
больш не дакрануцца мае пальцы
струн.

*У. Дубоўка*

Прывет табе з Палесся
ад пушчаў ды гаёў;
званлівай ліся песняй,
як стромкіх дрэў галлё.

Шумуй ты спевам вольным,
як хвалі на Віллі...
Каб водгук неўгамонны
прасвідраваў вякі.

Удар па струнах леры, —
хай песня ўсё плыве, плыве…
Бо чуць яе прыемна,
таварыш і паэт...

Прывет табе з Палесся
ад пушчаў ды гаёў;
званлівай ліся песняй,
як стромкіх дрэў галлё.

*1926 г.*

## ЛЮБЛЮ Я ВОСЕНЬ

Люблю я восень на Палессі:
прастор замоўк, а не застыў.
Укрыла шэрань стрэхі, вецце...
На верасах —
лісты...
лісты...

Люблю я раніцу увосень,
бо раніцу люблю ў жыцці.
Праз кучаравасць стромкіх сосен
да светлых дзён
плысці...
плысці...

Плысці ў прастор, на шлях нязнаны:
нязнанасць і ў жыцці вядзе,
пакуль, лілёвасцю засланы,
не вынікне у пазалоце дзень.

..........................................................

Люблю я восень на Палессі:
прастор замоўк, а не застыў.
Укрыла шэрань стрэхі, вецце...
На верасах —
лісты...
лісты...

* * *

Азёры ў цемені драмалі,
і гай задумаўся, замоўк.
        Стаю адзін...

І думкі коцяцца, бы хвалі,
мяняюцца, як зорны шоўк...
        Стаю адзін...

А там у далях, там, дзе хаты,
я чую смех, радзімы спеў...

і гасне сум, і гасне, гасне,
як на світанні зорак сеў.

І гэты смех і спеў дзяўчыны —
ў душы пралескаю цвіце,
як на азёрах тых на сініх,
цвіце зары чырвоны цвет.
        І я адзін...

Але імкненні не завялі,
і мой акорд звініць, звініць...
Другімі родныя убачыў далі
і сёлы ў золаце зарніц.

І радасна, і раптам слёзы
вось коцяцца, не ведаю чаму...
Мо што на бацькаўскім парозе
спаткаў я раннюю вясну.

І вось, таварышы мае вы,
ад сэрца, любыя, кажу:
знайшоў у песні іншыя напевы,
ў жыццё іду па іншаму шляху.

Душу сваю аддам у вершах,
я раны сэрца імі залячу...
І галаву над чаркаю не звешу,
ў агонь за песню палячу.

Бо шчэ імкненні не завялі,
бо шчэ акорд звініць, звініць...
Другімі родныя убачыў далі
і сёлы ў золаце зарніц.

*1927 г.*
*Менск*

## НОЧ НАД МЕНСКАМ
*Імпрэсія*

...А ноч харошая такая...
А ноч —
                і ціш наўкол.
Чуць чутна ліст з бярозы ападае,
то слёзы лета капаюць на дол...

А ноч харошая такая,
а ноч —
не спіцца мне.
Над Менскам меркнуць зоры, дагараюць,
як у маёй далёкай старане.

А ноч харошая такая,
а ноч —
азёрнай сіні гладзь.
Там дзесьці лес ў таемнасці змаўкае,
тут камяніцы хмурасцю глядзяць.

А ноч харошая такая,
а ноч —
краса мая!
Паволі бурны горад заціхае,
а з ім і я.

*14 кастрычніка 1928 г.*
*Менск*

## НА ПАЖЫВУ

Ваўчыца выйшла на дарогу:
Іскрыцца снег...
Пажывіцца яна сягоння
Ці не?
Трывожным крыкам, далей, далей
Яна ідзе.
Прыслухалася... стала —
Далёка дзень.
Спынілася... пажыва блізка —
Вунь за ляском...
Драпежна вочы сталі бліскаць,
Як аганьком.
Ці ведаеш, што там чакае
Цябе у гэты раз?
Куды імкнешся ты, адважная такая,
Ў закляты час?..
.........................................................

І раптам стрэл прарэзаў цішу,
За хмарай месяц знік.
Бяжыць яна на ўзгорак, вышай, вышай,
Пасля — уніз...
І толькі на снягу каралі —
З гарачае крыві...
Ў апошні раз яна шчэ ўстала —
У вочах вір…
І немым голасам завыла
Ў нямую сінь...
Ой, не прасі ты паратунку ў высі.
Ой, не прасі!
І ўсё замоўкла ў далях —
Як ўва сне...
Іскрынкамі дзве зоркі ўпалі
Ў снег.

*24 студзеня 1928 г.*
*Глуск*

* * *

Як званочкі ў полі —
сіняя ноч,
белы месяц,
срабрыстая шэрань...
Шалясціць
шоўкам лісце ля ног,
пералівамі зорка Венера.

Дзесь гараць,
дагараюць агні,
палымнеюць у сэрцы надзеі...
Не губляю імпэтнасць —
хай пройдуць дні
і скрозь снег і завеі.

Дарогі ў прасторах,
ў прасторах шляхі
і бягуць і знікаюць,
як хвалі, як цені...
Бомы, іскры акордаў,

расссыплюць па іх
і растануць —
як мары мае, летуценні —
ў нашых сённяшніх днях залатых.

Наша сёння —
імкненне, запал,
светлых казак чароўных крыніца —
будзе душу будзіць,
будзе ў думках палаць,
будзе вабіць,
маніць
мілавіцай.

*1930 г.*

## ГАЛІНА
*Урывак з паэмы*

### Кадр 2
### ГАЛІНА ў ВёСЦЫ

Гнаў лісце вецер па даліне,
не пыл над горадам. Агні
здалёк напомнілі Галіне,
што мэта блізка — вёска Ніз...

І вось яна ў цішы Палесся
збівае раннюю расу,
вандруючы сягоння ў лесе,
адвечнай дзікасці убачыўшы красу.

А думкі, як лісты, далёка
ападваюць у марах кроз,
там, дзе жыццё навокал
і песціла, і надругалася да слёз.

Нядаўна шчэ — вось, вось учора —
вучоба, праца і сябры...
А сёння, сёння што падорыць
шум гэты жудасны ў бары?

Не супакой і адпачынак
яна тут знойдзе... Ой не, не,
бо гэту глуш мая дзяўчына
наяве бачыла, не ў сне.

Яе чакала, і яе чакалі
вось нетры гэтае глушы...
Яна чужая ў гэтых далях,
але... свая ім па душы.

*1930 г.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Сяргей ГРАХОЎСКІ*

## КВЕТКІ І ВЕЧНЫ АГОНЬ

Вершы паэта-маладнякоўца Янкі Бобрыка ў 20-я гады часта друкаваліся ў «Маладняку», «Чырвонай змене», літаратурным дадатку «Сталёвы ўзлёт», «Узвышшы», «Звяздзе» і «Беларускай вёсцы». У 1926 годзе разам з Алесем Звонакам і Янкам Туміловічам ён выдаў маленькі зборнічак «Пунсовае ранне», у 1930 годзе ў «Маладняку» апублікаваў паэму «Галіна».

На гэтым абрываецца яго паэтычная бібліяграфія.

Але ўсё сваё кароткае жыццё Янка Бобрык жыў літаратураю, шмат сіл аддаваў развіццю беларускай кінематаграфіі, да апошніх дзён пісаў вершы і грунтоўныя даследаванні.

Янка Бобрык нарадзіўся ў 1905 годзе ў мястэчку Глуску. Бацька яго быў славуты на ўсю воласць каваль. З маленства бацькава рамяство спасціг і сын. Зімою вучыўся ў школе, а ўсё лета стаяў пры горне і кавадле. Захапляўся маляваннем, іграў у аматарскіх спектаклях, пісаў дэкарацыі, праз «чароўны ліхтар» паказваў цікавыя паштоўкі і малюнкі. Маленькая хата Бобрыкаў была своеасаблівым местачковым клубам — з газетамі, кніжкамі, «жывымі карцінкамі».

У 1924 годзе Янка Бобрык паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт і тады ж надрукаваў свае першыя вершы. Ён быў першым філолагам з нашага мястэчка. Доўгі час бацька не разумеў, на каго ж вучыцца яго сын.

Памятаю, як у Глуск прыслалі першую кінаперасоўку, з дынамкаю, якую звычайна круцілі самыя дужыя хлопцы. Доўга ніхто не мог разабрацца ў той апаратуры. На канікулы прыехаў Янка, пакорпаўся і «пусціў» кіно. З воласці далі каня, і студэнт Бобрык усё лета ездзіў па сёлах і «круціў» адзіны фільм.

Прыязджаючы дадому, ён заўсёды прывозіў ладны стос маладнякоўскіх кніжачак і раздаваў іх чытаць мясцовым аматарам літаратуры. На «Біблію» Кандрата Крапівы была доўгая чарга. Вечарамі ў кавалёвай хатцы збіралася поўна людзей, чыталі ўголас,

рагаталі, часта «падсольвалі» асобныя мясціны моцным і дасціпным слоўцам. Як толькі прыязджаў Янка, я станавіўся яго ценем. Тады і пачаў (каб ніхто не ведаў) пісаць употай свае вершы.

Калі з’явілася «Пунсовае ранне», пра нашага, глускага, паэта гаварыла амаль усё мястэчка. Друкаванае слова ў тыя гады мела нейкую чароўную сілу, многім не верылася, што гэта напісаў кавалёў сын. У кожным вершы хацелася пазнаць сваё, знаёмае. І пазнавалі. У вершы «Бацьку» малады паэт пісаў:

Ты любіў з натхненнем, пад вячэрні свіст,
казку аб мінулым варушыць, як ліст.

Мы сядзім на печы, спахмурнеў лучнік,
за акном агеньчык замігаў і знік...

Усё праўда. Янкаў бацька быў выдатны казачнік: сам прыдумляў, сам верыў, і верылі ўсе. Была і дзірка ў століі ад колішняга лучніка, былі і доўгія завірушныя вечары. Таму і казалі пра яго вершы: «Глядзі ты, праўду піша».

На канікулы звычайна Янка з братам (пасля вядомым беларускім хірургам Мікалаем Іванавічам Бобрыкам) маглі даехаць толькі да Бабруйска, а дадому 50 кіламетраў ішлі пехатою. Пра гэтую дарогу землякі чыталі ў «Пунсовым ранні»:

Торба і Менск за плячыма,
Крывенькі кіёк у руках...
Наперадзе — мэта, радзіма
І ліпа з сукамі на дах.
...................................................
Беларуская хатка на ўзвышшы
Гасцінна мяне прыняла.
Пялёсткамі сыпалі вішні...
Ні жалю, ні смутку няма.

Скажаце, тыповая маладнякоўская лірыка? Так. Але зямная, канкрэтная, асабістая. Улюбёны ў родную прыроду Янка Бобрык з уласціваю яму непасрэднасцю дваццацігадовага юнака ўмеў захапляцца хараством задуменных палескіх краявідаў:

Люблю я восень на Палессі:
прастор замоўк, а не застыў.
Укрыла шэрань стрэхі, вецце...
На верасах —
Лісты...
Лісты...
Люблю я раніцу увосень,

бо раніцу люблю ў жыцці.
Праз кучаравасць стромкіх сосен
да светлых дзён
плысці...
плысці...

Малады паэт упэўнена і настойліва плыў да светлых дзён. У 1929 годзе закончыў універсітэт і паехаў на Клімаўшчыну, у Мілаславіцкую школу, выкладаць родную мову і літаратуру. Пачатак калектывізацыі застаў яго ў вёсцы. Малады настаўнік і паэт выступаў на бурных сялянскіх сходах, даваў адпор кулакам, арганізоўваў першыя калгасы і... пісаў паэму «Галіна». Гераіня паэмы — маладая настаўніца, жыве тымі ж клопатамі, што і аўтар, радуецца агульнымі радасцямі з вяскоўцамі, што ўпершыню выйшлі на агульнае поле.

Аркестраў, музыкі не трэба,
паслухай музыку ў жыцці...
А пад асеннім ясным небам
Галіне як жа не цвісці?
Як не цвісці Галіне сёння,
за працу — радасць перамог.
Глядзіш на гоні:
Коні,
        коні,
                коні,
Ў зямлю ўпіваецца нарог.

*(«Маладняк», 1930, № 10)*

У 1931 годзе Янка Бобрык паступіў у аспірантуру Ленінградскай дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства, закончыўшы яе, працаваў навуковым супрацоўнікам сектара кіно акадэміі, потым перайшоў па студыю Белдзяржкіно, якая тады знаходзілася ў Ленінградзе. Рэдагаваў сцэнарыі і фільмы, прымаў актыўны ўдзел у стварэнні фільма «Першы ўзвод». У ім здымаліся Б. Бабачкін і Л. Кміт.

У 1938 годзе Янка Бобрык запрошаны на працу галоўным рэдактарам упраўлення па справах мастацтва Ленінградскага гарадскога выканаўчага камітэта.

Па стану здароўя яго знялі з ваеннага ўліку, але ў жніўні 1941 года камуніст Янка Бобрык дамогся, каб яму дазволілі стаць добраахвотнікам народнага апалчэння. Бобрык капаў акопы, рабіў умацаванні, адбіваў атакі фашыстаў. Яму некалькі разоў прапаноўвалі эвакуіравацца ў тыл, упрошвала жонка Наталля Вячаславаўна Вішнеўская (паэтэса-маладнякоўка) разам ехаць у Горкаўскую вобласць. «Я нікуды не паеду. Паміраць, дык у Ленінградзе», —

нязменна адказваў Янка.

У канцы ліпеня 1942 года зусім знясіленага Янку Бобрыка на вуліцы падабралі санітары і адправілі ў бальніцу імя Куйбышава. 25 жніўня Янка Бобрык памёр і пахаваны на Піскароўскіх могілках.

Калі ў Ленінград вярнулася Наталля Вячаславаўна, іх кватэра была пустая: загінулі ўсе рукапісы і кнігі. «Апошнія два гады перад вайною, — пісала мне Наталля Вячаславаўна, — Янка шмат працаваў над нарысамі па гісторыі кіно, пісаў вершы, але з напісанага ў кватэры нічога не захавалася».

Не сумняваюся, што ў тых рукапісах было нямала сапраўднага і значнага, бо належалі яны пяру адукаванага, працавітага і патрабавальнага да сябе літаратара.

Не вянуць кветкі на плітах Піскароўскіх могілак. Вечны агонь у гонар мужнасці ленінградцаў гарыць і на магіле нашага паэта Янкі Бобрыка.

*Сяргей ГРАХОЎСКІ*

## СПАДЧЫНА

*Памяці паэта-маладнякоўца Янкі Бобрыка*

Забіла сыпкімі снягамі
Сцяжынкі ўсе і бальшакі,
Вятры сухімі трыснягамі
Шумяць, шумяць каля ракі.

У полі ветрана і гола,
Звіняць ільдзінкі на страсе,
А я чакаю балагола,
Што госця з Менска прывязе.

Пад вечар зарыпелі санкі,
Прысталі коні ля двара.
І вось ужо ў абдымках Янкі
Смяюцца маці і сястра.

І да мае шчакі прыпала
Яго калючая шчака.
Прывёз ён «Спадчыну» Купалы
І кніжачкі «Маладняка».

А ноччу, доўгай і завейнай,
Госць, не прыткнуўшы галавы,
Пры бляску лямпы трохлінейнай
Чытае байкі Крапівы.

І хата поўная рагоча
Ад «Бібліі» і ад «Асця»,
Бо ўсе суседзі да паўночы —
У Янкі Бобрыка ў гасцях.

А як разыдуцца, я зноўку,
Хоць класціся даўно пара,
Дапытваюся пра Дубоўку,
Пра Пушчу і пра Дудара:

Хацелася пра ўсё дазнацца
І ўласную адкрыць душу,
Але ніяк не мог прызнацца,
Што сам употайкі пішу.

Яму, празрыстаму ў блакадзе,
Прыходзіў родны дом у сны...
Застаўся ён у Ленінградзе,
І... пахаваны без труны.

Я зразумеў у час вячэрні,
Што ён, бядзе сваёй назло,
Мне перадаў жывое зерне,
Каб хоць сцяблінкай прарасло.

*1980 г.*

# Рахіль
# БРОХЕС

Рахіль (Рохл) Брохес нарадзілася ў 1880 г. у г. Мінску.

Працавала швачкай, затым навучала моладзь у мінскім яўрэйскім рамесніцкім вучылішчы. У гады Першай сусветнай вайны апынулася ў Амерыцы. Там працягвала літаратурную творчасць. У сярэдзіне 1930-х гг. вярнулася ў Беларусь. Была прынята ў Саюз пісьменнікаў. Загінула ў мінскім гета ў 1942 г.

Першае апавяданне напісала ў 16 гадоў. У друку ўпершыню выступіла ў 1899 г. (альманах «Дер юд»). Яе творы былі змешчаны на старонках розных перыядычных выданняў. Найбольшую вядомасць і папулярнасць прынеслі ёй творы для дзяцей.

Аўтар кніжак «Зборнік апавяданняў» (1922), «У піянерскім лагеры» (1936), «Гелка» (1937) і інш. Яе пяру належыць звыш 200 апавяданняў, казак і невялікіх п’ес для дзяцей. Апавяданні Р. Брохес у даваенны час перакладаліся на беларускую мову. Дзяржвыдавецтвам БССР на 1941 г. быў запланаваны выхад першага тома трохтомніка яе твораў.

# ТВОРЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ГЕЛКА*

— Вось ён — горад!..

Аднак Гелкін вокліч захаплення губляецца ў грукаце колаў, якія пераскокваюць з аднаго выслізганага каменя бруку на другі. Па абодвух баках вуліцы туды і сюды коцяцца фурманкі. Усе вазкі дзівосныя — у іхнім мястэчку такіх няма. Сягоння серада, будзённы дзень, а тут кожны апрануты па-святочнаму — і хто йдзе, і хто едзе, — і ўсе спяшаюцца, лятуць, штурхаюць адно аднаго…

— Вось ён — горад! — Гелка проста зачараваная, а часу, каб агледзець усе вялікія вітрыны з выстаўленымі ў іх дарагімі рэчамі, у яе няма…

Дамы высозныя, мураваныя і атынкаваныя, дагледжаныя і ўпрыгожаныя. «Я раскажу пра ўсё гэта дома», — абяцае сабе Гелка і спяшаецца следам за маці, якая шпарка ідзе наперадзе; даводзіцца за ёю ўлягаць подбегам, а йнакш, варта толькі на хвілінку спыніцца, маці раздражнёна крычыць: «Ты заблудзіш, згубішся! Ідзі за мною…»

Маці ні на што не дзівіцца, нічым не цешыцца, яна раззлаваная і заклапочаная. «Яна такая з учарашняга дня, з той самай хвілі, як учора пасправалася з бацькам», — думае Гелка. Чаго яны пасправаліся, Гелка дакладна не ведае. Яна ўчора была занятая падрыхтоўкай да ад'езду. Ёй трэба было расказаць усім сяброўкам, што яны з маткаю едуць у вялікі горад да багатай цёткі. Дзяўчынкі ёй зайздросцілі.

Язда ў вагоне зрабіла на Гелку не такое вялікае ўражанне, і ўсё ж у ейнай галоўцы ўвесь час круцілася думка, як яна будзе пра ўсё расказваць дзяўчынкам, сваім сяброўкам, як будзе перад імі выхваляцца. «Гэта невялічкая хатка, — раскажа яна, —

---

* У гэтым імені гук «г» выбухны.

дзе ўсе садзяцца побач; іншыя людзі, якім не хапіла месца, мусяць стаяць. Ваконцы там маленькія, глянеш — і ўбачыш, як міма пралятаюць палі і лясы, імчацца і круцяцца, імчацца і круцяцца, а ты едзеш, едзеш…

Ад горада ўражанні куды большыя, толькі Гелка ўсё ніяк не можа ўхапіць, у чым сакрэт ягонай прыгажосці. Ну, замест зямлі — брук; ну, замест маленькіх хатак — вялікія-вялікія дамы, сапраўдныя палацы. А замест драўляных калёсаў з драбінамі — прыгожыя карэты… Ды калі Гелка будзе так расказваць, сяброўкі яе не зразумеюць і не паверацъ. Гэта трэба ўбачыць і адчуць самім. Толькі тады можна зразумець, што такое — гэтая прыгажосць.

Маці йдзе наперадзе, захутаная ў хусту. Апратка на ёй бедная. Бедна апранутая і Гелка — старэнькая чырвоная паркалёвая сукенка, на локцях латкі з другой тканіны. На нагах у Гелкі цяжкія запыленыя чаравікі з разяўленымі наскамі і перакручанымі абцасамі. Зірнуць на гэтае ўбоства вострыя Гелкіны вочкі — і хочацца дзяўчынцы прабегчы разам з маткаю як мага хутчэй, каб ніхто не паспеў іх разгледзець. «Сорамна перад гарадскімі, — думае яна, — сорам перад гэтымі прыгожымі вуліцамі…»

— Не спыняйся! — зноў крычыць маці. Маці злуецца. Дома Гелка ведае, чаму, кожны ў мястэчку ведае, нават далёкія суседзі: таму што доля ў яе чорная, таму што Гелка ёсць на свеце, а ёй, Гелцы, не трэба было нараджацца на гора і мукі, таму што на гарбе сядзіць вялікая сям'я, куча дзяцей — ненаедных крыкуноў, а хлеба няма. Уся матчына злосць — Гелка ведае — гэта мяшэчак мукі… Зранку скаланае хату матчын крык: «Мяшэчак мукі… дзе ўзяць мяшэчак мукі?» О, каб толькі ёй дастаць недзе мяшэчак мукі! Але ж цяпер — на Гелчын розум, — калі яны тут, у гэтым прыгожым горадзе, такім прыбраным і светлым, дзе маляваныя вазкі коцяцца там і тут і людзі ходзяць багатыя, начыпураныя, з парасонкамі, з сумачкамі ў руках, а іхні бедны дом гэтак далёка, — чаго ж тут ёй злавацца?

— Не спыняйся! — зноў крычыць маці. — Чаго ты спіш на хаду? Калі ты будзеш і *там* гэтак, дык мецьмеш яшчэ тыя шчасныя гадочкі!

Гелка ведае, дзе гэтае *там*. Акурат туды яны цяпер і кіруюцца, — у багатай сваячкі, да якой яны й паехалі з дому. Гелка ведае, што маці вязе яе туды, каб там пакінуць. І дзяўчынцы ўспамінаецца ў гэтую хвіліну роднае мястэчка: менавіта цяпер, за поўдзень, паабедаўшы, дзяўчынкі з мяшкамі і капачамі ідуць да Рудой гары па жоўты пясок, якім пасыпаюць дол каля дома.

Была б цяпер яна там, і яна б крочыла да Рудой гары. Але маці вырашыла сваё, і вось уваходзяць яны ў вялікі двор, і збіраюцца нібыта на вялікае гарышча — лесвіца так, лесвіца гэтак. Дзверы з усіх бакоў — і зноў лесвіца. І зноў дзверы!..

— Рота не разяўляй, — бо калі звалішся, касцей не збярэш, — кідае маці з раздражненнем і злосцю. І Гелка забягае наперад, намагаючыся ўгадаць, у якія дзверы мае ўвайсці маці...

Усе сядзяць, сядзіць і Гелка. Маці туліцца збоку, а сваячка — мажная кабеціна ў чырвонай кофце — узвышаецца за сталом. Пакой вялікі. Тут дзверы і там дзверы, а насупраць — зноў дзверы. Тут стаіць стол, а тута — камода, а вунь там — мяккая канапа. Гелка аглядае кожную рэч паасобку. Вось вісіць вялікая карціна. А тыя дзверы насупраць — што за імі? Ёй хацелася б ведаць, што там стаіць. Хоць бы зірнуць збольшага. А гэта — гадзіннік? Які дзіўны! Проста нейкая бела-серабрыстая скрынка. Ён не вісіць на сцяне, а стаіць на століку, і калі б не было цыферблату і стрэлак, дык ніякім чынам няможна было б адгадаць, што гэта — гадзіннік. Цікава, колькі можа каштаваць такі гадзіннік? Прыгожы ён ці не — цяжка сказаць. Напэўна ж, калі ён знаходзіцца ў вялікім горадзе ў багатых людзей, мусібыць прыгожы. Толькі Гелцы больш даспадобы гадзіннік з птушкаю, як у іхнім мястэчку ў Амерыканца. Кожную гадзіну, калі трэба прабіць, адчыняюцца дзверцы, выскоквае птушка і спявае. Гадзіннік паказвае дзесяць — яна спявае дзесяць разоў, а калі адну гадзіну — адзін раз.

— Галава ў яе светлая, — кажа маці кабеціне. — Што б яна ні ўбачыла, усё разумее. Майстрыха на ўсе рукі: памые бялізну — тая ззяе, памые падлогу — хоць коўзайся па ёй. Каб не маё горкае шчасце, мая чорная доля, калі не дачакацца мяшэчка мукі…

— Колькі ж ёй? — пытаецца кабеціна.

— Ужо адзінаццаць, дванаццаты гадок пайшоў* .

Маці кажа няпраўду, зазначае Гелка, ёй будзе толькі дзесяць.

— І куды ж мне яе дзяваць? — кажа маці, і ейны голас раздражнёны і здушаны. — Каб не вы, хоць на вуліцу выгані, хоць камень уздзень ёй на шыю і — у ваду (адсохні язык такое вымавіць!).

---

* Па яўрэйскай традыцыі паўналецце хлопчыкаў надыходзіць у трынаццаць гадоў, дзяўчынак — у дванаццаць.

— Але ж яна яшчэ зусім дзіця, — гаворыць сваячка. — Што можа рабіць такая маляўка?

— Што вы гаворыце? — горача пярэчыць маці. — Дзе вы бачыце дзіця? Адзінаццаць год, дванаццаты — дзяўчына! Яна такі ў мяне не надта рослая… Дык з чаго ж ёй быць рослаю? Якая ў яе яда? Пакуль я дастану дзе-небудзь мяшэчак мукі… І на колькі ж хопіць таго мяшэчка?..

— З такім дзіцём, — гаворыць сваячка, — больш работы, чым яна сама здольная зрабіць!

— Залежыць ад таго, што за дзіця, — кажа маці. — Дзіця дзіцю не раўня! У мяне ёсць розныя дзеці: і меншыя, і большыя. І для ўсіх я мама, і ўсе мне дарагія. А гэтая… — няма чаго й казаць… Не я, беднасць мая прывяла яе сюды. Крывёю сэрцайка маё абліваецца.

Пры гэтых матчыных словах Гелка перастае аглядвацца навокал. Ёй хочацца плакаць… Не сядзела б тут гэтая кабета — расплакалася б Гелка ўголас ад матчыных словаў. Так раняць, так бяруць яны за душу!

Сваячка аглядае яе. Гелка сарамліва апускае вочы, і плакаць хочацца яшчэ горай.

— Вы гаворыце — маленькая, — кажа маці. — Вядома ж, маленькая… І гарчэй мне за палын, што я такая нешчаслівая маці, бо мушу адарваць ад сябе дзіця, як вы гаворыце, маляўку, і пакінуць яе адну ў чужым доме. Хоць вы і радня, свой чалавек, родная кроў, а ўсё не матчына хата. Але што ж мне рабіць? Калі канчаецца мяшэчак мукі, дык апошні хлеб я дзялю на кавалачкі, як лэках* . Каму дастанецца, а каму й не. Ці ж многа я хачу? Каб дзіця мела акрайчык хлеба ў рот пакласці, усяго акрайчык хлеба…

І тут уваходзіць служанка з немаўляткам на руках.

— Ой, што за дзіця, ну брыльянт! — падхопліваецца маці. — Прыгожая, як золата!

Гелка ўскоквае з месца. Бо разумее: маці хоча, каб яна ўзяла малое.

— Да мяне, да мяне, бэбэлэ! Да мяне, хадзі да мяне, трэйстэлэ, радасць мая!

Яна ўсміхаецца і шчоўкае языком. Дзіця гучна смяецца, паказвае свой язычок. Цягнецца да Гелкі, ахвотна ідзе да яе на

---

* Мядовы пірог.

рукі.

— Ну, бачыце, Двойрачка, як дзіця цягнецца да яе! Кажу вам, яна прыроджаная нянька! Яна выгадавала ўсю маю малечу. У мяне ёсць малая дзяўчынка, яшчэ зусім крошка. Не ведаю, як будзе яна без сваёй нянечкі.

Гелка чырванее ад матчыных словаў і сваёй гордасці.

— Бачыш, козачка, вунь козачка, — паказвае яна дзіцяці на карціну. — Бачыш, гадзіннічак: цік-так… цік-так… Гадзіннічак: цік-так…

Немаўлятка ўзнімае вочкі ўгору і рагоча. Смяецца і сваячка.

— Як завецца вашая дзяўчынка? — пытаецца яна.

— Гелка, Геля, — адказвае маці. — Імя далі па бабулі Гелі.

Сваячка нешта шэпча служанцы. Тая выходзіць.

— Я вам кажу, вы самі ўбачыце, хто такая Гелка! Яна і пялюшкі памые, і дзіця дагледзіць, і яго закалыхае, і яго пазабаўляе. Дзіцяці будзе добра, як у маці на руках.

Гелка не глядзіць на маці, але чуе, як ейны голас робіцца вышэйшы і мацнейшы. І Гелка стараецца, гучней смяецца да немаўляці, робіць яму «нос». Дзіця ажно заходзіцца ад шчасця і радасці, ягоная матка цешыцца таксама.

Тым часам служанка ўносіць на бляшаным падносе талеркі з нарэзаным селядцом і сырам і ставіць на стол:

— Перакусіце крыху, — звяртаецца сваячка да маці, вы ж, напэўна, прагаладаліся, у дарозе доўга не еўшы.

— Дзякуй, — адказвае маці, — гэта хто тут хоча есці? Мы, дзякуй богу, сытыя…

— Ой, ды вазьміце вы каліўца ў рот, — гаворыць сваячка. — Хай і дзяўчынка заморыць чарвячка. Хадзі, дзяўчынка, з'еш штокольвечы.

Але раз маці не хоча, Гелка не хоча таксама.

— Дзякуй, — выдыхае яна. — Я не хачу, я сытая.

— Слоў няма, — працягвае маці нахвальваць Гелку. — Каб вы ведалі, што гэта за святая істота! Вы можаце каля яе золата паставіць — яна не дакранецца. Мае дзеці (я ўжо казала) і ў зародку зайздрасці не маюць на чужое. Нічога ім не хочацца.

Гелка думае, што менавіта зараз яна б і паела, есці ёй такі хочацца. Аднак, раз маці не есць — і яна не будзе. Толькі чаму маці адмовілася? Сёння ж цэлы дзень у яе і скарыначкі ў роце не было (акурат учора скончыўся мяшэчак мукі). Кавалачак селядца, памачанага ў воцат, з лустаю хлеба — што бывае смачнейшае! Альбо кавалачак сыру…

— Дзяўчынка, чаго ты саромеешся? — пытаецца сваячка. — Ідзі паеш.

І яна намерваецца падвесці Гелку да стала. Але Гелка не даецца і адмаўляецца:

— Дзякуй, я не хачу. Спытайцеся ў мамы, я — сытая!

Вось ужо Гелка з дзіцяткам у тым пакоі, куды ёй нядаўна так карцела зазірнуць.

Вялікі пакой. Тут стаяць побач два вялікія, прыгожа засланыя белыя ложкі. Каля сцяны — вялікая камода і столік з доўгім абрусам. А на вокнах — цяжкія парцьеры. Але прыгажэйшая за ўсё — маленькая калысачка: акуратненькія, бы лялечныя, колцы і маляваны кузавок. Усё так і цешыць вока. Колькі жыве, такой калыскі Гелка яшчэ не бачыла. І ніводная з яе сябровак, напэўна ж, таксама. Выдатная калыска! Але не на закалыхванне: каб закалыхваць дзіця, на Гелчын густ, лепшая простая драўляная калыска. Альбо нават люлька, падвешаная да бэлькі, такая, як у яе маленькай сястрычкі. У такой люльцы засынаецца хутчэй, і яна не стукаціць.

Гелка калыхае ўжо не менш за гадзіну, а дзіця не спіць. Яна пераспявала ўсе свае песенькі, а вочы ў малога ўсё не заплюшчваюцца.

У доме нікога няма. Гаспадыня-сваячка пайшла некуды, апрануўшы прыгожае кароткае манто і капялюшык. Пайшла і маці.

— Гелка, Геля, — сказала маці перад тым, як пайсці, — будзь чалавекам, тут табе не дом і не мама.

Сказана ўсяго некалькі словаў, а ў Гелкі пакаціліся слёзы, якія ўжо так даўно збіраліся ў яе ў вачах.

— Няма чаго плакаць, — сказала маці суха і раздражнёна і адвярнулася. — Табе тут будзе лепей, чым дома: дома няма ні кавалачка хлеба.

Гелка, трымаючы дзіця, падышла да акна і зірнула на вуліцу, як у глыбокі калодзеж.

— Бачыш, бачыш, бэбэлэ, вунь там едзе конік. Ой, конік! Вунь едзе пані з чырвоным парасонкам. Бачыш, вунь насупраць дом з вялікімі вокнамі, з прыгожымі фіранкамі. А вунь, бачыш, бэбэлэ, ідзе мая мама... мая мама… — і яна заціснула зубамі краёк дзіцячай кашулькі, каб стрымаць слёзы, якія падступілі не да вачэй — да самага сэрца…

Дзіця не спіць, яно, напэўна, хоча есці. Хаця, не. Калі б яно было галоднае, то крычала б. Немаўляты, калі хочуць есці, крычаць.

Вось ляжыць амаль цэлая хала* . З краю абламаны ўсяго невялікі кавалак. Такая хала… Гелцы б толькі адшчыкнуць, каб пакаштаваць! Пакаштаваць жа можна… Такую халу!.. У іхнім мястэчку нават на вяселле не спякуць такую! Жоўтая, як шафран, з разынкамі — адзін цукар! Яе не трэба глытаць — сама разыходзіцца ў роце! Калі б маці ўбачыла такую халу, што б яна сказала?!

Дзіця не спіць, і Гелка спявае. Добрая песня. Жаніх ад'язджае і пакідае нявесту. Нявеста ідзе ў поле і плача. Пераходзіць масток і плача. Ноччу, калі ўсе спяць, сядзіць каля акна і плача. Садзіцца есці — і кавалак становіцца ўпоперак горла, — яна плача… Гелка ўмее спяваць гэтую песню. У іхнім мястэчку яе спяваюць дарослыя дзяўчаты. Калі яна зацягвае гэтую песню, сэрца сціскаецца. І ёй таксама хочацца плакаць… Гелка змахвае рукой слёзы. Лепш праспяваць вясёлую песню. Як нявесту вядуць пад вянец. Але Гелка абрывае спеў.

Вялікая майстрыха гэтая служанка, калі ўмее так пячы. Напэўна, яны пякуць шмат, калі хапае аж да серады… Гелка адпускае калыску і падыходзіць да століка. Яна бярэ халу ў рукі. Што за водар! Можа, гэта зусім і не хала, можа, гэта торт? Яна адшчыкне кавалачак і схавае, каб дома пахваліцца сяброўкам… Але зараз жа ўспамінае Гелка, што мусіць застацца тут і сяброўак убачыць зусім не скора. І яна цяжка ўздыхае.

Як яна не заўважыла, што адламіла кавалак? Адламіла з аднаго боку, і гэта відаць, бо другі бок надлому выступае. Яна адшчыкне з другога боку і зноў пакладзе халу. І больш нават думаць не будзе пра яе. Ва ўсім вінаваты гэты водар. Водар і смак прасочваюцца ў самую душу.

Яна глядзіць на ложкі, камечыць краёк коўдры — такая белая і пухкая, як здобнае цеста… Невыказная туга сціскае сэрца… Хочацца плакаць, кусаць пальцы, качацца па ўсім пакоі і ўсё наўкол кусаць, кусаць!..

На краі століка ляжыць хала. Толькі Гелка не глядзіць на яе. Побач стаіць нейкі белы куфэрак. Яна будзе лепш глядзець на куфэрак. Адчыніць бы яго і зірнуць, што там схавана. У куфэрку ляжаць картачкі і шпількі. Яна ўсё вынімае, яна толькі паглядзіць і ўсё пакладзе назад. Яна толькі падлічыць, колькі гэтых картачак…

Няўзнак Гелцы прымроілася накрышаная бручка: маці рэжа

---

* Вялікая здобная булка.

бручку на цымус*, а яна з-пад нажа выхоплівае кавалачкі і есць. Саладзенькая бручка, саладзенькая і жоўтая, як хала. Дзіўны сон, думае Гелка. «І вось я лічу картачкі і ем халу». І яна куснула яшчэ раз. Яе зубкі, вострыя і моцныя, увайшлі ў свежае печыва і раптам застылі…

У дзвярах стаяла гаспадыня-сваячка, яшчэ ў капялюшыку і манто, і глядзела на Гелку.

Гелка хацела ўскрыкнуць, але рот быў заняты. Яна хацела выплюнуць, але зубы свайго не аддавалі і хуценька жавалі.

— Што гэта такое ты робіш? — спыталася сваячка, аглядаючы ўвесь пакой, — што ты тут учыніла? — Яна ўтаропілася ў рассыпаныя картачкі.

Абкусаная з усіх бакоў хала валялася каля Гелкіных ног. Гелка апусціла вочы. Зубы сціснуліся, і яна не магла вымавіць ні слова…

Назад яны ішлі тымі ж вуліцамі. Гелка і маці. Толькі вуліцы ўжо не выглядалі так прыгожа, як раней, і Гелку ўжо не захапляла аніводная рэч. Наперадзе зноў ішла маці, пахмурная і злая, а за ёю цягнулася Гелка, ціхая і спалоханая…

* Салодкая страва з паранай гародніны, часцей морквы ці бручкі.

# ПРАЗ СЦЯНУ

Маленькая Ленэлэ* вяртаецца з прагулкі і дазнаецца, што ў пакоі за сцяной цяпер жыве новы сусед. Яна адразу сцяміла, што ў суседа ёсць дзіця, прычым такога ж узросту, як яна сама, бо з-за сцяны быў чуваць страшэнны прарэзлівы плач.

— Ты чуеш, — гаворыць яна маме, — там плача дзяўчынка. З чаго б гэта яна так? Я спытаюся ў яе.

І яна тут жа пастукала костачкамі сваіх маленькіх пальчыкаў у сцяну і спытала:

— Дзяўчынка, дзяўчынка, чаго ты плачаш?

Плач суняўся.

— Глядзі, памагло, — кажа Ленэлэ маме.

Праз хвілю з-за сцяны чуецца дзіцячы голас, ужо, аднак, без плачу:

— І зусім я не дзяўчынка, я хлопчык!

— Ах, хлопчык… — скрывілася Ленэлэ і адышлася ад сцяны. — Хлопчыкаў я не люблю. Калі ён хлопчык, то хай сабе там і плача.

Неўзабаве з-за сцяны чуецца стук маленькіх кулачкоў. Ленэлэ набліжаецца да сцяны.

— Як цябе завуць? — пытаецца хлопчык па той бок сцяны.

— Ленэлэ.

— Ленэлэ? Дзяўчынка? А я думаў — хлопчык… Дзяўчынак я не люблю. З дзяўчынкамі мне нецікава гуляць.

І хлопчык адыходзіць ад сцяны.

— З дзяўчынкамі ён не любіць гуляць, — перадае Ленэлэ маме.

— Ты не любіш хлопчыкаў, ён не любіць дзяўчынак, так што вы квіты, — гаворыць мама.

— Але ж калі я не люблю хлопчыкаў, дык гэта таму, што яны дрэнныя. А дзяўчынкі добрыя, дык чаму ён іх не любіць?

Ленэлэ засмуцілася, але мама падбадзёрвае яе:

— Гэта таму, што вы яшчэ не знаёмыя. Калі вы пазнаёміцеся, то спадабаецеся адно аднаму.

І тут жа чуецца стук хлопчыкавых кулачкоў.

— Дзяўчынка, дзяўчынка!

Ленэлэ набліжаецца да сцяны:

— Што?

— Дзяўчынка, цябе завуць Ленэлэ?

---

* Адпавядае беларускаму Леначка, Аленка.

— Ага, Ленэлэ, а як цябе?
— Кімікл*.
— Кімікл? Кімікл — гэта прыгожа.
— Ленэлэ, мне хочацца з табой сябраваць. Давай разам гуляць.
— І я хачу з табой сябраваць і гуляць разам.
— Хадзем да нас, Ленэлэ.
— Хадзі ты да нас, Кімікл.
— Не, ты ідзі да нас, — кажа Кімікл, — у нас дзверы зачыненыя, і я не магу да вас трапіць.
— У вас дзверы зачыненыя? Дык як жа я да вас траплю? А ў нас дзверы адамкнёныя, дык хадзі ты да нас.
— У вас дзверы не зачыненыя? Дык ты можаш пайсці да нас!
— А як я ўвайду да вас, калі ў вас замкнёна?
— Хм… Праўда, як жа ты ўвойдзеш?
— Тады як жа мы зможам гуляць?
— Выходзіць, гуляць мы не можам…
— А давай гуляць праз сцяну.
— Добра, давай гуляць праз сцяну... Усіх дзяўчынак, — кажа Кімікл, — я не люблю, а цябе люблю.
— І я таксама, усіх хлопчыкаў не люблю, а цябе люблю.
— Ты заўсёды будзеш са мною сябраваць?
— Заўсёды.
— Я падарую табе коніка. У мяне іх два, дык адзін будзе мой, а другі — твой.
— А я табе падарую ляльку. У мяне ажно тры.
— Лялька — дзяўчынская гульня, з лялькамі гуляюць дзяўчынкі.
— А з коньмі гуляюць хлопчыкі.
— Тады я падарую табе пугу.
— А табе — мерку на крупы. Будзеш мерыць крупы, каб варыць кашу лялькам.
— Я ж хлопчык. Я ў «варыць кашу лялькам» не гуляю.
— А я табе не хлопчык, каб дарыць мне пугу. З конікамі гуляюць хлопчыкі.
— То як жа мы будзем гуляць?
— Ну, не будзем больш гуляць, і я застаюся без сябра.

* Памяншальнае ад імя Кім.

— Мне будзе сумна.

— І мне таксама.

— Ведаеш што, Ленэлэ, давай расказваць гісторыі.

— Добра, гісторыі дык гісторыі.

— Расказвай, Ленэлэ.

— Расказвай ты, Кімікл.

— Я табе раскажу пра мядзведзя, пра вялікага белага мядзведзя.

— Мядзведзяў я баюся.

— Ты баішся мядзведзяў?

— Мядзведзь кусаецца. Мядзведзь гам — і праглыне дзяўчынку. Ён і хлопчыка можа з'есці.

— Хлопчыкаў ён не есць.

— Чаму?

— Хлопчыкі дужыя. Хлопчык можа злажыць мядзведзя.

— А ты хоць раз злажыў мядзведзя?

— Не адзін раз. Мо шэсць разоў.

— Шэсць разоў? І ты не спалохаўся?

— Не, я дужы, я не пужаюся.

— Ты іх у лесе злажыў?

— У дрымучым лесе.

— А як гэта было?

— Я паклаў мядзведзя, а ён уцёк ад мяне.

— Куды ўцёк?

— За палі, за лясы.

— І ты яго не злавіў?

— Не-а. Навошта мне яго лавіць?

— А раптам ён прыйдзе да нас ізноў?

— Ён не прыйдзе, ён не знойдзе дарогі.

— Кімікл, я цяпер ведаю, чаму ты плакаў.

— Я плакаў?

— Раней, калі мы з мамаю прыйшлі з вуліцы, ты плакаў.

— Ты сама чула? Тады скажы, чаму я плакаў?

— Ты баяўся мядзведзя.

— Мядзведзя? *Я* баяўся мядзведзя?

— Ты, Кімікл, ты.

— Я цябе не люблю!

— І я цябе не люблю і не буду з табой больш гуляць!

— Я скажу мядзведзю, каб ён цябе з'еў. Ён сядзіць у вас пад

дзвярыма і зараз улезе да вас.

— Мама, — імпэтна ўскоквае Ленэлэ, — хутка замкні дзверы! Бо пад імі сядзіць белы мядзведзь!

— Ах вы дурненькія дзеткі! Мядзведзі не бадзяюцца па вуліцах, і не ходзяць па дамах, і не ядуць дзетак, — са смехам гаворыць мама Ленэлэ.

І Ленэлэ засаромлена апускае вочы.

## ЖЭРКА

Жэрка — малады жарэбчык, улюбёнец сваёй маткі і ўсяго двара. І не дзіва: Жэрка — жарабец спрытны, асоба, не ў сваю састарэлую, спрацаваную матку. Урадзіўся ён як дзве кроплі вады ў свайго бацьку: такая ж аксамітна-чорная поўсць і такія ж белыя панчошкі на ўсіх чатырох нагах. Акурат такія ж белыя зоркі ў сярэдзіне грудзей і на ілбе паміж вачыма.

У калгасе ведаюць, што гадуецца будучая гордасць і надзея, як ягоны бацька, што ў табуне, і з цягам часу з Жэркі вырасце хвацкі конь.

Але што яму з таго, калі ён не можа адарваць матку ад працы. Ягоная матка мусіць, як звычайна, працаваць. Калі яна, запрэжаная, цягне груз, Жэрка бяжыць збоку.

Дзіця застаецца дзіцём! Якімі б разумнымі вы ні былі, жыццё ягонай маткі вам нават уявіць цяжка. Жэркава матка цягне паклажу, а ён бяжыць пры ёй, і ўсё наўкола яму дзіва, і ўсё яму — гульня. Вось цягне яго ў жыта ўбіцца, вось хочацца яму глянуць, а што гэта там за раўчук? Ён ляціць, скача, свет ставіць дагары нагамі — ідзі ганіся за ім!

Матка паварочвае галаву ў ягоны бок і кліча то дабром, то строга, каб ён не сваволіў, не чыніў тлуму, каб усё было як след. Як бы не так! Ён жа — конь-агонь, ён нават не адгукаецца. Гэта ў яго гульня — схавацца сярод калосся, — і ідзі ганіся за ім!..

А тут яму захочацца піць. Толькі пачнуць ехаць, а ён лезе пад матчын жывот і ссе. Не, калі Жэрка побач, работы не чакай. Застаецца адно — пакідаць яго дома, на калгасным двары.

Толькі ж дома без маткі ён сумуе. Бегае па двары, шукае яе, кліча. Ён схопліваецца з сабакам, з квактухаю, менавіта з яе місы яму хочацца паласавацца і менавіта ў тыя дзверы, за якімі

знаходзяцца людзі, яму хочацца ўлезці. Ці горш за тое: карціць яму трапіць у гародчык, дзе спеюць агуркі.

Не, жыцця з ім няма. Трэба гэтыя ножкі ў белых панчошках спутаць. Тады ён робіцца, як маленькае капрызнае дзіця. Малочная мешанка, якую ставяць перад ім, яму не да спадобы. Ці то яна зарэдкая, ці то колер у яе не той, чымся ў пітва з-пад матчынага жывата, толькі яму не падабаецца. Хоць ногі спутаныя, ён усё ж неяк перакульвае цабэрак. Што тут зробіш? Да заходу сонца яшчэ добрыя паўдня, даводзіцца некаму начапіць на яго вяроўку, распутаць і весці на повадзе гуляць.

Можаце сабе ўявіць, што гэта няпростая рэч — мець дачыненні з Жэркам. Варта яму адчуць, што ногі вызваленыя, варта выйсці за вароты, здаецца малому, што перад ім адкрыты цэлы свет. Здаецца яму, зараз знойдзе ён матку (яна, пэўна, таксама выйшла з ім за вароты), і разам пусцяцца яны ў далёкую дарогу. І тут яму хочацца есці. Хоць крычы, гэтак хочацца! Ён бегае, скача — і ідзі ганіся за ім!.. Каласы казычуць жарабяці аксамітную скуру, і яму прыемна. Гэта нагадвае пяшчотны дотык цёплых матчыных губ. І ён імчыцца ў жыта, і ломіцца калоссе пад ягонымі нагамі. Кіслая справа — выганяць яго са збажыны! Вяроўка, за якую яго трымаюць, Жэрку — нішто! Калі яна слабая — ірве яе, калі моцная — блытаецца ў ёй, вось-вось задушыцца. Яго сцябаюць — малы думае, што гэта гульня. Гарцуе, ржэ. А можа, увогуле рагоча? Чыстая праўда, малады жарэбчык умее смяяцца. Калі сонейка ззяе і анівошта не баліць, хочацца смяяцца. Смяюцца ўсе, смяецца ўсё, што жыве, адчувае, дыхае…

Выганяць Жэрку нарэшце з жыта, дык ён ускочыць у авёс. Відавочна, думае, што жыта — для людзей, а авёс такі — для коней. Дык ці ж не ўсё адно — раней ці пазней — есці ці гуляць у ім? Зрэшты, ён — толькі жарабя, маладзенькі жарэбчык. А на вуліцы цёпла, і сонейка ззяе, і хочацца гуляць. Ай, як хочацца гуляць, калі ўсё цела вольнае і можна ўцячы ад штуршкоў, тузаніны, пугі! Ён так і робіць: бяжыць і ляціць, і нясецца, як вецер, з поля ў поле, смяецца і дурэе і п'е асалоду.

— Ну, няшчасце, — злуецца той, каму давялося весці Жэрку. — От зараз я злаўлю цябе, от дам пытлю! Хай толькі спаймаю!

І чалавек бяжыць следам і мусіць таксама таптаць і пляжыць дарагія пасевы.

Набегаўшыся і наганяўшыся, чалавек прыводзіць яго ў та-

бун, дзе пасвіцца шмат коней. Спярша Жэрка пужаецца. Ён стаіць на месцы. Але неўзабаве яму робіцца радасна — столькі коней вакол, столькі матак! Зараз ён знойдзе сваю! З вясёлым іржаннем ляціць малы на пошукі наўскапыт. Вось, здаецца, і яна. Ён нахіляецца пад кабылячы жывот і ссе.

Чужая матка ставіцца прыхільна, яна думае, напэўна, дзіця хоча піць, дзіця шукае сваю матку, а ягоная матка, канешне, дзесьці на працы. Што ж, трэба наталіць дзіцяці смагу. Дзіўнавата касавурачыся, лагодна і аддана глядзіць яна, як чорнае чарцяня ў белых панчошках смокча з яе белы напой; яна нахіляе да яго галаву, поўная добразычлівасці, і, напэўна, гаворыць на сваёй конскай мове: «Пі, пі, жарэбчыку, пі на здароўе!»

Але знянацку налятае з абурэннем ейнае хлапчаня — руды жарэбчык. Гэта ягоная матка! Што за брыда! Ягоную матку ссе другі. Смокча і смокча! З іржаннем нападае руды жарэбчык на Жэрку. І калі б не ўмяшанне старой клячы — маткі Рудога, невядома, што ўчынілі б яны адно аднаму. Але конская матка строга накрычала на абодвух і прыхінула да сябе сваё дзіця. А бедны Жэрка застаўся збянтэжаны, пабіты, з поўным ротам сліны.

Тым часам на галас збегліся іншыя — маладзейшыя і старэйшыя — коні з табуна. І — глядзіце: немаведама адкуль з'явіўся яшчэ адзін — акурат такі ж, як Жэрка, прыгожы скакун, аксамітна-чорны, у белых панчохах і з белым гальштукам на грудзях. Гэта, несумненна, Жэркаў бацька. Аднак конь застаецца канём, бацькоўства ён не адчувае. Маладому каню хочацца сутыкнуцца з сабе падобным, хочацца выпрабаваць свае сілы, назапашаныя на свежых мурагах. «Глядзі, — гаворыць ягоны ганарысты пагляд і высока ўскінутая галава. — Глядзі, чужы хлопец! Адкуль ты, гіцаль, узяўся, і хто цябе клікаў? Ужо я табе!» І ўскідвае стройныя ногі, і навальваецца на беднага Жэрку. Добра, што іншыя коні адцягнулі неяк ягоную ўвагу, а не — стаптаў бы небараку Жэрку тата-конь!

Такі паварот падабаецца іншым коням. Яны фыркаюць, ржуць, смяюцца, матляюць галовамі, гуляюць. Са спутанымі нагамі пускаюцца яны галопам да раўчука. А Жэрку вядуць прэч.

— Хадзем, дружа, дахаты, — кажа чалавек. — Твая матка хутка вернецца.

Але Жэрка не надта ўзрадаваны. Яму падабаецца конская кампанія. Неахвотна ідзе ён дадому, вырываецца, бяжыць назад. Ізноў упадае ў жыта, цяпер ужо не гуляючы, а злуючы, што яго

забіраюць адгэтуль. «А-га, а-га», — плача ён. Прыгледзьцеся, прыгледзьцеся пільней да ягоных цёмна-карых вачэй. Як набрыньваюць яны слязьмі! Але чалавек, які яго вядзе, выломвае пры дарозе пругкую зялёную лазіну і сцябае яго. Пакрыўджаны, з апушчанаю галавою, дае Жэрка адвесці сябе дадому. Ён ідзе марудна, ужо не ляціць праз поле ці праз луг, а цягнецца па пратаптанай дарозе, па якой рухаюцца коні і фурманкі. Самі па сабе ступаюць ягоныя ногі па слядах, натаптаных іншымі коньмі, запрэжанымі ў цяжкія вазы.

Калі ж ён прыходзіць дадому, сонейка амаль зайшло, хутка ноч. Хутка прыйдзе матка. А пакуль яна прыйдзе, круціцца Жэрка без мэты па вуліцы. Ён спрабуе ступіць на гатовыя пакаціцца бярвёны, што ляжаць непадалёк, але на іх не ўстояць: ногі саслізгваюць. Жэрка сярдуе. Ён зноў натрапляе на свайго ворага — чорную курыцу з куранятамі. Адно ён стаптаў выпадкова на тым тыдні, дык курыная матка — ягоны вораг. Калі яна яго бачыць, дык сварыцца на яго гэтая чорная курыца. «Ко-ко-ко, ко-ко-ко-ко, — кажа яна куранятам, — прэч ад яго, ад гэтага бандыта, ад лайдака такога!.. Слова даю: выдзеўбу я ягоныя вочы!» А Жэрка адказвае: «Гннн! Гннн! Смяюся я з цябе! У мяне таксама ёсць мама! Вось напушчу яе на вас, дык усе паразлятаецеся!»

Ён лезе на паркан, ён штурхаецца ў дзверы, за якімі людзі. Ад няма чаго рабіць можна ачмурэць. Яму няма чаго рабіць, і Жэрка залазіць у цэбар з вадою, суне сваю чорную галаву ў расчыненыя вокны. І адусюль крычаць на яго, адусюль гоняць яго…

Калі ж нарэшце прыйдзе мама?

І вось яна ідзе. Яна ўжо блізка. Яна гаворыць яму, што ідзе. Матка кліча: «Дзіця маё дарагое! Я нясу табе добрую салодкую ежу, цэлы дзень назапашвала яе для цябе!»

Ён кідаецца насустрач, ён ляціць чорнай стралою над полем, над дарогаю. Вунь, вунь яна! Спяшаецца да яго. «Мама, мамачка!» — і — стоп! Вось стаіць яна. Вось стаіць ён. І яны глядзяць адно на аднаго вільготнымі добрымі вачыма, абодва стомленыя, змакрэлыя ад поту. Яны знудзіліся адно па адным… Ён апускаецца на калені, знаходзіць тое добрае, што яна яму прынесла, і п’е, п’е… Гэта ягоная, ягоная мама!

Напіўся. Досыць. Цяпер матка рушыць у двор, а ён скача пры боку, гуляючы і ржучы. Ён кажа чорнай курыцы, ён кажа сабаку: «Мая мама прыйшла!»

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор РЭЛЕС*

## НЕЗАБЫЎНАЯ СУСТРЭЧА

У адзін з цудоўных, прыгожых восеньскіх дзён малады празаік Мота Дзяхцяр, малады паэт Рува Рэйзін і я сядзелі ў скверы, што на вуліцы Энгельса. Сонца было ўжо не гарачае, але з прыемнай цеплынёй абагравала ўсё навокал. Лістота на дрэвах пажаўцела і ад лёгкага подыху ветру падала на траву. Сытыя вераб'і весела чырыкалі на голлі дрэў. А з вуліцы даносіўся шум машын і цоканне капытоў па бруку. Асфальтам была пакрыта толькі вуліца Леніна. Фаэтонаў тады ўжо не было. Коні былі запрэжаны ў вазы на гумавых колах. Гэты транспарт абслугоўваў бакалейныя крамы.

Між намі цякла гаворка пра прэм'еру драмы Майсея Кульбака «Разбойнік Бойтра». Спектакль гэты падабаўся гледачам, і нам таксама. Каля нас на лаўцы сядзела немаладая пара. Мужчына быў апранены ў стары пінжак, відаць, замежнага пакрою, бо ў нас такіх пінжакоў амаль ніхто не насіў. Ён чытаў яўрэйскую газету «Акцябэр» («Кастрычнік») і час ад часу кідаў на нас позірк. Мабыць, хацеў умяшацца ў нашу гутарку, але неяк не адважваўся.

Жанчына была апранена ў сінюю кофту. Яна вельмі блізка да вачэй трымала разгорнутую кнігу. Відаць, была ніцавокая. На нас не звяртала ніякай увагі. Аднак адчувалася, што і яна прыслухоўваецца да нашай размовы.

— Разбойнік Бойтра мне нагадвае купалаўскага Машэку, — сказаў Мота Дзяхцяр.

І мы пагадзіліся з ім.

— Маладыя людзі, — не вытрымаў мужчына. — Па ўсім відаць, што вы яўрэйскія пісьменнікі.

Жанчына яму штосьці буркнула, і ён адвярнуўся ад нас і ўтаропіўся ў разгорнутую газету.

Нам не да спадобы прыйшліся паводзіны жанчыны. Чаму ёй так не хочацца, каб ён з намі пагаварыў? Няўжо думае, што мы нейкія хуліганы і лепш з намі не звязвацца? Назло ёй Дзяхцяр запытаў у яго:

— Скажыце, калі ласка, а чаму вас цікавіць, ці мы пісьменнікі?

— Вы гаворыце пра Кульбака і пра яго п’есу, вось я і падумаў, што вы пісьменнікі.

— Ну, а калі і пісьменнікі, дык што?— зноў не стрымаўся Дзягцяр.

— Я пастаянны чытач часопіса «Штэрн»,— адказаў ён. — Дык, можа, я чытаў вашы творы.

— Колькі паўтараць табе, каб ты не ўмешваўся ў чужыя размовы?

— Маўчу, маўчу,— адказаў ён ёй і зноў мусіў прыкуць позірк да газеты.

Праз колькі хвілін яна штосьці ціха сказала яму. Ён засунуў пальцы ў верхнюю кішэню, дастаў адтуль некалькі манет і аддаў ёй. Яна паднесла гэтыя манеты блізка да вачэй, потым заціснула іх у далонь, паднялася з месца і пайшла на выхад са скверу.

— Відаць, вам нямала дастаецца ад вашай жонкі?— запытаў у яго Дзягцяр.

— Вы зрабілі паспешлівы вывад,— пакрыўджана адказаў яму мужчына. — Яна зусім не такая, як вы думаеце пра яе.

Ён ад нас адвярнуўся і зноў узяўся за газету. Адчувалася, што ён пакрыўдзіўся на нас.

— Так, мабыць, я памыліўся,— сказаў Дзягцяр,— тады выбачайце.

Гэта на старога падзейнічала, і ён лагодна запытаў:

— Скажыце, вы сапраўды пісьменнікі?

— Так яно, так,— адказаў Мота. — Толькі, мабыць, вы пра нас нават не чулі, таму што мы не багата твораў напісалі. Ну я, напрыклад, Мота Дзягцяр.

— Празаік з Палесся,— дадаў стары. — Чытаў вашы апавяданні ў часопісах «Штэрн» і «Акцябэр».

Высветлілася, што ён і вершы Рувы чытаў, і мае таксама.

— Ну, калі так,— сказаў стары,— дык я вам паведамлю сакрэт, толькі ў прысутнасці маёй жонкі зрабіце выгляд, быццам не ведаеце, хто яна. Яна мяне просіць, каб я не прагаварыўся пра гэта, бо не хоча афішыраваць сябе. Дарэчы, ці чулі вы пра такую пісьменніцу Рахіль Брохес?

— А як жа! Канешне, чулі!— адказалі мы. — Толькі творы яе не чыталі. Бо ў нас яна не выдавалася. Яна ж за мяжой недзе жыве.

— Мне давялося пазнаёміцца з мемуарамі класіка яўрэйскай літаратуры Абрама Рэйзіна, які родам з Дзяржынска, а пражывае ён зараз у Амерыцы. Дык ён у гэтых мемуарах шмат разоў згадвае

Рахіль Брохес. Мабыць, жонка ваша яе сваячніца? — папытаў я.

— Яна і ёсць Рахіль Брохес.

— Не можа быць, — засумняваліся мы. — Калі б гэта было так, дык пісалі б пра гэта ў газетах, і мы ведалі б, што яна тут жыве.

— А можа, вы ў госці сюды прыехалі на нядоўгі час?— запытаў Рува.

— Ды не. Назусім прыехалі. На старасці веку вырашылі прыехаць на бацькаўшчыну, дзе нарадзіліся і дзе прайшло наша дзяцінства і маладыя гады. Усе гады марылі вярнуцца на радзіму. Вось гэта і збылося. Не думайце, што за мяжой там рай нябесны. Яўрэйскаму пісьменніку ўсюды нясоладка. Кнігі трэба выдаваць на свае грошы. Пакупнікоў мала. Тут хоць ганарар плоцяць… І тут таксама не рай, але пра гэта лепш памаўчым… Ой, вунь яна ідзе! Так, ні паўслова — маўчок. Я з вамі ні аб чым не гаварыў.

Ён разгарнуў газету і пачаў чытаць.

І хоць яна была такая ж самая, якую мы бачылі хвілін з дваццаць таму, цяпер жа яна здавалася нам зусім іншаю. Нейкай больш задумлівай, падкрэслена стрыманай і не такой ужо старой, як спачатку нам здавалася.

Заўважыўшы, што мы яе разглядаем, яна ўзяла порцыю марожанага, працягнула нам:

— Хлопчыкі, хто з вас хоча марожанае? — запытала яна і тут жа дадала, паказваючы на мужа: — А гэтаму балбатуну я не дам.

Мы гучна засмяяліся, і на яе вуснах з’явілася прыемная ўсмешка. А муж зрабіў выгляд, быццам уважліва чытае і не звяртае ўвагі на тое, што творыцца навокал.

— Ну, тады бяры, калі ніхто не хоча,— сказала яна яму.

Ён ахвотна ўзяў з яе рук марожанае і пачаў есці.

— А ведаеш, хто яны? — запытаў ён у жонкі і, не чакаючы адказу, адразу дадаў: — Яны на самай справе і ёсць яўрэйскія пісьменнікі. Так што я не памыліўся.

І тут ён назваў нашы прозвішчы.

— Дарэмна вы ўтойваецеся ад нас, — звярнуўся Рува да Рахіль Брохес. — Мы ставімся да вас з вялікай сімпатыяй.

— Не ў гэтым справа, — апраўдвалася яна. — Можа, якраз вам не выпадае знацца з намі, бо мы з буржуазнай краіны сюды прыехалі. Хто яго ведае, як лепей трымацца ў такім выпадку. Нават у рэдакцыю няёмка заходзіць.

— Так, час усё ж напружаны, — сказаў Рува, але Мота кіўнуў яму, і ён замаўчаў.

— Сярод яўрэйскіх пісьменнікаў акрамя вас тут ёсць іміgran-

ты, — сказаў Мота, — і яны някепска сябе адчуваюць.

— Дык яны ж камуністы і маюць паслугі, а мы з мужам беспартыйныя і ніякіх адносін не маем да палітыкі, — адказала яна. — І такімі жадаем застацца да канца.

З цягам часу высветлілася, што сярод імігрантаў больш за ўсё ад сталінскага тэрору пацярпелі камуністы. А Рахіль Брохес і яе мужа хапун гэты мінуў. Магчыма, і таму, што яна ўжо была старая і напаўсляпая.

У 1939 годзе я працаваў у дзіцячай газеце «Піянер Беларусі». Разам з Міколам Целешам мы пераклалі на беларускую мову апавяданне Р. Брохес «Гелька», якое было надрукавана ў гэтай газеце. Час ад часу ў яўрэйскім друку з’яўляліся і іншыя яе апавяданні.

За сваю творчую дзейнасць Рахіль Брохес напісала больш за 200 апавяданняў і навел, а таксама драматычных твораў.

Беларускае дзяржаўнае выдавецтва ў 1941 г. вырашыла выдаць трохтомнік яе твораў. Першы том ужо быў набраны і павінен быў выйсці з друку. Гітлераўскія вылюдкі знішчылі набор і арыгінал. А сама Рахіль Брохес з мужам загінула ў мінскім гета.

# Эдуард
# ГАЛУБОК

Эдуард Уладзіслававіч Галубок нарадзіўся ў 1906 г. у г. Мінску. Сын вядомага акцёра, рэжысёра і пісьменніка Уладзіслава Галубка.

Прымаў удзел у Тэатральнай трупе Галубка. У 1930 г. скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. У 1931–1933 гг. быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры і мастацтва, а з 1934 па 1941 г. працаваў у секцыі этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР. Пасля арышту бацькі ў 1937 г. застаўся без працы, але праз некаторы час вярнуўся ў інстытут. Падрыхтаваў да абароны дысертацыю па беларускай драматургіі. У 1939 г. знаходзіўся ў складзе навукова-даследчай экспедыцыі АН БССР, якая працавала ў радзівілаўскім замку ў Нясвіжы. У час вайны быў на фронце, прапаў у 1943 г. без вестак.

Друкавацца пачаў у сярэдзіне 20-х гг. Выступаў як літаратурны і тэатральны крытык, даследчык фальклору. Яго артыкулы і рэцэнзіі друкаваліся ў часопісах «Маладняк», «Узвышша», «Заклік», «Полымя», «Мастацтва і рэвалюцыя», «Крытыка-бібліяграфічны бюлетэнь», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Звязда» і інш. З’яўляецца адным з аўтараў зборнікаў «Драматургія» (1934),

«Пісьменнік і мова» (1934). У Беларускае дзяржаўнае выдавецтва былі здадзены рукапісы кніг «Шляхі развіцця БДТ-3» (напісана разам з бацькам) і «Мастацкае выхаванне ў сістэме нашай школы», якія зніклі бясследна.

Займаўся ўкладальніцкай працай. Укладальнік кнігі «Дарэвалюцыйная і савецкая Беларусь у народнай творчасці» (1938) і іншых фальклорных зборнікаў.

# КРЫТЫКА

## ДА ПЫТАННЯ АБ ДЗІЦЯЧАЙ КНІЗЕ Ў БССР
*Творчасць Янкі Маўра*

<...> Выданне кніжак для дзяцей і аб дзецях Беларускае дзяржаўнае выдавецтва ў ранейшы час свае дзейнасці разглядала як другарадную справу і ў большасці абмяжоўвалася выданнем невялікіх перакладных твораў.

Нарэшце было прыступлена да выдання арыгінальнай беларускай дзіцячай літаратуры.

Але вельмі часта замест выдання кніжак, якія выхоўвалі б светапогляд дзяцей у кірунку, патрэбным пралетарыяту, — Беларускае дзяржаўнае выдавецтва звяртала вялікую ўвагу на выданне казачак пра «козачак» і іншых жывёл.

Калі быў вычарпаны гэты «заалагічны» матэрыял, рабіліся спробы складаць прыгодніцкія апавяданні, тэмай якіх былі розныя надзвычайныя здарэнні (зборнік «Між жыццём і смерцю» — пад рэд. І. Цвікевіча).

Іншыя тэмы больш грунтоўнага значэння ў дзіцячай літаратуры таго часу не ставіліся. <...>

Такое становішча лічылася здавальняючым, і далей выданыя кніжак пра «птушак нашага краю» і пра сланоў — не ішлі.

Казкамі аб сланах, як кажуць, «засланілі» дзецям погляд на нашу сучаснасць, імкнуліся затушаваць сацыяльныя праблемы і не дапускалі іх у літаратуру. <...>

Новае кіраўніцтва Беларускага дзяржаўнага выдавецтва цалкам зразумела важнасць задачы стварэння сапраўднай дзіцячай кнігі, яно добра ўсвядоміла сабе, што справа выдання новай кнігі для дзяцей — ёсць адзін з галоўных фактараў выхавання нашай змены.

У выніку актывізацыі сваёй дзейнасці на гэтым фронце БДВ мае пэўныя дасягненні, якія заключаюцца ў пашырэнні выдан-

ня арыгінальных беларускіх кніжак, у выданні цэлай серыі брашур па політэхнізму, па працы дзяцей у школе і г. д.

Цяпер выдавецтва ўзялося за выданне вялікіх твораў расійскіх пісьменнікаў, якія пішуць для дзяцей (С. Грыгор'еў, Сейфуліна, Няквераў і інш.).

Выдавецтва прыцягнула да працы беларускіх пісьменнікаў, і цяпер яны прымаюць актыўны ўдзел у стварэнні дзіцячай кнігі, нягледзячы на тое, што дзіцячая літаратура не з'яўляецца іх асноўнай спецыяльнасцю.

Але побач з тым, як БДВ дабілася некаторых поспехаў у развіцці гэтай галіны працы, — трэба зазначыць, што частка нашай грамадскасці стаіць воддаль ад гэтай важнейшай справы.

У адным з нумароў «Звязды» тав. Паваротны вельмі правільна і востра паставіў пытанне аб тым, што наша грамадства, нашы школы, настаўніцтва, крытычная думка зусім слаба разгортвалі працу па папулярызацыі кніжак, па стварэнні новых кніжак, у якіх бы было непасрэдна адлюстравана жыццё нашай краіны і ўдзел у гэтым будаўніцтве нашых маладых кадраў.

Пытанні стварэння дзіцячай кнігі ў БССР да апошняга часу лічыліся другараднымі і абмяжоўваліся рамкамі; лічылася, што гэта справа адзінак. <…>

Гэта спрыяла таму, што праца некаторых пісьменнікаў, якія ўсе свае веды і энергію аддавалі на стварэнне дзіцячай кнігі ў БССР, зусім не асвятлялася, за выключэннем невялікіх выпадковых рэцэнзій.

Сёння мы ў сваім невялікім артыкуле хочам спыніцца на дзейнасці беларускага пісьменніка Янкі Маўра, няўтомнага працаўніка ў справе стварэння дзіцячай кнігі.

За параўнальна невялікі час сваёй літаратурнай дзейнасці Янка Маўр выпусціў у свет шмат твораў, якія вельмі ахвотна чытаюцца дзецьмі і некаторыя з якіх перакладзены на іншыя мовы (расійская, украінская).

Найбольш выдатныя творы Маўра гэта:

«У краіне райскай птушкі» — выд. БДВ, 1927 г.

«Чалавек ідзе» — выд. «Чырвонай змены», 1927 г.

«Сын вады» — выд. БДВ, 1927 г.

«Амок», раман — выд. БДВ, 1929 г.

«Палескія рабінзоны» — выд. БДВ, 1930 г. і цэлы шэраг іншых.

Янка Маўр па прафесіі сваёй настаўнік. Гэта дапамагае лепшаму веданню псіхалогіі дзяцей, што спрыяе мастацкасці твора.

Янка Маўр з'яўляецца творцам сацыяльнай аповесці ў беларускай дзіцячай літаратуры.

Тэматыку для сваіх твораў ён бярэ такую, якая б адлюстроўвала, давала б вобразы людзей, што змагаюцца за сваё вызваленне.

Для гэтай мэты аўтар карыстаецца матэрыяламі з жыцця каланіяльных народаў і іх барацьбы з каланізатарамі.

У аповесці «Сын вады» апісваецца адзін з такіх малюнкаў прыгнечання.

Сюжэт аповесці наступны:

Манг — жыхар Вогненнай зямлі — вельмі цікавіцца наўкольным светам. Яго вабіць пабачыць яшчэ больш, і ён часта сам адзін накіроўваецца ў падарожжа.

Вандруючы так, аднойчы Манг трапляе на выспу, дзе ў час буры ён выратоўвае ад смерці маладую дзяўчынку Грэт — падарожніцу, якая была выкінута хвалямі на бераг пасля катастрофы з параходам, які загінуў ля берагоў Вогненнай зямлі.

Вельмі цікава падае аўтар малюнкі шчырай адданасці гэтага «дзікуна» да пані Грэты.

Манг знаходзіць у гэтай пустэчы для сваёй пані ежу, выратоўвае яе неаднойчы ад смерці, дапамагае ёй дабрацца да бліжэйшага парахода, рызыкуючы не раз сваім жыццём.

За ўсе гэтыя паслугі Манга бяруць на параход, і ён едзе ў далёкі, невядомы для яго край.

Прыехаўшы ў вялікі горад, ён атрымоўвае там ад пані Грэты «найвялікшую» ўзнагароду — яго накіроўваюць у рэстаран лёкаем.

Аўтар вельмі моцнымі маляўнічымі сродкамі паказвае адносіны белых людзей да чорных, даючы малюнак таго, як Манг у форме лёкая прыслужвае панам у вялікім лонданскім рэстаране. <…>

Муж Грэты — вайсковы капітан — злуецца на жонку, калі тая імкнецца гаварыць з «малпай, падобнай на чалавека», кажучы, што за выратаванне яе ад смерці ён можа атрымаць некалькі дробных манет, якія гэты капітан з пагардай дае Мангу.

Чытач з цікавасцю сочыць за далейшым лёсам Манга, бачыць, як ён цэлы дзень мітусіцца, дагаджаючы панам, і як ён аднойчы, не выканаўшы ўмомант загаду аднаго наведвальніка,

застаецца выкінутым на вуліцу, дзе ён апынуўся сярод тысяч беспрацоўнага люду — белых, чорных, жоўтых, бурых, — сярод людзей, якія хадзілі па вуліцах Лондана, шукаючы хлеба і працы.

Аповесць «Сын вады» дае закончаны і вельмі выразны сацыяльны малюнак беднага існавання жыхароў Вогненнай зямлі, і, як пэўны кантраст да гэтага жыцця, паказваецца малюнак жыцця капіталістаў Лондана і тыя здзекі, якія яны ўчыняюць над сваімі рабамі.

Кніга гэта ўскрывае асновы сацыяльных адносін і кліча дзяцей да адшукання сапраўдных карэнняў прыгнечання працоўных мас.

Аповесць «Сын вады» зусім справядліва карыстаецца вялікім поспехам сярод нашых чытачоў юнацкага ўзросту.

«Палескія рабінзоны» — новая кніга Янкі Маўра — апісвае прыгоды двух хлапцоў, якія ў краязнаўчых мэтах накіраваліся на чоўне даследаваць Палессе.

Зусім нечакана для іх човен перакуліўся, і хлопцы апынуліся на нейкай закінутай выспе, дзе ім прыходзіцца жыць у абставінах, зусім падобных да ўмоў жыцця першабытных людзей.

У часе палявання на дзікоў хлопцы выкрылі выпадкова, што гэта выспа з'яўляецца месцам, дзе бандыты хаваюць кантрабанду.

У аповесці апісваецца, як хлопцы дапамаглі ліквідаваць гэту банду, якая прыехала з варожымі намерамі ў СССР (падрыў сац. будаўніцтва).

Канчае сваю аповесць аўтар паказам таго, як хлопцы, атрымаўшы камандзіроўку, паехалі ў Менск вучыцца ў Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Цікавасць гэтай аповесці для дзяцей вынікае з таго, што ў ёй паказана знаходлівасць і спрытнасць хлапцоў, якія знаходзяць выхад з кожнага становішча.

Чытач на прыкладзе прыгод гэтых краязнаўцаў знаходзіць добры доказ таго, як вельмі часта могуць прыдацца веды з жыцця сваёй краіны, што нават прыцягвае чытача да вывучэння свайго краю.

Кніга Янкі Маўра «Палескія рабінзоны» надае дзецям не толькі простую цікавасць да краязнаўства, а больш таго, яна вучыць чытача разглядаць з'явы прыроды і грамадскіх адносін у іх узаемнай сувязі, што зусім раней бракавала ў старых кнігах на тэмы прыгодніцтва.

У гэту аповесць аўтар уносіць новы элемент — барацьбу з ворагамі СССР, — і такім чынам мы маем ужо новую сацыяльную трактоўку сюжэта — прыгодаў хлапцоў.

«Палескія рабінзоны» карыстаюцца вялікім поспехам не толькі сярод дзяцей, але і сярод чытачоў старэйшага ўзросту.

Напісаная простай, выразнай мовай, аповесць гэта асаблівую папулярнасць мае сярод дзяцей, якія у сваіх водзывах* аб гэтай кнізе пішуць, што «яна значна адрозніваецца ад кніг ранейшага часу на тэмы прыгодніцтва, у якіх было больш жахаў і незвычайных здарэнняў, як праўды» (водзыў вуч. Хахлоўкінай, Арцемчыка, Дорскага — V група, I школа).

Некаторыя чытачы цікавяцца далейшым жыццём хлапцоў і на запытанне, што б яны хацелі чытаць, адказвалі, што іх вельмі цікавіць апісанне таго, як гэтыя хлопцы, скончыўшы БДУ, працуюць у якасці інжынераў па асушцы балот і на пабудове электрычнай станцыі на Палессі — месцы іх ранейшых прыгод. <…>

Усе гэтыя патрабаванні чытачоў тлумачацца тым, што кніга дайшла да чытача, падабаецца яму і што чытачам хочацца ведаць яшчэ больш аб тым, чаго ў аповесці няма і што ў тэму аповесці не ўваходзіла. <…>

Нягледзячы на некаторыя непаладкі (некаторая надуманасць сюжэта, вялікія апісанні палявання на звяроў і г. д.), кніга вельмі заслужана карыстаецца поспехам сярод нашых чытачоў школьнага ўзросту.

Сярод іншых твораў Янкі Маўра заслугоўвае вялікай увагі раман «Амок».

Раман пабудаваны аўтарам цалкам на фактычным матэрыяле і малюе паўстанне каланіяльных рабоў у Галандскай Індыі ў 1926 г.

Цэлы шэраг дакументаў, лістоў былі выкарыстаны аўтарам для напісання гэтай гістарычнай рэчы.

Галоўны змест рамана заключаецца ў паказе барацьбы явайскага народа за сваё вызваленне.

Паўстанцы захапілі ваенны карабель «Саардам», які меў на сваім барту 30 тысяч вінтовак, і перанеслі гэту зброю да сябе ў лагер для ўзбраення масы паўстанцаў.

Навокал гэтага асноўнага моманту падаецца яшчэ шэраг іншых, дадатковых, як, напрыклад, малюнкі прыгнечання дзяцей на плантацыях, здзекі з салдат на ваенным караблі і інш.

---

* Усе водзывы аб кніжках Я. Маўра ўзяты мною з дзіцячых рэцэнзій на ягоныя творы ў бібліятэцы імя Пушкіна (Менск).

Дзеці напружана сочаць за разгортваннем дзеі ў рамане, іх цікавіць, хто пераможа ў гэтай няроўнай барацьбе. Наогул, увесь раман будуецца такім чынам, што чытач міжвольна заінтрыгоўваецца і сочыць з вялікай увагай за падзеямі і здарэннямі з галоўнымі дзейнымі асобамі рамана...

І хаця ж паўстанне прыдушана, зброя замуроўваецца ў пячорах, але чытач не ўпадае ў песімістычны настрой, бо добра ведае, што ў недалёкі час уздымецца новая хваля барацьбы каланіяльных народаў за сваё вызваленне. Чытач верыць у наступленне агульнага «амоку».

Янка Маўр з вялікай пераканальнасцю апісвае змаганне явайскага народа з прыгнятацелямі.

Кніга гэта арганізуе свядомасць дзяцей у бок разумення глыбокіх сацыяльных працэсаў.

Апроч гэтага, раман цікавы яшчэ і тым, што ў ім аўтар прыводзіць вельмі шмат розных ведаў аб звычаях народа, аб яго культуры. Відаць, сам Янка Маўр карыстаўся вялікай колькасцю геаграфічнага і гістарычнага матэрыялу, сам мае шмат ведаў у гэтай галіне, і таму яго твор з'яўляецца не толькі цікавым тым, што ён апісвае барацьбу, але яшчэ і тым, што гэта барацьба пададзена ў святле агульнага апісання стану жыцця жыхароў выспы Ява.

Раман «Амок» асабліва цікавы тым, што тут мы маем пэўную дакументаваную з'яву ў рэвалюцыйным уздыме свету, маем цалкам гістарычны твор.

З'яўленне рамана Янкі Маўра «Амок» двойчы карысна таму, што ў нас яшчэ мала літаратуры, якая б давала дзецям азнаямленне з гераічнай барацьбой народаў за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. <…>

Кампазіцыйная пабудова рамана мае некаторыя заганы.

Аўтар імкнецца да энцыклапедычнасці ў сваёй працы, а гэта крыху адбіваецца на змесце рамана.

Справа ў тым, што побач з перадачай асноўнай тэмы паўстання аўтар апісвае і іншыя сцэны, як, напрыклад, паляванне на звяроў, прыгоды ў храме, аддае на гэта апісанне шмат увагі і мала ўвагі аддае непасрэднаму апісанню барацьбы паўстанцаў.

Прыкладна — паўстанню ў Батавіі аўтар прысвячае ўсяго 15 старонак свайго рамана з агульнага ліку 240.

Некаторыя часткі рамана залішне вялікія, апісанне ідзе павольна на шкоду агульнай дынамічнасці ў разгортванні сюжэта.

А. П. Чэхаў казаў калісьці, што ў добрым апавяданні, як на ваенным караблі, не павінна быць нічога лішняга.

Гэта ісціна ў некаторым сэнсе Я. Маўрам ігнаруецца.

Структура кніжкі для дзяцей павінна мець адзіную лінію ў развіцці сюжэта, у разгортванні дзеі. Мнагапланавасць і адыход ад галоўнай тэмы, па-першае, затушоўвае асноўнае і, падругое, распыляе ўвагу чытача для таго, каб сачыць за ходам дзей у творы.

Ад чытача патрабуецца вялікае напружанне ўвагі, каб сачыць за ўсім, — а такой увагай яшчэ не можа пахваліцца наш чытач сярэдняга ўзросту.

Усё сказанае намі — загана гэтага рамана, але аўтар умее пісаць жыва, маляўніча, уводзіць у кнігі яскравыя сцэнкі, жартаўлівыя малюнкі і гэтым змяншае даўгату ў апісанні твора.

Мова кніжак Маўра наогул вельмі выразная, канкрэтная, эмацыянальная, зразумела, гэта ў значнай ступені спрыяе лепшаму ўспрыманню твора чытачом.

<…> Па шматлікіх водзывах дзяцей, кніга вельмі цікавая, заганы ў ёй невялікія, і чытачы раяць прачытаць яе ўсім дзецям і бацькам.

Зборнік апавяданняў «Слёзы Тубі» — выдадзены ў 1930 г. — дае паасобныя малюнкі з жыцця розных нацыянальнасцей (кітайцаў, тыбульцаў і інш.), якія церпяць здзекі ад паноў, якія іх жорстка эксплуатуюць.

Тут вы знойдзеце апавяданне аб маленькім Тубі, якога з’ела акула, калі ён лавіў чарапашак, з якіх паны даставалі перлы.

Чытач можа азнаёміцца з барацьбой рэвалюцыйнага сялянства Кітая супроць мандарынаў (апав. «У цясніне»), і цэлы шэраг іншых апавяданняў на такія ж тэмы.

Выдадзены ў добрым мастацкім афармленні, твор «У краіне райскай птушкі» больш глыбока распрацоўвае тэму каланіяльнай палітыкі...

Зараз пісьменнік выдае новую сваю аповесць над назвай «Дзед і ўнук» (ці «Аповесць будучых дзён»), якая, паводле паведамлення нашага друку, атрымала першую прэмію на конкурсе дзіцячай кнігі.

Галоўная загана ў творчасці некаторых пісьменнікаў, а ў тым ліку Янкі Маўра, заключаецца ў тым, што яны, выбіраючы тэмай сваіх твораў прыгоды людзей, знаходзяцца яшчэ ў значнай меры ў палоне аўтарытэтаў вядомых заснавальнікаў прыгодніцкага жанру ў дзіцячай літаратуры, а менавіта Жуль Верна, Майн Рыда і інш.

Нельга сказаць, што Янка Маўр слепа ідзе за гэтымі пісьменнікамі, якія працавалі галоўным чынам над творамі, дзе дава-

лася бязмэтнае прыгодніцтва, але ўсё ж такі некаторыя моманты наследавання гэтым пісьменнікам і іх творчаму метаду ў Янкі Маўра ёсць.

Выяўляецца гэта галоўным чынам у некаторых экзатычных момантах, у апісанні палявання на звяроў, у аддаванні залішне іншы раз увагі апісанню таго, як людзей праглынае ці есць рознае звяр’ё (апов. «Сын вады», «Слёзы Тубі»). <…>

Уся ранейшая плённая праца Янкі Маўра, шчырае імкненне дапамагчы стварэнню новай беларускай пралетарскай літаратуры дае нам вялікую надзею, што пісьменнік яшчэ шмат карысці прынясе ў гэтай працы.

У заключэнне свайго невялікага агляду творчай дзейнасці Янкі Маўра мы хочам спыніць увагу чытача на некаторых агульных пытаннях, якія маюць значэнне пры стварэнні дзіцячай кнігі ў БССР на далейшы час.

Нарада па дзіцячай кнізе, якая адбывалася ў пачатку г. г. у г. Маскве, паставіла, як асноўнае, патрабаванне падрыхтоўкі належных кадраў дзіцячых пісьменнікаў.

Масавая дзіцячая кніга ні ў якім разе не павінна быць справай толькі адзінак, а ў працу па яе стварэнні павінны быць уцягнены новыя рэзервы. <…>

Асабліва вялікая адказнасць ускладаецца на наша настаўніцтва, якое ў справе стварэння новай дзіцячай кнігі павінна адыграць першую ролю. <…>

У нас яшчэ мала зроблена ў справе папулярызацыі кніжак, а між тым наша настаўніцтва тут магло б зрабіць вельмі шмат.

Тав. Караваева А. у сваім артыкуле «О путях детской литературы» (час. «На лит. посту» № 10 за 1931 г.), падагульняючы вынікі канферэнцыі па дзіцячай кнізе, асабліва востра ставіць пытанне аб неабходнасці кансалідацыі і наладжвання сумеснай працы пісьменнікаў з настаўніцтвам. <…>

У справе рэцэнзавання кніжак, правядзення масавага рэцэнзавання, наладжвання кніжных выставак, склікання чытацкіх канферэнцый і г. д. мы яшчэ амаль нічога не зрабілі, і гэта павінна быць прадугледжана ў разгортванні працы па развіцці справы стварэння дзіцячай кнігі.

Наша грамадскасць павінна прыняць актыўны ўдзел у абгаварэнні вытворчых планаў юнацкага сектара БДВ і дапамагчы сваімі парадамі выданню больш актуальных кніжак, як у галіне мастацкай, так і навуковай. <…>

## ЗІНА БАНДАРЫНА. «ВЕСНАЦВЕТ»*

Ранейшая літаратурная дзейнасць Зіны Бандарынай <…> была нязначная сваімі памерамі. <…> У сумных і змрочных фарбах апявалася Беларусь і сум па сваёй роднай старонцы.

Наяўнасць гэтых момантаў у вершах З. Бандарынай дала повад М. Гарэцкаму <…> сцвярджаць, што «творчасць З. Бандарынай адрозніваецца ад іншых пісьменнікаў сваёй элегійнасцю, пяшчотнасцю і далікатнасцю» і што ў вершах яе адбіта «прыгожая ясная думка, але з некаторай нервовасцю». У даны момант мы маем права патрабаваць ад пісьменніцы, якая працуе ў шэрагах пралетарскай літаратуры, рашучага перагляду сваіх ранейшых творчых установак і падпарадкавання сваёй дзейнасці запатрабаванням сучаснасці.

<…> Можна адзначыць, што пісьменніца не адыходзіць ад апявання нуды і смутку, а імкнецца гэтыя матывы яшчэ больш паглыбляць і ў свой зборнік уключае без усялякіх змен вершы (як, напр., «Апошняя вясна»), якія былі надрукаваны ў першым зборніку вершаў пісьменніцы, выданым ёю ў супрацоўніцтве з Пфляўмбаўм і Вішнеўскай («Вершы» — выданне «Маладняк» 1926 г.) і якія вызначаліся выразна выяўленымі настроямі смутку і дэпрэсіі.

Больш таго, у свой новы зборнік вершаў З. Бандарына ўключае яшчэ шэраг вершаў, у якіх гэтыя матывы ўстаюць перад чытачом у яшчэ больш акрэсленым выглядзе.

Прыкладна, вершы «Былая», «Мары», «Навучы» і інш. кажуць нам аб тым, што пісьменніца яшчэ значнае месца адводзіць асабістым перажываннем і настроям.

Характэрным прыкладам такога верша з'яўляецца верш, змешчаны на с. 67:

Завіліся словы
у сіні туманы.
Даўнасцю сталеццяў
даль звініць, звініць...
Завіліся словы
у сіні туманы,
ранне аксамітнае
прашаптала: «Хочу жыць...»
Сонца залацістае
маладой вясны

---

* Выданне БДВ. 1931. 125 с.

шалясценнем ветрыка
дадало: «Любіць!»
Завіліся словы і г. д.

Верш гэты напісаны ў больніцы, як гэта зазначае З. Бандарына...

Усе даступныя ёй мастацкія сродкі паэтэса прыцягвае да перадачы свайго суму і выказвання свайго жалю аб пражытых днях.

Была я ўранні зусім шчаслівай.
Сінелі ў жыце васількі,
І нечакана наўкол узраслі вы,
Сівыя травы маей тугі...
Іду далёка, іду дрыгвою,
Ў прасторах вольных гукаю ранне.
О, дзе вы, дзе вы, кволыя словы...
Іду адна я, туга ў тумане...

Моманты неапраўданага смутку і роспачы пераважаюць яшчэ і зараз у вершах З. Бандарынай, хаця пісьменніца імкнецца змагацца з імі і прабуе асудзіць гэтыя настроі.

У вершы «Адцвітанне» яна прабуе адысці ад настрояў суму і прыйсці да новага, «спакойнага» жыцця...

Цэлы шэраг вершаў, як, напрыклад, верш, змешчаны на с. 81, «Не трывож» і інш., яскрава нам гавораць аб тым, што пісьменніца яшчэ добра не ўразумела сутнасці таго, для чаго патрэбен адыход ад старых настрояў, яна яшчэ сабе ясна не ўяўляе, што павінна прыйсці на змену адчаю і суму.

І таму вельмі няясна, непераканаўча гучаць словы паэтэсы, калі яна кажа:

Не трывож адцвілых летуценняў,
Не будзі увосень гэты сум.
Я знайшла ад роспачы збавенне,
Ў пералівах восені красу.
.....................................................
Загубіліся і зніклі міражы.
Буду цешыцца я будучыняй новай,
Ў парываннях, летуценнях жыць.

(Падкрэслена мною. — *Э. Г.*)

Тое ж самае мы маем і ў вершы «І вятры і зоры», дзе З. Бандарына нашу сучаснасць уяўляе як нешта няяснае, невядомае:

Дзесьці адчыніліся будучыні дзверы,
Дзесьці невядомае блізіцца-ідзе...

Жаданне падысці да ўсведамлення свету, прымаць удзел у яго перабудове ў пісьменніцы ёсць, але першыя крокі, якія яна прабуе зрабіць у гэтым напрамку, надзвычай няўпэўненыя і хісткія, і таму жаданні гэтыя выглядаюць крыху беспрадметнымі:

Мне так хацелася
Крылатаю арліцай
Над балатамі роднымі
Лунаць.
Братоў ў адну
Сям'ю камуны клікаць,
Душу за будучыню
Светлую аддаць.

*(с. 70).*

Ці, прыкладна, радкі з верша «Імклівасць»:

Я на свет нарадзілася
з бурай,
Каб імкнуцца, тварыць,
кіраваць,
Каб пад гімны
магутных матораў
Для камуны
палац будаваць.

Пісьменніца не бярэ кожную грамадскую з'яву ва ўсёй яе канкрэтнасці, а апісвае толькі павярхоўныя моманты, іншы раз зусім не характэрныя гэтай з'яве.

Прыкладна, вершы «З падшэфнай вёскі», «Камсамол у паходзе» і інш. служаць доказам нашай думкі. <…>

І таму словы:

Якое шчасце
жыць і будаваць...
бясконца хочацца гарэць
і захапляцца, —

гучаць вельмі непераканаўча, бо гэтыя словы, як «гарэць», «захапляцца», служаць спецыяльным шаблонам, калі іншы раз няма чаго канкрэтнага сказаць.

Павярхоўны падыход да з'яў рэчаіснасці, неўсведамленне гэтых з'яў ва ўсёй іх глыбіні накладвае пэўную адзнаку амаль

на ўсе вершы Зіны Бандарынай і асабліва на тыя, дзе яна прабуе адбіваць з’явы грамадскага жыцця. <…>

У зборніку ёсць некалькі нядрэнных вершаў («Да прысуду грамады», «Росквіт», «Жанаддзелу Беларусі», «Камсамол Беларусі»), моцна напісаны вершы «На зломе дзён» і «Шумы лясной краіны», але яны не могуць даць падстаў казаць, што пісьменніца прыйшла ў сучаснае літаратурнае жыццё, усвядоміўшы і выправіўшы свае мінулыя памылкі. Такім чынам, вершы Зіны Бандарынай замест палітычнай насычанасці ў яшчэ больш падкрэсленым выглядзе даюць нам матывы індывідуалізму, тэмы свайго «я». <…>

# Леанід
# ГАЎРЫЛАЎ

Леанід Рыгоравіч Гаўрылаў нарадзіўся 2 лютага 1918 г. у в. Бердыж Чачэрскага раёна Гомельскай вобласці.

Вучыўся ў Мінскім белпедтэхнікуме, пасля ў Мінскім інстытуце народнай гаспадаркі. У 1936 г. перайшоў вучыцца на літаратурны факультэт Гомельскага педінстытута, які скончыў у 1940 г. Летам гэтага ж года быў прызваны ў армію, служыў пад Слонімам, непадалёку ад заходняй граніцы. Л. Гаўрылаў быў механікам-вадзіцелем баявой машыны ў 47-м танкавым палку 29-й матарызаванай дывізіі. З першых дзён вайны — на фронце, удзельнічаў у цяжкіх баях. Сяржант Гаўрылаў загінуў у 1941 г.

Пісаў на беларускай і рускай мовах. Першы верш «Рыбакі» змясціў у калектыўным зборніку «Аднагодкі» (1935) пад псеўданімам Леанід Гаўрын. Паэтычныя творы таксама друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы — часопісе «Полымя рэвалюцыі», газетах «Чырвоная змена» і «Літаратура і мастацтва». Шматлікія творы загінулі ў рукапісах падчас вайны. Сшыткі з вершамі сына зберагла маці паэта. Яго творы сабраны ў зборніку «Вернасць» (1961). Вершы таксама ўключаліся ў калектыўныя зборнікі «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 3), «Крывёю сэрца» (1967), «Дзень паэзіі» (1965), «Зорка Венера» (1972), «Першацвет адраджэння» (1995) і інш.

# ПАЭЗІЯ

* * *

Што ні дзень —
мы ўсё больш маладзей,
Пачуццё з раўнадушшам
не мірыцца.
Нам насустрач з запалам ідзе
У палаючай шчырасцю лірыцы
Юнацтва гарачага дзень.

У рытмічнай і чоткай хадзе
З намі прозалаць шырыцца.
У палаючай шчырасцю лірыцы
Мы насустрач дню нашаму йдзем.

*Снежань 1935 г.*
*Менск*

## ПАЭТУ

У пошуках слоў
глыбіні пачуццёвай,
Каб выказаць шчырыя
думкі свае, —
Я часта хвалююся
ў віры жыццёвым,
А поўнасці цэльнай
ніяк не стае.

І зараз я слоў
не знайду ў хваляванні,
Сказаць вам ад сэрца,
па-простаму так,
Каб вы адчувалі
маё прывітанне,
Як вашу спагаду
шануе юнак.

Мо я не паэт, —
хараством славасека
Не ўмею за выдумкай
плюшчыць павек.
Я бачу ў паэце, у вас,
чалавека
І хочу сказаць гэта
як чалавек.

Прабачце нязграбнасці
гэтага верша
(Пяру маладых
уласцівы яны),
Радкі мае —
кволыя водпрыскі першай,
Зялёнай маёй
паэтычнай вясны.

Мне помніцца першая
наша сустрэча.
А гэта зусім так
нядаўна было.
Я гэтак наіўна
і так недарэчы
Прыехаў сюды,
занядбаўшы сяло.

І ваша адна
чалавечая чуласць
Жывіла, вяла,
акрыляла мяне!

Пагэтаму зараз
так шчыра хачу я
Узнесці яе
за вясну
па вясне!

*Лістапад 1935 г.*
*Менск*

## ПЕСНЯ

Вечарэла. Сінь гусцела.
Пасмаў слаліся
Валокі.

Бераг сонны, апусцелы
Затуманіўся
Навокал.

Лісце дрэў не шалясцела.
Не хісталіся
Асокі.

Ў небе зоры ацяжэла
Ў воды клаліся
Глыбока.

Ты ішла, як песню пела.
То спяшалася,
То крокам.

А мяне калі сустрэла,
Засмяялася
Нарокам.

Гушча ночы пасвятлела,
Пасмаў слаліся
Валокі,

З намі раніца запела,
Зацвіло ўсё, загудзела,
Развіднялася навокал.

І цябе назваў я песняй,
Сваёй песняй
Недалёкай.

*1935 г.*

## СОЖ

Ціхі Сож. Валавяныя воды.
Бурштынее зара ў берагах.
Дзесь глухія гудкі параходаў
Аблятаюць разліўны размах.

Як у люстры, густою сцяною
Кучаравіцца лес у вадзе,
Абярнуўшыся ўніз галавою,
К водам пільнае вуха кладзе.

*1935 г.*

* * *

Я сяджу ў задуме,
Праз акно гляджу.
Стукаюць па шыбе
Кропелькі дажджу.

Першы дождж вясенні,
На дварэ цяплынь...
Ў гэту пору густа
Снуе думак плынь.

Па дарозе мокрай
Гоман ручаін...
На душы самотнасць,
Я сяджу адзін.

Хваляй успаміны
Абнялі мяне...
Радуюсь дажджу я,
Радуюсь вясне.

Многа чаго бачыў
Я ў сваім жыцці,
Многа перакрочыў
Сцежак і пуцін,

Многа на дарозе
Сябраў сустракаў,
І дарыла вернасць
Ім мая рука,

Падзяляў я сэрца
З імі папалам...
Можа, больш сустрэцца
Не прыйдзецца нам.

І цяпер у гэту
Слаўную пару
Да сябе у думках
Усіх я сабяру,

Усіх, каго я помню,
Сустракаў каго,
З кім ішлі ў юнацтве
Крокам ці бягом,
У маім хто сэрцы
Распаліў агонь.

Ў памяці знайду ўсіх,
Да сябе збяру,
З імі па-дружацку
Я пагавару,

Што было, прыпомню,
Прыгадаю ў снах...

Звонам кропель поўна
На двары вясна.

*Сакавік 1936 г.*

## ЗНОЎ ВЯСНА

Зноў вясна распаліла зялёны пажар,
Ажно птушкі гукаюць ратунку.
Як тады, зноў нас вечар з табою зблiжаў,
Мы у садзе шукалі прытулку.

То было ўжо даўно,
ты не помніш, відаць,
Ціха-ціха шапталі пялёсткі.
Толькі ў сэрцы,
як дзікім фантанам вада,
Кроў мая закіпала, плёскала.

Сэрца грудзі ўзрывала, гарэла, цвіло,
Вобзем білася, к хмарам лятала...
Штось вялікае з ім у той вечар было,
І чагосьці яму не хапала.

*1935 г.*

* * *

*У час хваробы*

Не кажы, што я сягоння сумны,
Што стаю задумны, не кажы...
Бачу я абвесненыя гумны,
Дзе пяюць пад сонцам капяжы.

Эх, вясна! І мне ты не аднойчы
Навявала радасці да слёз...
А цяпер...
І прагнасць мяне точыць —
Не дастаць салодкі сок бяроз.

Толькі сіні лапік краявіду
Мне аб чымсьці кажа праз акно.
Дай туды, да лесу, ў поле, выйду.
Дай прайду за плугам баразной.

Рассмяюся звонка, зычна, шчыра,
Раскідаю песню сваю ў шыры!

Ды хвароба — ліпкая навяза,
Ёй к падушцы прыкрай я прывязан.

Не кажы ж, сястра, мне, што я сумны,
Што стаю задумны, не кажы...
Што з таго, што абвяснелі гумны,
Што пад сонцам прэюць капяжы.

*1935 г.*

## ЖУРАВЫ

Я не ведаю ціхай хвіліны
Ад клапот і звадлівых трывог,
Як пачую той спеў жураўліны,
Што у сэрцы сваім не збярог.

Ведаў шмат я сустрэч і спатканняў,
Шмат пачуццяў сваіх разгубіў,
Але з гэтакім замілаваннем
Я ніколі яшчэ не любіў.

Сон ці праўда — ў душы размялося,
Патанула ў прадонні журбы.
Але зараз мне быццам здалося —
Я на вежы вясёласці быў.

І былое — маленства і гора —
На хвіліну кудысь адплыло,
Як напеў жураўліны дакорам
Маю чуласць цяпер укалоў.

*1935 г.*

## ЗІМОВЫМ ДНЁМ

Каржакаватым і халодным
зімовым днём
Асколкі суму
вецер рассыпаў.
І церабілі веі
вербы за вакном,
І нема выла
голлямі вярба.

Я ў забыцці
бяспамятным ступаў,
І цесны мне
зазмрочаны пакой;
Ад папяросы густа
цягнецца трапа,
І дымны позірк
сцеле неспакой.

Чаго, пракляты прывід,
суму дух,
Ты бродзіш тут,
скрыпіш каліткай
І цягнеш бессань
чорных дум
Суровай зрэбнай ніткай?!

Чаго рыплівы голас твой,
Як струны скрыпкі —
скрухі злой, —
Напяўшы нерваў пук
з майго цярпення,
У злосці сыпле
пырскі снежнай пенай?!

Ці ты не знаеш?
Ці ты не помніш?
Ці ў цябе чуласці няма?
Сваёй вясне
яшчэ я ўслаўлю помнік,

І мне не прыкра ўсё ж
і гэтая зіма!

*Студзень 1936 г.*
*Менск*

* * *

Дні цягнуліся пасмай бялявай
І спляліся ў густую касу.
Вецер думак гуляе млява,
Наганяючы нейкі сум.
Я сябе з папяроснай зацяжкай
Праз маўклівую ноч правяду, —
Сум палошчацца хваляю цяжкай
Маіх ціхіх і слоў і дум.
Не сказаць мне каму, не спытацца,
Як разблытаць тых кос гушчыню;
З новым раннем спяшу прывітацца,
Яму дзверы душы расчыню.

*Чэрвень 1936 г.*
*Менск*

* * *

Спеў цярэбіць яблыневым раннем
Густакудры наш юнацкі сад,
Я прыйшоў сюды на паляванне,
Не вярнуцца мне цяпер назад.

Я прыйшоў ад нізенькіх хацінак
У грымячы пеністы раскат
Запазычыць музыку страпцівых, —
Не вярнуцца мне цяпер назад.

Я прыйшоў знайсці сабе апору
І насыціць прагнасць буду рад.
Не шкадую я начнога бору,
Не вярнуцца мне цяпер назад.

Не шкадую ўсё, што я пакінуў,
Мяне хмеліць дзікай песняй сад;
У сваю забытую хаціну
Не вярнуцца мне цяпер назад.

*18 сакавіка 1936 г.*

* * *

...Адну ўсяго дзяўчыну
Ў жыцці я пакахаў...

Яна малога росту,
З хітрынкаю ў вачах,
Таму не вельмі проста,
Што я зусім зачах,

Бо я сабой знадворку
Зусім і не герой,
Каб ад кахання горка
Не бедаваць парой.

К таму яна заўсёды,
Як быццам назнарок,
Сваю трымае моду,
Каб мой туманіць зрок.

*1936 г.*

* * *

Ты такая сур’ёзная стала,
Вельмі цяжка цябе пазнаць.
Зірк твой — бляск і вага металу,
Бровы — цвёрдага шкла крывізна.
Ты звычайна і проста спытала:
«Ты ж ці будзеш мяне шанаваць?»
Ты такая сур’ёзная стала,
Вельмі цяжка цябе пазнаць.

*Чэрвень 1936 г.*

## АКТ

Я назваў сягоння вішню мілай
І яе лісток пацалаваў,
Бо пад ёй з такой лірычнай сілай
Пасядзець прыцягвае трава;
Бо яна мяне, як спеў, насіла
Ў вышыню, аж кружыць галава,
Мяне песняй чулай напаіла,
Што каханай голас распяваў;
Бо пад ёй у вусны сваёй мілай
Шчыра я за ўсё пацалаваў.

*Чэрвень 1936 г.*

* * *

Як румянае сонца на сад усплыве,
Разліваючы свежага дня малачай,
Я прайдуся па роснай, халоднай траве
Аж да гаю, дзе ліпы задумна маўчаць.

Я прайду раніцою па роснай траве
Там, дзе ліпы задумна ў чаканні маўчаць,
Гівал песню падыме званчэй і жывей,
І гуллівая песня яго заслыве,
І усплескі выходнага дня загучаць,
Як румянае сонца на сад усплыве.

*Ліпень 1936 г.*

## «МАЛІРЫ»

Не шуміце журботна, бярозы, ў гаю
  З рана-раненька,
Не жартуйце задумна галінкамі вы
  Аж да вечара.
Я сустрэчную песню «Маліры» пяю
  З рана-раненька,

Адгалоскі калышуць прастор палявы
   Аж да вечара.

Напаткаў я цябе нечакана зусім
   З рана-раненька.
Я не мог раскідаць сваіх дум з галавы
   Аж да вечара.
Я радзімую песню на сэрцы насіў
   З рана-раненька,
У вачах калыхаўся прастор палявы
   Аж да вечара.

Я нясмела цябе сустракаў кожны дзень
   З рана-раненька,
І мне вобраз мярэшчыўся твой, як жывы,
   Аж да вечара.
Толькі ён маю шчырасць і думку вядзе
   З рана-раненька
Праз няблекнуўшы ў песнях прастор палявы
   Аж да вечара.

Не шуміце журботна, бярозы, ў гаю
   З рана-раненька,
Жартаўліва не кпіце галінкамі ўвысь
   Аж да вечара.
Сустракаю цяпер я «Маліры» маю
   З рана-раненька.
І палошча напеў наш прастор палявы
Аж да вечара.

*Жнівень 1936 г.*

## СТАЛАСЦЬ

Гавары мне, мілая, што хочаш
І мяне як хочаш называй, —
Я ж люблю табе глядзець у вочы,
Аж пакуль закружыць галава.

Ты мне кажаш:
«Гэта па-дзіцячы,
І нервозны ты толькі таму,
Што агонь любві такі гарачы
Першы раз прыліў к нутру твайму».

І ў вачах тваіх,
такіх дымчатых
(Мне не бачыць гэтакіх другіх),
Бачу я, што ўсёй зямлі дзяўчаты
Не заменяць зірк твой дарагі.

Хай ён будзе строгі і халодны.
Ўсё адно я рад без лішніх дум,
Што з табой, пагардлівай і роднай,
Пад руку па вуліцы прайду.

*Май 1936 г.*

## ДРУГУ

*Пачынаючаму паэту*

Крамсае сэрца песня веснавая,
І не стрымаць лірычнага радка!
Ды хто цяпер каханне захавае,
Хто аб каханай думак не наткаў?

Усе звычайна пачынаюць проста, —
Бяры пяро, не думай і пішы:
«Вясна! Ты шчасце нашага узросту!
І я кахаю шчыра, ад душы!»

А прачытаеш — холадна на сэрцы,
Хоць на дварэ сапраўдная вясна.
Мне хочацца з пачуццямі сустрэцца,
А не лунаць у фантастычных снах.

Калі тваё каханне жыць павінна,
Дык ты і ў вершах сцёбай ім і бі,
Каб, як вясна, і пацалунак грымнуў,
Каб я і верш, і справу палюбіў.

*Сакавік 1936 г.*
*Менск*

## ВОСЕНЬСКІ ВЕЦЕР

Над бярозамі вецер
асіпла крычаў
І ад ранку да ночы скуголіў,
Як адвергнуты вобраз,
шукаў ён прычал
І спагады пытаўся у голля.

Ды такім нелюдзімам
шурпатым каму ж
Спадабаешся, восеньскі вецер?
Вытчы лепей разгульную
песень кайму
І па-свойму бадзяйся па свеце.

Кожны дзень
слёзы песень сваіх вылівай
І паі імі прагнасць адплаты.
Ад таго ўсё адно
не баліць галава,
Смех жыве і табою пракляты.

Шчодра прыгаршчы
звонкага смеху сыпну
Я ў кляновага досвітку сінь,
Паднімі яго тэмай,
спявай пра вясну,
Падарункам бярозам нясі.

А такім нелюдзімам
шурпатым каму
Спадабаешся, восеньскі вецер?
Вытчы ж лепей разгульную
песень кайму
І па-нашаму лётай па свеце.

*Кастрычнік 1936 г.*

* * *

Іскраметная квецень зары
Налівае натхнёнасцю вочы...
Дружа любы, ты мне гаварыў,
Што са мною пагутарыць хочаш.

Як ніколі, цяпер я з табой
Раздзяліць адпачынак свой згодзен.
Думак шмат, яны шумнай гурбой
У хлапечым гудзяць карагодзе.

І таму я здаволен і рад
Прад табою душой расчыніцца.
Як пад дзень расчыняе зара
Далягляд на палі, на крыніцы.

Пра мяне ты як хочаш судзі
(Кожны сам па сабе носіць мары).

Выгляд — просты вясковы бландзін,
Пераносіцу ўпрог ў акуляры.

Але гутарыць з кожным я рад.
Слову новаму з радасцю веру,
З кожным сябрам я шчыры, як брат,
І пад вершы мараю паперу.

Дружа любы! Табе я кажу
Не затым, каб смяяўся з мяне ты,
Хоць і едкага слова кажух
Я прымаю ў лік чыстай манеты.

Але вартасць таварыша ў тым,
Калі здолее ён сваім сэрцам
З твару фальшы твой пыл залаты
Аплявухай маральнаю сцерці,

Каб я быў і здаволен і рад
І без лішняга цяжару крочыў,
І пад росчыркам кожным пяра
Праўда б чыстая рэзала вочы.

*Лістапад 1936 г.*
*Гомель*

## МАЛАДЗІК

Спавіты тугою
У пасмах журбы
Сухі маладзік
На галінах вярбы
Павіс над гарою,
А потым і знік.

Журылася матка,
Туманіўся зрок,
І зоры слязамі
Мігцелі здалёк,
Шаптаў ёй здагадку
Шырокі разліў:

— Шмат хваль уцякае,
Іх чуе вярба,
Не ведае іх
Ні вайна, ні журба,
Ім смех нецікавы,
І плач не для іх.

Шмат хваль уцякае
Ў прасторную сінь,
Іх толькі адных
Папытаеш:

— Дзе сын?..
Ды доля цяжкая,
Ці ж скажуць яны?

*Кастрычнік 1935 г.*
*Менск*

* * *

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагоднасцю павее ад ракі,—
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.

Бляск месяца, і вішань белых цені,
І пустацвет гарбузны на плятнях
Снуюць запеў, і лёгкім летуценнем
Спавіта песня аб цвітучых днях.

У водары палёў плыве здалёку
Узрушаны і жвавы вобраз твой,
Плыве спакоем зорак яснавокіх
Над вішнямі, над хатай, над травой.

Чаму ж усё сама ты не прыходзіш
На бераг мой, дзе лодкі чарадой
Калышуцца, дзе нізка над вадой
Каліны сняць каханне на выгодзе?

Я жду цябе, паніклыя туманы
Па цёплай разасланіся вадзе,

Дзесь плюхнуў сом, і качкі крык стрыманы
Успалашыў сон дзеркача ў лазе.

Бяскрайнія шумлівыя прасторы
Шмат выткалі квяцістых пуцявін.
І як мне разгадаць тут, па каторай
Ты пройдзеш між узгоркаў і нізін?

Мы ў човен сядзем, плёскатам вясла
Маладзіка разломім палавіну,
Каб лётам смелым, лётам сакаліным
Дужэла песня, спела і расла.

*1939 г.*

## РАДАСЦЬ

Не шкадую, што аддаў для друга
Шчырасць сэрца, ласкі і цяпла...

Зноў вясна па сцежках і яругах
Цёплымі дажджамі пацякла.
Сонечным аблітая праменнем,
Зноў зямля зялёная цвіце,
Песнямі-вяснянкамі струменіць,
Лістам лапушыцца ўсё гусцей,
Сочная ў нязмераных разорах,
Сілай нестрыманаю гудзіць...

Вечарам рассыпаліся зоры,
І адна ў акно маё глядзіць.
Шчыра так глядзіць і не міргае,
Як раптоўнай радасці сляза.

Што ты хочаш, зорка дарагая,
Ды не можаш мне пераказаць?
Я ж перад табой не захаваю
Палкае жаданне, не ўтаю...

Дзе ты, радасць? Я цябе шукаю!
Ці знайду жаданую сваю?
...Я прайдуся маладжавым садам
Па душыстай маладой траве,

На пянёк імшысты я прысяду, —
Нада мной засвішча салавей,
Закалышуцца суквеццем вішні,
У вуллі задзвынкае пчала...

Тут нішто не можа стацца лішнім,
Што вясна да руху прывяла.
І так хочацца сказаць жывому
Чалавеку, лепшаму сябру:
У сабе я ўвесь вясновы гоман
У адзнаку дружбы сабяру!
Бор сыры, шумі, шумі лістамі,
У лілеях плавай ты, рака...

Я ніколі пець не перастану,
Адчуваючы ў сваіх руках
Цеплыню рукі сяброўскай. Знаю!
А калі і скончан будзе спеў, —
Я скажу: люблю цябе, мой краю,
І за тое, што пражыць паспеў!
А пакуль жывы, то буду рухаць
Па вясне напералёт, уплаў...

Буду рад, калі аддам для друга
Шчырасць сэрца, ласкі і цяпла!

*1939 г.*

## ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
І на хаты пала цішыня.
Сінім небам — месячык бялесы,
Сінім небам — грае вышыня.

І плыве, як грэчкі пах мядовы.
І плыве, як васільковы пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
Аб вачах любімых, аб губах.

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.

Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

А пакуль спакойны зараніцы,
П'юць расу палеткі на зары, —
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Ўсе таварышы, усе мае сябры!

Вось таму над лугам, над садамі
І на воды пала цішыня,
І дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня.

*1939 г.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Кастусь КІРЭЕНКА*

## ШЧЫРАСЦЬ ЮНАЦКАГА СЭРЦА

Шмат год у маім стале, як найкаштоўнейшая рэліквія, захоўваўся сшытачак вершаў майго лепшага друга студэнцкіх гадоў беларускага паэта Леаніда Гаўрылава. Такі ж невялічкі рукапісны зборнічак чакаў свайго часу ў сястры паэта Валянціны Рыгораўны. У апошнія гады для ўсіх, каму люба памяць аб паўшых у баях за Радзіму, хто прагна шануе родную беларускую паэзію ва ўсіх яе праявах, настала сапраўднае свята: адна за адной пачалі выходзіць кніжкі нашых баявых таварышаў, талент якіх дарагі нам заўсёды і застанецца з намі ў страі. Сёння чытач атрымлівае і кнігу паэзіі Леаніда Гаўрылава. Гэта вершы, якія, калі б паэт быў жывы, трэба было б назваць раннімі, напісанымі на пачатку творчага шляху. Але, на жаль, гэта вершы і ранніяі апошнія. Заўчасная смерць не дала Леаніду Гаўрылаву на ўсю магутнасць разгарнуць паэтычныя крылы. А гэта былі б крылы для высокага і шчырага палёту. Толькі і толькі пра гэта сведчаць творы паэта, што засталіся нам у спадчыну, — творы юнацкія, часам яшчэ не зусім дасканалыя, але з такім глыбокім роздумам, з такой улюбёнасцю ў жыццё, з такой прагай і імкненнем зрабіць карысць чалавеку, якія пакідаюць самае глыбокае ўражанне. У гэтым упэўняцца самі чытачы і зразумеюць, якога паэта забрала ад нас вайна. А Леанід Гаўрылаў не адзін такі, каму ліхія заваёўнікі не далі расквітнець. Колькі цудоўных сэрцаў згарэла ў агні бітваў! — і ў кожнага нашага чалавека сёння яшчэ раз закіпіць нянавісць да лютых падпальшчыкаў вайны, да тых, хто зноў крывавай рукою замахваецца на чалавецтва!

Пазнаёміўшыся з кнігай паэзіі Леаніда Гаўрылава, чытачы нізка пакланяцца ягонай маці, бо гэта толькі дзякуючы ёй (у першую чаргу) мы мелі магчымасць сёння сабраць, хаця і няпоўнасцю, тое, што было напісана Леанідам Гаўрылавым. У дні вайны, калі на акупіраванай фашыстамі Гомельшчыне лютавалі фашысцкія карнікі, маці паэта, хаваючы пад зрэбнай кашуляй каля сэрца, зберагла нам

яго творы. Бацьку Леаніда Гаўрылава — перад вайной зменнага майстра торфазавода — карнікі схапілі і недзе закатавалі. Маці ўратавалася, і, ратуючыся, яна не забыла аб выратаванні сшытачкаў і фотакартак свайго сына. Як не схіліцца перад мацярынскай любасцю і верай, перад мацярынскай мужнасцю і непахіснасцю!

Леанід Гаўрылаў нарадзіўся ў 1918 годзе ў вёсцы Бердыж на Чачэршчыне. Бацька яго — тыповы для дарэвалюцыйнай вёскі малазямельнік — яшчэ да рэвалюцыі пакінуў вёску і стаў сезонным рабочым. Сям'я пераязджае з месца на месца, жыве ў Чачэрску, Добрушы, Гомелі. У апошні час, перад вайной, сям'я Гаўрылавых асталявалася на жыхарства на торфазаводзе «Давыдаўка» каля Гомеля.

Вучыўся Леанід Гаўрылаў вельмі паспяхова. Атрымаўшы сярэднюю адукацыю, ён паступае на вучобу ў Мінскі інстытут народнай гаспадаркі. У гэты час ён піша ўжо многа вершаў і асобныя з іх змяшчае ў перыядычным друку. Яго вершы з'явіліся ў зборніку «Аднагодкі», у газетах «Гомельская праўда» і «Літаратура і мастацтва», а пазней — у часопісе «Полымя рэвалюцыі». У 1936 годзе Леанід Гаўрылаў пераходзіць вучыцца на літаратурны факультэт Гомельскага педінстытута.

Летам 1940 года, пасля сканчэння інстытута, Леанід Гаўрылаў прызываецца ў рады Савецкай Арміі. Ён служыць недалёка ад граніцы ў танкавым палку механікам-вадзіцелем у экіпажы баявой машыны. Незадоўга да вайны паэт піша марш Н-скай танкавай дывізіі, які выконваўся ва ўсіх часцях злучэння. Словы баявога марша-закліку лунаді над байцамі ў час першай атакі супроць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія па-бандыцку напалі на нашу Радзіму.

У шэрагах байцоў, што пайшлі ў бой, быў паэт Леанід Гаўрылаў. Ён выконваў свой свяшчэнны абавязак мужна і сумленна. На полі бою перастала біцца сэрца, у якім было многа шчырасці і цеплыні.

Тры гады студэнтамі мы жылі з Леанідам у адным пакойчыку, дзялілі студэнцкія радасці і няўдачы. За адным сталом здавалі дзяржаўныя экзамены, амаль разам адыходзілі ў армію. Прайшло багата часу з дня нашага развітання, і вось мне выпала на долю пісаць успаміны... Існуе сумнае ўсведамленне, што твой друг загінуў, і разам з тым — не верыцца, што яго няма, здаецца, што вось ён прыйдзе, вернецца... Чуецца яго голас, быццам тут у гэтую хвіліну чытае ён спакойна і ўпэўнена:

Наш рубеж акованы гранітам
І напят, як тонкая струна.

Ды спрабуй струну тую крані ты —
Адзавецца грукам перуна.

Бачацца яго ўдумлівы твар, крыху нахмураныя бровы, і ў вачах, як заўсёды, — яснасць і ўпартасць.

Ён любіў усякую працу — ці прачытаць лекцыю для школьнікаў, ці пайсці на суботнік па азеляненні горада, ці дапамагчы калгасу арганізаваць бібліятэку. У літаратурным гуртку, які некаторы час працаваў у Гомелі пры бібліятэцы імя Герцэна, ён таксама быў першым ініцыятарам. І не дзіва, што потым у арміі ён стаў любімым сябрам байцоў, — яго вершы, прасякнутыя ўпэўненасцю маладосці, мелі сярод іх заслужаны поспех.

Мне ўспамінаецца, з якой упартасцю Леанід Гаўрылаў вывучаў творы марксізму-ленінізму. Бывала, ён не спаў начамі, рабіў канспект, перачытваў той ці іншы твор, пакуль не высвятляў для сябе якое-небудзь няяснае пытанне. Ужо ў той час, яшчэ такі малады, ён разумеў і гаварыў, што чалавеку, які рыхтуецца стаць пісьменнікам, нельга не ведаць марксісцка-ленінскай тэорыі пазнання.

Вельмі любіў Леанід Мікалая Астроўскага. Сярод яго запісак мы чытаем: «Самае дарагое ў чалавека — гэта жыццё. Яно даецца яму адзін раз, і пражыць яго трэба так... каб, паміраючы, змог сказаць: усё жыццё і ўсе сілы былі аддадзены самаму цудоўнаму ў свеце — барацьбе за вызваленне чалавецтва».

Выдатны выбар!

Гэтыя неўміручыя словы Мікалая Астроўскага былі ў нашых сэрцах у гады юнацтва, калі мы сядзелі ў інстытуцкіх аўдыторыях, працавалі за варштатамі, вырошчвалі збажыну на калгасных палях. З імі мы ішлі на вялікую бітву за шчасце сваёй зямлі. Прачытаўшы іх зараз у дзённіку свайго друга, я яшчэ і яшчэ раз адчуў вялікую мужнасць і ўзнёсласць свайго пакалення. Нашы маладыя сябры, што сваімі сэрцамі прыкрылі ад навалы сэрца Радзімы, цудоўна пражылі жыццё. Няхай жа нам, што засталіся сярод жывых, ніколі не забываюцца тыя дні, калі мы на хвалях гарачых вятроў упершыню ўзняліся да высокага ўсведамлення свайго жыццёвага абавязку, няхай будзе нязгасным наша імкненне зрабіць яшчэ лепшым, яшчэ прыгажэйшым жыццё, за якое памерлі нашы дарагія сябры...

Леанід Гаўрылаў настойліва рыхтаваў сябе да ўступлення ў жыццё. Яго адзінай марай было як мага прыгажэй і карысней аддаць свае сілы і здольнасці на служэнне савецкаму народу.

«Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан» — стаяў надпіс на сшытку з яго вершамі. У студэнцкім калектыве ён

быў сапраўдным важаком. Вакол яго заўсёды збіралася групка аматараў паэзіі — чыталіся Пушкін і Байран, Шаўчэнка і Купала, Блок і Багрыцкі.

Леанід вельмі многа чытаў, рабіў крытычныя заўвагі аб прачытаных кнігах, прычым часта яны былі надзвычай трапнымі. Ён акуратна рабіў выпіскі тых мясцін з кніг, якія яго найбольш уразілі. Вось, напрыклад, выпіска з «Вучнёўскіх год Вільгельма Мейстэра» Гётэ: «Верш павінен быць або выдатным, або зусім не павінен існаваць».

Хацелася б падкрэсліць, што аб паэзіі, аб яе прызначэнні Леанід Гаўрылаў думаў вельмі многа і сур'ёзна.

Я прывяду асобныя вытрымкі з выказванняў Леаніда Гаўрылава аб паэзіі і прызванні паэта, якія мы знаходзім у яго дзённіку за 1937 год.

«Аж да самай смерці, да самага скону жыцця паэт, як малое дзіця, ловіць усё новыя гукі, вучыцца гаварыць (але ніколі не здолее дагаварыць усё тое, што яму хацелася б сказаць), увесь час наогул чамунебудзь вучыцца, з кожным часам мяняецца ў сабе, бо расце і развіваецца».

«Трэба, каб кожны верш значыў штосьці сам сабой... Зараз я буду пісаць адзін верш, абдумваючы і апрацоўваючы яго, датуль, пакуль ён не стане беззаганным і будзе магчыма яго надрукаванне. Друкаваць пакуль што я не збіраюся, але мне трэба, каб мае першы выходзілі не горшымі за друкуемыя вершы маіх «сверстников».

«Але хай самым аўтарытэтным маім крытыкам і праўшчыкам будзе само жыццё. Хай ад гэтага мне можа быць больш адчувальна балюча, але не зламлюся... Толькі быць верным свайму пачуццю, самому сабе!»

«Твор, напісаны паэтам, — яшчэ не значыць, што ён існуе. Твор, надрукаваны ў газеце, у часопісе, у кнізе і інш.,— яшчэ таксама не значыць, што ён існуе. Існуе той твор, які чытаюць, і чытаюць не асобныя людзі, а шырокія масы народу, жыве той твор, які ўспрыняты народам як арганічна ўласнае тварэнне, які пашыраецца з вуснаў у вусны і перадаецца, пераходзіць па спадчыне з пакалення ў пакаленне. Паэт не той, каторы сам пяе нават і добра, а той, песні якога пяе народ, пяюць часы...»

Выказванні Леаніда Гаўрылава аб паэтычнай працы настолькі ясныя, што іх не трэба растлумачваць нават для тых, хто шукае ў паэзіі толькі спосабу паказаць сваю «шыкоўную паходку».

Але я не магу не падкрэсліць, што Леаніду Гаўрылаву было ўсяго 18 год, калі ён запісаў у дзённіку свае такія глыбокія думкі аб няпростай місіі паэта.

І яшчэ хочацца сказаць: няхай жыве такое служэнне паэзіі, якое не раздзяляе, а чэсна аб'ядноўвае сэрцы песняроў, і няхай будзе не-

ўміручай такая дружба, якая не баіцца самых цяжкіх выпрабаванняў!

*1961 г.*

*Дзмітрый КАВАЛЁЎ*

## ПРА ТАВАРЫША, ЯКІ НЕ СТАРЭЕ

А гэта быў трыццаць сёмы год. Але былі мы з дзіўным настроем, у бурным парыве. Савецкі — гучала для нас вельмі горда. Студэнцкая, ды і не толькі студэнцкая галаднаватасць (а я тады вучыўся на вячэрнім рабфаку) не заўважалася, быццам бы яе і не было, мы былі ўзрушаны веліччу ідэалаў, магчыма, занадта наіўна, але горача ўпэўненыя ў будучыні... І як бурліла наша камсамольская душа, як бурна і нацэлена яна жыла...

Вось тады я ўпершыню пачуў і ўбачыў Лёню Гаўрылава. Мы ўсе былі адзін для аднаго — Лёня, Косця, Міця, Коля, Ваня... І трагедыя ўзростаў пачалася значна пазней, — калі вайна адных пакінула навекі зусім юнымі, другіх пачала паскорана старыць, яшчэ занадта маладых...

А тады так абпальвалі вострай нечаканай свежасці радкі вершаў, так жывапісна ўсё бачылася. Я хадзіў як зачараваны ад першай кнігі («Упэўненасць») Пімена Панчанкі, мімаволі вымаўляючы:

Закацілася сонца за гай,
Небасхіл па-над гаем гарыць...

Быў як у магічным сне ад першых радкоў маіх таварышаў па літаратурным гуртку пры «Гомельскай праўдзе». А там былі тады вядомыя цяпер ужо літаратары — Іван Шамякін, Кастусь Кірэенка, гэтак жа, як і Лёня Гаўрылаў і Мікола Сурначоў. Леанід Гаўрылаў для мяне паявіўся раптам, вельмі падобны на сябе такога, які ён на фота ў яго цяперашняй маленькай, але такой каштоўнай кніжачцы, якая выдадзена з дакладнай назвай «Вернасць». Мы слухалі кожны раз новыя вершы, бязлітасна крытыкавалі іх, а пасля станавіліся сябрамі, знаходзячы штосьці такое адзін у адным, чаго ў нас няма ў саміх, і зайздросцячы тайна адзін аднаму.

І вось выступае вельмі сарамлівы, нават крыху палахлівы хлапчук, — і о, гэтая ўлада першынства — калі ўсё да адчувальнасці жывапісна, калі ўжо не ў сілах глядзець крытычна, зусім забываешся на ўсё і неяк цвяроза глядзіш. Гаўрылаў чытаў пявуча, крыху басам, як чмель:

Ці чула ты, ці бачыла калі,
Як хвалі у бязладдзі загулі…

Гэта пра мора, па-байранаўску мяцежнае, нетутэйшае, магчы-

ма, яшчэ ніколі не бачанае аўтарам...

А пасля, ужо другім разам, рана вясной, ён чытаў пра тое, як прасвечаны сонцам квітнеючыя сады, — а ты, брат мой, адыходзіш з жыцця (нам здавалася страшна смела і не ў духу часу — пісаць пра смерць). І хтосьці нават намякнуў пра гэта. А ў мяне засталося назаўсёды перад вачыма гэтае прасвечанае сонцам белае буянства яблыневай вясны, яшчэ больш моцнае ад таго, што ў яе агні гасла нечае самае роднае жыццё.

Пасля чытаў у «Гомельскай праўдзе»:

Дадому правядзеш сырою баразной...

Гэта было аб праводзінах сына маткаю... І да гэтага часу не забываецца.

Нічога з званага няма ў кніжачцы «Вернасць». Магчыма, цяпер бы ўжо і не здавалася яно такім пранізліва свежым. Але вось разгортваю «Вернасць» — і не, не, не пабляклі колеры, іх першаіснасць за гады, якія сціраюць жыцці, а не толькі фарбы. А іх мінула дваццаць пяць!

Мы ішлі тады з ім дзесьці ў гомельскім парку, ля Сожа, — ён чытаў вершы, толькі што надрукаваныя, лёгка сказаць — у часопісе «Полымя рэвалюцыі»:

Запахнуць ноччу духавітай травы,
Лагоднасцю павее ад ракі...
І блізкае становіцца яскравым,
Хвалюючым, кранаючым такім.
.......................................................

У водары палёў плыве здалёку
Узрушаны і жвавы вобраз твой,
Плыве спакоем зорак яснавокіх
Над вішнямі, над хатай, над травой.

Гэта, як і «смутак мой зеленагаловы», я не магу забыць. І мы тады з радасці пайшлі ў паркавы рэстаранчык, за свае мізэрныя студэнцкія рублі ўзялі, здаецца, піва. І так лёгка кружылася ў галаве, так хацелася ляцець кудысьці.

І ўспамінаецца яшчэ адна сустрэча з Лёнем, дзесьці ў Гомелі, ля хлебазавода, летнім ранкам. Ён быў у палатнянай вышытай беларускай кашулі. Сам такі ранішні. Нешта сваё, вясковае, амаль дзіцячае было ў ім перад прызывам у Чырвоную Армію...

І вось я пішу пра нашага агульнага сябра, які не старэе. І не магу ўявіць сабе гэтай трагічнай розніцы нашых узростаў. Быццам бы ўсё такія ж мы ўсе. І нам трэба яшчэ многае зрабіць, здзейсніць — і поўнасцю аддаць сябе, сваё жыццё маці-радзіме. Коля Сурначоў і

Лёня Гаўрылаў зрабілі гэта.

Зрабілі разам з маімі маладзейшымі намнога за мяне і, відаць, з многімі з вашых братамі.

Нялёгка ведаць, што іх няма, калі яны непадзельна з намі.

*Кацярына ГАРНАК*

## УСПАМІН

З Леанідам Гаўрылавым мы пазнаёміліся ў 1935 годзе. У інстытуце народнай гаспадаркі, дзе займаліся ён і я. Займаліся на 1-м курсе факультэта народнагаспадарчага ўліку прамысловага аддзялення.

Маючы літаратурныя здольнасці, Гаўрылаў у 1936 годзе перавёўся ў Гомельскі педінстытут. Памятаю, у сценгазету інстытута да 1 Мая ён напісаў для мяне верш такога зместу:

Пасядзі са мной, мая сястрыца,
Крыўды я табе не прынясу;
Я хачу з табой нагаварыцца,
Сваю радасць выліць, а не сум.

Помніш, мы сустрэліся пад восень.
Ў інстытуце, з кнігай за сталом.
Скора год ужо, а мне здалося —
Так нядаўна ўсё гэта было.

Ты ударніцай вучобы стала,
І вялікі твой аўтарытэт.
Мае шчэ такіх, як ты, нямала,
Наш чырванасцяжны факультэт.

Пасядзі ж са мной, мая сястрыца,
Крыўды я табе не прынясу;
Я хачу з табой нагаварыцца.
Сваю радасць выліць, а не сум.

Газету павесілі ў агромістым калідоры, і мне было так няёмка, што я не магла выйсці пагуляць па калідоры.

Не памятаю, у якім годзе быў юбілей нашага беларускага паэта Янкі Купалы. Леанід дастаў білеты, і мы прысутнічалі на гэтым вечары. Мне вельмі спадабаўся вечар. На ім былі прадстаўнікі з фабрык, заводаў, уручалі паэту добрыя падарункі.

Калі Леанід перавёўся ў Гомельскі педінстытут, мы з ім трымалі цесную пісьмовую сувязь. Я была дзяўчына невысокага росту, мела

грамадскую нагрузку, вучылася добра, і Леанід дужа ўпадабаў мяне, моцна кахаў.

Калі надыходзілі летнія канікулы, ён увесь час прасіў, каб я дазволіла прыехаць да нас у вёску. Але я была вельмі сарамлівая, сціплая і не дазваляла прыехаць.

У 1939 годзе я закончыла інстытут, і мяне накіравалі на працу ў Гомель... Я прыехала туды 1 кастрычніка, а Леаніду трэба было трохі яшчэ павучыцца. Потым 14 кастрычніка мы з ім зарэгістравалі шлюб.

Гаўрылава паслалі ў Слуцк у Лучнікоўскую школу для праходжання практыкі. Там яму далі кватэру, дзе мы пражылі нядоўгі час. Яму неабходна было здаць экзамены. Да нас у вёску мы прыехалі ў канцы чэрвеня, а 1 жніўня ён паехаў да бацькі, адкуль і пайшоў у армію. Да мяне ён быў вельмі добры, пяшчотны, уважлівы. У яго было шмат сяброў, і ўсе добрыя, таленавітыя. Калі ён адыходзіў у армію, у мяне была цяжарнасць 7 месяцаў. Калі нарадзіўся сын, мы павіншавалі яго тэлеграмай. Калі сыну мінула 6 месяцаў, мы сфатаграфавалі яго і выслалі картку. Леанід напісаў два вершы, прысвечаныя сыну. <...>

*1986 г.*

# Аркадзь
# ГЕЙНЭ

Аркадзь Андрэевіч Гейнэ нарадзіўся 10 студзеня 1919 г. у мястэчку Бешанковічы Віцебскай вобласці.

З 1938 па 1941 г. вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях беларускіх газет. У час вайны апынуўся на фронце, быў камандзірам узвода 66-й механізаванай брыгады. Малодшы лейтэнант А. Гейнэ загінуў у баі 16 снежня 1942 г. пад Сталінградам. Пахаваны ў п. Верхнякумскі Валгаградскай вобласці (Расія).

З першым вершам на беларускай мове выступіў у 1934 г. на старонках газеты «Піянер Беларусі». Пісаў таксама на рускай мове. Вершы, артыкулы і рэцэнзіі друкаваў у газетах «Чырвоная змена», «Звязда», «Віцебскі рабочы», «Сталинская молодежь», часопісах «Полымя рэвалюцыі», «Іскры Ільіча» і некаторых іншых выданнях.

У 1939 г. пабачыла свет кніга паэзіі «Шчаслівая зорка». Асобныя вершы ўключаны ў калектыўныя зборнікі «Камсамол на граніцы» (1939), «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 3), «Крывёю сэрца» (1967), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2). Спрабаваў свае сілы ў жанрах мастацкай прозы і перакладу.

# ПАЭЗІЯ

## НАСУСТРАЧ СОНЦУ

Вось світае.
Сон знікае —
Уставаць пара даўно;
Сонца ззяе,
Пазірае
У замёрзшае акно.

Я не доўга завінуся —
У хвіліначку адну
І паем,
І апрануся,
Лыжы гонкія вазьму.

І табе насустрач,
Сонца,
Праз аснежаны прастор
Па раўніне
Па бясконцай
Панясуся, як віхор!

Нават вецер
Легкакрылы
Не угоніцца за мной,
І мароз
Не знойдзе сілы
Бег стрымаць
Адважны мой...

## НАД КНІГАЙ

Як да бою, рыхтуюся ўпарта
Да залікаў... І перада мной
Вось антычнага свету карта;
Я праводжу па ёй рукой,
І іду па слядах Ганібала
З Карфагена ў Сагунт, на усход.
Каны. — Тут ён разбіў удала
Армій консулаў рымскіх налёт...

Пачынае Спартак наступленне,
Паднімае на ворагаў меч,
Каб не біцца ізноў на арэне...
І бягуць яго ворагі прэч...

...Рым. Адчынены дзверы сената.
Уваходжу і — чую ускрык!..
Брут з кінжалам бяжыць варавата;
Мёртвы Цэзар ляжыць на каўры...

Даты, даты істужкай імкнуцца,
Палымнеюць на вокладках кніг.
І падзеі у памяць кладуцца,
Каб не згаслі ўспаміны аб іх.

*1937 г.*

## МАРА

Позні час. Пустынныя вуліцы.
Горад спіць. На дахах дамоў
Ночы шэрань нямая туліцца,
Навяваючы тэмы сноў.

Толькі мне не спіцца нечага,
Не знаходжу спакою ў сне.
Зоркі бліскаюць Шляху Млечнага
І таемнасцю вабяць мяне.

Я на іх паглядаю і думаю:
Вось у гэты жа самы час

Марсіянін з такою ж думаю
Пазірае, быць можа, на нас.

Ён глядзіць, тэлескопамі ўзброены,
І, што мы называем «Зямлёй», —
Назіраннем сваім задаволены,
Называе на мове сваёй...

Раптам дзесьці у цішы напружанай
Праімчаўся і хутка знік,
Прагрымеўшы па рэйках ўзбуджана,
Прагучэўшы гудком, цягнік...

Я падумаў: гады пракоцяцца,
І па Млечнаму Шляху тады
Будуць такжа звычайна праносіцца
Міжпланетныя паязды.

І маёй затаённай мараю —
Гэта жыць у той слаўны дзень,
Каб сусветным экспрэсам над хмараю
Узляцець к таямнічай звяздзе.

## А. С. ПУШКІНУ
*Да стагоддзя з дня смерці*

Гады плывуць, бы ў моры хвалі;
Між імі розніца адна:
На моры нікнуць хвалі ўдалі,
Гады ж адвечна бачны нам.

Сляды іх свецяцца заўсёды...
І твой мы сёння бачым век,
Паэт, вялікі чалавек,
Пясняр чаканае свабоды.

Стаіць твой помнік, як жывы,
Тваімі ж створаны рукамі;
І будзе ён стаяць вякамі,
Як праўды верны вартавы.

*1937 г.*

## КІТАЙСКАЯ ЛЕГЕНДА

Прамяністае сонца ходзіць
Над вялікай зямлёй Кітая...

Ёсць легенда ў кітайскім народзе,
Як зямля і як сонца старая.
І сівыя дзяды унукам
Той легенды гавораць словы:
Як пранёсся страшэнны грукат,
Як дракон чатырохгаловы,
Заравеўшы з усёю моцай,
Праглынуў сваёй пасткай сонца.
І зямля, апранутая змрокам,
Станавілася нежывою...

Але ходзіць сонца высока
Над вялікай кітайскай зямлёю,
І народу праменнямі свеціць,
І цяплее яно штодзённа...
Толькі маюць яго на прымеце
Кіпцюры самурая-дракона.

Ды не ўдасца заморскаму зверу
Агарнуць Кітай цемнатою!
Я у гэта заўсёды веру,
Верыць свет чалавечы са мною.

Будзе час — і у даль пакаленняў
Пройдуць новай легенды словы:
Як згарэў ад гарачых праменняў
Той дракон самураягаловы...

*1938 г.*

## АПОШНЯЕ ПІСЬМО

Тады цвілі пад сонцам ружы
У нашым садзе за акном,
Калі кахання, першай дружбы
Запалымнелі мы агнём.

І там — ля звонкае крыніцы,
Ў гаі над зломленай вярбой,

Праменні ранішняй зарніцы
Не раз віталі нас з табой...

І вось — апошняя сустрэча...
Хто мог чакаць, што хутка так?
Ліпнёвы ціхі, свежы вечар
Акутваў змрочнасцю прасцяг.

Трава ў расе, нібы ў сняжынках,
Над галавой — туман, як дым...
Лясною роснаю сцяжынкай
Ішлі з табой абы-куды...

Будзіў натхненні, мараў плыні
Твой спеў, і смех, і голас твой.
Мы вогнішча у змроку сінім
Тады расклалі над ракой.

Пад песень звонкіх пералівы
Цякла рака, ў яе вадзе
Танулі іскры палахліва.
На ўсходзе пачынаўся дзень.

Мігалі ў вогнішчы вуглі,
Яно павольна загасала...
Тады мы ведаць не маглі,
Што з ім — каханне дагарала...

Было ўсё гэта так даўно!..
Але цябе я ўспамінаю,
Калі у садзе за акном
Прыгожа ружы расцвітаюць...

*1938 г.*

## БАЛАДА АБ ЛІНЕ ОДЭНА

Калі набліжаўся раскат кананады,
Фашыстаў паўзлі рады, —
Яе на першых пазіцыях, побач,
Байцы пазнавалі заўжды:

Высокая, стройная, ў сіняй блузе,
З рашучасцю погляд узнят.

І пальцы напружанай, моцнай хваткай
Звыкла сціскаюць прыклад.

Упэўнена вока прыцэл наводзіць,
І верны — смяроцен удар...
Байцы называлі яе сваёю
Іспанскаю Жаннай д'Арк...

Калі паступова вузела, цяснела
Фашысцкіх гадаў кальцо, —
Адважнасцю палкай, воляю цвёрдай
Натхняла яна байцоў.

На грэбні акопа ўставала з гранатай
Насустрач таму, хто паўзе,
І куля не брала, нібы шкадавала,
Дзявочых пругкіх грудзей...

*

Маўклівая ноч прылягла на схілы
Высокіх горных хрыбтоў...
Цішком прапаўзала бясстрашная Ліна
Ў раёны аванпастоў.

Сцяжынкі губляліся у зараслях дзікіх,
Вакол — цемнаты сцяна.
Дарогу згубіла; блукаючы ў цемры,
Папала ў засаду яна.

Са змроку фашыст паказаўся п'яны:
— Сен'ёра, хадземце са мной...
І у адказ — стрэлам адразу
Ўзарваўся начны спакой.

Фашыст пахіснуўся, зваліўся мёртвым,
З'явіўся другі за ім.
У цвёрдай руцэ ускінуўся маўзер, —
І той не застаўся жывым.

Яшчэ і яшчэ выраcталі цені...
Яна залягла між кустоў.
І кулі усе, акрамя апошняй,
Дайшлі да фашысцкіх галоў.

Ворагі гђдамі ў змрок распаўзліся,
Кальцом зайшоўшы ў абход...
«Можа, і гэту, апошнюю, кулю
Пусціць таксама ў расход?..

Не! Жывою аддацца нельга!..» —
Гарачы ствол да віска,
І рашуча, не задрыжаўшы,
Націснула спуск рука...

*

Цёпла прылашчыў твар яе вецер,
Ціха праймчаўся над ёй...
Яна здабыла ў вяках бессмяротнасць
Смерцю слаўнай сваёй...

*1938 г.*

## ПЕСНЯ ДЗЯЎЧЫНЫ

Узыходзіла сонца над гаем.
Я цябе правяла за сяло.
Ты сказаў мне: — Бывай, дарагая!..
Усміхнуўся і сеў у сядло.

Я стаяла, махала рукою,
Налівалася сэрца тугой.
— Напішы мне што-небудзь парою,
Не забудзь, ненаглядны ты мой...

Нечакана з далёкай заставы
Вестка сумная ў хату прыйшла, —
Што загінуў у байцы са славай
Лепшы хлопец і воін сяла.

Не змываецца гора слязамі,
Ад жальбы на душы не лягчэй.
Я пайшла за табою слядамі,
Што не выцвілі ў травах яшчэ.

Ты ляжыш і не ўстанеш ніколі,
Згас твой погляд навек агнявы.

Галаву апусціўшы, на волі
Ходзіць сябра твой — конь баявы.

Я каня асядлаю з любоўю,
Я прачышчу вінтоўку тваю,
І — расплоцяцца ворагі кроўю
За цябе у наступным баю!..

*1938 г.*

## ДОЖДЖ

Усё было навокал ціха,
І раптам — што ж? —
Пайшоў адразу, як на ліха,
Вялікі дождж.

За дуб, што з хату таўшчынёй,
Схаваўся я. Услед за мной,
З валос страсаючы ваду,
Пад той жа самы тоўсты дуб
Падбегла з лёгкасцю птушынай
Мне не вядомая дзяўчына.
Прыкмеціў я: як ночы, вочы,
Як на рысунку, стан дзявочы...
Раптоўна — вецер! Дождждык коса
Лінуў, ды прама ёй на косы.
Яна ўсё больш і больш налева,
І так кругом абходзіць дрэва.
І мы сышліся блізка надта...
У гэтым дождждык вінаваты...

Колькі так прайшло мінут —
Я не ведаю, бо тут,
Пазгубіўшы часу лік,
Я усё лічыў за міг.

Дождж даўно заціх у далі,
Мы ж... канца яго чакалі...

# ВЕРШ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## СЛЯЗІНКА

Не пускаюць Нату з хаты —
Прастудзілася яна.
Надта сумна ў хаце Наце,
А на вуліцы — вясна.

Свеціць сонца
У аконца,
Ната стала ля акна
І заплакала, заплакала, заплакала
І слязамі ўсё закапала, закапала...

Раптам у адну слязінку
Промень сонейка папаў,
Каляроваю карцінкай
У слязінцы заіграў.

І скрозь чыстую слязінку
Глянула на двор дзяўчынка.
Стала ўсё навокал новым,
Дзіўным, markdownрознакаляровым —
Сінім, чырвоным,
Жоўтым, зялёным...

Ната звонка рассмяялася,
І... слязінка абарвалася...

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Алег ФОМЧАНКА*

## ЗОРКА ПАЭТА

Невялікая па фармату, тонкая кніжка. Здаецца, ад часу яна «ўсохла». Мяккая зялёная вокладка выцвіла, пажоўклі старонкі. І толькі пяціканцовая зорачка на вокладцы разыходзіцца густымі праменьчыкамі, гарыць, ззяе. Ды і назва кнігі «Шчаслівая зорка» — свежая, нібыта надрукавана паліграфічнай машынай учора, а не трыццаць адзін год назад.

Уключае кніга лепшыя вершы Аркадзя Гейнэ. Вершы, простыя і сціплыя, не здзіўляюць складанай рытмікай і мудрагеліста-філасофскім падтэкстам, яркасцю метафар, эпітэтаў і параўнанняў, і разам з тым яны хвалююць і западаюць у памяць, ствараюць своеасаблівы настрой, у якім ты знаходзішся вельмі доўга.

І нешта ёсць агульнае ў сціпласці гэтай кнігі і жыцці паэта, кароткім і светлым, як купальская зарніца. А што ў яго было, у Аркадзя Гейнэ? Дзяцінства, школа, першыя вершы — з'явіліся яны ў друку, калі быў вучнем, Камуністычны інстытут журналістыкі, работа ў рэдакцыях беларускіх газет, гэта вось кніжка і, нарэшце, вайна — лютая, не на жыццё, а на смерць з азвярэлымі гітлераўцамі. Біяграфія — самая звычайная, падобная на сотні іншых. І, бадай, не зусім звычайная, бо кожны чалавек з яго ўспрыняццем і асэнсаваннем жыцця, з яго рэакцыяй на акаляючае — не ёсць паўтарэнне іншага. А пра духоўны свет паэта можна меркаваць па яго творах.

Кідаецца ў вочы тое, што яны надзіва дакладна перадаюць дух, «настрой» свайго часу. Асноўнай з'яўляецца тэма грамадзянскасці, любові да Радзімы, гонару за яе. Адсюль — публіцыстычнасць страфы, некаторая, магчыма, праматa, якая зусім, аднак, не зніжае эмацыянальнага ўздзеяння. Лейтматывам рада вершаў праходзіць думка аб тым, што нельга па-сапраўднаму любіць сваю Радзіму, не думаючы аб яе абароне. Тут можна назваць верш-казку «Тры сыны», «Мой буланы», «У дазоры». Апошні расказвае пра праслаўленага

пагранічніка Карацупу і яго чацвераногага сябра Індуса, які зрабіў подзвіг пры затрыманні парушальнікаў граніцы. Герою дапамаглі не толькі вялікая ўласная смеласць і добрая воінская вывучка, але цвёрдасць і кемлівасць...

Моцнае ўражанне пакідае «Песня пра героя». У аснову ўзяты факт з жыцця. У час паядынку з япона-манчжурамі быў паранены і ўзяты ў палон пагранічнік Васіль Баранаў. Яго доўга катавалі, імкнучыся выведаць патрэбныя звесткі. Але савецкі воін маўчаў. Так і загінуў героем.

Апяваючы мужнасць і патрыятызм, высокі маральны дух нашых людзей, паэт у той жа час заклікае ні на мінуту не забывацца на пільнасць. І не дзіва. У Еўропе ўсё вышэй узнімаў галаву, усё смуродней заяўляў пра сябе фашызм. Успрымальнае сэрца паэта адчувала, што нясе ён чалавецтву. Таму калі выбухнулі іспанскія падзеі, Аркадзь Гейнэ з такім гневам, з такой страснасцю адгукаецца на іх.

З верша «План» мы даведваемся аб гераічнай смерці іспанскага шахцёра, які, трапіўшы ў палон, падрывае сябе і ворагаў. З хваляваннем успрымаецца «Балада аб Ліне Одэна» — дзяўчыну называлі ў акопах «іспанскай Жаннай д’Арк». Расстраляўшы ўсе патроны, апошні яна пакінула сабе.

І хоць героі гінуць, але на іх месца становяцца дзесяткі, сотні, тысячы іншых, іх правай справе не згаснуць. У творах гэтага цыкла набатна гучаць матывы інтэрнацыяналізму, веры ў бясслаўны канец крывавага фашызму.

Як сапраўдны сын свайго часу, паэт адгукаецца на ўсе падзеі і з’явы, якія адбываюцца ў навакольным свеце. Кола тэм разнастайнае. Вострая публіцыстыка суседнічае з мяккім лірызмам: у кожнага паэта ёсць і сваё — інтымнае. І ён пранікнёна піша аб каханні («Апошняе пісьмо»), аб удасканаленні чалавека, святле ведаў («Над кнігай»), выяўляе ён сябе і як рамантык («Будучаму пілоту»), можа памарыць, зазірнуць сярод начной цішыні на многія дзесяцігоддзі наперад, асабліва калі ў вокнах стынуць такія загадкавыя і далёкія зоркі, калі раптам думаеш аб тым, што вось, магчыма, цяпер і марсіянін глядзіць на Зямлю, якая здаецца яму зоркай, калі...

Раптам дзесьці ў цішы напружанай
Праімчаўся і хутка знік,
Прагрымеўшы па рэйках ўзбуджана,
Прагучэўшы гудком, цягнік...

Я падумаў: гады пракоцяцца,
І па Млечнаму Шляху тады

Будуць такжа звычайна праносіцца
Міжпланетныя паязды.

І маёй затаённай募 марою —
Гэта жыць у той слаўны дзень,
Каб сусветным экспрэсам над хмарою
Узляцець к таямнічай звяздзе.

*(«Мара»).*

Але паэт не дажыў да гэтага светлага дня, бо побач былі фашысты... У вершы «Шчаслівая зорка» ён пісаў аб тым, што ў народзе існуе паданне, нібыта кожны чалавек мае сваю зорку ў небе, «і яе жыццё — ягоны век...».

Рана згарэла зорка Аркадзя Гейнэ. На Сталінградскім фронце ён камандаваў мінамётнай батарэяй. У адным з баёў у 1942 годзе загінуў. Было яму дваццаць тры гады...

# Іван
# ДЗЕНІСЕНКА

Іван Піліпавіч Дзенісенка нарадзіўся ў 1913 г. у в. Наркі Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці.

Пасля заканчэння Чэрыкаўскай агульнаадукацыйнай школы (1930) працаваў у сельскай краме, на шахце ў Данбасе. Вучыўся ў Інстытуце замежных моў. З 1933 г. пачаў працаваць у чэрыкаўскай раённай газеце «Сацыялістычная перамога». Праходзіў навучанне на курсах журналістаў (1936—1937), затым вярнуўся на працу ў рэдакцыю. У 1939 г. прыехаў у Мінск і працаваў у рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия». Вайну сустрэў у Чэрыкаве, дзе працаваў сакратаром райгазеты. Быў мабілізаваны на фронт. Разам са сваёй часцю трапіў у акружэнне, у лістападзе 1941 г. вярнуўся на радзіму. Уключыўся ў барацьбу з ворагам, стварыў падпольныя маладзёжныя групы ў вёсках Наркі і Юдаўка. У сакавіку 1942 г. па заданні Чэрыкаўскага падпольнага райкама партыі ўладкаваўся пісарам у акруговую паліцыю, забяспечваў партызанаў неабходнай інфармацыяй. Узначаліў у Чэрыкаве падпольную групу, з 1943 г. — Чэрыкаўскі антыфашысцкі камітэт. Займаўся разведкай (мянушка «Іон»), вёў дыверсійную дзейнасць. 5 чэрвеня 1943 г. быў арыштаваны і пасля жорсткіх катаванняў гестапаўцамі 5

ліпеня 1943 г. расстраляны. У г. Чэрыкаве на будынку былой турмы, у якой гітлераўцы трымалі І. Дзенісенку, у 1967 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

Вершы пачаў друкаваць у 1937 г. на старонках газет «Рабочий» і «Советская Белоруссия». Карэспандэнцыі таксама змяшчаў на старонках газет «Известия», «Труд», а мастацкія творы — у газетах «Коммунар Могилевщины», «Сталинская молодежь». Пісаў на рускай мове. Аўтар паэм «Егориха» (1937), «Семен Лагода» (1938). Стварыў лірычны цыкл вершаў пра каханне і сяброўства («В разлуке», «Это не случайное свиданье...» і інш.). Перад вайной падрыхтаваў кніжку паэзіі, якую збіраўся ўлетку 1941 г. здаць у выдавецтва. За два тыдні да пакарання смерцю напісаў верш «Сосед». Вершы ўключаліся ў калектыўны зборнік «Чтоб всегда было солнце» (1968). Пісаў творы для дзяцей («Дед Мороз», «Девочка» і інш.).

# ПАЭЗІЯ

## СЕСТРА

Сумрака тяжелые ресницы
Опустились на зеленый сад.
Я усну. И мне сейчас приснится,
Что на травы падает роса.
...В утренней невидимой прохладе
Встану у широкого окна.
В белоснежном глаженном халате
Незаметно подойдет она.
Тихо молвит: «Здравствуйте, знакомый!»
А в глазенках — радостный огонь,
Будто кто-то перед ней искомый,
Словно кто-то очень дорогой...
Слышен звон приморского трамвая,
Шум морских одесских берегов.
Там над морем тучи проплывают,
Теплоход уходит на Азов.

* * *

Гладь воды одесского лимана
Потускнела в памяти моей.

Мы дружили просто, без обмана,
Очень просто я забыл о ней.
Но теперь ко мне, в заштатный город,
В тихий вечер иногда летят
Синь лимана, голубое море,
Синих глаз полузабытый взгляд.

*1937 г.*
*Чериков*

## ТУЧА

Духотой вечерней накрывая
Зыбку голубых днепровских вод,
Туча огневая — дождевая
Из краев полунощных плывет.
Туча надвигается, грозится
Разразиться бешеным дождем.
Может, градом туча разразится?
Может быть. Посмотрим. Подождем.
Но недаром говорят такое:
Коли туча чересчур грозна,
Если туча слишком неспокойна, —
Знать, она — дождями не сильна..
Неспеша она уходит прямо,
В край польдня, слез не проронив.
Жаркий ветер шурхает упрямо
Щеткою невянущей стерни.

*Июль 1937 г.*

* * *

Это не случайное свиданье,
Если нынче ты опять со мной.
Мы с тобою в снежных одеяньях,
Чуть светящихся во тьме ночной.

За окном бушует ветер снежный.
Мне тепло от сердца твоего.
В этом сердце, ласковом и нежном, —
Дар любви и страсти огневой.

Мы с тобой уверенно спокойны,
И сейчас мне этот мил уют.
Вероятно, в час такой весною
Соловьи поют?..

*24 февраля 1939 г.*

## ОДИНОЧЕСТВО

Вхожу в немилую квартиру,
Где нет ни друга, ни родни,
Где я, оторванный от мира,
Бесцельно коротаю дни.
Стоит кровать безмолвно, немо.
Подушки тощий бугорок.
Здесь не одна родилась тема —
Я ни одну взрастить не мог.
Пройдешься от окна к порогу:
Стена. Стена. Еще стена.
Обратно — выставляет роги
В окно насмешница-луна.
Она смеется надо мною,
Над одиноким, как всегда.
И я —
согласен быть луною,
Но одиноким — никогда!

*1939 г.*

* * *

У меня библейское имя.
Верно, заповедано роком
Не дорогой идти, а мимо,
Быть несчастным Ионой-пророком...

Только не был я в чреве китувом,
Сам ни хны не осмыслил, не выдумал
И живу я на всем готовом,
Доле смертных людей завидуя.

Что ж я вам наскажу-напророчу,
Люди, милые люди мои?
Ваши головы лишь оморочу,
Дав свободу сомненьям своим...

Ремесло мне некстати пророково.
В наше время пророкам ли верить!
Я по жизни пройду одиноко,
Лишь себе напророчу смерть:

Не убьет меня пуля шальная,
Потому что я пули боюсь.
Не убьет меня гром весенний,
Потому что грозы я боюсь.
А умру я постельной смертью,
Той, которой я тоже боюсь!

*Январь 1940 г.*

* * *

Ночь светла от луны и снега.
Снег сверкает битым стеклом.
Мне еще целый час до ночлега.
Без дороги идти тяжело.

Тяжело и, возможно, опасно:
В пору зимнюю волки люты.
Налетят и с голодной страстью,
Как святого, потащат в кусты.

Всё равно. Я иду, и нисколько
Мне не страшно. Везде
Пусть скитаются злые волки,
Лишь бы не было злых людей!

*27 января 1940 г.*

## ПРИХОД ОСЕНИ

Ласточки над городом летают,
Ласточки щебечут вперебой.
Подступает осень золотая.
Ходят тучи в выси голубой.

Скоро птицы улетят далёко,
Видимо, за синие моря.
А потом мороз на белых окнах
Выпишет узоры декабря.

Белый снег порошею пушистой
Город вновь неслышно заметет.
В трубах ветер чисто-голосисто
Песенку-заплачку запоет.

Но теперь хлеба густые зреют
На просторах солнечной земли,
И сады от яблок тяжелеют
Да от сочных груш и слив.

Пусть приходит пасмурная осень —
Тучная, дородная она.
Пусть она плоды садов приносит
И амбары чистого зерна.

*1940 г.*
*Чериков*

## ДЕВОЧКА

Носилась с куклой, лялей называла,
Давала с ложечки ей молоко и суп,
Водой поила куклу и не знала,
Что в дом живую лялю принесут.

Вот принесли. Еще совсем он розов.
В тисках пеленок дремлет, недвижим.
Не отогрелась мать еще с мороза,
Но крошка просит: «Мама, покажи!»

И мать берет дрожащими руками,
Приподнимает дочь, дает взглянуть.
«Смотри, родная... Экий славный парень!
Братишка это. Понимаешь? Ну?»

Что понимать! Глаза закрыла ляля,
Губенками чуть шевелит во сне.
Малютка пригляделась и сказала,
Что думала:
— Дай, мама, лялю мне!

*22 января 1941 г.*

## СОСЕД

*Моим сыновьям*

За окошком камеры моей
Клен стоит, едва скривившись станом.
Я прижмусь к решетке поплотней,
Говорок соседа слушать стану.

Что он скажет, островерхий мой?
Что он слышит, прислонившись к тыну?
Может, скоро я уйду домой,
Может, скоро я навек загину?

Злополучный ветер налетел,
И опутал, и согнул беднягу.
Я упорно, страстно жить хотел,
Потому в могилу, верно, лягу.

Клен стоит, шатаясь и скрипя,
Клен шумит и шепчет, шепчет глухо,
Будто бы сказать мне торопясь,
Чтоб чужого не коснулось слуха:

«Я сегодня под дождем промок
И потрепан ветром ураганным.
Ты, как я, забыт и одинок,
Ты опутан злобными врагами.

Не тоскуй, приятель, не грусти:
Есть всему конец на этом свете.

Мне при жизни с места не сойти,
Ты — ходить не будешь после смерти.

Если я переживу твой век,
Подрастут твои детишки-крошки,
Будь уверен, добрый человек, —
Про тебя им расскажу немножко».

И умолк... Не шелохнется лист.
Молчаливы блеклые сережки.
А из сердца... слезы пролились...
А в глазах...
О, не смотри, прохожий!

*21 июня 1943 г.*

# ПЕРАДСМЯРОТНЫ ЛІСТ

*5 июля 1943 года*
*г. Чериков*

Моя милая, моя дорогая Леночка!

Я живу последние минуты. Сейчас ко мне пришли господин Судья, господин Адам и объявили, что приговор утвержден и что я буду расстрелян. Значит, всё. Напрасные надежды на помилование. О горе, горе! Я не могу писать. Мои руки дрожат. Я сам дрожу, как в лихорадке.

Сегодня я видел во сне моего отца. Я пил с ним водку. Вот он и берет меня с собой, мой старый, добрый отец. Мама, милая мама! Прости меня. Прости меня, сестра Маруся. Прощайте, мои милые дети: Валюта, Коля, Леня. У вас был отец, у вас его больше не будет.

Прощайте, родные, друзья и знакомые. Не горюйте, ведь когда-нибудь всем придется умирать. Все люди умирают. Моя смерть — от пули. Вы когда-нибудь умрете своей смертью. Все мы будем там.

Милая Леночка. Я сочувствую тебе. Тебе очень и очень трудно. Но горе забудется. Береги себя, береги свое здоровье, береги детей, милых, хороших детей. Я их больше не увижу. Не обижайтесь, добрые люди, кто раньше вас уходит в вечную дорогу — не обижайтесь на того.

Зря вы гадали. Гаданья не помогли: я не буду дома, я попаду в свою последнюю квартиру — сырую землю...* Теперь всему конец. Прощайте.

Брату Шуре в Одерберг не надо писать о моей смерти. Пусть он ничего не знает. Ему будет очень тяжело.

Дорогая жена! Моя последняя просьба: береги себя и детей! Научи детей уму-разуму, научи, как жить на свете.

Милые мои, дорогие мои. Живите счастливо, будьте здоровы! Не поминайте лихом того, кто вас очень и очень любил.

---

* Невялікі фрагмент тэксту немагчыма прачытаць.

Где то мой брат Феня? Жив он или погиб? Милый братишка, если он жив — он больше меня не увидит.

Сейчас подойдет машина, и я еду в мою последнюю дорогу. Сейчас я курю, пью воду, дышу — еще живу. А через час мой бездыханный труп будет лежать на сырой земле.

Милая Леночка! Уезжай жить куда-нибудь в деревню. Помогут твои братья, поможет мама, помогут добрые люди — как-нибудь проживешь. А моя жизнь кончилась. Моя жизнь была плохая. Я не жил, а страдал всю мою жизнь: и вот дожил до тридцати лет и умираю не своей смертью, а от пули.

Не страшно смерти. Страшно, пока еще живой. А там, за смертью, — ничего. Страшно той боли, которая вызовет смерть.

Что вам еще сказать? Ничего. Вы меня уже не спасете. Ну, и прошу вас, не проклинайте меня, не поминайте лихом.

Крепко, крепко целую всех, желаю всем долго жить и быть счастливыми. Я оклеветан. Ну что ж. Прощайте. Пусть меня не будет. Но жизнь будет продолжаться, жизнь будет очень хорошая, а я ее уже не увижу. Неужели и вас, мои дорогие, я уже не увижу больше? Вы, наверное, и не знаете, что мне осталось меньше часа до смерти?

Всё равно! Прощайте, прощайте. Посылаю вам свой последний привет. Целую всех тысячу раз.

Ваш *Иван Денисенко.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Георгий ХРАМОВИЧ*

## ЗВЕЗДА НА ГРУДИ

Более двадцати лет назад фашистская пуля оборвала его жизнь. Более двадцати лет назад его жена получила от него последнее письмо:

«...Сейчас подойдет машина, и я еду в мою последнюю дорогу. Сейчас я курю, пью воду, дышу — еще живу. А через час мой бездыханный труп будет лежать на сырой земле. <...>

Милая Леночка! Уезжай жить куда-нибудь в деревню. Помогут твои братья, поможет мама, помогут добрые люди — как-нибудь проживешь. А моя жизнь кончилась. <...>

Ну что ж. Прощайте. Пусть меня не будет. Но жизнь будет продолжаться, жизнь будет очень хорошая...»

Когда Елена Ивановна Денисенко читала это письмо, она была уже вдовой. Ее муж, Иван Филиппович Денисенко, был расстрелян. Был расстрелян наш боевой товарищ, патриот, подпольщик Ион. Без него мы встретили освобождение любимой нашей Белоруссии, без него праздновали Великую Победу над фашизмом. Без него... Но мы всюду помнили о нем, мы мстили за него врагам. Ведь таких людей не забывают...

Я хорошо знал Ивана Денисенко. Знал еще до войны...

Родился он в 1913 году, в деревне Норки Чериковского района Могилевской области в большой крестьянской семье. В свои пятнадцать лет он уже стал кормильцем — умер отец, а Иван был старшим среди братьев. Нелегко приходилось ему. Вместе с матерью тянул огромный груз забот о семье. И выкраивал время, находил в себе силы учиться. Окончил Чериковскую общеобразовательную школу имени КИМА. Работал в сельской лавке, на заводе в Днепропетровске. И писал в газеты — заметки, корреспонденции. Журналистика была его страстью, его настоящим призванием. В 1933 году он стал работать в редакции районной газеты, поступил заочно на немецкое отделение института иностранных языков...

И еще одна страсть была у Денисенко — поэзия. В своих по-юношески взволнованных стихах он воспевал родной край, мужественных советских людей — строителей новой жизни. Начиная с 1937 года его произведения регулярно печатают республиканские газеты и журналы. В 1940 году Ивана Денисенко Союз писателей

Белоруссии приглашает на семинар молодых авторов. Талант молодого поэта мужает и развивается, он готовит к печати первую книжку своих стихотворений и поэм...

Я помню его в эти годы, задумчивого, немногословного, обаятельного. Он работал ответственным секретарем редакции чериковской районной газеты «Сацыялістычная перамога».

И вот война.

Иван Денисенко должен был эвакуироваться. Он болел ревматизмом, беспокоило его и сердце. Но от эвакуации он отказался — ушел добровольцем в Красную Армию, сменил перо на штык. Рядом с тысячами других он защищал родную землю, которую любил и воспевал.

Помню те дни. Ожесточенные бои, горечь отступления. Потоки беженцев на шоссе. Вражеские самолеты в небе...

15 июля 1941 года в Чериков врываются бронированные полчища Гудериана. Появляется заранее заготовленная вывеска на немецком языке «Чэрикоф», в центре города — указатель «Нах Москау — 498 км»...

Город стал центром округа, в нем расположились окружная фельдкомендатура, жандармерия, гестапо, СД, окружной и районный бургомистры со своим «аппаратом», окружная и районная полиция и прочая фашистская нечисть. Посыпались сотни приказов, распоряжений, объявлений, и всюду — «запретить», «отменить», «расстрелять», «повесить»...

В начале ноября 1941 года еле живой Денисенко, не сумев пробиться через линию фронта к своим, вернулся в родные Норки. А уже в конце ноября я встретился с ним в лесу около деревни Житнево. Передо мной был усталый и очень больной человек. Но как горели его глаза! Как он обрадовался встрече со мной — секретарем подпольного райкома партии! Товарищи мне рассказали уже, что Денисенко, несмотря на болезнь, не сидел сложа руки. Он писал листовки, раздобыл радиоприемник и переписывал сводки Совинформбюро, создал первую в районе подпольную комсомольско-молодежную организацию. Смотрел я на него и думал — откуда у него берутся силы? Ведь он еле держался на ногах. Но как дрогнул его голос, как он обиделся, когда я посоветовал ему прежде всего подлечиться!

— Вы что, не доверяете мне? — спросил он. — Я имею право бороться с врагом...

И я понял, что самое лучшее лекарство для него в эти дни — борьба, суровая борьба с фашистскими оккупантами.

— Мы вам доверяем, — сказал я, — и предлагаем пойти на работу в Чериков...

Подпольный райком подбирал людей для засылки в оккупацион-

ные учреждения, чтобы знать планы и намерения врага, чтобы активно вмешиваться во все действия старост и бургомистров, бороться с фашистами и «изнутри». Узнав о возвращении Денисенко, мы единодушно остановились на его кандидатуре. Человек надежный, умный. Хорошо знает немецкий язык...

— Работать на врага? — перебил меня Денисенко. — Никогда!

Долго я втолковывал ему необходимость такого шага. Говорил о сложности работы разведчика, о ее опасности. Слушал он молча, мрачно нахмурившись. Наконец вздохнул и сказал коротко:

— Согласен. Когда идти?..

Мы условились о связных, о паролях и явках, выбрали для него кличку — Ион.

И вот в феврале 1942 года, немного оправившись от болезни, Денисенко пришел в Чериков. Окружной бургомистр Шеркевич был несказанно удивлен: советский журналист, поэт добровольно идет работать на «великий рейх». Денисенко был немедленно представлен гауреднеру зондерфюреру Дитмару, и тот предложил ему работу в отделе пропаганды. Нет, на такое Денисенко пойти не мог. Воспевать бесноватого и его «новый порядок», выступать против самого дорогого — ни за что. Он отказался. Его уговаривали, обещали золотые горы, потом стали грозить концлагерем, расстрелом. Но, ссылаясь на плохое здоровье, он отказался. Наконец ему предложили место писаря в окружной полиции.

Денисенко надел ненавистную темно-коричневую форму полицая. Он видел, как с ненавистью смотрели вслед ему многие знакомые, когда он шел на работу. Он слышал, как за спиной его называли «холуем» и «изменником». Ему было очень трудно. Презрение честных людей — это страшнее пыток.

Предатели же считали его своим, приглашали в гости, приветствовали. Они всюду раззвонили о том, что бывший журналист, поэт принял новую власть, стал ее верным слугой. Им так этого хотелось...

При встречах Денисенко часто говорил мне, как ему трудно сдерживать себя, как часто хочется драться, а нужно улыбаться, хочется кричать от возмущения, а нужно молчать... Да, ему было очень нелегко...

Подпольный райком партии и партизанское командование стали регулярно получать от Иона важные сведения. Он сообщал состав и расположение немецко-фашистских оккупационных учреждений, планы полиции, сроки подготовки выступлений против партизан. Мы знали всё о своих противниках.

Иван Денисенко установил связь с подпольщиками-поляками из вегарбайтскоманды и вскоре создал антифашистскую организацию. Руководили этой организацией Денисенко, Владимир Гуленко — начальник окружной полиции и инженер поляк Куля. Организация рос-

ла, появились ее «филиалы» в Пропойске, Кричеве, Рославле. Подпольщики вели разведывательную и диверсионную работу, распространяли присылаемые с Большой земли газеты и листовки, снабжали партизан медикаментами, бумагой, солью, а зачастую и оружием. Большую работу проводили они по разложению солдат противника, полицейских и власовцев.

Под непосредственным руководством антифашистского комитета было проведено несколько крупных диверсий в Черикове, Кричеве и других городах округа. В Черикове, например, были уничтожены лесопильный завод, электростанция, ремонтно-механические мастерские, хлебопекарня. Все эти операции планировались и подготавливались под руководством Денисенко. Он был отличным организатором подпольной борьбы.

Гестапо, СД и полевая жандармерия с ног сбились, разыскивая подпольщиков. Они не могли ничего поделать: только восстанавливали завод, как он опять взлетал в воздух, только успевали отремонтировать мост, как под ним опять оказывалась мина. За два года оккупанты сменили в Черикове четырех начальников гестапо, в пять раз увеличили зондеркоманду, но диверсии не прекращались, а народные мстители были неуловимы. И всё же над подпольной организацией нависла угроза. Враги нащупывали ее.

Подпольный райком принял решение об уходе подпольщиков в лес. Мы сообщили об этом Ивану Филипповичу Денисенко. Но он хотел перед этим захватить начальника полевой жандармерии лейтенанта Рихтера и коменданта гауптмана Кремпа. Всё было хорошо продумано и подготовлено. Но план выполнить не удалось. Задуманная операция сорвалась, началось следствие — и предатели выдали фашистам всех членов антифашистского комитета.

5 июня 1943 года все девять членов антифашистского комитета были арестованы. Ивана Денисенко посадили отдельно, для него специально оборудовали каземат в подвале дома. Его охраняло целое отделение эсэсовцев. Начались пытки, страшные, нечеловеческие. Денисенко били железными прутьями и резиновыми дубинками, ему не давали спать, его мучили голодом и жаждой... Он вытерпел всё. И не сказал эсэсовцам ни слова, не выдал никого. 4 июля 1943 года состоялся суд. Вместе с Владимиром Гуленко Денисенко был приговорен к смертной казни. Остальным подпольщикам — пожизненная каторга. 5 июля 1943 года из ворот гестапо выехала закрытая автомашина. За нею — две открытые, переполненные полицейскими. Недалеко от поворота шоссе на Кричев они остановились. Из первой машины выскочили эсэсовцы. Затем из нее вытолкнули изможденных, избитых Денисенко и Гуленко. Их руки были связаны, на левой стороне груди алели «мишени» — красные звезды. Гестаповец спросил у смертников, что они хотели бы сказать

перед расстрелом, и Денисенко попросил, чтобы их развязали и разрешили стать лицом к востоку. Перед самым залпом он успел крикнуть: «Да здравствует Красная Армия!»

К трупам не подпускали даже родных. Около них стоял караул. Фашисты боялись советских патриотов и мертвых. Ночью трупы куда-то увезли... Родные и боевые друзья Ивана Денисенко так и не знают, где его могила. Но они помнят его, мужественного, скромного человека, который отдал всё, что имел, Родине, который не успел так много сказать людям...

Уже после смерти Денисенко его жене передали предсмертное письмо героя. К сожалению, оно сохранилось не полностью — первый лист потерян[1]. Но из того, что дошло до нас, видно, каким изумительным человеком был Денисенко, как смело смотрел он в глаза смерти, как верил в победу разума над темными силами варварства.

Денисенко был поэтом. Стихи были и его страстью, и его оружием. Даже в самые трудные дни он писал их. Многое из того, что сочинил он в годы войны, затерялось, дошло до нас только в отрывках. Война безжалостно уничтожила рукописи Денисенко, его наброски и записи. Но и война не смогла уничтожить всего. Сохранилось стихотворение «Сосед», написанное в каземате и выброшенное внутри камешка через окно. Сохранилось стихотворение «Если имя твое — солдат». (Ровно через 20 лет после гибели его автора прислал это стихотворение в Кричевский краеведческий музей сын одного из узников чериковской тюрьмы гестапо.) Сохранились подшивки довоенных газет с произведениями Денисенко.

Я бережно собирал стихи моего друга и побратима. Я хочу, чтобы их знали. Своей жизнью, своей борьбой, своим творчеством Иван Денисенко заслужил этого. Он ведь из тех людей, кого не забывают, кого не имеют права забывать.

В своей поэме «Семен Лагода» в 1938 году Иван Денисенко писал:

Есть истории огромный камень,
Мы на нем напишем имена,
Золотом их тиснем, чтоб веками
Помнила и чтила их страна, —
Всех, кто умер за свою Отчизну,
За ее величье и расцвет,
Всех, кто отдал дорогие жизни,
Чтобы ярче лился счастья свет.

Он тогда не знал, что это и о нем. А это ведь и о нем, журналисте, поэте, патриоте.

---

[1] Гл. каментар.

# Алесь
# ДУБРОВІЧ

Алесь Дубровіч (Аляксей Ягоравіч Рэдзька) нарадзіўся ў 1910 г. у в. Каралевічы Глыбоцкага раёна на Віцебшчыне.

Скончыў вясковую школу, займаўся самаадукацыяй. Удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. У 1933 г. прымаў удзел у першым нелегальным з'ездзе пісьменнікаў, які ўтварыў Літаратурны фронт сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Быў членам рабоча-сялянскай грамады. У 1934 г. арыштаваны і два з паловай гады знаходзіўся ў віленскай турме (Лукішках). Пасля 1939 г. працаваў у валасным рабоча-сялянскім камітэце, выбіраўся старшынёй сельсавета. Быў дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку (1939). У 1940 г. працаваў у раённай газеце «Вілейская праўда». З пачатку вайны — падпольшчык, трымаў сувязь з партызанамі. Расстраляны фашысцкімі акупантамі 7 лістапада 1942 г.

Першыя творы апублікаваў у 1928 г. у заходнебеларускай газеце «Доля працы». У 1936–1939 гг. друкаваўся на старонках часопісаў «Беларускі летапіс», «Калосьсе». Нізкі вершаў паэта змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Сцягі і паходні» (1965), «Крывёю сэрца» (1967), «Ростані волі» (1990), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2) і некаторых іншых.

# ПАЭЗІЯ

## МЫ

Мы — скрыўджаных няпраўдай струны,
Адным распалены агнём.
Мы гімн пакуце граем сумны
І славу барацьбе пяём.

Натхненне наша у змаганні
За шчасце новага жыцця,
Мы летуцім аб светлым ранні,
І шмат у песнях пачуцця.

Мы сэрцам полымным і чыстым
Асвецім шлях сябрам другім,
І верым — песняй урачыстай
Мы перамозе зложым гімн.

*1932 г.*

* * *

Усхваляваныя напевы,
Пясняр, адважна кінь у свет,
Каб новых дзён яны засевам
Ўзняліся з-пад штодзённых бед.

Каб хваляю на буйнай ніве
Яны плылі і ўшыр і ўздоўж,
Дзе брат гаруе нешчаслівы,
Загледзеўшыся ў даль гадоў.

Сплаці, пясняр, свой доўг вялікі,
Прарокам будзь яснейшых дзён, —
Цябе пайме твой брат шматлікі,
Цябе даўно чакае ён.

*1937 г.*

## КРАПІВА

Зелянее на сонцы пад плотам
і шапоча маркотна крапіва,
што на вёсцы нядоля, бядота,
што так мала жывуць тут шчасліва.

Што счарсцвелага хлеба скарынка
часта ўпрочкі ідзе ад абеду,
што у місцы малая крупінка
ўсё гарцуе, не робячы следу,

перад лыжкай імкнець неяк крута,
быццам лоўкая рыбка з-пад сеці,
і лавіць так штодня — ой, пакута! —
што марнеюць ў загонцы тэй дзеці.

Што зялёная сёння крапіва,
хаця лашчыцца сонца праменнем,
ўжо адчула той погляд скваплівы,
што шукаў у ёй з гора збавення.

І шапоча крапіва, што блізка
гэны час, час з вясною расстання,
што, схіліўшыся гора к ёй нізка,
перарве яе дзён красаванне.

Што у хаце галодныя дзеці
калісь справяць над ёю памінкі:
будуць вочкі іх свечкай гарэці,
знікнуць з твару нядолі слязінкі.

*1937 г.*

## ЗОРНЫ КРАЙ

Мне песняй выліць хочацца
Ўвесь жар грудзей маіх.

Наперад! Не варочацца,
Хоць шлях калюча-ліх!

За хмарамі, за горамі
Ёсць сінязорны край.
Іду к яму нязморана —
Гэй, сэрца, марш іграй!

Прыпол там зорак поўны я
Згарну з той сінявы.
Да вас, прасторы родныя,
Да сцежак палявых

Вярнуся, поўнай жменяю
Сыпну пад стрэхі хат, —
Няхай гараць праменнямі,
Да дня гараць няхай!

*1938 г.*

## КАЛІСЬ ЛЮБОВІ ХМЕЛЬ ВЯСНЯНЫ

Каліcь любові хмель вясняны,
што на калоссі віс красой,
пілі мы сэрцам аж дап'яна,
смяялась радасць нам расой.

Рассталіcь мы: на шлях змагання
адзін я без цябе пайшоў,
цябе жыцця маніла ранне,
магілай веяў звон акоў.

Я йшоў нямала ў непагоду...
І зноў мой край, і зноўку ты,
насустрач мне твой твар пагодны,
ўсё такжа свежы, малады.

Адно што зменнага я бачу:
вачэй агонь раўней гарыць,
не раз мо выпілі без плачу
слязу, што ў сэрцы накіпіць?

А мо ты сэрцам зразумела
цану нявыбітых дарог?..
Дык дай руку! І разам з верай
хадзем да слаўных перамог!

*1938 г.*

## ІМКНЕННЕ СІЛЫ МАЛАДОЙ

Імкненне сілы маладой,
юнацтва бурныя парывы,
любві няздзержаны задор
з сваею залацістай грывай.

О, як змянілі вас гады,
гады трывогаў, пераломаў! —
знямоглы рушу я куды
праз жыцця здрадныя заломы?

Чаго жадаць? Шукаць чаго?
чым ўваскрасіць былыя сілы?
Удаль жыццё бяжыць кругом,
ўсё ніжай хіліць да магілы.

І я задзержаць не магу
сваёй кароткай пуцявіны:
ўсё бліжай, бліжай к берагу
магілы сходзяць каляіны.

Так сходзіць лета за вясной,
пуцінаю вякамі ўбітай,
і ўсё жыццё з жывой красой
зрывае восень прагавіта.

*1937 г.*

* * *

— Гэй, віхор шыракакрылы,

падарожнік непрытульны,
дзе звіваў ты хмарам грывы,
дзе спраўляў свой лёт разгульны?

Раскажы, што ў свеце бачыў,
скрозь — на захадзе й на ўсходзе —
крумкачы аб чым дзе крачуць,
аб чым весткі ў свеце ходзяць?

— Быў далёка я за морам,
цалаваўся з акіянам,
на сваіх сняговых горах
я гуляў з вяселлем п’яным.

І на захадзе й на ўсходзе
свет грыміць і звоніць сталлю,
смерць шалёны скок заводзе,
жыццё ломячы без жалю.

Гэй, там ёсць чаму паўчыцца!..
Сам вучыць — не маю часу...
І віхор далей імчыцца
без спачыну, без папасу.

*1938 г.*

## КІНУ СВАЕ ДУМЫ

Кіну свае думы жураўліным лётам —
Хай лятуць да сонца, у далёкі край.
Сам пайду і сяду пад лазовым плотам
І пра тое сонца буду ціха граць.

І хоць скасцянеюць пальцы на марозе,
Не пакіну кратаць залацістых струн,
Хай зімой завеі выюць на дарозе
Ці ў барах сасновых плачуць, як лясун.

А як пашарэе белы снег пад плотам —
Падкручу ў цымбалах кожную струну

І на ўсіх, залітых ранняй пазалотай,
Я зайграю з ветрам маладым вясну.

І па хатах людзі вечарам лучынным
Пра вясну, пра сонца будуць гаварыць,
Выйдуць на узгоркі з туманоў лагчынных,
Каб вясеннім сонцам грудзі апаліць.

Дык ляціце ж, думы, жураўліным лётам.
Каб хутчэй сустрэцца з сонцам і з вясной!
Я іграць не кіну пад лазовым плотам,
Рукі не самлеюць, воч не сплюшчу сном!

*1938 г.*

* * *

Пад звон дратоў сумуючы,
мой брат, ідзеш куды?
Дзе кінуў вёску, вуліцу,
дзіцячыя гады?..

Знаць, птушкай пералётнаю
ляцеў ты ў край вясны,
ды шэрай непагодаю
апалі туманы

ў прасторах; а з варожбамі
хтось шлях твой заараў,
каб з торбамі парожнымі
цябе твой край спаткаў.

Ці горш? Ў душы з трывогаю
за лепшы пералёт
на сцежках лёг з знямогаю
пад цяжасцю няўзгод.

Ды не! — надзею тоячы,
той промень веснавы,
у сэрцы раны гоячы,
не схіліш галавы!..

А пад той звон сумуючы,
ты з кудраў сум страхнеш,
і вёсцы, роднай вуліцы
спяеш ты аб вясне!

*1938 г.*

* * *

Вясна! І тысячы сугуччаў
лавінай грудзі залілі.
Юнацтва дні, і бэз цвітучы
дзявочча вочаў!.. Эх, калі
мяне мінулі вы, як казка?!
Прайшлі гады. Але й цяпер
сваёй запозненаю ласкай
яшчэ стучыце ў сэрца дзвер.
І — шчасце! — жэзлам чарадзейным
кранёна сэрца ў трыццаць год!
І зноў на крыллях летуценняў
юнацкіх дзён лаўлю акорд.

Хоць знаю я ўсю боль утраты,
як пройдзе той пахмелля чад,
але за жар вясны дваццатай
гатоў жыцця пакінуць шмат!

*1939 г.*

## ВОСЕНЬ

У небе ўецца хмарамі
восень непагодная,
туманом, імшарамі
сцелецца, галодная.

З ветрам, расшалелая,
цешыцца свабодаю,
лісце пажаўцелае
ліжа, як галодная.
Але мне дарэмна ты
церушыш мак роспачы —
ветрык думак росквіты
не затопча поўначчу.
Я надзеі праменем
ў дні вясенне-зорныя
распалю іх полымем,
бурна-непакорныя.
Веру, што гарт выкуем
барацьбой штодзённаю,
з праўдаю вялікаю
зможам ноч асеннюю.

* * *

Ляціць жыццё ў віхры шалёным.
Гвалт, здрада нізкая, абман
ў змаганні з праўды духам вольным
адкрылі цёмных спраў экран.

Ва ўсіх вачах агонь чакання,
на ўсім няпэўнасці пячаць:
— Які сюрпрыз гатуліць ранне?
Аб чым гавораць? што маўчаць?

Адно што сэрца раны гоіць:
вясна, прыбраная ў цвяты,
ў сваім узвышаным спакоі
людской чужая гіднаты.

Яна ў красе сваёй бяссмертнай
ў спакоі вечным мудраца
усмешкай радуе прыветнай
героя чэсці й падлюка.

*Красавік 1939 г.*

# ПЕРАКЛАД

*А. С. ПУШКІН*

* * *

Ці я блуджу ўздоўж вуліц шумных,
Ці ўходжу ў мнагалюдны храм,
Й ў кругу юнацтва неразумным
Адны лятункі ўсцяж віхраць.

Кажу я: год за годам міне,
І колькі б тут ні была нас,
Прытулак знойдзем ў дамавіне —
І чыйсьці хутка блізак час.

Гляджу на дуб у чыстым полі,
Я мыслю: патрыярх лясоў
Перажыве мой век бяздольны,
Як перажыў ён век дзядоў.

Дзіцянё мілае люляю,
Ужо я гавару — бывай!
Табе я месца уступаю —
Мне час сатлець, табе буяць.

Дзень кожны, кожную гадзіну
Прывык я думкай аглядаць
І блізкай смерці гадавіну
Між іх стараюся ўгадаць.

І дзе мне смерць мой лёс накіне?
Між хваль, ў дарозе ці ў баю?
Ці мо ў суседняй далі сіняй
Злажу я галаву сваю?

І хоць каму прыйшла пагібель —
Усюды роўна будзе тлець,
Ды бліжай к роднай мне сялібе
Я б так хацеў спачынак мець.

І хай жа пры магільных сходах
Ўсё дыша радасцю, вясной,
І раўнадушная прырода
Ззяе адвечнаю красой.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Мікола ЧАМЕЗА*

## ПАЭТ-ЗМАГАР

Абставіны жыцця Алеся Дубровіча, аднаго з паэтаў былой Заходняй Беларусі, складаліся так, што наш сучаснік мала яго ведае. Сціплыя радкі біяграфіі і яго вершы, змешчаныя ў зборніках «Мы іх не забудзем», «Сцягі і паходні», «Крывёю сэрца», глыбока ўзрушылі. За радкамі вершаў адчуваўся цікавы чалавек з незвычайным лёсам. Перагледжаныя мною бібліяграфічныя крыніцы мала задаволілі. А хацелася ведаць больш. Так узнікла задума паехаць у родныя мясціны паэта, адшукаць людзей, якія маглі б нешта расказаць пра Алеся Дубровіча.

Непадалёку ад Глыбокага ёсць вёска Каралевічы. Як і сотні іншых беларускіх вёсак, яна схавалася сярод хваёвага лесу, што надае мясцовым краявідам асаблівую, непаўторную прыгажосць.

Першая вестка абнадзеіла — жывуць у вёсцы родны брат Алеся Іван і сястра Агата. Іван Ягоравіч, былы калгасны трактарыст, у гады панскай Польшчы спазнаў жахі Картуз-Бярозы, зараз на заслужаным адпачынку. Ад іх даведаўся, што жывая жонка паэта, а ў Глыбокім працуюць яго дочкі Яўгенія і Алена. Сустрэчы і размовы з роднымі Аляксея Рэдзькі (сапраўднае прозвішча паэта) паволі аднаўлялі старонкі яго жыцця.

Я трымаю ў руках звычайнае сямейнае фота 30-х гадоў. Спакойны Ягор Францавіч, бацька паэта, разам з жонкай Луцэяй і старэйшы сын Дзмітрый сядзяць у першым радзе. Ззаду стаяць Іван, Васіль, Аляксей, Агата. Адсутнічае толькі Ліда. Пры першым паглядзе — звычайная сямейная ідылія. І не кожны ведае, што Рэдзька-старэйшы адсядзеў з сынамі ў глыбоцкай турме трынаццаць месяцаў, што Васіль, няўрымслівы па натуры, быў актыўным прапагандыстам Грамады, неаднаразова выступаў на мітынгах у навакольных вёсках, а Аляксей паспеў зрабіць няўдалы пераход у Савецкую Беларусь, за што быў асуджаны на тры месяцы турэмнага зняволення. Аляксей Рэдзька быў упарты, мэтанакіраваны, працавіты. Любіў даглядаць

пчол, граць на гармоніку. Ад маці ведаў шмат народных песень. Дарэчы, Рыгор Раманавіч Шырма запісаў ад яе некалькі арыгінальных вяснянак у 1937 годзе.

Брат паэта Іван Ягоравіч успамінае, што ў дупле дуба, які стаяў на мяжы палёў вёсак Каралевічы і Замошша, Аляксей хаваў адозвы, пракламацыі, нелегальную літаратуру, і, як лічаць сваякі паэта, паходжанне псеўданіма Дубровіч звязана менавіта з гэтай акалічнасцю.

Першыя свае вершы Аляксей Рэдзька напісаў пад уплывам старэйшага брата Дзмітрыя, з якога браў прыклад. Адзін з вершаў быў змешчаны ў 1928 годзе ў прагрэсіўнай газеце «Доля працы».

Цяжка сказаць, як склаўся б літаратурны лёс А. Дубровіча, каб не сувязь з легальным неафіцыйным органам КПЗБ — «Беларускай газэтай». Яе супрацоўнікі змаглі разгледзець у вясковым юнаку талент. Ужо ў шостым нумары «Беларускай газэты» гаварылася пра яго вершы. У артыкуле «Адгукнуліся» пісалася: «Другі малады паэт, А. Рэдзька, цешыцца, што «рух народны рвецца на раздолле і ў заўтра пракладае торны шлях». Радкі былі ўзяты з верша «Беларусь». Паміж рэдакцыяй газеты і А. Рэдзькам завязваецца перапіска.

Грамадзянская актыўнасць паэта з далёкай вёскі Каралевічы спрыяла таму, што ён быў запрошаны на з'езд сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі, які арганізавала «Беларуская газэта». А. Рэдзька паставіў свой подпіс пад «Дэкларацыяй групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі».

А санацыйны ўрад тым часам распраўляўся з рэвалюцыйнымі літаратарамі. У сям'і Рэдзькі памятаюць, як у час арышту ў 1934 годзе Аляксей, не паспеўшы схаваць небяспечныя паперы, праглынуў іх.

Пасаджаны ў Лукішскую турму, паэт працягваў пісаць вершы. Побач з творамі В. Таўлая, П. Пестрака ў турэмным часопісе «Краты» былі і яго вершы, падпісаныя псеўданімам «Мікіта».

Пасля двухгадовага следства адбыўся суд над пісьменнікамі. А. Рэдзьку прысудзілі да чатырох гадоў і яшчэ да чатырох месяцаў за тое, што збіў на горкі яблык турэмнага наглядчыка. Па амністыі ён выйшаў на волю з сапсаваным зрокам, але загартаваны ў вогнішчы барацьбы.

У складаны перыяд творчага раздарожжа на дапамогу А. Рэдзьку прыйшоў М. Танк, які падтрымаў паэта. Максім Танк тады рэдагаваў аддзел літаратуры часопіса «Беларускі летапіс», і калі А. Рэдзька даслаў у гэты часопіс свае творы, то дэталёва іх разабраў.

Усё жыццё паэт бачыў зорны край, сваю зорную краіну. І калі Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь, сяляне выбралі А. Дубровіча ў валасны рабоча-сялянскі камітэт, а затым і дэлегатам на Народны сход у горадзе Беластоку. Сям'я Рэдзькаў першай у вёсцы

ўступіла ў калгас.

Да Алеся Дубровіча прыйшло і асабістае шчасце: у 1939 годзе ён стаў бацькам дзяўчынак-блізнят. Усё часцей на старонках газеты «Вілейская праўда» з'яўляліся вершы і карэспандэнцыі паэта. Паступова здзяйсняліся мары Дубровіча, але пачалася вайна...

Сям'я паэта не змагла эвакуіравацца. На балоце за вёскай былі схаваны паперы паэта і багатая бібліятэка. У 1942 годзе па даносе старасты гестапаўцы забралі адначасова Алеся, двух братоў і бацьку. Пасля допытаў і жорсткіх катаванняў раніцай 7 лістапада 1942 года іх расстралялі на вачах сястры і жонкі паэта.

Вершы, вершы... Яны назаўсёды застануцца ў памяці тых, за чыё вызваленне паэт змагаўся словам і справай.

*Алесь ЖЫГУНОЎ*

## ВЯРТАННЕ АЛЕСЯ ДУБРОВІЧА

Давайце задумаемся: што мы ведаем пра нашага земляка, беларускага паэта Аляксея Ягоравіча Рэдзьку, які выступаў з 1928 года з вершамі ў прагрэсіўнай газеце «Доля працы», у перыядычных выданнях «Літаратурная старонка», «Беларускі летапіс», «Калосьсе», «Краты» пад псеўданімам Алесь Дубровіч? Амаль нічога...

<…> Ужо цяпер трэба падумаць, як увекавечыць ягоную памяць. Гэта можа быць, напрыклад, вуліца Алеся Дубровіча ў Глыбокім ці Падсвіллі, літаратурны куток, прысвечаны жыццю і дзейнасці паэта, у Каралевіцкай васьмігодцы.

У аснове ж гэтых нататкаў — успаміны людзей, якія ведалі і любілі паэта, а таксама тых, хто цікавіцца творчасцю нашага земляка.

— Недзе ў 1958 годзе В. Ф. Бурэнь (родам ён з Каралевічаў) перадаў мне пажоўклы скрутачак папер, — згадвае Антон Пятровіч Кур'яновіч. — Тут былі лістоўкі, пракламацыі. З цікавасцю прачытаў тэкст адозвы ў абарону балгарскага камуніста Г. Дзімітрава. Уважліва пазнаёміўся з іншымі матэрыяламі. І выспела задума: напісаць пра земляка ў рэспубліканскую газету «Звязда». Месяцаў праз пяць атрымаў адказ, маўляў, матэрыял ваш цікавы, але надрукаваць яго, на жаль, не можам. І ведаеце, чаму адмовілі? А таму, што тады дзейнасць КПЗБ яшчэ старанна вывучалася, і рэдакцыя, мусіць, пабаялася змясціць на старонках газеты нарыс невядомага аўтара. Крыху пазней усё ж маладзечанская абласная газета надрукавала яго пад назвай «Жыццё-подзвіг». А пачынаўся ён прыкладна так: «Вечарынка ў хаце сама разыгралася. Ды раптам пагасла святло, і нейчая рука сыпанула ў натоўп лістоўкі».

Цяпер Антон Пятровіч вельмі шкадуе аб тым, што разам з нарысам даслаў у «Звязду» і некаторыя матэрыялы са скрутачка: іх яму проста не вярнулі. А. П. Кур'яновіч пісаў у асноўным пра падпольную дзейнасць Дубровіча, але згадваў ён і некаторыя вершы паэта. У прыватнасці, ён і сёння цытуе радкі «Крапівы»:

Зелянее на сонцы пад плотам
І шапоча маркотна крапіва.
А на вёсцы — нядоля, бядота.
Нашы людзі жывуць нешчасліва.

І вось тут самы момант, пэўна, паразважаць: чаму Аляксей Рэдзька, які пісаў пра сябе: «Мы скрыўджаны няпраўдай старыны», вершы якога носяць ярка акрэслены публіцыстычны пачатак, абраў сабе такі лірычны псеўданім — Дубровіч.

Можа, гутарка з Аляксеем Гур'евічам Пашковічам (жыве ў Глыбокім па Маскоўскай вуліцы) дапаможа разабрацца ў гэтым?

— Што ж вам расказаць пра падпольную дзейнасць? Прыязджаў тут да мяне чалавек з Мінска, дзве ночы начаваў, усё распытваў пра Алеся. Пра сцяг чырвоны, што ў Галубічах вывесілі на адно са свят... Тады раскажу, як ён канспіраваў перадачу нелегальнай літаратуры. Непадалёк ад Каралевічаў дуб дуплаваты стаяў, каля дуба камень вялізны ляжаў. І Алесь гаварыў мне: «Калі на валуне ляжыць яшчэ адзін каменьчык, то лістоўкі, пракламацыі — у дупле. Падыходзь і забірай. Калі ж не — праходзь міма».

— Аляксей Гур'евіч, а можа, ад дуба гэтага і псеўданім — Дубровіч?

— Ніколі ён мне пра гэта не казаў, але я думаю, што не, штосьці іншае тут...

Другая версія пра псеўданім узнікла ў Каралевічах, калі размаўляў з братам паэта Іванам Ягоравічам Рэдзькам, якому аднаму з усіх мужчын гэтай вялікай сям'і ўдалося ўцалець.

— Дубровіч, здаецца мне, пайшоў ад Дуброўскага, літаратурнага героя, і Алесь яго неаднойчы ўспамінаў. А ці гэта на самай справе — не ведаю.

Іван Ягоравіч і сёння жыве ў хаціне, у якой нарадзіўся. Праўда, хатку перастрасалі, перавозілі, і з рэчаў брата ў яго нічога не засталося.

Па суседству з Іванам Ягоравічам жыве жонка паэта Кацярына Мікітаўна. Размовы з ёй не атрымалася, бо мы былі далёка не першымі, хто распытваў у яе пра мужа.

— Усё пытаецеся, — сказала, нібы папракнула, — а вы б у мяне пацікавіліся, як выжыла тады з дзвюма дочкамі на руках, калі фашысты ў хату ўварваліся, як гаравала пасля вайны, як хадзіла, ногі абівала,

пенсіі дабівалася. А мне ў адказ: «Даведкі трэба, можа, мужа вашага і не немцы загубілі».

На жаль, чэрствасць людская не абмінула і дачок паэта — Яўгенію і Алену, якія жывуць у Глыбокім. Выпалі ім у дзяцінстве і крыўды, а пазней і непаразуменні з боку тых, хто меў сякую-такую ўладу.

— Хадзіла да аднаго з такіх, — гаворыць Яўгенія Аляксееўна. — І сказаў ён мне, што ніякі ваш бацька не паэт, бо адукацыі не меў. Ды ці ў адной паэзіі тут справа? А тое, што бацька на Лукішках у Віленскай турме адбыў два з паловай гады за сваю рэвалюцыйную дзейнасць?..

Доўгі час Яўгенія Аляксееўна ніяк не магла вырашыць жыллёвае пытанне. І аднойчы, параіўшыся з сястрой, у адчаі напісала ліст дэпутату Вярхоўнага Савета СССР Максіму Танку. Неўзабаве атрымала адказ. З дазволу Яўгеніі Аляксееўны прыводжу яго цалкам:

«Паважаная тав. Дзёміна!

Я атрымаў Ваша пісьмо, якое разам са сваёй просьбай дапамагчы Вам вырашыць кватэрнае пытанне сёння накіраваў першаму сакратару Віцебскага абкома КПБ тав. Шабашову Сяргею Міхайлавічу.

З Вашым бацькам мне не прыходзілася сустракацца, але я добра яго знаў па яго творчасці і шмат аб ім добрага чуў ад нашых супольных сяброў, якія разам з ім працавалі ў падполлі.

Спадзяюся, што абком, калі будзе якая магчымасць, дапаможа вырашыць Ваша кватэрнае пытанне.

17.VII.1974 г.». І подпіс: «Максім Танк».

У невялічкай кватэрцы па вуліцы Маладзёжнай гутарылі з Яўгеніяй Аляксееўнай і гарталі сямейны альбом.

— Вось гэтую кватэрку мне і далі, — кажа жанчына.

А я бяру ў рукі фотаздымак 30-х гадоў: задумлівы Ягор Францавіч, бацька паэта, жонка Луцэя, сыны Іван, Васіль, Аляксей, Дзмітрый, дачка Агата (яна зараз жыве ў Каралевічах). Амаль уся сям'я (за выключэннем Ліды) у зборы. І ці думалася тады, што і ў смерці сваёй — іх расстраляюць фашысты — бацька і тры сыны (уцалеў Іван) лягуць поруч, і пазней на могілках непадалёк ад Каралевічаў ім будзе пастаўлены агульны помнік?

Пры жыцці Алесь Дубровіч надрукаваў усяго сем вершаў, якія сабраны ў зборніку «Мы іх не забудзем».

«Нават гэтыя вершы, — пісаў у прадмове да іх Валянцін Таўлай, — даюць уяўленне аб тым, што ў асобе Алеся Дубровіча наша паэзія страціла паэта значных магчымасцей». Згадзіцеся, ацэнка высокая.

І сёння ўсім нам трэба зрабіць адно: каб імя паэта не было страчана для нашчадкаў.

# Рыгор
# ЖАЛЯЗНЯК

Рыгор Самуілавіч Жалязняк нарадзіўся ў верасні 1914 г. у г. Віцебску.

Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся у Віцебскім фабрычна-заводскім вучылішчы чыгуначнікаў (1930–1931), працаваў у дэпо. Быў супрацоўнікам газеты «Віцебскі пралетарый» (1931–1932), займаўся ў Віцебскім кінатэхнікуме на сцэнарным аддзяленні (1932–1933). Паступіў на вучобу ў Ленінградскі дзяржаўны інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі, аднак у 1936 г. перавёўся на філалагічны факультэт Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта, які закончыў у 1938 г. Затым вучыўся ў аспірантуры. У 1940 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю «Паэзія М. А. Багдановіча». Загінуў у баі пры абароне Ленінграда ў 1942 г.

Першыя творы надрукаваў у 1931 г. у газеце «Віцебскі пралетарый». Выступаў пераважна як паэт і нарысіст, спрабаваў свае сілы і ў жанры апавядання, заявіў пра сябе як літаратуразнаўца. У 1933 г. разам з Б. Люгоўскім выдаў у Віцебску зборнік вершаў «Першы вытап». Там жа пабачыла свет яго паэтычная кніга «Вясновыя будні» (1934). Творы Р. Жалезняка друкаваліся ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967). Фрагменты з дысертацыі пра М. Багдановіча апублікаваў у 1966 г. часопіс «Неман».

# ПАЭЗІЯ

## БУДУЕМ ДАРОГУ

Суровыя ветры
Ў краях балацвяных
Гудуць і сваволяць
Уздыхам глухім.
Бязмежную шыр
Апавілі туманы,
Схавалі дарогу
У змроку нямым.

Не едзь, спадарожнік,
Цьмяным адвячоркам,
Схаваюць ў абдымках
Сваіх балаты.
Тут людзі і коні
Вязлі учора,
Тут шэры туман
Узняўся і застыў.

А сёння —
Напорыстым ўзмахам рыдлёвак
Ўзрываецца багны
Спрадвечны прастор,
Густыя чароты
Шэпчуць аб новым,
Гуд камнедрабілак
Разнёсся між гор.

Праз шэрую гаць
І нетры лясныя
Мы мосцім дарогу
Удаль, гарады.

Не марылі людзі
І далі не снілі,
Запал будаўнічы
І творчы уздым.

Будуем дарогу —
Растуць кіламетры!
Гартуем краіну
У бетон і у сталь.
Праз шэрую замець
І чорныя нетры
Мы вышлі у светлую,
Зорную даль.

*Кастрычнік 1932 г.*

## ПА ДАРОЗЕ Ў ЧАСЦЬ

Станцыі, раз’езды, перагоны,
Лес, палі з пажоўклаю травой.
Безупынна рушацца вагоны
У адвечнай музыцы сваёй.

Пад размерны шум, пад калыханне
Добра марыць, гледзячы ў акно.
Краявід бяжыць, як на экране,
І здаецца, што сядзіш ў кіно.

Даль у вечаровай дымцы чэзне.
Ў небе загараюцца агні.
У вагоне у вясёлай песні
Славяць нашы радасныя дні.

Песні пасабляе мандаліна,
Голасам высокім ў тон звініць...
Нас цягнік вязе уздоўж краіны —
Будучых вартаўнікоў граніц.

Заўтра ў часць прыедзем.
На світанні
Нашага саставу прыбыццё.

Лёгкае на сэрцы хваляванне,
Ростані нядаўняй пачуццё.

Можа, ўсхвалявала невядомасць?
Толькі што ж тут думаць, варажыць, —
Дзе б мы ні былі — мы ўсюды дома,
Будзем жыць і прыкладна служыць.

Многа працы ўперадзе чакае,
Я рабіць любую працу рад.
Ўсё, што мне, Радзіма, загадаеш —
Выканаю твой святы загад.

Дай вінтоўку, стану з чыстым сэрцам
Берагчы граніцу. Толькі мне б
Ты сказала на сваёй паверцы —
Не дарма жыву і ем твой хлеб.

Светлую хвіліну услаўляю,
Будучыня мужная мая.
У жыццё я новае ўступаю:
Добры дзень, армейская сям'я!

*1939 г.*

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## ПАЭЗІЯ М. А. БАГДАНОВІЧА
*Урывак*

### ПРЕКЛОНЕНИЕ

Одним из важнейших условий подлинного расцвета белорусской литературы Максим Богданович считал ее обращение к фольклору, наиболее полно выражающему «народную душу». Другим условием — самое широкое обращение к европейской поэтической традиции.

Богданович писал: «Стремясь сделать нашу поэзию не только по языку, но и по духу и складу произведений подлинно белорусской, мы б допустили тяжкую ошибку, если бы пренебрегли той выучкой, которую нам давала мировая (чаще всего европейская) поэзия... Выло бы более чем упущением — ничего не взять из того, что сотни народов на протяжении тысячи лет собирали в сокровищницу мировой культуры».

Такой широты в постановке вопросов литературных взаимоотношений белорусская литература до Богдановича не знала. «Наша нива» помещала на своих страницах переводы из русских и европейских писателей, но эти переводы подбирались с определенной точки зрения: печатались отрывки только тех произведений, в которых так или иначе отражалась борьба угнетенных народов. Ориентации же молодой литературы на широкую учебу у других народов не было.

В связи с выдвижением задач овладения культурой вставал и вопрос об учебе в конкретном смысле слова. И здесь ярко сказались литературные вкусы Богдановича.

Питая определенные симпатии к русскому и западноевропейскому символизму, испытывая влияние его, Богданович вместе с тем остался чужд религиозно-философским основам симво-

Свяціце паходняй,
Далёкія зоры,
Палайце над цэлай зямлёй!
За шчасце радзімы
Ад мора да мора
Народы устануць сцяной!

Мы пройдзем праз пушчы.
Не згубім напрамак,
Займуцца агнём рубяжы.
Не трэба, матуля,
Не плач каля брамы
Ды ўнука пільней беражы.

Няхай мы спаткаемся
З куляй раптоўнай
У першыя тыдні вясны,
Сябры перамогуць
У бойцы ўсё роўна
І сына ўзгадуюць яны.

Шырока і вольна
Па цэлым сусвеце
Без меж закрасуюць палі,
Шчаслівыя людзі
З вясёлымі дзецьмі
Па радаснай пройдуць зямлі.

І песню узнімуць
Над сонечнай шыр'ю
Такую, як морскі прыбой,
Пра слаўныя былі,
Пра дружбу і шчырасць,
Пра нас, дарагая, з табой.

*1936 г.*

## ПЕСЕНЬКА

Кожны дзень увечары
Песня калабродзіла,
Ліхтары успыхвалі

Ў парку ля кіно.
Стройная і лёгкая,
Ты заўжды праходзіла
Кожны дзень увечары
Паўз маё акно.

Я не ведаў, любая,
Хто, адкуль ты гэткая,
Лідай ці Наташаю —
Як завешся ты;
Ці кіруеш ў небе ты
Лёгкай авіэткаю,
Ці рыхтуеш к сесіі
Нудную латынь.

Толькі бачыў: слалася
Даль табе рамонкамі.
Яблыні працягвалі
Снежных кветак бель,
Частыя гармонікі
З салаўямі звонкімі
Гімны адмысловыя
Ладзілі табе.

Ноч ішла па вуліцах
Ў песнях, у гармоніках,
Майку атуляючы
Белую тваю.
І сядзеў гадзінамі
Я на падаконніку,
Палахлівасць лаючы
Прыкрую сваю.

Ліўнямі пявучымі
Чэрвень пачынаецца,
Далі клічуць смоламі,
Свежасцю лясной.
З гэткімі турботамі
У мяне зрываюцца
Ўсе мае экзамены
Гэтаю вясной.

Як дрымотным ветразем
Подыха чаканага,

Як даліне, прагнучай
Быстрае ракі, —
Так у цэлым горадзе
Мне тваёй, каханая,
Не стае маленькае
Дужае рукі.

*1937 г.*

## ЛІВЕНЬ

За хмары сонца ўраз зайшло,
І пад акном крывыя сосны
Прыціхлі, марачы аб роснай
Начы.
            І мухі білі ў шкло.
Піхнуў акно —
Ўсё роўна млосна
І нечым дыхаць больш было.
І неабсяжныя палі
Ад смагі ў мораку плылі.

І вось ў наступную хвіліну
Віхор!
            Адкуль ён незнарок?
Страшэнны пыл ляціць ў даліну,
Маланка асляпіла зрок,
Пярун магутны грымнуў. Лінуў
Пявучым лівень малады,
Як мора пругкае вады,
На дах,
На хвоі,
На галіны...

Ён ў тры хвіліны існавання
Шпакоўні, дуплы —
Ўсе дазвання
Дамы птушыныя заліў,
Ён шчодра бляклы дол паіў,
Ён чараду абдаў па стане,
Ён людзям моцна ў дзверы біў.

Я зразумеў:
ён клікаў нас,
І ты сказала:
— Ў добры час!
Адкінь дакучную фіранку,
Ўсе вокны насцеж, чалавек!
Мы выйшлі з дому.
Скрозь ад ганка
Па раўчуках, бы стромах рэк,
Ішлі мы, славячы маланку
І дождж,
Што гоніць сон з павек,
Што жывіць дол,
сады і травы...

А ён ўсё рос,
Ўсё прыбываў,
Ён, як жывы,
Бурбоіў жвава,
Смяяўся,
Фыркаў
І спяваў,
Ў тры ручаіны бег па твару,
Імкнуўся спрытна за каўнер...
А мы ішлі пад шчодрай хмарай
У неабсяжныя абшары,
Прывольна дышучы цяпер,
Працягшы сквапныя далоні
Насустрач залатой вадзе...

...Ў палях мы стрэлі двух людзей
На вараных гарачых конях:
То старшыня быў, наш Арцём,
І з ім калгасны аграном,
Абодва у плашчах набракшых.
Брат закрычаў:
— Падсохнуць дзе б?
Ай, малайчына дождж́ык!
Як жа
Цяпер на славу будзе хлеб!
А дождж тым часам змоўк,
праз хмары
Прабіўся сонечны прамень,

І над зямлёю звонкі дзень
Ізноў спяваў і гаспадарыў.

Размыўшы ўмомант каляіны,
Ператвараючы двары
У акіяны і мары,
Яшчэ шумелі ручаіны
К Дняпру з высокае гары.
А на калу,
                        каля паркана,
Абмякшы верабей стары
Ужо абтрэсваўся старанна,
І чысціў дзюбаю крыло,
І клікаў маладых ды ранніх
З-пад стрэх,
                        на сонца,
                                        на святло.

Здаецца, кожны з нас выростаў
У гэты слаўны час,
                                        калі
Раслі лісты,
                        аўсы раслі...
І нам здалася праўда простай,
Што ў свеце нашага сяброўства
Ніякім ліўнем не разліць.
Я паглядзеў на край пасёлка
І, поўны сонца і надзей,
Сказаў:
                — Глядзі, сама вясёлка
Нам абяцае слаўны дзень!
А ты ў адказ крычала, квета:
— То арка дружбы, сябра мой!
І мы прайшлі ў гады
                                        пад гэтай,
Як песня, звонкай і тугой
Сямікалёрнаю дугой.

*1937 г.*

## ТУГА

Помню жнівень позні гэты,
Помню: над вадой стаім...
Ліда Іванова, дзе ты
З простым прозвішчам сваім?

Ля высокай нашай брамы
Стрэў цябе выпадкам я —
З тога часу мы сябрамі
Сталі, светлая мая.

Два гады мінулі роўна,
Толькі цішаю начной
Ўсё мне сніцца смех чароўны,
Крок знаёмы за сцяной.

Мы ж з табою дзён без ліку
У чыталках правялі,
Мы з табою на залікі
Вечна першымі ішлі.

Толькі як раскідаў шаты
За акном вячэрні змрок,
Не са мной —
з другім ішла ты
У кіно ці на каток.

Шлях мігцеў пад ліхтарамі...
Я душыў сваю тугу:
Мы ж лічыліся сябрамі,
Я спрачацца не магу.

Я імкнуўся быць цвярозым:
Кніжку браў,
Гартаў лісты,
Толькі зноў ішлі на розум
Ноч марозная і ты.

Ды нарэшце нечакана
Звёў увечары нас лёс:

Памятаю, чамаданы
На вакзал табе я нёс.

Ты спяшалася. Праз залу
Мы прайшлі да цягніка.
Ты мне шчасця пажадала
Пасля трэцяга званка.

Вось вагон хіснуўся лёгка
І паплыў...
Бывай, спакой!
Дзесьці ты цяпер далёка —
Не дастаць цябе рукой,
Не паклікаць.

Ў сінім світры
Ноч. Снягі, як дываны.
Ціхі гарадок Дзімітраў
Сніць прадранішнія сны.

Дні вяртаць дарэмны спробы.
Як жа міма ты прайшла,
Ты ж ударніцай вучобы,
Ты ж выдатніцай была.

Ўсё ў жыцці магла, умела,
Не пытала ні ў каго.
Як жа ты не зразумела
Сэрца простага майго?

*1937 г.*

* * *

Верасень тонкі. Зыбучая ціш.
Двухпавярховы дом.
Ты у пакоі адна стаіш
Перад сваім акном.

Падае лісце. І вечар над ім,
Быццам слюда, празрыст.
Ўпарта праводзіш ты зрокам сваім

Кожны асенні ліст.

Ты называеш імя «Алесь»,
Жмурыш расніц ты шоўк.
Ты не назвала мяне, але
Хочаш, каб я прыйшоў...

Толькі дарэмна дыміцца шлях —
Я не прыйду к табе.
Што мне рабіць: не прыйду, а пасля
Век не прабачу сабе.

Буду над рэчкай блукаць да змор,
Буду курыць. Бывай...
Сінія хвалі. Светлы прастор.
Родны прывольны край!

Хочаш — у высях птахам кружы,
Хочаш — дубы карчуй.
Што ж нам патрэбна яшчэ, скажы?
Горач маю адчуй...

...Верасень тонкі. Зыбучая ціш.
Цягне маленькай журбой.
Зрокам сваім нерухомым глядзіш
Проста перад сабой.

Светлае ў доме насупраць акно.
Вэлюм фіранкі ўзнят:
Мые суседка сваіх крыкуноў,
Слаўных хлапцоў-двайнят.

Бацька глядзіць на сыноў і цвіце:
Хутка ўжо стануць хадзіць.
Ўсімі забыты даўно на пліце
Чайнік ўзлавана кіпіць.

Светлае ў доме насупраць акно.
Там круглы год — вясна.
Дрэвы празяблае вецце даўно
Цягнуць да тога акна.

Людзям сяброўства вялікае іх
Дапамагае жыць.
Горы варочаць, ў мора хадзіць,
Водар лясны любіць.

Толькі ў нас нешта,
як ты ні пішы,
Нешта не ладзіцца ў нас.
Радасць бацькоўства, блізкасць душы,
Я замарыўся без вас!

З лета, як стрэліся мы, палічы,
Колькі сплыло вады.
Гэта не проста тры дні і начы —
Тры непаўторных гады.

Я узбягаю на ганак. Я
Зараз іду, чакай.
Дзе яна, дай мне, малая твая
Бронзавая рука.

Што ж за каханне такое, штось
Быццам чужы мне наш дом.
Мучымся скрозь. Журымся скрозь.
Людзям жыцця не даём.

*1937 г.*

## КРЫВЁЮ СЭРЦА
*Гвадарамская аповесць*
*Урывак*

Гренада, Гренада,
Гренада моя.
*М. Святлоў*

Цвілі акацыі. Завесай
Пялёсткаў,
ліўняў
і стрыжоў
Кіпучы чэрвень на Адэсу
З узмор'я цёплага ішоў.
І ў люкі чорных параходаў,
У пыл партовай мітусні
З начы ўрываўся церпкі водар
Мядзвяных траў.

У тыя дні
Па свежаку, па хмельным ўлонні
Блукаў над самаю вадой
Шыракаплечы каталонец —
Барталамео Гільярдо.
Як сына роднага, Адэса
Спаткала ветла марака.
Стары заслужаны прафесар
Яго лячыў.
Ужо рука
Не ныла. Толькі пальцы нешта
Ўсё не сціскаліся ў кулак.
І ўсё чакаў, чакаў марак,
Калі прафесар,
Зняўшы ўрэшце
З рукі павязкі ўсе свае,
Пацісне, дужую, яе.
Усё чакаў, калі гранату
І стрэльбу верную калі
Яна узніме зноў на катаў
Яго далёкае зямлі.

Мы падружыліся. Па-руску
Мой сябра ведаў сорак слоў,
А я свой леташні французскі
Залік
не ў жарт прыгадваў зноў.
Калі ж рэсурсы ўсе знікалі,
Звычайных сродкаў апрача,
Мы карысталіся рукамі
І разумелі па вачах.
Шумелі хвалі. Брыз прахладны
Студзіў нам твар сваім руном.
Ён частаваў мяне заядлым
Сваім матроскім тытуном.
Узбегшы лёгка на прыгорак,
Ён аглядаў прасцяг далін
І прагна дыхаў, быццам хворы,
Паветрам нашае зямлі.
Ды слухаў, як грукочуць краны,
Як васьмікласніцы пяюць,
І ўсё расказваў, ўсхваляваны,

Мне пра Іспанію сваю.
Так пад крылом блакітнай ночы,
Калі ля ног шумеў прыбой,
Аповесць сумную аднойчы
Мне расказаў таварыш мой.

I

Год пяць назад пад Авіеда,
Ў капальні,
Ў час абвалу шахт,
Забіты быў праходчык Ньета,
Суровы, не любіўшы кветак
Шахцёр, ўдавец другое лета,
Калісьці зух і весяльчак.
Калі асеннім хмурым раннем
Сябра хавалі гарнякі,
Дачцэ яго старэйшай, Франі,
Было ўсяго, лічы, якіх
Пятнаццаць год.
                Сіротам выпаў
Сіроцкі лёс. Усё часцей
Пасля прыдушаных усхліпаў
Перапалоханых дзяцей,
Ўсё безвыходней, як навала,
Усё трывожней з таго дня
Ў шахцёрскай хаце навісала
Бязрадасная цішыня.
Тады аднойчы на світанні,
Сабраўшы ў клунак і вядро
Усё шахцёрскае дабро,
З двума малодшымі братамі
(Ў кішэні некалькі пезет)
Пайшла Франсіска ў белы свет
Шукаць прытулку —
                        за пасёлкі,
За гушчы восеньскіх імжак...
І лівень сек,
            і вецер золкі
Расхрыстваў бацькаўскі пінжак.

Вакзал. Цягнік. Далёкі шлях.

Ў Мадрыдзе, дзесьці на Альвара,
Радня якаясьці жыла...
Жыла калісьці, толькі зараз
Франсіска цёткі не знайшла.
Дзяўчыну на уласным хлебе
Ўзяла мадыстка («будзе толк!»).
Дзесь пад страхой, на сёмым небе,
Адгарадзілі ёй куток
І не пакінулі хвіліны
Для суму — вечна на нагах.
І хай, бывала, без прычыны,
За нестрыманы ўздых адзіны
Патронша біла па шчаках, —
Быў хлеб уласны у дзяўчыны
І пад асеннім небам дах.
Ішлі гады. Даўно ўжо тройчы
Вясна мінула за вясной,
І вось на досвітку аднойчы
Па-над Сэрвантэса зямлёй
Праплыў,
узняты чорным збродам,
Берлінскай ночы жудкі цень:
Крыві іспанскага народа
Сцярвятнік хіжы захацеў.
Але з усіх бакоў рашуча
Краўцы, матросы, гарнякі,
Філосафы і пастухі
Насустрач «фюрэру» і «дучэ»
Узнялі гнеўныя штыхі.
Нязломныя адзінаверцы,
Яны пайшлі на процьму зграй
Штыхом,
агнём,
крывёю сэрца
Адстойваць сонечны свой край.

II

Ў той дзень ізноў,
Мадрыдскіх ўскраін
Перашагнуўшы рубяжы,
Ўгары прайшлі «фіятаў» зграі,

Як свасцік чорныя крыжы...
...Гурбою вучні йшлі з заняткаў
З лемантарамі у руках,
Малых дзяцей купалі маткі
Ў эмаліраваных тазах.
Спавітыя ў платанаў зелень,
У вэлюм даўняй цішыні
Краіны лепшыя музеі —
Славутай гонар старыны, —
Узнёсшы лёгка к высям светлым
Уступы строгіх стромкіх веж,
Бялелі мірна. Ветрык ветлы
Блукаў між сонных лоз-мярэж...
І раптам
выбух нечуваны.
Ў шматкі парваўшы цішыню,
Нібы пярун той ураганны,
Ўсё аглушыў і ўсхамянуў.
І потым новы,
дзесьці блізка,
Над самай дзесьці галавой...
І вось ў паветра з дзікім віскам
Ляціць грамада абеліска,
Афорт Гойя,
рука,
калыска
І жоўты дзёран з нежывой,
Зусім як леташняй, травой.
Амаль губляючы прытомнасць,
Зусім не помнячы сябе
І нават не адчуўшы стомы,
Францiска бегла...
На трубе
Водаправоднай,
каля даху,
Ўгары матляліся шматкі
Знаёмай коўдры.
Кроў ад жаху
Пахаладзела: «Хлапчукі,
Луіс і Педра...»
Столь нібыта
Над ёй хіснулася,

пайшла...
Сцяной абрушанай забіты,
Ляжаў малодшы ля стала.
І тут жа большы, каля Педра,
Будзіў яго...
«Браты, браты...»
Знадворку, звісшы у паветры,
Два абадраныя драты
У фортку білі як папала...

Тады ж увечары,
калі
Франсіска не знайшла запалак,
Каб лямпу ў хаце запаліць,
Луіс ёй крыкнуў, шапку ўзяўшы:
«Куплю запалак, пачакай!»
І, ў лоб сястру пацалаваўшы,
Ён выбег з хаты.
Хлапчука
Больш і не бачылі.
Ні ўночы,
ні ўранні не вярнуўся ён —
Пайшоў, напэўна, да рабочых
І дапрасіўся ў батальён.
Ён ім адпомсціць,
лютым катам
(З ім поруч тысячы ўстаюць!),
За гэты жудкі дзень,
За брата,
За ўсю Іспанію сваю...

Ўсю ноч праседзела Франсіска
Без слёз ў пустэчы нежылой.
Над дахам хмары беглі нізка,
Над самай беглі галавой.
Ціш спавіла асфальт Алкала,
І толькі недзе там,
над ім,
Па стрэхах бляха скрыгатала
Галодным скрогатам сваім.

Калі ж назаўтра гулкім раннем

Па хісткіх сходках Дома мод
Узбег Хазэ, каханы Франі,
Прад выступленнем у паход,
Яна сама была гатова
Туды,
        дзе дол зямлі дымеў.
Ён па вачах яе, без слова,
Як і заўсёды, зразумеў.

III

І з таго часу скрозь нязменна
Па згойсаных шляхах вайны
У сініх вопратках ваенных
Плячо ў плячо прайшлі яны:
Басконскіх гонар футбалістаў,
Матрос з «Хаіме», весяльчак,
І з ім маленькая мадыстка
З дзіцячым сумам у вачах.
У батальёне ўсе іх зналі:
Далі ж яны панам турбот —
Штодня фашысты пракліналі
Са страхам іхні кулямёт.
Па дымных сцежках Гвадарамы
Да горнай вёскі Сент-Ала
Пад неспакойнымі вятрамі
Іх дружба поруч правяла.
І толькі там, прад самай ноччу,
Атак спыняючы паток,
Зарыўся тварам кулямётчык
Ў дарожны пыл, ў сухі пясок.
Смерць губы смаглыя скавала,
І толькі на дрыжанню іх
Дзяўчына з жахам прачытала:
«Цяпер змагайся за дваіх.
Няўжо ж паводка куль густая
Не спыніць крок варожых зграй?
Не падпускай іх, залатая,
Трымай, каханая, трымай,
Пакуль сябры назад,
                                за ўзгорак,
Праб’юцца куляй і штыхом,

Пакуль шрапнелі загавораць
Над інтэрвенцкім гарадком!»
І вось, бляднеючы, Франсіска
Крычыць праз гул сама сабе:
«Цяпер, мадрыдская мадыстка,
Усе надзеі на цябе!»
Проставалосая,
худая,
Яна не чуе даўніх ран.
Да кулямёта прыпадае
Сухой шчакой:
«Но пасаран!
Віва рэспубліка!»
І градам
Свінцовым стрэты ланцугі.
«Віва рэспубліка!»
І радам
Адзін кладзецца за другім.
Яшчэ скупое намаганне —
Прайсці пякельны гэты град.
І з дзікім ровам ў замяшанні
Лавіна коціцца назад.
Спыні яе рукою спрытнай,
Не дай драпежніку хады,
А не — ён зноўку, ненасытны,
Як пошасць, вернецца сюды.
Хутчэй, хутчэй!
І сцеле пластам
Фашыстаў зноў яе агонь.
Гарачай жылкай
часта-часта
Пад чорнай пасмай б'ецца скронь.
«Но пасаран!
Не, тут сустрэньце
Свой час астатні, люты зброд!..»
Але...
канец апошняй ленце,
І моўкне верны кулямёт.
І пустата, як ноч, глухая,
І жудасная цішыня
Франсіску раптам абступае
З усіх бакоў.

Глядзіць яна:
Патроны выйшлі ўсе дашчэнту,
Пустыя гільзы на шляху.
Яшчэ б адну, здаецца, ленту,
Адну б кароткую чаргу.
Пакуль сяброўскіх кулямётаў
З-за скал загутарыць свінец,
Пакуль ўзаўюцца самалёты, —
Яшчэ б патрон...
Але канец.
А ворага ланцуг,
узняты
Нядобрай гэтай цішынёй,
Зноў набліжаецца.
Гранаты
Ірвуцца дзесь. Пачаўся бой...
Ды толькі смерць спужае хіба?
(Рука, ад зморы не дрыжы!)
Ужо сябры за перагібам
Свае мацуюць рубяжы.
Яны назад ўсё роўна прыйдуць,
І дрогне чорная сцяна.
Ты ўсё зрабіла для Мадрыда,
І зараз не твая віна.
Дарма, што зноў Франко найміты
Лавінай рушаць на цябе.
Шчэ пісталет:
шэсць куль бандытам
І толькі сёмую сабе,
Пакуль лядком не студзіць скроні,
Пакуль ўзнімаецца рука,
Спаткай на славу макароні*,
Мадрыда верная дачка!
І вось, прышчурыўшыся ледзьве,
Яна намацвае курок,
І грузна рушыцца пярэдні
І кіпцямі скрабе пясок.
І зноўку стрэл...
Агнёвай стромай
Глушы драпежніка!
Але
Хвіліна — і з сямі патронаў

Адзін апошні у ствале.
Цяпер хутчэй, марудзіць досыць:
«Хазэ, ты чуеш, мой сакол!
Віва рэспубліка!»
Падносіць
Яна да сэрца чорны ствол.
«Каб два было, я б два без жалю
Жыцці Мадрыду аддала...
Цяпер дарма, што ў дзікім шале
Паводка блізка падышла.
Памерці — шчэ не пакарыцца.
Смялей курок спускай цяпер...

Хутчэй, хутчэй — і подых спынен!..»
Раве пярэдні афіцэр.
З крывёй налітымі вачыма,
Руды, засопшыйся, цяжкі,
Ён кідаецца да дзяўчыны,
Каб папярэдзіць рух рукі.
«Хутчэй, хутчэй — і подых спынен!..
Хазэ, бывай! Бывай, Мадрыд!
...Але няўжо ён жыць павінен,
Агідны вораг і бандыт?
Не, не.
Агідны смоўж пракляты,
Не пашкадуюць сотні куль
Мне ашуканыя салдаты,
Трымай жа гэтую пакуль!»
І, не зрабіўшы ўперад крока,
Як бег шалёным вепруком,
Вялікі, потны, мутнавокі,
Ён грымнуў вобземлю пластом.

IV

Яны пра полк яе пыталі.
Яна маўчала.
Ёй тады
Круцілі рукі, жылы рвалі,
Давалі піць, і зноў пыталі,

* Макароні — пагардлівая мянушка італьянскіх інтэрвентаў у Іспаніі.

І зноў падносілі вады.
Яна маўчала, сцяўшы зубы,
Хоць чула — моцы не стае.
...Дык вось чаму імгненнай згубы
Пашкадавалі для яе!
А потым знікла ўсё кудысьці,
Ўсе правалілася у муць.
Адно запомнілася: ў высі
Хмурынкі лёгкія плывуць.
Адно здалося: кулямёты
Сустрэлі ворага з гары.
І больш ніякія турботы
Не хвалявалі.
...Ўсе сябры,
Здалося, пелі «По долинам».
Здалося, йшлі ў апошні бой.
Жанчына з поглядам арліным
Вяла калоны за сабой,
Хістаў штандары подых ўзмор'я,
І над усёй зямлёй адна,
Узняўшы светлае сузор'е,
Плыла зубчатая сцяна.
....................................................

Зямля мая!
Табе ўсе думы.
Ты ўстала людзям, як маяк,
Цябе інакшай не прыдумаць,
Інакшай не ўявіць ніяк.
І хто б ні быў мой брат па справе
І па крыві гарачай брат:
Арктычны лётчык ў снежнай лаве,
Ці пагранічнік на заставе,
Ці пятага палка салдат, —
Заўжды, зямля,
Праз шал нягоды
Ў цяжкой няроўнай барацьбе
Табе яго апошні подых
І думка першая — табе.

*1937 г.*

## ДНЯПРО ВЫХОДЗІЦЬ З БЕРАГОЎ

У добры час
Крамяна-звонкай
Сакавіковай раніцой,
Узняўшы бурных хваль гамонку,
Зламаўшы мост лядзяны свой,
Сабраўшы з гор і просек чорных
Ваду затопленых снягоў,
Кіпучы,
шумны,
непакорны
Дняпро выходзіць з берагоў.

Як мора цэлае,
праз грэблі
Да самых сосен на гары
Гуляюць пругкіх валаў грэбні
І круцяць шумныя віры.

І ўся славутая акруга
Пяе, як маладосць твая...
Выходзь жа,
Верная падруга,
Апора лепшая мая!

Калісьці
Кволаю дзяўчынкай
Цябе сустрэў я на шляхах
З пярэстай лёгкаю хусцінкай,
З галінкай бэзу у руках.

Ідуць гады.
Ты стала дужай.
Вышэй ты стала і статней;
Ідуць гады, і наша дружба
Штодня цясней,
Штодня мацней.

І так нам сцежкаю лагоднай
Скрозь
поруч крочыць у прасцяг
З вясёлай песенькай паходнай,
З цяплом сяброўства у вачах...

Глядзі,
сабраўшы ў хвалі спрытна
Ваду затопленых снягоў,
Кіпучы,
бурны,
ненасытны
Дняпро выходзіць з берагоў.

Які прастор!
Які надзіва
Прыгожы дзень!
Цудоўны край!
Дык узнімай жа лебядзіны,
Крылаты парус узнімай.

Хай б'юцца хвалі ў борт бясконца —
Мы пераможам волю стром.
Насустрач маладому сонцу
Свой лёгкі човен павядзём.

І песняй простаю і шчырай
Уславім дружбы светлы шлях,
Сцягоў нямеркнучую чырвань,
Зямлю
і квецень у садах.

*1938 г.*

## ВЯСНА

Ізноў хмурынак лёгкі дым
Па сіні веснавой
Плыве над горадам маім,
Над вуліцай маёй.

Бяжыць з гары варчун-раўчак,
Грукоча першы гром,
І неспакойны дачнік шпак
Свой рамантуе дом.

На цэлым свеце шум і гам,
Вясна, мой друг, вясна!
А мой пакой — не знаю сам,

Маркота ў ім адна.

Ні брудны ён, ні цёмны ён,
А кінеш зрок наўкол —
Зялёны сум, дакучны сон
Глядзіць з усіх куткоў.

Няхай бы гэтай раніцой
Ты выпадкам зайшла,
Дзявочай спрытнаю рукой
Парадкі навяла,

Каб не высокі стус старых
Чарнавікоў, але
Букет пралесак веснавых
Узняўся на стале.

Каб вокны насцеж, каб вясны
Ўварваўся шум і гам,
Каб вечна строгі, са сцяны
Ўсміхнуўся Гегель нам.

Ты азірнулася б наўкруг,
І мо б табе суздром
Не захацелася, мой друг,
Адсюль у іншы дом.

Мо б я тады не быў хлапчук, —
Адважыўся б, сказаў,
Што гэтых губ і гэтых рук
Я сто гадоў чакаў.

Што я маўчаў, маўчаў, пакуль,
Нібы галодны звер,
Зіма гула у рог віхур,
Але цяпер, цяпер

Мне не схаваць таемных дум,
І не мая віна —
На цэлым свеце гам і шум —
Вясна, мой друг, вясна.

*1938 г.*

## СЛАНЕЧНІК

У лёце гэтых дзён бясконцым,
Пад гэтым небам маладым
Твой лёс — маім быць ясным сонцам,
А мой — сланечнікам тваім.

Куды ні пойдзеш, ні павернеш, —
Я ўслед вярнуся за табой,
Як той сланечнік, сонцу верны,
Сваёй кудравай галавой.

*1938 г.*

## КЛОПАТ

Сваёю лёгкаю рукою
Ты спавіла маё чало,
І ўраз ўсе клопаты з тугою
Нібы рукой з мяне зняло.

Ды толькі ўжо цяпер спакою
Мне новы клопат не дае,
Каб ты заўжды была такою,
Каб ты заўжды, як дзень ўстае,
Сваёю лёгкаю рукою
Здымала клопаты мае.

*1938 г.*

* * *

Ты не глядзі, што рана скроні
Заткала інеем зіма.
Падай мне цёплыя далоні
І ціха поруч сядзь сама.

Яшчэ далёка золь і восень
І свежы весніх сіл прыбой,
І гэта толькі так здалося,
Што пастарэлі мы з табой.

То госця іншая, я веру,
І гэта строгасць недарма, —
Цвярозасць мудрая у дзверы
Нам сёння стукнула сама.

Адчынім ёй. Ў жыццёвым плёску
Ўсяму свой час і свой чарод,
Так ападаюць з дрэў пялёсткі,
Каб завязь выспела у плод.

Так нетаропкая развага
Ад бестурботнасці заве,
І так, забыўшы Афенбаха,
Душа Бетховенам жыве.

Над чуйным сном клавіятуры
Двух белых лебедзяў палёт
Даўно мне мроіцца. У хмурым
Вячэрнім змроку гукаў буру
Абудзіць ён і так без нот.

Няхай Бетховен уварвецца
У гэты ціхі дом, сюды,
Як бура ў сонныя сады,
Няхай матыў ракоча, льецца
І разам плача і смяецца,
Жывы і вечна малады.

І ўвесь пакойчык вечаровы
Напоўніць шолахам далін,
Жалейкай гучнай раніцовай,
Святлом вясёлкі каляровай,
Празрыстай свежасцю дубровы,
І звонам горных ручаін,

Каханнем, смуткам палыновым,
Трывогай, болем, сном благім,
Тугой, бядой — усім, усім,
Што ёсць ў жыцці, і шчасцем новым.

*1939 г.*

## СЯБРЫ

Як я з Андрэем жыў-дружыў,
Таму калгас наш сведка.
Я зрубы новыя рубіў,
Ён печы клаў — на рэдкасць.

Рухавым, спрытным двум хлапцам,
Вясёлым і упартым,
Давалася майстэрства нам
Не цяжка, быццам жартам.

І што ўжо так крывіць душой —
Услых кажу, не ўпотай, —
Мы ганарыліся сваёй
І дружбай і работай.

Бывала, ладжу я вянец,
Чалеснік ён выводзіць.
— Не падкачай, — крычу, —
хлапец!
— Трымайся! — друг мне грозіць.

Ні разу я не падкачаў,
І з сотні хат — як лёду —
Ён без памылкі пазнаваў
Мае вуглы заўсёды.

Ды пэўная, я ведаў, рэч —
Не падвядзе ён друга,
І, ўбачыўшы дзе-небудзь печ —
Красу на ўсю акругу,

З усмешкай перад ёй стаю,
У поглядзе — пяшчота:
— Ну як жа, як жа, пазнаю —
Андрэева работа.

І чуткі між дзяўчат тады
Пра нас пайшлі такія,
Што жаніхі мы хоць куды,
Што рукі — залатыя.

Так дзень за днём гарачы плыў,
На славу мы дружылі.
А гэтай восенню — прызыў,
Нам позвы ўжо ўручылі.

Тым лепей, браце, чым хутчэй
Чаканы дзень прыходзіць.
— Не падкачай, — крычу, — Андрэй!
— Трымайся! — друг мне грозіць.

Трымціць на клёне позні ліст,
Гусцее пазалота.
Таварыш мой — артылерыст,
Я — сціплая пяхота.

Дарма, што поруч не ідзе
Са мной Андрэй, як колісь:
Я знаю — друг не падвядзе,
Хоць пасылай на полюс.

І будзе бой — агонь і змрок,
І вораг азвярэе.
Ды на падмогу мне здалёк
Ударыць батарэя.

Я галаву ўзніму сваю,
Павесялее рота,
І я скажу ўслых: — Пазнаю,
Андрэева работа.

І дрогне вораг, і вятры
Развеюць дым і грукат,
І зноўку стрэнуцца сябры —
Пацiснуць моцна рукі.

*1939 г.*

# З ФРАНТАВОГА БЛАКНОТА
(1941–1942)

## О ВСТРЕЧЕ

Опять апрель, и голубая
Прозрачна дымка над землёй.
Теперь бы нам бродить,
родная,
Так, взявшись за руки, с тобой,
По талым тропкам, по знакомым
Крутым днепровским берегам.
Но день и ночь грохочут громы,
Пылают села по ночам.
И, глубоко запрятав нежность,
Весь огрубев, озлобясь весь,
Иду, иду по склонам снежным
С винтовкою наперевес.
И если новый день встречаю
В другой избе, в другом селе, —
Пусть дальше ты,
Но ближе, знаю,
Забытый вечер на земле,
Без рева пушек, без картечи,
И ближе Днепр, и соловьи,
И город наш,
И трепет встречи,
И губы теплые твои.

## СВЯТАЯ МЕСТЬ

За разоренные селенья,
за кровь, насилие, разбой,
за непомерное глумленье
над нашей Родиной святой;

за стоны жен, за вопли наших
сестер, за слезы матерей,
от мук рассудок потерявших
в когтях насильников-зверей;

за стариков, сожженных в хатах,
за брошенных под танк ребят,
за всё, что дорого и свято
с тех пор, как помним мы себя;

за полыхание пожарищ,
земли поруганную честь —
один ответ у нас, товарищ, —
святая яростная месть.

## ОСЕНЬ

Дождь зарядил с утра бессменно,
воды в окопе по колено.
И льет, и льет из туч вода.
Ну что ж, вода, да не беда.

Сыпь, припускай заядлей, дождик,
начнись пораньше, лей попозже.
Уж мы потерпим, так и быть —
на то и осень, чтоб мочить.

Ведь в блиндаже у мокрой рощи —
известно, не в гостях у тещи,
где и блины, и сладкий мед,
и самовар — не пулемет.
……………………………………

Ну вот, достали плащ-палатки,

и снова, парень, всё в порядке,
и можно жить и не тужить,
врага по-нашенски глушить.

А заиграет в час досуга
гармонь — певучая подруга, —
мы как пойдем с разбега в пляс —
возьми, беда, попробуй нас.

Мы ж как-никак, товарищ, дома,
нам как-никак здесь всё знакомо.
А вот непрошеных гостей
прохватит осень до костей.

Излихорадит, измотает —
живого места не оставит.
Пошли дожди — и нет дорог,
их танки встали поперек.

А там зима, мороз, метели,
врагу студеные постели.
...Нам бить врага не в первый раз.
Сыпь, дождик, гуще, в добрый час!

## «РУЖА»

А ці міг, ці век — не знаў ніхто там,
Колькі моўчкі праляжалі мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.
Толькі раптам лютаўская сцюжа
Адступіла быццам, адлягла.
Чую і не веру сам я — «Ружа»,
«Ой, расцвіла ружа, расцвіла...».
Азірнуўся: ціха ў задуменні
Сам сабе спявае зампаліт.
Слухаем. І нікне поўнач ценем,
Іншыя ўстаюць хлапцам палі.
Случчына каму, каму у песні
Амсціслаўшчына яго ўстае,
Мне ж — рачэнскі край, маё Палессе,

Вербы, вочы ясныя твае.
І узбек, сусед мой, вочы мружыць
(Што ён прыгадаў у той цішы?),
Слухаў-слухаў і ўсміхнуўся: «Ружа.
Ружа, — зноў ён паўтарыў, — якшы».
І да самае атакі потым
Больш не думалі аб сцюжы мы
На краі сыпучага сумёта
Пасярод марознае зімы.
Так заўжды хвілінамі цяжкімі
Саграваеш ты, Радзіма, нас
Зор сваіх святлом, вялікім імем,
Шчыраю парадай ў добры час!
Вестачкай паштоўкі нечаканай,
Пачкам папярос, здалёк прысланым,
Песняю сардэчнаю сваёй,
Проста думкай аб табе адной.

*Мажайск*
*1942 г.*

# ТВОРЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ*

## ПРА МАЙГО КАТКА

Ў доміку маленькім
Пад крутой гарой
Я жыву з любімай
Бабкаю сваёй.

У мяне ёсць жвавы
Шэранькі каток,
Жэўжык, непаседа,
Вечна — скок ды скок!

Кожны дзень кацёнку,
Як іду ў дзетсад,
Слухацца бабульку
Я даю загад.

Вечна абяцае
Слухацца каток,
А пасля ў бабулькі
Схопіць з рук клубок...

І давай па хаце
З ім скакаць блазень, —
Бедная бабулька
Ловіць цэлы дзень.

Ўвечары з дзетсада
Я прыйду сама, —
Знік клубок бабульчын,
Мячыка няма.

Я крычу са злосці,
А каток: «Мяў-мяў,
Я клубка не бачыў,
Мячыка не браў!»

---

* Творы напісаны разам з А. Ушаковым.

Хвосцікам паводзіць,
Гнецца у дугу,
Трэцца шэрым бокам
Аб маю нагу.

Я ад цёці ўчора
Ўвечары ішла,
На сцяжынцы ў садзе
Вожыка знайшла.

Як мяне убачыў —
Хітранькі звярок, —
Ўраз схаваў ён рыльца,
Звіўся у клубок.

Вострыя іголкі,
Быццам бы штыкі,
Натапырыў спрытна
Ў розныя бакі.

«Ну-ка, хто ахвочы —
Падыходзь, герой, —
Нас, браток, не возьмеш
Голаю рукой!»

Я яго хусцінкай
Ціханька ўзяла,
Ў дом к сабе прынесла,
Спаць сама пайшла.

Раніцой прачнуўся
Мой блазень-каток,
Бачыць: што такое —
Мячык ці клубок?

Бачыць і не верыць
Ён сваім вачам:
Як жывы за ложак
Мячык скокнуў сам!

І хутчэй схаваўся
Ад катка ў кутку.
Вось пацеха будзе
Нашаму катку!

Зараз яго лапкай
Ён адкіне ўбок.
Ой жа, як балюча
Колецца клубок!

«Вось табе за гэта!» —
Кінуўся ён зноў,
І яшчэ балючай
Лапы накалоў.

Запішчаў, заенчыў
Жаласна: «Мяў-мяў!
Гэткіх я ніколі
Цудаў не страчаў,

Каб клубок ці мячык
Мог калоцца так».
І яго панюхаць
Хоча мой бядак.

Не паспела скочыць
З ложка я далоў,
Як блазень цікаўны
Пыску пакалоў.

І цяпер сядзіць ён,
Па сваёй віне,
Ўвесь забінтаваны,
Ціхі на акне.

А на панадворку
Сёння за акном
Весела і шумна,
Хораша кругом.

Там вунь трусяняты
Дражняць індыка,
Ловяць кураняты
Майскага жука.

Вераб'ям прывольна
Па двары гуляць, —
Некаму сягоння
Вераб'ёў ганяць!

Бусел стаў паважна
На адной назе,
Костку Жук ля будкі
Смачную грызе.

Толькі ён пакінут
Па сваёй віне,
Ўвесь забінтаваны,
Ў хаце на акне.

Перад ім лякарствы
Горкія стаяць,
Ў дзень па чайнай лыжцы
Трэба іх прымаць.

Тут каток ад гора
Плакаць захацеў,
Ў гэты час на дровы
Певень узляцеў.

Закрычаў штосілы
Ён: «Ку-ка-рэ-ку!
Так табе і трэба —
Блазнюку-катку!»

## ШПАКІ

З новых дошчачак ад тары
З-пад алоўкаў і кніжок
Збудавалі мы з Тамарай
Белы чысценькі дамок.

Як сады зазелянелі,
Зашумелі ручайкі,
К нам з-за мора прыляцелі
Два вясёлыя шпакі.

Аглядзелі дом навокал —
Зверху, знізу і з бакоў...
І прыветна, і высока —
Чым не дача для шпакоў?

Нацягалі траў, саломкі,
Ложак выслалі пушком.
Цэлы дзень іх голас звонкі
Весяліў шпачыны дом.

Так жылі сабе ўсё лета
Два вясёлыя шпакі.
Ад сняданняў іхніх з кветак
Зніклі вусені, жукі.
Чатырох маленькіх дзетак
Потым вывелі шпакі.

Толькі сонца пачынае
Залаціцца на расе,
Мама песні ім спявае,
Тата ім жукоў нясе.

А калі прыйшлі туманы,
І зжаўцеў над рэчкай гай,
Нашы госці у хмуры ранак,
Далучыўшыся да стай,
За мары, за акіяны
Паляцелі ў цёплы край.

Апусцеў дамок вясёлы,
Змоўклі песенькі шпакоў.
Мы пайшлі з Тамарай ў школу,
Мы за кніжкі селі зноў.

Як увесну загавораць
Ў цёплай глебе ручайкі,
Прыляцяць к нам зноў з-за мора
Нашы слаўныя шпакі.

# ЛІСТЫ*

*25 февраля 1942 г.*
*г. Вологда*

Дорогая Лидасинька!

Наконец получил твое долгожданное письмо. Сколько радости! Как будто поговорил с тобой, если можно так выразиться. А то за это время я не то чтобы отвык от тебя, но и не ощущал твоего присутствия. Даже выразить это трудно.

Я тоже, родная, всё думаю, думаю о тебе, о нас, о нашей жизни. Так приятно думать. А теперь и о ребеночке.

Милошая моя, твои мама и Нина[1] — неисправимые романтики. А ты тоже подпала под их влияние. Война это не игрушки. Это тяжелое испытание — ты же сама понимаешь. Если вы там устроились хоть немного сносно, короче говоря, если там можно жить — значит, очень хорошо. А вот моя мама[2] пишет, что нельзя дальше жить. Что они со Светланой в лучшем случае живут впроголодь. Два раза в день мама получает в столовой порцию щей, и это всё. А иногда и этого не достается. Мне не дает покоя мысль о том, что я вообще преступно легкомысленно относился к этому до сих пор. <...>

Милошая моя, если бы ты знала, как я хотел бы увидеть тебя, как я всё время думаю о тебе, как я тысячу раз перебрал в памяти каждый день, который мы провели вместе, — и Москву, и Минск, и Могилев, и Белгород.

Из чисто эгоистических побуждений я мог бы думать о приезде твоем сюда. Но я понимаю, что лучше будет для тебя переждать там. Почему вы решили, что война окончена. Впереди еще много тяжелых испытаний. Через месяц-два, думаю, здесь будет с продуктами еще труднее.

Любая моя, береги себя для нас с тобой, для нашего ребенка. Лидася, как хочешь, но сама воду не таскай. Кстати сказать, сколько тебе надо в день воды, чтобы ты 3 раза в день ходила за полкилометра за водой? Я так рад, что у нас будет ребенок, и готов всё отдать, чтобы ему только было хорошо.

Пиши мне почаще. Я тебе буду тоже часто писать. Пиши подробно, как себя чувствуешь. Смотри не изнуряйся, береги себя.

Целую крепко, крепко. *Твой* Шура.

---

* Лісты адрасаваны жонцы паэта Лідзіі Мікалаеўне Сінічкінай. Асобныя з іх друкуюцца з невялікімі скарачэннямі.

Дорогая моя Лидасенька!

Сегодня у меня радость: получил твое письмо. Перечитал несколько раз. Только бы всё хорошо обошлось с твоей беременностью! Ну, ну, толстей, родная. Только береги, пожалуйста, себя. Ты спрашивала меня о стихах. Пишу помаленьку. А вообще — пишу всё, что придется. Пересылаю тебе одно стихотворение — «О встрече». Оно написано для тебя. А навеяла мне его весна и воспоминания о Днепре и потом о той высокой горе, где — помнишь — мы с тобой сидели.

Ну, не горюй, еще когда-нибудь поживем счастливо.

Лидася, от Раи получил на днях очень плохое письмо. Сеня ее умер. Она и Галочка тоже всё болеют. А дети все живы и здоровы. Трудно ей, бедной, теперь. Ну, а как ей поможешь? Рая просит маме о смерти Сени не писать.

Мама со Светланочкой переехали в Галич. На новом месте им, наверное, тоже неважно. Мне к ним заехать пока что не придется.

Лидася, здесь у нас проходила перемена аттестатов денежных для семей. Новый аттестат тебе выписали на 750 руб. Больше не выписывают. Сроком аттестат с 1 мая 1942 г. по 1 мая 1943 года. Тебе выслала этот аттестат наша финансовая часть, ты его должна скоро получить. <...>

Вот, родная, и все мои новости. Пиши почаще. Я тоже буду часто писать. Привет всем вашим.

Крепко целую.

Твой *Шура.*

*22 апреля 1942 г.*

Родная моя!

Посылаю тебе 2 фотокарточки.

Целую крепко, крепко.

Твой *Шура.*

Боевой привет от моих товарищей. Пиши чаще.

У меня одна и старая новость — очень тоскливо без тебя. Ты

же знаешь сама.

Целую. Твой *Шура.*

*1 мая 1942 г.*
*г. Козельск*

Родная моя!

Поздравляю с 1 Мая. Желаю здоровья и твердости, чтобы перенести все невзгоды войны. Надеюсь, что в этом году фашистские бандиты будут разгромлены, и 1 Мая мы будем с тобой праздновать вместе. И со своим маленьким.

Жив, здоров, как видишь. Настроение хорошее, бодрое. Только по тебе очень заскучал. Как твое здоровье? Пиши подробней, дорогая моя толстушенька. Кого ты собираешься родить — мальчика или дочку? К маме мне съездить теперь не придется. Хорошая моя, хватает ли тебе денег?

Целую крепко, крепко.

Твой *Шура.*

Пиши, адрес прежний.

*9 мая 1942 г.*

Родная моя!

Вчера получил сразу два твоих письма, которые меня очень обрадовали. По-моему, ты решила правильно: до осени надо остаться на месте. А там будет виднее. За лето многое определится. Да и с продуктами там, в Казахстане, несравненно лучше.

Лидасенька, работать приходится много, но работа увлекательная, интересная. Веду юмористический отдел «Прямой наводкой», пишу (с продолжением) «Новейшие похождения бравого солдата Швейка», стихотворные рассказы о подвигах смекалистого и расторопного бойца Сени Пулькина. Пишу и очерки, изредка — лирические стихи. Я его вырезал из газеты и послал тебе. Получила или нет? Получила ли ты несколько фото, которые я тоже послал тебе? На днях вышлю еще. А ты бы мне хоть одно свое прислала.

Настроение у меня неплохое. Только очень тоскую по тебе. А когда увидимся — кто знает. Синиченька моя, пиши мне чаще. Сама ведь знаешь, что твои письма — вся моя радость. Пиши о себе больше, подробней, о всяких мелочах. Это всё мне очень интересно.

Товарищей у меня много. Хорошие ребята. Но это не то. Давно я уже ни с кем не говорил так задушевно, как, бывало, мы говорили с тобой. А с кем я еще так поговорю, кроме тебя?

Ты писала об аттестате. Я его оформил и наша финчасть тебе его уже выслала. К этому времени ты, наверное, его получила.

Роднуленька, ты береги себя. Смотри, чтобы малышке было хорошо. Эх, как бы хорошо мне сейчас хоть часочек побыть с тобой, посмотреть на тебя.

Ну, не горюй. Еще поживем вместе. Ты только крепко верь в это, ладно?! Я тоже стал мечтателем, всё думаю о тебе, о нас.

Целую крепко мою дорогую.

Твой *Шура.*

Привет вашим.

*г. Вологда*

Хорошая-милошая!

То получал, а теперь опять нет от тебя писем. Ты же знаешь, как они мне дороги! Любая моя, у меня всё по-прежнему. Всё думаю, думаю о тебе. Только бы ты была здорова и родила здоровенького ребеночка. Пиши, как себя чувствуешь, что делаешь, как проходит время. Обо всем мне очень интересно подробно узнать. Лидасенька, я, как закрою глаза, когда ложусь спать, так еще долго-долго думаю о тебе, о нашей жизни, о том, что было хорошего. Не всё же будет так. Должно же еще быть нам хорошо. Только скорее бы!

Крепко целую мою любую.

Твой *Шура.*

*4 июня 1942 г.*
*Москва*

Дорогая моя Лидасенька!

Я проездом в Москве. Сейчас проезжал наш поезд по той дороге, паровозы которой будили нас на Усачевке, 35. Проезжая у Н.-девичьего монастыря, увидел опять тот пруд, у которого мы с тобой сидели на «обрыве» Гончарова. Те дни, когда мы с тобой помирились, для меня навсегда остались какой-то неповторимой, волнующей весной. Правда, тогда мы еще не были с тобой так близки, как после в Минске, Москве, Могилеве, Белгороде, Дмитрове. Но всё это — уже лето. А там, у пруда Новодевичьего монастыря — это весна. Лидасенька, а потом

поезд проезжал у нашего дома — я всем его показывал — на Усачевке, 35. И даже увидел наше окно. Вернее, не наше. Так как у нас своего окна не было. Но окно той комнаты, где ты жила и куда я к тебе приходил. И окна, где я жил с ребятами. И виден был садик на Усачевке, где мы с тобой сидели не раз, а теперь поезд стоит на станции Воробьевы горы и видно, куда мы ходили с тобой в гастроном за маслом, консервами и пр. Всё, всё вспоминается до мельчайших подробностей. А еще отсюда хорошо видны окна, где идет в нашем студенческом общежитии лестница. Сколько раз мы стояли с тобой на ней! О чем не переговорили. Всего было — и хорошего, и плохого. Но теперь всё это прошлое и поэтому всё — хорошее.

Любимая моя, о чем ты думаешь, часто ли ты вспоминаешь о Москве, о нас, о наших радостях и горестях?

Лидасенька моя хорошая! С нового места работы сообщу тебе свой новый адрес. И тогда жду от тебя писем. Пиши, родная, почаще. У меня всё благополучно, только очень скучаю по тебе.

Целую крепко-крепко мою дорогую девочку.

Весь твой *Шура.*

Милая, какая ты теперь беременная? Как хочется побыть с тобой хоть одну минутку вместе, посмотреть на тебя!

*Ш.*

*11 июня 1942 г.*
*Сталинград*

Дорогая моя!

У меня всё благополучно. А вот как у тебя, ничего не знаю. И ни о чем больше думать не могу. И вообще — жива ли ты на белом свете? Таких случаев — еще не было, чтобы ты не писала больше месяца. А в последнее время так и случилось. У тебя скоро должны быть роды. Неужели опять, как и тогда, болезнь. Ты поверишь, чего я только не передумал за это время! Черкни мне открытку на Сталинград, центр. почта, до востребования.

Крепко-крепко целую мою дорогую.

Весь тв. *Шура.*

*12 июня 1942 г.*
*Стан. Донская*

Дорогая моя Женулинька!

Привет с Тихого Дона! С шолоховских мест. Вчера, как ехал

сюда, попутчиком оказался колхозный театр станицы Вешенской, организованный 6 лет назад Шолоховым. Всю дорогу в поезде пели казачьи песни. У них замечательный баянист.

Сижу над самым Доном, и кажется, что сейчас с коромыслом и ведрами выйдет к реке Аксинья и верхом на коне проскачет босоногий Григорий, такой, какой он у Шолохова в первой книге.

Сижу над Доном, и еще больней сжимается сердце за родной мой Днепр, за мою милую Белоруссию.

Ну, родная, ничего, мы отомстим фашистским собакам за все их зверства и злодеяния. Обязательно отомстим.

Думаю часто, каждый день о тебе, очень скучаю.

Целую мою хорошую.

Твой *Шура.*

*4 июля 1942 г.*

Дорогая Лидасенька!

У меня всё благополучно. Только от мамы получил плохое письмо. Получил твое письмо, где ты пишешь о Коле Дорошевиче. Очень тяжело. Не знаю, где теперь мой Андрей Ушаков. Может быть, кто-нибудь из тех, с кем ты переписываешься, знает что-нибудь о его Тане? Вдруг пришла в голову мысль и никак не могу успокоиться: где Андрей, что с ним?

Рад за тебя, за всех вас. Вам там должно быть лучше. Вот если бы еще мама и Раиса к вам переехали.

Высылаю тебе карточку, она у тебя лучше сохранится. Это все мои товарищи по работе.

Целую крепко мою дорогую женулиньку.

Твой *Шура.*

Высылаю пару конвертов и бумагу.

*12 июля 1942 г.*
*Сталинград*

Дорогая моя!

Ну, кажется, хватит мне коптить небо по тылам. Уезжаю на фронт. Сегодня весь день ничего не делаю. Окна раскрыты. Доносятся звуки рояля. Кто играет и что играет — не знаю. Только что-то очень близкое. Эта музыка мне рвет сердце.

Буду писать тебе часто, а то и каждый день. И ты мне пиши. Адрес мой ведь знаешь.

Ну, родная моя, пожелай мне успехов.

Целую крепко-крепко.

Твой *Шура.*

Горячий привет всем вашим. Береги себя и малышку. Посылаю тебе пару конвертов и бумагу.

*17 августа 1942 г.*

Дорогая моя Женулинька!

Я тоже очень часто думаю о тебе, о нас. Всё вспоминаю. Особенно последнюю нашу встречу зимой в Москве. Жили у чужих людей, так быстро сжились с ними, сдружились. Было много и неприятного, но теперь одни хорошие воспоминания.

У меня всё по-прежнему. Положение напряженное — сама понимаешь — война. Высылаю тебе еще одно фото — редактор наш, Долматовский, и я. Фото, конечно, аховское. Но ничего не поделаешь.

Здоровье у меня ничего, питаюсь хорошо.

Всё время думаю о 19 августа — ведь ты мне обещала к этому дню родить дочь или сына.

Только бы все здоровы были.

Целую крепко-крепко.

Твой *Шура.*

Пиши, родная, чаще. Всё не соберусь написать Марусе.

*Ш.*

*23 августа 1942 г.*

Дорогая моя Женулинька!

Ну, спасибо тебе, большое спасибо за сына. Только что получил твое письмо. Перечитал его несколько раз. Вот радость какая, что всё обошлось благополучно. Милошая моя, смотри береги теперь сыночка. Он мне, как и ты, дороже всех на свете. Как бы я хотел сейчас быть вместе с вами, расцеловать вас! Милая, а Нининого письма я не получил, непонятно почему.

Назови сыночка как хочешь — мне понравится. Очень рад буду, если Шурой. Ты, родная моя, раньше хотела назвать Дмитрием. Ну уж погоди, второго так назовешь.

Целую мою хорошую женулиньку и дорогого сыночка крепко-крепко. Пиши мне чаще. Будьте, мои родные, здоровы — для меня это самое важное.

У меня всё благополучно. Горячий привет всем вашим. Крепко целую, в.[ечно] т.[вой]

*Шура.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Лідзія СІНІЧКІНА*

## МОЙ ДАРАГІ АЛЕСЬ

У 1934 годзе пасля заканчэння дзевяці класаў я паступіла на літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры (МІФЛІ). Факультэт быў створаны ў адказ на ініцыятыву першага з'езда пісьменнікаў.

Наш набор быў першы. Заняткі пачаліся са спазненнем — з першага кастрычніка, і, можа, таму сярод студэнтаў было шмат такіх, якія перайшлі сюды займацца з іншых вышэйшых устаноў. Студэнтам Літаратурнага інстытута беларускім паэтам Андрэю Ушакову і Аляксандру Сінічкіну (Алесю Жаўруку) здалося, што ў МІФЛІ яны атрымаюць большую літаратуразнаўчую і агульнагуманітарную падрыхтоўку, і яны таксама з ахвотай перайшлі вучыцца на наш факультэт.

Алесь і Андрэй не разлучаліся і ў нашым інтэрнаце, што знаходзіўся ў Астанкінскім студэнцкім гарадку. Жылі ў адным пакоі. Інтэрнат — некалькі двухпавярховых дашчаных засыпных баракаў — ацяпляўся печамі, не было водаправода, ні іншых выгод. Раніцай бегалі мыцца ў маленькія буданчыкі, дзе гатавалася вада ў тытанах і так-сяк агораны былі самаробныя ўмывальнікі. Зімой даймалі маразы, летам было прасцей.

Ездзіць на заняткі ў інстытут было няблізка, аж у Трубяцкі завулак каля Дзявочага Поля. Я вырасла ў ціхім падмаскоўным гарадку Дзмітраве, і цяпер гэтыя, даволі доўгія, паездкі вельмі стамлялі мяне. Праўда, невыгоды кампенсаваліся тым, што побач знаходзіўся цудоўны Астанкінскі парк, дзе мы бавілі летам увесь свой вольны час, а зімой — каталіся на лыжах.

Алесь і Андрэй былі вельмі непадобныя, як з выгляду — мажны, кучаравы Алесь і худы, з гладкімі валасамі Андрэй, — так і характарам — вясёлы, таварыскі Алесь і маўклівы, крыху сарамлівы Андрэй. Але я не помню ніводнага выпадку, каб яны пасварыліся.

Многа пісалі. У вершах адчувалася моцная непадробная любоў да Беларусі, да роднай мовы, да паэзіі. Абодва вучыліся добра. Многа працавалі фізічна, каб падзарабіць, бо не хапала стыпендыі. Алесь вёў літаратурны гурток на адным з прадпрыемстваў, удвух з Андрэем

хадзілі працаваць і на будоўлю.

На першым курсе захапленне паэзіяй было агульным. Вершы гучалі ўсюды: у інтэрнаце, у інстытуце, на кватэрах студэнтаў-масквічоў. Туды запрашалі і Алеся. Ён карыстаўся агульным поспехам, нават нехта пра яго склаў іранічныя радкі: «Метил в поэты, попал в женихи». Я была занята вучобай (у школе прывыкла атрымліваць выдатныя адзнакі), вельмі стамлялася ад паездак і тлуму ў інтэрнаце, таму гнала ад сябе думку пра нейкія там кампаніі, ды і было мне ўсяго семнаццаць гадоў, і я па-дзіцячы яшчэ сумавала па сваіх родных, па дому.

Алесь спрабаваў пісаць і на рускай мове. Памятаю, аднойчы ён падсеў да мяне пасля нейкага семінара і прачытаў верш, які пачынаўся так: «В голубых и зеленых молниях, возникая на всех углах, нарушая предместий безмолвие, пролетал мой трамвай в огнях...» Далей было пра тое, як у трамвай села незнаёмка, лірычны герой, вядома, закахаўся ў яе з першага погляду. Мне верш не спадабаўся, і я шчыра пра гэта паэту сказала. Алесь пакрыўдзіўся і, развітваючыся, абазваў мяне «малечай».

Мне вельмі падабаліся вершы Андрэя Ушакова. Адзін з іх у аўтарскім перакладзе на рускую мову быў надрукаваны ў факультэцкай насценгазеце «Комсомолия». Заключныя радкі: «Как живу, не спрашивай при встрече. Всё равно я правды не скажу» — асабліва мне запомніліся. Вельмі падабаўся і верш «Где ты, черноокая, близкая, далекая, светлая, подобная весне...», які аднойчы вечарам Андрэй прачытаў у інтэрнаце на беларускай і рускай мовах.

Вясна 1935 года неяк зблізіла нас. Мы з Алесем часта сустракаліся, расказвалі адно аднаму пра сваіх родных, здзіўляючыся таму, як шмат чаго ў нас было агульнага: раслі без бацькоў, у маленькіх гарадках, у нястачы, марылі, як хутчэй стаць на ногі і памагаць матулям. Часта Алесь чытаў мне свае вершы і вершы іншых паэтаў. Ад яго я даведалася пра Ясеніна, які тады не быў рэкамендаваным для чытання аўтарам, і кнігі яго дастаць было проста немагчыма. Алесь дапамог мне зразумець Маякоўскага і іншых складаных паэтаў.

Нейкі час мы доўга не сустракаліся, я за нешта на яго пакрыўдзілася, пераехала ў другі інтэрнат, каб не так часта бачыць яго. Дзяўчына я была не без гонару і крыўды не даравала. Але, як цяпер думаю, абое мы даволі лёгка перажывалі тое адчужэнне.

Аднойчы, калі мы былі ўжо на трэцім курсе, на інтэрнацкім вечары Алесь прачытаў свой верш «Туга», прысвечаны, як я

здагадалася, мне. Помню, верш мне не спадабаўся. Мне падалося, што ўсе пачуцці і перажыванні перабольшаны, што чалавек, які кахае, ніколі не скажа пра гэта ўголас, тым больш са сцэны. І мы зноў доўга не сустракаліся. Неяк ужо на пятым курсе, калі мы памірыліся, Алесь, знаёмячы са мной сястру Раю, нечакана назваў мяне сваёй нявестай.

У верасні 1939 года мы пажаніліся. Зарэгістраваліся ў Мінску, нават быў невялікі вясельны вечар, на якім прысутнічалі Аркадзь Куляшоў з жонкай Аксанай, Валодзя Мейцін, таварыш Алеся і Андрэя, які жыў у адным з імі пакоі, і нейкі яшчэ паэт (прозвішча яго не помню) з жонкай. З Аркадзем Куляшовым Алесь сябраваў. Зімой, у пачатку 1939 года, калі ездзіў у Мінск па выдавецкіх справах, ён спыняўся ў яго.

Яшчэ да жаніцьбы мы абое здалі ўступныя экзамены і былі залічаны ў аспірантуры — Алесь пры Акадэміі навук БССР, я пры кафедры германскай філалогіі Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага.

Знайшлі мы ў Мінску добры пакой, але пераехаць на сталае жыццё ў сталіцу я не змагла, бо Алесю трэба было неўзабаве служыць у арміі. Праўда, аспірантура давала права на новую адтэрміноўку, але ён не захацеў яе браць, гаворачы: «Надаелі гэтыя адтэрміноўкі, адслужу два гады, выканаю свой грамадзянскі абавязак і буду вольны». І ў канцы лістапада яго адправілі ў Магілёў у дывізійную газету. Перад гэтым ён паспеў з’ездзіць на Каўказ на святкаванне юбілею Косты Хетагурава ў складзе вялікай групы пісьменнікаў на чале з А. Фадзеевым. Яны пабылі ў Асеціі, а затым паехалі ў Тбілісі. Вярнуўся Алесь адтуль поўны ўражанняў ад новых літаратурных знаёмстваў, прывёз мне аж чатыры пары туфель, што па тым часе было нечуванай раскошай. Праўда, туфлі былі зроблены саматужнікам і таму насіліся нядоўга.

У Магілёве ў дывізійнай газеце Алесь працаваў літсупрацоўнікам і карэктарам, але, будучы радавым, жыць павінен быў у казарме. Рэдактар газеты Сяргей Грышаеў ставіўся да яго паважліва, таму на парушэнні казарменнага рэжыму глядзеў абыякава, а парушэнні тыя былі частыя, асабліва пасля таго, як я пераехала ў Магілёў у лютым 1940 года, кінуўшы аспірантуру і работу. Пасяліліся мы ў маленькім пакойчыку, побач з казармай. Працаваць я ўладкавалася выкладчыкам у педінстытут. Жыць было цяжкавата, але, не зважаючы на гэта, мы былі шчаслівыя.

Вясной я захварэла на малярыю. Хвароба была лютая, з вялікай тэмпературай. Лячыць мяне хінай ці акрыхінам баяліся, бо я чакала дзіця. Усё ж я ачуняла, і тады прыйшла новая неспадзяванка. У маі 1940 года дывізію, дзе служыў Алесь, перавялі ў Белгарад.

Я засталася адна. У пачатку чэрвеня ў мяне нарадзілася дачка. Праз месяц яна памерла. Не кажу пра тое, што я перажыла... Алесь атрымаў кароткі адпачынак, і мы пасля пахавання нашай дачушкі паехалі разам з яго мамай Лізаветай Сцяпанаўнай у Рагачоў. Там я дрэнна сябе адчувала, маркоцілася, і Алесь усяляк стараўся забавіць мяне чым-небудзь.

Назаўсёды запомнілася мне маленькая хатка ў вялікім садзе, дзе жыла Алесева маці з сёстрамі. Мы каталіся на лодцы, падоўгу гулялі ў сасновым лесе на беразе Дняпра, хадзілі наведаць магілу Алесевага бацькі. Алесь аднойчы мне сказаў: «У жыцці бывае многа гора. Восі бачыш, колькі гора перанесла мама і не апусціла рукі. І мы з табой павінны быць мужнымі...»

Рагачоў быў прыгожы горад, але мне тады было не да захаплення яго прыгажосцю. Цяпер жа ўспамінаецца ўтульны зялёны гарадок, нешырокі там Дняпро. Алесь разгойдвае лодку і кажа мне: «Ну чаму ты не верашчыш? Усе дзяўчаты так робяць у такіх выпадках». Дзівак, ён не разумеў, што мне было самы раз у Дняпро скокнуць... Не, ён, мусіць, усё ж разумеў, бо быў вельмі ўважлівы, абыходлівы, ніколі не пакідаў мяне адну. А я чамусьці вінавaціла і яго і сябе за тое, што так неабдумана з’ехала з Масквы ў Магілёў. Каб жа ведаць, што гэтыя месяцы ў Магілёве будуць самай працяглай і самай незабыўнай парой нашага сумеснага жыцця!

Да канца Алесевай службы ў арміі заставаўся год. Мы вырашылі, што я не паеду за ім у Белгарад, бо не было ўпэўненасці, што гэты год ён праслужыць там. І праўда, у лютым 1941 года яго перавялі ў Арол, у газету ваеннай акругі. У складзе гэтай рэдакцыі ён папаў на фронт у чэрвені 1941 года. А я паехала ў Маскву: мяне аднавілі ў аспірантуры. З Белгарада і Арла Алесь некалькі разоў прыязджаў да мяне ў Маскву, ды і я да яго ездзіла. А ў канцы таго чэрвеня я павінна была паехаць да яго на ўсё лета...

У самым пачатку вайны Алесю было прысвоена званне палітрука, і ён пачаў працаваць на пасадзе пісьменніка армейскай газеты. Яго прынялі ў партыю. Трапіўшы на фронт, у першыя ж дні вайны Алесь са сваімі таварышамі недзе на дарозе з Арла ў Смаленск папалі пад страшэнную бамбёжку. З яе яны выйшлі жывымі. Пашанцавала, бо ліпень быў вельмі цяжкім месяцам, толькі ў жніўні на фронце адносна пацішэла.

Штаб арміі і рэдакцыя армейскай газеты размясціліся ў лесе непадалёк ад Смаленска. Неяк абжыліся. Аднойчы нават прыязджала канцэртная брыгада з Масквы, у якой аказаўся былы выпускнік нашага з Алесем інстытута Яша Блантэр. Алесь з ім не быў блізка знаёмы, але тут яны вельмі ўзрадаваліся адзін аднаму, прагаварылі

амаль усю ноч.

Раніцою выявілася, што штаб арміі тым часам пераехаў на нейкае новае месца, ніякага начальства нідзе няма, некуды ўсё ідуць асобныя групы салдатаў і афіцэраў. Тады яны зразумелі, што трапілі ў акружэнне. Зброі ў рэдакцыйных работнікаў не было. Рашылі ісці, арыентуючыся па компасу, у бок Масквы. Днём у лесе сустрэлі групу салдатаў і афіцэраў, якіх нейкі вайсковы стараўся неяк арганізаваць. Была ў яго і палявая карта. Ацаніўшы абставіны, вайсковы загадаў прарывацца з боем праз сяло, якое было захоплена немцамі. За ім ворагаў, паводле яго разлікаў, ужо не было. Падчас прарыву многія загінулі. Быў ранены ці забіты той увішны вайсковец. Алесь і невялікая група людзей перабеглі поле і схаваліся ў маладым сасонніку. Аддыхацца не паспелі, як убачылі, што да сасонніку ідуць два танкі. Алесь паспеў схавацца ў неглыбокім акопе. Адзін танк усё-такі прайшоўся над ім, засыпаўшы зямлёй.

Упоцемку зноў выправіліся ў дарогу. Дзе ішлі, дзе паўзлі, мінаючы падазроныя месцы. Начавалі ў лесе, у вёску стараліся не заходзіць, нават і тады, калі там не было немцаў. Аднойчы толькі, калі вельмі даняў голад, вырашылі ўдзень зайсці ў вёску, дзе, паводле іх разлікаў, не было немцаў. Убачылі, што на ўзлеску жанчыны капаюць бульбу, а непадалёк — нейкая сядзіба.

На разведку паслалі Алеся. Выйшаўшы з лесу, ён заўважыў жанчыну, якая капала ля сядзібы бульбу, і наўпрост пайшоў да яе. Тая, убачыўшы незнаёмага, разагнулася, спалохана глядзіць і аднымі вуснамі нешта ціха шэпча. «Немцы!» — пачулася Алесю ў тым шэпце. Папярэджвала яна. Ён хутка павярнуў назад у лес, а ўслед — аўтаматная чарга. Ужо з хмызняку ён убачыў, як з хлява выйшлі два фашысты, пастаялі, але ў лес не пайшлі, пабаяліся. Зноў усё скончылася для Алеся добра, яго нават не параніла. «На мне замова», — гаварыў пасля ён.

У акружэнні Алесь дабыў сабе і аўтамат. Было гэта так. У прыцемку разам з таварышамі Алесь выйшаў на невялікую палянку. Бачыць, на пні сядзіць чалавек, прыгледзеўся — нямецкі салдат. Сядзіць, не шавеліцца, нейкі ўнураны, побач на зямлі ляжыць аўтамат. Паназіраўшы за салдатам нейкі час, Алесь падпоўз да яго, схапіў аўтамат і, трымаючы фрыца пад прыцэлам, адпоўз за кусты. Баяўся страляць, каб не выдаць сябе і таварышаў. Фрыц і выгляду не падаў, што прапаў аўтамат. А мо не адразу хапіўся.

Выходзілі з акружэння доўга, зусім змучыліся. Елі, што змаглі знайсці ў асеннім лесе. Пайшлі дажджы, ноччу пачаліся замаразкі. Высушыцца не было як — агонь не раскладзеш. Прыгнятала тое, што не ведалі, якое становішча на фронце. Сустрэлі неяк хлопчыка ў

лесе, які сказаў ім, што ў бліжэйшай вёсцы няма немцаў. Вырашылі пераначаваць там, падсілкавацца, а галоўнае — высушыць адзенне.

Прыйшлі ў вёску, сталі прасіцца нанач. Адны пускалі, другія лаялі за тое, што дрэнныя абаронцы, фашыстаў на родную зямлю пусцілі.

Нарэшце іх засталося трое. Падышлі да нейкай хаты. З яе выйшла старая бабулька і пачала на іх крычаць і праганяць. Яны маўчалі ніякавата, а потым сабраліся ісці. Думалі, што пераначуюць дзе ў хляве. І з тым пайшлі. Але старая дагнала іх і нечакана запрасіла ў хату. Няёмка і ёй было. Добрая такая аказалася старая. Абагрэла і накарміла. А ноччу прыйшоў з Мажайска сын бабулі, які працаваў там. Ён расказаў пра становішча на фронце, прапанаваў праводзіць іх, паказаць дарогу ў абход Мажайска. Вельмі ён ім дапамог. Недзе праз дзень яны выйшлі да сваіх.

Алесь пісаў мне амаль кожны дзень, але, на жаль, пісьмы той пары не захаваліся. У кастрычніку (калі ён быў у акружэнні) пісьмы перасталі прыходзіць. І толькі адзінаццатага ці дванаццатага лістапада я атрымала тэлеграму з Масквы. Я жыла тады ў Дзмітраве (дзве гадзіны язды да Масквы), але каб трапіць у сталіцу, патрэбен быў пропуск, і яго пасля маёй шчырай просьбы выдалі мне ў Дзмітраўскім аддзяленні міліцыі.

Я застала Алеся ў Маскве. Камісію, якая правярала акружэнцаў, Алесь з таварышамі прайшлі без благіх вынікаў. Дапамагло тое, што ў акружэнні яны трымаліся разам, захавалі свае дакументы, зброю, а Алесь захаваў і свой партыйны білет.

У канцы лістапада 1941 года яго прызначылі пісьменнікам армейскай газеты ў сёмую рэзервную армію, якая фарміравалася ў Волагдзе. Гэтае злучэнне пазней улілося ў 62-ю армію, калі ёй давялося абараняць Сталінград.

23 жніўня Алесь быў цяжка паранены. Здарылася так, што ў гэты дзень раніцай ён атрымаў ад мяне пісьмо з весткай аб нараджэнні сына. І сам паспеў напісаць пісьмо, апошняе пісьмо, якое я ад яго атрымала.

З рэдакцыі ў адказ на мае роспачныя лісты мне адказалі, што Алесь адпраўлен са шпіталем у Саратаў. Толькі ў сакавіку 1943 года я атрымала паведамленне пра Алесеву смерць.

Алеся Жаўрука няма. Засталася памяць аб ім, чалавеку і паэту. Мяне суцяшае тое, што гэтая памяць дарагая не толькі мне.

*Аляксей ЗАРЫЦКІ*

# ГОЛАС З ДАЛЁКІХ ДЗЁН ВЯСНЫ

Звыш шасцідзесяці год прамінула з тых дзён, як я пазнаёміўся з вучнем другога ці трэцяга класа рагачоўскай школы Шурам Сінічкіным, якому тады яшчэ ці мала часу трэба было чакаць, каб набыць сваё літаратурнае імя — Алесь Жаўрук. Але і тады ў яго, адзінаццацігадовага хлапчука, пульсавала творчая жылка, адчувалася натуральная цяга да паэтычнага слова. Помню, як я здзівіўся, калі ўпершыню зайшоў да Шуры і ён мне паказаў невялічкі рукапісны часопіс з кароценькімі апавяданнямі, вершамі і малюнкамі. Усё гэта напісаў і намаляваў ён сам. Пісаў Шура пра забаўныя выпадкі з сямейнага жыцця, пра сваіх школьных аднакашнікаў.

Ды гэтак складна, радок да радка і ўсё ў рыфму, як у сапраўднага паэта.

Дзяцінства ў Шуры было нялёгкае. Бацькі яго атрымалі ад гарсавета пляц і збіраліся пабудаваць для сям'і дом, каб нарэшце развітацца з прыватнай кватэрай, але ў 1922 годзе Шураў бацька, бухгалтар рагачоўскага казначэйства, раптоўна памёр ад тыфу. Маці засталася адна з трыма малымі, а неўзабаве пасля смерці мужа нарадзілася і чацвёртае дзіця — трэцяя дачка. І замест прыстойнага дома на ўсю сям'ю ўдава на сваю сціплую зарплату акушэркі здолела паставіць маленечкую хатку, амаль палову якой займала вялізная руская печ. Гэтая печ і карміла, і грэла, і была, асабліва зімой, тым надзейным прытулкам, дзе можна было адпачыць і выспацца.

Хатка стаяла на пагорку, і ранняй вясной, калі яшчэ на дрэвах не было лісця, Шура і я залазілі на гонтавы дах, адкуль віднелася на ўсходзе агромністае разводдзе Дняпра, а на захадзе меншае, але таксама ўражальнае для дзіцячых вачэй — Друці. І мы, тулячыся да коміна, адчувалі сябе такімі слабымі і маленькімі перад гэтымі магутнымі праявамі прыроднай стыхіі. Пазней, у маі, калі зацвіталі сады, а Рагачоў імі славіўся і славіцца, то з нашага назіральнага пункта здавалася, што горад спакваля апускаецца ў белапенны разліў квецені. Гэта прыдняпроўскае хараство потым адчулася ў шмат якіх радках Жаўрука і нават у самой назве яго лепшай кнігі вершаў «Дняпро выходзіць з берагоў».

Што і казаць, жылося асірацелым Сінічкіным цяжка, але сям'я была дружная, працавітая, а ўдава Лізавета Сцяпанаўна, якая і дагэтуль застаецца для мяне ўзорам мацярынскай самаахвярнасці, рабіла ўсё магчымае і немагчымае, каб паставіць дзяцей на ногі. А час быў нялёгкі — першыя гады пасля вялікіх апусташальных войнаў — Першай сусветнай і Грамадзянскай. Але дзеці выраслі і, атрымаўшы

добрую адукацыю, сталі сумленнымі працаўнікамі: старэйшая дачка Раіса — бухгалтарам, сярэдняя — Ніна — педагогам, малодшая — Галіна — інжынерам, а сын, па ўзросце другі між дзяцей, да таго ж і паэтам.

Я моцна дружыў з Шурам. З чацвёртага класа мы вучыліся разам, сядзелі на адной парце, і рэдка выпадаў такі дзень, калі ён не заходзіў дамоў да мяне альбо я да яго. На маіх вачах ён паволі набіраў моцы як паэт, спрабуючы свае сілы то ў агульнай школьнай насценгазеце, то ў гумарыстычнай газеце «Смех і слёзы», якую мы з ім выдавалі ўдвух і з дазволу педагагічнага савета вывешвалі ў нашым класе. У 1926 годзе, калі мы ўжо вучыліся ў восьмым класе, Шура Сінічкін пачаў друкаваць свае вершы ў абласной газеце «Магілёўскі селянін» і бабруйскай акруговай газеце «Камуніст», а пазней і ў літаратурным дадатку да яе «Вясне», стаўшы Алесем Жаўруком, самым вядомым з тагачасных рагачоўскіх паэтаў. Помню гарачыя спрэчкі на сходах вялікага літаратурнага гуртка, што арганізаваўся пры другой рагачоўскай школе. Дарэчы, там я пазнаёміўся з вучнем сёмага класа Юльянам Пшырковым. Выглядаў ён рахманым і ціхім падлеткам, голасу свайго ён ніколі не падаваў, тады нават думаць было немагчыма, што Юльян некалі стане вядомым беларускім літаратуразнаўцам, аўтарам многіх даследаванняў, прафесарам, доктарам філалагічных навук.

За свой кароткі век Жаўрук багата вучыўся і працаваў: скончыў Рагачоўскі педтэхнікум, настаўнічаў на Палессі ў славутым саўгасе «Сосны», паспяхова скончыў вучобу ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры, каб займацца ў аспірантуры пры Акадэміі навук БССР, адкуль яго і прызвалі ў армію. Амаль тры гады ён быў ваенным карэспандэнтам. 23 жніўня 1942 года пад Сталінградам, ратуючы параненую супрацоўніцу армейскай газеты, Алесь Жаўрук сам быў паранены.

Раніцай таго ж трагічнага 23 жніўня ён атрымаў ліст ад жонкі з радаснай весткай аб нараджэнні сына і нават паспеў адказаць ёй: «Ну, дзякуй табе, вялікі дзякуй табе за сына. Толькі атрымаў твой ліст, перачытаў яго некалькі разоў. Вось радасць якая, што ўсё абышлося добра. Даражэнькая мая, глядзі беражы цяпер сыночка. Ён мне, як і ты, даражэй за ўсіх на свеце, як бы я хацеў зараз быць разам з вамі, расцалаваць вас!..»

Толькі некалькі кніг паспеў выдаць Жаўрук пры жыцці: «Ручаіны» ў 1938 годзе, а праз два гады — «Дняпро выходзіць з берагоў», у сааўтарстве з Андрэем Ушаковым паэмы для дзяцей «Пра майго таварыша» (1939), «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» (1939). Пасмяротна выйшаў у 1950 годзе напісаны разам з А. Ушаковым

зборнік дзіцячых вершаў «Пра майго катка», а ў 1960-м — невялікая кніжка «Выбранае». Лепшае з таго, што было напісана Жаўруком, і сёння жыве і хвалюе чытачоў.

Паўстае пытанне —як жыве і чым хвалюе? Адказаць на гэта не так лёгка і проста. Асноўныя тэмы паэзіі Жаўрука — дружба, любоў, пафас першых пяцігодак, грамадзянская вайна ў Іспаніі, любасць да бацькоўскага краю, адданасць Радзіме і вера ў нашу перамогу пры нападзе ворага — былі асноўнымі тэмамі і шмат якіх іншых яго паэтаў-сучаснікаў. Але ў першых вершах Жаўрука ёсць тая шчырасць, тая свежасць, той малады, нічым не азмрочаны аптымізм, якія і сёння, нягледзячы на больш чым паўвекавую адлегласць у часе, не даюць радкам паэта прывянуць. Менавіта ў творчасці Жаўрука выразна заявіла пра сябе гэтая адметная рыса тагачаснай паэзіі наогул. Што ж, час быў такі, калі маладосць паэтаў і самой нашай паэзіі супала з маладосцю Краіны Саветаў, калі шмат якія мары і мэты не здаваліся далёкімі і цяжкадасягальнымі. Моцна і арганічна выказаў гэтае адчуванне рускі паэт Мікалай Ушакоў у сваёй першай кнізе вершаў, якая так і называлася — «Весна республики». Запомніліся адтуль такія радкі:

Кто смеет говорить о смерти,
Когда в республике — весна!

І ў шмат якіх радках Жаўрука своеасабліва гучыць жыццесцвярджальны матыў. Падаю дзве страфы з яго юнацкага верша, надрукаванага ўпершыню ў бабруйскай «Вясне»:

Можа, з часам завяне бадзёрасць,
І гады лягуць шэрагам плям,
Толькі сёння агністыя зоры
Адзначаюць мой песенны шлях.

…………………………………

І звініць непаўторнасцю чыстай
Ў кожным слове юнацкай страфы
І бароў маладая ўрачыстасць,
І сумётаў чарэшневы пыл.

Гэтая вясновая свежасць і бадзёрасць, гэта глыбінная вера ў будучыню і канчатковую перамогу нашай справы адчувалася і тады, калі паэта трывожыла прадчуванне будучых бітваў і сваёй магчымай пагібелі ад варожай кулі:

Няхай мы спаткаемся
З куляй раптоўнай

У першыя тыдні вясны,
Сябры перамогуць
У бойцы ўсё роўна,
І сына ўзгадуюць яны.

Паэтычнае раскрыццё ўнутранага свету чалавека, глыбіня паэтычнага пранікнення ў сутнасць жыцця, цеплыня і пачуццё — вось, напэўна, тое, што перш за ўсё трэба яшчэ, каб надаць вершаваным радкам большую трываласць і паўнакроўнасць. Як добра гэта адчуваеш, калі чытаеш нізку, на маю думку, лепшых вершаў Жаўрука «Рагачоўскі сшытак». Са шчырым замілаваннем раскрывае ў ім паэт цэльны свет самых запаветных чалавечых пачуццяў: тут і сум расставання з бацькоўскім краем, і любоў да яго і да маці, вобраз якой так кранальна вымалёўваецца ў прачулых радках паэта, дзе гаворыцца пра тое, як матуля выпраўляла сына ў дарогу:

Дырэктыў адказных надавала,
Меркаванняў матчыных сваіх,
І ва ўсе кішэні напіхала
Вераснёвых яблык залатых.

Як прыпомню я — у свеце белым,
Родная,
Ні свет і ні зара
Шмат дзянькоў сіберных ты сустрэла,
Гора не зыходзіла з двара.

Што ж, ці прыгадала аб мінулым,
Як даўней збіраўся хлопец твой?
Зноў прыкрыла вочы
І ўсплакнула?
Па прывычцы, кажаш, па старой.

З самым дарагім, што ў свеце маю,
Гэтую гарачую слязу
Я глыбока ў сэрцы захаваю,
Праз усе дарогі пранясу.

Паўтараючы гэтыя радкі, я прыгадваю хатку на Мельнічнай вуліцы і сірочае дзяцінства майго друга. Цяжка было яму, але малады паэт здолеў узняцца над нягодамі ўласнага сіроцтва і ў меру сваіх здольнасцей чыстым і свежым голасам уславіць вясну нашай краіны. А яшчэ ў маёй свядомасці вобраз Жаўрука непарыўна спалучаецца з лёсам мужнага паэта-воіна, які паў пад Сталінградам. Вось, мяркую я, тыя крыніцы, якія жывяць радкі паэта, робячы іх павабнымі і патрэбнымі і сёння.

У 1975 годзе мне давялося пабываць у Валгаградзе. Асабліва за-

помнілася паездка па Волзе на невялікім цеплаходзе. Мы, удзельнікі Усесаюзнай нарады работнікаў выдавецтваў, кнігагандлю і пісьменніцкіх арганізацый, праплылі на ім паўз увесь гэты вялікі горад ад пачатку Волга-Дона і да плаціны Волжскай ГЭС. Любуючыся шыракагрудай мірнай ракой і адноўленым горадам, які ўрачыста праплываў перад нашымі вачамі, я раптам успомніў свайго друга. Вось недзе тут, падумаў я, на высокіх прыбярэжных схілах Шуру параніла, і яго асцярожна неслі да Волгі, на баржу, дзе размяшчаўся плывучы шпіталь. А можа, Шура і загінуў якраз тут, дзе зараз плыве наш цеплаходзік? Можа, менавіта тут разбамбілі гітлераўскія лётчыкі плывучы шпіталь і дабілі майго параненага сябра? Што для іх, нелюдзей, чырвоныя крыжы — знакі міласэрнасці і чалавечнасці? І ад гэтых думак і ад жаласных крыкаў чаек, якія неадступна ляцелі ўслед за нашым суднам, мне стала да гаркаты сумна.

Праз некалькі год, прыгадваючы гэту паездку па Волзе, я напісаў невялікі верш «Волжская чайка», прысвечаны Жаўруку. Падаю гэты верш цалкам:

Быстрђ параход на прыволле нясе,
Душа мая пространі рада.
І вось, заступаючы даль пакрысе,
Кварталы ўстаюць Валгаграда.

Зялёная хваля са светлай каймой
За бортам гулліва плюскоча.
Самотная чайка ляціць за кармой,
Развітвацца з намі не хоча.

Нібы новы кадр на шырокі экран —
Каб сэрцу прасторна і воку, —
На сінь небакраю Мамаеў курган
Ужо наплывае здалёку.

Пра бітвы і стэп, Волга, мне раскажы,
Дзе нашы байцы пахаваны.
Тут недзе ў салдацкай магіле ляжыць
Зямляк мой, таварыш адданы.

Мы разам калісь над вясновым Дняпром
Юнацкую песцілі песню.
Яна трапяткім нас кранала крылом,
Бывала, пры ўзлёце, Алесю.

І чайка трапеча, трывожна трымціць,
Няма ёй, крылатай, спакою.

А мо гэта, дружа, ляціць і ляціць
Душа твая следам за мною?

*Васіль КУЛЬНЁЎ*

## ЁН З НАМІ ЗАЎСЁДЫ...

Крэчатава — невялікае сяло паблізу горада Каргопаля Архангельскай вобласці. У канцы 1941 года тут размясціўся штаб 58-й рэзервовай арміі.

У адзін са студзеньскіх вечароў мы затрымаліся дапазна: абмяркоўваўся першы нумар. Штат яшчэ не ўкамплектавалі, і нам, рэдакцыйным работнікам, работы хапала. А першай гадзіне ночы, здаўшы матэрыял на ўнутраныя палосы, мы збіраліся легчы спаць, але тут у рэдакцыйны дамок зайшлі два афіцэры.

— Малодшы палітрук Жаўрук прыбыў на пасаду пісьменніка армейскай газеты, — прадставіўся адзін з іх рэдактару, батальённаму камісару Румянцаву.

Так адбылося наша першае знаёмства з беларускім паэтам Алесем Жаўруком.

З першых дзён Алесь стаў актыўным супрацоўнікам газеты, пісаў артыкулы, нарысы, вершы. З яго прыездам у газеце адкрылі аддзел сатыры і гумару. Алесь быў галоўным пастаўшчыком матэрыялу для гэтага аддзела. Яго палюбілі ўсе рэдакцыйныя работнікі, з усімі ён размаўляў проста, па-таварыску.

У радах Савецкай Арміі я знаходзіўся з 1936 года. За маімі плячамі было пяць гадоў службы, добрая ваенная падрыхтоўка, але пораху, як гаворыцца, я яшчэ не нюхаў. Алесь жа да прыезду ў рэдакцыю правёў некалькі месяцаў у дзеючых часцях.

— А што, калі нам выпусціць некалькі старонак, прысвечаных баявому вопыту? — прапанаваў неяк ён.

Прапанова была ўхвалена, і хутка адна за другой з’яўляліся ў газеце старонкі пра баявы вопыт разведчыкаў, сувязістаў, артылерыстаў, сапёраў. Алесь кожны артыкул старанна перачытваў, выпраўляў.

— Вучыцеся так працаваць над матэрыялам, як Алесь Жаўрук, — неаднойчы казаў рэдактар мне і іншым супрацоўнікам.

Алесь не любіў падоўгу затрымлівацца ў рэдакцыі, кожныя 3–4 дні ён выязджаў у часці, прывозіў новыя цікавыя матэрыялы.

У лютым 1942 года штаб арміі перадыслацыраваўся ў Волагду. Сувязь з часцямі палепшылася. Алесь пабываў у Любімаве, Буі, Данілове, Сокале, дзе размяшчаліся дывізіі арміі. У адну з паездак яму пашчасціла пабачыцца з сям’ёй.

Майскае паведамленне Саўінфармбюро пра няўдачу нашых войскаў пад Харкавам заспела нас у Калузе. Алесь тады якраз дзяжурыў па рэдакцыі. Ён тым часам паспеў ужо стаць палітруком.

— Напэўна, прыйшоў канец нашаму сядзенню ў тыле, — сказаў Алесь.

Так і атрымалася. Хутка рэдакцыя і палітаддзел арміі аказаліся ў цягніку, і 10 чэрвеня 1942 года мы прыбылі ў Сталінград.

17 чэрвеня часці арміі завязалі абарончыя баі з фашыстамі. У нумары газеты «На защиту Родины» быў змешчаны перадавы артыкул «Зялёны мундзір на Доне». Колькі гневу і нянавісці да ворага ўклаў Алесь Жаўрук у гэты артыкул!

Баі з кожным днём рабіліся ўсё больш жорсткімі. Населеныя пункты, дзе размяшчалася рэдакцыя, бамбілі самалёты з чорнай свастыкай. У пачатку жніўня становішча стала асабліва цяжкае. Часці нашай 62-й арміі адышлі на ўсходні бераг Дона. Штаб некалькі разоў мяняў дыслакацыю. 19 жніўня ў пасёлку Гарадзішча наш калектыў цёпла павіншаваў Алеся з днём нараджэння. Мы не ведалі, што праз тры дні ён будзе цяжка паранены асколкам бомбы і адпраўлены ў шпіталь. Яго павезлі на грузавіку ў Сталінград лейтэнант Дзмітрый Пупаў і я. Аперацыю зрабілі адразу, Алесю палепшала. Мы пажадалі яму хуткай папраўкі і пад вечар вярнуліся ў рэдакцыю. Болей пабачыцца нам не давялося.

Алесь Жаўрук — паэт, воін, грамадзянін — загінуў пры масавым налёце фашысцкай авіяцыі на Сталінград.

*Аляксандр ЛАЗНЯВЫ*

## ТАКІМ ПАМЯТАЮ ЯГО

Вясной 1910 года ў газеце Арлоўскай вайсковай акругі пачалі з’яўляцца допісы за подпісам А. Сінічкіна. Допісы былі пераважна невялікія, але павучальныя, прыкметна адмысловыя па мове і стылю. Рэдакцыя друкавала іх амаль без правак.

Але неўзабаве Сінічкін перастаў пісаць.

Начальнік аддзела баявой падрыхтоўкі акруговай газеты капітан Адамовіч, у якога я быў літсупрацоўнікам, загадаў мне накіравацца ў пяхотны лагер і высветліць, што здарылася з ваенкорам Сінічкіным.

Пяхотны лагер знаходзіўся за Акой каля вёскі Лужкі. Я хутка адшукаў Сінічкіна. Ён сядзеў у палатцы, схіліўшыся над самаробным столікам, і нешта пісаў.

— Так, я Сінічкін, — сказаў ён, устаючы.

Маю ўвагу прывабіла яго моцная ладная постаць. Галаву ўпрыгожвала шапка кучаравых валасоў — гэта асабліва здзівіла мяне — байцы ў лагеры, як правіла, стрыгліся пад нулёўку. Перадаўшы

просьбу рэдакцыі — часцей пісаць, я назваў тэмы, на якія пажадана было б атрымаць ад яго артыкулы. Ён усміхнуўся і бездапаможна развёў рукамі:

— Не магу.

Аказваецца, Сінічкін стаў супрацоўнікам дывізіённай газеты, дзе ўвесь штат складаўся з двух чалавек — рэдактар і літсупрацоўнік. І вось рэдактар паехаў на нейкія курсы, а ён, Сінічкін, ужо другі месяц цягне газету, дзе ўжо там пісаць у акруговую!

Размаўляючы з ім, я ўбачыў на століку невялічкую кніжку, на вокладцы якой зверху стаяла — Алесь Жаўрук.

— Цікавая? — спытаў я.

Ён паціснуў плячыма: «Не ведаю!»

— Не чыталі?

Ён усміхнуўся і тут жа растлумачыў, што Жаўрук і Сінічкін — гэта адна і тая асоба.

Вярнуўся я ў рэдакцыю з кніжкай, на тытульным лісце якой трохі наўскасяк было напісана: «Малодшаму камандзіру А. Лазнявому — сябру па зброі».

Капітан Адамовіч і здзівіўся і ўзрадаваўся, даведаўшыся, што Сінічкін паэт. Ён амаль выхапіў кніжку з маіх рук і, раскрыўшы яе, пачаў уголас чытаць вершы, напісаныя на роднай яму беларускай мове. Пасля я перакладаў вершы Жаўрука для акруговай газеты. Як толькі пераклад з'яўляўся на яе старонках, ён прысылаў новыя творы. Вершы Жаўрука былі глыбока лірычныя і патрыятычныя, лёгка чыталіся, кранaлі за самае сэрца.

Неаднойчы сустракаліся мы з Жаўруком у пяхотным лагеры, куды я амаль штодня прыходзіў з рэдакцыі па матэрыялы. Аднойчы ў выхадны дзень ён завітаў у казарму на Камсамольскай вуліцы, дзе я жыў разам з байцамі камендацкага ўзвода. Разам з ім я пабываў у мемарыяльным музеі І. С. Тургенева, у парку культуры і адпачынку, а пасля мы паездзілі на вузкакалейным бельгійскім трамваі, які ў той час яшчэ хадзіў у Арле.

Мне падабалася, што мой новы прыяцель неяк натуральна і вольна размаўляе на літаратурныя тэмы. Я ведаў, што ён закончыў Маскоўскі інстытут, што вучыўся ў аспірантуры і неўзабаве павінен быў абараняць дысертацыю, але здарылася так, што яго тэрмінова прызвалі ў армію. Усё гэта я ўспрыняў як належнае, але калі Жаўрук сказаў, што яму прысвоена званне палітрука і не сёння-заўтра ў яго пятліцах з'явіцца тры «кубары», я мімаволі сумеўся. Я ж толькі камандзір аддзялення. Мне, прызнацца, было боязна, што наша сяброўства, якое так добра пачыналася, раптам разладзіцца, але мае меркаванні не спраўдзіліся. Жаўрук застаўся маім добрым знаёмым

і пры «кубарах». Мы пачалі яшчэ часцей сустракацца з ім і пры нагодзе ліставацца.

Памятаю сустрэчу з Алесем у арлоўскім лесапарку «Батанік». Лежачы на траве, ён расказваў пра Янку Купалу, чытаў на памяць яго вершы. Жаўрук вельмі любіў Купалу і, як ён казаў, неаднойчы бываў у ягоным гасцінным доме каля Траецкай гары. Так, з дапамогай Жаўрука, Купала стаў для мяне яшчэ болей блізкім і родным. Тады ж мы дамовіліся з ім паехаць у тургенеўскі маёнтак Спаскае-Лутавінава. Але прайшло лета, а мы так і не здолелі гэта зрабіць: то яму было няма калі, то мяне не адпускалі з рэдакцыі.

Аднаго разу ў рэдакцыю акруговай газеты прыйшоў баец і падаў мне пісьмо — «ад палітрука Сінічкіна». У пісьме быў яго новы верш і наступная запіска: «Паважаны тав. Лазнявы! Дасылаю Вам падрадкоўнік і беларускі тэкст майго верша «Сябры». Хацелася б, каб Вы таксама пераклалі што-небудзь з лірыкі. Ну, ужо гэта пасля. Сустрэнемся — пагаворым. З прывітаннем А. Жаўрук. 30.7.1940».

Былі і іншыя пісьмы і запіскі, але яны, на жаль, пагінулі ў гады вайны. Гэта запіска захавалася выпадкова, праляжаўшы трыццаць год у архіве майго сябра паэта з Магнітагорска Аляксандра Ударава.

Мы развіталіся з Жаўруком увесну сорак першага, так і не наведаўшы Спаскае-Лутавінава. Неўзабаве пачалася вайна, і нам давялося раз’ехацца па розных франтах.

Толькі пасля вайны я даведаўся, што Алесь Жаўрук ваяваў у легендарнай 62-й арміі ў Сталінградзе і там гераічна загінуў. Няма ў жывых паэта-воіна, але яго вершы застаюцца ў страі.

*Наталля МАЛІКАВА*

## З ДАЛЁКІХ ЮНАЦКІХ ГОД

Шура Сінічкін, які пазней стаў вядомым паэтам Алесем Жаўруком, быў другам не толькі мне, але і майму брату і сястры. Тады я была яшчэ не Наталля Іванаўна Малікава, а Наташа Халецкая, альбо, як мяне называлі блізкія сяброўкі і сябры, проста Туня.

Жылі мы ў горадзе Рагачове, я сябравала з сястрой Шуры — Нінай, і не было, відаць, такога дня, каб я не была ў іхняй хатачцы. Усё помню да драбніцы, усё, што было ў той маленькай хацінцы; іхні двор, іхні сад, усё тадышняе жыццё сям’і Сінічкіных.

Шурава маці Елізавета Сцяпанаўна — бязмежна добрая жанчына, любіла мяне, і я ёй шмат чым абавязана. Застаўшыся ўдавой з чатырма малалеткамі, яна здолела выгадаваць іх і пасабіла ім усім

стаць адукаванымі людзьмі. Праўда, Шура, калі трохі пасталеў, дапамагаў маці і клапаціўся пра ўсю сям'ю.

Калі мы з Нінай былі падлеткамі, Шура амаль не звяртаў на нас увагі, бо быў старэйшы. Часам толькі дражніўся з намі і падсмейваўся з нас, але калі мы падраслі (Шура тады многа пісаў), я і Ніна незаўважна сталі яго «публікай». Ён нам чытаў свае вершы, а таксама вершы Багрыцкага, Уткіна, Святлова, дзяліўся з намі сваімі задумамі. Ён марыў, што першы зборнік сваіх вершаў назаве «Ручаіны», другі — «Дняпро выходзіць з берагоў», трэці — «Вялікі альбо Ціхі»... Першую Шураву кнігу я чытала...

У першы дзень Вялікай Айчыннай вайны, якая застала мяне ў Магілёве, я выехала ў Маскву. Загінула ўсё: Шуравы пісьмы, кніжка вершаў, захаваліся, праўда, выпадкова ягоныя фотаздымкі. Іх на падлозе маёй кватэры, ужо ў час акупацыі Магілёва, сабрала мая цётка Марыя Рыгораўна Дыбоўская. Былі Шуравы фотаздымкі і ў майго брата Яўгена, але мы іх пазней усе, за выключэннем аднаго, аддалі старэйшай сястры паэта Раісе Дзмітрыеўне.

Свой горад мы, рагачоўцы, вельмі любілі і ўлетку збіраліся ў ім на адпачынак. Зялёны гарадок увесь у садах, дзве ракі — Дняпро і Друць. Увечары звычайна гулялі ў гарадскім садзе, але Шура на гулянне хадзіў рэдка, часцей мы збіраліся каля рэдакцыі раённай газеты. Гаворка ішла пра тое, хто што напісаў. Вядомыя тады ўжо паэты Сямён Бытавой, які на летні час звычайна прыязджаў у родны гарадок з Ленінграда, і Мікола Бацюшкаў прывозілі весткі з вялікага, як здавалася нам, свету. Было весела.

Шура вельмі любіў прыгожыя рэчы, любіў прыгожа апранацца. Ён нават сам вышыў сабе прыгожую кашулю і сфатаграфаваўся ў ёй. Хацелася яму яшчэ мець пісьменніцкі стол, такі, як у Льва Талстога.

Помню, Шура прыходзіў да нас са сваімі прыяцелямі (ужо тады, калі ён быў выкладчыкам на Палессі), і мы ўсе разам ішлі на раку Друць вудзіць рыбу. Жартаў і смеху было болей, чым той рыбы.

Наша дружба не заглухла і тады, калі Шура вучыўся ўжо ў Маскве. Там у першыя свае студэнцкія гады ён кожны выхадны прыязджаў да маёй сястры Веры Іванаўны Туманскай, сям'я якой вельмі любіла Шуру. Сястра нават і цяпер успамінае яго дасціпныя жарты. Ён заўсёды быў такі энергічны, вясёлы, чытаў нам новыя вершы. У нас з ім нават была дамоўленасць, што пры сустрэчах павінны чытаць адно аднаму новыя вершы.

У Магілёве ён пазнаёміў мяне са сваёй жонкай — Лідзіяй Мікалаеўнай, з якой я пасябравала, і гэта сяброўства працягваецца і цяпер. Шура вельмі любіў сваю жонку, прысвяціў ёй многа вершаў. З Лідзіяй

Мікалаеўнай мы сустракаемся кожны год...

Пра сябе магу сказаць няшмат. Вайна не дала мне завяршыць адукацыю, у вайну я страціла мужа, адна выгадавала траіх дзяцей. Старэйшы сын — ваенны інжынер, малодшы працуе фрэзероўшчыкам, дачка — старшым інжынерам у навукова-даследчым інстытуце. Я працавала пераважна ў дзіцячых установах, загадвала дзіцячымі яслямі. Цяпер даўно ўжо на пенсіі, але ўсё яшчэ працую.

*Міхась СКРЫПКА*

## КАЛІ РАСЦВІТАЛІ НЕ ТОЛЬКІ САДЫ

У кожнага чалавека, акрамя дарагога куточка, дзе ён нарадзіўся, дзе правёў дзяцінства, ёсць яшчэ памятныя мясціны, дзе ён выходзіў, як кажуць, «у людзі», дзе спазнаў першае каханне, займеў сапраўдных сяброў на ўсё жыццё, нават і тады, калі іх ужо і няма.

Такім слаўным куточкам для мяне быў і будзе Рагачоў. Тады, у тыя дваццатыя гады, калі я вучыўся ў Рагачоўскім педагагічным тэхнікуме, Рагачоў быў невялічкім раённым гарадком з ціхімі пясчанымі вуліцамі, з драўлянымі хатамі і ўвесь у садах.

«Яблыкі ды грушы, грушы ды яблыкі», — пісаў аб ім мясцовы паэт. Горад быў у абдымках дзвюх рэк — бурнага Дняпра і ціхай, але паўнаводнай Друці.

У горадзе налічвалася пяць-шэсць цагляных будынкаў. Галоўнымі былі настаўніцкая семінарыя, дзе вучыўся будучы знакаміты пісьменнік Міхась Лынькоў, гарнізонны клуб і будынак педагагічнага тэхнікума з прасторнымі светлымі аўдыторыямі і вялікай актавай залай.

Тэхнікум быў цэнтрам культуры для ўсяго горада. Тут ставіліся спектаклі, наладжваліся музычна-літаратурныя канцэрты не толькі для студэнтаў. За шчасце было папасці на вечар і гарадской моладзі.

Самадзейнасці аддавала шмат часу літаратурнае аб’яднанне, якое ўзначальваў настаўнік беларускай літаратуры Харэвіч. Харавым і музычным гуртком кіраваў музыказнаўца Біруковіч, дырэктарам педтэхнікума быў колішні супрацоўнік «Нашай нівы» Імшэнік.

У той суровы і рамантычны час людзі рваліся з цемры на шырокі вольны прастор, адчуўшы сябе гаспадарамі паўнапраўнага жыцця. Асабліва моладзь цягнулася ў навуку, літаратуру, мастацтва.

Паступіўшы ў 1926 годзе ў тэхнікум, я адразу быў падхоплены хваляй літаратурнага ўздыму і стаў членам літаратурнага аб’яднання, у якім налічвалася каля паўсотні здольных хлопцаў і дзяўчат; некаторыя з іх ужо друкаваліся ў раённым і абласным друку. Мы выдавалі

свой рукапісны часопіс, у тэхнікумаўскай насценнай газеце амаль кожны тыдзень друкавалі свае вершы, мініяцюры. Выступалі са сваімі творамі на вечарах самадзейнасці. А ў Бабруйску пры акруговай газеце «Камуніст» было літаратурнае аб'яднанне. Кіраваў ім рэдактар газеты Міхась Лынькоў. У літаб'яднанне ўваходзілі былыя чырвонаармейцы, настаўнікі, гарадскія і вясковыя аматары літаратуры. У канцы 1926 года адбылася першая акруговая сходка маладнякоўцаў. Многія з іх праз гады сталі вядомымі пісьменнікамі: Барыс Мікуліч, Якаў Герцовіч, Алесь Жаўрук і інш. Рэгулярна маладнякоўцы друкаваліся ў газеце «Камуніст» і літаратурным дадатку да яе «Вясна». Выйшла два нумары альманаха «Уздым».

Настрой тагачаснай моладзі адпавядаў купалаўскаму вершу:

Гэй, наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй да сонца! Гэй да зор!

Яшчэ да паступлення ў тэхнікум многія з нас «спрабавалі» сваё «пяро». Так, у нашай вясковай Сялібскай школе быў свой літаратурны гурток, з якога пазней выйшла чатыры пісьменнікі: Рыгор Няхай, Якаў Герцовіч, Янка Туміловіч і я. У сямігодцы пры Рагачоўскім педтэхнікуме два юнакі — будучыя пісьменнікі — Алесь Жаўрук і Аляксей Зарыцкі з дазволу школьнага савета выдавалі ад імя міфічнага выдавецтва «Стаптаны лапаць» гумарыстычную газету «Смех і слёзы». А пазней у восьмым класе другой школы па іхняй ініцыятыве быў арганізаваны літгурток, удзельнікам якога быў і будучы вядомы літаратуразнаўца доктар філалагічных навук Юльян Пшыркоў.

Жаўрук, скончыўшы школу, паступіў у наш тэхнікум. Гэта быў надзвычай таленавіты хлопец. Яго вершамі мы тады ўсе захапляліся, ведалі на памяць. Я вучыўся з яго сястрой Раісай, а Шурка (так звалі яго ўсе студэнты) ішоў на курс ніжэй. Мы з ім шчыра пасябравалі. Сінічкіны (сапраўднае прозвішча Шуры) жылі на вуліцы Мельнічнай, гэта побач з нашым інтэрнатам. У іх быў вялікі сад і маленечкая хатка.

Сям'я іх была вялікая, дружная, беднаватая, але вельмі гасцінная. Асабліва прыязнай і спагаднай здавалася мне Жаўрукова маці. Калі мы з Шурам забавімся футболам ці пад грушай за пісаннем вершаў, яна абавязкова нас пакліча і знойдзе нам перакусіць «чым бог паслаў». А то, бывала, скажа мне: «Здымі, сынок, кашулю, трошкі перамыю, а то дзеўкі не будуць любіць. Мой кавалер іншы раз і сам памые і заўсёды сам прасуе». Шура быў сярэдняга росту, абаяльны

і вельмі прыгожы. За сваю кучаравую прычоску і добрыя вершы ён быў празваны «нашым Пушкіным».

А мы ў той час, усе студэнты, захапляліся Ясеніным. Знalі на памяць дзесяткі яго вершаў, паэму «Анна Снегіна», «Баладу аб 26 камісарах».

Неяк раз нашы дзяўчынкі-студэнткі запрасілі нас у свой пакой і папрасілі, каб мы з Шурам прачыталі ім свае і ясенінскія вершы, і мы згадзіліся. «Давай, Міхась, ты старэйшы і смялейшы», — папрасіў Шура.

Запомнілася, як паважліва ставіліся ўсе мы тады да дзяўчат. Не дай бог, каб хто з хлопцаў пакрыўдзіў дзяўчыну. Яго хлопцы адлупцавалі б папружкамі. Прыпамінаецца такое. У Рагачове быў вядомы хуліган Раман. Ён часта назаляў студэнтам. А самым улюбёным заняткам было для яго пацалаваць дзяўчыну. Прыйдзе, бывала, на высокі бераг Дняпра, дзе гуляе вечарамі моладзь, падпільнуе парачку, падыдзе, павітаецца, скажа хлопцу: «Пагуляй, хлопчык, а я тваёй красуні нешта скажу на вушка». Тыя не паспеюць апамятацца, Раман пацалуе дзяўчыну — і пайшоў.

Каторы хлопец кінецца да хулігана, а той выме з кішэні фінку і гаворыць: «Я ж ёй нічога такога не зрабіў, а табе не раю лезці на ражон. Лепш сам пацалуй яе і «адзью».

І вось неяк раз Шура мне кажа:

— Дакуль гэта мы будзем цярпець гэтага хулігана? Давай заступімся за дзявочы гонар. Я ведаю, што заўтра, у нядзелю, Раман збіраецца «на рандэву». Я ўжо дамовіўся з Дубовікам. Думаю, што ўтрох справімся.

Доўга мы хадзілі па беразе і не бачылі Рамана. А вось і ён! Нібы па раней распрацаваным сцэнарыі, падыходзіць хуліган да парачкі, праганяе хлапца, абдымае дзяўчыну. А мы тут як тут!

— А вам што тут, «смаркачы», трэба? — выхапіўшы фінку, пайшоў Раман на нас. Але Шура, спрытна падскочыўшы, нагой выбіў нож, мы ўтрох навաліліся на яго, скруцілі назад рукі, звязалі, панеслі на высокі абрыў над Дняпром і, разгушкаўшы, закрычалі:

— Прымай, дружа Дняпро, цела хулігана Рамана!

— Хлопчыкі, братцы! Больш не буду! Клянуся! Толькі пашкадуйце!

— Ну, — сказаў Шура, — можа, уважым Рамана-хулігана?

Мы палажылі яго на зямлю, кінулі фінку ў Дняпро і сказалі:

— Давайце, хлопцы, паверым яму, але возьмем клятву, што з гэтага часу ён не зачэпіць ніводнай дзяўчыны.

— Хлопчыкі, родненькія, клянуся!

— Калі ж парушыш сваю клятву і паспрабуеш нам помсціць — мы другі раз цябе скінем з кручы шукаць сваю фінку.

Пасля гэтага выпадку Раман пацішэў і студэнтаў не чапаў. А па горадзе доўга яшчэ хадзілі гаворкі аб тым, як маладыя студэнты правучылі хулігана.

Дакацілася гэта чутка аж да Міхася Лынькова. (Гэта было ў 1926 г.) І вось тады ў перапынку сходкі ён запытаў у нас:

— Гэта праўда, што вы правучылі хулігана? Малайцы, хлопцы! Паэт павінен выяўляць не толькі словам.

Шура адчуваў і вельмі любіў усё прыгожае.

Неяк раз, калі расцвілі сады, мы былі ў вёсцы Кісцяні (адкуль, дарэчы, выйшаў таксама пісьменнік-прафесар Ю. Пшыркоў). Пасля канцэрта мы начавалі ў адной пуні. Доўга не маглі заснуць. Недзе ў садзе пад гармонік спявалі дзяўчаты, далёка азваўся гудком параход.

— Міхась, ты што не спіш? — запытаў Шура.

— Хіба ж у такі час заснеш!

— Давай выйдзем у сад.

Мы доўга слухалі цудоўныя песні, што краналі душу, пералівы гармоніка.

— Глядзі, глядзі, — схапіў мяне за руку таварыш, — зорка ўпала, відаць, у Дняпро.

І заключыў паэтычным вершам:

Мільганула зорка падучая,
І пагасла маланкай за кручаю.

Наш гурток да таго разросся, што яго не змяшчала аўдыторыя. Наведвалі заняткі і тыя, хто не меў сапраўднага да яго дачынення. Горш таго, некаторыя лічыліся «гурткоўцамі», хоць не маглі і слова звязаць. Тады Шура параіў на творчым актыве такое: «На занятках даваць заданне, каб да наступнай сустрэчы кожны падрыхтаваў на пэўную тэму хоць дзесяць вершаваных радкоў, а ў прозе даў замалёўку ці напісаў дыялог». І ўсё стала на сваё месца: чалавек дзесяць «адсыпалася».

Мы з Шурам любілі пісаць сатырычна-гумарыстычныя дыялогі, прычым на надзённыя тэмы. Ён мне і прапанаваў неяк:

— Давай для канцэрта напішам невялічкі дыялог.

— Давай! Толькі ты пішы пачатак, а я канец.

Шура пачаў:

Цэлу ноч яны спрачаліся
Ў дыскусійнай барацьбе:
Даказаць усё стараліся —

Хто мудрэй з тых «А» і «Б»,
Што сядзелі на трубе?

А я напісаў канцоўку:

А на алгебры папаліся:
Як «разумнікі» ні пяліся,
Даказаць не ўдавалася
Колькі ж будзе — А + Б?

Нават Ніна Усціновіч, з якой сядзеў на адной парце, таксама «захварэла» нашай справай. І аднойчы сказала нам:

— Я была ў Бабруйскім тэатры і бачыла на сцэне маленькую інтэрмедыю, у якой трое хлопцаў з торбамі, пабраўшыся адзін за другога, як старцы, спявалі, што яны сляпыя па свеце ходзяць і просяць міласціну, а сабраўшы грошы, ідуць у кіно. Толькі я не запомніла іхнія словы. Старалася сама зрабіць невялічкую мініяцюру, ды не выходзіць.

— Ну, гэта, Міхась, у тваім жанры, — сказаў Шура.

Я не спрачаўся і назаўтра аддаў гурткоўцам, якія чыталі са сцэны гумар і сатыру, свой новы верш. І трэба было бачыць, як рагатала публіка на вечары, калі трое «сляпцоў» з доўгімі торбамі, працягваючы наперад рукі, гугнявілі:

Мы, слепцы, по белу свету бродим,
Подаяния у зрячих просим, еле дышим,
Ничего не видим и не слышим.
А собравши лишнюю полтину,
Мы идем в кино смотреть картину.

У горадзе, недалёка ад Дняпра, быў на той час неблагі гарадскі тэатр, на сцэне якога ставіліся не толькі спектаклі мясцовай трупы студэнцкага калектыву. У тэатры ж студэнты не прапускалі ніводнага спектакля. Грошы на білеты знаходзілі за кошт эканоміі, мацней падцягвалі папружкі і, не павячэраўшы, ішлі ў тэатр.

Запомніліся такія спектаклі: «Наталка-палтаўка», «Каршун-разбойнік», «Пра што тырса шалясцела», «Ой, не хадзі, Грыцу, ды на вечарніцы» і інш.

Асабліва яшчэ нам падабаўся тады знакаміты вандроўны тэатр Галубка, яго пастаноўкі «Пан Сурынта», «Плытагоны».

Тут упершыню мы праслухалі лекцыі пра вялікіх музыкантаў, кампазітараў — Чайкоўскага, Глінку, Бетховена, Моцарта, Вэрдзі і іншых. Гэтыя лекцыі суправаджаліся добрымі спевакамі, музыкантамі. У тэатры ішлі нямыя кінафільмы ў суправаджэнні музыкі.

Студэнты былі самастойныя. Калі не хапала грошай на пражыц-

цё, ішлі на станцыю або на фабрыку імя Халтурына і ноччу сёе-тое зараблялі. У тэатры найболей даступны быў балкон, калі хто трапляў у партэр, то назаўтра не было ратунку ад кпінаў: «Бач ты яго! Нэпманскі сынок! У партэр захацеў!» Дзяўчат-камсамолак, якія ўжывалі парфуму, крытыкавалі на сходах. Не насілі гальштукаў. Усё гэта тады лічылася мяшчанствам. Некаторыя нават касавурыліся на Шуру за тое, што ён быў заўсёды падцягнуты, адпрасаваны, падстрыжаны. Сам ён лічыў гэтыя абмежаванні «модным глупствам». Мяшчанства не бачыў ні ў пудры, ні ў гальштуках. Ён і пісаў, здаецца, аб гэтым. Цанілася шчырасць у дружбе, гатоўнасць у любы час памагчы таварышу ў бядзе, заступіцца за другога. Тады ніхто не выступаў «па напісанаму». Калі ж здаралася такое «пісанае выступлене», мы лічылі, што ў прамоўцы свой кацялок не варыць, што за яго нехта напісаў.

Або вазьміце ўзнагароды. Сёння — гэта справа звычайная. Памятаю, калі ў трыццатыя гады ўзнагародзілі старшыню калгаса Цэлікава «Знакам Пашаны», дык яго віншаваў увесь Рагачоў, быў выстраены пры гэтым кавалерыйскі полк, які размяшчаўся ў нашым горадзе. Газета «Камунар» змясціла вялікі артыкул. Нехта з былых гурткоўцаў прысвяціў ардэнаносцу верш.

Дарэчы, у той час пачынаў сваю літаратурную дзейнасць выхаванец дзіцячага дома, мой сябра Фёдар Куляшоў. Цяпер прафесар, член Саюза пісьменнікаў СССР. Ён ужо ў той час высока ацаніў Алеся Жаўрука.

І вось праляцелі гады залатога юнацтва. Жыццё, а тым больш вайна, раскідала нас па ўсім свеце. Каго не стала, хто загінуў у баях за Радзіму.

Каму пашчасціла застацца ў жывых, старанна шукаў, часам праз дзесяткі гадоў, тых, з кім пасябраваў у той незабыўны час.

Фёдар Куляшоў знайшоў мяне недзе ў 1948 годзе. Я знайшоў Ніну Усціновіч у пяцідзесятыя гады ў Брэсце, прыкутай хваробай да ложка. Будучы ў Брэсце, я заўсёды заходзіў да яе. У нас было аб чым пагаварыць, што ўспомніць. Ніна некалькі гадоў працавала таксама настаўніцай, перад тым як захварэла. Хвароба не зламала яе. Пісала вершы пра родны край, пра шчаслівае жыццё нашых людзей. Напісала дзве аповесці. Колькі мог спрыяў друкаванню яе твораў.

Гэта было як бы спаўненнем абавязку перад памяццю нашай маладосці. Вельмі ж мала нас, з тагачасных сяброў, засталося. Дзіўна, але яшчэ і цяпер мы шукаем адзін другога. Яшчэ не гасне ў душы надзея. Толькі Шуркі я ўжо не сустрэну. Ён загінуў героем у Сталінградскай бітве. Пакінуў ён нам аб сабе добрую памяць і таленавітыя творы.

*Мікола УПЕНІК*

## ПРА МАЙГО БЕЛАРУСКАГА СЯБРА

У 1984 годзе ў кіеўскім выдавецтве «Радянський письменник» выйшла кніга вядомага ўкраінскага паэта Міколы Упеніка «Старонкі з блакнота». Гэта фактычна франтавыя нататкі, напісаныя рукой паэта-воіна. Некалькі старонак гэтай кнігі прысвечаны нашаму беларускаму паэту-франтавіку Алесю Жаўруку, з якім Мікола Упенік працаваў разам у рэдакцыі газеты 62-й арміі, слаўнай сваімі подзвігамі пад Сталінградам. Гэтай арміяй камандаваў Маршал Савецкага Саюза В. І. Чуйкоў.

Рэдакцыя армейскай газеты «На защиту Родины» займала некалькі сялянскіх хат. Як і мая «дывізіёнка», яна таксама знаходзілася на колах, здольная ў любы момант, кажучы па-вайсковаму, змяніць дыслакацыю. Я знайшоў тут новых сяброў, поплеч з якімі прайшоў доўгі шлях даўжынёю ў некалькі год — шлях цяжкі, але пераможны. Вялікі гонар быць афіцэрам такой арміі, як 62-я, якая потым стала называцца 8-й гвардзейскай. Ганаруся і буду ганарыцца да канца свайго жыцця тым, што быў звязаны з гераічнай арміяй, чыя слава ніколі не згасне.

У той час, калі я апынуўся ў Калачы, да перамогі на берагах Волгі было яшча далёка. На Доне, а потым у міжрэччы і непасрэдна ў самім Сталінградзе толькі пачыналася бітва, якой яшчэ гісторыя не ведала.

Газета «На защиту Родины» выходзіла амаль кожны дзень, і работы літсупрацоўнікам хапала. Не сядзелі без справы і мы, два паэты: беларус Алесь Жаўрук, які прыйшоў у рэдакцыю раней, і я, украінец. Алесь вёў раздзел салдацкага гумару і сатыры, які даваў значныя «залпы» па ворагу. Часам мой сябар змяшчаў у газеце лірычныя вершы, публіцыстычныя радкі, у якіх звяртаўся да нашых байцоў. Падпісваўся ён сціпла — А. Сінічкін.

Далучыўся да работы рэдакцыі і я, спачатку з нарысамі і артыкуламі пра тых, хто не шкадаваў свайго жыцця, змагаючыся за кожную пядзю роднай зямлі. А потым усё часцей пачаў друкаваць вершы, песні, частка якіх увайшла ў зборнік «Сталинградские мотивы», выдадзены Ваенвыдатам у час баёў на Волзе.

Шмат сіл мы аддавалі ўслаўленню незвычайнай адвагі салдатаў і афіцэраў легендарнай арміі, якія стаялі насмерць на правым беразе вялікай рускай ракі (да гэтага часу захоўваю выразку з газеты з баладай пра нашага вядомага снайпера Героя Савецкага Саюза Васіля Зайцава, які жыве цяпер у Кіеве). Патрэбны былі і плакатныя радкі, якія выпускаліся лістоўкамі ці былі намаляваны вялікімі літарамі на разбураных дамах. Значную ролю ігралі тут і подпісы пад карыкатурамі на гітлераўскіх ваяк — іх па-майстэрску маляваў, а потым выразаў на лінолеуме, паколькі цынкаграфіі ў нас не было, мастак з Архангельска Юрый Данілаў. Я добра разумею, што сёетое са зробленага выглядае сёння наіўна. Але ў той час гэта ўсё працавала на перамогу.

Незадоўга да сваёй смерці Маршал Савецкага Саюза В. І. Чуйкоў пісаў пра тое, што «ў цяжкія дні і ночы Сталінградскай бітвы савецкія воіны бачылі побач з сабою пісьменнікаў М. Шолахава, К. Сіманава, А. Суркова, Я. Далматоўскага і іншых байцоў «літаратурнага палка». Іх слова можна параўнаць з баявым снарадам, які знішчаў самую небяспечную цэль у стане ворагаў». Гэта высокая ацэнка дзейнасці тых, хто без страху ішоў на бітву за нашу свабоду і шчасце.

...Дзень дваццаць трэцяга жніўня сорак другога года помніць кожны, хто ў той агнявы час быў у Сталінградзе. Рэдакцыя нашай газеты размяшчалася ў райцэнтры Гарадзішча — яго можна было ўбачыць з вяршыні Мамаева кургана.

На дапамогу сваім наземным войскам, якія рваліся да Сталінграда, была кінута фашыстамі паветраная армада. На працягу другой паловы таго памятнага дня яна разбурыла горад. У руіны і попел фашысты ператварылі праспекты і вуліцы, бульвары, вялізны заводскі раён Сталінграда, які на многія кіламетры цягнуўся ўздоўж Волгі ад трактарнага завода да паўднёвых ускраін.

Не абмінулі раз’юшаныя ворагі і Гарадзішча. На стары драўляны гарадок яны таксама скінулі сотні бомбаў. Адна з іх трапіла ў двор, дзе знаходзілася наша газета. Алесь Жаўрук быў цяжка паранены. Сябры паклалі яго на грузавік, што ад’язджаў у шпіталь. Пазней мы даведаліся, што фашысцкая бомба ўзарвалася і ў раёне шпіталя. Алесь быў паранены другі раз. Разам з другімі параненымі яго, яшчэ жывога, перанеслі на бераг Волгі, а адтуль — на палубу судна, каб пераправіць на левы бераг. Але паветраны налёт ворагаў не спыняўся. І адна бомба была скінута на судна, над якім развяваўся сцяг з чырвоным крыжам...

Разам з іншымі салдатамі беларуса Алеся Жаўрука навекі прыняла волжская вада.

Калі ў Кіеве рыхтавалася выданне анталогіі беларускай паэзіі на

ўкраінскай мове, я папрасіў на пераклад вершы Алеся Жаўрука. Я хацеў гэтым прынесці яму даніну павагі — майму сябру, з якім і не паспеў па-сапраўднаму зблізіцца.

Пераклады былі надрукаваны ў анталогіі, пра нашы франтавыя дарогі я расказаў беларускім сябрам у Мінску, калі мы прыехалі сюды, каб уручыць наш падарунак, — два тамы паэзіі брацкага народа. Палымяныя радкі Алеся Жаўрука, уключаныя ў анталогію, былі прысвечаны героям іспанскай рэспубліканскай арміі, байцам-інтэрнацыяналістам, якія першыя ўступілі ў смяротную схватку з фашыстамі там, на Пірынеях. Гэта быў урывак з паэмы «Крывёю сэрца». Не ведаю, чаму ўкладальнікі анталогіі спыніліся менавіта на гэтым творы, але ўрывак з паэмы аб Іспаніі быў выбраны вельмі дакладна.

Алесь Жаўрук, аўтар паэмы, загінуў дваццаць трэцяга жніўня сорак другога года ў Сталінградзе.

# Рамуальд
# ЗЯМКЕВІЧ

Рамуальд Аляксандравіч Зямкевіч нарадзіўся 7 лютага 1881 г. у Варшаве.

Вучыўся ў Варшаўскім (1907–1908) і Львоўскім політэхнічных інстытутах. Па прафесіі інжынер-механік. Пераважна жыў у Варшаве. Працаваў хатнім настаўнікам, у антыкварыяце Г. Вільдара. Пад уплывам М. Федароўскага зацікавіўся беларускай этнаграфіяй і літаратурай. У 1908 г. рабіў фальклорна-этнаграфічныя запісы на Барысаўшчыне. Вёў пошукі ў архівах Львова і Раперсвіля (Швейцарыя). Непрацяглы час працаваў у газеце «Наша ніва» (1912). У 1913 г. жыў у маёнтку Борхаў Мінскай губерні. Збіраў гісторыка-літаратурныя матэрыялы на Магілёўшчыне (1913–1914 гг.). З 1915 па 1918 г. жыў у Мінску, служыў вайсковым інжынерам. Удзельнічаў у з’ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску (сакавік 1917 г.). Вясной 1918 г. выкладаў на курсах беларусазнаўства. Працаваў памочнікам начальніка чыгуначнай дыстанцыі ў Лідзе. У 1923 г. вярнуўся ў Варшаву. Працаваў да выхаду на пенсію (1929) у акруговай кантрольнай палаце. У 1932 г. быў арыштаваны крымінальнай паліцыяй за крадзеж гістарычных дакументаў

з Раперсвільскага збору. У 1943 ці 1944 г. быў арыштаваны гестапа і загінуў, паводле асноўнай версіі, у канцлагеры Асвенцім.

Р. Зямкевіч — вядомы бібліяфіл і бібліёграф, які сабраў багатую калекцыю матэрыялаў па гісторыі, культуры, літаратуры, фальклоры і мовазнаўстве. Аўтар першага спецыяльнага бібліяграфічнага даведніка на беларускай мове «Беларуская бібліяграфія» (1910). Выступаў як літаратурны крытык, гісторык літаратуры, публіцыст і перакладчык. Першыя артыкулы надрукаваў на старонках «Нашай нівы». Выдаў кніжкі «Адам-Ганоры Кіркор» (1911), «Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX сталецця» (1911), «Цукраварні на Беларусі» (1918), «Аб беларускай народнай эстэтыцы» (1927). Апублікаваў шматлікія артыкулы ў перыядычных выданнях: газетах «Наша ніва», «Гоман», «Беларускае жыццё» і інш. З украінскай мовы пераклаў творы В. Стафаніка.

# КРЫТЫКА

## ЯН БАРШЧЭЎСКІ — ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК XIX СТАЛЕЦЦЯ

*Успамін у 60-летнюю гадаўшчыну смерці*

Некалі багатая беларуская пісьменнасць у XVII і XVIII сталеццях пачынае хіліцца да поўнага ўпадку. Апроч палітычна-сацыяльных варункаў і ізаляцыі вышэйшых станоў ад народа прычынай гэтаму паслужыла і штучная не чыста народная мова, у каторай пісаліся і друкаваліся ўсе кніжкі. Выходзячы з думкі, што пісаць і друкаваць можна толькі ў гэтай мове, у каторай напісана Святое Пісьмо (Біблія), старыя беларускія пісьменнікі самі прычыніліся да ўпадку свайго народа, а прынамсі да ўпадку сваёй інтэлігенцыі. Мова, якая ўжывалася ў кніжках, была штучнай дзеля таго, што складалася з царкоўнаславянскай мовы (праўдзівей кажучы, старабалгарскай), да каторай увайшлі цэлыя словы і звароты жывых моў: беларускай, украінскай і польскай. Разумеецца, што мова, так штучна апрацаваная, не магла служыць душэўным патрэбам беларускага народа, асабліва людзям простым, не вучоным. Дзеля таго павінна была яна раней ці пазней уступіць месца чыста народнай, усім зразумелай гутарцы. Гэты жыццёвы працэс замены моў бачым у другой палавіне XVIII сталецця, калі езуіты і піяры пачынаюць усё больш і больш ужываць чыста народнай гутаркі ў казаннях для простага люду. Памалу паяўляюцца ў гэтай мове друкаваныя кніжкі, як казанні, кантычкі і малітвы. Апроч гэтага езуіты ў сваіх школьных драмах і камедыях пачынаюць выводзіць на сцэну і простага беларускага селяніна з яго гутаркай. Такім вось спосабам беларуская народная мова здабыла сваё права ў жыцці. Раз быў пачатак зроблены, можна было чакаць, што знойдуцца і народныя песняры і пісьменнікі. Так і сталося.

Першым беларускім пісьменнікам у XIX сталецці трэба

лічыць не Манькоўскага, каторага «Энеіда» зрабілася вядомай шырэйшаму грамадзянству толькі пасля 1830 года, а Яна Баршчэўскага, каторага першы верш, напісаны ў 1809 годзе, зрабіў яго шырокавядомым песняром у Паўночнай Беларусі. Радзіўся Баршчэўскі ў 1790 годзе ў Мурагах каля возера Нешчарда ў Віцебшчыне. Быў ён сынам беднага засцянковага шляхціца. Маладым хлопцам аддаў Баршчэўскага ў езуіцкую калегію яго родны бацька. Баршчэўскі вучыўся надта добра ў школах. Кожнае лета прыязджаў у вёску, дзе ўсе яго вельмі любілі. Ніводнае вяселле, імяніны і другія тым падобныя святы не абышліся без Баршчэўскага, каторага ўсе ахвотна прасілі. Не было кірмашу, на каторы б Баршчэўскага не пацягнулі. Уся засцянковая шляхта любіла Баршчэўскага за мілы, вясёлы характар і за вершыкі, каторыя ён складаў пры кожнай першай лепшай нагодзе. Шляхта гэта, лічучы сябе палякамі, гаварыла паміж сабой больш пабеларуску, чым па-польску. Аб гэтым сведчыць і Чачот[1] і Рыпінскі[2]. Папулярнасць твораў Манькоўскага, Баршчэўскага і другіх паказвае ясна, што ўсе гэтыя творы былі патрэбны, што яны вельмі цікавілі ўсіх і, як можам бачыць у этнаграфічных зборніках, увайшлі ў народ і зрабіліся чыста народнымі творамі. Першым беларускім вершам Баршчэўскага была песенька «Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?». Вершык гэты напісаў Баршчэўскі ў 1809 годзе, закахаўшыся ў панначку Максімовічаўну. Калі ён напісаў гэты вершык, пэўна, і не думаў, што ён зробіцца так папулярным і, пераходзячы з вуст да вуст, захаваецца доўга ў памяці людзей. Чым скончылася яго любоў да панны Максімовічаўны — не вядома. Мусібыць, людзі і час змянілі ўсё. У 1812 годзе бачыў Баршчэўскі вялікую вайну з Напалеонам і барбу мужыкоў па лясах з уцякаючымі французамі. Вось пад уплывам гэтых здарэнняў напісаў Баршчэўскі верш «Рабункі мужыкоў». Верш гэты разышоўся ў спісках па цэлай Беларусі.

Скончыўшы школы ў Полацку, меніўся Баршчэўскі паехаць да універсітэта ў Вільні. Не маючы магчымасці зрабіць гэта, ён пачаў працаваць як дамовы вучыцель у багатых дамах. Сабраўшы трохі грошай, паехаў ён да Пецярбурга. Напаткаўшы тамака знаёмых, праз іх дастаў месца ў марскім ведамстве, дзе пачаў служыць. Але месца гэта пакінуў хутка і пачаў ізноў вучыцельскую працу. Праца гэта дала яму нейкую матэрыяльную

[1] Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846. C. V.
[2] Białoruś. Paryź, 1840. C. 112, 202.

незалежнасць.

У Пецярбургу пазнаёміўся Баршчэўскі з Міцкевічам, а пасля і з Шаўчэнкам. Знаёмасці гэтыя мелі вялікі ўплыў на літаратурную творчасць Баршчэўскага. Баршчэўскі гуртуе каля сябе ў 1840 годзе моладзь і пачынае выдаваць рочнікі-альманахі. Альманах Баршчэўскага «Niezabudka» выходзіў ад 1840 да 1844 г. Выйшла гэтага 4 тамы. Альманахі гэтыя крытыка прыняла вельмі прыхільна. Найважнейшай працай Баршчэўскага ёсць «Szlachcic Zawaln³a ñzyl³ Â³àłoruś w fantastycznych opowiadaniach» (Petersburg, 1844–1846). У прадмове гэтай кніжкі шмат цікавага аб беларускай літаратуры напісаў Рамуальд Падбярэскі. Кніжка гэта складаецца з самых народных беларускіх апавяданняў і легендаў, каторыя збіраў Баршчэўскі праз усё сваё жыццё. Крытыка да самой кніжкі аднеслася надта прыхільна[3], прадмову Падбярэскага аднак моцна згудзіла за лішне вялікую самапэўнасць[4]. Усе гэтыя творы Баршчэўскага напісаны былі ў польскай мове, дзеля гэтага, што па-беларуску друкаваць не дазвалялі. Балады, апісальныя вершы Баршчэўскага, а таксама і «Szlachcic Zawalnia» так і просяцца, каб іх перакласці на беларускую мову, бо ўсё гэта ўзята жыўцом з беларускага жыцця і ў польскай літаратуры не мае і не будзе мець такога вялікага значэння. З твораў Баршчэўскага, пісаных па-беларуску, маем толькі два вершыкі, друкаваныя ў альманаху Падбярэскага «Rocznik Literacki» (Petersburg, 1843, с. 216): «Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?» і «Гарэліца» і адзін няпоўны: «Рабункі мужыкоў» у прадмове Падбярэскага да кніжкі «Szlachcic Zawalnia» (с. XXVIII–XXXII). Аб гэтым вершы «Рабункі мужыкоў» піша і Аляксандр Рыпінскі ў сваёй кніжцы «Białoruś» (Парыж, 1840) і падае нават колькі строф, не друкаваных у Падбярэскага (с. 204, 107 і 208). Аб беларускіх творах Баршчэўскага так піша польскі крытык і гісторык Юльян Барташэвіч: «Вершы Баршчэўскага расходзіліся па ўсіх руках. Умелі іх на памяць дзеткі, а нянькі пяялі пры калысках песні Баршчэўскага, каторы зрабіўся праўдзіва папулярным і адзіным песняром сваёй Украіны»[5].

Пад канец жыцця Баршчэўскі пераехаў да Цуднова на Валыні, дзе жыў у графіні Ржавускай. Там жыў колькі гадоў аж да смерці, каторая наступіла 11 сакавіка 1851 года.

---

[3] Biblioteka Warszawska. 1844. T. 1. C. 229–231.

[4] Biblioteka Warszawska. 1845. T. 1. C. 668, 671.

[5] Dziennik Warszawski. 1851. № 22. C. 4; № 24. C. 4, 5 і 6.

Значэнне творчасці Яна Баршчэўскага для беларускай літаратуры важнае тым, што ён з’яўляецца дальшым звяном таго ланцуга пісьменнікаў, каторыя яшчэ ў XVIII сталецці пачалі працаваць для народа. Творы Баршчэўскага, як бы сабе ні было, увайшлі ў народ і прыгатавалі грунт для будучых беларускіх пісьменнікаў. Баршчэўскага трэба лічыць за першага беларускага пісьменніка ў пачатку XIX сталецця, бо раней 1809 года ніхто яшчэ не пісаў, а «Энеіду» Манькоўскага трэба аднесці да 1830 г., дзеля таго, што толькі ў гэтым часе пачынаюць гаварыць і пісаць аб гэтай паэме.

## АДАМ-ГАНОРЫ КІРКОР
*Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс*
*у 25-летнюю гадаўшчыну смерці*

23 лістапада 1911 года прайшло 25 гадоў ад дня смерці вядомага археолага, гісторыка і журналіста Адама Кіркора.

Пісьменнік гэты, хаця і не пісаў па-беларуску, але як беларус з роду і шчыры працаўнік для роднага краю, мае і будзе мець вялікае значэнне ў гісторыі беларускага нацыянальнага развіцця.

Радзіўся Кіркор у 1818 годзе ў Слівіне Магілёўскай губерні. Быў ён сынам уніяцкага пароха (свяшчэнніка). Вучыўся Кіркор спачатку ў доме бацькоў, пасля ў магілёўскай гімназіі і наканец у віленскім шляхоцкім (дваранскім) інстытуце. Асеўшыся ў Вільні, Кіркор займаўся літаратурнай працай, пішучы карэспандэнцыі да польскіх і расейскіх газет і выдаючы літаратурныя зборнікі-альманахі. Першым такім зборнікам Кіркора быў альманах «Radegast» (Вільня, 1843), далей у гадах 1845–1846 пад псеўданімам (прозвішчам) «Jan ze Śliwina» выдаў Кіркор 3 тамы зборніка «Pamiętniki umysłowe». Першыя зборнікі Кіркора мала задаволілі грамадзянства, так што Кіркор маніўся ўжо пакінуць літаратурную працу. Пасля 1846 года пачынае Кіркор службу ў «казначэйстве», але аднак літаратурнай працы не адрокся, дзеля таго, што ў свабодным часе цікавіцца археалогіяй і гісторыяй роднага краю. Пазнаёміўшыся ў Вільні з усімі найбольш выдатнымі вучонымі і гісторыкамі, як, напрыклад, Балінскі, М. Гамалінскі, М. Маліноўскі, Нарбут, Канстанцін і Эўстах графы Тышкевічы, Кіркор шмат у чым скарыстаў і ў канцы канцоў узмацаваўся ў кірунку сваёй працы. Ад 1846 да 1856 года Кіркор піша надта мала, калі не ўспамінаць яго рэдак-

тарскай працы ў «Памятной книжк‹ Виленской губерніи» за гады 1850–1854 ды сабрання стацей у кніжцы «Историко-статистическіе очерки Виленской губерніи» (Вільня, 1853).

Пасля крымскай вайны наступілі значныя палягчэнні для друкаванага слова, і вось ад 1856 года пачынаецца вялікае літаратурнае і грамадзянскае ажыўленне ў Вільні і ў цэлым нашым краі. Арганізуюцца, асабліва паміж маладымі, літаратурныя гурткі палякаў, ліцвінаў і беларусаў. Гурткі гэтыя маюць мэту служыць справам дэмакратызму і пашырэння асветы паміж сялянамі, каб падгатовіць іх да будучага вольнага жыцця. Першыя ластаўкі, беларускія кніжкі Марцінкевіча, радасна вітае тагачасны невялікі беларускі гурток у Вільні. Рэдакцыя газеты «Kur. Wil.», Сыракомля, Манюшка, Вінцук Каратынскі і Кіркор — гэта сонца, каля каторых і гуртуюцца ўсе зоркі беларускага адраджэння. Спачатку Рамуальд Падбярэскі, а пасля Кіркор становяцца загадчыкамі беларускага літаратурнага кружка. Кіркор пад уплывам гэтага беларускага гуртка ўкладае і друкуе беларуска-расейскі слоўнік[1], піша стацці «Этнографическій взглядъ на Віленскую губ.»[2] і «Объ этнографической граніцы литовской и славянской народностей въ Литв‹»[3].

У 1856 годзе граф Яўстах Тышкевіч адкрывае ў Вільні музей. Кіркор шчыра і з усіх сіл працуе ў ім, а калі пры музеі ўстанаўляюць Археалагічную камісію, Кіркор пасля гр. Яўстаха Тышкевіча займае найбольш выдатнае месца ў вялікай і цэннай навучнай працы гэтай Камісіі. У гэтым часе піша і друкуе «Przechadzki po Wilnie», каторыя робяць Кіркора надта папулярным у нашым грамадзянстве, ды пачынае надта цэннае выдаўніцтва «Teka Wileńska», дзе друкуюць свае працы найлепшыя тагачасныя літаратурныя сілы «Teka Wileńska» выходзіць праз 1857 і 1858 год і знаходзіць шмат падпісчыкаў і чытачоў. У 1858 годзе прыязджае ў Вільню цар Аляксандр II. Кіркор друкуе на прывітанне альбом «Въ память пребыванія Государя Императора Александра II-го въ Вильн‹, 6 и 7 сентября 1858 г.». У альбоме колькі прац змешчана ў польскай і французскай мове і стацця Кіркора па-расейску «Очеркъ исторіи города Вильны». Апроч гэтага ў канцы альбома змясціў Кіркор два вершыкі: адзін літоўскі М. Акелевіча, а другі беларускі «П‹сьня зъ паклонамъ

[1] Записки Императ. географич. общества. Том XI и XXI.

[2] Этнографическій сборникъ, выпускъ III. СПб., 1856.

[3] В‹стникъ Россійскаго географическаго общества. Кн. IV. СПб., 1857. С. 236–257.

адъ литоўско-русинскай мужыцкай грамады» Вінцука Каратынскага.

У гэтым самым 1858 годзе быў вялікі ў Вільні з'езд шляхты, каторая дэкларавала цару Аляксандру II сваю думку аб скасаванні прыгону. Год гэты для нас важны тым, што ў Вільні адбыўся першы беларускі сход пісьменнікаў, каторыя апрацавалі план выдаўніцтва кніжак для беларускага народа, што меўся быць вызваленым з цяжкага прыгону. Змяніліся часы, і з гэтага нічога не выйшла. З беларускіх пісьменнікаў былі тады ў Вільні, апроч Сыракомлі, Манюшкі, Вінцука Каратынскага, Рамуальда Падбярэскага і Кіркора, — Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі і колькі маладых. Вось з гэтага часу маем цікавы вершык Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, у каторым ён, апроч другіх людзей, звяртаецца і да Кіркора:

Адаська, родны Адаська!
Як мы цешымся з Цябе!
Душа Твая зусім наська,
А горнеш усіх к сабе.

Мурашачка працавіта,
Хвала, брат, сіле Тваей!
Як нашы у пуню жыта,
Кладзеш усё у музей.

Будзь здароў! Няхай жа пільна
Так ўсе робяць свае;
Няхай помняць край і Вільна,
Старанні гэты чые.

У 1859 годзе выдае Кіркор 2 тамы зборніка «Piśmo zbiorowe wileńskie», а ў 1860 годзе прымае на сябе рэдакцыю газеты «Kurjer Wileński», і, як сведчыць Вінцук Каратынскі[4], паставіў яго на такую літаратурную высокасць, што газета пачынае цікавіць усіх і знаходзіць адразу больш за 3000 падпісчыкаў: рэч небывалая ў Вільні. Але з гэтым выдаўніцтвам ідуць у пары і злыдні, дзеля таго, што на Кіркора пачынаюць нападаць людзі, каторым была не да спадобы яго праца ў расейскіх выдаўніцтвах. Найбольш прыйшлося выцерпець Кіркору за выдаўніцтва «Альбома». Першы напаў на Кіркора эмігрант Юльян Клячко ў брашуры «Odstępcy» (Парыж, 1860), другім быў Рамуальд Падбярэскі, каторы крытыкуе востра кірунак газеты «Kurjer Wileński»[5]; трэці

[4] Gazeta Warszawska. 1886. № 265.

праціўнік Кіркора, вядомы польскі паэт Карнель Уейскі, найгорш зашкодзіў Кіркору сваёй стаццёй «O Albumie wileńskim»[6], надрукаванай пасля ў асобнай кніжцы (Listy z pod Lwowa. Lipsk, 1861). У 1864 годзе Кіркор едзе ў Пецярбург і разам з Юматавым выдае «Новое время». У 1871 годзе Кіркор пераязджае да Кракава і тамака жыве аж да смерці сваёй у дню 23 лістапада 1886 г. У 1872 г. Кіркор напісаў вельмі цікавую стаццю «Этнографическіе очерки Сувалкской губ.» (Памятная книжка Сувалкской губерніи на 1873 годъ), дзе ёсць і песні сувальскіх беларусаў. У 1874 годзе друкуе Кіркор у Кракаве кніжку «O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich». Кніжка гэта мае для нас вялікае значэнне: у ёй шмат ёсць цікавых рэчаў аб беларускай літаратуры і з яе даведаліся мы аб усіх беларускіх творах Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, каторыя дагэтуль яшчэ не надрукаваныя бадзяюцца недзе ў людзей. У гэтым самым годзе памяшчае яшчэ Кіркор у варшаўскім месячніку «Niwa» цікавую стаццю «Pierwotna Słowiańszczyzna», дзе піша і аб Беларусі[7]. Пасля 1874 года Кіркор піша мала, працуе больш як археолаг у Галічыне. Толькі ў 1882 годзе друкуе Кіркор сваю старую працу аб Літве і Беларусі, каторая і ўваходзіць у III том выдаўніцтва «Живописная Россія». Гэта найбольшая і найцаннейшая з прац Кіркора. Апошняй працай Кіркора была кніжка «Bazylika Litewska» (Kraków, 1886). Як журналіст і палітык Кіркор шмат выцерпеў ад палякаў і расейцаў, каторыя і дагэтуль не здабыліся на праўдзівую ацэну яго працы для краю; як шчыры і незмардаваны працаўнік, тутэйшы карысны археолаг, гісторык і этнограф Кіркор астанецца незабытым у гісторыі нацыянальнага адраджэння так беларусаў, як і ліцвінаў.

Хаця Кіркор пасля вядомай забароны друку беларускіх кніжак страціў надзею на ўтрыманне нацыянальнай беларускай асобеннасці, пішучы: «Беларусь не пабачыць больш працы сваёй у друку. Голасу роднай мовы не пачуе ён у касцёле. Беларусь памерці павінна»[8], Беларусь не памёрла і беларусы заўсёды памянуць яго «не злым, ціхім словам», як шчырага і добрага сына Беларусі, каторай ён служыў чым мог і як мог.

---

[5] Dziennik Literacki. Lwów, 1860. № 33.

[6] Dziennik Literacki. Lwów, 1860. № 34.

[7] Niwa.Warszawa, 1874. S. 19, 140, 252–253, 254, 357–361, 412–417.

[8] O literaturze pobratymszych narodów słowiańskich. Kraków, 1874. S. 55.

# ТАРАС ШАЎЧЭНКА І БЕЛАРУСЫ

З усіх славянскіх літаратур найбольш блізкай да беларускай пісьменнасці трэба лічыць літаратуру ўкраінцаў. Блізкасць гэта вырабілася цэлымі стагоддзямі супольнага літаратурнага жыцця і гістарычнай долі.

Калі глянуць у літаратурную мінуўшчыну беларускага народа, калі прыпомніць ці найдаўнейшыя рукапісныя памятнікі, — як, напрыклад, «Слова аб палку Ігаравым», ці кніжкі, друкаваныя беларусамі ці ўкраінцамі, — супольнасць гэтага жыцця відаць за ўвесь час ад XV да XVIII стагоддзяў у беспрарыўных літаратурных зносінах вучоных, брацтваў ды манастыроў.

Кніжкі, друкаваныя беларусамі і ўкраінцамі, разыходзіліся тысячамі і на Беларусі і на Украіне. Можна сказаць, што не было такой бібліятэкі ў абодвух народаў, дзе не было б кніжак, друкаваных ці ў Вільні, ці ў Кіеве, ці ў Львове. Гэтакі вялікі абмен кніжкамі рабіўся затым, што напісаны яны былі ў адной супольнай мове[1], лёгка зразумелай і для беларусаў і для ўкраінцаў.

Дзякуючы супольнасці кніжнай мовы беларусы і ўкраінцы карысталі, значыць, і з адной супольнай літаратуры. Гэтак было і ў часы нацыянальнага упадку абодвух народаў — да канца XVIII стагоддзя, пакуль народныя мовы — беларуская і ўкраінская — не зрабіліся мовамі літаратурнымі, і кожны з тых двух братніх народаў пайшоў у жыццё сваім уласным шляхам.

Аднак і пасля раздзелу літаратурныя зносіны не скончыліся. Пачынаючы ад Манькоўскага, каторы адзеў у беларускую апратку «Энеіду» Катлярэўскага, і канчаючы сучаснымі беларускімі пісьменнікамі, украінская літаратура не перастала цікавіць беларусаў. Па пратоптанай дарожцы, «следам за дзедам», як кажа народная прыказка, ідуць і новыя беларускія пісьменнікі. Украінская літаратура, найбольш дэмакратычная з усіх славянскіх літаратур, украінскі тэатр, які трэба лічыць за найбольш багаты і чыста народны ў праўдзівым значэнні гэтага слова, не могуць не цікавіць беларусаў, каторыя яшчэ не скора зраўняюцца з украінцамі.

Усе гэтыя прычыны зрабілі тое, што цяпер няма інтэлігентнага беларуса, для каторага ўкраінская мова была б чужой і незразумелай.

І ў украінцаў пасля літаратурнага раздзелу цікавасць да беларушчыны не прапала.

Першым з украінцаў, каторы зацікавіўся пачаткамі беларускага літаратурнага адраджэння, быў вялікі кабзар Украіны Та-

рас Шаўчэнка; пазнаёміўся Шаўчэнка ў 1839 годзе з беларускім пісьменнікам Янам Баршчэўскім. Каля Баршчэўскага сабіраліся тады і другія беларусы, і вось усе яны пад уплывам Баршчэўскага сталі цікавіцца беларушчынай і пастанавілі друкаваць свае творы. Шаўчэнка пазнаёміўся з усімі гэтымі беларусамі, прасіў іх, каб чыталі яму свае беларускія творы, і асабліва зацікавіўся беларускімі народнымі песнямі. Адзін з маладых беларусаў, Рамуальд Падбярэскі, знаў многа песень, ён прапеў іх Шаўчэнку і, апрача таго, чытаў яму ўсе беларускія творы Баршчэўскага і пераклад Манькоўскага ўкраінскай «Энеіды» Катлярэўскага. Шаўчэнку народныя песні спадабаліся; штучныя літаратурныя творы беларускіх пісьменнікаў ён крыху крытыкаваў, кажучы, што ў іх мала чыста народнага элементу. Аб «Энеідзе» Манькоўскага Шаўчэнка заўважыў, што гэты твор найбольш мае чыста беларускага элементу і што дзеля таго ён найбольш цікавы для яго. Пасля гэтага Шаўчэнка заахвочваў беларусаў, каб не пакідалі сваёй працы для народа, бо гэта іх павіннасць, а праца іх, нягледзячы на цяжкія варункі, не прападзе дарма, і сляды гэтай працы застануцца.

Вось і ўсё, што нам вядома аб Шаўчэнку. Ведамасці гэтыя мы маем з прыватнага ліста Вінцука Рэута да Легатовіча[2].

Што і пазней Шаўчэнка цікавіўся беларускім літаратурным адраджэннем, можна відзець з таго, што паміж падпісчыкамі на літаратурны альманах Рамуальда Падбярэскага «Рочнік літэрацкі» надрукавана ў кнізе і фамілія вялікага ўкраінскага паэта — «Шаўчэнка, Тарас, кабзар».

У гэтым альманаху Падбярэскі маніўся надрукаваць разам з польскімі і беларускія творы, аднак цэнзура пазвалення на штучныя беларускія творы не дала, і прыйшлося памясціць толькі этнаграфічныя матэрыялы, якія друкаваць не баранілі. Падбярэскі тутака ўхітрыўся: паміж народнымі песнямі памясціў і дзве штучныя Яна Баршчэўскага: «Ах, чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?» і «Ах ты, мая гарэліца».

Музыку да гэтых слоў напісаў беларускі кампазітар Антон Абрамовіч[3].

Аб артыстычнай творчасці Шаўчэнкі Падбярэскі памясціў невялікую заметку ў афіцыяльнай правіцельственнай (у польскай мове) газеце «Тыгоднік пецярбургскі».

З твораў Тараса Шаўчэнкі на беларускую мову дагэтуль мала пераложана. Вядома нам толькі, што наш пясняр Янка Купала перакладае вершы кабзара, а Хв. Чарнушэвіч пераклаў на нашу мову «Кацярыну» Шаўчэнкі.

Літаратурная цікавасць адных да адных у беларусаў і ўкраінцаў, на нашу думку, будзе ўсё больш і больш узрастаць. Дзеля гэтага ўжо пакладзен моцны фундамент з абедзвюх старон.

# КРАЯЗНАЎСТВА

## СТАРЫ МЕНСК У БЕЛАРУСКІХ УСПАМІНАХ

### I

*Аляксандраўскі палац. Чырвоны крыж. Граніца горада — рагаткі-заставы са шлагбаумам. Дом Дуніна-Марцінкевіча. Біяграфія Марцінкевіча. Грамадзянства яго часу. Арыстакратызм і дэмакратызм. Тыпы арыгіналаў таго часу. Ажыўленне выдавецкай дзейльнасці. Паўстанне 1863 года і яго скуткі*[1].

На вуглу вуліц Захараўскай ды Белацаркоўнай знаходзіцца невялічкі вельмі стары дом, які ўвесь хаваецца ў садзіку. Гэты стары, усімі забыты дом у сваім часе насіў гучную назву Аляксандраўскага палаца і служыў некаліся месцам прыпынку расійскага імператара Аляксандра І пры праездзе яго праз Менск у часе французскай вайны. Частка гэтага дома з боку вуліцы асталася такою, якою і была ў часе кароткага пражывання ў Менску Аляксандра І, бо пераробкі дома ніхто не асмеліўся рабіць. Ад старых людзей даводзілася нам чуць, што тагачасны гаспадар дома атрымаў ад імператара Аляксандра І прывілегію, падпісаную ўласнаю царскаю рукою, на права называць гэты дом Аляксандраўскім палацам, але пасля прывілегія гэтая неяк затрацілася, а як кажуць другія, сам гаспадар прапіў яе нейкаму сабіраццелю аўтографаў.

На самым рагу вуліцы, каля Аляксандраўскага палаца, знаходзіцца вялікі чырвоны крыж, да якога мясцовыя жыхары адносяцца з вялікай набожнай пашанай. Аб гэтым крыжы ходзіць легенда, каторая кажа, што пакуль гэты крыж стаіць, усе жыхары блізкаляжачых дамоў забяспечаны ад усялякіх эпідэміяў, пажараў і гэтаму падобных няшчасцяў.

Намітусь[2] праз вуліцу ад Аляксандраўскага палаца ў часе так называемых откупаў знаходзілася рагатка-застава са шлагбау-

мам. Дом рагаткі-заставы захаваўся і дагэтуль; калісь быў у гэтым доме шынок пад назвай «Красны».

У часе откупаў, калі вольны ўвоз водкі ў горад сурова быў забаронены і рагаткавыя сторажы, узброеныя страшнымі пікамі — стальнымі вострымі прутамі, старанна калолі вазы праязджаючых і кішэні падарожных, шлагбаум іграў вялікую ролю: за ім, як быццам за чарадзейскім кругам, пачыналася праўдзівая свабода для тых, каторыя ўмелі цаніць таннасць гарэлкі. Сюды ў свята, быццам на кірмаш, пёрлі велізарныя гурткі дробных чыноўнікаў і мяшчан выпіць ды павесяліцца за танныя грошы: розніца цэн на водку ў горадзе і за горадам, значыцца, за шлагбаумам, была аграмадная. Няма дзіва, што дзеля гэтай прычыны за горадам было вельмі многа дробных шыночкаў, паміж каторымі першае месца займаў шынок «Пад караблём» («Под окрэнтэм»), закрыты ўжо ў часе ўстанаўлення дзяржаўнага манаполю на гарэлку. Шынок «Пад караблём» называўся так дзеля таго, што на вывесцы быў намаляваны нейкім дамарослым артыстам карабель на моры і чырвананогія буслы велічыні такой, як і карабель. Шынок гэты добра быў вядомы сучасным беларускім дзеячам і пісьменнікам, каторыя збіраліся часта ў ім, ідучы ў лес на маёўкі і шпацыр.

Прайшоўшы колькі сажняў ад быўшае рагаткі-заставы ўперад, мы апынімся каля дома, які ў сучасны момант належыць да пана Бржазіцкага. У гэтым самым месцы, дзе цяпер ідзе дзеравянны паркан, радам з варотамі дома Бржазіцкага стаяў невялічкі домік беларускага паэта Вінцука Дуніна-Марцінкевіча, прайграны праз яго, як кажуць старыя людзі, у карты нейкаму пану Пацейку, каторы пасля гэты домік разабраў і збудаваў на яго месцы радам два дамы, якія належаць цяпер да Бржазіцкага і Шыманскага.

Скажам цяпер колькі слоў аб самім Марцінкевічу.

Вінцук Дунін-Марцінкевіч быў сынам дробнага землеўласніка Менскай губерні Бабруйскага павета Яна Дуніна-Марцінкевіча. Радзіўся ён у 1807 годзе ў фальварку Панюшкевічах[3]; маладыя гады пражыў у маёнтку бацькі пад пільным даглядам сваёй маткі Марыяны[4], родам Нядзведскай. Затым быў аддадзены ў Віленскую калегію базыльянаў, дзе і выхоўваўся пад старанным даглядам віленскага біскупа, які, будучы сваяком Марцінкевіча, горача займаўся яго выхаваннем. Аб сваім жыцці ў калегіі і на кватэры ў біскупа Марцінкевіч любіў апавядаць у кружку сваёй радні і блізкіх знаёмых. Асабліва захаваўся ў яго памяці звычай перавярнення талерак. Марцінкевіч жыў на кватэры ў біскупа, і калі яго лавілі ў якой правіне, дык мусіў ён

прасядзець цэлы абед за сталом разам з біскупам галодны, перад пераверненай уверх дном талеркай; гэты звычай меў месца нават і тады, калі абедалі і госці.

Пасля сканчэння калегіі Марцінкевіч паступіў у Віленскі[5] універсітэт на медыцынскі факультэт, але пры першым рэзанні трупа абамлеў, а затым, кінуўшы універсітэт, паступіў на месца сакратара да нейкага Бараноўскага, які ў Вільні меў нейкае выдатнае бюро. Незабавам Марцінкевіч пазнаёміўся з дачкой свайго працадаўцы, каторая не дайшла яшчэ поўных 16 гадоў і з пагляду была яшчэ дзіцяткам, Юзэфай, улюбіўся ў яе і, не атрымаўшы ад Бараноўскага згоды на жаніцьбу, уночы 18 снежня 1831 года ўвёз сваю палюбоўніцу і тайна ад бацькі ажаніўся. Ясна, што служыць далей у разгневанага цесця было ўжо немагчыма, і ён паступіў у Менску ў каталіцкую кансісторыю, а затым перайшоў праз колькі часу ў дваранскае (шляхецкае) дэпутацкае сабранне.

У 1858 годзе Марцінкевіч кінуў службу і, аўдавеўшы ў гэтым часе, ажаніўся ў другі раз, узяўшы за жонку ўдаву Гружэўскую. Затым праз нейкі час пераехаў у свой невялічкі маёнтак Люцынку[6], каторую за свае запрацаваныя грошы купіў у 30-х гадах. Там, у Люцынцы, ён і памёр 29–17 снежня 1884 года[7]. Пахаваны Марцінкевіч у маёнтку Жарбкоўскіх Тупальшчына (Менскага павета, Івянецкае воласці).

Пісаць пачаў ён надта рана; шмат твораў не паявілася ў друку і прапала, быць можа, назаўсягды, шмат чаго захавалася ў рукапісах і знаходзіцца яшчэ ў людзей, а толькі малая частка твораў, ды прытым з самае ранняе эпохі яго працы, апублікавана ў друку.

Першай друкаванай кніжкай Марцінкевіча была «Sielanka», аперэта ў двух актах, дзе сяляне гавораць па-беларуску, а паны — па-польску. Кніжка надрукавана ў Вільні 1846 года з паметкай цэнзара Паўла Кукальніка[8]. Старыя людзі апавядалі нам, ды і пацвярджэнне гэтага знаходзілі мы ў рукапісных, недрукаваных успамінах (мемуарах) сучасных людзей, што толькі дзякуючы энергіі разумнага, светлага чалавека, якім быў цэнзар (родам славак) Павел Кукальнік, кніжку ўдалося пусціць у свет. Рэч у тым, што карэктурную адбітку «Сялянкі» дастаў протаіерэй Плацыд Янкоўскі[9], беларус, каторы пісаў па-польску пад прозвішчам John of Dycalp, ад беларускага этнографа Ігната Шыдлоўскага[10] дый меў неасцярожнасць прагаварыцца аб гэтым перад сваім начальствам — архіепіскапам Сямашкам[11]. Сямашка добра вядомы як злы дух і інквізітар беларускага руху;

ён яшчэ ў Віленскім універсітэце праз даносы спыніў нацыянальны беларускі рух пасярод клерыкаў-уніятаў, затым ён увёў забарону беларускае мовы ў цэрквах, ён паліў на двары свайго палаца уніяцкія беларускія абразы, гравюры і кніжкі, якіх цяпер «бібліёграфы не могуць знайсці (лік зніштожаных старабеларускіх кніжак, цяпер нікому невядомых, апрача загалоўка, правышае пяць тысяч экземпляраў!). Няма дзіва, што такі абрусіцель кніжку хацеў спыніць. Дзякуючы энергіі цэнзара Кукальніка і пратэкцыі жонкі генерал-губернатара кніжка была адратавана, але надрукавалі яе толькі ў ліку 600 экземпляраў, каб не пашыраць беларускае нацыянальнае «заразы», якую ўжо распачаў сваёй кніжкай «Piosnki», друкаванай у 1844 годзе, Ян Чачот. <...>

Пасля 1846 года ўжо нічога не можна было надрукаваць пабеларуску. Чорныя мікалаеўскія рэакцыянеры спынялі ўсю працу.

Толькі 1855 год, паражэнне Расіі ў Крымскай вайне, патрэба рэформ у дзяржаве далі можнасць крануць з месца і беларускую нацыянальна-выдавецкую працу. І вось у Менску выдае Марцінкевіч, накладам кніжных гандляроў брацціяў Бейлінаў, у друкарні Ёкеля Дворжаца вершаваную аповесць «Hapon» (1855).

Кніжка выйшла лацінскімі літарамі з малюнкамі работы самога Марцінкевіча, каторыя рабіў менскі літограф Фальк. Затым пайшлі «Вечарніцы» (1856 год ), «Шчароўскія дажынкі» і пераклад «Пана Тадэвуша» (1859 год).

Кніжкі раскуплены былі праз колькі месяцаў. Але нашыя анёлы-апякуны не драмалі: пабачыўшы гэтую небяспечную для іх існавання «крамолу», кніжкі «Пана Тадэвуша» канфіскавалі і беларускі друк забаранілі.

Усе творы Вінцука Дуніна-Марцінкевіча напісаны прыгожай каранастай мінскай гутаркай беларускае мовы, малююць яны надта жыва і абразова жыццё і думкі-паняцці беларусаў, і да гэтай пары некаторыя з твораў жывуць у вуснах народа. Асабліва папулярна паміж сялянамі вершаваная аповесць «Гапон», часці каторай пераходзяць ад старога пакалення да маладога, з вуснаў у вусны.

Апісваючы працу Дуніна-Марцінкевіча, не можна не сказаць і аб тым беларускім кружку адраджэнцаў, сярод каторых ён круціўся або, лепей кажучы, душою каторых ён быў.

Выхаваныя пад уплывам Віленскага універсітэта, менскія інтэлігенты 40–50-х гадоў жылі, хоць і ў цяжкіх варунках царс-

кай мікалаеўскай рэакцыі, досыць шырокім, хаця, праўда, больш хатнім, інтэлектуальным жыццём, ужываючы свой свабодны ад будзённых спраў час на развіццё свайго розуму, знання і душэўных здольнасцей. Усе іх сабранні ў большасці выпадкаў насілі характар навучны або літаратурны, і дзеля таго няма дзіва, што людзі з літаратурным, музыкальным ці артыстычным талентам сустракаліся з цёплым, сардэчным, пашанотным прыняццем на гэтых сабраннях. Быць запрошаным на гэтае сабранне лічылася вялікім гонарам. На сабраннях устраівалі літаратурныя вечары, канцэрты, дэкламацыі і тэатральныя любіцельскія выставы.

Вельмі цікава адно здарэнне: гэта пастаноўка любіцелямі на сцэне Менскага гарадскога тэатра беларускай оперы Марцінкевіча «Сялянка», прычым сам аўтар іграў на сцэне ролю Навума. Музыка да «Сялянкі» была напісана знамянітым кампазітарам Станіславам Манюшкам. Гэтае здарэнне мае велізарнае значэнне як першая пастаноўка на сцэне беларускай оперы і як першая пастаўленая опера Станіслава Манюшкі. «Сялянка» была выстаўлена ў 1855 годзе[12] і ставілі яе тры разы. Рэцэнзія аб гэтай оперы была друкавана праз пана Юльяна Гарайна ў польскай часопісі «Gazeta Warszawska» ў Варшаве. Другой пастаўленай на менскай сцэне ў 1856 годзе operaй Манюшкі да слоў Марцінкевіча была пераробка «Гапона» пад загалоўкам «Pobyr rekrucki». На сцэне, апрача самога Марцінкевіча, выступалі Ляўданскі[13], Лопат, Кабылінскі і пан Прушынскі[14] (бацька Promyka, рэдактара польскай часопісі «Gazeta Świąteczna» і знамянітага аўтара польскага лемантара, які прызнаны найлепшым з усіх прадстаўленых на міжнародным конкурсе). З афішаў гэтых операў захавалася адна толькі афішка «Сялянкі». Меў яе ў сваёй калекцыі беларускі паэт Альберт Паўловіч.

Тэатр, у каторым былі пастаўлены сцэнічныя творы Марцінкевіча, ужо не існуе; Дом поляка, у каторым быў тэатр, знаходзіцца на Кафедральным пляцы, дзе цяпер ваенны камендант. Захаваная фатаграфія (1862 года) гэтага тэатра ў Доме поляка знаходзіцца ў калекцыі пішучага.

У доме Марцінкевіча сабіраліся ўсе інтэлігентныя сілы Менска. Бывалі ў яго бібліёграф і паэт Ігнат Легатовіч, які пісаў і папольску і па-беларуску, артыста-маляр Ян Дамель[16], каторы беспадобна рабіў карыкатуры і маляваў тыпы беларускіх сялян, арыгінальны і вельмі фацэтны гумарыст пан Юрый Кабылінскі[17], аўтар беларускага зборніка «Тысяча і адна фацэцыя», Міхал Галубовіч, епіскап, шчыры і добры беларус, знаменіты кампазітар

Станіслаў Манюшка[18], польскі крытык і пісацель Аляксандр Тышынскі[19] (напісаў цікавыя дагэтуль не надрукаваныя ўспаміны), граф Канстанцін Тышкевіч[20] з Лагойска, пан Аляксандр Валіцкі[21], які пісаў па-беларуску пад прозвішчам Місцюк, і шмат-шмат іншых.

У 1856 годзе на менскіх кантрактах[22] з'ехалася многа людзей, быў вялікі канцэрт Концкага[23] і Манюшкі. У адзін вечар усе сабраліся ў Марцінкевіча. Былі госці прыезджыя, як Концкі, Сыракомля[24] і малады беларускі паэт Вінцэсь Каратынскі. Каратынскі, які з Сыракомлем прыехаў з Вільні, бачачы столькі сэрца і шчырасці са стараны Марцінкевіча і ацаніўшы яго вялікую прыхільнасць да сябе як да маладога пісьменніка, напісаў шчыра, ад сэрца гарачы беларускі вершык на чэсць гаспадара. Услед за тым і Марцінкевіч напісаў у чэсць Концкага, Сыракомлі і Манюшкі верш, які тутака і прыводзім[25]. <...>

Сходы ў доме Марцінкевіча лічыліся дэмакратычнымі. Туды не любілі хадзіць людзі, якія лічылі сябе за арыстакратаў, і такія, што не любілі простых сялян — народа. Маладыя з арыстакратаў, так называемая залатая маладзёж, уцякалі, калі чулі хоць адно беларускае слаўцо, і ішлі піць ды гуляць у карты. Шмат каму са шляхты-памешчыкаў не ў смак былі беларускія творы і вершы Марцінкевіча, і паміж такімі ён звычайна не меў ні прызнання, ні папулярнасці.

Што Марцінкевіч мусіў лічыцца з поглядамі паноў-шляхты на прыгон, відаць хоць бы з яго вершыка «Вясна голад перапала»[26]. Вершык гэты ён даў з некаторымі пропускамі такому пану, каторага рэзала праўда ў вочы. Гэтага верша вядомы дзве рэдакцыі ўласнай рукі Марцінкевіча, і розніца іх у тым, што адзін напісаны спакойна, бо з пропускамі, а другі вельмі востра. Вершык гэты з рукапісу Марцінкевіча рэдакцыі з пропускамі надрукаваў праф. М. Доўнар-Запольскі[27] ў кніжцы «В. Дунин-Марцинкевич и его поэма «Тарас на Парнасе», Витебск, 1896, другі, поўны, друкаваў Е. Раманаў[28].

Вядома агульна, што 1855 год прынёс «вясну» свабоды. Хоць і кароценькай была гэтая вясна, аднак яе выкарысталі так, як толькі можна было. На Марцінкевіча нападалі і не любілі яго арыстакраты не за прыхільнасць да сялян, а за беларускі друк. Асабліва не падабаліся беларускія кніжкі арганізатарам польскіх школак і ахронак[29] па вёсках: кніжка ў беларускай мове магла перашкаджаць іх патрыятычнай працы.

Вось дзеля таго паміж абозам[30] Марцінкевіча і абозам польскіх арыстакратаў-шляхты ішла барацьба і ўзаемныя напасці і здзекі. Сатырычныя вершы, жарты-анекдоты, карыкатуры артыста-

маляра Яна Дамеля, спеўкі — усё гэта было звычайным аружжам барацьбы.

Галоўным праціўнікам арыстакратаў, зненавіджаны праз іх, быў быўшы сакратар Шляхецкага (Дваранскага) сабрання пан Юрый Кабылінскі, «штуард»[31] быўшай масонскам ложы «Паўночная паходня» ў Менску, чалавек, які вызначаўся глыбокай эрудыцыяй, дасціпнасцю і шпаркасцю вострых адказаў і каторы быў пры ўсім гэтым надта жывога тэмпераменту, любіў заўсёды выкінуць смехатворную штуку, з якой пасля смяяўся цэлы Менск.

Кабылінскі любіў часам адзецца ў вопратку беднага шляхціца або селяніна, уваходзіў у натоўп простага народа ды рабіў там свой прагляд. І вось гэты маскарад не раз служыў прычынай цікавых і смешных непаразуменняў.

Адзін раз Кабылінскі ў сваёй скромнай вопратцы ўвайшоў у кафедральны касцёл і сеў на сваё звычайнае месца — першай лаўцы. Радам з ім памясціўся хлопец-франт з абывацельскіх маменькіных сынкоў. Не ведае Кабылінскага ды прымае яго за дваровага простага чалавека; ён вельмі быў нездаволены гэткім суседам і пастанавіў прагнаць гэткага мужыка.

— Ты хто такі? — пытаецца грозна Кабылінскага абураны шляхцюк.

— Чалавек, — пакорна адказвае Кабылінскі.

— А чый? — гарачыцца франт.

— Божы, — адказвае Кабылінскі.

Франт, збіты з панталыку, даецца дзіву, але ўсё-ткі, не хочучы ўступіць, бармоча:

— Гм, а ўсё-ткі ці ж можна лезці, дзе сядзяць паны, — могуць і прагнаць.

— Сядзі, дурань, каля мяне, ніхто цябе не прагоніць, — адрэзвае наканец, страціўшы цярплівасць, Кабылінскі і гэтым зусім збівае з толку кірмашовага паніча.

У другі раз на першай лаўцы ў тым жа касцёле памясціліся тры франты; двое памешчыкаў са старых радоў: Сангушка і Заранак, а трэці іх прыяцель, падлізываючы, няпэўнага роду, — адным словам, такі, каторых называлі тады паўпанкамі. Франты ні за што не хацелі пусціць на вольнае месца старшага і паважнейшага за іх Кабылінскага, і мусіў ён маліцца, стоячы каля лаўкі. Кабылінскі так і зрабіў: стаўшы на калені каля панічыкаў, пачаў горача маліцца паўголасам, ад каторага, аднак, гудзела ў касцёле, вось якою малітваю, каторую ён сам тут жа і злажыў:

Божэ Якубув, Божэ Ізаакув,
Зродзілэсь тшэх кпув,
Вшысткіх тшэх едынакув:
Едэн Сангушко, другі Зоранэк,
А тшэці слепы пулпанэк[32].

(У паўпанка адно вока было акалечанае.)

На франтаў пачалі звяртаць увагу, з'явіліся ўсмешкі, і яны са стыдам скарэй выйшлі з касцёла.

Аб пану Юрыі Кабылінскім успамінае ў сваім вершы «Зміцер і певень» Дунін-Марцінкевіч. У вершы апавядаецца, як трох паноў пайшлі на базар і прыцэньваліся да пеўня, пытаючыся ў селяніна, колькі ён хоча за гэтага зайца, пакуль сам селянін не паверыў, што ў яго заяц, а не певень, і не пачаў прадаваць людзям яго за зайца.

Шмат чаго цікавага ды прытым з праўдзівага жыцця тагачасных людзей у Менску знайшлося б у зборніку жартаў Кабылінскага «Тысяча фацэцыяў і адна», калі гэты рукапісны зборнік не прапаў. Заметка аб ім і аб некаторых людзях таго часу ёсць у рукапісных успамінах самога Кабылінскага, сшытак каторых знаходзіцца ў калекцыі пішучага гэтыя радкі.

Год 1859 спыніў беларускую выдавецкую працу. Пасля канфіскаванай кніжкі, перакладу «Пана Тадэвуша» Міцкевіча, Марцінкевіч ужо нічога больш не мог выдаць. Аднак пісаць не перастаў. Скасаванне прыгону сялян у 1861 годзе ажывіла Марцінкевіча і беларускіх патрыятычных дзеячоў. Але наступіўшае польскае паўстанне 1863 года кладзе цяжкае ярмо забарон беларускага друку. Сам Марцінкевіч у часе паўстання, хоць нічым яго не падтрымліваў і не згаджаўся з ім[33], быў, аднак, арыштаваны і прасядзеў колькі месяцаў у вастрозе за тое, што яму як беларускаму пісьменніку прыпісвалі ўсе беларускія праклямацыі, якія тады хадзілі з рук у рукі. Праклямацыі гэтыя і газетка «Мужыцкая праўда» пісаліся і друкаваліся нават не ў Менску.

## II

*Скуткі паўстання 1863–[18]64 гадоў. Аляксандр Ельскі. Гурток адраджэнцаў 1886 года. Газета «Минский листок». Календары Доўнар-Запольскага і А. Слупскага. Генрык Татур. Іван Неслухоўскі. Карусь Каганец.*

Паўстанне 1863–[18]64 гадоў вельмі пашкодзіла беларусам. Даказана было афіцыяльна, што шмат хто з беларусаў, нават і з простых сялян, быў у паўстанні альбо так ці іначай памагаў ці

спагадаў яму. <...>

Пачаліся арышты і ўсялякія забароны, як, напрыклад: гаварыць у касцёлах казанні па-беларуску, што з часам і вызвала, пасля 1865 года, забарону пісаць і друкаваць.

Гэткая забарона, адзіная ў свеце, нягледзячы на яе дзікасць, была праведзена вельмі строга. Недарма Адам Кіркор пісаў: «Беларускаму народу больш не зазвініць яго родная мова, і ён сам, як народ, прапаў».

Аднака Кіркор памыліўся: народ не прапаў! Збяднеў ён, заняпаў, пачаў траціць усё больш і больш сваіх сыноў, але прапасці ўсё-ткі не мог. <...>

Беларускія дзеячы, нягледзячы на забарону друку, працаваць не пераставалі.

Марцінкевіч пісаў далей свае творы, хаця і не меў надзеі пабачыць іх у друку. Апрача Марцінкевіча, з'явіліся другія працаўнікі, якія павялі яго працу далей.

Да такіх належаў у поўнай меры Аляксандр Ельскі. Багаты памешчык Ельскі з'яўляецца выдатным, шчыра і праўдзіва дэмакратычным дзеячам у Меншчыне пасля 1864 года. Пачынаючы ад 1861 года, працуе Аляксандр Ельскі і пяром. Праз 55 гадоў літаратурнай і публіцыстычнай працы Ельскі пакінуў выдатны след у гісторыі і культуры краю. Не было газеты, журнала, дзе ён ні быў бы супрацоўнікам. Яго стацці ў энцыклапедыях, паадзінокія кніжкі аб гісторыі, прамысловасці, культуры і прасвеце краю маюць велізарнае значэнне і для нас, беларусаў, хаця і пісаны ў польскай мове. Сам Аляксандр Ельскі ўважаў сябе за паляка, аднак беларусаў любіў і шанаваў. Працы Ельскага ў беларускай бібліяграфіі і колькі кніжачак у беларускай мове, напісаных ім самім, для нас проста бясцэнны. Будучы гісторык краю, калі будзе студыяваць[34] заняпад беларускага народа ў часе чорнай цемры рэакцыі, ад 1861 да 1905 года, не можа абмінуць ніводнага друкаванага радка Ельскага. Гэта быў у поўным значэнні абываталь-грамадзянін, светлая памяць каторага асабліва мусіць быць шанавана праз беларусаў. Памёр Ельскі ў 1916 годзе ў сваім маёнтку Замосць Ігуменскага павета.

З прац Ельскага знамяніта і цэнна для праўдзівых дэмакратаў яго польская кніжка «Zarys obyczajów szlachty w stosunku do ekonomiki i doli ludu na Litwie i Rusi». Гэта праўдзівая гістарычная евангелія дэмакратызму. Як вядома, Ельскі быў у вялікай прыязні з беларускім паэтам Вінцуком Дуніным-Марцінкевічам. Маем пад рукою цікавы беларускі верш Ельскага, у каторым ён з пашанаю звяртаецца да Марцінкевіча і заахвочвае яго пісаць

далей па-беларуску. Одпіс[35] гэтага верша мы атрымалі ад вядомага польскага этнографа і вучонага Зыгмунта Глогера[36], зяця Ельскага. Верш гэты прыводзім тутака цалікам[37]. <...>

З верша відаць, што Ельскі прапанаваў Марцінкевічу звярнуцца да нямецкай выдавецкай фірмы Бракгаўза ў Лейпцыгу ў справе друку беларускіх твораў. Вядома, што Бракгаўз выдаваў усе польскія творы, якіх царская цэнзура не пускала. Шкада, што Марцінкевіч не здабыўся на смеласць і энергію, бо больш чым пэўна, што Бракгаўз надрукаваў бы яго творы, а мы мелі б больш твораў Марцінкевіча, з якіх шмат ужо прапала.

Аляксандр Ельскі ў першых пачатках літаратурнай сваёй працы, гаспадаруючы ў маёнтку, стараўся аб палепшанні сялянскай долі і востра нападаў на сваіх суседзяў, калі тыя выціскалі пот са сваіх парабкоў. Старыя людзі апавядаюць, што тады хадзіла з рук у рукі шмат сатырычных вершаў на памешчыкаў, гнабіцеляў[38] сялян, — пяра самога Ельскага. Асабліва дакучаў ён «арыстакратам». Адны з гэтакіх арыстакратаў, Грабоўскія, абураныя вершамі Ельскага, у якіх зачапіў ён іх радню, зрабілі сход і напісалі гэтакае «пасланне»:

Пане поэта
Ігуменскага павета!
А ці бачыш гэта!

(Тутака быў нарысаваны велізарны сплецены са скуры бізун.)

Глядзі — адаб'ём катлета!

Жыццё Аляксандра Ельскага было цесна звязана з Менскам. Менск ён вельмі любіў, і найлепшыя гістарычныя опісы Мінска мы маем у розных часопісях і кніжках, дзе ён іх памяшчаў.

Беларускія кніжкі Ельскага добра вядомы ўсім беларусам, і мы аб іх не будзем успамінаць. Звернем толькі ўвагу на страшэнную патрэбу сабрання ўсіх бібліяграфічных даных аб працах аўтара. Павінна быць выдадзена велізарная кніга з поўнай бібліяграфіяй яго прац. Пішам «велізарная», бо, папраўдзе, спіс прац Ельскага, адных толькі друкаваных, зложыць вялікі том, не кажучы аб яго рукапісах.

Спісам і выдавецтвам[39] прац Аляксандра Ельскага павінна б заняцца менскае польскае Таварыства прыяцеляў навук, калі яно мае здольную бібліяграфічную сілу і... калі яно здолее пераканаць сына Ельскага аб вялікасці і цэннасці для гісторыі краю прац яго бацькі. Тутака беларусы, хаця ім нябожчык Аляксандр Ельскі не раз абяцаў і пісаў, што беларускія рэчы аддасць у бе-

ларускі музей, нічога ад сына яго не дастануць, бо сын пайшоў не ў бацьку <...> лепей не чапаць гэтакага яснавяльможнага. Прыпамінае гэта нам падобныя адносіны сына Пранцішка Багушэвіча (Мацея Бурачка) да беларусаў, якім ён нізашто не хацеў даць ні біяграфіі свайго бацькі, ні фатаграфіі Бурачка ў сялянскай світцы.

Беларуская бібліяграфія Аляксандра Ельскага, надрукаваная ў польскай газеце «Chwila» (Варшава 1886 года), звярнула ўвагу менскіх беларусаў. <...>

Знайшліся ў 1886 годзе ў Менску людзі, каторыя пачалі гуртавацца ў справе святога адраджэння падняволенага беларускага народа. Людзі гэтыя, як Мітрафан Доўнар-Запольскі, Яўгені Ляцкі[40], А. Слупскі, Завітневіч[41], Ян Неслухоўскі[42] і шмат іншых, пачалі думаць аб працы для роднага народа і краю. Цемра рэакцыі і паліцыйна-вастрожныя варункі паступовай, а значыцца, крамольнай думкі іх не спалохалі. А час гэты папраўдзе быў страшны... Народ цёмны, лепшыя людзі, якія хацелі б яго будзіць, пад даглядам ставокага цэрбера — паліцыі, — адным словам, абставіны, немагчымыя для ідэёвай, вольнай творчай працы.

Пры гэтым трэба адзначыць, што Менск <...> не меў ніякіх культурных устаноў, дзе можна было б знайсці харч для душы і сэрца. Ніякіх навуковых таварystваў, ніякіх бібліятэк ці музеяў тады ў Менску не было і, апрача клубаў, дзе можна было рэзацца ў карты і напівацца да ўтраты прытомнасці, іншых культурных устаноў не існавала. <...>

І вось гурток адраджэнцаў у Менску ў 1886 годзе прыступае да выдавецкай працы. На пачатак у расійскай газеце «Минский листок» (у № 18, 19, 31, 39, 40, 42, 49 і 61) паяўляюцца вельмі важныя стацці, якія датычаць беларускае этнаграфіі і народнае прасветы. Праца прафесара Е. Карскага[43] «Обзор звуков и форм белорусской речи» (Москва, 1886) яшчэ больш узмацоўвае намаганні гуртка, каторы ў канцы 1887 года наладжвае каляндар да друку. Гэты першы каляндар («Северо-Западный календарь на 1888 год». Издание редакции газеты «Минский листок»), нягледзячы на тое, што дзеля цэнзурных прычын мусіў быць выдадзеным па-расійску, усё-ткі характар захаваў беларускі. Вокладка яго прыгожая, з сялянскімі прыладамі і тыпам селяніна ў лапцях. Пры кожным месяцы ёсць апісанне народных беларускіх святочных звычаяў з прыказкамі і кароценькімі пачаткамі песняў абрадкавых па-беларуску. У літаратурнай часці календара знаходзяцца вось якія рэчы: «Родной Белоруссии»,

верш па-расійску нейкага М. З-ча; беларуская легенда «Божье наказанне» па-расійску; апавяданне «Потап и Терёха» з беларускімі зваротамі Д. З. Лаппо і ў канцы гістарычны нарыс «Изяславль и Туров» А. Слупскага. Як на першы каляндар на Беларусі пры цяжкіх цэнзурных варунках змест вельмі добры і цікавы. Праўда, надрукаваць у календары што-колечы чыста па-беларуску выдаўцам не ўдалося, але вядома, што кожны пачатак цяжкі.

Што выдаўцы календара прабавалі хоць бы кантрабандай правясці ў друку і чыста беларускае слаўцо, відаць хоць бы з таго, што каляндар на 1889 год друкуецца ўжо дзеля палягчэння цэнзуры ў Маскве («Календарь Северо-Западного края на 1889 год», издаваемый под редакцией М. Запольского. Москва, 1889). Гэта быў найлепшы і найбагацейшы, што да месту, каляндар у гэтым часе. Гэткія стацці: «Владимир Святой и его время»; «Белорусское наречие» М. К., «Гапон», повесть в стихах на белорусском наречии В. Дунина-Марцинкевича (из истории белорусской письменности)» М. Запольского; «Географический и статистический обзор Речицкого уезда Минской губернии» Н. Филончикова; «Краткий географический очерк древней Белоруссии (в IX–XII вв.)» М. Запольского; «Брагинская волость (исторический очерк)»; «Институт церковного суда в Смоленском княжестве в XII веке» М. Запольского — усё гэта мае вялікае для нас значэнне і цяпер. Да стацці Запольскага «Гапон» меліся быць далучаны біяграфія Марцінкевіча і яго партрэт — рэзаная на дзераве гравюра. Маскоўская цэнзура, аднак, пранюхала, што гэта пахне ўжо «крамолаю», і ні біяграфіі паэта, ні яго партрэта не пусціла. Партрэт быў, аднака, адбіты ў невялікім ліку экземпляраў і, як рэдкасць, знаходзіцца цяпер у руках некаторых нашых сабірацелей. Далей у гэтым самым календары змешчаны два расійскія вершы: «Белоруссия», «Вдовий сын (из белорусских мотивов)» і адзін расійскі расказ Н. Шахава з беларускімі песнямі і цэлымі беларускімі апавяданнямі. У канцы календара ёсць беларускія народныя песні, два штучныя беларускія вершы: «Ноччу ў сяле» Н. Ф. і «Могілкі» Д. К-ка. Канчае каляндар стацця «Пасха в Белоруссии».

Няма што і казаць, што гэткі багаты змест календара можна было надрукаваць толькі з маскоўскімі цэнзарамі, бо менскія ніколі б нічога падобнага не прапусцілі. Энергія і любоў да сваёй бацькаўшчыны прафесара М. Доўнар-Запольскага зрабілі ў тактыцы многа: бо першы крок да друку па-беларуску быў пастаў-

лены ўдала.

Аднак чорныя цэрберы рэакцыі не драмалі. У такім самым календары на 1890 год («Календарь Северо-Западного края на 1890 год», издаваемый под редакцией М. Запольского. Москва, 1890) ужо беларусам не пашанцавала: нічога з беларускай літаратуры цэнзура не пусціла. Аб гэтым сведчыць цікавая заметка ад рэдакцыі: «В объявлениях наших, помещенных в июле месяце настоящего 1889 года в местных газетах, указывалось на несколько статей, не помещенных, однако, в настоящем выпуске; редакция не сочла возможным издать их теперь, не желая слишком опоздать выпуском в свете издания, а также и по некоторым другим причинам».

Такім чынам, добра распачатая праца ізноў была спынена. Каляндар гэты меў, аднака, стацці хоць і па-расійску, але важныя і цэнныя для навукі: 1) В. Торский. Литовский митрополит Иосиф Семашко; 2) В. Завитневич. О курганах Минской губернии; 3) М. Запольский. Очерки по истории Белоруссии; 4) Э. Вольтер[44]. Статистика племенного состава народонаселения Северо-Западного края; 5) Библиография. Книги, относящиеся к Северо-Западному краю (выш[едшие] с августа [1888] по июль 1889 г.).

Беларускі гурток у Мінску ўжо на 1891 год календара выдаць не мог. Дзякуючы даносам, якія пасыпаліся са стараны духавенства і чыноўнічкаў, ні маскоўская, ні мінская цэнзуры не адважыліся пусціць новага календара. Аднак найбольш энергічны А. Слупскі спрабаваў яшчэ пецярбургскай цэнзуры... Яму пашанцавала, бо ў Пецярбургу цэнзура дазвол дала і з’явіўся новы каляндар («Северо-Западный календарь на 1892 год», издаваемый под редакцией А. И. Слупского в Минске. Минск, Губернская типография, 1891), каторы можна назваць ужо чыста беларускім. Каляндар зложаны знамяніта. У літаратурнай часці памешчаны вершык Янкі Лучыны (Івана Неслухоўскага), каторы пазваляем сабе, дзеля характарыстыкі выдавецтва, падаць тутака ў цэласці[45]. <...>

Далей ідзе народны каляндар — гэта тое самае апісанне народных беларускіх звычаяў, якое было друкавана ў першым календары на 1888 год. Затым ідзе беларускі вершык «Роднай старонцы» Н-скага (Янкі Лучыны), расійскае апавяданне А. Слупскага «Страшное заклинание (Бытовой очерк)», расійскі верш М. Каханскага «Легенда», беларускі пераклад верша Сыракомлі «Горсць пшаніцы» Янкі Лучыны, невядомага аўтара парасійску «История города Витебска» і канчаецца літаратурны

аддзел тлумачэннямі вершаў Сыракомлі, каторыя пераклаў на расійскую мову (!) Янка Лучына (Ян Неслухоўскі), як гэта адмечана ў спісе зместу календара.

Каляндар выдадзены вельмі прыгожа: вокладка літаграфаваная з тыпам беларускага селяніна, які, злажыўшы рукі і апёршыся на кіёчак, курыць люльку і як бы іранічна пазірае на ворагаў яго мовы. Цэнзурная паметка: «Дозволено цензурою. С.-Петербург, 8 ноября 1891 года» — дазваляе думаць, што каляндар даўно быў ужо гатоў.

Такі самы каляндар, з такою ж вокладкаю, на каторым падпісаны артыста: «Рыс. А. Харламповіч», быў выдадзены А. Слупскім і на 1893 год. І гэты каляндар мусіў прайсці пецярбургскую цэнзуру. Паметка цэнзуры яшчэ пазнейшая, чым у папярэднім календары: «Дозволено цензурою. С.-Петербург, 6 декабря 1892 года», што прымушае дапусціць нейкія труднасці, робленыя рэдакцыі календара са стараны цэнзараў. Аднака і ў гэтым календары змест чыста беларускі і багаты.

У літаратурным аддзеле памешчаны: расійскі верш «Родной Белоруссии», той самы, што і ў календары на 1888 год; расійскае апавяданне Яўгенія Ляцкага «Роза и соловей. Литовская легенда»; беларускі верш Янкі Лучыны «Стары ляснік»; па-расійску «Легенда о Могилеве» А. С. (здаецца, самога Слупскага); нейкага С. В. «Божье наказание (Белорусская легенда)»; беларускі пераклад з Кандратовіча: «Бусел» Янкі Лучыны; па-расійску А. Слупскага «История Минска» і ў канцы два беларускія вершыкі Янкі Лучыны: «Надта салодкія думкі» і «Ямшчык».

Календары разбудзілі беларускі нацыянальны дух. Нягледзячы на тое, што пасля 1893 года ўжо такіх календароў больш выдаваць не дазвалялі, разгон у кірунку прац, што да пазнання краю і народа, спынены быць не мог.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Генадзь КІСЯЛЁЎ*

## РАСКАЖАМ ПРА РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

Своеасаблівым эпіграфам для нашага нарыса, як і зыходным пунктам даследавання-расследавання, могуць паслужыць словы з вядомай працы Максіма Багдановіча «Белорусское возрождение» (1914): «Наконец, в сфере публицистики и критики, а иной раз и научной работы много сделали местный экономист А. Власов, И. Луцкевич, критик и библиограф Р. Земкевич, А. Бульба, С. Полуян, И. Маньковский, Л. Гмырак, Максим Белорус, иначе Максим Горецкий («Рунь», 1914) и мн. др. Характеристика каждого из них в отдельности затруднительна, но не упомянуть о них нельзя. Ведь именно благодаря их стойкости и самоотвержению белорусское движение, нашедшее ныне твердую опору в широких кадрах народной интеллигенции, выдержало всю тяжесть первых годов своего существования, приобрело свой теперешний идейный облик и некрупными, но глубокими, нестираемыми буквами врезало свое имя на скрижалях мирового прогресса». Імя Рамуальда Зямкевіча пастаўлена тут, як бачым, у вельмі высокі нацыянальна-культурны кантэкст, непадзельна знітавана з беларускім Адраджэннем пачатку нашага стагоддзя.

Як гэта ні дзіўна, біяграфія Зямкевіча, а зрэшты, і многіх іншых нашаніўцаў, высветлена яшчэ недастаткова. Першую даведку аб ім, якая захоўвае сваю інфармацыйную каштоўнасць і дагэтуль, даў М. Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» (1920):

«*Зямкевіч Р.* — вядомы бібліяфіл, публіцыст, перакладчык В. Стафаніка, гісторык беларускае літаратуры і збіральнік памятак беларускага слова і мастацтва (маець вялікае багацце). Радзіўся 7 лютага (новага стылю) 1881 года ў Варшаве, у сям'і загадчыка друкарні. Бацькі яго родам са Случчыны. Зямкевіч па прафесіі інжынер-механік».

Гэтае «інжынер-механік» трывала прырасло да прозвішча Зямкевіча, хоць адпаведнай закончанай адукацыі ён, здаецца, не меў. Па звестках, якія раскрыем пазней, ён вучыўся пэўны час прыхапкам

у Варшаўскім і Кіеўскім політэхнічных інстытутах, але на дыплом аб заканчэнні навукі, відаць, так і не ўзбіўся.

Па бацьку мы звыкла называем яго Аляксандравічам (ён і сам сябе часам у пісьмах так называў), але ў капітальным «Слоўніку працаўнікоў польскай кніжкі» (1972) знаходзім даведку пра яго бацьку, з якой вынікае, што таго звалі Міхалам і быў ён не загадчыкам, а ўладальнікам друкарні: Зямкевіч Міхал (каля 1829–1888), варшаўскі друкар. У 1875 годзе разам з кампаньёнам набыў вядомую друкарню памёрлага Яна Яворскага на вуліцы Кракаўскае Прадмесце, з 1884 года стаў яе поўным аднаасобным уладальнікам. Друкаваў медыцынскія кнігі і часопісы, выданні па сельскай гаспадарцы, праву, падручнікі замежных моваў, навуковыя працы па-руску, мастацкую, мемуарную, публіцыстычную літаратуру. У яго друкарні, у прыватнасці, тыражавалася папулярная «Газэта свёнтэчна» вядомага педагога К. Прушынскага (родам з нашага Мінска). Пасля смерці Міхала Зямкевіча друкарню вяла (прынамсі да 1893 года — удакладняе слоўнік) жонка Марыя. Сын Рамуальд — паведамляецца ў канцы даведкі — працаваў у антыкварыяце Гераніма Вільдара. (Пра апошняга ў слоўніку ёсць свая даведка, у ліку супрацоўнікаў зноў называецца наш Р. Зямкевіч.)

Цяжка падазраваць складальнікаў шаноўнага выдання ў памылцы або недакладнасці. Відаць, бацька героя нашага нарыса, як прынята ў католікаў, меў два імёны — Міхал і Аляксандр.

Такім чынам, маленства Рамуальда Зямкевіча прайшло ў спецыфічнай атмасферы культу кнігі, можна сказаць, прапахла друкарскай фарбай. І гэта часткова (таму што адкуль у чалавека той ці іншы дар — заўсёды загадка) тлумачыць, чаму ён стаў страсным калекцыянерам кніг, рукапісаў, іншых памятак культуры.

Ад бацькоў-беларусаў, якіх лёс закінуў у Варшаву, трэба выводзіць і яго раннюю цікавасць да беларускага слова. Да Случчыны, радзімы бацькоў, ён меў, відаць, асаблівы сантымент. Нездарма адным з псеўданімаў ён выбера пасля імя сярэднявечнага слуцкага князя Юрыя Алелькавіча. Вельмі рана варшавянін Зямкевіч аказаўся ўцягнутым у беларускі нацыянальна-культурны рух. Моцны ўплыў у гэтых адносінах на яго зрабілі першыя беларускія сацыялістычныя выданні («Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць» і інш.), якія выйшлі ў Лондане ў 1903 годзе. І не столькі можа зместам (усё-такі ён быў больш культурнікам, чым палітычным дзеячам), колькі самой мовай. Пасля ў лісце да А. Шлюбскага Зямкевіч успамінаў: «Гэтыя выданні мне памятны асабліва тым, што яны захапілі мяне і скіравалі да беларускае роднае працы» (Полымя. 1927. № 3. С. 203–204). Ды і ў Варшаве, дзе ён пераважна жыў, знайшліся людзі, якія падтрымалі

яго на гэтым шляху. Ён супрацоўнічаў з выдатным нашым філолагам (тады прафесарам і рэктарам Варшаўскага універсітэта) Я. Карскім (пастаянна памагаў яму сваімі матэрыяламі і звесткамі з гісторыі беларускай літаратуры), масцітым фалькларыстам М. Федароўскім (перапісваў для яго беларускія фальклорныя матэрыялы, чытаў карэктуры; «вучнёўства» ў Федароўскага Зямкевіч цаніў асабліва), зблізіўся з паэтам Г. Леўчыкам, які з захапленнем і ў той жа час з пэўнай засцярогай пісаў у 1911 годзе ў адным з пісьмаў пра Зямкевіча: «Калі ён не махлюе, ды духам не ўпадзе, і будзеісці крэпка, то смела можна сказаць, што вялікую карысць ад яго мы можам мець і аграмадную ўслугу ён калісьці Беларусі прынясе!» (*Леўчык Г.* Доля і хлеб. Мн., 1980. С. 112). Пазней Зямкевіч памагаў варшаўскаму славісту Ю. Галомбаку ў працы над манаграфіяй пра В. Дуніна-Марцінкевіча.

Беларускія інтарэсы прымушалі ўсё часцей выязджаць з Варшавы ў Вільню — у галоўны тагачасны асяродак беларускага культурнага руху.

Наогул шмат ездзіў. У 1908 годзе рабіў фальклорна-этнаграфічныя запісы на Барысаўшчыне, дзе падружыўся з пісьменнікам-нашаніўцам Я. Шпэтам (пра гэта можна прачытаць у Г. Каханоўскага). Па звестках С. Александровіча, у 1909 годзе выпісваў «Нашу ніву» на маёнтак Казімірава каля Зембіна. У 1910 годзе віншаваў «Нашу ніву» з юбілеем з Кіева, дзе ўжо не ў самым маладым узросце грыз інстытуцкую навуку. У канцы гэтага года даў-такі адрас для перапіскі: «Пилява Седлецк, губ. имение Собине» (Шляхам гадоў. Мн., 1990. Вып. 2. С. 19). Вядомыя яго паездкі ў Львоў і Раперсвіль (Швейцарыя), дзе былі багатыя архівы з матэрыяламі пра вызваленчы рух у Польшчы і на Беларусі. У 1913 годзе прасіў пісаць яму на адрас: Рэчыца Мінскай губерні, маёнтак Борхаў. Каля гэтага часу зрабіў даклад «Беларуская бібліяграфія» на пасяджэнні Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў ажно ў Пецярбургу. У 1913–1914 гадах у пошуках гісторыка-літаратурных матэрыялаў аб’ехаў многія мясціны Магілёўшчыны. Доўгі час яго сацыяльны статус параўнальна невысокі — ён немаладога ўзросту студэнт, хатні настаўнік у багатых сем’ях, падрабляе ў Федароўскага або ў антыкварыяце Вільдара. Усё гэта часова і хістка. Ва ўжо цытаваным пісьме Г. Леўчыка чытаем: «Шкада, што нямаш яму як там у Вільні альбо ў Варшаве пакуль што аперціся, каб матэрыяльна яму было лягчэй, а то, бедны, зусім ужо вытрасся!.. Я яму крыху памог, але далей трудна!»

І ў той жа час ён поўны самых разнастайных планаў і задумаў.

Зазірнуць у мінулае даюць магчымасць старыя пісьмы (павучонаму — эпісталярый). 21 сакавіка (3 красавіка) 1909 года ён пісаў некаму — адрасат не ўказаны — па-польску (з пісьмом пазнаёміў нас Уладзімір Казбярук, які, мушу адзначыць, шчодра падзяліўся з намі і многімі іншымі матэрыяламі пра Зямкевіча):

«З'яўляюся студэнтам Кіеўскай палітэхнікі, цяпер працую настаўнікам у сям'і пана Міхала Свянціцкага ў Казіміраве. Апрача настаўніцтва займаюся тут у вольныя хвіліны беларускай этнаграфіяй, да якой даў мне імпульс пан Міхал Федароўскі ў Варшаве. Прабыў у вучнёўстве ў яго два гады (1905 і 1906), перапісваючы для яго беларускія песні для наступных тамоў «Люду беларускага». Дзякуючы п. Федароўскаму настолькі навучыўся па-беларуску, што цяпер вырашыў працаваць у гэтым кірунку і далей. Сабраў тут матэрыялаў на ладны том, які пасля апрацоўкі перадам у Акадэмію навук. Апрача гэтага займаюся гісторыяй беларускай літаратуры, яе, як і беларускі слоўнік, абяцала мне выдаць суполка «Загляне сонца» ў Пецярбургу.

Некаторых беларускіх пісьменнікаў і правадыроў руху ведаю асабіста. Не падабаюцца мне толькі ў тых адносінах, што замест таго, каб працаваць над асветай народа, вядуць сацыяльную прапаганду, абуджаюць класавую барацьбу. Угаворы і спрэчкі з імі не мелі аніякага поспеху, спрабаваў гэта ў Вільні, але марна. Засмучае мяне гэта, бо лічу, што з гэтага толькі шкода выйсці можа, як гэта і адбываецца ў аналагічным руху ва ўкраінцаў».

Надзвычай энергічны, рухавы, прагны да працы, марыў ён і пра граматыку беларускай мовы. І нават нешта ў гэтых адносінах рабіў. У лісце ў «Нашу ніву» ад 9 снежня 1910 года паведамляў: «Пішу начыста сваю «беларускую граматыку». Цяпер маю час, бо ў нас свята. Скора пашлю Вам, каб прагледзелі» (Шляхам гадоў. Вып. 2. С. 19).

У 1915–1918 гадах Зямкевіч жыў і дзейнічаў пераважна ў Мінску і на Міншчыне — Варшава і Заходняя Беларусь з Вільняй доўгі час былі адрэзаны фронтам. На тагачасных здымках бачым яго ў афіцэрскіх пагонах (відаць, як і Я. Купала, служыў у будаўнічых атрадах, тым больш што ў яго была адпаведная спецыяльнасць). Тут застала яго эпоха вялікіх рэвалюцый, якая дала пэўны гістарычны шанц Беларусі. Важна было яго — гэты шанц — не ўпусціць. Сярод тагачасных беларускіх дзеячаў крыніцы дазваляюць убачыць і нашага героя. На з'ездзе беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску ў сакавіку 1917 года абраны ў этнаграфічную (разам з Б. Тарашкевічам) і школьную (разам з тым жа Тарашкевічам, З. Верас, А. Гаруном, П. Мядзёлкай, К. Каганцом) камісіі. Праз год разам з Р. Скірмунтам і П. Алексюком падпісаў ад імя Беларускага нацыянальнага камітэта тэлеграму вярхоўным германскім уладам з пратэстам супраць

прэтэнзій літоўцаў і палякаў на спрадвечныя беларускія землі (Вольная Беларусь. 1918. 18 сак.). Вясной таго ж 1918 года Зямкевіч выкладаў на курсах беларусазнаўства, арганізаваных у Мінску Народным Сакратарыятам Беларусі (Голас Радзімы. 1993. 6 мая). Тады ж яго чакалі ў Маскве з дэлегацыяй Беларускай рады, накіраванай для перамоваў з савецкім урадам (*Дыла Я*. Творы. Мн., 1981. С. 268). У 1919 годзе Зямкевіч пісаў у газеце «Бацькаўшчына» аб ініцыятыве У. Леніна ў абвяшчэнні БССР, аб цікавасці кіраўніка савецкага ўрада да беларускага народа (*Скалабан В*. Першыя крокі рэспублікі // Крыніца. 1988. № 12. С. 4). Як бачым, у гэты бурлівы час і Зямкевіча зачапіла палітыка, і ён не астаўся ў баку ад векапомных гістарычных падзей.

За ўсімі клопатамі ён ніколі не забываўся папаўняць свае калекцыі. Не шкадаваў сродкаў, хоць быў чалавекам вельмі небагатым. Напрыклад, вядома, што канфіскаваны нумар «Нашай долі» ён адкупіў за даволі вялікія па тым часе грошы ў паліцэйскага прыстава ў Вільні. Забіраў у сваім калекцыянерскім імпэце шырока, цікавіўся не толькі духоўнай, але і матэрыяльнай культурай роднага народа. У перспектыве бачыўся багаты нацыянальны музей. Змітрок Бядуля, які добра ведаў Зямкевіча і быў у курсе яго планаў, пісаў пра яго на пачатку 1920 года ў артыкуле «Штрыхі да беларускай культуры»: «...Быўшы вайсковым інжынерам на фронце, ён назбіраў багатыя калекцыі беларускіх нацыянальных вопратак, паясоў і г. д. Ён на гэта выдаваў свае ўласныя грошы, але, на жаль, усё гэта ў яго парасцягалі розныя прыватныя асобы, а галоўным чынам забралі з сабой яго калекцыі немцы, арганізатары выстаўкі ў Мінску пад нямецкай акупацыяй. Гэта ўсё вывезена ў Берлін. І вось пану Р. Зямкевічу не ўдалося залажыць нашага нацыянальнага музею, аб якім ён марыў шмат гадоў».

Тым не менш шматгадовая энергічная і мэтанакіраваная дзейнасць Зямкевіча з цягам часу матэрыялізавалася ў выглядзе унікальнага надзвычай багатага збору кніг і рукапісаў пераважна беларускага накірунку. Паколькі збор Зямкевіча ўяўляе першародную цікавасць для нашай культуры, прывядзём яго сціслае апісанне паводле грунтоўнага даведніка Э. Хвалевіка «Польскія зборы» (1927. Т. 2). Вось што там даслоўна напісана (перакладаем з польскай):

«*Зямкевіч Рамуальд* (Варшава, вул. Хмельна, 68). Гуманітарная бібліятэка на розных мовах з асаблівым прыярытэтам гісторыі, літаратуры, мовазнаўства і фальклору Літвы, Беларусі, Украіны і наогул славяншчыны. Збор беларускіх друкаў (Біблія Скарыны, Астрожская Біблія, Слоўнік Памвы Бярынды і шмат іншых, нават невядомых

бібліяграфіі) і перыёдыкаў. Беларускія рукапісы Аляксандра Рыпінскага, Арцёма Вярыгі-Дарэўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Яна Неслухоўскага, Францішка Багушэвіча, Антона Лявіцкага (псеўданім Ядвігін Ш.), Максіма Багдановіча і інш. Збор літоўскіх друкаў, выдадзеных на землях Польшчы, а таксама збор прац аб Літве на польскай мове. Збор кніжак і брашур аб татарах у Польшчы на польскай, рускай і беларускай мовах (у тым ліку «Альфуркан татарскі» Пятра Чыжэўскага, Вільня, 1616; «Апалогія татараў» Азулевіча, 1630 і інш.). Татарскія рукапісы (6 штук), пісаныя арабскімі літарамі па-беларуску і па-польску, XVI і XVII стагоддзяў. Вялікі аддзел з галіны польскай філалогіі, які змяшчае як старыя польска-іншамоўныя слоўнікі ў першых выданнях (Калепінус, Кнапіус, Дасыподыус, Вolькмар, Троц і іншыя), так і багатую польскую дыялектную літаратуру. Ладны збор старадрукаў («Зярцала» Рэя, «Гняздо цноты» Папроцкага, «Хроніка» Бельскага, Я. Каханоўскі ў першым і іншых выданнях). Творы з галіны бібліяфільства (блізка 800 пазіцый), гравіравання і літаграфіі на розных мовах з перавагай французскіх выданняў. Бібліяграфія польская і агульная, апошняя пераважна на французскай мове. Асаблівасцю бібліятэкі з'яўляецца выдатна падабраны збор (304 выданні) кніжак аб шашачнай гульні на ўсіх мовах, аднак з асаблівым вылучэннем твораў, што датычаць гульні ў «польскія шашкі». Мае ўласны экслібрыс».

Вось такія скарбы сабраў Зямкевіч (нездарма М. Гарэцкі яшчэ задоўга да Хвалевіка адзначыў: «Маець вялікае багацце»). Як страсны калекцыянер пры збіранні кніжных і рукапісных рарытэтаў, наш герой не грэбаваў нават недалікатнымі сродкамі. Даўно падмечана, што ад неадольнага жадання калекцыянера валодаць аблюбаваным экспанатам і да граху недалёка. Такім «грэшнікам» (ці хутчэй нават без двукосся) быў і Зямкевіч. Расказваючы ў 1928 годзе ў пісьме да Л. Клейнбарта пра прапажу сваіх рукапісаў і кніг у акупіраваным кайзераўцамі Мінску, тактоўны, нешматслоўны Я. Купала пісаў, напрыклад: «И вот я думаю, между нами говоря, не попало ли это в руки Земкевича...» (*Купала Я.* Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 428). П. Мядзёлка ўспаміналa ў прыватным пісьме пра лёс неацэннай рэліквіі — паасобніка «Паўлінкі», падараванага ёй Купалам з паэтычным прысвячэннем як першай выканальніцы загалоўнай ролі: «А той літаграфскі экземпляр «Паўлінкі» з прысвечаным мне вершам у 32 радкі выпрасіў у мяне Рамуальд Зямкевіч у Лодзі ў 1921 годзе, каб перафатаграфаваць яго, выпрасіў на дзве гадзіны і знік з маіх вачэй разам з гэтым экземплярам» (Літ. і мастацтва. 1992. 3 ліп.; гісторыя ўспамінаецца і ў Мядзёлчыных «Сцежках жыцця»). Сёння

тэкст верша нам так і невядомы.

М. Гарэцкі паведамляў у верасні таго ж 1921 года Я. Карскаму з Вільні: «Р. Зямкевіч ездзіць нейкім інжынерам, часам працуе ў Федароўскага, усё збірае, а нічому ходу не дае і наракае на ўсіх нас» (*Гарэцкі М.* Творы. Мн., 1990. С. 400). Трохі пазней Гарэцкі паведаміў Карскаму таксама пра лёс кнігазбору, пакінутага шаноўным прафесарам у Варшаве пры эвакуацыі: «Ад грам[адзяніна] Зямкевіча (ён меўся Вам напісаць) чуў я, што многа кніжак з Вашай асабістай бібліятэкі трапіла ўжо ў рукі варшаўскіх букіністаў; некаторыя выкупіў ён». Як бачым, і тут наш герой не ўпусціў свайго.

Трэба сказаць, што Зямкевіч меў цяжкі, няўжыўчывы характар і многім не падабаўся. Не адзін раз чуў пра гэта ад шанаванай усімі Зоські Верас, якая ведала Зямкевіча яшчэ па дарэвалюцыйнай Варшаве, ды і потым з ім не адзін раз спатыкалася. У пісьме да мяне яна расказвала:

«Ужо першае знаёмства з ім у Варшаве ў 1913 годзе насцярожыла.

Жменька беларусаў, якія ў той час жылі ў Варшаве (я была там тады на курсах), кожную нядзелю ездзіла да сям'і Сталыгваў (беларусы) у блізкае Ажарова. Ехалася мінут пятнаццаць, так што мы нават не заходзілі ў вагон, а стаялі каля дзвярэй. Вось раз і Р. З. паехаў разам. У дарозе мы ўсе «знаёміліся» паміж сабой, расказваючы хто скуль... Г. Леўчык — са Слоніма, Я. Гапановіч — з Будслава, я з-пад Гродна — з Сакольшчыны і г. д. Р. З. маўчыць. Я пытаюся: «А Вы, пан Зямкевіч, адкуль?» Ён на гэта — «мая бацькаўшчына там, дзе мне добра»... Павеяла нейкім холадам і недаверам».

Канешне, Зямкевіч толькі пажартаваў, прыняў нейкую штучную позу перад мілай, шмат маладзейшай за яго паненкай. Але жарт быў вельмі няўдалы, калі ўлічыць, што паненка якраз шукала сваю радзіму і радавалася, што знайшла яе часцінку сярод сваіх землякоў на чужыне.

Язэпу Дылу Зямкевіч запомніўся як «хвалько»: «...прызнацца, любіў шыкнуць «многаведаннем»... (пісьмо да Я. Саламевіча // Полымя. 1990. № 6. С. 238).

Разважлівая Паўліна Мядзёлка, нягледзячы на свой асабісты негатыўны вопыт кантактаў з Зямкевічам, адзначала і плюсы, і мінусы, старалася быць гранічна аб'ектыўнай:

«У рэдакцыі «Нашай нівы» я часта бачыла Рамуальда Зямкевіча. Гэта быў чалавек гадоў, мабыць, трыццаці, сярэдняга росту, з рыжаватымі рэдкімі вусікамі, у форменнай тужурцы з меднымі гузікамі (яго мы называлі вечным студэнтам). Ён добра гаварыў па-беларуску,

аднак з моцным польскім акцэнтам. У «Нашай ніве» даволі часта змяшчаліся яго артыкулы. Яго ацанілі як вядомага бібліёграфа, гісторыка, крытыка. Ён быў нястомным збіральнікам калекцый народнага мастацтва, літаратурных аўтографаў.

І вось гэты самы Зямкевіч, — працягвае Мядзёлка, — не паладзіў з Іванам Луцкевічам. Сварка паміж імі дайшла да поўнага разрыву Зямкевіча з «Нашай нівай». А прычынай было тое, што Іван Луцкевіч і Рамуальд Зямкевіч не падзялілі паміж сабой сабраных экспанатаў. Адзін аднаго абвінавачвалі ў ашуканстве, у прысваенні чужых экспанатаў. Хто там быў правы, а хто вінаваты, сказаць цяжка» (*Мядзёлка П.* Сцежкамі жыцця. Мн., 1974. С. 72–73).

Маем і дакументальныя доказы таго, што Мядзёлка дакладна ацэньвала сітуацыю. У пісьме 1912 года Зямкевіч наракаў (з польскай):

«Працаваў у рэдакцыі «Нівы» 6 месяцаў і, канчаткова разышоўшыся ў поглядах, пакінуў яе. Бо не магу ісці разам з людзьмі, якія, як напрыклад, п. Ян Луцкевіч, паступаюць неэтычна (штучкі: прысваенне золаталітага слуцкага пояса, які належаў пану Кярсноўскаму з Наваградчыны... а таксама гучная гісторыя ў Полацку, у касцёле, з заменай фламандскага абраза-прымітыву на яго копію).

Увогуле, стасункі і некаторыя людзі, хоць і не ўсе, з «Нашай нівы» не надта добра выглядаюць пры больш глыбокім знаёмстве».

Вядома ж, на настрой і ацэнкі Зямкевіча моцна ўплывала яго рэўнасць да збіральніцкіх поспехаў выдатнага дзеяча беларускага Адраджэння Івана Луцкевіча, якому з цягам часу ўдалося заснаваць у Вільні цудоўны Беларускі музей. (Зазначым у дужках, што, у адрозненне ад збораў Зямкевіча, час захаваў калі не большасць, дык значную частку экспанатаў Беларускага музея ў Вільні, хоць яны пасля апошняй вайны аказаліся рассеянымі па многіх музеях, архівах і бібліятэках Вільні-Вільнюса і Мінска).

Адмоўныя рысы характару Зямкевіча нярэдка ўскладнялі яго адносіны з дзеячамі беларускага нацыянальнага руху.

Вялікі розгалас атрымала яго вострая сутычка 1927–1928 гадоў з нашаніўцам Ф. Умястоўскім, вядомым у беларускай літаратуры як «Дзядзька Пранук». (Нагадаем, што ў 1940 годзе Умястоўскі як палонны афіцэр польскай арміі загінуў ад рук сталінскіх апрычнікаў у Катыні. Нядаўна пра яго ўспамінала Валянціна Коўтун у цікавым палымянскім літаратурна-архіўным эсэ «Шчыру ахвярнасць клаў я для краю...».) У 20-х гадах Дзядзька Пранук займаў не лепшую пазіцыю падтрымкі санацыйнай Польшчы, «праславіўся» згодніцтвам з польскімі ўладамі. У сваёй паланафільскай газеце

«Беларускі дзень» у канцы 1927 года (тады якраз разгортвалася перадвыбарная кампанія) нагадаў пра свае заслугі перад беларускім рухам, адзначыўшы, што быў у свой час рэдактарам-выдаўцом першай беларускай газеты «Наша доля» і пацярпеў за гэта ад царскіх уладаў.

У легальнай лева-дэмакратычнай газеце «Да працы» (яна ўсяляк праследавалася ўладамі і раз-пораз мяняла сваю назву, у той момант называлася «Права працы») на яго адразу ж наляцеў нехта Саўка Барывой, які безапеляцыйна назваў Умястоўскага самазванцам і абвінавацію ў бессаромнай хлусні. Працытуем:

«Памятаючы добра гэтыя часы (часы зараджэння беларускага легальнага друку. — *Г. К.*), ніяк не можам згадзіцца на гэтую заяву, якая абсалютна пярэчыць праўдзе.

Галоўным ініцыятарам выдання беларускай газеты ў час рэвалюцыі 1905–1907 гадоў быў св. памяці Іван Луцкевіч. Рэдактары, якія падпісвалі газету, былі фікцыйнымі, газету выдаваў калегіяльны кружок, зложаны з братоў Луцкевічаў, Цёткі, Каганца, Янкі Окліча, Туркеса ды З. Вольскага.

Са слоў Ф. Умястоўскага выходзіць, што ён за справу «Нашае долі» быў арыштаваны і нават сасланы. Дзіўная рэч: у друкаваных матэрыялах да гісторыі «Нашае долі», узятых з царска-жандармскіх архіваў ды друкаваных ужо ў месячніку «Полымя», нічога аб рэдактарстве, арышце і ссылцы Ф. Умястоўскага не ўспамінаецца. З другога боку — польскія пэпээсы, старыя віленскія дзеячы, апавядаюць, што Ф. Умястоўскі належаў да партыі ППС, лічыў сябе заўсёды палякам і за партыйныя справы (польскія!) адцярпеў кару. З гэтых-то кругоў віленскіх ППС-аў выйшла пратэкцыя і грошы для Ф. Умястоўскага, каб выдаваў паланафільскую газету. Гэта было ўжо і раней у 1919 годзе, калі яму запрапанавалі выдаванне паланафільскага беларускага часопіса, які ён разам з Аляхновічам пачаў выдаваць пад наз[вай] «Беларускае жыццё», у каторым сам не працаваў, а іграў толькі ролю «мецэната».

У справе рэдактарства «Нашае долі» мог бы рашуча сказаць інж. Р. Зямкевіч. Мае ён найбагацейшы гістарычны беларускі архіў, у каторы ўвайшла і частка архіву «Нашае долі», пераданая яму ў Варшаве Тукеркесам, калі той нелегальна, пры помачы палітычных дзеячаў у Варшаве, перабіраўся за граніцу».

Просім прабачэння за доўгую цытату — яна добра перадае методыку спрэчкі, напал страсцей.

На адказ Умястоўскага ў «Беларускім дні» «Праўда аб рэдагаванні «Нашай долі» Саўка Барывой публікуе новы разлютаваны опус

у сваёй газеце (пасля чарговай забароны яна называлася «Думка працы»). У матэрыяле прыводзіліся старанна падабраныя падрабязныя бібліяграфічныя звесткі з гісторыі «Нашай долі».

Тым не менш перад намі не навуковая праца, а рэзкі палітычны памфлет. Чаго варты адзін загаловак — «Воўчы білет самазванnamу рэдактару-выдаўцу «Нашае долі» — яснавяльможнаму «пану графу» Францішку Умястоўскаму». «Вось гэтак выглядае *нашая праўда!* — задзіраўся Барывой. — Бо няўжо ж бы столькі людзей ды яшчэ: Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў, Рамуальд Зямкевіч, Вацлаў Ластоўскі ды Эдвард Будзька гаварылі аднагалосна няпраўду?» Нарэшце — эфектная канцоўка: «Мы ж нашымі фактамі даемо пану Ф. Умястоўскаму *воўчы білет* — гэтак патрэбны яму на выбарах. Спадзяёмся, што беларускія сялянска-работніцкія гушчы пазналіся і пазнаюцца на ім і скажуць яму словамі нашага слаўнага Мацея Бурачка: «Скінь скурку, дабрадзею, бо зубкі відаць!»

Безумоўна, Умястоўскі меў заслугі перад беларускім рухам ранняга перыяду і быў калі не рэдактарам-выдаўцом, то сярод актывістаў «Нашай долі». У гэтых адносінах публікацыі Барывоя выглядаюць вельмі аднабаковымі (у бязлітаснай палітычнай барацьбе такая аднабаковасць — з’ява звычайная). Вядома ж, Дзядзька Пранук пратэставаў. Пад псеўданімам Барывоя, сцвярджаў ён, хаваецца Зямкевіч.

28 сакавіка 1928 года ў «Волі працы» (новая назва ўсё той жа газеты) друкуецца заява Р. Зямкевіча, што ён не мае нічога агульнага з Барывоем. Гэта пацвердзіла і рэдакцыя газеты. Але ад пазіцыі Барывоя Зямкевіч не адмяжоўваўся. Наадварот, паведамляецца новы крымінал, — што Умястоўскі прыслаў да Зямкевіча пасланца з грубымі пагрозамі.

Сёння лічыцца (гл. шасцітомны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», змешчаныя там бібліяграфічныя матэрыялы пра Зямкевіча і Умястоўскага), што Саўка Барывой — сапраўды Зямкевіч. Не супярэчыць такой атрыбуцыі стыль і вялікая інфармаванасць Барывоя, веданне ім усіх тонкасцей ранняй гісторыі беларускага руху. (Да таго ж падобным псеўданімам карыстаўся беларускі пісьменнік XIX стагоддзя Вінцэсь Каратынскі, што ў тыя часы мала каму — хіба толькі Зямкевічу — было вядома.) Спасылкі на Зямкевіча ў тэкстах Барывоя выглядаюць у такім выпадку маскіроўкай, да таго ж з яўнымі элементамі самарэкламы.

Чаму якраз Зямкевіч так кінуўся ў бой супраць Умястоўскага — невядома. Тым больш зрабіць гэта адкрыта не адважыўся.

Ад усёй гэтай газетнай шуміхі астаўся прысмак скандалу. І вядома ж, наўрад ці гэта ўмацоўвала аўтарытэт нашага героя сярод беларускай культурнай грамадскасці.

Не лепшая рэпутацыя адносна метадаў калекцыяніравання склалася ў Зямкевіча і ў Варшаве.

У 1932 годзе Варшаву ўскалыхнула сенсацыя, што былы начальнік аддзела польскай Найвышэйшай кантрольнай палаты, ён жа былы прафесар (па-польску кожны выкладчык — прафесар) беларускай літаратуры ва Усходнім інстытуце інжынер Рамуальд Зямкевіч арыштаваны крымінальнай паліцыяй па абвінавачанні ў крадзяжы каштоўных гістарычных дакументаў з вядомых Раперсвільскіх збораў. Уплывовы і інфармаваны «Кур'ер варшаўскі» напальваў страсці, пішучы як пра ўстаноўлены факт, што Зямкевіч нават зусім не інжынер, за якога сябе выдае. Скончыўшы ледзьве два семестры кіеўскай палітэхнікі, пісала газета, Зямкевіч у перыяд Кераншчыны вырабіў сабе фальшывы «паслужны спіс», дзе прадставіў сябе інжынерам. Гэты дакумент нібыта памог яму ўладкавацца на пасаду памочніка начальніка чыгуначнай дыстанцыі ў Лідзе. Пасля смерці жонкі ў 1923 годзе перабраўся ў Варшаву і ўзбіўся там на прыстойную пасаду ў акруговай кантрольнай палаце, дзе працаваў да 1929 года, атрымаўшы эмэрытуру (пенсію) VIII службовага рангу. Ды што казаць, — распіналася далей газета — ужо студэнтам варшаўскай палітэхнікі (1907–1908 год) згаданы Зямкевіч абакраў вядомы антыкварыят пана Геранім Вільдара, а потым і яшчэ адзін не менш шаноўны антыкварыят, сцягнуўшы адтуль каштоўныя гравюры і рукапісы. «Ці адбываў у сувязі з гэтым зняволенне — брак станоўчых звестак», — заключала газета. Што тут праўда, а што прыдумкі ахвочых да сенсацый газетчыкаў — сказаць не бяромся. Можа прыйсці ў галаву і такое: ці не было гэта нейкім працягам віленскай гісторыі з Умястоўскім? Апошні меў уплывовых сяброў і мог адпаведным чынам «аддзячыць» свайму крыўдзіцелю. Але, як кажуць, дыму без агню не бывае. Тым больш нам вядома пра стрыманыя адносіны да пана Рамуальда і беларускіх дзеячаў, што блізка яго ведалі.

Ды і наш шаноўны Адам Мальдзіс піша ў «Таямніцах старажытных сховішчаў» аб сваім дужа скептычным стаўленні да Зямкевіча (цытуем): «...бо рукапісы цягнуў ён, дзе толькі мог (колькі разоў у архівах мне трапляліся пашкуматаныя папкі з запісам, што дакументы адсюль украдзены Зямкевічам)».

Аднак як бы мы ні ставіліся да асобы Зямкевіча, яго заслугі перад беларускай культурай несумненныя. На падставе сабраных калекцый Зямкевіч напісаў шэраг прац па беларускай бібліяграфіі, краязнаўству, этнаграфіі, гісторыі беларускай літаратуры, тэатра, музыкі, каштоўныя сваім багатым фактычным матэрыялам. Асобных выданняў (невялічкіх кніжак, адбіткаў) у яго няшмат: «Адам

Ганоры Кіркор (Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадаўшчыну смерці)», «Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX сталецця (Успаміны ў 60-ю гадаўшчыну смерці) (абедзве — Вільня, 1911), «Цукраварні на Беларусі» (Мінск, 1918), «Аб беларускай варожай эстэтыцы: Спробы характарыстыкі» (Вільня, 1927). Затое іншых публікацый хапае. З артыкулаў назавём хаця б «Стары Менск у беларускіх успамінах» (1919–1920), хоць Зямкевіч і прамаўчаў аб выкарыстанні ім адпаведнага рускамоўнага артыкула А. Слупскага з колішняга «Минского листка».

У многіх галінах айчынных гуманітарных даследаванняў ён быў першапраходцам. Апублікаваная ім «Беларуская бібліяграфія» (1910) увайшла ў гісторыю як першы спецыяльны бібліяграфічны даведнік на беларускай мове. У гісторыка-літаратурных працах і публікацыях ён прывёў цікавыя звесткі пра В. Дуніна-Марцінкевіча, А. Кіркора, Я. Баршчэўскага, М. Багдановіча, К. Каганца, Я. Лучыну, А. Ельскага, апублікаваў некаторыя іх рукапісы, спрачаўся з тымі даследчыкамі, якія недаацэньвалі значэнне і эстэтычны ўзровень нашай літаратуры XIX стагоддзя, у прыватнасці, творчасці Дуніна-Марцінкевіча, выклікаў у беларускім грамадстве цікавасць да канкрэтнага літаратуразнаўства, да пошукаў і публікацый у гэтай галіне. У бясспрэчную заслугу яму ставіцца, што ён першы апублікаваў шырока вядомы цяпер гравіраваны партрэт В. Цяпінскага 1576 года, адшукаўшы яго ў бібліятэцы князёў Святаполк-Завадскіх.

Гэты без перабольшання класічны партрэт побач з аналагічным партрэтам Скарыны сёння для нас — нібы вобраз духоўна багатай Беларусі ў адзін з высокіх перыядаў яе гісторыі. Паведамленні ў газетах і часопісах пад рубрыкай «З архіву Р. Зямкевіча» заўсёды жыва цікавілі сучаснікаў, як цікавяць сёння і даследчыкаў. Напрыклад, у першым нумары часопіса «Варта» за 1918 год надрукаваны гісторыка-краязнаўчы артыкул Зямкевіча (пад псеўданімам Р. Суніца) «Няміга і Менск» і цэлая падборка каштоўных матэрыялаў пад рубрыкай «Старая беларуская пісьменнасць: З архіву Рамуальда Зямкевіча»: верш Багушэвіча «Яснавяльможнай пані Арэшчысе» (1891), верш Сыракомлі «Добрыя весці» (у часопісе называлася дата: 1848), «Малітва» (1878) малавядомага паэта Язэпа Жукоўскага і, нарэшце, надзвычай рэдкае для сярэдзіны XIX стагоддзя беларускае апавяданне А. Плуга «Кручаная баба» (1849). І пра ўсё гэта — з цікавымі арыгінальнымі каментарыямі, заўвагамі, дадатковымі звесткамі.

Артыкулам «Тарас Шаўчэнка і беларусы» (1911) Зямкевіч унёс уклад у вывучэнне беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей, у ста-

наўленне беларускага параўнальнага літаратуразнаўства.

Living Рознабаковую дзейнасць, інтарэсы, стасункі, штодзённыя навуковыя і чалавечыя клопаты Зямкевіча добра характарызуюць яго ўцалелыя пісьмы 20–30-х гадоў. Усё-такі, што ні кажы, а лісты — жывы голас, нібы застылая фанаграма гісторыі:

*16.IV.1927 — Антону Луцкевічу:*

«Сенатар Уласаў запрасіў мяне да супрацоўніцтва ў «Родных гонях». Вельмі ахвотна згадзіўся я на гэта, бо такі тып часопісі надта ж ужо патрэбны.

Да рэдакцыі я паслаў стаццю «Аб беларускай народнай эстэтыцы», каторую, пэўна, у вас ужо атрымалі...

Затым вельмі Вас прасіць буду, каб адшукалі маю стаццю аб Янцы (так у арыгінале. — *Г. К.*) Лучыне (Неслухоўскім) і яго вершу аб украінскім тэатры. Гэтую стаццю я даў Вам у 1923 годзе для зборніка «Заходняя Беларусь». Цяпер я маюся яе перарабіць, дадаць урывак-абломак нейкай беларускай камедыі Неслухоўскага і пусціць у «Родных гонях». Стаццю гэтую, калі ласка, перадайце Уласаву, дык ён мне прывязе. Хацеў быць у Вільні ў Вербную нядзелю, пагутарыць з Вамі, але, на жаль, маё вельмі дрэннае матэрыяльнае палажэнне не дало мне магчымасці прыехаць.

У леташнім годзе («летась» Зямкевіч разумеў як «сёлета». — *Г. К.*) прыпадае гадаўшчына Чачота — 80 гадоў ад яго смерці ды 120 ад яго нараджэння (тады лічылася, што Чачот нарадзіўся ў 1797 г.; па новых звестках — у 1796 г. — *Г. К.*). Сяджу і працую над манаграфіяй аб ім, дам нязнаныя, недрукаваныя яго творы, з-паміж каторых найбольш цікава яго п’еса па-беларуску для тэатра, напісаная ў чэсць Міцкевіча.

На ўгодкі смерці Багдановіча таксама дам нізку яго вершаў.

Ах, каб я меў больш часу! Колькі я бы мог даць цікавых рэчаў і сам, і пакіраваўшы іншых у апрацаваннях розных манаграфіяў! Але што ж рабіць, на руках кайданы!»

*21.II.1930:*

«Першая пастаноўка «Сялянкі» Марцінкевіча адбылася толькі ў 1855 годзе ў Менску, бо раней гэтакі «рэвалюцыйны» твор (як ні смешна, аднак гэта факт) пры мікалаеўскім царскім рэжыме пастаўлены публічна быць не мог! Праіграная Крымская вайна прычынілася да памякчэнняў у тагачаснай палітыцы ўрада! Значыцца, летась (сёлета. — *Г. К.*) 75-лецце гэтага нацыянальнага здарэння».

Тут — зазначым — Зямкевіч пры ўсіх сваіх велізарных ведах памыляўся: першая пастаноўка «Сялянкі» («Ідыліі») адбылася — гэта дакладна вядома — 9 лютага 1852 года. Але вельмі важна, што ўжо тады Зямкевіч ставіў пытанне пра новую пастаноўку гэтай ранняй

п’есы Дуніна-Марцінкевіча (здзейснена — і вельмі ўдала — толькі ў нашы дні рэжысёрам М. Пінігіным у Купалаўскім тэатры):

«Паставіць «Сялянку» на сцэне варта было б, аднак тэкст польскі павінен быць пераложаны на беларускую мову. Насколькі памятаю, пераклад гэтакі рабіў для нябожчыка Бурбіса Я. Купала. Гэта трэба было б адшукаць».

І зноў успомніў сваю даўнюю калекцыянерскую крыўду — няўдалае «паляванне» за афішай першай пастаноўкі «Сялянкі» (адзіным уцалелым экземплярам яе валодаў паэт А. Паўловіч), суперніцтва ў гэтых адносінах з І. Луцкевічам:

«З нейкай заметкі, здаецца, у месячніку «Полымя», я даведаўся, што А. Паўловіч перадаў у архіў Інбелкульта афішу «Сялянкі» з 1855 (1852. — *Г. К.*) года. Гэтую афішку напрасна стараўся св. пам. Іван выкупіць у Паўловіча. І я сам у гадах 1915–1917 атакаваў Паўловіча ў Менску, без рэзультата. Ён мне казаў, што калі б далі яму 200 рублёў, дык, можа бы, аддаў Івану, а дзеля таго што дагаварыцца з Іванам не мог, ён перадаў мне, што гэту афішку купіў у яго польскі кампазітар Henryk Opienski, быццам бы за 100 рублёў. Я звяртаўся да Опенскага, які мне заявіў, што нічога аб гэтым не ведае і з Паўловічам не знаёмы. Мне фатаграфія гэтае афішкі патрэбна для маёй працы «Нарыс гісторыі беларускае музыкі» і дзеля таго я гэтак яе шукаў».

*17.V.1930:*

«У мяне нічога новага, апрача кніжак па беларусазнаўству, якія я пастаянна дабываю.

На 1 чэрвеня сабіраюся прыехаць, магчыма, што прачытаю лекцыю на тэму: Пахвала князю Вітаўту — беларуская памятка XIV сталецця. Гэта летапісна-літаратурны твор сучаснага (тагачаснага. — *Г. К.*) невядомага аўтара. Пакуль што шукаю гэтага матэрыялу, бо ўсё ў мяне схавана ў папках».

*28.V.1931:*

«Звяртаюцца тут часам да мяне варшаўскія студэнты-беларусы за кніжкамі і інфармацыямі. Першых даваць не магу, бо я не чытальня, а другіх не адмаўляю».

Адмова пазычаць кніжкі (зрэшты, зразумелая для калекцыянера), відаць, зноў ставіла яго ў няпростыя адносіны з людзьмі. А што Зямкевіч шчодра раздаваў налева і направа каштоўную інфармацыю — гэта таксама праўда. Мы ўжо згадвалі яго пастаянныя паслугі ў гэтых адносінах Карскаму і Галомбаку. Патрэбу ў такой дапамозе меў шмат хто.

Зямкевіч рабіў фальклорныя запісы для А. Грыневіча, перапісваўся, абменьваўся навуковай інфармацыяй з А. Ельскім, у савецкі

час — з А. Шлюбскім. Шчыра падзяліўся ён з Б. Тарашкевічам і віленскім гісторыкам С. Касцялкоўскім вядомымі яму матэрыяламі пра аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры А. Вярыгу-Дарэўскага (адпаведны ліст Зямкевіча 1913 года надрукаваны ў нашай кнізе «Ад Чачота да Багушэвіча»). Спасылкі на яго інфармацыі з гісторыі тэатра знаходзім у кнізе Ф. Аляхновіча «Беларускі тэатр» (Вільня, 1924). На матэрыялы Зямкевіча з гісторыі музыкі спасылаўся святар і даследчык А. Станкевіч у пісьме ў Беларускую кансерваторыю 1941 года (час. «Хрысьціянская думка». 1993. № 1).

Зямкевіч быў не толькі даследчыкам, але і літаратарам, спрабаваў свае сілы ў мастацкай творчасці. Перакладаў на беларускую творы А. Дадэ, В. Стафаніка. Усяго Зямкевіч пераклаў і надрукаваў у 1909–1911 гадах у «Нашай ніве» 10 навелаў Стафаніка. Перакладчык выбраў, каб пазнаёміць беларускага чытача, найбольш характэрныя творы ўкраінскага пісьменніка. «...Пераклады сведчаць пра тое, што Р. Зямкевіч добра ведаў украінскую мову (у 1900-х гг. ён вучыўся ў Львоўскім політэхнічным інстытуце), у цэлым няблага разбіраўся ў своеасаблівай і тонкай манеры Стафанікавага пісьма», — так ацэньваюць працу Зямкевіча нашы літаратуразнаўцы Т. Кабржыцкая і В. -Рагойша. (Як бачым, мімаходзь тут зафіксавана яшчэ адна версія наконт вучобы Зямкевіча — названы Львоўскі інстытут).

Не цуралася нашага героя і паэтычная муза. Вядомы яго польскамоўны верш «Скарбы ў раллі», узноўлены па-беларуску яго варшаўскім сябрам Г. Леўчыкам. Твор значны па думцы. Зямкевіч адштурхоўваўся ў ім ад вядомай старадаўняй прытчы аб закапаных у раллі скарбах:

Кажуць, скарбы добрай долі
У зямлі ляжаць.
Вось і трэба нам у полі
Ўсю раллю з'араць!
Ад вякоў мы не чакалі
Скарбаў залатых —
Добрай долі мы шукалі
Ў працы рук сваіх!

І яшчэ адзін загадкавы след. У арыгінальнай «Масеевай кнізе» М. Сяднёва расказваецца пра папулярнасць у вайну на Беласточчыне сатырычных вершаў нейкага Шэршаня, якія часта друкаваліся ў беларускай газеце «Новая дарога», што выходзіла тады ў Беластоку. «Ладна падскочыў тыраж газеты дзякуючы сатырычным творам аднаго ананімнага аўтара — нейкага Шэршаня, — піша М. Сяднёў. —

Ён прыдбаў для газеты шмат дадатковых падпісчыкаў». І ў іншым месцы: «Праз сатыру Шэршаня газета набыла, я сказаў бы, папулярнасць». Прыводзіць ён і ўзоры гэтых сатыр, у якіх высмейваліся саюзнікі-«альянты» Сталін, Чэрчыль, Рузвельт. Напрыклад, васьмірадкоўе «Падарунак ангельскага караля»:

Ангельскі кароль Георгі
прыслаў Сталіну свой меч.
А Сталін яму ватовік
са сваіх уласных плеч.

Калі гэтак пойдзе далей,
скончыцца анархія:
будуць у Англіі саветы,
а ў Саюзе — манархія.

Наш вядомы літаратуразнавец Уладзімір Казбярук, родам з Беласточчыны, помніць і тагачасную газетную пікіроўку з гэтым бойкім Шэршанем. Нехта, адказваючы кусліваму насякомаму, пераводзіў гаворку з вышыняў сусветнай палітыкі на папулярны ў вайну ды і пасля яе напой:

Наш пан Шэршань
Піша вершы.
З вершы мала толку.
Лепей выгнаў ты
найпершай —
Выпілі бы ў сполку.

Пасля вайны з адной інфармаванай крыніцы («расказваў былы палкоўнік польскай дзяржбяспекі, які потым стаў філолагам») У. Казбярук даведаўся, што гэтым Шэршанем быў нібыта наш Рамуальд Зямкевіч. Цяжка гэтаму напоўніцу даць веры, але чаго на свеце не бывае.

Тады ж у вайну, у 1943 ці 1944 годзе, Зямкевіч трапіў пры нявысветленых акалічнасцях (нібыта зноў прычыніліся нейкія досыць цёмныя бібліятэчныя справы і авантурны Зямкевічавы характар, які з гадамі не стаў лепшым) у гестапа і загінуў, паводле некаторых звестак, у Асвенціме. Трэба было б хаця б даведацца дакладную дату смерці — здаецца, немцы ў гэтых адносінах былі досыць педантычнымі. Павінны ж дзесьці захавацца спісы і картатэкі вязняў.

Недзе ў ваеннай завірусе зніклі і неацэнныя зборы Зямкевіча, забраўшы з сабой многія таямніцы з гісторыі Беларусі.

У папулярных кнігах Адама Мальдзіса «Падарожжа ў XIX стагоддзе» і «Таямніцы старажытных сховішчаў» зафіксавана версія

пра тое, што калекцыі Зямкевіча перад вайной перайшлі ў рукі даследчыка беларускай літаратуры Ю. Галомбака. «У дом апошняга ў час вайны трапіла бомба, і ўсё — рукапісы, бібліятэка ў 8 тысяч тамоў — згарэла, а праз колькі дзён памёр ад ран і сам Галомбак». Нешта падобнае, помніцца, даводзілася мне чуць у свой час і ад Сцяпана Александровіча.

Іншую версію пераказвае выдатны польскі літаратуразнавец Юльян Кжыжаноўскі. У трэцім томе сваіх «Шкіцаў фальклярыстычных» (1980) ён успамінае:

«У 1944 годзе (зімой, на пачатку года. — *Г. К.*) мой вучань Уладзіслаў Драпэля запытаўся ў мяне, ці не згадзіўся б я ацаніць бібліятэку, якую нехта хацеў прадаць. Машынальна я сказаў «не», але даведаўшыся, пра што размова, прапанову прыняў. Аказалася, што на продаж ішлі якраз зборы праслаўутага, амаль легендарнага варшаўскага бібліямана Рамуальда Зянкевіча (напісанне Кжыжаноўскага. — *Г. К.*). Асоба гэтая, вядомая рознымі кніжнымі махінацыямі, была арыштавана гестапа, і сястра, якой афіцыйна паведамілі аб яго смерці, вырашыла пазбавіцца ад яго збораў.

Два пакойчыкі на Хмельнай, калі я ў іх апынуўся, запоўнены былі да самай столі ўсялякімі старымі паперамі. Столькі ж, як мне сказалі, згніла ў сырым склепе. Чаго там толькі не было! Старыя расклады руху першых гадоў XIX стагоддзя, цэннікі сямян, календары, рэшткі накладаў, горы брашур 1918–1921 гадоў, рэшткі рэдакцыйных партфеляў (архіваў. — *Г. К.*) самых разнастайных беларускіх перыёдыкаў, неацэнныя беларускія фальклярыстычныя выданні, якія адсутнічаюць у нашых бібліятэках, кучка старадрукаў, сярод якіх першае месца займаў цудоўны экземпляр «Зярцала» Рэя.

Папрацаваўшы цэлы месяц у памяшканні, якое пару гадоў не апальвалася, я рассартаваў і ацаніў увесь гэты матэрыял, у якасці ганарару ўзяўшы згаданыя рэчы аб беларускім фальклоры, якія згарэлі неўзабаве ў маёй кватэры на Старым Месце (падчас вядомага паўстання. — *Г. К.*). Астатняе набылі тры беспрацоўныя кнігары і прадавалі на радасць бібліяфілаў у Гебетнера і Вольфа на Згодзе. З усяго я вылучыў каля 500 брашур 1918–1921 гадоў, якія пакупнікі абавязаліся перадаць дарма ў Нацыянальную бібліятэку, бо ведаў, што гэтых публікацый пракламацыйнага характару ў яе зборах не было. Гэтая калекцыя была, здаецца, знішчана падчас вайны на Ракавецкай.

Сярод рэчаў, якія ўвайшлі ў мой ганарар, былі таксама рукапісныя лісткі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, Янкі Купалы і іншых, а таксама часткі збораў М. Федароўскага. Зрэшты, усё гэта,

дэпаніраванае ў Бібліятэцы ардынацыі Замойскіх і вывезенае ў Петркуў, да мяне не вярнулася, загінуўшы або будучы знішчаным у ходзе эвакуацыі».

Такую надзвычай сумную карціну трагічнага канца збораў Зямкевіча малюе Кжыжаноўскі. Але сёе-тое, мабыць, усё-такі ацалела. У 1948 годзе Зофія Кжыжаноўская (дачка Юльяна) паводле копій з архіва Зямкевіча апублікавала ў польскім часопісе «Паментнік літэрацкі» чатыры пісьмы Я. Чачота да археолага К. Тышкевіча (у прадмове да гэтай публікацыі прыведзены больш сціслы варыянт ужо вядомага нам паведамлення Ю. Кжыжаноўскага пра лёс Зямкевічавых збораў).

Нядаўна (Полымя. 1992. № 10) фальклярыст Анатоль Фядосік пазнаёміў нашу грамадскасць з фальклорным зборнікам з архіва Ю. Кжыжаноўскага. На зборніку надпіс: «Усе гэтыя матэрыялы дастаў я ад Гальяша Леўчыка ў Варшаве ў ліпені (10) 1911 года. Р. Зямкевіч». Выходзіць, гэта таксама частка неацэнных Зямкевічавых збораў.

Даследчык гісторыі грамадскай думкі В. Шалькевіч адшукаў у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве некалькі кніг М. Гарэцкага з экслібрысам Зямкевіча. На адной з іх — «Гісторыі беларускае літаратуры» (Мн., 1926) — дароўны надпіс: Глыбокапаважанаму дз[ядзьку] Рамуальду Зямкевічу. М. Гарэцкі. 15.XI.1926». Няйначай, Гарэцкі палічыў патрэбным адразу пасля выхаду пераслаць сваю кнігу Зямкевічу праз кардон у Варшаву. Калі і якім чынам трапілі гэтыя кнігі з бібліятэкі Зямкевіча ў Нацыянальную? Праз таго ж Кжыжаноўскага?.. Дарэчы, у паведамленні В. Шалькевіча пра гэту важную знаходку (Голас Радзімы. 1993. 4 лют.) прыкрая недакладнасць: «Усё жыццё ён (Зямкевіч. — *Г. К.*) пражыў у Вільні і толькі пасля вядомых падзей 1939 года, відаць, ратуючы жыццё ад сталінскіх лагераў, апынуўся ў Варшаве, дзе і памёр у 1943 ці 1944 годзе». Як мала яшчэ часам мы ведаем сваю гісторыю!

Наша задача сабраць і выдаць навукова-літаратурную і эпісталярную спадчыну Зямкевіча, а таксама паўней — без «белых плям» — раскрыць яго жыццёвы шлях, удакладніць звесткі пра лёс яго збораў.

*Святлана СЯЛЬВЕРСТАВА-КУЛЬ*

## ДВА ЛІСТЫ РАМУАЛЬДА ЗЯМКЕВІЧА

У артыкуле «Раскажам пра Рамуальда Зямкевіча» («Голас Радзімы», № 12–17) Генадзь Кісялёў згадвае ліст беларускага збіральніка,

у якім ён распавядае аб сваім жыцці, напісаны, як адзначае аўтар артыкула, невядомаму адрасату ў 1909 годзе. У час работы ў Архіве старажытных актаў у Варшаве мне давялося вывучыць беларускую калекцыю вядомага збіральніка, літаратуразнаўцы, пісьменніка Аляксандра Ельскага. Сярод вялікай колькасці цікавых лістоў, нататак, накідаў трапіліся і лісты Рамуальда Зямкевіча да А. Ельскага. Адзін з гэтых лістоў, а дакладней, фрагмент ліста, і цытуе ў сваім артыкуле шаноўны Генадзь Кісялёў. Падаецца, што чытачам «Голасу Радзімы» будзе цікава пазнаёміцца са зместам другога ліста Р. Зямкевіча і заканчэннем першага з лістоў.

Але спачатку некалькі слоў аб адрасаце. Аляксандр Ельскі — чалавек, варты кнігі, і не адной. Імя гэтага руплівуца на ніве беларушчыны пакуль што, як, дарэчы, і імя Зямкевіча, мала вядомае шырокаму чытачу.

Аляксандр Ельскі (1834–1916) — ураджэнец маёнтка Дудзічы Ігуменскага павета Мінскай губерні. Паўстагоддзя ён аддаў вывучэнню беларускай літаратуры, збору знакамітых калекцый старажытнасцей, бібліятэкі ў сваім маёнтку Замосце на Ігуменшчыне. Ельскі быў аўтарам больш за тысячу артыкулаў, брашур, літаратурных твораў, ён займаўся краязнаўствам, этнаграфіяй, мовазнаўствам і іншымі галінамі навукі. Сучаснікам добра вядомыя былі ягоныя пераклады на беларускую і польскую мовы. Ён быў супольнікам некалькіх навуковых таварыстваў. Знакамітая калекцыя Ельскага (каля 20 тыс. старажытных рукапісаў, больш за тысячу рэдкіх і каштоўных гравюр і графічных лістоў, нумізматычная калекцыя, творы жывапісу XVII–XIX стагоддзяў, фарфор) была вывезена ў Польшчу і раскідана па розных музеях. Абставіны гэтай падзеі вядомыя і звязаны як з дзейнасцю нашчадкаў Ельскага, так і з падарункамі самога збіральніка. На жаль, у час вайны значная частка калекцыі загінула.

Але вернемся да лістоў Р. Зямкевіча. Аляксандр Ельскі ў канцы XIX — пачатку XX ст. быў адной з тых асоб, вакол якіх гуртаваўся беларускі рух. Ён вёў ажыўленую перапіску з многімі маладымі беларусамі, раскіданымі па вялікіх абшарах Расійскай імперыі. Адным з такіх быў і Зямкевіч. Першы ліст малады Рамуальд Зямкевіч напісаў Ельскаму 21 траўня 1909 года. Яго і згадвае Г. Кісялёў у сваім артыкуле. Паведаміўшы аб сваім жыцці ў якасці настаўніка ў сям'і Свянціцкіх у Казіміраве — ваколіцы Зембіна Мінскай губерні, Зямкевіч пасля аповеду пра сваю работу для Федароўскага і захапленне беларушчынай прыгадвае некаторыя кнігі, якімі ён захапіўся. Сярод пісьменнікаў яго надзвычай зацікавіў Дунін-Марцінкевіч, творы якога Зямкевіч меў усе ў першых выданнях, акрамя «Пана Тадэвуша»,

«якога ніколі не бачыў». Зямкевіч меў на ўвазе пераклад твора Адама Міцкевіча, забаронены цэнзурай. «Пан Тадэвуш» у перакладзе Дуніна-Марцінкевіча на беларускую мову з-за цэнзурных забаронаў так і не быў надрукаваны і, здаецца, пахаваны недзе ў архівах. Дарэчы, менавіта гэты пераклад, напісаны лацінкай, стаў падставай для забароны друкавання па-беларуску лацінскімі літарамі. Зямкевіч у той час сам захапіўся перакладчыцкай дзейнасцю і, як ён паведамляе Ельскаму, каб лепш вывучыць беларускую мову, зрабіў пераклад на яе навел украінскага пісьменніка Васіля Стафаніка. Дарэчы, гэты ліст Зямкевіча ўтрымлівае важную для збіральнікаў інфармацыю: у аднаго з яго сяброў у той час была адна з першых беларускіх кніжак, а дакладней, катэхізіс, складзены для католікаў, якія гавораць па-беларуску, выдадзены ў Вільні ў 1835 годзе. Пра гэтую кнігу, дарэчы, згадваў Ян Чачот у сваіх «Песенках...» у 1846 годзе.

Другі ліст, напісаны праз тры гады, адкрывае перад намі перыяд у жыцці Рамуальда Зямкевіча, які, на жаль, не адлюстраваны ў артыкуле Генадзя Кісялёва. Дзякуй лёсу, што не ўсе дакументы загінулі, нават калі яны знаходзяцца за мяжой ці на другім канцы свету, беларусам не прызвычайвацца збіраць расцярушаную войнамі маёмасць.

За прайшоўшыя гады Зямкевіч так і не здолеў спаткацца з Ельскім, хаця ўжо ў першым лісце прасіў яго аб гэтым. Ён ужо жыў у Варшаве, быў актыўным дзеячам Беларускага гуртка ў гэтым горадзе (гл. здымак). Гэты здымак з каментарыямі Зямкевіч даслаў Ельскаму. Здаецца, пакуль што ў нашым друку яго яшчэ не было.

У гэтым лісце (ад 29 ліпеня 1912 года) Зямкевіч паведамляе, што каля шасці месяцаў працаваў у рэдакцыі «Нашай нівы», але пасварыўся з некаторымі яе працаўнікамі і кінуў гэтую работу. Дарэчы, не вельмі простыя стасункі складваліся з рэдакцыяй «Нашай нівы» і ў Аляксандра Ельскага. Як можна меркаваць з ліста, канфлікт адбываўся на глебе палітычнай дзейнасці і асабістых прэтэнзій да Івана Луцкевіча.

Зямкевіч ужо на працягу некаторага часу працаваў над гісторыяй беларускай літаратуры. У 1912 годзе ён зацікавіўся Аляксандрам Рыпінскім, але матэрыялаў аб пісьменніку было надзвычай мала. Таму менавіта ў гэтым лісце ён, спасылаючыся на парады Федароўскага, просіць Ельскага дапамагчы ў пошуках гэтых матэрыялаў, падказаць, дзе шукаць. Зямкевіч паведамляе, што ён прыдбаў працу А. Рыпінскага «Беларусь», якая была выдадзена ў Парыжы ў 1840 годзе, а таксама мае рукапіс Рыпінскага «Нячысцік» рукі самога аўтара. Акрамя А. Рыпінскага, Зямкевіч цікавіўся таксама А. Вярыга-Дарэўскім і Р. Падбярэскім. У апошняга, па звестках Зямкевіча, пры арышце паліцыя канфіскавала мноства беларускіх рукапісаў. Нагадаем, што Рамуальд Падбярэскі быў вядомым журналістам, выдаваў беларускі часопіс «Незабудка» і польска-беларускі «Рочнік літэрацкі».

Да ліста Зямкевіча, акрамя фотаздымка, былі прыкладзены копіі

# Мікола
# ІЛЫНСКІ

Мікола (Мікалай Канстанцінавіч) Ілынскі нарадзіўся 21 сакавіка 1899 г. у мястэчку Мір Навагрудскага павета (цяпер — Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці). Брат народнага артыста БССР і СССР А. К. Ілынскага.

Скончыў Навагрудскую гімназію. Вучыўся ў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве, Беларускім дзяржаўным універсітэце, Маскоўскім тэхнікуме кінематаграфіі. Праходзіў службу ў шэрагах Чырвонай Арміі. Працаваў у Белдзяржтэатры і Інбелкульце, з'яўляўся намеснікам адказнага сакратара Беларускага таварыства драматычных пісьменнікаў і кампазітараў, загадваў літаратурнай часткай БДТ-2, быў кіраўніком справамі СП БССР. У 1937 г. выключаны з Саюза пісьменнікаў за неэтычныя паводзіны, спробу дыскрэдытацыі асобных беларускіх пісьменнікаў. У гады вайны знаходзіўся ў акупіраваным Мінску, пэўны час працаваў ва ўправе па справах мастацтва. Па сведчанні пісьменніка-разведчыка Р. Мурашкі, М. Ілынскі не прымаў фашызм і стаўся яго ахвярай. Забіты гітлераўцамі ў СД у 1943 г.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 г. Першая п'еса «Лес цёмны» пастаўлена БДТ-1 у 1926 г. Яго п'есы таксама ста-

віліся на сцэне БДТ-2. Асобнымі выданнямі ў 1930 г. выйшлі яго драматычныя творы «Лес цёмны», «Любоў да бліжняга», «На суд грамадскі», «Рунь вясновая», «Як Мікіта і Панас працаваць ішлі ў калгас», у 1931 г. — п’есы «Кавалі жыцця», «Пустазелле», дыялагічнае апавяданне ў вершах «Пра Кліма, Тараса, Свірыда ды Панаса», пасля выдаў п’есы «Напрадвесні» (1932), «Месія» (1940). У газеце «Літаратура і мастацтва» надрукаваў урыўкі з п’ес «Камедыя пачуццяў» (1933), «Апошні пехацінец» (1935), а таксама напісаў іншыя камедыі, невялікія скетчы, сцэнічныя эцюды. Выступаў у жанры прозы. Амаль усе яго апавяданні змешчаны на старонках часопіса «Полымя рэвалюцыі». Аўтар аповесці «Чалавечак у штоніках» (1939). Займаўся перакладамі п’ес з рускай і ўкраінскай моў.

# ПРОЗА

## ТЭЛЕФОН

Закалыхаўся жоўты туман, затым яго прарэзалі чорна-бурыя расколіны і Алесь убачыў над сабой бурую, габляваную столь хаты. Ён паспрабаваў павярнуць галаву ўбок, дзе чуліся крокі і нейкае шамаценне, але востры боль прарэзаў шыю ад патыліцы і да лапаткі.

— Ляжыце спакойна! — набегаліся — хопіць!

Алесь зірнуў скоса і ўбачыў спагадны твар маленькага чалавечка ў акулярах і белым халаце. А побач з гэтым тварам быў другі — заплаканы, але вясёлы твар Марынкі.

— А тэлефон!? — стогнам вырвалася з вуснаў Алеся.

— Пісульку вашу прачыталі. Ляжыце спакойна...

Алесь павольна ўздыхнуў і заплюшчыў вочы. Загад быў выкананы.

І хаця шыя бесперапынна выла, але ўсё цела было лёгкае, лёгкае, нібы нічога і не важыла, а перад вачмі, нібы на экране, праходзілі малюнкі падзей апошніх дзён.

Уздоўж па гасцінцы, праз вёску, бесперапынным ланцугом ужо другі дзень цягнуцца коні, людзі, гарматы, абозы. Час ад часу ад гэтай тысячагаловай гадзюкі адлучаецца шэрая постаць у шапцы з акованым брылём, і тады ў вёсцы з’яўляўся белапольскі марадзёр; скавыталі парасяты, квахталі куры, ляцеў гусіны пух; плакалі жонкі і дзеці гаспадароў, якіх шомпаламі прымушалі знайсці захаванага ў хмызняку ля рэчкі каня і ехаць у абоз.

З лямантам раздзірае сухія грудзі Алесева маці, кідаецца цалаваць рукі ката з жоўтымі кантамі на шапцы і пятліцах... А ён, Алесь, выціраючы скрываўлены твар, закладае ў старыя калёсы нядужага, крывога каняку...

Стрэлы... Алесь бяжыць, пераскакваючы цераз карчы і ламачча далёкага, але знаёмага, уздоўж-упоперак сходжанага лесу...

Вось і родная рэчка. Абавітая начным туманом, яна нібы спіць пад пульхнай коўдрай, і толькі цурчэнне струменьчыкаў над крутым берагам гаворыць аб яе няспынным бегу...

Прыемная цёплая вільгаць начной вады агортвае стомленае цела, і Алесь першы раз за дзень усміхаецца.

— Недалёка паедуць яны на маёй канячыне...

Вось ужо і хмызняк застаўся ззаду; Алесь бяжыць паміж дзвюх сцен залатога збожжа. Сухое, запыленае, панылa стаіць яно — маўклівае, пераспелае, нахіліўшы каласы, апускаючы долу буйнае зерне. Пакуль не прыйдуць чырвоныя, ніхто яго жаць не будзе. Хлебам хоча сустрэць вёска ўладу працоўных.

Доўга бразгаюць клямкі, засаўкі, завалы прыціхшай пад навалай белапольскага адступлення вёскі...

Грукаюць гарматы, час ад часуляскоча кулямёт, часта-густа, як сухі ядловец у печы, трашчаць стрэлы...

Аграмаднае, чырвонае, ранішняй расой умытае, сонца павольна ўздымаецца над усходам... Мільганулі на гасцінцы рухавыя конныя постаці ў шапках-будзёнаўках, весела праскакалі праз вёску, задыміліся пылам у спелым збожжы, зніклі ў хмызняку, азваліся кулямётным лёскатам ля рэчкі, зноў з'явіліся, хапілі з сядла па конаўцы пададзенай спагаднай рукою вады і зніклі...

Радасна ўсхваляваныя людзі мітусяцца на вуліцах; вітаюць адзін аднаго. І толькі дзе-нідзе затоена спалоханыя ці недаверлівыя вочы — панскай уладзе канцы. А сцежкамі між збожжа, прыгнуўшыся, бягуць шэра-зялёныя людзі; сярод іх і Алесь — сувязіст, чырвонаармеец-добраахвотнік, а на гумнішчы ўслед яму махае хусткай сястрычка Марынка...

Неба чыстае, блакітнае, а распаленае паўдзённае сонца здаецца яшчэ больш палымнее ад таго, што адбываецца на зямлі.

Палякі ўмацаваліся на другім беразе ракі і няспынным гарматным і кулямётным агнём палiваюць луг, хмызняк, на ўскраіне якога залёг полк, і шырокае поле, што разляглося паміж хмызняком і вёскай. Паветра распаленае і, здаецца, яго не хопіць на адзін уздых на поўныя грудзі.

Алесь ляжыць на ўзгорачку, час ад часу выцірае рукавом буйныя кроплі поту і слухае спакойны і роўны голас камандзіра, які аддае загады ў трубку палявога тэлефона.

Ён глядзіць на шырокія, абцягнутыя зялёнай тканінай гімнасцёркі плечы камандзіра, і мозг напружваецца ўспомніць бацьку. Той, напэўна, быў такі самы мужны, дужы і спакойны. Але ўспаміны дзяцінства блытаюцца, вобраз бацькі тане, знікае — і перад

вачамі Алеся зноў шырокія зялёныя плечы.

Раптам тэлефон жаласна дзвынкнуў і змоўк. Прабіты куляй апарат больш не працаваў.

Камандзір моцна вылаяўся, і да Алеся павярнуўся яго потны чырвоны твар:

— Бяжы ў вёску, у штаб, і прынясі другі апарат.

— Ёсць! Зараз будзе! — адказаў Алесь, спаўзаючы з узгорка.

Апынуўшыся ўнізе, ён стаў на ногі, прыгнуўся і шпарка пабег, лавіруючы паміж кустоў і карчэўніку.

Калі Алесь выбег з зарасніку, блакітныя яго вочы шырока раскрыліся ад жахлівага малюнка. Усё поле пераспелага збожжа, падпаленае, відаць, варожымі снарадамі ці варожай рукой, палала. З трэскам і сіпеннем неслася на хмызняк залатая пад сонцам, вогненная сцяна, акантаваная зверху трапяткімі языкамі і лёгкім чорным дымам; шлях да вёскі быў адрэзаны.

На момант Алесь разгубіўся, але зараз жа ўспомніў, як надоечы ўночы бег паміж збожжа па добра ўтаптанай шырокай пагонцы. Да яе ён і падаўся.

Прабегшы крокаў дзвесце паўз хмызняк, Алесь ступіў у шырокі калідор паміж дзвюма сценкамі палаючага збожжа.

Полымя шпарка бегла насустрач Алесю.

І калі яно шуганула зусім блізка, Алесь затуліў левай рукой вочы і, захлынаючыся ад жару і едкага дыму, рынуўся ў вузкі праход, перавіты гібкімі языкамі агню.

Не чуючы, як агонь асмаліў русыя валасы, як лузнула скура на апечаным вуху і руцэ, амаль трацячы прытомнасць, вырваўся Алесь з агню.

Яшчэ крокаў пяцьсот — і вёска. Алесь не чуе болю, — ён дабяжыць, камандзір атрымае тэлефон.

Алесю робіцца нават весела.

Вось ужо засталося крокаў дзвесце, відаць родная хата.

— Але хто гэта там узбіўся на паркан?.. Ці не Марынка? Вось дурная дзяўчынка!.. Куды вылезла!.. Тут жа кулі!..

Алесь махае Марынцы рукамі, каб уцякала... Марынка адказвае тым жа...

— Няўжо пазнала?.. От нягодніца! — радасна ўсміхаецца Алесь і раптам чуе, як нешта апякае яму шыю...

Паркан з Марынкай скачуць некуды ў вышыню, а проста ў твар кідаецца засыпаная чорным дробненькім попелам пагонка.

«Ранены!» — мільгае ў Алеся ў галаве; перад вачамі на чырвоным фоне мітусяцца чорна-зялёныя кругі; млявасць агортвае

ўсё цела і... раптам: «А тэлефон?!»

Апошняя думка раздзірае чорную заслону непрытомнасці: Алесь зноў бачыць пад сабой чорную ў попеле пагонку.

Перамагаючы бязмежную млявасць і боль, Алесь паварочваецца на бок і, сцяўшы зубы і трасучыся ўсім целам, выдзірае з нагруднай кішэнькі блакнот, аловак і піша:

— У камандзіра разбіла апарат, даст...

Ён яшчэ бачыць, нібы скрозь туман, як, уздымаючы на распаленай пажарышчам зямлі босымі нагамі чорна-шэры пыл, да яго бяжыць Марынка і... чорная апона зноў насоўваецца на вочы...

— Дзе нашы? — адкрывае Алесь вочы.

— Маці ў хаце, а я вось тут, — адказвае Марынка, паказваючы на свае папяканыя ногі, адна з якіх забінтаваная. Алесь касавурыцца на чалавека ў халаце:

— Полк наш дзе?

Праз гадзіну пасля таго, як вас паднялі, перайшоў рэчку і пагнаў палякаў далей.

Алесь радасна ўсміхаецца і, перавёўшы вочы на здзіўлены Марынчын твар, гаворыць:

— Скажаш маці, што мне цяпер вельмі, вельмі добра.

## ПАЯДЫНАК
*Апавяданне*

Патрывожаны звер, адчуўшы небяспеку, выйшаў з зімовага логава, але, не згубіўшы пробку, прайшоў кіламетраў пяць і зноў залёг, па меркаваннях культнаглядчыка, у Казіным рагу.

Казіным рогам зваўся кут балота, што разляглося бязмежнымі абшарамі махавога куп'я, зарослага дробным балотным сасоннікам ды бярэзнікам.

Увосень не раз даводзілася паляваць на ім па цецеруках, пардвах ды глушцах.

Успаміналіся росныя ранкі, калі балота тоне ў смузе тумаfoў. Нібы адкуты з плаціны, у якую нейкія казачныя ювеліры паўпраўлялі цудоўныя пэрлы, ляжыць балотны дол; часам заступаючы дарогу адмысловымі фантастычнымі кандэлябрамі, уздымаюцца над ім кусты буякоў, абвешаныя матавымі галачкамі буйных ягад; устрывожанымі цёмна-ліловымі марамі выплываюць з туману густыя кроны сасонніку; ды ззаду кладзецца сакавітая сцежка; ды таямнічую, да роспачы маўклівую цішу

раптам парушае гергатанне патрывожаных пардваў.

Але ўзыходзіць сонца, разбягаюцца русалчынымі карагодамі туманы, і знікае казачнае царства балотнага ранку.

На змену яго чараўніцтву прыходзіць дрыготкае напружанне паляўнічага азарту, калі сабака прыпадае долу і кожны момант чакаеш парыву вывадка... Лапатанне крылля, узлёт і момант, калі ўся істота канцэнтруецца на нябачнай рысе, што прабягае праз мушку і кладзецца на спіну ці бок імклівай у прагным лёце птушкі...

Але так бывае ўвосень, а зараз — балота, засланае суровым абрусом лютаўскага снегу, які апранае яшчэ тоўстымі рукавіцамі пульхныя лапы сасонак і прытуліўся белымі камячкамі ў развілінах галін, ды час ад часу звісае з іх тоненькімі празрыстымі бірулькамі. Разграбаюць кашлатымі лапкамі снег у пошуках спажывы бялюткія, чырванабрывыя пардвы; пералятаюць па ўскрайку балота з бярозы на бярозу, абсыпаючы філігрань шэрачы, лірахвостыя цецерукі; сакаліным узмахам распластвае магутныя крылы прыгажун-барадач глушэц. І недзе ў куце гэтага нерухомага, але поўнага маўклівага зімовага жыцця, абшару, у выдранай у торфе круглавінцы ляжыць патрывожаны і злосны звер.

Ляжыць неспакойна: варочаецца, мармыча ды чуйным вухам ловіць і фіксіруе ў сваёй соннай свядомасці кожны шорах, кожны балотны да лясны гук. Ляжыць не ведаючы, але адчуваючы невытлумачальным звярыным інстынктам невядомую пагрозу, якая прымусіла пакінуць належанае за зіму месца, якая прытаілася ў абступіўшым балотны кут лесе, якая ўвасабляецца ў невядомых яму, але інстынктам адчутых трох паляўнічых...

Пасля гадзіны маўклівай і шпаркай хады спыніліся на прагалінцы, якую пераразаў шырокі след. Ён выходзіў з-пад аграмаднай яліны, да якой, нібы шукаючы ў разложыстым галлі аховы ад сцюжы, прытулілася трапяткая ўлетку, а зараз беспарадная, нібы распранутая асіна. На другім баку прагаліны след губляўся ў маўкліва-насупленым гушчары зімовага чарналесся.

Відаць, звер ішоў у адлігу; цяжарам лап аграмаднага цела мокры снег быў праціснуты аж да зямлі; пазней мароз закуў у лёд гэтыя яміны — сведкі праходу патрывожанага ляснога гаспадара...

Пасля кароткай ціхай нарады вырашылі, што адзін з паляўнічых пойдзе разам з культнаглядчыкам шукаць бярлогу; другі ж застанецца на месцы — на выпадак, калі чуйны звер не дасць ім

падысці і паводле аднаму яму вядомай звычкі пойдзе ў пяту — будзе ўцякаць па ўласнаму следу той самай дарогай, якой прыйшоў у бярлогу.

Дзве постаці павярнулі ўбок, хутка згубіліся між апушаных шэраччу галін, і чалавек застаўся сам-насам з бяскрайным, здавалася, мёртва-нерухомым і маўклівым лесам; з аграмадным, абледзянелым следам звера.

Агледзеўся. Найлепшым месцам засады было падножжа яліны. Павольна пайшоў да яе; па дарозе ступіў у мядзведжы след. Абутая ў валенак нага свабодна ўвайшла ў яміну. Прапаўзла не зусім усвядомленая думка: «Ого! Пудоў на васемнаццаць звярына».

Стаў пад яліну, абапёрся спіной на таўшчэзны ствол.

Хутка холад зімовага дрэва прайшоў праз аўчыну кажуха і прабег мурашкамі ўздоўж спіны. Успомніўся ўтульны пакой, зялёнае святло настольнай лямпы, любімая праца...

Адкідаючы ўспаміны, устрасянуў галавой і павярнуў твар да другога боку прагаліны, дзе пад абвешаным бірулькамі падлескам знікаў звярыны след. Глядзеў на яго, і перад вачмі паўставаў абрыс аграмаднага шыракалобага звера з гарачай, ашчэранай жоўтымі ікламі зяпай, з чорнымі, нібы варанёнай сталі, вяршковымі кіпцюрамі...

Малявалася карціна сустрэчы-паядынку, магчымасць няўдалага стрэлу ці асечкі... жалезныя абдымкі магутнага звера, боль раздзіраемага цела і... страх, — жывёльны страх самааховы пачаў агортваць істоту...

Уздрыгануўся... Наперадзе чулася нястройнае чмяканне... Пальцы здранцвелі на стрэльбе, але зараз жа аслаблі...

З правага боку на прагаліну выйшлі ласі. Наперадзе, нібы не дакранаючыся капытамі да рыхлага снегу, ішоў барадаты самец, ён чуў пах людзей, якія тут прайшлі, насцярожана выцягваў наперад трапяткую сапу, цягнуў паветра, пужліва касавурыў бліскучыя вочы. Ён вёў за сабой лошу, побач з якой, правальваючыся неспрактыкаванымі вострымі капытцамі ў снег, подбегам ішло паўгадовае цяля, а за імі, нядбайна і гулліва патрасаючы гарбаносай галавой, рушыў пералетак. Дайшоўшы да чалавечага следу, лось спыніўся, абнюхаў яго, уважліва агледзеўся наўкол, порснуў, размашыста пераскочыў цераз стужку следу і ўпэўнена павёў сваю сям'ю міма не заўважанага ім паляўнічага, пакідаючы на рыхлым снезе толькі нязначныя ямінкі, якія так не пасавалі да аграмаднай вагі цела звяроў.

Лосі зніклі ў абдымках ляснога бязмежжа, а перад вачмі ча-

лавека стаяў прывабны малюнак іх свабоднае, лёгкае хады і нараджалася прагнае жаданне ўнікнуць спаткання са зверам, пайсці з гэтага небяспечнага месца і шырока, як тыя лосі, крочыць па лясных абшарах, глядзець у халодны блакіт лютаўскага неба і ведаць, і быць упэўненым, што для жыцця твайго няма пагрозы, што ты, напэўна, будзеш жыць і мець асалоду ад усіх магчымых радасцей жыцця.

Чалавек агледзеўся. Наўкол быў абыякі і халодны лес. Пачыналася адліга, таяла шэрач, падала кроплямі на снег, распаўзалася цёмнымі плямамі па ствалах дрэў; здавалася, лес плача аб нечым лёсе, плача маўкліва і тужліва, стрымліваючы рыданні. Было самотна і няўтульна. Ён з зайздрасцю глядзеў на кашлаты гушчар ельніку, што цёмна-зялёнай гурбой тоўпіўся ў канцы прагаліны.

— Ці не забрацца лепш у гэты ратаўнічы гушчар і... будзе звер блізка; будзе зручны і пэўны момант для стрэлу — біць, а не... Хіба ён не гаспадар над сваімі ўчынкамі, хіба ён абавязкова павінен рызыкаваць жыццём?..

Гэта жаданне яшчэ не афармілася ў вырашэнне, а ён ужо ступіў некалькі крокаў да яловага зарасніку. Ступіў і спыніўся, бо перад вачмі паўстаў малюнак.

Ён сядзіць у кашлатым гушчары, а звер, да логава якога зараз, мусіць, падбіраюцца ўжо таварышы, праходзіць вось тут, пад гэтай ялінай, і нястрэлены знікае ў лясной прасторы. А пасля... Здзіўленыя і недаўменныя позіркі, аналіз слядоў і… захаваная пад холадам абыякавасці ўпэўненасць таварышоў, — стрыманая пагарда...

«Баязлівец! — так, так — ганебны ярлык баязліўца на ўсё жыццё: «...той, што баяўся сустрэцца са зверам»... кплівыя погляды, усмешкі... А жонка?.. Хіба яна здолее захаваць сваю да яго павагу?..»

— Не! Лепш самая безнадзейная сустрэча, чым гэта. Лепш смерць!

Прагнымі вачмі азіраецца наўкол. Яму здаецца, што нехта падслухаў, падгледзеў яго баязлівыя думкі і паводзіны. Ён адчувае, як кроў залівае сорамам твар, шыю, вушы... Робіцца горача. Ён вяртаецца да яліны, абтаптвае ля яе снег, яшчэ раз аглядае стрэльбу, набоі, утыкае ў кару асіны так, каб на выпадак патрэбы лёгка было ўхапіць, нож... Ён вырашыў.

І дзіўная рэч: разам з гэтым вырашэннем у толькі што разгубленую і атручаную страхам свядомасць прасякае разважны спакой і ўпэўненасць у перамозе. Ён ужо не думае аб небяспецы

сустрэчы, але, абапёршыся плечмі на яловы ствол, вымярае вачмі шырыню прагаліны, улічвае напрамак ветру...

Так ён стаяў пад разложыстымі яловымі лапамі, паклаўшы на левую руку падрыхтаваную да стрэлу дубальтоўку. Стаяў і ведаў, што хай звер выйдзе — ён будзе яго біць спакойна і метка... і ні ў якім выпадку з дарогі яму не саступіць. А наўкол стаяў лес такі самы, здавалася, маўклівы і нерухомы, але ён не выглядаў ужо такім насцярожана-варожым, і вуха лавіла безліч гукаў, напаўняўшых гэтую павярхоўную цішу. Вось шорах справа, — гэта папаўзень спрытна скача па кары ясеня ў пошуках здабычы. А ззаду? — вавёрка латашыць яловую шышку ды кідае долу луску. А там у глыбі недзе — жаўна дзяўбе сухастоіну. А ззаду, лявей? — гэта пырхнуў рабок. І вось да гэтых гукаў раптам далучыліся новыя. Да апошняга рубяжу абвострыўся слых.

Ён! Вось пралазіць праз гушчар... Шмаргануўся бокам аб дрэва... Наступіў на ламачыну, што тырчэла з-пад снегу...

Бясконцая хвіліна слыхавога напружання... у гушчары мільганула круглае вуха... бурае сцягно, і... крыху правей следу наперадзе абрысаваўся звер.

Мядзведзь ішоў павольна. Ішоў унурыўшы галаву, прыглядаючыся, прынюхваючыся...

— Калі падыдзе на дваццаць крокаў — буду біць...

Звер набліжаўся — вочы лічылі адлегласць:

— Сорак... трыццаць... дваццаць пяць... пара!

Перакінулася шыйка ложа з левай рукі ў правую, нервова ўзняліся ўгору ствалы...

Мядзведзь спыніўся і, крыху прысеўшы, падаўся назад; прыціснуліся да галавы вушы, скура над носам зморшчылася, верхняя губа ўзнялася над ікламі...

Нібы зламаная сухая галіна, трэснуў у зімовым паветры стрэл...

Звер скочыў наперад і... паваліўся на бок, равучы і хапаючы зубамі за левае плячо; але ў наступны момант ён ужо стаяў дыбка і, дыхаючы цяжкім рэвам ашчэранай зяпы, ішоў на паляўнічага, выцягнуўшы наперад правую лапу, — левая, перабітая ў плячы, то беспарадна ўздымалася, то ападала...

Амаль ва ўпор стрэліў другі раз і, адкінуўшы дубальтоўку, вырваў з асіны непатрэбны ўжо нож, бо звер, хапіўшыся лапай за галаву, з амаль чалавечым стогнам рынуўся долу і застаўся ляжаць на месцы; і толькі заднія лапы ў смяротнай хадзе разграбалі снег, выдзіраючы з-пад яго мох ды трухлявае гніллё. Толькі

што перажыты момант напружання волі азваўся моцным сэрцабіеннем ды нейкай млявасцю ў нагах; крыху кружылася галава. Але на змену гэтым адчуванням недзе з-пад грудзей уздымалася хваля бязмежнай радасці і гарачымі плынямі разлівалася па ўсёй істоце. І голасны крык перамогі «О-го-го-го!..» разбудзіў прыцішаны стрэламі лес і, праляцеўшы па абшары, прынёс адказныя крыкі таварышоў.

Праз некалькі хвілін яны падбеглі ўжо да яго і, радасна ўсхваляваныя, з усмешкай таварыскай прыязні і з лёгкай паляўнічай зайздрасцю паціскалі рукі, пахлопвалі па плячах — віншавалі.

Але ён, абапёршыся нагой на аграмадную шыракалобую галаву звера, стаяў, поўны шчасця, якое ведае толькі той, хто змагаўся і перамагаў.

## ЧАЛАВЕЧАК У ШТОНІКАХ

*Гісторыя аднае кар’еры*
*Урыўкі з аповесці*

### I. ЧАЛАВЕЧАК

Мы маглі б намаляваць вельмі дэталёвы яго партрэт, але, памятаючы мудры сказ «Трымайся за асноўнае», звернем вашу ўвагу, чытач, на самую цікавую і, безумоўна, індывідуальную асаблівасць чалавечка — на яго не то мультановыя, не то паркалёвыя штонікі ўзору дзетдома эпохі ваеннага камунізму, якія ва ўсе перыяды рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва і ва ўсе часы года кожнага з гэтых перыядаў нязменна матляліся на яго кароценькіх і тоненькіх ножках. Апроч своеасаблівага аблічча, штонікі гэтыя ўладалі якасцю, як барометр надвор’е, паказваць настроі і адчуванні чалавечка. Кожны больш-менш уважлівы назіральнік мог, прыглядаючыся да паводзін штонікаў, беспамылкова сказаць, што адчувае, што думае, а нават і што збіраецца рабіць чалавечак.

Другой, не менш індывідуальнай, але менш пастаяннай асаблівасцю чалавечка была, відаць, прыродная летуценнасць натуры. Дзякуючы гэтай рысе характару чалавечак, стоячы штодня за стойкай памочніка правізара ў Першай і адзінай савецкай аптэцы гарадка N і паглядаючы час ад часу праз прастрэленае яшчэ ўвесну 17-га года саматужным анархістам Галамаўзей* вакно, карыстаўся кожным выпадкам, каб унесціся на крыллях

летуцення, як кажуць паэты, у краіны казачных фантазій.

Але не падумайце, дарагі чытач, што чалавечак уладаў фантазіяй, — не. Проста кожны прахожы выклікаў у яго вузенькім чэрапе шэраг думак, якія нязменна спалучалі яго асобу з гэтым прахожым; і ў той час, калі рукі змешвалі розныя хімікаліі, ствараючы пілюлі і кроплі, свядомасць выскаквала праз востранькія, нібы чорныя бісерынкі, вочкі і крочыла па вуліцы. Так, убачыўшы хворую хранічнай наіўнасцю грамадзянку Канапкіну, чалавечак уяўляў, што яе дзевяціпудовы муж труціцца кілбасой уласнага вырабу, а ён, ажаніўшыся з гэтай пульхнай нэпманкай, прыбірае да рук кілбасную гаспадарку, наладжвае шыкознае жыццё... Фантазія нястрымна неслася ўслед за Канапкінай, але... міма акна праходзіў начальнік мясцовай міліцыі — Дужкін, і чалавечак ужо ўяўляў сябе на яго месцы. Ён бачыў летуценнымі вачамі, як, спрытна выкарыстоўваючы сваё службовае становішча і значную адлегласць ад акруговага і рэспубліканскага цэнтраў, спраўна бярэ хабары з мясцовых нэпманаў. Бачыў, як нізка і лісліва яны яму кланяюцца, але... Міма акна ішоў дзядзька Бульбянік, і мары чалавечка набывалі такі імпэт і памеры, што замест 0,6 іпекакуаны — валіў 6,0 і замест 5,0 тынктуры опія — 25,0...

Вынікі атрымліваліся самыя нечаканыя. Пацыент, глынуўшы конскую дозу іпекакуаны, замест палёгкі ў кашлі, — драў козлы; другі, выпіўшы для супакаення болю ў жываце опія, засынаў, і так моцна, што яго не маглі дабудзіцца і вінавацілі ў прыходзе на работу ў п’яным выглядзе...

Дачасу ўсё гэта чалавечку сходзіла з рук, бо ўсе гэтыя вынікі спалучэння летуценнай натуры з прафесіяй памочніка правізара мясцовы лекар Перапечка прыпісваў недасканаласці чалавечай натуры.

Але... да пары збан ваду носіць. Так, аднойчы прыйшла бяда і на чалавечка ў штоніках.

## II. ДУЖКІН

Свае крыміналістычныя здольнасці Дужкін выявіў яшчэ ў семнаццатым годзе, злавіўшы з палічным аднаго бежанца, які

* Гэты акт быў накіраваны Галамаўзей супроць правізара Сакаловіча, які мужна адмовіўся выдаць яму без рэцэпта стопку спірытусу. На шчасце, куля з «бульдога», прабіўшы акно, расляскалася аб таўсты шкляны корак бутэлькі, якая стаяла паміж акном і Сакаловічам, і апошні застаўся жыць і тварыць парашкі.

ўкраў у яго баханак хлеба. Было гэта ў суседнім з N раённым цэнтры, дзе ў Дужкіна была саматужная хлебапякарня.

Паколькі хлеб пёк ён сам, пры дапамозе толькі аднаго работніка — хлапчука год шаснаццаці, які толькі таго і рабіў, што цягаў ваду, муку, калоў дровы, мясіў цеста, паліў у печы, выграбаў з яе жар ды падмятаў падлогу, то Дужкін лічыў сябе рабочым чалавекам і патомственным пралетарыем, бо бацька яго таксама быў пекарам-саматужнікам.

Гэтае перакананне, відаць, і было прычынай знаходжання Дужкіна ў нейкай нацыянал-народніцкай, прабачце, чытач, партыі, ячэйку якой ён спрабаваў стварыць у сваім родным мястэчку, але, паколькі прыхільнікаў не знайшлося, справа гэтая заглохла, а пазней ён і сам стараўся, каб успаміны аб ёй зніклі з людской памяці, кажучы, што «ўспамін не ў пару — горш хваробы». Разам з усім гэтым Дужкін лічыў сябе кармільцам мястэчка і дабрадзеем вакольных «мужыкоў», бо што сапраўды рабілі б яны са сваім хлебам, каб не было яго — Дужкіна.

Такія высокія думы аб сваёй асобе, а галоўнае, цвёрдыя цэны на хлеб зрабілі тое, што ён аднойчы перадаў сваю пякарню з інвентаром харчоваму аддзелу рэўкома і за такі самаахвярны ўчынак атрымаў магчымасць змяніць пекарскую лапату на міліцэйскі наган.

Праслізнуўшы такім чынам на больш шырокі жыццёвы шлях, Дужкін, ездзячы аднойчы па барацьбе з самагонам, ажаніўся з дачкой аднаго аграрыя, які раней дастаўляў яму ў пякарню муку, а зараз ціснуў з яе самагон. І вось, пасля тыдня ўзмоцненай барацьбы з гэтым самагонам, Дужкін вярнуўся ў роднае мястэчка з апухшым тварам і маладою жонкай, якая, паводле ўсіх папярэдніх паказальнікаў, павінна была з часам дагнаць, а то і перагнаць свайго бацьку і вагой, і кемнасцю.

Ажаніўшыся, Дужкін адчуў, што яму для поўнага шчасця, а галоўнае, для ўпэўненасці ў далейшым росце і росквіце не хапае толькі адпаведнага рухавіка, які ён бачыў у... партбілеце.

Ён падзяліўся сваімі ганарлівымі марамі з жонкай, і тая з уласцівай ёй прыроднай, чарназёмнай вынаходлівасцю параіла мужу пераехаць у суседні раён N, дзе партыйным жыццём кіраваў Бульбянік, па водзывах тамтэйшых аграрыяў, чалавек вельмі спагадны і лагодны.

## III. БУЛЬБЯНІК

Ён чамусьці лічыў сябе сынам народа. Магчыма, упэўненасць гэта вырастала з ранейшай прыналежнасці да нейкай нацыянал-

народніцкай, прабачце, партыі, што ў часе нашага апавядання ён вельмі старанна захоўваў і ад кампартыі, у якой часова знаходзіўся, і ад падпарадкаваных яму камуністаў. Мы лічым гэта самым верагодным тлумачэннем, бо і бацькі, і дзяды, і сваякі Бульбяніка былі слуцкімі аграрыямі-хутаранамі, якія значна больш супольнага мелі з шчыра любімымі імі свіннямі, каровамі ды племяннымі жарабцамі, чымсьці з народам, на які яны глядзелі выключна з меркантыльнага пункта гледжання. І наўспрэч запэўненням нейкага даматканага філосафа: з міру па нітцы — голаму вяроўка, казалі: «З голых па нітцы — надзетаму кашулька».

Выходзячы з гэтага эканамічнага меркавання, Бульбянік быў упэўнены, што чым больш будзе голых, тым больш і надзетых, і шчыра турбуючыся аб апошніх, старанна імкнуўся павялічыць лік першых. Для гэтай мэты ён упарта даводзіў, што ні сакаўскі плуг, ні трактар не адпавядаюць прыродна-геаграфічным ды кліматычным асаблівасцям раёна. Ён захапляўся і ўсхваляў залаты век старажытнасці з яго дзедаўскай сахой, трохполкай, лазовымі лапцямі, каўтуном ды мякінным хлебам, кажучы, што без гэтых асаблівасцей народ зусім і не народ, а нешта азіяцкае. Не абмежаваўшы гэтым свае турботы аб «надзетых», Бульбянік вельмі старанна ўзіраўся на здабыткі заходнееўрапейскай культуры і захоплены яе праявай — дацкімі хутарамі, вельмі старанна насаджваў іх на абшарах раёна; і робячы выгляд, што не чуе, як «голыя» клянуць гэтую «культуру», казаў, што не мае права супярэчыць народнаму імкненню да такой формы землекарыстання, здольнай цалкам задаволіць своеасаблівыя нацыянал-індывідуалістычныя ды індывідуал-псіхалагічныя рысы народа, пад якім разумеў выключна «надзетых» — аграрыяў.

У сваіх турботах аб гэтых «рысах» Бульбянік старанна захоўваў у народнай мове такія тэрміны і ўзбагаціў яе такімі наватворамі і варварызмамі, якія, шануючы чытача і крытыку, мы не рызыкуем тут прывесці.

Апроч гэтых асаблівасцей, дзейнасць Бульбяніка вызначалася надзвычайнай рашучасцю і паслядоўнасцю.

Ён вельмі рашуча ліквідаваў усялякія праявы незадавальнення яго чыннасцю з боку «голых» — бясконнікаў і падпарадкаваных партработнікаў — і вельмі паслядоўна выжываў апошніх з раёна ці шматлікімі «паставіць на ўвагу», «абвясціць вымову» заганяў іх у казіны рог, дзе яны альбо паныла сядзелі, альбо паціханьку стараліся на практычнай рабоце абвергнуць тэарэ-

тычныя і практычныя пабудовы Бульбяніка.

Праўда, знаходзіліся сярод іх і такія, што ўпарта не скараліся і зварочваліся ў цэнтр. Але Бульбянік меў там моцнае падтрыманне некаторых вельмі ў той час уплывовых асоб, і ўдары, накіраваныя супроць яго, падалі на галовы тых, што накіроўвалі іх, прычым Бульбянік казаў: «Сам нагатаваў — сам і сёрбай».

Захоплены такой рашучай і паслядоўнай дзейнасцю, Бульбянік пачаў ужо бачыць у сне, што насельніцтва N-скага раёна гаворыць на такой «нацыянальнай» кондавай мове, што яго не разумее нават сам Бульбянік, не кажучы пра жыхароў суседніх раёнаў. Усе апрануты ў зрэбніну, абуты ў лыкі. На нівах больш васількоў, чым каласкоў. Няма ні сёл, ні вёсак, і сам дзяржаўны муж Сталыпін, устаўшы з дамавіны, ляпае яго па плячы і кажа: «Малайчына, Бульбянік! Лепш не ўправіўся б і я». Што тычыцца раённых працаўнікоў, дык яны падабраны выключна з людзей, якія цалкам падзяляюць яго погляды і перакананні, і яму застаецца толькі сказаць: «Глядзі, адпачывай, асаладжайся!»

## IV. ТРАПНАЯ ПАРАДА

Дужкіну не прыйшлося каяцца, паслухаўшы жончынай парады, якая была вельмі своечасовай, бо начальнік Дужкіна ў родным раёне пачаў ужо касавурыцца ды вельмі і вельмі старанна прыглядацца да яго міліцэйскай дзейнасці, што пагражала шматлікімі непрыемнасцямі.

І вось Дужкін, перабраўшыся ў N, вельмі шпарка давёў Бульбяніку сваю лаяльнасць да яго палітыкі і пры яго кіраўнічым падтрыманні вельмі спрытна абышоў партарганізацыю і ў вельмі хуткім часе, ужо з партбілетам у кішэні гімнасцёркі з аграмадным кольтам у кабуры, працаваў пад кіраўніцтвам Бульбяніка на пасадзе начальніка раённай міліцыі.

Так дзякуючы трапнай парадзе жонкі і прыхільнасці Бульбяніка пачаў квітнець Дужкін на фоне шматлікіх садоў N.

Квітнела і прыбывала ў вазе яго жонка. К пачатку нашага апавядання яна пры ўсёй кволасці і чуллівасці свае натуры важыла ўжо цэнтнер і пятнаццаць кілаграм і, удасканаліўшы такім чынам свае фізічныя якасці, старанна рупілася аб удасканаленні культуры, беручы лекцыі французскай мовы ў настаўніка мясцовай школы другой ступені.

## V. ТРЫВОГА

Аднак усё на свеце мае свой канец, і ў сям'ю Дужкіна пра-

сякла трывога і парушыла спакой мадам Дужкінай*.

Нягледзячы на тое, што мадам Дужкіна лічыла першы перыяд НЭПа канчальнай фармацыяй грамадскага ладу, народ на чале з партыяй прызнаваў такі стан рэчаў пераходным і пачаў ужо рашуча на яго наступаць. Вынікі гэтага наступу для мадам Дужкінай былі самыя непрыемныя: яе бацьку-аграрыя раптам абклалі такім ураўніцельным падаткам, што, калі б ён яго заплаціў, дык прыйшлося б аддаць палову прыбыткаў. Зразумела, калі б гэтыя прыбыткі былі нязначныя, дык — «аб чым гутарыць!», але прыбыткі былі вялікія і... «аддаць палову іх ліха ведае за што!..»

Абурэнне мадам Дужкінай было тым больш справядлівым, што ў N-скім раёне, на чале жыцця якога стаяў Бульбянік, а на чале міліцыі — яе муж, усё было гладка, ціха, спакойна: «адны працуюць, другія набываюць — усё, як належыць». А тут побач — у суседнім раёне, ды не толькі ў суседнім, але скроз: «нейкія непрыемныя, колкія людзі пачынаюць уціскаць яе бацьку, нішчыць такое лагоднае і зразумелае жыццё, нібы зноў да ваеннага камунізму павярнуць усё хочуць!».

Мадам Дужкіна так расхвалявалася, што Перапечка вымушаны быў прыпісаць ёй кроплі.

На нашу думку, кроплі гэтыя не супакоілі б дзейнасці доччага сэрца мадам Дужкінай. Але затое нам вядома, што яны былі тым колам гісторыі, якое падхапіла чалавечка ў штоніках і закруціла яго так!.. што гэтым кроплям прыйдзецца прысвяціць асобны раздзел.

## VI. КРОПЛЯ КРАТОНАВАГА МАСЛА

Перапечка прыпісаў мадам Дужкінай страфант, а чалавечак, марачы аб тым, што б ён рабіў, што б еў і як бы спаў, калі б быў на месцы Бульбяніка, наліў у спірытус, на якім гатаваў кроплі, — кратонавага масла.

Вынік гэтай няўважлівасці быў раптоўны і патрасаючы. Не паспела мадам Дужкіна, прыняўшы кроплі, прылегчы на канапу, як адчула, што ў чэраве ў яе — вулкан...

Што было далей — мы не бярэмся апісаць. Можам толькі пераказаць са слоў відавочнікаў, што пасля гэтых сэрцасупакайваючых кропель яна страціла тыя пятнаццаць кілаграм, якія

* Так называлі яе мясцовыя гандляры, прыносячы разам з просьбай не вельмі націскаць са спагнаннем падаткаў такія-сякія спажыўныя рэчы.

перавышалі цэнтнер яе асноўнае вагі.

Выкліканы дамоў Дужкін, убачыўшы сваю кемлівую жонку ў такім жаласным і зняважлівым стане, у адзін момант з лагоднага хабарніка ператварыўся ў агнявік, палаючы гневам, абурэннем і помстай, і з крыміналістычнай праніклівасцю рынуўся... не да Перапечкі, у медычныя здольнасці якога ён свята верыў пасля таго, як той вельмі ўдала выціснуў скулячку на адным з невыгодных месц яго начальніцкага цела, але ў аптэку. І ў той момант, калі чалавечак, плаваючы ў прыемных хвалях чарговай мары, сыпаў у ступку замест цукровай пудры гемараідальны парашок, Дужкін хапіў яго за каршэнь і затрос перад яго збялеўшым носікам кулаком з зацятымі ў ім бутэлечкай і рэцэптам.

## VII. «ГЭТА НЕ Я!»

Чалавечак без слоў зразумеў, у чым рэч. Штонікі яго падскочылі, затрэсліся і закруціліся жгутом. Ён так перапалохаўся, што мог толькі махаць ручкамі і галасіць:

— Гэта не я! Не я, не я!

— Не я! — крычаў ён, пакуль яго валаклі ў міліцыю, і ў міліцыі, і на допыце, які праводзіў сам Дужкін, бачачы ў здарэнні замах на жыццё жонкі.

Гэтае бясконцае і ўпартае «не я» прымусіла Дужкіна паставіць пытанне рубам:

— А хто?

Чалавечак змоўк.

— Хто?! — крыкнуў Дужкін і стукнуў па стале кулаком.

Крык і стук вярнулі чалавечку здольнасць разважаць. У мазгу бліснула ратаўнічая думка, і ён ледзь чутна пралапатаў:

— Гэта не я — гэта Сакаловіч.

Чалавечак быў адпушчаны, і пачалося следства па ўсіх правілах папяровай валакіты: з допытам, даведкамі, сведкамі, пратаколамі з адхіленнем Сакаловіча ад работы, з падпіскай аб нявыездзе.

## VIII. ВАКСА І ЧАЛАВЕК

Па гарадку папаўзлі пэўныя чуткі, што Сакаловіч рабіў замах на Дужкіна, але атруту памылкова выпіла яго жонка і засталася жыва толькі дзякуючы сваёй выдатнай камплекцыі.

З прычыны такіх чутак быў скліканы тэрміновы сход мясцкома медсанпрацаўнікоў.

Штонікі чалавечка ўсё яшчэ трэсліся і прымушалі яго інтэнс-

іўна думаць, як адвесці ад сябе ўсялякія падазрэнні. У выніку гэтых дум прыйшло перакананне, што адзіны яго ратунак у далейшым — абвінавачванні Сакаловіча.

І вось на сходзе медсанпрацаўнікоў чалавечак, падбадзёраны развінуўшыміся, як сцяг, штонікамі, удала давёў, што Сакаловіч — чужы элемент, які раней, трэба думаць, быў кампаньёнам былога аптэкара і абгрунтаваў гэта тым, што такі добры правізар не мог работаць за тую мізэрную плату, якую атрымліваў ад аптэкара. Затым выказаў думку, што паміж былым аптэкарам і Сакаловічам былі нейкія патаемныя матэрыяльныя ўзаемаадносіны.

Хаця ўсе добра ведалі ранейшае жыццё Сакаловіча, дабрабыт якога ніколі не ўздымаўся вышэй фаршыраванай шчукі ў сяточныя дні, але пытанне прафсаюзнасці Сакаловіча павісла на валаску.

Такая ўжо, мусіць, натура чалавечая, што заўсёды прыемна бачыць сябе добрасумленным грамадзянінам, прынамсі хоць крыху лепшым, чым твой таварыш.

Не абмежаваўшыся адным Сакаловічам (апетыт прыходзіць у часе ежы), чалавечак абвінаваціў старшыню мясцкома Перапечку і ўсё праўленне ў бяздзейнасці і адсутнасці выхаваўчай работы; і ўсё гэта так трапна, што сход пастанавіў пераабраць праўленне. Перавыбары адбыліся на другі дзень і... чалавечак апынуўся на чале новага праўлення.

Такім чынам, дарагі чытач, хаця Кузьма Пруткоў кажа: «Вакса чэрніць для карысці, а чалавек — для прыемнасці», мы пакарыстаемся выпадкам, каб унесці папраўкі ў гэты афарызм, і ў нашай рэдакцыі гэта будзе: «Вакса чэрніць для карысці чалавечай — чалавек для ўласнай».

## IX. ВЫНІКІ І ВЫВАДЫ

Тымчасам следства, заблытаўшыся ў сабе самом, спынілася. На нашу думку, спынілася яно з тае прычыны, што мадам Дужкіна, часова забыўшыся на свае доччыя пачуцці, пачала актыўна аднаўляць страчаныя пятнаццаць кілаграм. Іменна гэты факт так спрыязна ўплыў на Дужкіна, што Сакаловіч быў вызвалены з-пад следства і мог спакойна беспрацоўнічаць.

Праўда, такі стан рэчаў быў кароткатэрміновы, бо акруговае праўленне медсанпрацы адмяніла пастанову мясцкома аб выключэнні Сакаловіча з саюза, а чалавечак, заняўшы яго месца і заблытаўшыся ў рэцэптуры, дазволіў райздраву аднавіць Сакаловіча на рабоце... са зніжанай кваліфікацыяй — на пасад-

зе памочніка правізара.

Што тычыцца чалавечка, то, суняўшы трасучку штонікаў, ён, як старшыня мясцкома і правізар, зрабіўся прыкметнай асобай у гарадку і быў ахоплены самымі ганарлівымі марамі, якія ўжо не спалучаліся ні з кім з мясцовых жыхароў, але былі накіраваны ў рэчышча ўласнага вылучэння. Апошняму дапамагаў шэраг каштоўных практычных вывадаў, зробленых чалавечкам з усёй гэтай гісторыі.

Чалавечак зразумеў, што зладзейскі спосаб уцякаючы крычаць «трымайце злодзея!» можа быць шырока выкарыстаны для захавання ўласных злачынстваў. Шальмуючы таварыша, можна тое-сёе на гэтым зарабіць самому і, галоўнае, «не толькі свету, што ў аконцы», і пры адпаведных намаганнях і спрыце можна выйсці ў людзі. Ажыццяўленнем апошняга чалавечак і заняўся з усёй энергіяй, на якую толькі быў здольны, кажучы: «Лаві момант, — пакуль самога не злавілі».

## X. ПЕРШЫЯ КРОКІ

Трэба было звярнуць на сябе грамадскую ўвагу. Хаця новае праўленне мясцкома нічога не рабіла, як і старое, — у газеце пачалі рэгулярна з'яўляцца інфармацыі аб яго працы і аб дзейнасці яго старшыні. У выніку — чалавечка пачалі запрашаць на нарады.

За першым крокам паследаваў і другі — чалавечак пачаў падаваць у газету допісы.

Імкнучыся вылучыць свае артыкулы з шэрага іншых, чалавечак заўсёды стараўся браць арыгінальную тэму і даць гучны загаловак. І калі кляча мясцовага вадавоза захварэла на каросту, то чалавечак прысвяціў гэтаму здарэнню артыкул, у якім з вялікім пафасам, прынцыповымі абгрунтаваннямі і шырокімі абагульненнямі заклікаў грамадскасць на барацьбу з пошасцю. Артыкул быў надрукаваны ў газеце пад такім выдатным загалоўкам, што грамадзянскае сумленне і павага да чытача не дазваляюць нам цытаваць гэты шэдэўр пошласці.

Чалавечак быў заўважаны самім Бульбянікам, які пахваліў артыкул і загаловак, а застаўшыся сам-насам, доўга з яго рагатаў, хапаючыся за свае моцныя бульбянікаўскія бакі.

Калі на другі дзень рэдактар вельмі ветліва сустрэў чалавечка і сказаў, што яго газетная шапка вельмі спадабалася дзядзьку Бульбяніку, то чалавечак знайшоў той пункт апоры, якога яму да гэтага часу не хапала.

— Эўрыка! — сказаў ён. — Бульбянік! — вось рэцэпт і мікстура!

Зрабіўшы такое адкрыццё і праслухаўшы адно з рашучых і паслядоўных выступленняў Бульбяніка на сходзе, прысвечаным трохсотгоддзю мясцовага друку, чалавечак пачаў насычаць свае артыкулы тэрміналогіяй («бабулька бацькаўшчына», «Адраджэнне культуры і гаспадаркі») і перавіваць іх паэтычнымі вобразамі «васількі ніў нашых», «зарунела майскімі кветкамі...».

Старанні чалавечка былі заўважаны, і на імянінах мадам Дужкінай Бульбянік, пасля эннай чаркі, вельмі прыхільна спытаў чалавечка:

— А скажы, дружа, чаму ты да гэтага часу не ў партыі?

Штонікі чалавечка падскочылі на жываце, у яго захапіла дух, ён збялеў, пасля пачырванеў і, заікаючыся, залапатаў, што ён:

— Вельмі... але... аднак... канешне...

— Зробім! — ляснуў яго пратэктарскі па плячы Бульбянік і, перакуліўшы яшчэ адну чарку, кракнуў і абвёў прысутных урачыстым начальніцкім позіркам.

Лёс чалавечка быў вырашаны. Яму зараз жа налілі ў чарку замест гарэлкі мадэры мясцовага вырабу, на талерку паклалі кавалак смажанага парасяці з начынкай, а праз месяц, дзякуючы стараннням Бульбяніка і Дужкіна, у нагруднай кішэньцы яго талстоўкі прыемна шалясцеў новенькі партбілет, а сам ён гаварыў: «Дагаджай начальству — дагодзіць і яно табе».

## XI. РЭДАКТАРСКАЕ КРЭСЛА

Прамінуў тыдзень — і чалавек абсталяваўся на рэдактарскім крэсле «Нашага сцяга»*, а яго папярэднік быў адпраўлены ў распараджэнне вышэйшай партарганізацыі, якая накіравала яго ў другі раён, таксама рэдактарам, дзе ён па меры сіл і магчымасцей стараўся праводзіць засвоеную ў N палітыку Бульбяніка.

Зрабіўшыся рэдактарам, чалавечак спачатку нават страціў здольнасць марыць аб далейшай кар'еры, а штонікі яго павіслі

---

* Хай чытача не шакіруе назва газеты «Наш сцяг». Бульбянікаўцы ў гэтае «наш» укладалі сэнс «свой». Так, у адным з гарадоў імі быў арганізаваны «Наш тэатр». Апроч таго, у той час яны мелі некаторыя падставы казаць «Наша акадэмія», «Наш наркамзем», «Наш наркамасветы». Нават кажучы «наша партыя», яны мелі на ўвазе не кампартыю, але той невялікі лік бульбянікаўцаў, якія выпадкова і часова лічыліся членамі яе.

нерухомымі і лагоднымі складкамі, нібы кажучы сваім выглядам: «спакой і дабрабыт».

Першы пад рэдактарствам чалавечка нумар газеты выйшаў з партрэтам Бульбяніка ў рамцы з паяскоў у крыжыкі і капыцікі на першай паласе. На другой быў меншы на 12 пунктаў партрэт самаго рэдактара ў рамцы з паяскоў у елачку. Трэба думаць, елачка сімвалізавала іманентнасць яго далейшага росту. Увесь тэкст газеты быў перавіты сказамі: «Мы шчырыя бульбянікаўцы... Пад кіраўніцтвам дзядзькі Бульбяніка... Наш правадыр — дзядзька Бульбянік».

Бульбянік самаздаволена ўсміхаўся — чалавечак паціраў шчупленькімі вяснушчатымі ручкамі.

Хаця, час ад часу чытаючы цэнтральную газету, чалавечак і бачыў, што ў N-ску робіцца зусім не тое, што ва ўсёй краіне і чаго патрабуе партыя і народ, але жаданне дагадзіць Бульбяніку прымушала яго шпаркім тэмпам напаўняць друкарскія касы газеты шматлікімі заставачкамі і канцовачкамі. Старонкі газеты з кожным днём усё больш і больш стракацелі васількамі, каласкамі, бярозкамі, паяскамі ды іншымі прадстаўнікамі флоры раёна і вельмі хутка пачалі нагадваць засмечаную пустазеллем ніву, што цалкам адпавядала стану гаспадаркі раёна.

Чалавечак расцвітаў, паводле яго выразу, як вясновая ружа, і нават адважыўся ажаніцца.

Хаця ў яго была вялікая спакуса ўзяць дачку аднаго з культурных аграрыяў раёна, але мець такую відную жонку ён не адважыўся і задаволіўся касавурай машыністкай райземаддзела, адной з выдатных якасцей якой была абсалютная індыферэнтнасць да перапісваемага тэксту, дзякуючы чаму яна магла ў часе работы, амаль не блытаючы літар, марыць аб панчохах, сукенках і лодачках.

Чалавечак падцягваў штонікі і, адчуваючы сябе шчаслівым, казаў: «Не было б шчасця, ды кратонавае масла дапамагло».

## XII. СТРАХ

Аднойчы жонка чалавечка, слухаючы ў ложку яго кар'ерыстычныя мары, раптам з уласцівай ёй практычнасцю спытала:

— Ну, а што будзеш рабіць, калі цябе выключаць з партыі?

— Як гэта выключаць? — здзівіўся чалавечак і пераканана дадаў:

— Гэта немагчыма.

Больш у той вечар не было сказана ні слова, бо чалавечак змоўк і задумаўся.

На другі дзень штонікі нечакана ўздрыгнулі, і чалавечак хапіўся за кішэньку, адчуў пад пальцам цвёрдую вокладку білета, і штонікі супакоіліся. Але з гэтага дня чалавечак пачаў сумнявацца ў непарушнасці свайго права на гэтую маленькую кніжачку, дзякуючы якой ён можа так слаўна арудаваць на рэдактарскім крэсле, і яго апанаваў страх.

Спачатку страх выяўляўся толькі ў начных кашмарах. Ён сніў, што згубіў білет ці што яго ўкралі, то раптам бачыў сябе ў кантрольнай камісіі, і страшны голас пытаў: «А дзе вашы рэкамендацыі?!»

Кашмары атруцілі яму сон.

Мокры ад халоднага поту, ускакваў ён сярод начы і палохаў жонку крыкам «гэта не я!».

Яму пачало здавацца, што жонка знарок касавурыць, каб захаваць свой пільны назірк за яго паводзінамі.

Ён зашыў сапожнай дратвай кішэньку з партбілетам, але гэта не дапамагло — страх не праходзіў, і штонікі бесперапынна трэсліся ад рання і да начы, а аднойчы жонка яго заўважыла, што яны трэсліся і ўначы, вісячы на спінцы ложка.

Чалавечак пачаў сачыць за кожным сваім крокам, за кожным словам. Але чым старанней ён гэта рабіў, тым больш дапускаў памылак і ў паводзінах, і ў друку. І хаця ніхто гэтых памылак не заўважаў — штонікі беспарадна трэсліся і пагражалі скінуцца.

Каб зрабіць выгляд надмернай занятасці, чалавечак па два тыдні не галіўся, не мыўся і не часаўся; па два месяцы не змяняў бялізны — у рэдакцыі супрацоўнікі і наведвальнікі знаходзілі яго па паху.

Сабраныя за час пачатку ўдалай кар'еры такія-сякія грошы ён забраў з ашчадкасы і зашыў у матрац. Але і гэта не дапамагло — страх не праходзіў.

Асабліва моцна апаноўваў яго страх у часе чытання цэнтральных газет, са старонак якіх патыхала шырокім размахам жыцця з нястрымным рухам наперад, аграмадным будаўніцтвам, перамогамі, дасягненнямі і змаганнем з перашкодамі.

У такія моманты штонікі паўзлі ўніз, пад сэрцам да нудоты смактала, і адчуваў ён сябе, як таракан, кінуты на лінію марскага прыбою, калі на яе коціцца чарговая хваля.

У такія моманты ён пачынаў разумець, што варта Бульбяніку пайсці на дно, як яго насягне той самы лёс. Штонікі збіраліся гармонікам, ногі рабіліся мяккія, як з ваты, у роце перасыхала, і адзіны свой ратунак ён бачыў у далейшым старанным

падтрыманні і ўсхваленні Бульбяніка і бульбянікаўшчыны.

У такія моманты ён падпаўзаў да акна, глядзеў на плошчу, па якой па бруха ў гразі брылі тошчыя свінні мясцовых абываталяў і па калена ў гразі — мясцовы попік, айцец Анцілопій.

Гэты ідылічны малюнак крыху супакойваў яго, але ненадоўга. Як муха ў павуцінні, біўся ён у абдымках страху, высах на лучынку, але... не меў ні сіл, ні жадання адмовіцца ад рэдактарскага крэсла, бо, бадай, не меншай за страх была прага лезці ўсё далей, усё вышэй, дасягнуць прываблівых верхавін і там ужо, пазбавіўшыся і ад страху, і ад прагі жаданняў, сказаць: «Круціся кола гісторыі, — я на калясніцы».

## XIII. КАНЕЦ БУЛЬБЯНІКА

Тым часам высветлілася, што бульбянікаўшчына імкнецца ўплываць на народны рух наперад прыблізна як дручок, усунуты паміж спіцамі, — на рух колаў. Тады органы дыктатуры пралетарыяту паставіліся да бульбянікаўскіх уплываў досыць крытычна і перасялілі бульбянікаўскіх лідэраў у досыць папулярны дом адпачынку.

Вынікі такога прафілактычнага мерапрыемства ў N адчуліся вельмі хутка. На галоў Бульбяніка, страціўшага падтрыманне сяброў з цэнтра, як з меха, пасыпаліся папярэджанні, вымовы і пагрозы. Выявілася, што метады очкаўцірацельства больш не маюць сілы... Бульбянік занепакоіўся і засмуткаваў.

Яшчэ больш занепакоіліся яго раённыя апалагеты. Што тычыцца штонікаў і чалавечка, то іх непакой і страх дасяглі такіх памераў, што большымі, здавалася, ужо і быць не могуць. Жыццё, аднак, у хуткім часе абвергла апошняе меркаванне, і здарылася гэта, калі Бульбяніка выклікалі ў цэнтр, па прыездзе куды ветліва сустрэлі, усадзілі ў машыну і проста з вакзала завезлі да кампаніі сяброў.

Тут, дарагі чытач, трацяцца нашы дакументальныя дадзеныя аб Бульбяніку, і далейшы лёс яго цьмяны. Ды, бадай што, нам яго і не цікава ведаць. Мы ўпэўнены, што аб ім, безумоўна, вельмі ўважліва патурбаваліся, бо, паводле некаторых чутак, кажуць, высветлілася, што замілаванне Бульбяніка да нацыяналнародніцтва і заходняга культурніцтва вынікала выключна з незвычайна цесных, сяброўскіх суадносін з разведкай адной суседняй дзяржавы. Гэта сяброўства, кажуць, было настолькі любоўным і шчырым, што Бульбянік не меў ніякіх сакрэтаў ад гэтай разведкі, а ўся яго палітыка была вышкам сяброўскага жадання як мага лепш дагадзіць ёй.

## XIV. ШТОНІКІ ТРЫМЦЯЦЬ

Калі вестка аб лёсе Бульбяніка дайшла да чалавечка, то штонікі ўжо не затрэсліся, але проста затрымцелі, і ён перш за ўсё занядужаў на хваробу, якая некалі, дзякуючы яго няўважлівасці і кратонаваму маслу, апанавала мадам Дужкіну.

Хвароба цягнулася два дні. Газета не выйшла, і тут чалавечак усвядоміў, што такое сапраўдны страх, перад якім усе яго ранейшыя страхі здаваліся зараз дзіцячай гульнёй у бабу-ягу. Пластом ляжаў чалавечак на ложку і скамянелымі вочкамі глядзеў на штонікі, якія сударжна ўздрыгвалі пры кожным стуку дзвярмі.

Аднак прыезд новага партыйнага кіраўніка прымусіў чалавечка перамагчы хваробу, нацягнуць штонікі і ратаваць сваю кар'еру і дабрабыт.

Перш за ўсё ён забраў з друкарні ўсе заставачкі і канцовачкі і спаліў іх у сябе пад плітой. Свінец, які застаўся ад гэтага аўтадафэ, ён прадаў мясцоваму саюзу паляўнічых, а грошы, атрыманыя ад гэтай аперацыі, зашыў у матрац.

Другім мерапрыемствам быў выпуск чарговага нумара газеты, у якім, узброіўшыся марксісцкімі ведамі, набытымі з адрыўнога календара, і перабудаваўшы свой светапогляд «на хаду», — па дарозе ад дому да рэдакцыі — чалавечак з усёй перакананасцю і непрымірымасцю, набытымі ў зносінах з Дужкіным, разграміў Бульбяніка, бульбянікаўцаў і бульбянікаўшчыну.

Аднак гэта чалавечка не супакоіла, і штонікі прадаўжалі беспарадна трымцець. Прычынай, паглыбляўшай страх, было тое, што новы партыйны кіраўнік — па выгляду чалавек просты і лагодны — распачаў сваю дзейнасць з партыйнай чысткі, якая ішла па ўсёй краіне і толькі ў N не распачыналася яшчэ. Вядома, штонікі трымцелі, і так выразна, што адзін мясцовы жартаўнік сказаў: «Відаць, страх горш трасучкі».

# ДРАМАТУРГІЯ

## ЛЕС ЦЁМНЫ
*Урывак з п’есы*

### ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Хата Мікіты Крука. Дзень. Расчыняюцца дзверы, і Параска, якая цягне за руку Юльку, упіхвае ў хату Куксу...

Параска. Ідзі, ідзі ў хату... На падворак вылез. Дурніца ты! Звар’яцець з табой можна! Сказала табе з хаты не высоўвацца, дык і сядзі, і не рухайся.

Юлька. Цётачка, пусцеце!

Параска. А ты, зараза, чаго да яго прыстаеш, чаго просішся з хаты?.. Пачакай, прыйдзе дзядзька Мікіта, я яму скажу, будзе дзягі.

Юлька. Цётачка, не кажэце! Я буду ў хаце сядзець, ніколі не выйду.

Параска. Ага, баішся...

Юлька. Баюся, цётачка, баюся!

Параска. Бач ты, шэльма!.. Сядзі тут, і каб духу твайго не было чуваць. (*Штурхае яе.*)

Кукса. Не штурхайце яе!

Параска. А ты што нос свой суеш?.. Абаронца знайшоўся!.. Глядзі ты, сам заробіш!.. Моду ўзяў. У спрэчкі лезе... Абоўтус ты няшчасны!

Кукса. Няшчасны... гы-гы... А хто мяне такім няшчасным зрабіў?

Параска. Зачыні сваю ляпу!

Кукса. Падзякуйце Мікіту свайго!

Параска. Кінеш ты даймаць мяне гэтым ці не? Га?

Кукса. Не!.. Гы-гы...

П а р а с к а. Сцеражыся ты, пачвара!
К у к с а. Пачвара, ды вам не пара!
П а р а с к а. Супакоішся ты ці не?
К у к с а. Не! Пакуль мне маю частку не аддасцё, не супакоюся. Ага!..
П а р а с к а. Маўчы ты лепш пра частку. Набярэшся бяды, лепш не ўспамінай. Глядзі, Мікіта жартаваць не будзе.
К у к с а. Не палохайце, не баюся!
П а р а с к а. Адвагі набраўся!..
К у к с а. І набраўся! Годзе ужо!.. Абрыдла мне гэтае жыццё!
П а р а с к а. Пацерпіш...
К у к с а. Годзе ўжо цярпець!.. З маленства цярплю!
П а р а с к а. Ды куды ты пойдзеш? Каму ты патрэбен?
К у к с а. З грашыма... гы-гы... З грашыма я яшчэ...
П а р а с к а. Што?.. Паглядзі на сябе... Маеш кут, сыты, чаго табе яшчэ? Якога ражна не хапае?.. Патрэбны табе грошы!
К у к с а. Гы-гы, прыдадуцца... Той і харошы, хто мае грошы.
П а р а с к а. Шалуцька!.. (*Выйшла.*)
К у к с а. Нішто, аддасцё. Маё маім будзе!.. Не дзеля гэтага рыззя дапамагаў я вам...
Ю л ь к а. Дзядзенька, я да мамкі хачу.
К у к с а. Да мамкі? Гы-гы... Няма мамкі.
Ю л ь к а. Дзядзенька! Завязеце мяне да мамкі... Мне нудна без мамкі.
К у к с а. А ты мамку любіш?
Ю л ь к а. Люблю, дзядзенька! І мамка мяне любіць... Мая мамка добрая...
К у к с а (*прыдушана*). Добрая...
Ю л ь к а. І вы, дзядзенька, добры...
К у к с а. Добры?.. Гы-гы-гы... Добры?.. Гы-гы-гы... А ты скуль ведаеш, што я добры?
Ю л ь к а. Не лаеце мяне, не б'яце... Толькі вось смеяцёся вы неяк страшна...
К у к с а. І гарбаты? Гы-гы...
Ю л ь к а. Вы добры, а вось дзядзька Мікіта і не гарбаты, а так б'ецца... Мамка каб ведала, дык плакала б. Мамка заўсёды, як дзедка мяне ўдарыць, дык плача ды цалуе мяне.
К у к с а. Цалуе?..
Ю л ь к а. Але, цалуе... Вось так, абымае мяне і цалуе.
К у к с а. Як?.. Як?..

Ю л ь к а. Вось так, вось... абымае і цалуе. (*Цалуе Куксу.*) А вас, дзядзенька, хіба мамка не цалавала?

К у к с а. Мяне? Гы-гы-гы... Мяне біла! Гы-гы... Нічога ты не разумееш.

Ю л ь к а. Не, дзядзенька, я разумею... Мамка мяне таксама бывае ўдарыць, але гэта калі трэба, а без патрэбы ніколі не вытне... І вас, дзядзенька Кукса, мусіць, мамка біла тады, калі трэба было.

К у к с а. Гы-гы-гы... так, калі трэба было, а трэба было заўсёды!

Юл ь к а. Чаму заўсёды?

К у к с а. А вось таму, што я такі... няшчасны!.. Гы-гы...

Ю л ь к а. І я няшчасная; гэта мне ўсе кажуць, і мамка... Толькі я не ведаю добра, што гэта мае значыць.

К у к с а. Дык, значыцца, мы з табой сябры? Гы-гы-гы (*рагоча*). Сябры!!!

Ю л ь к а. Чаго вы, дзядзенька, усё смеяцёся? Я баюся.

К у к с а (*з усмешкай*). Мяне баішся?

Ю л ь к а. Не, не вас, а вось, не ведаю я... вось быццам усярэдзіне ў вас нешта страшнае сядзіць...

К у к с а. А казаць мне гэта ты не баішся?

Ю л ь к а. Дзядзенька, не рабеце гэткія страшныя вочы!.. Я баюся!

К у к с а. Гы-гы... Не бойся, мы ж з табой сябры, гы-гы... Праўда?

Ю л ь к а. Не ведаю...

Уваходзіць М і к і т а.

М і к і т а. Пасябравалі ўжо…

К у к с а. І пасябравалі. (*Прыгортвае Юльку да сябе.*)

Уваходзіць П а р а с к а.

М і к і т а. Паненку сабе знайшоў.

К у к с а. А ўжо ж не табе...

П а р а с к а. Ён жа ж на шпацыр з ёй хадзіў...

М і к і т а. Што?

П а р а с к а. А вось тое, што чуеш... Папрасілася з хаты, а ён жа, вядома, адмовіць не мог...

М і к і т а. Што?.. Ты што ж гэта, з глузду з’ехаў ці якое ліха? Што гэта табе, жартачкі? А каб хто падышоў? Гы?.. Ашалеў!.. (*Наступаючы на Куксу.*) У хаце, у хаце, замкнуўшыся сядзець!

Ю л ь к а. Дзядзенька! Я больш не буду...

М і к і т а. А ты, шчанё, не скавычы! Гуляць табе!.. А дзягі не хочаш?..

К у к с а. Не чапай яе!

М і к і т а. Што? А ты тут што за асэсар?!

К у к с а. А вось і асэсар!.. Гы-гы-гы... Крані папробуй! Гы-гы-гы...

М і к і т а. Кінь выскаляцца! Зараза!..

П а р а с к а. А-а-а... Хоць бы хутчэй той Ігнат прыйшоў... Бяды яшчэ набярэшся... Не трэба было лезці ў гэтую справу...

М і к і т а. Не нудзі!.. Прыйдзе! Нідзе не дзенецца!

П а р а с к а. А калі не? Абрыдла трэсціся!.. Дзе што ляпне, дык сэрца не чуеш...

М і к і т а. Палахлівая надта зрабілася. (*Iранічна.*) Нешта на вас як бы і не падобна...

П а р а с к а. Палахлівая... Не люблю я гэтых спраў... Памойму, раз, раз ды і канцы ў ваду.

М і к і т а. Не заўсёды гэта можна — раз, два...

П а р а с к а. А няможна, дык і не трэба.

М і к і т а. Так і не трэба, а-а-а... А грошы, нябось, любіце?

П а р а с к а. Вялікія грошы!.. Паслугаваць. Сычом. Яны піва наварылі, а нам піць яго... За гэткую справу, прынамсі, удвойчы ўзяць было магчыма.

М і к і т а. Ну, і трэба было браць, а цяпер позна аб гэтым гутарыць.

П а р а с к а. Позна, позна!.. Свайго розуму не маеш; за руку цябе вадзіць усё жыццё, ці што?

М і к і т а. Ды адчапецеся, нарэшце!.. Чаго прысталі, як слата?.. Ну, яшчэ сто рублёў!.. Вялікая рэч... На кантрабандзе ў раскладку з яго спагонім.

П а р а с к а. Так спагоніш ты з Сычоў... Дадуць яны табе.

М і к і т а. Дадуць, нідзе не дзенуцца... Яны ў маіх руках.

П а р а с к а. Не больш, як ты ў іх...

М і к і т а. Ну, і не менш... Ды і досыць аб гэтым!.. Дайце вось лепш чаго-небудзь з’есці...

П а р а с к а. Досыць...

М і к і т а. Ну!

П а р а с к а. Зараз дам... (*Злосна.*) Сынок!..

М і к і т а (*у тон ёй*). Ма-ту-лень-ка!..

К у к с а (*у тон яму*). Бра-ток... Гы-гы...

М і к і т а. Выскаліўся!.. Сму-род!..

К у к с а. Смуроды аднае ўроды, гы-гы...

М і к і т а. Сядзіць яшчэ на маю галаву. Удзячны быў бы, што

з хаты не ганю.

Кукса. Хата роднага брата...

Параска (*стаўляючы на стол страву*). Ідзі есці вось лепш, ды заткні сваю ляпу. (*Мікіту дае асобна.*)

Кукса. Заткну, гы-гы. (*Да Юлькі.*) Хадзем, сябра, есці!

Юлька. А дзядзенька Мікіта лаяцца не будуць? Я баюся!..

Мікіта. Бач, шэльма... Забяспекі шукае... Ну ідзі ўжо, паскудства малое.

Кукса (*да Юлькі*). Бяры лыжку, сёрбай.

Юлька бярэ лыжку і пачынае есці.

Мікіта (*да Парасکі, кіўнуўшы на Юльку*). Кантрабанда! Ха-ха... Тавар!..

Кукса. Грошыкі... Гы-гы...

Мікіта. А табе што за справа?

Кукса. Справа, браток, справа, гы-гы...

Мікіта. Спраўны надта...

Кукса. Спраўны...

Параска. Глядзі, каб не пашкодзіла спраўнасць гэтая самая.

Кукса. Не пашкодзіць, калі за нос не водзіць, гы-гы...

Мікіта. Каму ты патрэбен, каб за нос цябе вадзіць?

Кукса. А мо табе, гы-гы... ці ёй (*ківае на матку*).

Мікіта (*да Парасکі*). Што ён вярзе?

Параска. А чорт яго ведае...

Мікіта (*да Куксы*). Ты глядзі: пляці, ды не заплятайся!

Кукса. А ты аддай, ды больш не знайся!

Мікіта. Што табе аддаць?

Кукса. А што належыць...

Мікіта. Бач ты яго, куды цаляе...

Кукса. Бо, мусіць, права мае...

Мікіта. Што?

Кукса. Што чуеш... Гы-гы...

Параска. Кукса, не лезь асой у вочы!

Мікіта (*здзекуючыся*). Дык, значыцца, грошы хочаш?

Кукса. Частку сваю!.. Гы-гы...

Мікіта. Якую?

Кукса (*лічыць сябе, матку, Мікіту*). Адзін, другі, трэці...

Мікіта. Трэцюю, значыцца?

Кукса. Як значыцца, дык і трапіцца, гы-гы...

Мікіта. Заўсёды?

Кукса. Без перашкоды...

М і к і т а. А можа, шкоды?

П а р а с к а. Ды кінь з ім гутарыць. Знайшоў з кім... З дурнем...

М і к і т а. Э, не! Як мне здаецца, дык не такі ўжо ён дурны, як выглядае...

К у к с а. Ды хто што мае...

М і к і т а. А ты, цікава, ведаеш, што маеш?

К у к с а. Права маю!..

М і к і т а. Якое?

К у к с а. Ды вось такое!

М і к і т а. Якое гэта такое?

К у к с а. Звычайнае!

М і к і т а. Ты не круці! Годзе ўжо дурня строіць!.. Бачу я, які ты дурань. Якое ж гэта звычайнае?

К у к с а. Такое ж самае, як і ты!

М і к і т а. Ага! Дык вось як ты загаварыў... Ану, маці, падзівіся на сваю пачвару! Дык вось які ты, значыцца, дурань? Добра! Буду ведаць!

К у к с а. Ды годзе снедаць... Гы-гы...

М і к і т а. Ты не круці, годзе ўжо! Прарвала, дык не замазвай! Годзе прыкідвацца!..

К у к с а. Усяк можа стацца... Гы-гы...

М і к і т а. Дык што ж ты з грашыма рабіць будзеш? Га?

К у к с а. Грошыкі прыгожыя... Гы-гы...

М і к і т а. Прыгожыя?.. Ды ўжо ж прыгажэйшыя за цябе. Пачвара! Зараза гарбатая!

К у к с а (*раптам дзіка*). А хто, хто мяне зрабіў такім?! Хіба не ты мяне дзіцянём, узлаваўшыся, з печы скінуў? Не ты мяне пакалечыў ды пасля здзекаваўся яшчэ праз усё жыццё?!

М і к і т а. Гавары, гавары!.. Дык вось які ты дурань?.. Вось з кім справу маем?.. Углядайся, маці! Пазнаеш?

К у к с а. Аддай мне маю частку грошай! Чуеш: аддай! Не дзеля таго я табе памагаў рабаваць ды ў іншых злачынствах, каб ты пасля з хаты выкінуў ці прыцiснуў дзе, як плюскву! Аддай грошы! Я вазьму, толькі сваё вазьму. Дазволь, браток! (*Паглядвае на тое месца, дзе былі грошы.*)

М і к і т а (*ледзь стрымлівае сябе*). Вазьмі!

К у к с а. Можна?.. Браток!.. Божа мой!

М і к і т а (*скрозь зубы*). Вазьмі!

К у к с а. Божа мой!.. (*Кідаецца да печы, дастае цагліну.*) Божа мой! (*Засоўвае руку.*) Га-ах! Няма!!!

М і к і т а (*зусім ашалелы ад злосці*). А гэта не хочаш?.. (*Складае фігу.*)

К у к с а. Забралі!.. Схавалі!.. (*Кідаецца на калені перад Мікітам.*) Браток, родны!.. Аддай!..

М і к і т а (*штурхае яго нагой*). Прэч, гадзіна! Вось якога я ворага ў хаце меў... Вось які ты...

К у к с а. Маці!..

П а р а с к а. Зараза! Падла!..

Ю л ь к а (*крычыць*). Мамка! | разам.

П а р а с к а. Маўчы, шчанё! |

М і к і т а. Прыкідвацца табе, прыкідвацца? Дурня строіць! Ды, можа, яшчэ падкажаш на мяне? Ды пакуль ты збярэшся, дык я цябе зараз... (*Замахваецца на Куксу нажом.*)

П а р а с к а. Мікіта! (*Хапае яго за руку.*)

М і к і т а. Прэч! (*Адпіхвае яе.*) Не лезь пад руку, расцісну!

П а р а с к а. Мікіта!..

М і к і т а. Што Мікіта?..

К у к с а падхапіўся і выскаквае з хаты.

Што? Выгадавалі заразу! Казаў я вам, што асцярожней з ім трэба, а вам усё: дурніца ды дурніца...

П а р а с к а. Дзе вочы былі?.. Столькі год... і як было не заўважыць.

М і к і т а. Столькі год... Лоўкі хлапец!.. Дурань: разумней ад нас з вамі; казаў ужо вам... Уцёк, зараза. (*Азіраючыся навокал.*) Прыбраць яго трэба.

П а р а с к а. Прыбраць?..

М і к і т а. Так! Прыбраць! А што: вы хочаце, каб ён мяне з вамі прыбраў?.. Самі бачыце — які зух.

П а р а с к а. І як было думаць?

М і к і т а. Няма чаго рукамі цяпер разводзіць... Вось развяжамся з байстручанём, а тады і гэту пачвару парашыць можна будзе.

П а р а с к а. Сын ён мне ўсё-ткі.

М і к і т а. Сын, сын. Хто вам патрэбней, я ці ён? Ці, можа, хочаце аддаць яму ягоную частку грошай?

П а р а с к а. Грошы! Не! Нікому не дам. Хіба як сама памру... Не... не... не... Прыбраць, прыбраць яго трэба...

М і к і т а. Даўно б так... Валаводзіцца з ім няма чаго... Толькі пакуль што — спакойна. (*Выходзіць.*)

П а р а с к а (*Мікіту ўслед*). Пакліч яго!

М і к і т а. Добра!..

П а р а с к а (*да Юлькі, якая забілася на печку*). Ну, чаго туды ўзлезла? Злазь на дол!

Ю л ь к а. Зараз, цётачка!

Уваходзіць К у к с а.

П а р а с к а. Ідзі ўжо, ідзі, дурніца! Не глядзелі б мае вочы на цябе. Выкінуў з галавы дурноты свае ўжо?.. Шчасце тваё, што Мікіта стрымаўся, а то б... Ведаеш жа, здаецца, яго натуру?

К у к с а. Каб яго жыццё не ведала!

П а р а с к а. Маўчы ўжо лепш, маўчы! (*Убок.*) Прыбраць, заразу, прыбраць! (*Выйшла.*)

Ю л ь к а. Дзядзенька, яны вас білі?

К у к с а. Білі, гы-гы...

Ю л ь к а. А я так напалохалася.

К у к с а. На-па-ло-ха-ла-ся... (*Сядзіць бязмоўна, звесіўшы галаву на рукі і бязглузда глядзіць перад сабой.*)

Юл ь к а. Дзядзенька, а ўва што яны вас прыбіраць будуць?

К у к с а. Мяне?

Ю л ь к а. Але, дзядзька Мікіта казаў аб вас: прыбраць яго трэба. Ува што, дзядзенька?

К у к с а. Прыбраць!.. Гы-гы... Вось як... (*Да Юлькі.*) У зямлю прыбраць! Гы-гы...

Ю л ь к а. Як гэта ў зямлю?..

К у к с а. Не стрываў! Перашкаджаю, значыцца, але паглядзім яшчэ, хто каго? Гы-гы... Юлька, хочаш да мамкі?

Ю л ь к а. Хачу, дзядзенька! Хачу!

Уваходзіць М і к і т а.

М і к і т а (*крыва ўсміхаючыся*). Куды хочаш?

К у к с а. Да мамкі, гы-гы, хоча, гы-гы...

М і к і т а. А можа, да таткі? Дзе сякера, не ведаеш?

К у к с а (*узрушана*). Сякера?..

М і к і т а. Але, сякера...

К у к с а. Сякера... у... каморы...

М і к і т а. Адразу ўспомніць не можа, як на гэта, дык ён дурань... (*Выходзіць у камору.*)

К у к с а (*падбягае і зачыняе за ім дзверы на засоўку, азіраецца па хаце, хапае са сценкі стрэльбу Мікіты*). Юлька, едзем да мамкі! Гы-гы... (*Выбягае з Юлькай з хаты.*)

Хвіліну на сцэне пуста. Мікіта з каморы ломіцца ў зачыненыя дзверы. Убягае П а р а с к а.

П а р а с к а. Мікіта! Мікіта!

М і к і т а (*з каморы*). Адчыні!

Параска адчыняе камору, адтуль выбягае М і к і т а.

П а р а с к а. Уцёк! З Юлькай уцёк!

М і к і т а. Трымаць, лярва, трэба было!

П а р а с к а. Са стрэльбай ён!

М і к і т а. Стрэльбу забраў! Стрэльбу!

П а р а с к а. Пераняць! Пераняць яго! (*Хапае са сцяны паляўнічы нож Мікіты і совае яму ў руку*.)

М і к і т а. Лiварвэр, лiварвэр трэ дастаць!

П а р а с к а. Позна, позна будзе! Конна ён!

М і к і т а. Гадзюка! (*Выбягае з хаты*.)

П а р а с к а (*услед яму крычыць*). Праз імшар бяжы! Пяроймеш! Не шкадуй! (*Некалькі хвілін стаіць у задуменні, паварочваецца, кідаецца перад абразамі на калені і пачынае маліцца*.) Божухна, дапамажы яму!..

Заслона

# НАПРАДВЕСНІ
*Урыўкі з п'есы*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Малюнак пяты

Вечар. На бярвеннях ля выгану размясціліся хлопцы і дзеўкі. Стары К і р ы к. Каля іх Н а с т а.

С т а р ы К і р ы к (*апавядае*). Го, даўней рыбы было... уга!.. Аднаго разу даў я гэта нырца пад бераг у пячору... Мех пры сабе... галавачы, як падсвінкі, адзін ля аднаго стаяць і толькі хвастамі ледзь-ледзь... схапіў гэтых я штук з пяць, у мех усунуў; толькі хацеў з пячоры вылазіць, а ў пячору сом... Морда во!.. вочы во!.. ну, я ледзь не абамлеў... Толькі сом луп-луп на мяне, ды як завернецца!

Л ю б а. Спалохаўся?

К і р ы к. Дзіва — гэтакі сом!.. Вось ад таго часу больш ужо

ў пячоры не лазіў. Го! Даўней было рыбы.

А н т о с ь. Даўней усяго было...

П а р а с к а. Затое даўней таго не было, што зараз ёсць...

А н т о с ь. А што зараз цікавага ёсць?

П а р а с к а. А хоць бы электрыка — даўней жа не было.

А н т о с ь. Невядома, ці будзе і зараз.

П а р а с к а. Будзе.

Чуваць галасы А р ц ё м а ды іншых.

Г о л а с А р ц ё м а. Ідзіце, таварышы, не перашкаджайце.

Г о л а с А л е с і. Ды мы ж нічога.

Г о л а с А р ц ё м а. А як нічога, дык і пагатове. Радыё — яно механізма хітрая, не для тваіх мазгоў... як пастаўлю, тады прыйдзеце.

Г о л а с Р ы г о р а. Мы з таварышкай Марынай самі ўправімся, а вы толькі перашкаджаеце.

А ў г е н. Во неўгамонны Арцём — ужо радыё ставіць у чытальні...

К і р ы к. І мне выправіў... ты, ка, дзед, толькі замінаеш...

Л ю б а (*зірнуўшы за вугал*). Сюды ідуць.

П а р а с к а. Давайце, хлопцы, заспяваем гучней, мо хто яшчэ падыдзе.

А н т о с ь. А каго вы чакаеце?

П а р а с к а. Гэта да вас менш ад усяго тычыцца.

Уваходзяць Р ы г о р, С я р г е й, А л е с я і Г а н н а.

К і р ы к. Ага, блазнота, і вас выперлі з чытальні?

А л е с я. А табе, дзед, уцеха, што не аднаго цябе?

Р ы г о р (*да моладзі*). Чаго седзіцё, давайце ў дзеда гуляць.

С я р г е й. Я буду ддддзедам...

Г а н н а. Не, Сяргейка, ты надта марудна гаворыш. Хай Рыгор дзедам будзе.

У с е (*співаюць*):

Ах сею ж мой вею,
Паеду я ды жаніціся.
А каго ж то мне браці,
А ці тую рассумаху,
А ці тую неўмываху.

Р ы г о р. Дзеўка, дзеўка, хадзі за мяне замуж, — не будзеш

ні жаць ні прасці, ні па ваду хадзіць, толькі будзеш пасцельку слаць ды са мною спаць.

Застанаўліваецца перад П а р а с к а й, яна бярэцца да яго ззаду; хор пачынае спяваць зноў. Р ы г о р бярэ таксама сабе А л е с ю, Г а н н у і інш.).

У с е (*спяваюць*):

Ах сею ж мой вею,
Паеду я ражжанюся,
Ай кіну ж я рыну
Ды жаніцьбачку сваю.

Р ы г о р. Кхы, кхы.

Г р ы п і н а. Дзед, дзед, чаго ты перхаеш?

Р ы г о р. Лезь на печку да мяне.

Г р ы п і н а. Я не палезу. Бач, сколькі жонак у цябе.

Р ы г о р. Кхы, кхы.

Г а н н а. Дзед, дзед,чаго ты перхаеш?

Р ы г о р. Лезь да мяне ды пагрэй мяне, вось кашаль і пройдзе.

Г а н н а. Я не палезу, у цябе барада калючая.

С я р г е й. Малайчына, Ганна, у мяне не калючая.

П а р а с к а. Нельга перашкаджаць, правільна гуляйце.

Р ы г о р. Кхы, кхы.

А л е с я. Дзед, дзед, чаго ты перхаеш?

Р ы г о р. Цябе хачу пацiскаць, жонка.

А л е с я. Рукі кароткія, пацiскай лепш Настку дурную.

А н т о с ь. Во абрэзала. Дасціпна, праўда, Парасачка?

Р ы г о р. Кхы, кхы.

П а р а с к а. Дзед, дзед, чаго ты перхаеш?

Р ы г о р. Цябе, Парасачка, у некага адбіць хачу.

П а р а с к а. Вось спачатку злаві хоць адну (*дзеўкі з крыкам разбягаюцца*).

А ў г е н. А мы чаго стаяць будзем? Таварышы, лаві кожны сабе па дзеўцы.

Н а с т а (*адна*). А мяне, мяне вось і не злавілі! Не зловіце, не зловіце! Рыгор, Рыгор! Пацiскай дурненькую Настку. Алеся казала. Рыгор! (*Уцякае.*)

А н т о с ь (*цягне за руку Параску*). Чуеш, Парасачка, я маю да цябе сур’ёзную размову.

П а р а с к а. Якую там яшчэ размову?

А н т о с ь. Так што хачу прынесці вам шчасце законным

бракам.

П а р а с к а. Як гэта бракам?

А н т о с ь. Ды так, што замуж за мяне выходзьце. І татку згоду даў, і грошы на вяселле ёсць.

П а р а с к а. Але я не дала згоды, хоць і няма ў мяне грошай.

А н т о с ь. Як гэта. Замуж за мяне не хочаце ісці? Я ж сур'ёзна, і да папа паедзем, у царкву, хор пеўчых будзе спяваць. Ды за мяне любая дзеўка пойдзе.

П а р а с к а. А я вось нязгодна.

А н т о с ь. Кахаю я цябе, Параска! (*Хоча абняць.*)

П а р а с к а. Адчапіся ты ад мяне, брыдота, жаба вяленая!

Уваходзіць П л а т о н, Н а с т а падбегла да яго.

Н а с т а. Платонка! Гуляць мяне не бяруць, ціскаць Рыгор не хоча, а мне і нудна вельмі... (*плача*).

Г а н н а. Ых ты, дурніца, заплакала...

П л а т о н. Ізноў дражніць пачалі. Так не добра.

А л е с я. Ну, ды што ты з ёй зробіш.

П л а т о н. А ты забаў яе. Ых ты, маленькая мая, крыўдзяць цябе, ну, не плач жа... як вам не сорам. Самі пацяшаюцца, а яе плакаць прымушаюць.

Р ы г о р. Пойдзем палядзім, як Арцём жэрдку антэнную стаўляць будзе...

П л а т о н (*да Насты*). Ну, не плач жа.

Н а с т а. А яны мяне песні спяваць не ўзялі.

П л а т о н. Мы зараз з табою самі заспяваем, а іх не возьмем.

Усе, акрамя Параскі, выходзяць.

П л а т о н (*пяе*).

Гулі, гулі, гулі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах,
Сталі шчабятаці,
Ды што каму даці.
Іванку — сапожкі,
Настцы — ражночкі.

Параска плача.

П л а т о н. Чаго ты, Парасачка? А ну, Настка, дагані іх,

папрасі дзядзьку Арцёма, каб ён табе даў радыё паслухаць. Скажы, я загадаў (*Наста бяжыць*).

П а р а с к а. Усіх шкадуеш, толькі адну мяне не хочаш пашкадаваць, забыў.

П л а т о н. Параска, што ты? Я ды цябе не шкадую? Я ж кахаю цябе.

П а р а с к а. Скажы, Платонка, як перад Богам, возьмеш мяне замуж?

П л а т о н. Ну Бог тут ні пры чым, а замуж цябе вазьму. Народзім, Парасачка, з табою сапраўдных камуністаў.

П а р а с к а (*засаромелася*). Што ты, што ты, Платонка, даражэнькі ты мой, адзіны. А я цябе чакала сёння цалюсенькі вечар.

П л а т о н. Вось бачыш — і дачакалася.

П а р а с к а. Ведаеш што, Платонка, хадзем зараз жа да бацькоў, кінемся ім у ногі...

П л а т о н. Гэта ўсё, Парасачка, забабоны. А з бацькам я ўжо меў размову.

П а р а с к а. Што ж ён?

П л а т о н. Ён кажа, як ты пажадаеш, няволіць цябе не будзе.

П а р а с к а. Любы ты мой! Вось глядзі, я табе падаруначак нарыхтавала (*дае яму капшук*).

П л а т о н. Бач ты, во цяпер будзе ў чым табаку насіць, а то яна ў мяне ўся па кішэнях раструшваецца.

П а р а с к а. Платонка, а ты мяне не кінеш?

П л а т о н. Я цябе?

П а р а с к а. Але... маці кажа, што без царквы камуністы жэняцца, два месяцы пажывуць і разыходзяцца.

П л а т о н. І не сорам табе, Параска? Я ж кахаю цябе.

П а р а с к а. Любы ты мой. (*Абдымае яго.*) Пойдзем зараз да нас, дамоў.

П л а т о н. Зараз да цябе?

П а р а с к а. Але.

П л а т о н. Не, мая даражэнькая, нават і пасядзець з табой больш не магу.

П а р а с к а. Чаму не можаш?

П л а т о н. Але тут справа такая... Трэба ісці ў вятрак... пільнаваць.

П а р а с к а. Ну і я з табой.

П л а т о н. Не, Парасачка, зараз не трэба...

П а р а с к а. Чаму не трэба?

П л а т о н. Тут справа адна такая...

П а р а с к а. Якая?

П л а т о н. Пасля, Парасачка... Ну, бывай (*выходзіць*).

П а р а с к а. Платон, Платонка... Пайшоў... не любіць ён мяне...

Уваходзіць П о р х а ў н а.

П о р х а ў н а. Пабег любы — няма.

П а р а с к а. Вам чаго?

П о р х а ў н а. Цябе шкадую...

П а р а с к а. Няма чаго мяне шкадаваць.

П о р х а ў н а. Вой, ёсць, галубачка, ёсць...

П а р а с к а. Ведаеце што?

П о р х а ў н а. Уся вёска ведае... толькі ты адна... Каханнем вочы завязаны... нібы дзіця маленькае...

П а р а с к а. Няўжо праўда? А ён жа казаў...

Цёмна. Музыка. На экране смяючыся твар дзіцяці, яно ў пялёнках. Потым вясковая вуліца, па ёй бегаюць і гуляюць вясковыя дзеці. Адзін нясецца ўздоўж вуліцы.

### Малюнак восьмы

Ноч. Млын-вятрак. Ён працягнуў свае крылы да самай зямлі і ў самае неба. Цішыня. Сіняя цёмнасць. З млыну прабіваецца цьмяны агеньчык. Каля нерухомага крыла сядзіць Н а с т а. Сядзіць і пяе паціху.

Н а с т а.

Люлі, люлі, люлі
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі варажыці —
Сябра старажыці.
Настка на варотах
У чырвоных ботах.

Ой, як смешна я прыдумала: Настка ў чырвоных ботах. А можа, папрасіць Платонку, дык ён і купіць чырвоныя боты Настачцы?

Платонка, Платонка!

Г о л а с П л а т о н а. Пачакай, Настачка, не перашкаджай.

Н а с т а. Не буду, не буду, Платонка! (*Выходзіць.*)

Г о л а с П л а т о н а. Зараз трэба вылічыць проценты. За год 300 р. даюць трыццаць шэсць рублёў, а за адзін месяц у два-

наццаць разоў менш. Значыцца, гэта будзе тры рублі...

Да млына падкрадваюцца П о р х а ў н а і П а р а с к а.

П о р х а ў н а. Ну, стой тут і маўчы. Слухай. Чуеш?

П а р а с к а. Здаецца, спяваў нехта. І Платонаў голас, здаецца, быў.

П о р х а ў н а. Стой, маўчы, слухай.

Раптам адчыняюцца дзверы млына, у асветленым квадраце з'яўляецца П л а т о н. Дзверы застаюцца адчыненымі: відна, як у млыне сядзіць настаўніца перад скрынкаю, якая замяняе ёй стол.

П л а т о н. Хто тут? Ты, Настка? Няма нікога, здалося. Эх, і ночка якая, таварышка Марына.

Н а с т а ў н і ц а. Так. Ну, да справы.

П л а т о н (*ідзе ў млын, сядае перад скрынкай, бярэ аловак, схіляецца над сшыткам*). Дык вось з 1440 р. мы за тры месяцы атрымаем з васьмі працантаў гадавых 28 руб. 80 кап. Ці так?

Н а с т а ў н і ц а (*глядзіць у задачнік*). Так. Правільна. Добра сталі працанты вылічваць. Ну, досыць на сёння.

П л а т о н. Досыць, дык досыць.

М а р ы н а. Вось, таварыш Платон... нейк пагана ў нас атрымліваецца з гэтымі заняткамі на млыне па начах...

П л а т о н. Ды ўдзень няма калі, самі ведаеце, колькі працы і ў калгасе і ў сельсавеце...

М а р ы н а. Ведаю... Але трэба ўсё-ткі гэта як-небудзь інакш зрабіць. Могуць падумаць нядобрае, а ў вас Параска нявеста.

П а р а с к а і П о р х а ў н а зноў з'яўляюцца.

П о р х а ў н а. Маўчы, маўчы.

П л а т о н. Параска мяне кахае і не разлюбіць ніколі. А вось беднату нашу ды серадняцтва — у калектыў іх трэба ўсіх злучыць, укроп іх макаўку. Мы напрадвесні новага жыцця. Вось як пашчасціць яго наладзіць, будзе тады лягчэй і вальготней жыць, будзем мы тады з вамі бачыцца адкрыта. Ну, хадземце, таварыш Марына. Я вас да вёскі правяду, а то ўсё ж ткі страшна ўначы адной.

П о р х а ў н а. Маўчы, маўчы... Чула?

П а р а с к а. Чула.

П о р х а ў н а. Што ж цяпер будзеш рабіць?

П а р а с к а. Я... я-я...я ёй пакажу! Я ёй пакажу, лахудры, як з чужым жаніхом жыць. Я ёй вочы павыдзіраю, ды і Платона ў жывых не застаўлю. Я яму кучары павыскубаю! Пабяжым, бабка, за імі. Ты — сведка жывая. На ўсю вёску абняславім. Нічога мне за гэта не будзе.

Н а с т а (*раптам з'яўляецца з цемнаты і заступае ім дарогу*). А я не пушчу Платону кучары выскубаць.

П о р х а ў н а. Цьфу, згінь-прападзі, нячыстая сіла! Аман, аман, рассыпся!

П а р а с к а. Хто гэта? Гэта ты, Наста? Скуль ты ўзялася? Што робіш тут?

Н а с т а. А я Платона сцерагу, каб яго ніхто не пакрыўдзіў. Ён мяне шкадуе, і я яго шкадую. Ваўкі тут ходзяць, а я ваўкоў не баюся. Добры вечар, бабулька Порхаўна, што ж ты мне пернічак абяцала і не дала?

П о р х а ў н а. Ідзі, ідзі дамоў, на вёску. Заўтра раніцою да мяне прыходзь. Дам табе пернічка. Ідзі хутчэй.

П а р а с к а. Не, пачакай, Настка. Ты тут часта бываеш?

Н а с т а. Вось як Платон, так і я. Ён мяне не крыўдзіць, а я яго пільную.

П а р а с к а. А настаўніца гэта да яго часта прыходзіць?

Н а с т а. Платон загадаў, каб я пра настаўніцу нічога не казала. Не скажу.

П о р х а ў н а. Загадаў. Дык і не скажы, галубка. Ідзі адсюль хутчэй.

П а р а с к а. Пачакай, Настка. Кажы, Платон з ёю спіць?

Н а с т а. Не ведаю, можа, і спіць. Я вось там у ямачцы сплю. У мяне там саломка паслана. А яны па начох у млыне сядзяць. Мяне туды не пушчаюць. Кажуць, перашкаджаць буду.

П а р а с к а. А можа, ты яшчэ што бачыла? Можа, ты бачыла, як яны разам?.. як Платон з настаўніцай?..

Н а с т а. Не дазволіў Платон пра настаўніцу казаць. Я не скажу.

П о р х а ў н а. Ага, казала я табе, унучка, не жаніх ён табе. Спіць ён з настаўніцай, жыве з ёю. Антось, вось ён жаніх сапраўдны.

П а р а с к а. Будзь жа ты пракляты, Платон-здраднік, злодзей, сэрданька ты маё высмактаў! Бабулечка, бяжы зараз у хату Мацея Пузана. Скажы, каб заўтра раніцою засылаў сватоў! (*Шпарка пайшлі.*)

Н а с т а (*адна*). Ваўкі ўначы ходзяць і людзі... людзі як ваўкі... ха-ха... людзі — ваўкі... Вой, не ўсе... Платон не воўк — ён доб-

ры...

Чуваць галасы.

А р ц ё м. Мы да цябе, каб механізму стаўляць, а ты да нас...
П л а т о н. Насустрач вам выйшаў...
Р ы г о р. Вось, таварыш Змітро, і вятрак.
З м і т р о. Ну ж, таварышы, да працы!

Заслона

## ЛЮБОЎ ДА «БЛІЖНЯГА»
*Урыўкі з п'есы*

### Малюнак першы

Вуліца вёскі. Вясенні сонечны дзень. Проста насупраць гледача з левага боку рог хаты Луцэі, з правага — рог хаты Міны. Паміж хатамі вароты Луцэінага двара і паркан. Зруб Луцэінае хаты падгніўшы, пахіліўся набок. Стромка стаіць нямецкі вугал хаты Мінавае. Прызба ашалёваная; відаць частка афарбаванага акна. Л у ц э я расчырванелася, як млын ветраны, крыламі-рукамі махае, на Цімоха крычыць. Голас гэты чуваць яшчэ да таго часу, як расчыніцца заслона. Расчыняецца заслона.

Л у ц э я. Каб я цябе больш каля хаты мае не бачыла!

Ц і м о х. Ды годзе ўжо крычэць, цётка Луцэя.

Л у ц э я (*якой ужо не хапае проста паветра, захлябнулася ад злосці*). Што?!. Ды ты... ды я... Людцы ж мае, ці бачылі вы? Ён... ён мне яшчэ і «годзі» кажа...

Ц і м о х. Бо сапраўды, чаго ж крычэць.

Л у ц э я. Біць цябе мала, не крычэць... Гэта ж падумаць толькі!

М і н а (*падыходзіць*). І сапраўды, чаго цябе распірае, мякіна табе ў жывот.

Л у ц э я. Распірае! Ды я ўжо і сама дзіўлюся, як мяне не распёрла... Гэта ж трэба ведаць!.. (*Да Цімоха.*) Паганец ты! Кінь лепш гэтыя штукі, бо, дальбог, памыямі аблію, а ёй, лахудры гэтай, ногі хутчэй паперабіваю, як дазволю ў распусту гэтую ісці. Во як!

Ц і м о х. І дармо вы ўсё гэта, цётка Луцэя.

Л у ц э я. Дармо!.. дармо!.. А каб цябе немач! Збянтэжыў мне дзеўку... Табе, я ведаю, дармо. Усе вы гэткія... Толькі і глед-

зіцё, як бы каму галаву ачмурыць... а ёй, а мне... жартачкі… Думала налета замуж дзеўку аддаваць. А яна ў распусту лезе. Якому добраму чалавеку гэткая распусніца патрэбна.

М і н а. Вось яно што. Вось ён касамол. Вось чым займаецца, мякіна ў жывот...

Д а р а ц е я (*уваходзіць і стоячы побач Луцэі*). Кіньце, мамка. Так трэба. Такі час, і ўсё роўна на гэта выйдзе.

Л у ц э я. Ці чулі вы?.. Прэч, паскуда! Дахаты пайшла.

Д а р а ц е я. Мамка!

Л у ц э я. Маўчы, паскуда, бо з хаты выжану!

М і н а. Але ж, Дарацея, як табе не сорам... Мякіна табе ў жывот... Во-ой, дзеўка, дзеўка!

Л у ц э я. Але ж гэткая распуста! Абразы святыя ў печку пакідаць!

М і н а (*збянтэжана*). Як? Абразы?.. Якія абразы?

Л у ц э я. Ну але! Абразы, іконы, значыцца, хацела папаліць, а ўсё праз што? — ён, паганец, падбіў.

М і н а (*расчаравана*). Іконы, а я думаў... Цьфу ты! (*Адышоў і сеў на прызбу.*)

Цімох усміхаецца. Дарацея гэтаксама.

Ц і м о х (*да Міны*). Што думалі?

Л у ц э я (*абурана*). Яшчэ і смяецца.

Д а р а ц е я. Бо, сапраўды, смех, праз нейкае глупства і такі галас.

Л у ц э я. Глупства! Глупства!! Ім ужо ікона святая глупства. Ці чулі вы, ці бачылі?

М і н а. Вядома, распуста! Касамолія, адно слова: ка-самол, мякіна.

Ц і м о х (*да Міны, перапыняючы яго*). Не падабаецца вам гэтае слова.

М і н а. А што тут у ім цікавага. Не цукерка.

Ц і м о х (*у тон яму*). І не паўлітра.

Дарацея пырснула ад смеху.

Л у ц э я (*да Дарацеі, зноў злуючыся*). Пасмейся, пасмейся! Дахаты, паскуда! Карову ідзі падаі!

Д а р а ц е я. Добра. (*Хоча пайсці.*)

Ц і м о х (*да Дарацеі, таксама адыходзячы*). Прыходзь увечары ў хату-чытальню.

Л у ц э я. Я ёй пайду!

Д а р а ц е я. І нічога вы мне, мамка, не зробіце. Захачу і пайду. (*Пайшла.*)

Л у ц э я. Вось яна, ці бачылі. Во зелейка! (*Да Цімоха.*) А ты...

Ц і м о х (*з дакукаю*). Кіньце, цётка! Дарма язык мазоліць будзеце. (*Махнуў рукою і пайшоў.*)

Л у ц э я (*спачатку ўтаропілася, пасля наўздагон Цімоху*). Пайшоў... А каб ты сабе ногі павыкручваў.

М і н а. Кінь, Луцэя. Бяды яшчэ набярэшся... Начальства ж — можна сказаць — касамолія, мякіна яму ў жывот.

Л у ц э я. Ды што мне начальства! Калі я сама ў сябе гаспадыня.

М і н а. Ну, гэта ты пакінь. Зараз гаспадароў няма. Зараз як яны, вось гэтыя, вырашаць, гэтак і будзе.

Л у ц э я. Да пляваць я на іх хацела, што яны мне зробяць... Баба я...

М і н а. Ды яно так. Баб яны паважаюць.

Л у ц э я. Я вось хацела ў вас прасіць, ці не пазычыце паўпуда жыта.

М і н а. А твой жа паехаў у мястэчка, у кааперацыі атрымае ж, пэўна, мякіна ў жывот.

Л у ц э я. Атрымае, але не дасць?

М і н а (*здзіўлена*). Чаго не дасць?

Л у ц э я. Ды хлеба.

М і н а. Як гэта?

Л у ц э я. Я гэта бацюшцы... Хачу прасіць, каб хату высвенціў, бо як гэтая лахудра абразы ў печку пакідала, апаскудзіла...

М і н а. А-а-а... Добра, добра... Дам, мякіна ў жывот. Толькі як жа...

Л у ц э я (*перапыняючы*). Адраблю... Улетку адраблю, ці зараз... гной параскідаю.

М і н а. Добра, палічымся. Карыстайся, пакуль вось яшчэ сам маю. Бо хутка ўжо ўсе з торбамі пойдзем.

Л у ц э я (*лісліва*). Ды што вы... З вашай гаспадаркай...

М і н а (*пахмурна*). А ўжо зараз з тваёю, з маёю — адзін лёс. Згоняць у калгасы, дык не тое, што іконы, але і дзяцей родных ад бацькоў паадбіраюць.

Л у ц э я (*спалохана*). Як жа гэта?

М і н а. Э-э-э... Ды што там. Гэта ў нас яшчэ, дзякуй богу, мякіна яму ў жывот, ціха пакуль што, а ў іншых мясцох, дзе

раёны суцэльнае калектывізацыі, з голаду ўжо дохнуць.

Л у ц э я (*як вышэй*). З голаду?!

М і н а. А ўжо ж... Каб ім суцэльную дамавіну... хутка адзін аднаго есці будуць.

Л у ц э я (*як вышэй*). Есці?!!

М і н а. Што і казаць — анціхрыстава пара надышла — калгасы...

Л у ц э я. І ў нас жа збіраюцца ўжо...

М і н а. Вось гэта ж і ёсць.

Л у ц э я. А мой жа мужык паехаў распытаць пра калгасы гэтыя самыя.

М і н а (*з кепікамі*). Распытае... там яму раскажуць, набрэшуць. Добра, калі на пэўнага чалавека трапіць, а то ж... Пападзе вось на гэткага Цімоха, ён яму распіша, размалюе.

Л у ц э я. Але ж праўду кажаце?

М і н а. А няўжо ж... А ў сапраўднасці, дык вунь што робіцца... Дай толькі адзін-два згоду, дык рэшту... слова наўспрэч, дык зараз жа — кулак! Абяруць, ды з торбаю і пусцяць.

Л у ц э я. Няўжо і незаможных.

М і н а. Ды хіба яны глядзяць; ім абы сваю лінію гнуць, ну і загінаюць. (*Да Сымона, які ідзе ў глыбокім задуменні.*) Чаго ў зямлю ўставіўся? Згубіў што?

С ы м о н. Як кажаце? Добры дзень.

М і н а. Згубіў што, пытаю. Дзень добры.

С ы м о н. Згубіў? Але, згубіў... Супакой згубіў.

Л у ц э я (*з кепікамі*). І на вуліцы знайсці думаеш?

С ы м о н. Але... думаю... Усё думаю...

М і н а (*з кепікамі*). Індык думаў, думаў, ды здох, мякіна табе ў жывот.

С ы м о н. Здох, кажаце?.. А ведаеце, можна здохнуць ад думак.

Л у ц э я. Дык не думай.

С ы м о н. Трэба. Трэба. Час такі, што не пражывеш інакш.

Л у ц э я. Час. Хай ён калом пойдзе, такі час.

С ы м о н. А ты дарма. Цікава зараз.

М і н а. З ачмурэлай галавой цікава хадзіць?

С ы м о н. Не ведаю. Толькі галава, значыцца, на тое і дадзена, каб працавала яна, значыцца, вось і рукі гэтаксама.

Л у ц э я. І жывот.

С ы м о н. І жывот, і ногі... кожнаму свая праца. Гэтак ужо чалавек створаны.

М і н а. Вядома, Бог чалавека стварыў па свайму падабенству.

С ы м о н. Не ведаю. Толькі навошта ж Богу жывот? Ён жа не есць.

Л у ц э я. А ты скуль ведаеш?

С ы м о н. Не ведаю, але ж мусіць так. Ды гэта ўсё ніштo... Хай сабе есць. Мне вось што цікава: як лепш, ці так ці...

М і н а. Ці?..

С ы м о н. Вось тут і не ведаю што.

М і н а. Дадумаўся, мякіна табе ў жывот.

С ы м о н (*жвава*). Заўсёды мякіна; з маленства хлеб з мякінай... Прыйшла слабода, думаў, што без мякіны будзе. На франтох біўся за лепшае, каб, значыцца... без мякіны. А тут, выходзіць, зноў… не тое... не гэтага спадзяваўся.

Л у ц э я. Дурня і ў царкве б’юць.

М і н а. А ўжо ж мя...

С ы м о н. Маўчы ты, разумная... Вось я і думаю. Зараз кажуць, у калгас каб... Добра, выракуся свайго, а калі зноў з мякінаю?

М і н а (*узрадаваўся*). Гэта ўжо напэўна... няйнакш, як гэтак, мякіна ў жывот.

С ы м о н. Вось ты і скажы: добрая для нас, для сялян, улада савецкая ці дрэнная?

М і н а (*развежна*). Ды яно... (*шпарка*). Ты гэта да чаго?

Л у ц э я. Я скажу — дрэнь.

С ы м о н. Не, чакай. Гэта лёгка — сказаць, значыцца, а ты дасведчы.

Л у ц э я. І даводзіць няма чаго.

М і н а. Не, вось я скажу. Улада савецкая — гэта нашая ўлада, добрая. Толькі камуністыя псуюць яе. Во!

С ы м о н. А на мой разум, дык нібы наадварот.

М і н а. Ну, ты гэта кінь, мякіна табе ў жывот. Супроць улады — гэта контррэвалюцыя ўжо, а за гэта...

С ы м о н. Не палохай!.. Не баюся я!.. Я вось усё думаю, а як надумаюся, дык мяне ўжо тады не застановіш, бо я... голы я... Нічым мяне не спалохаеш.

М і н а. Ды чаго цябе забірае... Голы... Усе хутка голыя будзем.

С ы м о н. А калі наадварот?

М і н а. Наадварот. Зяпу шырэй разяўляй.

Л у ц э я. У яго ўсё наадварот.

С ы м о н. Бо я думаю. Я ведаць усё хачу. (*Да Міны.*) Табе і раней добра было, і зараз, а мне...

М і н а. Працаваць трэба.

С ы м о н. А з чым? (*Паўза. Міна не ведае, што адказаць.*) Вось жа... А далей гэтак нельга.

М і н а. Ат, гавора...

Праходзіць а. П ё т р а. Спакойна крочыць з даўгім кіем, які стаўляе, выкідваючы перад сабой.

М і н а (*заўважыў а. Пётру, калі ён ужо мінае іх*). Добры дзень, бацюшка. Даруйце, што ў пару не прывітаўся. (*Падыходзіць пад багаславенне.*) Загаварыўся вось з гэтым апантаным.

Л у ц э я (*пявуча лісліва*). Дзень добры, бацюшка. (*Таксама падыходзіць пад багаславенне.*)

а. Пётра застанавіўся, глядзіць на Сымона, той пасля хвіліннае паўзы неахвоча сцягвае з галавы шапку.

С ы м о н. Дзень добры.

а. П ё т р а. Чаму ў царкву ніколі не ходзіш? На Бога забыўся!

С ы м о н. Часу ўсё няма...

М і н а (*з кепікамі*). Пра глупствы розныя думаць часу не хапае.

Л у ц э я. Ён жа, бацюшка...

а. П ё т р а. А на сходы ў чытальні маеш час.

М і н а. Мала яму карысці і ад сходаў гэтых, мякіна яму ў жывот. І па сходах ходзячы, не ведае, што яна за ўлада ёсць. Можа б вы, бацюшка, яму растлумачылі?

С ы м о н (*раптам*). Але, скажэце. Ва ўсіх пытаюся... рознае кажуць.

а. П ё т р а. Улада? Ад Бога ўлада кожная, няма такой, якая б не ад Бога была.

М і н а (*расчаравана і з папрокам*). Бацюшка...

а. П ё т р а (*перапыняючы яго*). Толькі адну ўладу Бог у нагароду людзям дае, а іншую ў пакуту за грахі.

С ы м о н. А савецкая?..

а. П ё т р а. Сам разваж. (*Шпарка павярнуўся і пайшоў, Міна і Луцэя за ім.*)

Л у ц э я. Я, бацюшка, даруйце ўжо, хачу прасіць вас, каб... (*Пайшлі.*)

С ы м о н. У чытальні адно, заможнікі іншае, а гэты... Вось тут і разваж...

Канец першага малюнка

МАЛЮНАК ДРУГJ

Вечар. Пакой у доме а. Пётры. Стол, тры крэслы, у куце налой, на

якім ляжыць крыж, над налоем ікона, перад якою гарыць лампадка, каля налою стаіць на ўслончыку купеля. На стале запаленая лямпа. На сцэне а. П ё т р а і М і н а. Калі расчыняецца заслона, а. Пётра канчае багаслаўляць Міну.

а. П ё т р а. Ну, сядай.

М і н а. Дзякую, бацюшка. Вось я, значыцца, як вы казалі гэтта, і прыйшоў.

а. П ё т р а. Бачу. (*Прайшоўся па пакоі і, раптам застанавіўшыся супроць Міны, які сеў, абурана.*) Запрашаць трэба, сам не мог наведацца! Ці, можа, ужо ў камуністыя ўпісаўся...

М і н а. Ды што вы, бацюшка, даражэнькі, мякіна вам... даруйце, бацюшка, — звычка... Я ж...

а. П ё т р а (*перапыняючы*). Ведаю. Наўкол абягаеце... Баіцёся, што хаўруснікамі маімі лічыць будуць...

М і н а. Далібог жа не! Праваліцца! Вось хоць зараз на крыжы прысягну. Ды чаго мне. Усё роўна голасу ж не маю.

а. П ё т р а (*зноў ходзячы па пакоі*). Усіх абезгалосяць. Застанецца гурток камуністых ды камсамольцаў толькі з галасамі; і будуць рабіць што захочуць.

М і н а. Во, во. Праўдна кажаце, мякіна ім у жывот.

а. П ё т р а (*з абурэннем*). Праўдна... праўдна! А чаго ж вы гледзіцё?!.

М і н а. Ды не нашая сіла... Што мы можам.

а. П ё т р а (*прайшоўшыся па пакоі*). Гуляеце! За гарэлкаю свету божага не бачыце! Балюеце, нібы перад смерцю.

М і н а. Бо яно ж так і выходзіць. Канцы ўжо нам, значыцца, мякіна ім у жывот.

а. П ё т р а. Няпраўда. Самі вінаватыя. Не ведаеце... Не хочаце! Ра-та-вацца не хочаце!

М і н а (*горача*). Ды як жа тут ратавацца? Чым тут ратавацца?

а. П ё т р а. Абы жаданне было.

М і н а (*шчыра*). Бацюшка, ды хто ж сабе вораг, але ж... Ну, навучэце!

а. П ё т р а (*з кепікамі*). Маленькі. За ручаньку цябе вадзіць.

М і н а. Калі ж...

а. П ё т р а (*зноў стаўшы насупраць Міны*). А што ты запяеш, калі ў нас у вёсцы калгас заснуюць, калі цябе зліквідуюць як класу, гэта знача, адбяруць усё, ды з торбаю і пусцяць.

М і н а. Хай спрабуюць!.. Ого! Маю гаспадарку, ды каб... Каб маю зямлю, ды на маім кані каб хто араў, мякіна яму ў жы-

вот. (*Са злосцю.*) А кулю ў лоб!

а. П ё т р а. Позна будзе. Жабраком зробяць ды ў Салаўкі яшчэ вышлюць.

М і н а. Ды што ж рабіць, бацюшка? (*З болем.*) Што вы мяне дрэнчыце!!

а. П ё т р а (*нібы не чуючы і шпарка ходзячы па пакоі*). На Бога, на запаведзі боскія забыліся. Не пажадай ні вала, ні жонкі, а яны жадаюць. Любі бліжняга, як самога сябе, а яны бліжняга з торбаю па свеце, у жабракі, у Салаўкі! Вялікія грахі, але вялікая будзе і кара божая!

М і н а. Правідна, бацюшка, кажаце. Няма на іх кары божае.

а. П ё т р а (*як вышэй*). А яшчэ большая кара чакае тых, хто не паўстаў на абарону веры Хрыстовае. Хто баяўся меч справядлівасці супроць ворагаў царквы ўзняць.

М і н а (*з запалам*). Уздымем, бацюшка! Мы іх, мяк…

а. П ё т р а (*перапыняючы і нібы ў захапленні, якое не шчырае*). А там, на захадзе, браты ва Хрысце точаць меч гневу божага, і ўзнімуць яго, і прыйдуць у Богам пакараную краіну, і зацвітуць ружамі руіны, і загінуць, як дым, як воск ад агню, ворагі Хрыстовы і ўсе, хто з імі не змагаўся. (*Кідаецца на калені перад налоем.*) Божа, злітуйся над няшчаснымі, маладушнымі. (*Міна спалохана таксама кідаецца на калені і шпарка жагнаецца.*) Умацуй іх, настаў, запалі іх сэрцы агнём адвагі! (*Б'е зямны паклон. Міна таксама расцягнуўся на падлозе. Чуваць, ляпнулі дзверы.*)

М і н а (*ускочыў*). Бацюшка! Нехта ідзе.

а. П ё т р а (*павольна ўстае з каленяў і з кепікамі і злосцю*). Баішся? Хавайся пад стол.

М і н а. Каб я... Ды за каго вы мяне лічыце, мякіна...

Расчыняюцца дзверы, і прасоўваецца галава А д а м а.

А д а м. Можна ў хату?

а. П ё т р а. Заходзь, заходзь.

М і н а (*на бок*). Мякіна табе ў жывот — напалохаў.

А д а м. Добры вечар, бацюшка. (*Да Міны.*) Здароў.

М і н а. Ага ж.

а. П ё т р а. Добры вечар. Сядай.

А д а м. Дзякую. Як я, бацюшка, тэго, можна сказаць, ніколі ў вас не быў, дык дазвольце ўжо... (*Дастае з-пад полы бравэркі кумпяк.*)

а. П ё т р а. Не трэба. Хавай. Не трэба!

А д а м. Не ўжо, дазвольце, айцец Пётра, бо як хутка Вялікдзень, тэго, дык яно і вельмі трэба. Бярэце, тэго, ужо, бярэце.

а. П ё т р а. Дармо гэта. Не трэба мне гэтага.

А д а м. Айцец Пётра, дазвольце ўжо, я яго, тэго, вось тут на стол пакладу.

а. П ё т р а. Ну... (*махнуў рукою ў адзнаку згоды*).

А д а м (*кладзе на стол кумпяк*). Тлусты, сапрэў крыху пад бравэркай.

М і н а. Вядома, каля грудзей.

а. П ё т р а. Добра, што прыйшоў. А я думаў ужо, што...

А д а м. Бацюшка, мы гэта разумеем. Усе разумеем, тэго. Не такі зараз час.

а. П ё т р а. Ну, добра, добра... Пасядзеце тут крыху... (*настойліва*), пагутарце, а я зараз. (*Бярэ кумпяк і выходзіць.*)

М і н а (*пасля паўзы*). Як гэта ты, Адаме?

А д а м. Што?

М і н а. Ты ж каталік.

А д а м. Э-э, пане браце, не такі зараз час, каб, тэго, багамі лічыцца.

М і н а. Т-а-ак...

А д а м. Т-э-э-к... (*Уздыхнуў. Паўза.*)

М і н а (*раптам стукнуўшы кулаком па стале*). Не! Якое яны маюць права! Якое?!

А д а м (*з кепікамі і злосцю*). У нас з табою не запыталіся. Хіба ў іх, у гэратаў гэтых, ёсць якое права?! Недавяркі. Д'ябальскае насенне... Адзінае, тэго, надзея, што палякі прыйдуць. Яны ўжо ім калгасы пакажуць (*са злоснай хціўнасцю*) прапішуць, распішуць...

М і н а (*раптам злосна*). Кінь! (*Адам змоўк і ўтароплена глядзіць на яго.*) Спадзяваліся сыр есці, а пасля не было дзе і сесці...

А д а м. Не прыйдуць? (*Міна маўчыць. Адам, апусціўшы галаву і з уздыхам нібы сцвярджаючы.*) Не прыйдуць...

Паўза. А. П ё т р а заглянуў на сцэну і схаваўся.

М і н а (*павольна*). Адам, чуеш?

А д а м (*тупа*). Га?

М і н а (*настойна*). Чуеш, Адам, ратавацца трэба.

А д а м. Трэба... А чым? А як?

М і н а. Параімося...

А д а м. Вось жа і прыйшоў, тэго.

М і н а. Жылі ж гэтак добра, спакойна... Падаткі? — на табе

падаткі, падавіся, мякіна табе ў жывот. Чаго табе яшчэ, дык не! Свет увесь дагары нагамі перакруціць хочуць!

А д а м (*злосна з кепікамі*). Жыццё, тэго, новае будуюць... На новыя рэйкі гаспадарку, тэго, ставяць.

М і н а. Каб яны крыжамі пры дарозе пасталі.

А д а м. А гэтыя, тэго, галота знюхала ўжо, які вецер ды скуль, — воўкам глядзіць. Гэты абшарпанец Мірон прыйшоў, і дай, кажа, тэго, аўчынку кажух палапіць... Дай, усё роўна, кажа, адбяруць...

М і н а (*з нянавісцю*). А скулу ў горла!

А д а м. Пагавары зараз, пане-браце, з імі...

М і н а. І што рабіць, што рабіць?

А д а м. А гутарыш з каторым, дык слухае, згаджаецца, а сам, псюха, іншае думае; па вачох, тэго, відаць, што іншае...

М і н а (*упарта скрозь зубы*). Трэба, трэба нешта рабіць, мякіна ім у жывот.

А д а м. Ды што, тэго, рабіць, каб і свая скура цэлая засталася.

М і н а (*згаджаючыся*). Вось жа.

а. П ё т р а (*хутка ўваходзіць*). Нешта зробім.

М і н а (*ад нечаканасці здзівіўся*). Га?

а. П ё т р а (*чытэльна*). Так! Дагаварыліся? (*Пільна глядзіць на абодвух. Яны, як бы пачуўшы недаверлівасць да іх з яго боку.*)

М і н а (*б'ючыся ў грудзі*). Дадушы.

А д а м (*таксама шчыра*). Дальпан! | разам.

а. П ё т р а (*ходзячы па пакоі*). Так... так... (*застанавіўся*). Дык галота, кажаце, ваўком пазірае?

А д а м. Але ж, бацюшка.

М і н а. Зверам пазірае. | разам.

а. П ё т р а. Муцяць... Са сцежак Хрыстовых народ збіваюць.

А д а м. Ага! І каб хто добры, а то ж зараза гэтая, тэго, аднавокая, Цімох гэты...

а. П ё т р а. Пойдзе, відаць, у Зарэчча на сход свой. Там дадуць інструкцыі, а тут ён і арудуе.

А д а м. Во, во!

М і н а. А няўжо ж, мякіна яму ў жывот?!

а. П ё т р а (*ходзячы па пакоі*). Так, так… А гэтыя авечкі заблукаліся і рады, цешаць шатана і канца хуткага ўсяму гэтаму не бачаць.

А д а м. Во-ох, хутчэй бы ўжо, тэго, канец ім усім.

М і н а. Ага ж.

а. П ё т р а. Прыйдзе, прыйдзе!.. (*Раптам пільна ўглядаючыся на абодвух.*) Толькі...

М і н а. Усё, што загадаеце.

А д а м. Пакіруйце, тэго, намі, бацюшка.

М і н а. А мы ўжо ўсё, мякіна ім у жывот.

а. П ё т р а. Веру. Добра. Пачнем. (*Хоча сесці за стол паміж імі, проста на гледача.*)

А д а м (*дастаючы з кішэні бутэльку*). Тады ўжо дазвольце, бацюшка, тэго, каб ямчэй было гутарыць. (*Вымае з кішэні і стаўляе на стол бутэльку.*)

а. П ё т р а (*раптам абураны ўскочыў*). Годзі!.. Хопіць!.. Пагулялі! Папілі!.. Усю Расію прапілі! Хопіць!!! (*Хапае бутэльку і б'е яе аб падлогу. Хвілінная мёртвая паўза. А. Пётра высокі, суворы, чорны, стаіць выпрастаўшыся за сталом, а па баках яго Міна і Адам у перапалоханых постацях сядзяць. А. Пётра спакойна, але цвёрда.*) Хопіць. Цяпер пачнем. (*Чытэльна і паволна жагнаючыся.*) У імя Айца, Сына і Духа...

У с е. Амэн.

Канец другога малюнка

## КАМЕДЫЯ ПАЧУЦЦЯЎ
*Урывак з п'есы*

### Малюнак восьмы

Мур палаца. Праз расчыненае вялікае акно ліецца святло, якое асвятляе пляцоўку перад палацам. Праз акно ж відаць і пакой Хрысана ў палацы. М а р ы с я, перагнуўшыся цераз падваконнік, гутарыць з С а в а с ц е е м, які стаіць пад акном.

С а в а с ц е й. Значыцца, толькі цяпер ячэйку скончылі?

М а р ы с я. Ага.

С а в а с ц е й. А як жа з Яўхімам?

М а р ы с я. Выключылі.

С а в а с ц е й. Ніякіх, значыцца, рабчыкаў, як кажа Лазар.

М а р ы с я. Ага. Ніякіх.

С а в а с ц е й (*задуменна*). Т-а-ак... (*І раптам, нібы зрабіўшы нейкае адкрыццё.*) А правільна, ведаеш, зрабілі!

М а р ы с я. А няўжо ж...

С а в а с ц е й. Каб пакінулі, дык развал бы ў камуне пай-

шоў... (*Марыся не адказвае, паўза.*) Та-а-ак... А дзе ж Хрысан?

М а р ы с я. Затрымаўся яшчэ там…

С а в а с ц е й. Чакаеш, значыцца.

М а р ы с я. Не.

С а в а с ц е й. Вось як?.. Значыцца, не майструецца жыццё...

М а р ы с я. Не майструецца, Савасцей.

С а в а с ц е й. Не да пары, значыцца... (*Марыся маўчыць.*) Не ў той бок завярнула... Табе з Міхалкам трэ' было б.

М а р ы с я. Яшчэ чаго!

С а в а с ц е й. Правільна кажу… Ты не думай: у ім зайздрасці гэтае звярынае няма: у новы час выгадаваўся, а так, дык ён... ты не глядзі, што адно вока ў мяне, — добра бачу.

М а р ы с я. Ведаю.

С а в а с ц е й. Вось жа... Ну, дабранач... Гутаркі гутаркамі, а вартаваць трэба (*адыходзячы*). Выключылі, значыцца...

М а р ы с я (*выпрасталася*). Зайздрасці звярынае няма... А ў мяне? (*Задуменна ходзіць па пакоі.*)

З-за рога палаца павольна выходзіць З о с я.
Сутыкаецца з Савасцеем, спынілася.

С а в а с ц е й. Зося? (*Паўза.*) Спацыруеш...

З о с я. ...Ноч харошая.

С а в а с ц е й. Харошая... А аднэй сумна.

З о с я. Не ведаю, Савасцей, не думала пра гэта.

С а в а с ц е й. Думаць не трэба — сэрцам адчуваеш. Сэрца — яно і без розуму скажа — яно і ногі ў пэўны бок накіруе (*паўза*). Харошая ноч... (*Паўза.*) А Хрысан яшчэ з ячэйкі не вярнуўся.

З о с я. Не ведаю.

С а в а с ц е й. Я кажу. Не майструецца ў іх жыццё.

З о с я. Не цікава, Савасцей.

С а в а с ц е й. Хіба? А не спіш жа.

З о с я. А, Савасцей, кінем пра гэта...

С а в а с ц е й. Яно вядома. Сабе, не тое што іншаму, цяжка бывае прызнацца... (*Адыходзячы.*) Чалавек — механізма складаная. (*Пайшоў.*)

З о с я (*адна ў задуменні праходзіць міма*). Цяжка прызнацца... Сапраўды цяжка, выходзіць.

У пакой уваходзіць Х р ы с а н.

Х р ы с а н (*да Марысі*). Не спіш яшчэ? (*Глядзіць на гадзіннік.*) Дзесяць на чацвёртую. Уга! Праз пару гадзін і на працу. Спаць, спаць, спаць...

М а р ы с я. Кладзіся, а я... я сёння... зараз... ад цябе пайду.

Х р ы с а н (*утаропіўся на яе*). Чаго ты? (*І, не атрымаўшы адказу, крыху збянтэжана.*) Я ж, здаецца, нічога.

М а р ы с я. Вось таму, што «нічога».

Х р ы с а н (*збянтэжыўся яшчэ больш*). Гэта праўда... Але ж сама бачыш... Праца... то змора, то перашкодзіць хто... Ну, і вось так усё і атрымалася...

М а р ы с я. Навошта, Хрысан? Не трэба. Ведаю я — адчула (*палка*). Спачатку, як адчула, думала, не вытрываю — крыўдна было, а пасля... зразумела.

Х р ы с а н. Што?

М а р ы с я. Не кахаеш ты мяне.

Х р ы с а н. Ну, во!

М а р ы с я. Так, так, Хрысан. Жадаў ты мяне — на злосць Зосі, жадаў... Жадаў ды не мог, бо яе... толькі Зосю... і нікога больш кахаць ты не будзеш. Ага. Зосю (*горача і з дакорам*). Ты ж усімі думкамі з ёй. Ты ж мяне Зосяй імкнуўся называць. Ты ж страшэнна ўсцешыўся, калі зразумеў, што не яна, але сам ты вінаваты ў разыходзінах вашых...

Х р ы с а н. Няпраўда!

М а р ы с я. Праўда. Ты сам лепш ад мяне гэта ведаеш. Крыўдна мне было — балюча і крыўдна... (*апусціўшы рукі, беспарадна*). А пасля — пуста, пуста і абыякава.

Х р ы с а н. Ты, значыцца, хочаш?

М а р ы с я. Скончыць з гэтым. Я ж ведаю, табе таксама цяжка. Я ведаю, ты шчыра спадзяваўся, што запамятаеш на Зосю. Праўда?

Х р ы с а н. Не ведаю...

М а р ы с я. Ведаеш, Хрысан, ведаеш! Не запамятаеш ты на яе ніколі. І не дзіва — яна разумней ад цябе... Яна дзеля цябе… Ты ж у ёй меў і матку, і настаўніка, і жонку, і таварыша, і дачку... Ну?

Х р ы с а н (*адварочваючыся і апускаючы галаву*). Так...

М а р ы с я (*з болем і роспаччу*). Так!!!

Х р ы с а н (*скалануўшыся, скеміўшы, што знішчыў у Марысі апошнюю надзею*). Марыся! (*Памкнуўся да яе.*)

М а р ы с я. Не, не! Не трэба, Хрысан. (*І штучна ўдаючы спакой.*) Я пераканалася. (*І горача і шчыра.*) Дзякую, Хрысан, дзякую за шчырасць. (*І знізіўшы тон.*) За надзею запамятаць са мной на Зосю дзякую, але я...

Х р ы с а н. Марыся! (*Горача схапіў яе.*)

М а р ы с я (*з балючай асалодай*). Любы мой... (*Абхапіла яго твар рукамі і раптам, нібы спалохаўшыся.*) Не трэба, Хрысан. Нічога ў нас не выйдзе…

Х р ы с а н. У-у-ух... як гэта паскудна.

М а р ы с я. Хоць і не была я тваёй, ды ўся табе належала, а ты... На ніцінку мне не належаў... Не скаруся я. Не перамагу я спадчыны.

Х р ы с а н (*са стогнам*). Го-о-о... (*Выпрастаўся, нават перагнуўся крыху назад. Пастаяў так момант, заплюшчыўшы вочы. Пасля нейк асеў, павярнуўся набок пару крокаў...*)

Раптам чуецца гоман, прарэзлівы крык і ў пакой урываецца П р а к с э д а. Яна ўскалашмачаная, раскудлачаная хустка з’ехала з галавы і матляецца на шыі.

П р а к с э д а. Ратуйце! Забівае!

М а р ы с я. Што з табой?

Х р ы с а н. У чым рэч?

разам.

Чуваць голас Яўхіма: «Не ўцячэш, падла, я цябе навучу!»

П р а к с э д а (*з жахам*). Вой, задушыць! Заб’е!! (*З перапуду хоча лезці пад ложак*).

Х р ы с а н (*да Праксэды*). Стой! Куды ты?

У пакой увальваецца п’яны і раз’юшаны Я ў х і м.

Я ў х і м. Дзе яна?! Дайце мне яе!

Х р ы с а н. Ты што?! Ашалеў?!

Я ў х і м. (*Убачыў Праксэду.*) Га-а! Вось дзе ты!.. Ну, чакай жа... (*Накіроўваецца да яе.*) Я цябе пастаўлю на рэйкі!

Х р ы с а н. Смірна! Назад!

Я ў х і м. А табе чаго? Чаго табе?!

Х р ы с а н. Не скандаліць! Ты дзе: у шынку ці ў камуне?!

Я ў х і м. Га-а!.. Абаронца!.. І яе, можа, хочаш сабе ўзяць? Усіх баб з камуны ў жонкі пазбіраеш... Старшыня!..

Х р ы с а н. Прэч адгэтуль! Ну...

Я ў х і м (*выкрыўляючыся*). Вон гоніш?.. З пакоя ці мо з камуны таксама?

Х р ы с а н. Выганем.

Я ў х і м (*злосна і з’ірытавана*). Не палохай... Сам пайду... На ліха мне твая камуна здалася, калі кожны ў ёй гаспадар?!

(*Зусім трацячы розум.*) Сёння свінаводсаюз, заўтра яшчэ якая трасца... Хто тут гаспадар?.. Я ці хто... (*Хапіўшы Хрысана за грудзі.*) Гаспадар я тут ці паслугач?.. Ну, адказвай!!

Х р ы с а н (*з агіднасцю адпіхваючы яго*). Працверазіся раней (*з кепікамі*). Гаспадар!..

Я ў х і м. Не пераводзь стрэлкі: адказвай... хто я?

П р а к с э д а. П'яніца (*плача*).

Я ў х і м. Маўчаць!!

Х р ы с а н. Ты. Годзе бузіць. А не, дык паклічу таварышоў, ды звяжам! Ноч... Дай людзям адпачыць.

Я ў х і м. Адпачнуць, як свінаводы ўсе пад мяцёлкі з камуны змятуць!

Х р ы с а н (*шчыльна падступаючы да Яўхіма, ціха, але цвёрда і з пагрозай*). Апошні раз кажу: супакойся, бо дрэнна будзе.

Я ў х і м (*выкручваючыся, прысядаючы і ляскаючы сябе па каленах рукамі*). Вой, страшна... Вой, баюся... (*І з зацятай злосцю, амаль шалеючы ад яе.*) Праваліся ты разам з такой камунаю. Згарыць яна няхай. (*І з п'янай плаксівасцю.*) Загубілі камуну, з'елі Яўхіма Скурата... (*І з'ірытавана.*) Га? (*І з болем.*) Праўду кажу! Праўду! (*Завярнуўся і хістаючыся пайшоў з пакоя.*)

П р а к с э д а (*плачучы*). А каб цябе зямля не насіла... Гора маё... (*Румзае.*)

М а р ы с я. Супакойся, Праксэда.

Х р ы с а н (*да Праксэды*). Ідзі спаць. Зараз ён цябе не кране — асеў...

П р а к с э д а. Не пайду я... заб'е ён мяне...

М а р ы с я. Не бойся... Я з табой пайду... У вас начаваць буду... Ну, ідзі... Я зараз... (*Выправаджвае Праксэду, якая ціха хліпае.*)

Х р ы с а н. Пойдзеш да іх?

М а р ы с я. Так... (*Падышла да Хрысана, узяла яго твар рукамі, момант глядзела на яго, пасля раптам пацалавала.*) Бывай, Хрысан.

Х р ы с а н. Зусім?

М а р ы с я. Так, Хрысан, зусім... Не будзе ў нас жыцця, не да пары мы.

Х р ы с а н. Упэўнена?

М а р ы с я. Так...

Х р ы с а н (*стаіць, расставіўшы ногі і апусціўшы галаву. Перамог хваляванне, і ціха*). Бывай...

Марыся хацела нешта сказаць, пасля бяздзейна махнула рукой, выцерла пальцамі слязінку і пайшла. Хрысан стаіць нерухома ў моцным задуменні. Пад акном з'яўляецца постаць Я ў х і м а. Хвіліну вагаецца, пасля рашуча дастае з кішэні рэвальвер і накіроўвае яго на Хрысана. Вынырнула з цемры постаць П. Я.

П. Я. (*кідаючыся да Яўхіма і хапіўшы яго за руку. Ад хвалявання шэптам*). Яўхім Ігнатавіч, Яўхім Ігнатавіч.

Х р ы с а н (*у пакоі, не бачачы гэтай сцэны, разважна і з расстаноўкай*). Бывай... бывай... (*І раптам.*) Ух! (*Стукнуў кулаком па талерцы, якая стаяла на стале. Талерка разляцелася на друзачкі, Хрысан выбег з пакоя.*)

Я ў х і м (*які моўчкі імкнуўся вырваць руку. Скрозь зубы*). Пусці...

П. Я. (*Я. В.*) Яўхім Ігнатавіч, вірабей... вірабей гэта; адзін з галінкі — дзесяць на галінку... У сэрца... У сэрца ворага біць трэба.

Я ў х і м. У сэрца.

П. Я. У сэрца камуны — свінарнікі... Грошы, сіла камуны на іх лягла. У-ух, заўтра камуны. Свінарнікі...

Я ў х і м. Свінарнікі!

П. Я. Го, якая ноч... Лета... Гарачыня... Волечка халодная ляжыць... Праз іх памерла... а яны будуць жыць, будаваць, а я тамсама, як і яна... Горача, Яўхім Ігнатавіч... горача. Сухменя... Го... што з маім сэрцам... Старое сэрца... старое...

Я ў х і м. У сэрца, кажаце?.. Бывайце.

# Барыс
# ІОФЕ

Барыс Ісакавіч Іофе нарадзіўся 23 лістапада 1918 г. у г. Горкі Магілёўскай вобласці.

У 1937 г. з адзнакай скончыў Горацкую беларускую сярэднюю школу і паступіў у Ленінградскі універсітэт на філалагічны факультэт. У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны ўдзельнічаў у пабудове абарончых умацаванняў пад Ленінградам. У ліпені 1941 г. закончыў універсітэт (дыплом з адзнакай). Працаваў на абарончым заводзе. У пачатку 1942 г. быў эвакуіраваны з блакаднага Ленінграда, апынуўся на Валагодчыне (Расія). Пасля заканчэння Свярдлоўскага пяхотнага вучылішча ў хуткім часе па ўласнай просьбе накіраваны на фронт (люты 1943 г.). Загінуў 15 снежня 1943 г. у баях пад горадам Радомышль на Украіне.

Друкавацца пачаў у школьныя гады. Яго допісы і мастацкія творы былі змешчаны ў раённай газеце «Ленінскі шлях», а таксама ў газетах «Піянер Беларусі» і «Пионерская правда». Літаратуразнаўчай працай актыўна займаўся ў 1939–1940-х гг. Цікавіўся беларускай літаратурай XIX ст., а таксама даследаваў творчасць Янкі Купалы. Апублікаваў артыкулы «Паэма «Тарас на Парнасе», «Літаратурнагістарычнае значэнне «Тараса на Парнасе», «Лірычная паэма Купалы «Яна і я», «Аб рамантызме Купалы».

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## ПАЭМА «ТАРАС НА ПАРНАСЕ»
*Аб часе і месцы напісання*
*і гісторыка-літаратурным значэнні*

### I

Паэме «Тарас на Парнасе» хутка будзе сто год, але яна і зараз чытаецца з захапленнем. Аб гэтым сведчыць зусім нядаўняе выданне паэмы ў дзесяцітысячным тыражы.

Лёс нашага «Тараса» надзвычайна цікавы. Паэма была надрукавана ўпершыню ў 1889 годзе — больш чым праз 40 год пасля напісання. Сорак год паэма вандравала ў спісках, якія мелі вялікае распаўсюджанне. Дзякуючы гэтаму яна набывала новыя варыянты, пашыралася ці скарачалася ў залежнасці ад таго, у якім асяроддзі яна бытавала. Пасля 1889 года паэма друкавалася шмат разоў у газетах, зборніках і асобнымі кніжкамі. У дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе маюцца наступныя выданні «Тараса на Парнасе».

1) «Тарас» — газета «Минский листок», 1889, № 37. Тэкст друкуецца тут па спісе, які бытаваў у былой Віцебскай губерні.

2) «Тарас на Парнасе» — газета «Смоленский Вестник», 1890, № 37.

3) «Тарас на Парнасе. Белорусская поэма», Віцебск, 1896.

4) «Тарас на Парнасе», выданне другое, Віцебск, 1904. Паэма тут друкуецца з варыянтамі па зводнай рэдакцыі, зверанай па многіх спісах Віцебскай і Магілёўскай губерній. Тэкст налічвае 313 радкоў.

5) «Тарас на Парнасе. Шуточный рассказ на белорусском языке». Гродна, 1896. Паэма мае тут 310 радкоў. Друкуецца без варыянтаў.

6) «Тарас на Парнасе» и другие белорусские стихотворения», Магілёў, 1900.

7) Таксама. Выданне 2-е. Магілёў, 1902. Паэма выдана фалькларыстам Е. Р. Раманавым на магілёўскім говары, вельмі аку-

ратна, варыянтамі. У паэме 313 радкоў.

8) «Тарас на Парнасе», Вільня, 1909. Паэма друкуецца тут без варыянтаў і падверглася нязначнай праўцы з боку літаратурнай мовы таго часу.

У Віленскім выданні паэма мае 310 радкоў.

9) «Тарас на Парнасе». У кнізе М. В. Доўнар-Запольскага «Исследования и статьи», т. 1, Кіеў, 1909, с. 205–213. Тэкст налічвае 305 радкоў, менш чым усе астатнія.

10) «Тарас на Парнасе», Мінск, 1917.

«Тарас на Парнасе» з'яўляецца адным з самых папулярных беларускіх твораў. Колькасць спісаў, хадзіўшых да надрукавання паэмы, не паддаецца ўліку. Пасля 1889 года толькі за 10 год (да 1900 года) паэма друкавалася 7 разоў, усё яшчэ не задавальняючы попыт на яе.

Аднак паэма не звярнула на сябе дастатковай увагі літаратуразнаўцаў і крытыкаў. Ёй займаўся прафесар М. В. Доўнар-Запольскі, часткова акадэмік Е. Ф. Карскі, Е. Р. Раманаў і мімаходам аўтары агульных аглядаў беларускай літаратуры. Паэма да гэтага часу не атрымала колькі-небудзь сур'ёзнага даследавання.

Застаюцца нявырашанымі пытанні аб яе аўтарстве, месцы і часе напісання, крыніцах, гісторыка-літаратурным значэнні ды інш. Вырашэнне гэтых пытанняў ускладняецца тым, што, акрамя тэксту паэмы, у нас не засталося ніякіх звестак аб ёй. Самы ж тэкст за час доўгага вандравання набыў новыя рэдакцыі, сярод якіх цяжка знайсці першаісную.

## II

Доўнар-Запольскі ў артыкуле «Дунін-Марцінкевіч і яго паэма «Тарас на Парнасе»[1] прыпісвае аўтарства «Тараса» вядомаму нашаму пісьменніку Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. Вывад Доўнар-Запольскага грунтуецца, як бачна, на тым, што замалёўкі сялянскага быту ў «Тарасе» вельмі нагадваюць малюнкі быту ў творах Марцінкевіча. Адвергшы шэраг рэдакцый паэмы, якія, па думцы Доўнар-Запольскага, з'яўляюцца больш ці менш скажонымі, ён у аснову свайго даследавання паклаў тэкст, дзе ўпамінанне польскіх пісьменнікаў і некаторыя стылістычныя асаблівасці пацвярджаюць, быццам, дапушчэнне аб аўтарстве Дуніна-Марцінкевіча. Пры бліжэйшым разгледжанні рэдакцыя,

прыведзеная Доўнар-Запольскім для абгрунтавання сваіх вывадаў, аказваецца дрэнным варыянтам «Тараса» і ніяк не можа прэтэндаваць на блізкасць да аўтарскага тэксту. Каб паказаць, што рэдакцыя гэта ўступае астатнім па мастацкасці, варта толькі параўнаць якое-небудзь месца паэмы, узятае наўгад.

Па большасці друкаваных рэдакцый[2]:

Памысліў я тады нямнога:
Што за шайтан Парнас такі?
Пайшоў я проста той дарогай,
Узяўшы ў рукі добры кій.

Па тэксце, які друкуе Доўнар-Запольскі:

Парнас? Што за чорт такі?
Падумаў сабе наш Тарас
І ўзяўшы ў рукі добры кій,
Шпарыць проста на Парнас.

Рэдакцыя Доўнар-Запольскага ўступае астатнім і па змесце. Як мы ўбачым, пазней сатыра на некаторых рускіх журналістаў з'яўляецца адной з асноўных частак паэмы. Тарас апынуўся перад Парнасам і ўбачыў натоўп людзей, якія, штурхаючыся, лезлі да гары, «гатовыя адзін другога з'есць, каб першым на гару ўзлезць». Сярод гэтага натоўпу Тарас заўважыў асабліва добра Булгарына і Грэча. Вось як перадаюць гэта месца паэмы большасць друкаваных рэдакцый:

Усе з сабой цягаюць кніжкі,
Аж з іншых пот руччом плюшчыць,
Друг дружцы выціскаюць кішкі.
Аж нехта з-паміж іх пішчыць:
«Памалу, братцы! Не душыце
Мой фельетон вы і «Пчалу»,
Мяне ж самога вы пусціце.
І не дзяржыце за палу!..»
……………………………..

Гляджу сабе, аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты, як кабан,
Плюгавы, дужа некрасівы,
Крычыць, як ашалелы, пан.

[1] Змешчан у «Витебских губернских ведомостях» (1896) і без змен перадрукаваны ў кнізе Доўнар-Запольскага «Даследаванні і артыкулы». Кіеў, 1909. Т. I.

……………………………..

Таварыш поплеч з ім ідзе
І несці кніжкі пасабляе,
А сам граматыку нясе,
Што ў семінар'ях вывучаюць.

Пад «сівым, кароткім, тоўстым» разумеецца Булгарын, пад таварышам яго — Грэч. Сатыра гэта вельмі трапная і зроблена па-майстэрску дзякуючы ўмелай карыкатуры і фактычнай правільнасці. Булгарын — відны журналіст, белетрыст і крытык 20–40-х год XIX стагоддзя — разам з Грэчам выдаваў газету «Северная пчела», амаль афіцыяльны орган, быў у блізкіх адносінах з III аддзяленнем, не грэбаваў даносамі на пісьменнікаў. Грэч — гісторык літаратуры і белетрыст. У 1828 годзе ён выпусціў «Начальные правила русской грамматики», упамінаемыя ў нашай паэме. Булгарына і Грэча ў літаратурных колах звалі «грачы-разбойнікі». Супастаўленне Грэча і Булгарына бліскуча зроблена Пушкіным у яго артыкуле «Торжество дружбы, или оправданный А. А. Орлов»:

«Посреди полемики, раздирающей бедную нашу словесность, Н. И. Греч и Ф. В. Булгарин более десяти лет подают утешительный пример согласия, основанного на взаимном уважении, сходстве душ и занятий гражданских и литературных. Сей назидательный союз ознаменован почтенными памятниками. Фаддей Венедиктович скромно признал себя учеником Николая Ивановича; Н. И. поспешно провозгласил Фаддей Венедиктовича ловким своим товарищем. Ф. В. посвятил Николаю Ивановичу своего «Дмитрия Самозванца»; Н. И. посвятил Фаддею Венедиктовичу свою «Поездку в Германию»; Ф. В. написал для «Грамматики» Николая Ивановича хвалебное предисловие; Н. И. в «Северной пчеле» (издаваемой г. г. Гречем и Булгариным) напечатал хвалебное объявление об «Иване Выжигине». Единодушие истинно трогательное!»

Як бачым, аўтар «Тараса на Парнасе» добра ведаў літаратурныя адносіны таго часу і справядліва аб'яднаў Булгарына і Грэча ў проціллегласць Пушкіну, Лермантаву, Гогалю, Жукоўскаму. У рэдакцыі ж Доўнар-Запольскага Грэч аказваецца таварышам... якраз Пушкіна, Гогаля і чамусьці Міцкевіча і Каханоўскага:

---

[2] Магілёўскай, Віцебскай, Гродзенскай (гл. зноску вышэй).

Удруг нешта зашумела,
Народ раздаўся на канцы,
Як бы птушак наляцела,
Узышлі чатыры малайцы.
То быў народ уж не такоўскі:
Міцкевіч, Пушкін, Каханоўскі
І Гогаль — хутка каля нас
Пайшлі, як павы, на Парнас.
За імі ззаду Грэч ідзець,
Нясці ім ксёнжкі памагае
І граматыку за поясам нясець, —
Тую, што ў школах научаюць.

Лёгка заўважыць, што паэма тут падверглася пераробцы аўтара польскай арыентацыі. Ён тэндэнцыйна даў нічым не апраўданую прысутнасць Міцкевіча і Каханоўскага, увёў некаторыя паланізмы (ксёнжкі), але, відаць, добра не ведаў рускіх літаратурных адносін 40-х гадоў і не зразумеў сатыру на тагачасных журналістаў.

Вырашаць аўтарства трэба па другіх выданнях паэмы. Магілёўскае выданне («Тарас на Парнасе и другие белорусские стихотворения», 1900) мы лічым лепшым. Яно рэдагавана Е. Рамановым і з'яўляецца зводнай рэдакцыяй некалькіх рукапісных спіскаў. Ад другіх выданняў яно адрозніваецца паўнатой тэксту: тэкст налічвае 321 радок. Віцебскія выданні «Тараса» прыблізна сходны з магілёўскім, але змяшчаюць 315 радкоў. Гродзенскае выданне без варыянтаў і мае 310 радкоў. Тэкст Доўнар-Запольскага ў пераважнай сваёй большасці не сходзіцца з гэтымі выданнямі і змяшчае ўсяго 308 радкоў. Віленскае выданне 1909 года надрукавана без варыянтаў і падвяргае паэму стылістычнай праўцы. Пры наяўнасці шматлікіх спіскаў і друкаваных выданняў зараз неабходна поўная зводная рэдакцыя «Тараса». Так ці інакш, пераважная большасць спіскаў гаворыць не ў карысць аўтарства Дуніна-Марцінкевіча.

Дунін-Марцінкевіч усе свае паэтычныя творы пісаў сілабічным вершам. «Тарас» жа напісан чатырохстопным ямбам, танічным размерам народнай паэзіі. Бытапіс «Тараса» куды жывей і праўдзівей, чым у Дуніна-Марцінкевіча. Апошні пры апісанні народа збіваецца на сентыменталізм. Дунін-Марцінкевіч у сваіх творах значнае месца адводзіць польскім пісьменнікам і нідзе не ўпамінае рускіх. «Тарас на Парнасе», як мы выявілі, ведае выключна рускіх пісьменнікаў»[3].

Вядома, што першы твор Дуніна-Марцінкевіча — «Сялянка» — выйшаў у 1846 годзе. Калі прызнаць яго аўтарам паэмы, прыйшлося б дапусціць, што «Тарас на Парнасе», напісаны раней 1846 года, з'яўляецца адным з самых ранніх твораў Марцінкевіча. Супроць гэтага гаворыць увесь творчы шлях пісьменніка. Першыя творы Дуніна-Марцінкевіча напісаны ў большасці на польскай мове: у «Сялянцы» на беларускай мове гавораць толькі войт Наум, Ціт ды хор сялян. Творы Марцінкевіча характэрны сваёй дыдактыкай, якая адсутнічае ў «Тарасе на Парнасе». Цяжка дапусціць, каб такі спелы ў літаратурных адносінах твор, як «Тарас», мог напісаць Дунін-Марцінкевіч у самым пачатку свайго творчага шляху. Ці не пэўней будзе думаць, што наша паэма зрабіла свой уплыў на «Гапона» Марцінкевіча і ў прыватнасці на вядомую сцэну ў карчме.

Другое дапушчэнне аб аўтарстве зрабіў вядомы беларускі фалькларыст Е. Раманаў у прадмове да зборніка, які ўжо ўпамінаўся. Ён адносіць напісанне паэмы да студэнтаў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, Магілёўскай губерні. На наш погляд, такая думка мае падставы для абгрунтавання.

Ужо акадэмік Карскі ўказваў на характэрную магілёўскую мову паэмы: «быццам» (у Марцінкевіча «мэрам» ці «маўляў»), «есці» ў 3 асобе адзіночнага ліку. Дададзім, што дыялектызмы, якія сустракаюцца ў паэме, па ўсёй мажлівасці магілёўскага паходжання. «Словарь белорусского наречия» Насовіча ведае ўсе сустракаючыеся ў паэме дыялектызмы. Слоўнік Насовіча пабудаваны, у асноўным, на матэрыялах говару Магілёўскай губерні (глядзі прадмову аўтара да слоўніка).

Акрамя мовы даволі паказальна месца жыхарства і прыгод Тараса. Яно даецца ў пачатку паэмы:

Ці знаў хто, братцы, з вас Тараса,
У палясоўшчыках што быў
На Пуцявішчы, у Панаса,
Ён там ля лазні блізка жыў.
……………………………………

Тарас балота з рання
Да цёмнай ночы пільнаваў.[4]

На тэрыторыі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута (былой Акадэміі), паблізу ад фундаментальнай бібліятэкі, ёсць узгорак, які студэнты ўжо з даўніх часоў і да гэтага часу называюць Парнасам. Насупраць узгорку, як частка надзвычайна маляўнічага месца, уздымаецца так званая Пятрова Горка. Тут зараз размешчаны Леспрамгас, а даўней было лясніцтва. На той жа

горцы, недалёка ад «Парнаса», былі і лазні. На тэрыторыі інстытута знаходзіцца невялічкае возера; яго, мусіць, і пільнаваў Тарас. Ці не гаворыць гэта аб напісанні паэмы ў Горках? Ва ўсякім выпадку, студэнты з любога вучэбнага будынка маглі бачыць усе памянёныя ў паэме месцы, размешчаныя ў парку інстытута ці блізка ад яго.

Горацкі сельскагаспадарчы інстытут быў адчынены ў 1840 годзе і спачатку называўся земляробчай школай. Туды прымаліся ў пераважнасці дзеці дваран, але пападалі ў невялікай колькасці і разначынцы. Усе паступаючыя ў інстытут мелі сярэднюю адукацыю. Студэнты былі знаёмы з антычнай міфалогіяй яшчэ з гімназіі. У інстытут прыходзілі газеты, часопісы і навейшыя выданні, студэнты цікавіліся культурным жыццём Расіі. У той час (ды і пазней) горацкія студэнты лічыліся культурнымі і ведаючымі людзьмі. Аб гэтым сведчыць і пазнейшы верш («Рэч старавойта», 1862):

Як пра што стане гаварыць,
Дык быццам які прэзідэнт;
Ўжо не патрапіць яго збіць
І горы-горацкі студэнт!

Калі гэта прыняць пад увагу, не здзіўляе, што аўтар паэмы, студэнт Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, умела выкарыстаў элементы антычнай міфалогіі і дасканала ведаў навіны рускай літаратуры, у тым ліку і імя Лермантава. (У той час Лермантаў толькі станавіўся вядомым паэтам.)

Калі напісана паэма?

Пытанне аб часе напісання «Тараса» канчаткова не развязана. Даследчыкі расцягваюць яго ад другой паловы 30-х гадоў да пачатку пяцідзесятых.

Час напісання «Тараса на Парнасе» вызначаецца наступнымі радкамі паэмы з сатырай на Булгарына. У натоўпе Тарас пачуў, што:

Нехта з-паміж іх пішчыць:
«Памалу, братцы! Не душыце
Мой фельетон вы і «Пчалу»,
Мяне ж самога вы пусціце
І не дзяржыце за палу!

[3] Аб гэтым указваў акад. Карскі («Белорусы». Т. III. Петраград, 1922. С. 82.

[4] Цытаты даюцца па магілёўскім выданні 1900 г.

А не, дык, дадушы, ў газеце
Я вас аблаю на ўвесь свет,
Як Гогаля ў прошлым леце, —
Я ж сам рэдактар усіх газет!»

Булгарын крытыкаваў «Рэвізор» Гогаля ў газеце «Северная пчела» ў 1836 годзе (№ 97, 98), «Мёртвыя душы» і «Жаніцьбу» ў 1842 годзе (№ 247, 137). У адпаведнасці з указаннем паэмы («у прошлым леце») яна магла быць напісана ў 1837 ці 1843 гадах. Дапушчэнне аб 1837 годзе, як даце напісання паэмы, павінна адпасці: Лермантаў, які ўпамінаецца ў паэме поруч з Пушкіным, Жукоўскім, Гогалем, стаў вядомы толькі ў 1837 годзе, а шырока вядомы пасля першых зборнікаў, якія выйшлі ў 1839–40 гадах. Акрамя таго, Горацкі сельскагаспадарчы інстытут адчынены ў 1840 годзе. «Тарас на Парнасе» быў, напэўна, напісаны ў 1843 годзе.

III

Пасля першага чытання ўжо кідаюцца ў вочы дзве тэмы «Тараса на Парнасе». Адна тэма — прыгоды Тараса і сялянскі быт. Яна займае пераважнае месца ў паэме і адыгрывае ў ёй галоўную ролю. Другая тэма — літаратурная барацьба ў рускай літаратуры канца 30, пачатку 40-х год. Яна састаўляе ў паэме прыблізна пятую яе частку.

Нам зручней пачынаць разгляд «Тараса» з другой тэмы.

Мы маем у паэме сатыру на Булгарына, Грэча ды іх шматлікіх прыхільнікаў і апалогію Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Жукоўскага, што «прайшлі, як павы, на Парнас». Мы не зразумеем гэтага працістаўлення, калі не звернемся да жыцця рускай літаратуры таго часу.

У канцы 30-х і пачатку 40-х год усе галіны рускай літаратуры развіваюцца ва ўнутранай барацьбе эпігонаў рамантызму і натуралізму з рэалістамі. Рэалізм пераможнымі крокамі заваёўваў сабе месца ў літаратуры. Па яго шляху ішоў вялікі Пушкін. Лермантаў ад ранняга рамантызму ідзе да рэалістычных твораў. Гогаль піша галоўныя свае рэчы, выдатныя рэалістычным паказам сапраўднасці. Іх творы з'яўляюцца народнымі па сутнасці, а не па дэкарацыі. Ідэйным абаронцам рэалізму і сапраўднай народнасці выступае Бялінскі.

«Гэтым перадавым рускім пісьменнікам дарэмна супрацьстаіць мяшчанская белетрыстыка 30-х гадоў. Булгарын і Кукальнік, Загоскін і Сянкоўскі, Бенедзіктаў і Грэч, перакладчыкі на рускія норавы заходнееўрапейскіх вадэвілей і меладрам,

адрозніваюцца адзін ад аднаго па сваіх інтарэсах, поглядах, прыёмах. Але ўсе яны выступаюць як рашучыя праціўнікі пачаткаў мастацкага рэалізму, як апалагеты самай напышчанай рамантыкі і самага мелкатраўчатага бытавізму»[5]. Уся народнасць гэтых пісьменнікаў заключалася, па трапнаму выразу Гогаля, «у апісанні сарафана». У гэтай барацьбе перамагаў мастацкі рэалізм. Аднак Пушкін, Гогаль, Лермантаў доўга заставаліся незразумелымі крытыкай і чытачамі. Грубы бытавізм і астаткі рамантызму мелі яшчэ моцную ўладу ў літаратуры. Тым большая заслуга «Тараса на Парнасе», што, прыняўшы ўдзел у літаратурнай барацьбе, яна аказалася на баку прыхільнікаў рэалізму Пушкіна, Гогаля, Лермантава, народнасці Жукоўскага. Паэма не лічыць Булгарына, Грэча і іх таварышоў вартымі быць на Парнасе — яны дарэмна цягнуцца да гары.

Тое, што беларуская паэма жыва адгукнулася на жыццё рускай літаратуры, не выпадкова. З аднаго боку — руская літаратура была заўсёды блізка чытаючай Беларусі. Лёс рускай літаратуры ў многім вызначаў беларускую літаратуру, як і літаратуры другіх братніх народаў. І гэта тым больш, што передавыя дзеячы рускай літаратуры ніколі не абмяжоўвалі сябе вузка нацыянальнымі рамкамі, уключаючы ў свой дыяпазон братнія народы (гл. «Памятник» Пушкіна, украінскія аповесці Гогаля, вобраз беларуса ў Някрасава і г. д.).

З другога боку — барацьба за рэалізм і народнасць у рускай літаратуры 40-х год была актуальнай і для толькі яшчэ нараджаўшайся беларускай літаратуры. Можна згадзіцца з характарыстыкай нашай тагачаснай літаратуры, якую дае акадэмік Карскі ў сваіх «Беларусах»: «З пачатку 40-х год беларускія творы паяўляюцца ўжо ў друку, пры гэтым з імёнамі пэўных аўтараў. Гэта больш працы некаторых польскіх пісьменнікаў з беларусаў, уладаючых з дзяцінства мясцовай народнай мовай, і зрэдку па тых ці іншых меркаваннях зварачваліся да яе дзеля сваіх твораў... Характар беларускіх пісьменнікаў (Рыпінскага, Чачота, Баршчэўскага, Дуніна-Марцінкевіча — *Б. І.*) ідылічна-сентыментальны. Дзе-нідзе прыкметна рыса гумарыстычна-насмешлівая. Адносіны да народа, кажучы наогул, пакравіцельственыя, не пазбаўленыя, аднак, у лепшых пісьменнікаў і любові да яго». Варта толькі бегла пазнаёміцца з творчасцю памянёных вышэй пісьменнікаў, каб бачыць, што яны не ідуць далей рамантызму, натуралізму і бытавізму.

Далей іх пайшла паэма «Тарас на Парнасе», якая не толькі стала на бок рэалізму і сапраўднай народнасці, але і сама з'яві-

лася выдатным рэалістычным творам беларускай літаратуры.

Багацей за ўсё ў паэме прадстаўлены тыповы беларускі быт. Тут і праца, і адпачынак, і страва беларуса. Дарма, што носьбітамі звычак беларускіх сялян з'яўляюцца багі. У многіх месцах, дзе няма гіпербалізацыі і шаржу, багі адхіляюцца ад думак чытача, іх імёны могуць быць паспяхова заменены на простыя беларускія імёны. Напрыклад:

Глядзіць ён, аж на лаўцы шыюць
Шаўцы багіням хадакі,
Багіні ж у начоўках мыюць
Багам кашулі і парткі.
Сатурн там, лыкі размачыўшы,
Падвіркай лапці падплятаў;
Па свеце добра пахадзіўшы,
Лапцей ён многа патаптаў.
Нептун на лаўцы чыніць сеці
І восці садзіць на шасты,
Пры ім жа, мусіць, яго дзеці
Дзіравы ладзяць нераты.

Увага чытача не застанаўліваецца на адным якім-небудзь малюнку, а яны праходзяць яркай веранціцай, як у калейдаскопе. Можна дзівіцца іх маляўнічасці пры надзвычайнай слоўнай скупасці: у 12 радках паэмы замаляваны — хата, двор і гаспадарка, гульні дзяцей, уражанне Тараса пасля таго, як ён «улез у хату». Кожны вобраз — член адной сям'і — акрэслены як тып. Зеўс — гаспадар Парнаса, як стары бацька, ляжыць на печы, падклаўшы сярмягу, усе слухаюць яго, стараюцца дагадзіць. Геба — яго жонка, многа працуе, рыхтуе на ўсіх абед; Венера, прыгожая сялянская дзяўчына, «мажа валасы» і «нечым твар свой беліць». Амур — вясёлы вясковы хлопец:

Амур жа з дзеўкамі жартуе,
Ну, проста смех ажно бярэць!
То ён знянацку пацалуе,
То хустку з галавы здзярэць...

Абед састаіць з тыповых беларускіх страў. Малюнкі абеду вытрыманы ў гумарыстычных рысах. Тут і капуста, і скваркі, кулеш, крупеня, пастаялка, каша, гусяціна, кілбасы, гарэлка, бліны. Пасля абеду пачаліся скокі. Ці не ўспамінаецца вясковая

---

[5] Цэйтлін А. Руская літаратура І паловы XIX стагоддзя. М.: Вучпедгіз, 1940.

вечарынка, чытаючы такія радкі:

Узяўшы хустачку, Венера
Пайшла «мяцеліцу» скакаць.
Прыгожа, стройна цераз меру —
Пяром не можна апісаць!
Чырвона, тоўста, круглаліца
І вочы, як на калясе,
Як жар, гарыць яе спадніца,
Істужка ўплецена ў касе.
.................................................
А вось і сам Юпітэр з Вестай, —
Пусціўся, стары хрэн, у пляс,
Як бы жаніх перад нявестай,
Заткнуў ён рукі за пояс.

Але над усімі вобразамі ўзвышаецца Тарас. Ён увесь час прысутнічае ў паэме і акрэслены ўсебакова. Яго характарыстыку ад аўтара знаходзім у самым пачатку паэмы, але ніхто так добра не характарызуе нашага героя, як ён сам праз апавяданне аб сваіх прыгодах на Парнасе. Усе малюнкі і вобразы пераламляюцца праз Тараса, даюцца ў яго ўспрыманні. Тарас упітаў у сябе многія з рысаў працоўнага беларускага народа.

Тарас — бедны селянін, палясоўшчык у пана. Ён сцеражэ панскае балота з рання да цёмнай ночы. Мусіць, не па ўласнай ахвоце ідзе ён пільнаваць лес яшчэ «з першых петухоў». Папаўшы ў новае месца, Тарас нясмела аглядаўся, яго дзівіла багацце божай гаспадаркі: і моцны яловы тын, і козы, і бараны, і бясклапотнае жыццё, і смачны ды сытны абед, ад якога —

Аж слюнкі пацяклі ў Тараса
І забурчэла ў жываце.

Нічога гэтага не было ў Тараса. У часе скокаў Тарас глядзеў, як Марс скакаў з німфамі ў новых ботах і заўважыў, што «ён, мусіць, ботаў не жалеў». У самога Тараса ботаў не было, ён «прыстукваў атопкам».

Тарас любіць працу. Яна ўвесь час суправаджае яго і з’яўляецца часткай яго істоты:

Чуць золак — ён стральбу за плечы,
Заткнець сякеру за пояс, —
Заўсёды ходзіць бор сцярэгчы
І птушак біць з ружжа Тарас.

Усе багі дзівіліся, як скакаў Тарас («То ён прытопне, то прысвісне, то шпарка пойдзе ў кругі») — ён вясёлы, тэмпераментны чалавек. Па ўласным прызнанні, ён «не труслівы дзяціна». Доўга ляцеў Тарас у яму, а калі апынуўся на цвёрдым грунце, спакойна «рукой паскрабаў каля вуха, дабыў з табакай рагавень, і храпу напіхаў цяртухай, бо не ўжываў ён цэлы дзень». На Парнасе Тарас не быў знянацку папаўшым нявольнікам. Яго ўсё цікавіла, ён нічога не мінае і часам дае ацэнку таму, што бачыў.

Тарас любіць прыроду і дзівіцца яе хараству — співанню птушак, прыгожым кветкам, яму сніцца мядзведзь і цецярук. Усё гэта даецца без ідылічнай сентыментальнасці, праз успрыяцце бывалага палясоўшчыка, заўсёды канкрэтнае, апрадмечанае праз штодзённа акружаючы яго быт. Так, «чырвоны краскі, мак і рожа» Тарасам параўноўваюцца з шырынкай (платком), зефіры — з птушкамі, «вочы, як на калясе», а курчавы Амур параўноўваецца з баранам. Мова Тараса эмацыянальная, разгаворная. Яна перасыпана воклічамі («Авохці мне! Як там прыгожа!», «Злажыўся стрэльбай — кляпсь! Не паліць»), прылажэннямі (хлопцы-дзецюкі), параўнаннямі, прыклады якіх мы бачылі вышэй.

Вобраз Тараса — вялікае, калі не галоўнае дасягненне ўсёй паэмы. Гэта першы рэалістычны вобраз беларуса ў нашай літаратуры. Эней з «Энеіды навыварат» Равінскага не носіць яшчэ тыповых нацыянальных рысаў і абавязан сваім папярэднікам з іншых травесціраваных паэм. Тарас пазбаўлены шаржу і гратэску, якія маюцца ў вобразе Энея, пазбаўлены ён і сентыментальнасці, ідылічнасці і дыдактыкі беларускіх вобразаў Рыпінскага, Чачота, Баршчэўскага і Дуніна-Марцінкевіча. Нават Гапон і Кацярына апошняга, вобразы, што паявіліся пазней Тараса, блядней яго. Тарас упітаў у сябе нацыянальныя рысы беларуса. Просты чалавек, зусім не герой у звычайным сэнсе гэтага слова, акрэслены ў паэме з розных бакоў (у тым ліку і з сацыяльнага, як мы бачылі вышэй). Таму мы не памылімся, калі скажам, што паэма ўпершыню ўзвяла Тараса, селяніна-палясоўшчыка, на Парнас беларускай паэзіі.

Спецыяльнай увагі заслугоўваюць пытанні аб жанравым вызначэнні «Тараса на Парнасе» як камічнай паэмы і аб непасрэдных літаратурных ды іншых крыніцах твора. Мы застановімся толькі на некаторых момантах, звязаных з гэтымі пытаннямі.

Чым дасягаецца камічнасць паэмы? Яна дасягаецца кантрастам тэмы і яе афармлення, зніжэннем «высокай» тэмы Парнаса. Парнас — свяшчэнная гара, звязаная з міфічнымі легендамі,

месца знаходжання муз і паэтаў, — быў традыцыйнай «высокай» тэмай сусветнай літаратуры. Гэтай тэме прысвечаны і «Тарас на Парнасе». Але ў нашай паэме багі аказваюцца сялянамі, жыццё багоў надзвычайна падобна на жыццё звычайных людзей, занятых патрэбамі будняў. «Высокая» мова парнаскай паэзіі ўступае месца простай, народнай мове палясоўшчыка Тараса. Камічнасць паэмы дасягаецца тым, што Зеўс-грамавержац ляжыць на печы, «шукае ў барадзе», што бог любві Амур аказваецца «круглалікім хлапчынай», які «жартуе з дзеўкамі», што бог мораў Нептун чыніць сецi, а Геркулес «мнець хахол» богу вайны Марсу і г. д.

Паэма мае вялікае падабенства з бурлескам.

Адной з непасрэдных літаратурных выток «Тараса» з’явілася наша беларуская травесціраваная паэма «Энеіда навыварат» Равінскага. Элементы быту ў дзвюх паэмах вельмі падобны. У «Энеідзе» «Яол сядзеў на печцы і лапці сабе падплятаў», за сталом

Кулагу пхалі ў жываты,
Была ў іх гушча і драчона
І парасяціна смажона.

Пасля абеду «Зявес сядзеў у клецi, гарэлку з мёдам там сцябаў». Гэтыя ды іншыя падрабязнасці быту нагадваюць нам «Тараса на Парнасе». Ёсць і тэкстуальныя супадзенні: здзіўленне ці імпэт выклікае аднолькавыя выклічнікі (Авохці мне!). У «Энеідзе»:

Любіў ён (Яол) цешыць грэшна цела,
Дзявуха па нутру была.

У «Тарасе»:

Любіў ён (Зявес) цешыць грэшна цела,
Часамі і лоўка падгуляць.

Адной з выток паэмы быў фальклор. Тарасавы прыгоды адбываюцца «На самога Кузьму-Дзям’яна». Такое прыўрочванне невыпадкова. Па народных павер’ях, у дзень Кузьмы-Дзям’яна могуць здарыцца розныя нечаканасці і здавацца страхі. Тарасу якраз здаўся страх, з ім здарылася нечаканасць. Сюжэт паэмы пабудаваны на элементах казачнасці: цудоўны сон, селянін сустракае мядзведзя, палохаецца, прыгоды з ім...

Пасля агляду твора можна зрабіць вывады і вызначыць месца паэмы ў беларускай літаратуры.

Пасля «Энеіды» Равінскага «Тарас на Парнасе» з’явіўся другім выдатным творам нашай літаратуры. Паміж першым дзесяцігоддзем XIX стагоддзя, калі была напісана «Энеіда», і саракавымі гадамі паяўляліся толькі віншавальныя вершы, псеўданародныя песні, этнаграфічныя творы і невялікія вершы польскіх пісьменнікаў у народным духу.

Паэма «Тарас на Парнасе» спачувала прагрэсіўным сілам у барацьбе за рэалізм і народнасць у рускай літаратуры таго часу і сама стала першым выдатным рэалістычным творам беларускай літаратуры. Паэма змяшчае ў сабе бытавы, сацыяльны, псіхалагічны рэалізм і рэалістычную мову, хоць і не пазбаўлена натуралізму, які лёгка апраўдаць у раннім творы.

«Тарас на Парнасе» з’явіўся вехай у развіцці беларускай літаратуры — паэма дала першы рэалістычны вобраз беларуса і абвясціла аб тым, што Тарас паяўляецца на Парнасе: з саракавых год беларуская літаратура набывае пераемственасць сваіх дзеячаў (Дунін-Марцінкевіч — Багушэвіч — Колас і Купала), з гэтага ж часу беларус як вобраз трывала ўвайшоў у нашу літаратуру, рухаўся і мацнеў ад Тараса і Гапона да палясоўшчыка Міхала з «Новай зямлі», да дзеда Талаша і героя сацыялістычнай рэчаіснасці.

## У ИСТОКОВ БЕЛОРУССКОЙ ЛИТЕРАТУРЫ*
*Белорусская литература в 40-е годы XIX столетия*

### I

Белорусская литература моложе других славянских литератур и гораздо моложе русской. Начало новой письменной белорусской литературы относят только к концу 30-х и к 40-м годам XIX столетия. Такое запоздание было результатом многовекового гонения белорусского народа и его языка...

Начало новой белорусской литературы тесно связано с польским восстанием 1830 года... Чтобы выяснить, как началась белорусская литература и какие перед ней перспективы, мы должны будем обратиться к жизни и литературной деятельности представителей белорусской литературы 40-х годов — Рыпинского, Борщевского, Яна Чечота...

Одно из самых видных мест в зарождении белорусской ли-

тературы занимает Ян Чечот. Его деятельность еще до сих пор недостаточно оценена. Мы должны рассмотреть ее наиболее широко и по возможности полно. <...>

III

Ян Чечот был близким другом великого польского поэта Адама Мицкевича. Первый том своих стихотворений, изданный в 1822 году, Мицкевич посвятил друзьям, первым начертал имя Чечота.

Ян Чечот родился в 1797 году в Женихове близ Новогрудка в Белоруссии. Годом позже близ того же Новогрудка на хуторе Заосье родился Адам Мицкевич, будущий великий польский поэт. Судьба соединила двух этих людей. Родители определили обоих в Новогрудскую доминиканскую школу. Там они сдружились и больше не расставались всю жизнь. В доминиканской школе оба друга страстно увлеклись поэзией. Хмелов в двухтомной биографии Мицкевича пишет, что после окончания 3 класса Адам часто печатался в «Политическом календаре» вместе с другими лучшими учениками 3 класса, к которым принадлежали Пилесский, Ян Чечот и Томашевский. По окончании доминиканской школы оба друга поступают в Виленский университет, который был передовым учебным заведением своего времени... В университете организуется кружок филоматов... Чечот весь отдался идеалам филоматов и пронес эти идеи через всю свою жизнь... Уже на студенческой скамье Чечот увлекается народной белорусской поэзией, часто слушает народные песни и сам пишет, подражая им.

ЛИТЕРАТУРНАЯ ПОЗИЦИЯ ЧЕЧОТА.
РАННИЕ СТИХОТВОРЕНИЯ

Чечот начал свою деятельность в то время, когда романтизм прочно вошел в польскую литературу. Польский романтизм выдвинул колоссальную фигуру Мицкевича, он вывел польскую литературу из провинциальных рамок на мировую арену. Польша слыла тогда одной из самых революционных стран Европы, а польский романтизм — одним из выдающихся... Как и его друзья, Чечот требовал от литературы служения народу. Но в отличие от своих друзей, в том числе Мицкевича, Чечот это служение понимал очень примитивно: писатель не должен углубляться в себя, он должен учить народ жить лучше. Писа-

* Друкуецца са скарачэннямі.

тель, по Чечоту, должен читать мораль народу. Он жестоко нападает на поэтов, у которых так или иначе звучали мотивы индивидуализма. Находясь в русле романтизма, в русле польской его вариации, Чечот занял в нем такую позицию, которая очень близко подводила его к отжившему стилю классицизма... Свою литературную позицию Чечот стремился привить своим друзьям, даже Мицкевичу. Игнатий Домейко в своих воспоминаниях пишет, что «Чечот был покладист для всех, но суров к себе и Мицкевичу». Знавшие Чечота писали о нем, что он «любил расточать опеку свою над коллегами, особенно младшими, и читать им мораль. Но тем, кого он больше любил, скорее от него припадало, тем меньше всего шел на уступки. Часто он брюзжал на самого Мицкевича». Своеобразная литературная позиция отражалась на всем творчестве Чечота. Наиболее полно литературная позиция Чечота сказалась в его сборнике «Pieśni ziemianina». Свое поэтическое кредо Чечот выразил в стихотворении «К поэту». В этом стихотворении Чечот осмеивает сентиментальное настроение романтического поэта, его углубленность в себя: «Есть над чем плакать, не плачь сам над собой». Чечот осмеивает стихотворения, в которых чувствительный поэт «слезы льет над любовью». Задача поэзии иная. «Люди сегодня не так еще безупречны, чтобы перестать их воспитывать. Поэт должен внушать людям веру и добродетель». Чечот призывал вернуться к морально-дидактической поэзии, но хочет привнести в нее новое содержание. Именно такую поэзию Чечот положил в основу своей деятельности. Это относится одинаково и к польским, и к белорусским его стихам...

## ПОЛИТИЧЕСКИЕ ВЗГЛЯДЫ ЧЕЧОТА

Самой большой несправедливостью он считал безмерное угнетение народа со стороны помещиков и панов, особенно белорусского народа — абсолютно бесправного и вдвойне угнетаемого. Об ужасающей нищете белорусского крестьянства Чечот не мог говорить полным голосом: за оппозиционной литературой следили тогда очень внимательно, особенно в Польше... Главной задачей своей жизни Чечот считал облегчение положения белорусского крестьянства. Бедность и нищету Чечот относил за счет какого-то недоразумения — люди не договорились, как относиться друг к другу. Стоит только панам начать заботиться о своих крестьянах, как положение деревни исправится. Забота эта сама по себе не требует огромных жертв: всё должно остаться на своем месте, даже крепостное право.

Но нужно следить, чтобы крестьяне имели исправные сермяги, чтобы они имели свободное время, чтобы они учились читать; надо заботиться о здоровье крестьян. Нужно зорко следить за экономами, которые бьют и мучают крестьян, и не давать им этого делать. Чечот аппелирует к человеческому сердцу, которое он считает самым великим реформатором. «Я считаю себя свободным от необходимости горевания над нищетой и бедственным видом любимых поселян. Пусть каждый обратится на минуту к своему сердцу, и сердце его скажет больше, чем я сумел бы сказать». ...Чтобы улучшить положение, надо исправить панов и крестьян. И Чечот становится учителем тех и других... Из этих политических взглядов вытекала своеобразная литературная позиция Чечота, требовавшая внутри романтизма морально-дидактическую поэзию, которая, по мнению Чечота, одна способна воспитать народ и делать благо. Свою литературную деятельность Чечот не рассматривал как самоцель. Стихами решил Чечот учить крестьян, как надо исправлять жизнь. Стихами и прозой... Чечот решает учить помещиков сердечному отношению к крестьянам. Так появились польские и белорусские стихотворения Чечота...

Все белорусские стихи обращены к крестьянам — Чечот понимал, что разговаривать с крестьянами нужно на их родном языке... Белорусские стихотворения Чечота имеют огромное историко-литературное значение. Это были первые в 19 веке напечатанные на белорусском языке произведения. Они отходили в основном от польского силлабического стиха к приемам и языку народной белорусской песни. О литературном белорусском языке в пору Чечота говорить не приходилось, потому что не было литературы на этом языке. Одна из больших заслуг Чечота заключается в том, что его песни (как и фольклорные записи) сыграли немаловажную роль в деле зарождения белорусского литературного языка. Наконец, стихотворения Чечота и их общая направленность сыграла большую роль в формировании творчества первого крупного белорусского писателя 19 столетия — Дунина-Марцинкевича... Стихотворениям Чечота суждено было сыграть в белорусской литературе немаловажную роль...

Для той же утопической идеи примирения интересов крестьян и помещиков Чечот предпринял собирание и издание белорусских народных песен — второе свое большое и очень важное дело. О цели издания белорусских народных песен: «Мы были бы счастливы, когда бы эти песенки послужили у нас на

увеселение... и умножали бы взаимопривязанность пана и крестьянина, от которой столько зависит!» ...Белорусских песен Чечот напечатал 120. Они охватывают свадебные, дожинковые, жнивные, купальные и другие песни. Среди песен есть такие, которые спустя много лет легли в основу крупнейших белорусских произведений. В 6-ой книжке песен помещено народное предание о Бондаровне, которое легло в основу замечательной поэмы Янки Купалы «Бандароўна». Кроме белорусских песен Чечот собрал и напечатал в 6-ой книжке белорусские пословицы и идиомы с переводом их на польский язык и комментариями. К некоторым песням приложены описания народных обрядов. «Крестьянские песенки» Чечота явились фактическим началом белорусской фольклористики и этнографии. Нельзя не видеть в этом огромной заслуги Чечота перед белорусским народом.

### ЧЕЧОТ-ЛИНГВИСТ

Печатать книжки на белорусском языке было делом нелегким. Нужно учесть, что это был первый опыт и надо было самостоятельно решать ряд очень сложных вопросов: как на письме отразить белорусские звуки? Какое произношение считать правильным и принять в своем стихосложении? Чисто практические задачи поставили Чечота перед необходимостью изучать белорусский язык и зачинать белорусскую лингвистику. Для этого у него был огромный материал, многочисленные фольклорные записи, но в начале работы было очень мало знаний, не было достаточной лингвистической подготовки. Ян Чечот считал белорусский язык не диалектом, а равноправным славянским языком. Никто до Чечота, да и долгое время после него, так прямо эту мысль не высказывал. Только Богушевич в начале 90-х годов выразил такой же взгляд в своем предисловии «Дудке белорусской»... Исходя из того, что белорусский язык равноправен, Чечот пришел к необходимости создания литературного белорусского языка. Здесь Чечот был немного наивен. Он указывал, что в белорусском языке много диалектов... Но он не понимал, что основой литературного языка должен стать один из диалектов... Литературный язык, правильно указывает Чечот, должен основываться на народном языке... Что касается правописания, то Чечот предлагает установить фонетический принцип... Известно, что дальнейшее развитие белорусского правописания привело к фонетическому принципу письма — принципу, который предсказывает Чечот...

Чечот сделал много важных наблюдений над белорусским языком и указал на главные его особенности... Много раз он останавливается на фонетических изменениях отдельных звуков в различных диалектах белорусского языка. Лингвистические высказывания Чечота нуждаются в тщательном изучении, тем более, что о них нет ни одного упоминания даже и в тех немногочисленных работах, которые посвящены Чечоту...

## ЛІРЫЧНАЯ ПАЭМА КУПАЛЫ «ЯНА І Я»

Янка Купала ў пераважнасці лірык. Мы можам гэта сцвярджаць не толькі таму, што найбольшае месца ў яго творчасці займаюць лірычныя вершы, але і таму, што і эпічныя і драматычныя творы Купалы пранізаны лірызмам.

Мерылам лірычнасці паэмы ці драмы лічыцца звычайна колькасць так званых лірычных адступленняў. З такім мерылам нельга падыходзіць да Купалы. У паэмах і драмах Купалы лірызм зусім не з'яўляецца «адступленнем», а пранізвае ўвесь твор, арганічна ўваходзіць у яго тканіну. Ці можна песню гусляра з паэмы «Курган» або пахаванне гусляра з той жа паэмы лічыць адступленнямі? Не, таму што яны працягваюць дзеянне, яны з'яўляюцца часткай сюжэта. А між тым гэтыя месцы «Кургана» з'яўляюцца глыбока лірычнымі. Такіх прыкладаў мноства ва ўсіх паэмах Купалы.

Роля лірызму ў паэмах Купалы да таго вялікая, што на долю ўласна эпічнага элемента застаецца амаль адзін толькі сюжэт. Сувязь сюжэта — эпічнага элемента з лірызмам састаўляе істотны бок такіх паэм Купалы, як «Забытая скрыпка», «Курган», «Магіла льва», «Бандароўна», «Над ракой Арэсай» і рад іншых. Гэтыя паэмы могуць быць умоўна названы ліра-эпічнымі паэмамі.

У Купалы ёсць адна паэма, у якой адсутнічае названы намі «эпічны элемент» — сюжэт і якая можа быць названа лірычнай паэмай. Мы маем на ўвазе паэму 1913 года «Яна і я». Да аналізу гэтай паэмы мы і пераходзім. З усяго круга пытанняў, якія ставіць паэма, мы возьмем толькі некаторыя, на наш погляд, асноўныя.

«Яна і я» — гэта паэма аб каханні. Тэма кахання ў творчасці Купалы не новая: яна распрацоўвалася ў паэмах «Адплата кахання», «Магіла льва» і ў радзе іншых твораў. Але ў гэтых творах аўтар ставіў праблему кахання ў адпаведнасці з характарамі герояў. Так, напрыклад, Зоська з паэмы «Адплата кахання» кахае

інакш, чым Наталка з «Магілы льва». У паэме «Яна і я» Купала цалкам аслабаняецца ад вымышленых герояў, аслабаняецца ад неабходнасці паказу кахання ў пераламленні характараў гэтых герояў і, такім чынам, мае магчымасць выразіць свае ўласныя думкі аб каханні не толькі ў мастацкім, але і ў філасофскім плане.

Гэтым мы не хочам сказаць, што ў паэме зусім няма вобразаў, няма герояў. У паэме дзейнічаюць два вобразы — «яна» і «я», пры гэтым «я» супадае з аўтарскім «я». Але героі маюць другараднае значэнне. Мо таму і не даў Купала сваім героям імён. Больш, чым героі, яго цікавіць сама праблема кахання ў шырокім сэнсе. Героі («яна» і «я») намаляваны нават без знадворнай партрэтнай характарыстыкі. Зацікаўленасць праблемамі больш чым героямі пагражала паэме быць адцягненай і неканкрэтнай. Але Купала даў такі псіхалагічна верны паказ зараджэння і росту кахання, такі верны паказ глебы, на якой вырасла каханне, што паэма паспяхова пазбегла гэтай небяспекі.

У ліра-эпічных паэмах Купалы дзеянне рухаецца разам з развіццём сюжэта. У іх ёсць завязка, кульмінацыйны пункт і развязка, як і ва ўсякім павестваванні. Як абстаіць справа у нашай бессюжэтнай паэме? Што рухае яе наперад? Асноўным момантам руху паэмы з'яўляецца паступовы рост кахання двaіх маладых людзей. Рост кахання супастаўлен з рухам прыроды ад вясны к лету. Арганічнае злучэнне няўхільнага росту кахання і спеючай прыроды стварае дынамічнасць не меншую, чым фабула ў ліра-эпічных паэмах.

Каханне на ўлонні прыроды — досыць традыцыйная тэма літаратуры. Але Купала своеасабліва малюе нам і каханне і прыроду. Для яго прырода менш за ўсё фон, яна нідзе ў паэме не напамінае дэкарацыю. Прырода заўсёды якім-небудзь чынам непасрэдна звязана з героямі. Героі-закаханыя не толькі любуюцца прыродай, а да яе зварачваюцца: сеюць, полюць гародніну ды інш. Праца стварае тое новае, што ўносіць Купала ў малюнак прыроды.

Але калі праца састаўляе як бы неаддзялімую частку герояў і прыроды, то яна з'яўляецца і крыніцай кахання. «Яго» і «яе» супольная праца нараджае і замацоўвае каханне — вось тэзіс, які вынікае з паэмы Купалы. Гэта новая мараль, мараль працоўнага чалавека. Сапраўды, самыя ўзвышаныя пачуцці закаханых нараджаюцца з працы. Купала гэта неаднаразова падкрэслівае. Для прыкладу разбярэм чацвёртую частку паэмы. Яна называецца «За кроснамі». «Ёй» трэба было сесці за кросны, каб кужаль

сівенькі ткаць. «Ён» дапамагае сваёй каханай. Частка пачынаецца з апісання працы. Пры гэтым даецца апісанне са знарок празаічнымі падрабязнасцямі:

З бярозы вычасаў ставы ёй новыя,
Набіліцы кляновыя зрабіў,
А панажы выстругаваў кляновыя,
Навой, як трэба, зарубіў.

Узяўшы дзічку-яблыню крамнястую,
Стругаў чаўнок гладзей ад шкла.
Купіў на рынку берда густа-частае.
Ніты сама яна спляла.

Работа разам з каханай стварае глебу, на якой расце прывязанасць закаханых адно да аднаго. Пасля таго, як «ён» зрабіў для «яе» кросны, разам садзяцца яны працаваць:

Так шчыра з ёю ўзяліся дарэчы мы;
Яна ўсё тчэ, а я сучу,
І ўкрадкаю любуюсь яе плечамі,
За белымі грудзьмі сачу.

У канцы часткі прывязанасць і пачуццё кахання выліваюцца ў патэтычную тыраду з радам клічных сказаў, часам у тонах народнага заклінання:

Тчы, мая ткалля! Кроў твая ўзыгралася;
Маланкай гойсае чаўнок.
О, каб хаця аснова ўжо не рвалася!
Каб моцны й спорны быў уток!

Гэтая частка паэмы тыпова для большасці астатніх частак. Часткі «У хаце», «За кроснамі», «Выган у поле жывёлы», «Ворка», «Беліць палатно», «Сяўба», «Поліць агародніну» напісаны ў такім жа плане: праца з яе празаічнымі падрабязнасцямі, збліжэнне закаханых у часе работы; патэтычны маналог «яго» да «яе».

Каханне і праца з’яўляюцца адной з цэнтральных тэм паэмы Купалы.

Мы ўжо гаварылі вышэй, што прырода, нібы акампанемент, суправаджае ўсё растучае каханне герояў. Нечакана ў радасныя матывы вясны і кахання ўплятаецца могільны матыў. Ён займае канец шостай часткі і ўсю сёмую частку паэмы («Радаўніца»). Пасля яркіх фарбаў таяння снягоў, першых вясенніх красак неспадзяваным здаецца пейзаж могільніка з могільнымі плітамі, зарослымі мохам, з жудкай капліцай. Між тым — гэта адзін з

самых жыццярадасных момантаў паэмы. Купала ставіць тут адвечную тэму жыцця і смерці і сцвярджае агромную каштоўнасць жыцця. Наступныя радкі паэмы не пакідаюць месца для сумнення аб яе аптымізме.

На могільніку ён і яна:

Мы благаславілі неба воблік сіні,
Што нашы думкі ўзносіў да сябе,
І ў думках кланяліся той часіне,
Што нас злучала ў шчасці і жальбе.

Жыццё, зямлю і сонца блаславілі,
Старыя грушы, вербы на мяжы,
А праклінаді толькі скону хвілі
І тыя вечныя па нас крыжы.

Трэцяй важнейшай тэмай паэмы з’яўляецца праблема свабоднага чалавека.

Мы прывыклі ў Купалы бачыць творы з вострымі сацыяльнымі праблемамі, калі сацыяльная тэма ляжыць, як кажуць, на паверхні. У паэме «Яна і я» сацыяльныя, грамадскія адносіны герояў проста не паказаны. З гэтага можна зрабіць няправільны вывад, што паэма пазбаўлена сацыяльных матываў. Такі вывад і рабіўся некаторымі літаратуразнаўцамі, якія называлі паэму творам «чыстага мастацтва», ці сентыментальным творам.

Акрамя агульных праблем аўтара цікавяць і героі паэмы — «яна» і «я». Героі намаляваны з пункта гледжання іх багатых унутраных пачуццяў, іх псіхалагічных перажыванняў. Псіхалагізм герояў Купала перадае надзвычай тонка. Асобныя адценні яго цяжка злавіць — яны перададзены ў рытме працы, у «яе» загавары перад выганам кароў у поле, у песні-вяснянцы і інш. Пачуцці герояў увесь час нарастаюць і дасягаюць вышэйшага пункта шчаслівых перажыванняў у 13 і 14 частках паэмы, напісаных з вялікай мастацкай сілай і вялікім тактам. Купала паказаў унутранае жыццё сваіх герояў. Такое «адкрыццё асобы» вырастае ў патрабаванне свабоды для яе. Ведаючы творчасць Купалы, мы загадзя можам гаварыць, аб якой свабодзе ідзе гутарка — безумоўна, аб сацыяльнай свабодзе. Людзі вялікай творчай працы і вялікіх пачуццяў патрабуюць вызвалення з-пад ланцугоў — гэтая тэма праходзіць чырвонай ніткай праз усю паэму, і ў фінале, у самых апошніх вершах, гучыць поўным голасам:

А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць,

Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.

Мы бачым, што паэма «Яна і я» ўваходзіць у творчасць Купалы як сацыяльная паэма, паэма барацьбы за свабоду. Праблемы, што ставіць паэма, вырашаны ў высокамаральным плане.

Спынімся на кампазіцыйных асаблівасцях паэмы.

Першая яе частка напісана ў рамантычным стылі. У ёй няма ніводнага рэальнага ці рацыянальнага вобраза. Тут дзейнічаюць «нявіданыя дзівы», якія абымаюць герояў сваімі фантастычнымі крылламі, з'ядноўваюць іх навекі і, як плачкі, пяюць вясельны гімн. Нават самі героі — ён і яна — выступаюць у незвычайным адзенні. Яна прадстае ў «шлюбнай белі», а ён «ахутан у мрок»:

І мы пайшлі, як тыя цені-мары,
Няспынна ад расы і да расы;
Запаланелі нам бліскучыя пажары,
Закуранелі чорныя лясы.

Акрамя саміх ірацыянальных вобразаў тут важна набяганне слоў (крыжавыя дарогі, дзівы, цені-мары і інш.), стваpаючых настрой асаблівай урачыстасці. Гэта прыём чыста рамантычны. У такім жа стылі напісана і апошняя частка паэмы, дзе «крылаты вецер», «старое папялішча зямлі», «песня з перуновай сталі» закліканы завяршыць паэму лікуючымі ўрачыстымі фарбамі. Рамантычны пачатак і канец як бы абрамляюць паэму. Яны ствараюць уражанне манументальнасці, якое застаецца ў нас пасля чытання паэмы.

Усе астатнія 12 частак як бы ўкладзены паміж застаўкай і канцоўкай. Яны пабудаваны таксама сіметрычна, больш ці менш аднатыпова: спачатку даюцца рэалістычныя дэталі работы ў амаль празаічным апісанні, потым даецца апісанне пачуцця любві і маналог, як у разабранай вышэй частцы «За кроснамі».

Атрымліваецца сіметрычнае пабудаванне: паміж дзвюма манументальнымі калонамі (пачаткам і канцоўкай) размяшчаюцца астатнія 12 частак, з якіх кожная стылістычна ў сваю чаргу дзеліцца на тры частачкі.

Сіметрыя ствараецца і тым, што кожная з 14 частак паэмы мае роўную колькасць чатырохрадкоўяў — па васьмі.

У паэме багата выкарыстана народная творчасць. Купала бярэ і тыя жанры фальклору, якія рэдка выкарыстоўваюцца літаратурай. У паэме шырока прадстаўлены народныя заклінанні. Вось прыклад (з 1-й часткі):

А каб вас злыя не змаглі заломы!

А каб не зналі душы вашы ран!
А каб вас не кранулі буры, громы!
А каб к сабе не звабіў вас курган!

У пятай частцы «Выган у поле жывёлы» выкарыстана народная замова:

Ты, ясна сонца, месяц, ясен свет,
І вы, на небе часценькія зоры,
Вы ўсе, што кропіце расою цвет
І асвятляеце сушу і моры, —

Зямлю агрэйце, вырасцце траву,
Не пашкадуйце есць і піць жывінам,
Шаўковую сцяліце мураву,
Абгарадзіце жалязяным тынам... і г. д.

У паэме прадстаўлена абрадавая паэзія (замовы, памінкі памёршых і г. д.), у якой Купала па-майстэрску выкарыстаў не яе рэлігійную абалонку, а народна-паэтычную сутнасць.

У 11 частку («Поліць агародніну») цалкам устаўлена народная песня «Вяснянка» («Ой, брала вясна ў сонца ключы»).

Шырыня тэм, захвачаных Купалам, і арыгінальнасць іх вырашэння, багацце паэтычных сродкаў, шырокае выкарыстанне народнай творчасці робіць паэму «Яна і я» надзвычай цікавым і прыкметным з’явішчам ва ўсёй творчасці Купалы.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Уладзімір ЛІЎШЫЦ*

## АБАРАНЯЮЧЫ РАДЗІМУ

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. У чэрвені 1941 года Барыс разам з сябрамі па універсітэце будуе абарончыя збудаванні пад Ленінградам.

А ў ліпені 1941 года спецыяльнай пастановай Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта студэнтам, якія добра вучыліся, было дазволена здаць дзяржаўныя іспыты. Сярод іх быў і Барыс Іофе, які здаў усе іспыты на «выдатна» і атрымаў дыплом з адзнакай (першай ступені).

Па дзяржаўным размеркаванні яго накіравалі працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў г. Новасібірск. Аднак з-за таго, што Ленінград у гэты час быў ужо ў блакадзе фашысцкіх войскаў, Барыс пайшоў працаваць на абарончы завод. У лісце ад 4 лістапада 1941 года брату Хацкелю ён піша: «…Ленінградцы тры месяцы стрымліваюць полчышчы немцаў, якія асаджаюць горад. Вось пайшоў ужо чацвёрты месяц абароны. Немцы акапаліся і зараз мерзнуць каля гарадскіх сцен. Частая бамбёжка і артылерыйскі абстрэл не далі ім чаканых вынікаў. Рыхтуюцца новыя папаўненні на Ленінградскі рубеж. Немцы зараз моцна рвануліся да Масквы. Яны могуць выйграць сто бітваў, але вайну ўсё роўна прайграюць. Добра было б застацца жыць і быць сведкам перамогі...»

З ліста бачна, што ён працуе на заводзе ў пажарнай ахове. «Гэта работа, — піша Барыс, — стала патрэбнай асабліва пасля таго, як нямецкія бамбардзіроўшчыкі пачалі кідаць запальныя бомбы...

Учора захацелася наведаць Публічку (публічную бібліятэку — *У. Л.*), глытнуць кніжны пыл, які ва універсітэце стаў родным...

...Я зраблю ўсё, каб дапамагчы фронту, працуючы без стомы. Галоўнае — жыць нашай краіне, а потым і нам у ёй...

...Я веру, што родная Беларусь і нашы Горкі будуць вызвалены. Мы яшчэ вернемся — перажыць бы толькі рашаючы час».

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў вельмі цяжкага і галоднага жыцця ў Ленінградзе.

«У Барыса пачалася ўжо дыстрафія, — успамінае яго сястра Злата. І раптам ён прапанаваў мне адзначыць мой дзень нараджэння. Запалілі «буржуйку», сагрэлі трохі вады. Я думала, што гэтым

абмяжуецца наша свята. Але Барыс дастаў з мяшочка, загорнутыя ў паперу, тры пернікі. Ён прыхаваў іх на гэты выпадак...»

У пачатку 1942 года Барыс разам з сястрой Златай па «дарозе жыцця» быў эвакуіраваны. Як гэта адбывалася, ён красамоўна напісаў у лісце ад 22.07.1942 года да брата Хацкеля: «Ужо студзень ішоў да канца. Голад і бамбёжка дапаўнялі адно аднаго. З лістапада няма бані. Няма трамвая. Няма электрычнасці. Я і Злата спачатку апухлі, а потым схуднелі. Зусім нечакана 31 студзеня 1942 года мяне вызвалі ва універсітэт, выдалі эвакаліст і сказалі: «Едзь».

1 лютага пайшло на неабходныя даведкі і іншую мітусню. Дабіліся дазволу на выезд Златы. Ноччу мы збіраліся, але не было сіл сцягнуць вяроўку. 2 лютага раніцай я і Злата павезлі да Фінляндскага вакзала свае рэчы. Злата везла іх, я не мог везці, толькі дапамагаў. На паўдарозе я сустрэў Ісака Ляндрэса. Ён без рэчаў ішоў на вакзал, але не перанёс дарогі і памёр у мяне на руках. Ужо на вакзале памерлі мае аднакурснікі Ліпа Марголін і Коля Дракін».

Па прыбыцці ў Волагду эвакуіраваных накіравалі на папраўку ў вёску Вялікі Двор Сокальскага раёна Валагодскай вобласці. Яны жылі на кватэрах у калгаснікаў, якім на папраўку і аздараўленне эвакуіраваных выдавалі асобны паёк.

Некалькі месяцаў Б. Іофе лячыўся ад дыстрафіі, а затым добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію. Яго накіроўваюць у Свярдлоўскае пяхотнае вучылішча, дзе ён вучыцца на мінамётным аддзяленні.

Аб месяцах вучобы засталіся лісты Барыса да родных.

«*24.05.1942* ...Я знаходжуся ў Свярдлоўскім пяхотным вучылішчы на мінамётным аддзяленні. Мяне мацуе думка, што я рыхтуюся адпомсціць за Горкі, за маці, за Веру, Фаню і Жэню».

«*20.06.1942* ...Мне вельмі цяжка фізічна. Адчуваю, што не спраўляюся з вялікай фізічнай нагрузкай. Але наперадзе фронт і жаданне барацьбы з немцамі».

«*4.08.1942* ...Шмат чытаю. За час вучобы прачытаў 20–25 кніг, нягледзячы на тое, што часу не стае».

«*8.01.1943* ...Я жыву як і заўсёды. Адзіная мая мара — хутчэй быць на фронце, вельмі надакучыла быць у тыле той час, калі ідуць гарачыя і паспяховыя баі».

«*9.02.1943* ...Год таму назад мы з Златай, змерзшыя і згаладалыя, прыехалі ў Вялікі Двор з Ленінграда. Галодны час у блакадным Ленінградзе для мяне як сон, як прачытаная кніга, — журботная і да болю жорсткая...

Усім нам радасныя перамогі нашай слаўнай арміі. Пад Сталінградам яна цуд стварыла, але паведамленне аб прарыве блакады Ленінграда сагрэла сэрца шчасцем — такім, як быццам яно адносіцца толькі да мяне і да нікога іншага...»

Барыс з адзнакай заканчвае курс вучылішча, і яго пакідаюць там камандзірам аддзялення новага набору, выбіраюць сакратаром камсамольскай арганізацыі. Аднак ён хоча ісці на фронт і падае некалькі рапартаў з просьбай адправіць яго непасрэдна змагацца з фашыстамі. І з лютага 1943 года Барыс — камандзір мінамётнага ўзвода 1105 стралковага палка 328 стралковай дывізіі.

Ён прымае ўдзел у баях па вызваленні Каўказа, Краснадарскага краю, Кіева і Жытомірскай вобласці. Яго камандзір роты Павел Іванавіч Жайваронак* у лісце да яго брата Хацкеля пісаў: «Іофе Барыс Ісакавіч прыбыў да мяне ў роту прыкладна ў лютым-сакавіку 1943 года непасрэдна на перадавую лінію, дзе мы вялі баі на Каўказе і раёне Краснадарскага краю за станіцу Крымская... З першых дзён ён паказаў сябе дысцыплінаваным, палітычна адукаваным, ведаючым сваю працу. Бору салдаты з першых дзён палюбілі, і ён сярод салдатаў карыстаўся вялікім аўтарытэтам. У перыяд зацішша на нашым участку Барыс сярод салдатаў праводзіў гутаркі, натхняў салдатаў на подзвіг».

Захаваліся лісты, якія з фронту Барыс пісаў свайму брату:

«*9.06.1943* ...Знаходжуся непасрэдна на перадавой. У перапынку паміж агнявымі налётамі выпаўзаю глядзець на мудрагелістыя горы Каўказа, на знявечаную зямлю і спаленыя лясы».

«*5.07.1943* ...Жыву франтавым жыццём у 50-ці метрах ад праціўніка.

...Як тут скапана зямля сапёрнымі лапатамі, як перапахана артылерыяй!.. Відаць, дарагая ты, зямліца. Зараз больш, чым калі, хочацца, каб немцаў хутчэй разбіць, вярнуцца да сваіх родных, бачыць свабоднай сваю Беларусь, квітнеючы свой Ленінград».

«*30.06.1943.* Да фронту прывык. Вяду сябе актыўна. Інтэнсіўна абстрэльваю фрыцаў і не даю ім падняць галавы...

...Што б ні здарылася, зараз не страшна: ёсць поўная ўпэўненасць, што фрыц прайграе вайну і наша Радзіма будзе свабоднай».

«*9.10.1943* ...Радасна, што вызвалілі людзей са звярынага засценка.

...Нашы войскі падышлі да нашых родных Горак, мяркуючы па зводках, там ідуць баі».

Гэта быў апошні ліст. 15 снежня 1943 года ў баях пад горадам Радамышль Барыс гераічна загінуў.

Аб тым, як гэта адбылося, можна даведацца з ліста згаданага намі П. І. Жайваронка. У ім ён апавядае, што 15 снежня 1943 года пад горадам Радамышль Жытомірскай вобласці фашысты пайшлі ў контрнаступленне. На яго батальён было кінута больш за 40 фашысцкіх танкаў. Воіны роты гераічна змагаліся з фашыстамі, падбілі некалькі танкаў. Аднак большасць асабовага саставу роты ў гэтым баі загінула, а ў жывых засталося ўсяго 7 чалавек. Яны пад покрывам ночы пайшлі на злучэнне са сваімі. Сярод іх быў і цяжка паранены П. І. Жайваронак, якому праз 6 дзён блуканняў удалося выйсці да сваіх войскаў.

У баі загінуў і наш зямляк Барыс Іофе.

Паводле звестак Радамышльскага РВК, Барыс Іофе разам са сваімі аднапалчанамі пахаваны ў брацкай магіле горада Радамышль Жытомірскай вобласці.

---

* У 1971 г. брат Б. Іофе Хацкель праз Архіў Міністэрства абароны СССР знайшоў былога камандзіра роты П. І. Жайваронка, які пражываў у в. Ярэскі Шымацкага раёна Палтаўскай вобласці.

# Сара
# КАГАН

Сара Рувімаўна Каган нарадзілася 3 ліпеня 1895 г. у в. Максімавічы Ігуменскага павета (цяпер Клічаўскі раён Магілёўскай вобласці).

Загадвала гарадской бібліятэкай у г. Бабруйску. У 1935 г. разам з сям'ёй пераехала ў Мінск. Працавала ў бібліятэчным калектары, вучылася на вячэрнім аддзяленні філалагічнага факультэта Мінскага педінстытута. Загінула ў 1941 г. у мінскім гета.

У друку выступала з 1929 г. Пісала на ідыш. Яе творы былі апублікаваны ў газеце «Акцябэр» («Кастрычнік»), часопісе «Штэрн» («Зорка»). Аўтар зборнікаў паэзіі «У дарозе» (1934), «Мая радзіма» (1938), «Нашы людзі» (1940), кніг прозы «Першая прэмія» (1938), «Скрыпач» (1941). У перакладзе на беларускую мову выйшлі «Апавяданні» (1940). Перакладзеныя творы С. Каган надрукаваны ў часопісах «Полымя рэвалюцыі», «Работніца і калгасніца Беларусі», газетах «Літаратура і мастацтва», «Звязда» і інш.

# ПАЭЗІЯ

## РАДЗІМА

Люблю я сумны бор і гаці,
Палі, узгоркі, сенажаці —
Тут нарадзіла мяне маці,
Тут з песняй гушкала заўжды,
Тут дзецьмі мы грыбы збіралі,
Адсюль нас вечна праганялі,
Тут на пяску мае у далі
Пралеглі першыя сляды.

Тут і жыццё я пачынала
І слова першае сказала,
Свайго маленства мары ткала,
Адчула слова «чалавек».
Тут з дзецьмі я чакала маці
З далёкай панскай сенажаці,
Гуляла ў костачкі на гаці,
Тут біў нас град і лівень сек.

Тут палахлівая дзяўчынка,
На венік рэжучы галінкі,
Я ўся дрыжэла, як былінка,
Тут потым стада я пасла,
Па лужах босая хадзіла,
Тут сонца цела мне паліла,
Тут я расою твар свой мыла,
Ваду крынічную піла.

Тут маладосць сваю згубіла
Сярод чужых палёў пастылых,
Тут цяжкі стогн матулі мілай
Упершыню пачула я.
Тут ў бой братоў я выпраўляла,

Тут з перамогай іх спаткала,
Сваё дзіцё тут цалавала,
Збялела тут галава мая.

…Выходжу ў жытнія прасторы,
І здэцца мне, што толькі ўчора
Згубіла я у цяжкім горы
Свае найлепшыя гады.
Я іх шукаю ў кожным дрэве,
Ў травінцы кожнай, ў кожным слове,
У лёгкім ветрыка павеве,
У хвалях шумнае вады.

У цвеце водарных чаромух,
Ў рыканні статкаў, ў сініх стропах,
У дыме комінаў знаёмых,
Што ўсхвалявалі так душу,
Я іх знайшла, маленства вёсны,
Што тут згубіла ў сцежках росных, —
Я зноў радзілася дзівосна,
Я на руках сябе нашу!

Іду, і вочы ззяюць смела —
Ад шчасця ўся я захмялела!
Як люба галавой збялелай
Схіліцца ў дымныя жыты!
Ўзяла я серп, і, як бывала,
Але з вясёлай песняй жала.
Я каласы твае звязала
У сноп духмяна-залаты.

Радзіма! Знік той час бяздольны!
Як добра мне ў палях раздольных
Тваім паветрам дыхаць вольным
І слухаць шэлест спелых ніў!
Хачу гарэзіць зноў, смяяцца,
Вясёлай песняй залівацца.
Не томіць рук сягоння праца —
У целе новых сіл прыліў.

Радзіма! Як мне дораг кожны
Твой сноп, твой бор, твой луг мурожны,
Калгас твой новы, слуп дарожны,
Твой час жніва і час сяўбы!
За шумныя твае дубровы,

Світанні, песні, дол барвовы
Заўжды няўхільна я гатова
Для самай цяжкай барацьбы.

Радзіма! Край нязнаных цудаў!
Дачка твая, заўжды і ўсюды
Зямлю тваю я славіць буду
І сонца яснае тваё.
Табе, што вочы мне адкрыла,
Сваімі сокамі ўспаіла
І, як дзіця, мяне ўзрасціла,
Належыць ўсё жыццё маё.

## СЯБЕ МАЛАДЗЕЙ АДЧУВАЮ…

Як мне не спяваць з агнём,
Не радавацца без краю,
Калі з кожным новым днём
Сябе маладзей адчуваю.

Дачка старэйшая ўжо
Іграць мяне вучыць
На скрыпцы,
Сын вучыць трымаць ружжо,
Ад шчасця ажно іскрыцца.

Дачка другая са мной
Жартуе
І кружыць у танцы.
Дом поўніцца гаманой,
Не хоча
Са смехам расстацца.

Сынок малодшанькі мой,
Як ветрык той, налятае.
І гальштук агністы свой
На шыю мне прымярае.

У светлым палоне ў жыцця
Не ведаю часам,
Дзе я,
Ці маці я, ці дзіця?
Адно ведаю: маладзею!

## СУСТРЭЧА

Хто у акно мне
Грукае так рана?
Хто там грукае
Спаважна так?
Прачынаюся расхвалявана:
«Я ужо йду.
Ну што там за дзівак?»

Сонную фіранку адхінаю
І ў акно ўзіраюся хутчэй.
Радасць заіскрылася жывая —
Бачу двойцу маладых вачэй.

— Мама!
— Вой! Дачушка дарагая,
Ты не напісала мне чаму?
Я б сустрэла,
Бо даўно чакаю.
Рада слову кожнаму твайму.

— Мама,
Дакараць мяне не трэба.
Быццам на валах вязуць лісты.
Да цябе я прыляцела з неба,
І мяне зямную бачыш ты.

Ў небе расцвітаюць парашуты
І хмурынкі песцяцца ўваччу.
Я скакала долу без пакуты
І цябе расцалаваць хачу.

Расчыняю вокны ўсе і дзверы.
Як галубка, заляцела ў дом.
Сонечным зрабіўся ранак шэры,
Дзень будзённы
Стаў святочным днём.

— Будзь здарова, мама залатая!
На хвілінку заляцела я,
І цяпер у неба адлятаю.
— Будзь шчаслівая, дачка мая!

# ПРОЗА

## У ГАСЦЯХ
*Апавяданне*

I

Імпэтна імчаўся скоры поезд. Калёсы пад сінімі вагонамі выстуквалі па рэйках такт пад любую мелодыю. Паравоз пыхцеў, выпускаючы фантаны іскраў і клубы дыму.

У вагоне нумар чатыры, на сценах якога вісеў надпіс «Для некурящих», ехалі, бадай, адны жанчыны. У вагоне было чыста, цёпла і ўтульна. Па ўсіх кутках адбываліся інтымныя гутаркі пасажыраў. Дзе-нідзе быў чутны чысты тонкі голас дзіцяці.

У сярэднім купэ ля самага акна сядзела пажылая жанчына, проста і чыста апранутая. Яе папырсканыя сівізной валасы былі гладка зачосаны ўгару і выбіваліся з-пад чорнай шаўковай хусткі. Мілавідны твар жанчыны быў крыху бледны. З-пад шырокага ілба ў тонкай павуціне зморшчын пазіраюць навокал глыбокія яшчэ маладыя чорныя вочы. Яна абаперлася локцямі аб столік і не зводзіць вачэй з акна, з прастораў зялёных палёў і лугоў, з нізкіх густых стрыжаных прысадаў, што жывым строем бягуць насупраць, нібы пусціліся ўвыперадкі з лятункамі-думкамі пасажыркі.

Яна — цялятніца з інтэрнацыянальнага калгаса «Акцябр» — едзе ў Мінск. Яна едзе неспадзявана, раптоўна. Пару тыдняў таму назад яна, Хана, аднаго разу, вярнуўшыся дамоў з цялятніка, знайшла на стале пісьмо. Адразу яна пазнала почырк сваёй дачкі. Сіма піша ёй вельмі часта. Гады два таму назад Сіма атрымала вышэйшую асвету, а цяпер працуе інжынерам на адным з мінскіх заводаў.

Хана распячатала канверт і ўтаропілася вачыма ў пісьмо. Пачатак пісьма быў напісан тым жа стылем, як заўсёды. Але крыху ніжэй Хана сустрэлася з навіною, з нечаканай навіною. Вось што ёй напісала Сіма:

«Дарагая мама! Можаш мяне віншаваць: я выйшла замуж. Мой Павік працуе разам са мною на заводзе. Ён слаўны чалавек і добры рабочы, стаханавец. Завод адзначыў наша вяселле вельмі шчодрым падарункам: мы атрымалі добрую новую кватэру з поўным абсталяваннем. Запэўніваю цябе, маці, што я шчаслівая і мы вельмі хацелі б, каб ты прыехала да нас у госці».

Унізе пісьма была маленькая прыпіска дробнымі літарамі:

«Я забыла табе, маці, напісаць, што Павел — рускі».

Доўгі час Хана стаяла пасярод пакоя з пісьмом у руках, і пачуцці, шмат пачуццяў узбудзіліся ў яе сэрцы. Галоўным чынам урэзалася ў яе памяць кароткая прыпіска ў пісьме. Значыць, у яе дачкі рускі муж, — думала яна, і сэрца яе пачало біцца з нейкай дзіўнай сілай. Яна перавярнула лісток на другі бок і заўважыла незнаёмы почырк на рускай мове. Яна чытала з вялікім хваляваннем:

«Дарагая маці. Я шлю вам сваё першае сардэчнае прывітанне. Пра ўсё вам напісала Сіма. Я магу толькі яшчэ раз паўтарыць, што мы жывём шчасліва і просім вас без доўгіх збораў прыехаць да нас. Спадзяюся, што будзем дружыць. Ваш Павел».

Яе вочы заблішчэлі, і дзве буйныя слязіны паказаліся на расніцах.

Быў ужо позні адвячорак. З усіх акон ужо свяцілася святло. Хана ляжала на ложку з пісьмом у руках і яшчэ раз і яшчэ раз чытала і перачытвала прывітанне Паўла. Гэта пісьмо хвалявала яе. Радасць і смутак у нейкім дзіўным злучэнні напоўнілі сэрца. Хана ўспомніла сваю маладосць, і нібы нажом хтосьці ўскрыў яе рану, што ўжо некалькі год была ледзь загоеная, зарубцаваная. Хана думала, што ўжо ніколі, ніколі гэта рана не раскрыецца. А вось сягоння...

II

...Глухая беларуская вёска. Нізенькія хаціны з саламянымі стрэхамі. У канцы вёскі, на правым баку — хата бацькі, вясковага каваля. Старая кузня — на супроцьлеглым баку дарогі. За гумнамі зелянее і бялее малады бярэзнік, свеціцца вузенькая ціхая рачулка, ляжыць разбураная гнілая грэбля, за якой цягнецца ўдаль камяністы гасцінец.

Перад нутраным зрокам Ханы стаяць цяпер, як жывыя, яе бацька ў раменным кавальскім фартуху, з яго магутнымі запрацаванымі рукамі, з яго строгім чарнявым тварам, і хударлявая пакутлівая маці з малым дзіцём на руках. Перад уяўленнем Ханы, нібы стада гусей, праплылі яе дзіцячыя годы, яе юнацтва, яе

вясковыя сябры і падружкі, а ў цэнтры ўсіх успамінаў маладосці — яе Андрэй.

...Андрэй...

Гэта імя пранізвае самыя дарагія і самыя цяжкія дні яе жыцця. У маленстве ёй прыходзілася сустракацца з Андрэем больш часта, чымся з іншымі равеснікамі. Хаткі іх бацькоў стаялі побач. Заўсёды раніцой, калі Хана выбягала на гасцінец, яна першага сустракала Андрэйку — худзенькага белагаловага хлопчыка ў зрэбнай расхрыстанай кашульцы.

Кожны дзень яны абое гулялі ў хаванкі ці ў гойданкі на бярозавым плоце ды ў іншыя дзіцячыя гульні. Адвячоркамі, ружовымі ад апошніх праменняў сонца, яны разам гналіся за жучкамі і матылькамі каля невялічкага млына, і Хана заўсёды прыкмячала, што Андрэйка ва ўсім ёй дагаджае. Часам яна нават крыўдзілася за гэта на Андрэйку.

«Ці ж я слабейшая за яго? Ці ж я не такая спрытная, як ён? Навошта ён хаваецца ад мяне наўмысне так, каб я бачыла яго? Чаму ён пакідае для мяне жучка, каб я лёгка злавіла яго? Ці ж я не такая самая, як ён?»

У маленстве ні яго, ні яе бацькі не зварочвалі ўвагі на іхнюю дружбу. Наадварот, вельмі часта, калі мацеры Ханы і Андрэйкі спраўляліся з заціркай на вячэру і выходзілі пастаяць хвілінку ля варот, паглядваючы, як Андрэйка з Ханай разам гуляюць, яе маці часта гаварыла:

— Глядзі, суседка, якая дружба, якая прыязнь!

Затое з кожным годам Хана ўсё больш часта чула ад сваёй маці:

— Брыдка! Непрыстойна! Ты ўжо не маленькая. Годзе бегаць з Андрэйкам!

Матчыны словы калолі Хану, як іголкі. Маці дзень у дзень нагружала Хану працай, каб тая менш бегала па вёсцы. Якраз тады, калі Хана спынялася пагутарыць з Андрэйкам, маці заўсёды знаходзіла для яе неадкладную, спешную работу. І, зразумела, чым больш бацькі стараліся аддаляць яе ад Андрэйкі, яна ўсё больш цягнулася да яго. Яна ўмудралася знаходзіць прычыны, каб як найчасцей сустракацца з ім. Калі прыходзіў дзень без сустрэчы з Андрэйкам, яна адчувала сябе адзінокай, яе тады апаноўвала пустата, нібы па ўсёй вёсцы, апрача Андрэйкі, і не было ніводнай жывой істоты. Гэта прыязнь узмацнілася яшчэ больш, калі яна заўважыла, што і яму цяжка без яе...

Хане тады было каля семнаццаці год. Тры дні падрад яна працавала ў аднаго багатага хутараніна. Стомленая, але бадзёрая і вясёлая, яна ішла дамоў. Босыя загарэлыя ногі шпарка імчалі

яе па пыльным гасцінцы. Абапал дарогі ўзвышалася, нібы сцяна, выспеўшае жыта. Ля самай мяжы выглядалі з жыта васількі. Хана рвала іх і пляла вянок для маленькай сястрычкі. Паветра пасвяжэла, пахаладала. Сонца чырвоным кругам ссоўвалася ніжэй і ніжэй на край сіне-ружовага неба. Хана з вянком кветак у руках пусцілася дамоў бягом. Раптам яна пачула за спіною знаёмы голас:

— Чаго так бяжыш?

Яна павярнулася. Насупраць яе, у палатняных нагавіцах, у вышыванай рубашцы, падперазанай яркім поясам, стаяў без шапкі Андрэйка. Яго прадаўгаваты твар ледзь пачырванеў. Між пальцаў ён круціў пару васількоў.

Сустрэча была раптоўная, і Хана слова сказаць не магла. Яе сэрца так моцна стукала, што яна баялася, каб Андрэй гэта не пачуў. Ледзь чутным голасам яна праказала:

— Адкуль ідзеш, Андрэй?

— Ніадкуль!

— Я думала, што ты на вёску пайшоў!

— Што мне там рабіць? Ужо тры дні не бачыў цябе, Хана!

Пры гэтым Андрэй сарамліва апусціў вочы.

— Навошта я табе? — вырвалася ў Ханы паміж волі.

Андрэй маўчаў. Ён ударыў яе васільком па руцэ.

Хана на хвіліну прыжмурыла вочы і адчула, як раптоўна ўсё яе цела пранізвае гарачая хваля.

— Хадзем! — рашуча прагаварыў Андрэй. — Хадзем, Хана! Пасядзім крыху на мяжы. Яшчэ паспеем на вёску.

Ён узяў яе за руку, і яны пайшлі па дарозе.

Доўга сядзелі яны на крушні пад дзічкай з густымі, апушчанымі да самай зямлі галінамі, што засланялі ад іх вачэй усю ваколіцу. Хмяліла свежаскошаная трава і мядовы пах лугавых кветак. З аддалення даносілася гучнае іржанне каня. Недзе прачыналіся і заміралі заліхвацкія пераборы гармоніка. Яны сядзелі моўчкі. Хана не запрыкмеціла, як яе хусціна саслізнулася з плеч, па якіх рассыпаліся яе доўгія густыя валасы.

Андрэй утаропіўся ў яе, і Хана пачула яго гарачы шэпт:

— Якія ў цябе прыгожыя валасы...

Хана схілілася, нібы штосьці шукала ля сваіх ног. Андрэй спрытна падняў хусціну, палажыў ёй на плечы, і яго нібы самлелыя рукі спыніліся на яе хусціне.

— Хана, — шапацелі яго губы з захапленнем. — Ханачка, дзяўчынка мая родная...

З таго дня Хана пачала жыць зусім новым жыццём. Тыя дні

былі ёй уцехай на ўсё яе гаротнае жыццё. Штодзень ад самага рання Хана нецярпліва чакала вечара, чакала пяшчотнага вечара, напоенага хмелем палёў і садоў, насычанага пахам сырадою і мяты. У тыя вечары плакалі і рагаталі гармонікі, спеўна і квола рыпалі вароты, якія шырока адчыняліся і ўпускалі на двор кароў, авечак і свіней, што варочаліся з пашы. У тыя вечары малыя дзеці чапляліся рукамі за матчыны фартухі і прасіліся на рукі, стомленыя беганінай па пыльнай вуліцы за ўвесь доўгі летні дзень. У тыя вечары хлопцы і дзяўчаты ездзілі конна на начлег, і песні іх плылі ў паветры салодкім струменем аж да трэціх пеўняў. У тыя вечары ўвесь свет здаваўся ёй лагоднай і цудоўнай казкай. Хана вельмі любіла гэтыя вечары. Бадай у кожны сіне-ружовы вечар яна сустракалася з Андрэем. Мяжа пад дзічкай зрабілася іх замілаваным казачным шатром, дзе яны праводзілі найлепшыя хвіліны свайго жыцця.

Але шчасце цягнулася нядоўга. Аднаго разу, калі Хана з Андрэем сядзелі пад дзічкай і марылі аб сваёй будучыні, Хана раптам уздрыганулася. Ёй здалося, што нехта сядзіць тут у жыце, бо пачула шорах. І колькі Андрэй яе ні ўпэўніваў, што гэта ёй толькі здалося, што гэта ветрык або птушка, — Хана не магла супакоіцца, сэрца ходырам хадзіла, нібы варажыла ёй штосьці благое. Раней чым заўсёды Хана пайшла дамоў.

Дома меншыя дзеці ўжо спалі. Малодшы брат, хлапчук каля чатырнаццаці год, сядзеў на ляжанцы і драўлянай лыжкай скроб дно глінянага гаршка, які трымаў між кален; бацька стаяў ля камода тварам да сцяны і маўчаў; маці сядзела на ўслонні, абапіраючыся рукой аб стол. У хаце было ціха, але Хана нутром адчула, што цішыня нейкая дзіўная — такая цішыня бывае перад навальніцай. Хана пачала тупаць па хаце, не знаходзячы сабе месца.

Раптам маці пацягнула яе за рукаў і крыкнула:

— Садзіся! Садзіся тут, каля мяне, кажу табе!

Хана пакорліва прысела. Маці ўтаропілася ў яе вачыма і пранізвала яе наскрозь пільным позіркам. Вішнёвыя вочы Ханы напоўніліся слязьмі. Маці грымнула не сваім голасам:

— Дзе ж гэта ты была?

— На вёсцы, — адказала яна разгубленым голасам. — Чаго так чапляешся да мяне? Чаго пільнуеце мяне, як злодзея?

Брат на ляжанцы зарагатаў. Хане не па сабе стала ад яго смеху. Яна запыталася:

— Чаго рагочаш?

Ён зарагатаў яшчэ гучней. Маці падышла да яго, пагладзіла

па галаве і злосна прамовіла:

— Скажы ёй, сынок, гэтай агідніцы, чаму ты смяешся! Скажы ёй, не бойся! Няхай ведае, што ёй больш не паможа хлусня! Больш яна ўжо не пабачыць ні дзічкі, ні Андрэя! Больш не пабачыць!..

Маці крычала. Буйныя, як град, слёзы каціліся з яе вачэй. Апошнія словы мацеры пяклі Хану агнём. Яна схапіла хусціну і хацела выбегчы з хаты. Ля дзвярэй яна адчула на сваім карку цяжкую бацькаву руку. Яго вочы свяціліся, нібы вугалі на горне, ён увесь калаціўся, а голас яго быў глухі і жудасны:

— Стой-о-ой!

Ён з усяе сілы шпурнуў яе на жорсткае ўслонне. І яшчэ не паспела Хана дыхнуць, як халодны балючы рамень пачаў паласаваць яе па кволай спіне. Бацька катаваў ціха і ўпарта. Хана да крыві закусіла губы і ціха ўздрыгвала. Маці падскочыла і з усім імпэтам учапілася ў бацькаву руку. Прачнуліся дзеці і акамянелі ад страху. Вочы іх былі шырока расплюшчаныя. Бацька кінуў рамень, нагнуўся над Ханай і грозна прахрыпеў:

— Памятай! Каб больш нагі тваёй ля яго не было! Чуеш ці не? Хутчэй пабачу цябе ў магіле, чымся хрышчонай.

Хана мігам скасіла вока на бацьку. На яго ілбе блішчэў буйным бісерам пот, і дзве застылыя слязіны стаялі ў кутках яго вачэй.

Усю ноч Хана нераспранутая праляжала на цвёрдым, нібы каменным, услонні. Увушшу несупынна гуў бацькаў ахрыплы голас. Хана не магла ўцяміць, якая ж гэта суровая сіла прымусіла бацькоў, што так любяць яе, абыходзіцца з ёю так жорстка. Упершыню ў тую ноч у Ханіным сэрцы абудзілася глыбокая скарга на тое, што свет так несправядліва падзелены. Некалькі дзён у хаце панавала грозная цішыня. Хана не выходзіла за парог. Яна увесь час моўчкі ляжала на ўслонні. Часта да яе падыходзіла маці, сардэчнымі словамі прабавала аблягчыць боль дачкі, прабавала дапытвацца, але нічога не дабілася. У апошнюю ноч Хана чула, як бацькі аб нечым доўга шапталіся. Раніцой бацька кудысьці знік. Увесь дзень кузня была замкнутая.

Удзень Хана асталася дома адна. Яна сядзела, ахапіўшы рукамі калені, і, як зачараваная, пазірала ў акно. Яна чула, як недзе блізка рыпіць асвер над студняй, як хтосьці выцягвае ваду. Вочы яе былі затуманеныя, і яна не запрыкмеціла, як праз вуліцу ішоў Андрэй з поўнымі вёдрамі. Ён пільна ўзіраўся ў кавалёву хату. Пабачыўшы Хану, ён паставіў вёдры, падбег да акна, моцнымі рукамі пацягнуў за раму, акно адчынілася, і ён пяшчотна гладзіў

рукой плечы Ханы.

— Ханка... Дарагая... Білі цябе, цяжка білі, — Андрэй гаварыў дрыжачым голасам. — Я ведаю! Я ўсё ведаю, Ханка! І ў маёй хаце ўсё ходырам ходзіць. Але ўсё гэта перакруціцца, перамелецца. Не бядуй! Мала што нашы бацькі так упіраюцца. Сёння ўвечары аб усім дамовімся.

Ён пазіраў на яе пільна — вока ў вока. Хана доўга маўчала і раптам аслаблена схілілася галавой да Андрэя. Хана прыпала да яго грудзей шчыльней, і Андрэй пачуў яе няўцешны плач, лямант. Андрэй стаяў збянтэжаны і не ведаў, што рабіць. Ён гладзіў уздрыгваючую спіну Ханы і прасіў яе, каб перастала плакаць. Раптам даляцеў сюды голас Андрэевай маці:

— Андрэй! Дзе ты запрапасціўся, акаянны? Скарэй ваду нясі!

Андрэй падняў вёдры, і Хана бачыла, як ён злосна размахваў рукамі і як вада моцна плюхалася праз краі вёдраў.

Адвячоркам прыйшоў бацька. За ім дыбаў высокі неахайны чалавек у люстрынавым халаце. Шырокая рыжая барада агнёвымі кудламі ахапіла ўвесь яго твар. Відаць быў толькі тоўсты даўгі нос і маленькія жвавыя, як мышкі, вочкі. Маці вельмі абрадавалася ім. Адразу яна заслала стол белым абрусам і падала есці, а бацька вельмі ўгодліва пачаў частаваць рыжабародага. Хана здзіўлена пазірала на незнаёмага чалавека, і кожны раз, калі яе вочы сустракаліся з яго маленькімі хітрымі вочкамі, яе прабірала дрож, на яе нападала агіда. Рыжабароды ўсё пакусваў сваю бараду і кхекаў.

Пасля вячэры, калі малыя ўлягліся спаць, маці прысела да Ханы і пачала з ёю гутарку:

— Бачыш, дачушка, бацька прывёў рэб Ісэра шамеса*. Ён мне прыходзіцца сваяком і ён прыйшоў наведаць цябе, дачушка. Хоча з табой пагаварыць. Вельмі разумны чалавек, яго варта паслухаць.

Хана ўскочыла з месца, нібы хтосьці яе раптоўна ўкалоў.

— Мама, чаго вы ўсе прысталі да мяне? Я ні з кім гаварыць не хачу.

Яна стаяла насупроць маці, рукі яе дрыжэлі, а твар палаў агнём. Бацькі глядзелі на рыжабародага з нямой мальбой у вачах. Рыжабароды ўзняўся з свайго месца, падыбаў па хаце і, спыніўшыся ля ўслоння, сказаў непрыемным голасам, у якім чулася крыўдная кплівасць і насміханне.

---

* Шамес — служка ў сінагозе.

— Глупства, не палохайцеся! Кхе! Мы ў сваім жыцці бачылі нямала такіх спраў і справунак. Усё гэта як вада сплыве. Хана паедзе цяпер да мяне. Кхе! На нейкі час, і з божай дапамогай вернецца дамоў жывенькай, здаровенькай. Кхе, кхе!

Хана хацела штосьці сказаць, але гарачы ком душыў ёй горла. Яна кінулася на ўслонне, і на хвіліну хату напоўніў нясцерпны крык болю і страху.

III

Хутка яна змоўкла. У хаце было цёмна. З другога кутка стала яшчэ доўгі час да яе, нібы праз сон, даносілася шушуканне, у якім яна ўлаўлівала паасобныя словы: «рабін», «ратаваць», «дабрачыннасць», «выдаць замуж», «падарунак». Хана зразумела, што рыхтуюцца нешта з ёй учыніць. Яна ляжала і дрыжэла ад страху. Некалькі разоў здалося ёй, нібы нехта за акном кліча яе ціха, ціха. Яна прабавала прачнуцца, узняцца з гэтай цвёрдай лавы, каб уцячы праз акно. Бегчы за сваёй доляй разам з ноччу, разам з ветрам кудысьці далёка, далёка. Але рукі і ногі яе былі такія цяжкія, нібы налітыя свінцом. Штосьці яе скоўвала і не давала крануцца з месца.

Позна ўначы Хана пачула на сабе матчыну руку. Маці гладзіла ёй лоб і ціха гаварыла:

— Уставай, дачушка, апраніся! Фурманка чакае. Пара ехаць!

Хана рванулася з месца і шырока расчыненымі вачыма ўзіралася ў бледны твар маці. Раптам кінулася на матчыну шыю:

— Матуля, што вы ўсе са мной робіце? Куды я паеду? Не трэба, матулька!

Голас Ханы быў такі прыглушаны і ціхі, што яна ледзь чула свае ўласныя словы. Маці стаяла маўклівая, толькі ліла слёзы ў тры ручаі. Крыху пазней Хана пачула, як маці асцярожна накінула ёй на плечы хустку, потым павольна вывела яе з хаты. А пасля кудысьці імчаліся коні, а яна, Хана, кідалася на возе ў сене, нібы звязаная курыца.

Прачнулася яна позна ўдзень.

Яна ляжала ў чужой каморы на мяккай канапе. Яна ледзь паднялася і аслабленымі нагамі падышла да дзвярэй. Дзверы былі замкнёны. Хана падышла да акна. Цягнуўся вузкі пясчаны завулак. Насупраць акна, на другім баку вуліцы сядзелі на лаўцы некалькі хударлявых жанчын і аб нечым гутарылі. Прайшоў міма стары яўрэй у доўгай аблезлай, падранай капоце з мяшком на спіне. Хана раптам успомніла мінулую страшную ноч, і яе пранізаў спалох. Яна ціха прамармытала:

— Дзе я?..

Ніхто ёй не адказаў. Яна схапілася рукамі за галаву і застыла на месцы. Яе далоні ляжалі нібы на зжатым полі, калолася ў пальцы. Як сляпая, яна пачала шукаць рукамі, памацваць свае валасы, але рукі пустыя скаціліся з галавы і павіслі, як нежывыя.

— Ой, мае валасы! — ускрыкнула яна і ўпала на падлогу. — Мае валасы...

Калі ачнулася, яна ўжо ляжала на канапе, а ля яе стаяла бабулька з худымі ручкамі, з голенай галавой у белым каптуры. Яна змочвала скроні Ханы нечым вострым, якое пахла воцатам.

— Дзе я? — прамовіла Хана.

— У мяне, дачушка, у мяне! Не палохайся, усё будзе добра, — шамкала бабуля.

— Дзе падзеліся мае валасы?

— Астрыглі, дачушка мая. Астрыглі ціхенька, каб ты не пачула! — Бабулька хіхікнула бяззубым ротам. — Забаронена яўрэйскай дачцы насіць свае валасы. Гэта вялікі грэх. Цяжка, дзіцё мае, быць яўрэйкай, але затое Бог наш злітуецца над табою і ты ачуняеш, тваё шаленства пройдзе і ты, можа, яшчэ выйдзеш замуж. Рэб Ісэр за добры падарунак усё можа зрабіць.

Хана больш не чула, што старэнькая яшчэ гаварыла, не бачыла, калі тая пайшла. Так міналі дні, і ніхто да яе не прыходзіў, апрача бабулькі, якая прыносіла ёй есці тры разы на дзень. Гадзінамі Хана адстойвала самлелая, бязвольная ля акна і пазірала на вуліцу застылым позіркам. Аднаго разу адчыніліся дзверы і ў яе пакой увайшлі бацька і рэб Ісэр. Хане адразу кінуўся ў вочы пакутлівы збляднелы твар бацькі і яго пасівелая барада. Хана заплакала.

— Годзе, Ханка, годзе! Не плач, дачка мая! Кепскае ўжо мінула. Цяпер будзеш мець шмат добрага. Віншую цябе, дачушка, ты ўжо нявеста! — сказаў бацька скорагаворкай і прыцісну́ў стрыжаную галаву дачкі да сваіх грудзей.

Потым нешта гаварыў мядовым голасам рэб Ісэр, нешта шапялявіла бабулька. Да Ханы зноў данеслася слова «дабрачыннасць», але Хана нічога не зразумела.

...А вось нейкі шум... У пакоі шмат людзей. Яе апранаюць у белае шлюбнае адзенне... Вэлюм... Кветкі... Гоман жанчын... Музыка... Яна выйшла з палону на двор. Яе вядуць па вузкіх крывых закавулках. Нейкія дрэвы. Хана таропіць вочы. Адно дрэва нагадвае знаёмую дзічку; хочацца бегчы туды, але рукі моцна яе трымаюць. Хто ж гэта стаіць побач з ёю? Нейкі худы,

высокі брыдкі дзяцюк у доўгім шырокім халаце з дурной усмешкай на твары, з вялікімі жоўтымі рэдкімі зубамі. Гэта ён, яе жаніх, яе муж...

Хана стаіць пад шлюбным балдахінам, халодны срэбны шлюбны пярсцёнак дакранаецца яе белага амярцвелага пальца, як зямля... Крычаць «мазелтаў»* .

Свішчуць флейты... Скрыпяць скрыпкі... Скачуць жанчыны... Хане здаецца, што замест яе тут стаіць другая, чужая, незнаёмая дзяўчына...

Пасля гэтага сустрэлася з Андрэем яшчэ два разы.

Першы раз хутка пасля яе вяселля. Гэта было позняй восенню. Дні і ночы ў мястэчку паўзлі нудна і ціха. Хана блукала па мястэчку, як цень. Яе цягнула дамоў, у вёску, да Андрэя.

Быў позні вечар. Мястэчка агарнуў сон. У вузкай каморцы, дзе жыла Хана са сваім мужам, даўно было цёмна. Яе муж, ваданос, таксама даўно спаў, толькі Хана не спала. Яна накінула на сябе хустку і выйшла з душнай каморкі. На дварэ было цёмна і ціха. Хана села на прызбу і як бы нырнула ў свае невясёлыя думкі. Раптам яна пачула шэпт: «Хана» і адчула лёгкую руку на сваім плячы. Ад страху ў яе і голас адняўся. Перад ёю стаяў Андрэй. Ён быў у лапцях, у старой падранай світцы.

Ён ціха шапнуў:

— Хана, як жывеш? Доўга я цябе шукаў і знайсці не мог.

Ён прысеў побач, зірнуў ёй у твар і цяжка ўздыхнуў:

— Што яны з цябе зрабілі, Ханка...

Ён палажыў руку на яе галаву і схапіў яе назад, нібы з гарачага вугалля.

— Дзе твае валасы? Косы твае дзе?

Хана, нібы ўтапаючая, схапілася рукой за яго світку. Хвіліну яны сядзелі моўчкі. Потым Андрэй пагладзіў ёй рукі і сказаў:

— Паслухай мяне, Ханка. Уцячэм адгэтуль. Уцячэм далёка, далёка... Яшчэ не позна.

Хана ўздрыганулася ад нахлынуўшай раптоўнай радасці. Але адчуванне радасці было вельмі кароткае. Перад уяўленнем Ханы паўсталі жудасныя карціны: доўгавалосы поп... Абрад хрышчэння... Бацькі плачуць па ёй, нібы па нябожчыцы... Маці памірае ад сораму і крыўды... Усе яўрэі са знявагай і агідай адступаюць ад яе бацькоў, братоў і сясцёр, як ад зачумленых. «Бацька пярэхрысткі... У яго сястра-пярэхрыстка...»

Рука Ханы апусцілася з Андрэевай світкі. Яна прагаварыла

---

* Віншаванне.

амярцвелымі губамі:

— Ідзі ад мяне, мой любы, мой родны, мой Андрэйка... Не стой тут! Будуць вадзіць мяне па вуліцах, як мядзведзя. Злітуйся, ухадзі... Ты не разумееш, як мне цяжка. Хоць у вір галавой. Нічога іншага мне не засталося. Ухадзі, мілы.

Андрэй стаяў і доўга глядзеў на Хану, нібы хацеў запамятаць яе навекі. Потым ён раптоўна прыціснуў Хану да сябе, зняў шапку і сказаў усхваляваным голасам:

— Ну, Ханка, бывай! Я ўходжу. Далёка, далёка я ўходжу. Я больш у вёсцы не магу жыць без цябе. Дзічку я ссек, каб і знаку не асталося. Бывай.

Андрэй знік, як цень, у цемры асенняй ночы. Хана ўскочыла з месца, распасцёрла рукі, і вусны яе шапацелі:

— Андрэй... Андрэйка...

Над Ханай кружылася лісце з адзінокай бярозы, лезла ёй у твар і нібы шапацела:

— Андрэй... Андрэйка...

На Хану напала вялікая роспач; зараз сэрца разарвецца на часткі. Думкі — вострыя, як нажы, — мігаценіся ў яе разгарачанай галаве: «Не думай аб бацьках, аб братах... Ні аб чым не думаць... Разам з Андрэем адыходзіць маё шчасце, мая радасць, маё жыццё».

Хана кінулася цёмнай асенняй дарогай уздагон за сваёй марай, за сваім любым. Ногі імчалі яе хутка. Нібы яе неслі крыллі. Дзесьці па чорных хмызняках выў і скуголіў вецер:

— Андрэй... Андрэйка...

Усё неба было заслонена хмарамі. Імжа клалася халоднай расой на палымнеючы твар Ханы. Яна калацілася, трапятала. Новая думка ўдарыла яе па галаве, як абухом: «Ці ж я панясу пад сваімі грудзьмі да Андрэя не яго дзіцё? Ён жа не ведае, што я ўжо не дзяўчына».

Хана кінулася, нібы ў процьму, у вільготны дарожны пясок...

У другі раз яна сустрэлася з Андрэем у тысяча дзевяцьсот дваццатым годзе.

Быў гарачы летні дзень. Яе дачцы, Сіме, было тады восем год. Хана пайшла з ёй на луг, пару вёрст ад мястэчка, збіраць шчаўе. Дзяўчынка дапамагала ёй збіраць. Было ўжо каля поўдня, Хана думала вярнуцца дамоў. Раптам з боку мястэчка пачуліся прарэзлівыя крыкі. Крыкі зліліся ў адзін несупынны лямант, які рос усё мацней і мацней. Хана ўзняла галаву, і на месцы мястэчка яна пабачыла чорныя дымныя воблакі, з якіх сыпаліся

снапы іскраў і агню. Чорны дым абхапіў вялікі кавалак неба. Да Ханы даносіўся ветрам горкі пах пажару. Хана пусцілася бягом у мястэчка, але хутка яна сустрэла голага акрываўленага чалавека. Ён крычаў да яе:

— Не бяжы туды! Там бандыты! Там рэжуць яўрэяў!

Хана пазнала ў ім местачкоўца. Яна кінула шчаўе, схапіла на рукі Сіму і пабегла куды вочы глядзяць. Яна бегла бесперапынку, не ведаючы куды. Яе гнаў страх. Яна бегла праз балоты, праз палі, праз хмызнякі і гаі. Надышла ноч. Абяссіленая, яна сядзела пад дрэвам каля незнаёмай дарогі. Крыху пазней праехалі міма два коннікі. Яны заўважылі яе, спыніліся, саскочылі з коней і запыталі:

— Хто ты?

— Няшчасная.

— Адкуль ідзеш?

— Ад бяды ўцякаю!

— Куды?

— Куды вочы глядзяць!

Коннікі здзівіліся і загадалі ёй ісці за імі. Хутка яны дабраліся да невялічкай вёскі. Усе спалі, толькі ў акенцы адной хаткі мігцелася святло. Ля гэтай хаткі спыніліся коннікі. Яны ўвялі ў хату Хану. У хаце было вельмі душна. На падлозе спалі чырвонаармейцы. Пры стале сядзеў чалавек, нагнуўшыся над вялікім аркушом паперы. Чалавек падняў вочы і, пабачыўшы Хану, хацеў у яе штосьці запытацца, але ад раптоўнага здзіўлення ён расшырыў вочы, пабляднеў і ўзняўся з месца. Коннік запытаўся:

— Што з вамі, таварыш камандзір?

— Нічога!

Камандзір аўладаў сабой, усміхнуўся, падышоў да Ханы, узяў яе за руку і запытаўся:

— Куды ідзеш, Хана?

Хана спачатку разгубілася, а пасля крыкнула на ўвесь голас:

— Андрэй!..

...Раніцой Хана прачнулася ў чыстай сялянскай хаце. На падлозе забаўлялася Сіма. Андрэй сядзеў ля яе ложка на ўслончыку. Ён расказаў ёй, што банда Балаховіча знішчыла яе мястэчка, забіла шмат людзей. Андрэй параіў Хане некаторы час жыць у гэтай вёсцы, і сам са сваім атрадам пайшоў далей. Андрэй на развітанне сказаў:

— Хацеў бы з табою, Хана, яшчэ пабыць тут, але няма часу. Трэба перамагчы ўсіх ворагаў савецкай улады — і мы пераможам!

Ён пагладзіў па галоўцы Сіму.

— Якраз матулька! — пахваліў ён яе...

IV

За ўсе шэсць год, што Хана працуе ў калгасе, яна ўпершыню ў тую раніцу ледзь не спазнілася напаіць цялят. Яе памочніца моцна барабаніла ў акно.

— Уставай, Хана! Пара цялят карміць!

Хана спалохана ўсхапілася з ложка. Учарашняе пісьмо ляжала скамечанае ў яе руцэ. У самы твар лезлі першыя праменні сонца.

Пасля ранішняй працы ў цялятніку Хана пайшла ў праўленне калгаса прасіць водпуск, каб з'ездзіць у Мінск.

І вось яна едзе.

Імчыцца поезд. Яе думкі-ўспаміны зноў праляцелі доўгую дарогу, цяжкую і пакутлівую. Усхапілася Хана ад сваіх думак толькі тады, калі кандуктар абвясціў:

— Мінск!

Пасажыры апраналі паліто, знімалі з верхніх паліц свае чамаданы. Хана апранулася ў карычневае паліто, папраліла хустку на галаве. У руцэ яна трымала апошні адрас Сімінай кватэры. Яна не была ўпэўнена, ці атрымала Сіма яе апошняе пісьмо, у якім яна пісала, калі прыедзе ў Мінск. Таму яна не была ўпэўнена, ці прыйдзе Сіма яе сустракаць.

Поезд спыніўся. Хана схапіла свой кош і разам з іншымі выйшла з вагона. На пероне было шумна, туды і сюды мітусіліся людзі. Усе спяшаліся, бегалі, смяяліся, гаварылі. Хана ішла павольна ў гэтым мітуслівым людскім моры і пільна аглядалася ва ўсе бакі — можа ўбачыць Сіму.

Каля брамы пры галоўным выхадзе ў горад хтосьці ззаду абхапіў Хану за шыю і крыкнуў: «Мама!» Хана адвярнулася і сустрэлася з прамяністым тварам Сімы. Яны пацалаваліся. Каля іх стаяў высокі малады чалавек дваццаці шасці-сямі год у сінім доўгім паліто, без шапкі. У руках ён трымаў вялікі букет свежых кветак. Яго малады твар крыху чырванеў, ён шырока ўсміхаўся, блішчэлі яго белыя зубы. Сіма моцна пацягнула яго за рукаў.

— Паўка! Гэта мая мама! — усклікнула яна радасна.

Павел падышоў да Ханы, падаючы ёй букет кветак, узяў яе руку ў свае рукі і сардэчна паціснуў. Яго карыя вочы ззялі супроць заходзячага сонца.

У трамваі, адказваючы на разнастайныя запытанні дачкі, Хана не зводзіла вачэй з Паўла. Яна глядзела на яго з замілаваннем, як на роднага сына, якога не бачыла доўгія гады. Калі яны ішлі ў светлым шырокім калідоры па лесвіцы і Хана спяшалася, каб хутчэй папасці ў кватэру, Павел падхапіў яе пад руку і сказаў:

— Паспеем, маці! Ступені хутка стамляюць. Няхай сабе Сімка бяжыць, а мы з вамі, людзі пажылыя, дабярэмся як-небудзь павольна.

Адной рукой Павел трымаў яе кош. Ёй здавалася, што ўпершыню ў жыцці яна ідзе так лёгка, а ступенькі, такія гладкія і чыстыя, імчаць яе ўгору, нібы крыллі.

У першым пакоі Хана аглядала з вялікім здзіўленнем кожны куток. Усё было нова і чыста, усё зіхацела. Сіма стаяла супроць маці, і абедзве жанчыны шчасліва ўсміхаліся.

Павел дапамог Хане зняць паліто, і Сіма павяла яе ў другі пакой памыцца і пераапрануцца. Калі Хана вярнулася ў сталовую, на стале ўжо стаялі пачастункі, а Сіма і Павел сядзелі на канапе і чакалі яе.

— Вельмі добра ў вас, дзеці! — сказала Хана з захапленнем. — Спажывайце ўсё гэта шчаслівыя і здаровыя. А мне проста няёмка, што я вам не прывезла ніякага падарунка.

Павел уголас засмяяўся, а Сіма, пасадзіўшы маці між сабой і Паўлам, сказала:

— Як табе, мама, не сорамна так гаварыць? Ці ж нам чаго не хапае?

— Маці праўду кажа, — прагаварыў Павел праз смех. — Ці ж можна без пасагу выдаваць дачку замуж? Хоць бы рабенькую цялушку прывезлі з калгаса.

Хана пагладзіла Паўла па валасах.

— Эх, ты! — сказала яна дабрадушна. — Ці ж можна так кпіць са старой? Прапала, братка! Пра пасаг трэба было са мной раней гаварыць. Цяпер позна! — і яны ўсе разам смяяліся.

Яны селі к сталу. Жартавалі. Першы бакал з віном падняла Хана і голасам, у якім адчувалася радасць і сум, яна сказала:

— За ваша здароўе, дзеткі! Сёння хочацца старой Хане выпіць, выпіць ад усяго сэрца. А тое, што я яшчэ Сіме ніколі не расказала, я вам зараз абоім раскажу.

Яе рука задрыжэла, і пара кропель віна капнулі з чаркі на белы абрус. Хане зрабілася няёмка за такую неасцярожнасць.

— Прабачайце, дарагія. Вы ж ведаеце вясковую прыказку: «Стары, як малы». Я не вінавата, я паехала да вас у госці, а да

мяне прыехала ў госці мая маладосць і раптам скалыхнула маё сэрца і мае рукі.

У гэту хвіліну хтосьці стукнуў у дзверы.

— Калі ласка, — сказаў Павел і адчыніў дзверы.

Увайшоў высокі пажылы чалавек у летнім паліто, у белай шапцы.

— Тата! — крыкнуў Павел да гасця. — Вось малайчына, што прыйшоў! Вось малайчына! А мы і не чакалі!

— Вось табе маеш, — адказаў госць. — Чаго ж не чакаў: таго, што я малайчына, ці таго, што я прыйду?

— Зразумела, што другое!

— Нічога, Павел, нечакана з'яўляюцца часам вельмі прыемныя рэчы.

— Не слухайце яго, — сказала Сіма, узнімаючыся насустрач госцю. — Я нецярпліва вас чакала, бо вы ў нас так доўга не былі.

— Вось цяпер бачыш, Павел, што мая праўда, — сказаў госць.

Ён павесіў паліто і шапку, прычасаў крыху пасівелыя на скронях валасы і, узяўшы Сіму за руку, падышоў к сталу.

— Гэта мая маці, — паказала Сіма на Хану.

— Вельмі рад пазнаёміцца з тваёй мацер'ю, — сказаў госць і павітаўся з Ханай за руку.

Прысеўшы к сталу, госць дастаў з кішэні партсігар.

— Потым, тата, будзеш курыць, — сказаў Павел, — цяпер вып'ем па чарцы віна.

— Можна, можна. Я згодзен!

— За што ж мы сёння паднімаем нашу першую чарку, тата? — запытаўся Павел.

— За што хочаш, — адказаў бацька.

— А першую чарку павінны сёння падняць нашы госці, — прапанавала Сіма.

— Калі так, — сказаў бацька Паўла, — дык я перадаю гэты пачэсны абавязак тваёй мацеры, як самаму пачэснаму ў нас госцю.

— Калі трэба, дык я супраць нічога не маю, — сказала Хана. — Не люблю адмаўляцца ад работы. Хоць часам працаваць языком горш, чым рукамі.

Хана крыху задумалася, паднялася з месца, яе твар ззяў, і яна выглядала крыху вышэй, чым заўсёды. Яна падняла чарку.

— Ну, мае даражэнькія, няма пра што доўга казаць! За што б мы цяпер ні пілі, будзе трапна, бо і віно наша і жыццё наша! Дык вып'ем за наша новае жыццё!

— Што праўда, то праўда! — узрадаваўся Павел, ён падняўся і пацалаваў Хану ў лоб, на які выбілася пасма сівых валасоў.

— Правільна, сватухна! — сказаў бацька Паўла. — За гэта я гатоў выпіць з вамі хоць дзве чаркі адразу! — Ён паднёс сваю чарку да яе, зірнуў ёй у вочы, — і яго позірк спыніўся на яе твары крыху даўжэй, чым гэта трэба было. Чарка ў яго пальцах ледзь уздрыганулася.

— Скажыце, сватухна, ваша імя Хана?

— Так... Хана...

Яе голас быў хрыплы, усхваляваны.

— Дык я, значыць, угадаў! Самае прыемнае прыходзіць нечакана, неспадзявана. Мяне завуць Андрэй...

Дрыжачай рукой Хана загарнула пасму сівых валасоў, на якой яна яшчэ адчувала пацалунак Паўла. Ёй здавалася, што гэта пасма валасоў зноў зрабілася чорнай.

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор РЭЛЕС*

## САРА КАГАН

Яна прыйшла ў яўрэйскую літаратуру Беларусі на пачатку трыццатых гадоў разам з пісьменнікамі Рувам Рэйзіным, Генадзем Шведзікам, Мотам Дзегцяром, Львом Талалаем і іншымі маладымі літаратарамі так званага трэцяга закліку. Сары Каган ужо тады было за сорак гадоў. Яна была маці трох дарослых сыноў. Малодшы з іх вучыўся ў старшым класе.

Калі творы С. Каган пачалі з'яўляцца ў друку, яна яшчэ жыла ў Бабруйску. Там працавала загадчыцай бібліятэкі. Час ад часу прыязджала ў Мінск на нарады маладых пісьменнікаў або кансультацыі. Сярод маладых яна пачувала сябе неяк няёмка. Месца яна заўсёды займала дзесьці збоку. Яна ўважліва слухала выступленні, а сама выказвалася вельмі рэдка. Са старэйшымі пісьменнікамі С. Каган таксама асабліва не сябравала. Словам, трымалася адасоблена. Нават ужо і тады, калі па хадайніцтву праўлення Саюза пісьменнікаў з сям'ёй перабралася ў Мінск на пастаяннае месца жыхарства.

Але нягледзячы на тое, што Сара Каган была старэйшай за тагачасных маладых пісьменнікаў, яна ад іх не адставала ні ў творчым росце, ні ў паглыбленні сваёй адукацыі. Яна вучылася завочна на філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута. Акрамя творчай працы і вучобы, ёй даводзілася займацца хатнімі справамі, бо ў сям'і была адзінай жанчынай. Здавалася, як можна ў такім становішчы паспяваць займацца творчай дзейнасцю? Але і ў гэтай справе яна не адставала ад самых плённых аўтараў. У 1934 годзе выйшаў з друку яе зборнік вершаў «У дарозе». У 1938 годзе пабачылі свет дзве яе кнігі «Мая радзіма» (паэзія) і «Першая прэмія» (проза). Праз год яна выдала новы зборнік вершаў «Нашы людзі» (1940). У гэтым жа годзе з'явіўся яе зборнік апавяданняў у перакладзе на беларускую мову. Пераклад зрабіў класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля. А ён перакладаў, трэба заўважыць, толькі тыя творы,

якія былі яму даспадобы. А перад самай вайной выйшла з друку чарговая кніга прозы С. Каган «Скрыпач» (1941).

Дзяцінства Сары прайшло ў вёсцы Максімавічы Ігуменскага павета (цяпер гэта Клічаўскі раён). Яна гадавалася на лоне маляўнічай беларускай прыроды, якую любіла ўсёй душой, добра ведала вясковы побыт, і гэта знайшло адлюстраванне ў яе творчасці.

Сара Каган была ў жыцці сціплая, добразычлівая. Яна вельмі добра, прыязна адносілася да людзей, якіх паважала.

Па сумных звестках, Сара Каган, яе муж і малодшы сын загінулі ў гета ў 1941 г.

Старэйшы сын пісьменніцы, студэнт Ленінградскага горнага інстытута, загінуў пры абароне Ленінграда. Так што з яе сям’і ніхто не дажыў да Дня Перамогі над гітлераўскімі пачварамі. Засталіся толькі творы Сары Каган, якія, безумоўна, вартыя ўвагі чытачоў.

# Эля
# КАГАН

Эля Шоламавіч Каган нарадзіўся 10 лютага 1909 г. у г. Мінску.

Пасля таго, як атрымаў пачатковую адукацыю, паступіў у прафтэхшколу абутнікоў, але вучобу ў ёй пакінуў у 1928 г. Вырашыў цалкам прысвяціць сябе літаратурнай творчасці. У 1936–1939 гг. працаваў у рэдакцыі яўрэйскага часопіса «Штэрн» («Зорка»). У маі 1941 г. пісьменнік быў рэпрэсаваны. У гады вайны — на фронце. Служыў у артылерыйскай інструментальнай разведцы, быў карэспандэнтам газеты «Красный артиллерист». У баі паміж Мазыром і Калінкавічамі атрымаў раненне. Загінуў 22 чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Зэльвы (Гродзенская вобл.), дзе і пахаваны на армейскіх могілках.

Першае апавяданне надрукаваў у 1926 г. Пісаў на ідыш. Выдаў зборнікі «Апавяданні і мініяцюры» (1932), «Горад без цэркваў» (1935), «Дзіцячыя апавяданні» (1936), «Вясёлая сямейка» (1937). У перакладзе на беларускую мову выйшла кніжка для дзяцей «Дружная сямейка» (1940) і зборнік апавяданняў «Маем зялёным» (1979). Спрабаваў свае сілы ў драматургіі. Аўтар п’есы «Роднае поле» (1932). Разам з З. Аксельродам зрабіў інсцэніроўку «Маленькі чалавечак» паводле твораў М. Мойхер-Сфорыма (паст. у 1938 г.).

Пераклаў на ідыш творы А. Пушкіна, М. Гогаля, М. Салтыкова-Шчадрына, З. Бядулі, Э. Самуйлёнка і інш.

# ПРОЗА

## СВЕЖАЕ СЕНА

Яго прозвішча Іголачка. Кравец. Рабкор. Найлепшы хлопец. А тое, што ён у мяне адразу закахаецца, дык гэта не страшна. Здараецца ж часамі з чалавекам няшчасце.

Наінка Нэйман. Яна толькі што паступіла ў цэх жаночых строяў на швейнай фабрыцы. Яна прыехала з маленькага мястэчка. Яна маладзенькая. А мне патрэбна маладая, бо старых швачак ніхто кахаць не будзе: бо старыя швачкі ўсе замужам, а калі і не, то гэта ўжо заляжалы тавар.

А яна новенькая. Яна рада, што на яе ўсе глядзяць. І тыя, што глядзяць, таксама рады.

Адзін толькі Іголачка не рады. Навошта рабіць з дзяўчыны цацку? Ён нават напісаў пра гэта допіс у газету. Абвяржэння не было. Бо гэта такі праўда.

І Іголачка разумее, што трэба вакол яе стварыць цёплую, таварыскую атмасферу. Ён разумее, што пасля работы трэба яе правесці дадому.

Вось яны і ідуць разам. Ідуць у нагу. Ён праваю, і яна праваю. Ён ступіць адзін раз, яна паспее ступіць два маленькія разы, ён стараецца перамяніць нагу. Міжволі наступае ёй на ножку. Ён кажа ёй: «Перапрашаю». Яна чамусьці кажа: «Дзякую». Іголачка — хлопец ветлівы. Ён раіць:

— Ведаеце што, наступіце мне таксама на нагу, і я вам таксама скажу «дзякуй».

А яна зноў яму кажа:

— Дзякую.

А ноч, ведама, дзівосная. Снег пад нагамі, і месяц над галавою. Паветра ўсё напоена месяцавым бальзамам, а зямля ўся заліта снежным малаком. Малако і бальзам. Мілата!

Іголачка раптам чуе прыемныя пахошчы. І пахошчы гэтыя ідуць ад Наінчынай галоўкі. Хоць бяры ды носам уткніся ў яе валасы.

Нельга дабраць розуму, чаму яму так падабаюцца гэтыя пахошчы. Можа таму, што ён з маленькага мястэчка і спаў ён заў-

сёды на сене. Цяпер зіма, і ён раптам адчуў нешта летняе, нешта ў ім як бы зазелянела, расцвіло.

А фантазіраваць можна колькі хочаш і пры першай сустрэчы. І вось ён уяўляе сабе, нібы ён ёй піша ліст:

«Выслухаўшы рэзалюцыю аб вашых валасах, якія пахнуць свежым сенам, я асмеліўся даць вам параду выйсці за мяне замуж!»

«Чортведама што! — спахапляецца ён. — Гэтак пішуць толькі пратаколы на сходах!»

— Гэй, сцеражыся!

Моцны рамізнікаў крык перарывае яго думкі. Ён гэтак задумаўся, што траха не трапіў пад сані.

— Гэй, гэй! — крычыць рамізнік.

«Гэй[1], — думае Іголачка, — свежае сена».

На фабрыцы ўсе ўжо ведаюць, што ў Наінкі прозвішча будзе Іголачка. Некаторыя дзівяцца: чым яна яго спакусіла? Аднак жа, калі Іголачка не бачыць, усім вельмі хочацца пагладзіць яе.

Але варта Іголачку паказацца, і ва ўсіх рукі будуць заняты ці вываручваннем кішэні на левы бок, ці, наадварот, запіхваннем яе назад, на месца. Бо ўсе на фабрыцы ўжо ведаюць, што Наінчына прозвішча скора будзе другое.

Рэдактар аддзела «Рабочае жыццё» атрымаў допіс ад Іголачкі. Допіс — пра задзіраў, якія зрываюць работу. У ім аўтар скардзіцца галоўным чынам на тое, што з жанчынаю-работніцаю нядобра абыходзяцца.

Рэдактар заўважае, што почырк у рабкора чамусьці больш размашысты і няроўны. І ён разумее, што настрой у аўтара допісу не надта важны. Ён выказвае яму сваё спачуванне тым, што вялікімі літарамі робіць надпіс: «Друкаваць».

Доўгі час зусім няма допісаў ад Іголачкі, і рэдактар разумее, што яму цяпер не да таго. Але вось раптам верш, падпісаны Іголачкам.

«Ну, — мяркуе рэдактар, — значыцца, справа ідзе на лад».

Гуляе Іголачка з Наінкаю. Яна, ведама, дзяўчына, як усе дзяўчаты. Але што ён усё-такі знайшоў у ёй? Нешта ж такое павінна быць! Ах, ну, пэўна ж, яе валасы! Яна залучыла яго да сябе сваімі валасамі.

Дзівосныя зімовыя ночы. Адна ў адну. Месяц — над галавою, і снег — пад нагамі.

Наінка і Іголачка не наступаюць больш адно аднаму на ногі. Няхай кравецкая моладзь ведае, што гэтак бывае толькі пры першых сустрэчах. Цяпер дружбу завязваць можна рукамі.

А развітваючыся, яму прыходзіць у галаву: ці нельга яе пацалаваць?

Як на тое, надарыўся тут рэдактар «Рабочага жыцця» з сваёю гладкаю папяроваю ўсмешкаю. Рабкор Іголачка разгубіўся перад сваім рэдактарам...

Але ён скаранька спахапіўся.

— Ну, шчаслівай табе дарогі, дарагая! — выгукнуў Іголачка. — Прывітанне цётачцы Лэі.

Няхай ён, рэдактар «Рабочага жыцця», чуе, няхай чуе, што Наінка — ягоная, яму не чужая. А з не чужою можна і пацалавацца.

Рэдактар — чалавек панятлівы, і ён усміхаецца. Што ж, усміхаецца, і няхай сабе!

Вось ужо месяц, як Іголачка гуляе з Наінкаю. Цэлы месяц! Цяпер ён можа сабе дазволіць зайсці да яе.

Пакой прыбраны. На сцяне — фатаграфіі. Вокны завешаны фіранкамі... А вось сена няма. «Якое глупства, — думае Іголачка, — якое глупства можа ўзбрысці ў галаву».

Сядзіць Іголачка ў Наінкі. Маўчыць яна, і ён маўчыць. Яна ўсміхаецца, і ён усміхаецца. Яна рагоча, і ён рагоча. Яна чхнула. Хочацца і яму чхнуць, але гэта ў яго не выходзіць. Што ж, не выходзіць, дык не выходзіць.

Наінка дастае з палічкі пляшачку.

— Хочаш падушыцца? — пытаецца яна.

На пляшачцы залатымі літарамі выведзена: «Духі. Свежае сена».

Іголачка нюхае і не чуе паху. Прапалі летнія пахошчы...

Наінка кажа, што ў яе нешта разбалелася галава. Няхай ён памацае рукою.

Іголачка кажа:

— І ў мяне галава разбалелася. Трэба ісці дадому.

---

[1] Гэй — сена (*яўр.*).

# АД ВЯСНЫ ДА ВОСЕНІ

## 1

Сэрца ў дрэва з драўніны, а ў другога, бывае, замест сэрца — дупло. Але і дрэва ведае, што такое вясна. І яно махае сваімі тысячамі зялёных рук, вітаючы, што яна прыйшла.

А ў людзей сэрца з плоці, а рук у іх толькі дзве. Таму яны вітаюць зямлю ўсёю істотаю, кожнаю крывінкаю, самі часам не разумеючы, што за новы струмень бруіцца ў іх, як толькі прыходзіць вясна.

Пранікла вясна і ў слясарню. Сонца рассыпае віднґе і невіднґе праменне, і гэтыя невіднќя прамяні пранізваюць Файталя, у якога вочы як бы ўкручаны ў металічны твар. Але сэрца ў Файталя таксама з плоці, і ў ім, у гэтым сэрцы, таксама нешта сагрэлася, нешта расцяклося.

Што ён ведае, Файталь Блоз? Ён робіць каля агню, на вялікай гарачыні. З тысячы найдрабнейшых адтулін, з тысячы пораў, як праз сітавінне, цячэ пот па целе. Можа, якраз таму і ўсярэдзіне штосьці расцякаецца. Асабліва корпацца ў сваёй душы яму не вельмі хочацца. Навошта? Што, апроч нагару, знойдзеш на сэрцы!

Але, самі сабою — ён нават не думаў пра гэта — у яго шырэй расплюшчыліся вочы, і ён убачыў яе, Броньку, новую навучэнку і адзіную жанчыну ў слясарні.

Ён зірнуў — так сабе. Дзяўчо-слесар. Гэта яму падабаецца. Ён бачыў аднаго разу дзяўчыну, што ганяла галубоў. Гэта яму таксама падабалася. Яму падабаецца, калі дзяўчына робіць мужчынскую работу. Але ці толькі гэта яму падабаецца ў Броньцы?.. Больш калупацца ў сабе ён не хоча. Раптам пад нагарам і сэрца знойдзецца.

А Бронька — дзяўчына харошая. Як усе блакітнавокія, што адною рукою адштурхваюць, а аберуч прыцягваюць, што жартам злуюцца, а сур’ёзна цалуюцца.

І Файталь Блоз задумваецца. Нейкі венічак усярэдзіне змятае нагар, і ён чуе сэрца.

Але Файталь Блоз надзімаецца, як кавальскі мех, і маўчыць. Каму ён можа пра гэта расказаць? Толькі і чакай, што могуць параіць палячыцца рыцынаю.

А прыдушаны агонь патлее, патлее і патухне. І ніхто не зразумее, што на сэрцы, ніхто не здагадаецца.

2

Сонца не бывае ў слясарні, але гарачыня ў ёй страшэнная. І пасля работы няблага адпачыць.

Файталь таксама не ад таго, каб прайсціся і на праходцы сабраць свае бязладныя думкі. Ніколі ён у разважаннях не меў патрэбы, але сёлетняя вясна... Звычайна Файталь глядзеў пільна толькі на метал, цяпер ён гэтак жа ўзіраецца ў чалавечыя твары — ці ва ўсіх яны мяняюцца, як апошнім часам у яго.

Раптам як бы іскра папала яму ў вока, і імклівая хваля закіпела ў крыві, апякла яму ўсё цела, ён убачыў Броньку рука ў руку з двума хлопцамі з яго слясарні — з Анцалем і Эйзерам. Ён скаранька прайшоў міма, але нейкая незразумелая сіла прымусіла яго вярнуцца і пайсці следам за імі.

Так і цягне яго...

На рагу хлопцы развіталіся з Бронькаю, і, астаўшыся адна, яна азірнулася, і яны стыкнуліся тварам у твар.

Чаму яна ўсміхаецца гэтакаю незразумелаю ўсмешкаю?

Яна, значыцца, бачыла яго, калі ён прабег міма, і ёй, мабыць, падабаецца, што ён, гэтакі вялізны мядзведзь, сочыць за ёю, глядзіць на яе гэтакімі вачыма.

Але яна раптам суха гаворыць да яго:

— Ну што? Чаго прыліп? Куды ідзеш?

Пакрыўджаны такою гаворкаю (што ён — яе меншы брацік?), ён адказаў ёй:

— Куды мне трэба, туды і іду.

А яна яму:

— Ты гэтак з дзяўчынаю гаворыш? Нішто сабе кавалер. Табе ў Анцаля і Эйзера павучыцца трэба.

Гэта яго зусім збіла з капылоў, і ён, сам таго не чакаючы, гаркнуў:

— Ты з кім жа мяне раўняеш? Гэта мне ў іх вучыцца? Ды яны ж — шчанюкі! Яны толькі выпадку шукаюць. А я...

— А ты... А ты вялікі дурань. Дурніца ты! — адрэзала яна і павярнулася да яго спінаю, пакінуўшы яго ў здранцвенні.

3

Злосна абышлася з Файталем вясна. Цяпер Анцаль з Эйзерам пасмейваюцца з яго. Броньку ён ні ў чым не вінаваціць. А яны пакепваюць з яго. То яны раяць, каб ён не так пільна глядзеў на агонь — гэта ж не Бронька, то яны гавораць: «Ну чаго ты на Броньку гэтак пучыш вочы — яна ж не полымя». А ў Бронькі ў

гэты час шчокі якраз агнём гараць. Але яна ўсміхаецца і маўчыць.

Не! Бронька не можа здзекавацца з яго, з Файталя... Дый яны, Анцаль з Эйзерам, хоць не такія ўжо і цацы, але і не благія хлопцы. Яны проста мала што разумеюць.

Каваль Хоня ўжо многа вёснаў пражыў, і адна, а можа, і некалькі з іх, і яго за душу бралі. Ён усё разумее або думае, што разумее ўсё. Няёмка ж нейк усё жыццё пражыць і раптам даўмецца, што нічога не разумееш. Старыя наогул народ добры, бо яны звыш меры зазналі гора, або зласліўцы, бо ў жыцці не бачылі добрага. Але стары Хоня дабрак, і яму Файталь можа ва ўсім прызнацца, яму ён можа ўсю душу адкрыць.

Хоня злуецца на хлопцаў:

— Як ім не брыдка таптаць бруднымі ботамі самае чыстае і прыгожае ў чалавеку!

І гаворыць ён душэўным, летнім голасам, такім, што і грэе, і дае святло. І хто найбольш прыслухоўваецца да яго, дык гэта Бронька. І яна часамі спачувае Файталю. Але выдаваць гэтага не хоча. Усё ж яна пакрыўджана на яго.

А хлопцы?.. Тыя не разумеюць нават, што такое летні голас.

4

Прыйшла восень. Жоўтыя, знясіленыя лісты, паміраючы, падаюць на зямлю, і зямля ператварылася ў вялізныя могілкі непахаванага лісця.

У слясарню нечакана прыйшла бяда: на рабоце неспадзеўкі ўпаў стары Хоня і больш не падняўся.

Анцаль з Эйзерам не перасталі стукаць малаткамі, як бы нічога і не здарылася.

Файталь крыкнуў так, што на хвіліну яны перапынілі работу. Але яны спакойна зірнулі і паспрабавалі нават пажартаваць.

— Што? Памёр стары курыны абжырала? — папытаўся Эйзер.

Файталь першы раз у жыцці гэтак крычаў. Ён крычаў, што яны звяры, а не людзі, што ў іх няма сэрцаў. Але ён азірнуўся і ўбачыў, што Бронька плача. О, яна добрая, Бронька. І яна таксама абурана. Ды як можна не абурыцца? Чалавек памёр на рабоце, а яны, гэтыя двое, спакойна заняты работаю...

Яна плача. І яна падышла і палажыла руку яму, Файталю, на плячо... І яшчэ горш заплакала.

І Файталь раптам адчуў сябе маленькім, пакрыўджаным хлапчуком. Яму нешта падаравалі — і ён і смяецца і плача.

# МАЕМ ЗЯЛЁНЫМ

## 1

Вось што гавораць пра апошнюю гісторыю кахання Монькі Мінкіна.

Ён ішоў з работы з Фейгаю Верабейчык і Тайбаю Голуб. Ён гаварыў беспярэстанку. А калі Монька Мінкін гаворыць, то ён нарэшце да чаго-небудзь дагаворваецца.

— Я шалёна закаханы, — сказаў ён.

— У мяне? — цвыркнула Фейга.

— У мяне? — праваркавала Тайба.

— У абедзвюх, — сказаў Монька.

Фейга робіць накладчыцаю ў друкарні. У яе люстраныя вочы. Калі вы глядзіце ў гэтыя вочы, вы бачыце сябе. А калі вы глядзіцеся ў люстэрка, перад вамі ўсплывае яна, Фейга. Фейга — дзяўчына першы клас. У дзяўчыны павінен быць круглы тварык, — дык ён у яе ёсць. У тварыка павінны быць два круглыя блакітныя вокі, — дык яны на месцы. У вачах павінны паблiскваць круглыя смехацінкі, — дык яны паблiскваюць. Адным словам, Фейга — дзяўчына першы клас.

І калі Монька прыходзіць стомлены з работы, яму прыемна адпачыць разам з ёю.

Тайба — наборшчыца. І ў яе, як назнарок, усё наадварот: у яе твар даўгаваты, з востраю бародкаю, з калючымі вачыма, і ўся яна такая настаўбурчаная, дзяркатая, а сваім языком яна хоць каго пройме. Яна Моньку не дасць адпачыць.

Абедзве дзяўчыны Моньку падабаюцца: яны дапаўняюць адна адну.

Само сабою зразумела, што нічога людскага з гэтага не выйшла. Першы раз яны абедзве яго цалавалі і самі знячэўку расцалаваліся.

Няцяжка здагадацца, як справа пайшла далей.

Гарачыя пацалункі, пацалункі па прывычцы, пацалункі халодныя, пацалункі нехаця, сваркі, папіканні.

Нарэшце ўсё пайшло так, як пачалося:

— Ах, як мне ўсё абрыдзела.

— Нават я? — цвыркнула Фейга.

— Нават я? — праваркавала Тайба.

— Абедзве, — сказаў Монька.

Ляжаў белы снег. Снег растаў. Плаваюць каламутныя воблакі.

Монька Мінкін пыхкае люлечкаю, і думкі яго расцягваюцца, кучаравяцца і распаўзаюцца, як воблакі, мутнеюць і растаюць. Як яму ўсё гэта надакучыла!

Люлечка патухла, ён дастае дробачку тытуню, і тут з кішэні вывальваецца нейкая пакамечаная паперка. Ён разгладжвае яе, і твар яго святлее. Гэта, аказваецца, учарашняя запісачка Пілінкі, новай накладчыцы. Яна ўчора забыла яе на стале ў буфеце. Ён перачытвае запісачку зноў:

«Сонечка, дарагая! Сёння самы лепшы дзень у маім жыцці! Да гэтага часу жыццё маё рушыла, як стрэлка ў гадзінніку. Гадзіннік ідзе, але як рушыць стрэлка, не відно. Гэтак ішло маё жыццё. Але сёння ў мяне самы лепшы дзень...»

Чытаючы запіску першы раз, ён на гэтым месцы і спыніўся. Ён быў упэўнены, што далей пойдзе гаворка пра якога-небудзь хлопца, які ёй кінуўся ў вочы. Нічога больш важнага ён, Монька, уявіць сабе не мог. Але, чытаючы цяпер, ён быў ашаломлены.

«Дарагая мая, — пісала далей Пілінка, — ты нават не можаш сабе ўявіць! Сёння я першы раз прыйшла ў друкарню! Я працую. Гудзе машына. Шалясціць папера... Як шалясценне лісця на дрэвах... як шапаценне каласоў у полі... Зусім як у маленстве».

Монька Мінкін некалі сам гэта адчуваў. Цяпер ён успамінае толькі, як грыміць жалеза...

Яму трэба сур'ёзна ўзяцца за сваю вынаходку. Трэба абавязкова давесці да ладу. Трэба выкінуць усё марнатраўства з галавы, каб нішто не шкодзіла займацца дзелам.

Але вось Монька Мінкін выходзіць з дому. Нехта зачапіў яго парасонам. Перад вачыма спалоханая дзяўчына, і ён чуе ўсяго два словы:

— Ох, прабачце!

Але хіба гэта словы? Гэта пяянне веснавых птушак, гэта начныя гукі скрыпкі. Ён адказвае «Дзякую!» — і вельмі рад свайму жарту.

Першы дождж. Доўгімі вадзянымі драцінамі злучыліся неба і зямля, і здаецца, што неба прыцягвае да сябе зямлю.

Монька Мінкін на рабоце. Яму прыемна, што ён пад дахам. Дождж мацнее, у цынкаграфіі цямнее, але на душы ў яго светла.

Ён шліфуе клішэ. На клішэ выгравіраваны вясновы пейзаж. І Монька ўяўляе, нібы яго абсыпалі кветкамі — яго вынаходка бадай што гатова.

У поўдзень распагодзілася. Дождж, па сваёй старой прывычцы, ліў, ліў і раптам перастаў. Абарваліся вадзяныя драціны. Зямля зноў аддалілася. Неба пайшло ўгару.

Монька, па сваёй старой прывычцы, падсунуўся да дзяўчат, але тут жа спахапіўся. Як жа гэта ён забыўся, што ўсе яны яму абрыдзелі. Абрыдзела яму заўсёды памятаць пра іх.

Але адна з іх абазвалася:

— Зірні-тка, Моня, на гэту новенькую. Няйначай як яна думае, што прыйшла на гулянку. Прыпёрлася ў новай сукенцы...

Монька ўглядаецца. Ды гэта ж яна, гэтая новенькая, забыла ўчора запісачку!

— Ха-ха-ха! — не перастае дзяўчына. — Мы ўчора сказалі ёй змачыць форму, а яна панесла яе пад кран і давай ліць ваду.

Монька глядзіць: прыгожы тварык. Але яна нейкая дзіўная. Стаіць недатыкаю, як грэцкая скульптура, а лепш сказаць, як школьніца старэйшых класаў. А толькі да яе падыдзеш, і яна мяняецца ў твары. Яна вінавата ўсміхаецца, выпучвае зляканыя вочы і стараецца праз меру слухаць тое, што ёй гавораць.

Калі яе пакідаюць адну, у ёй зноў паяўляецца нешта ад грэцкай багіні, і ў той жа час яна не перастае вінавата ўсміхацца. Яна яшчэ больш губляецца. Ёй, гэтай маленькай, трэба набыць іншы, новы выгляд, але пакуль што ў яе і свой, ранейшы, няясны.

А тут, як назнарок, гуртам абступаюць вучні-наборшчыкі. Яны ўзяліся за рукі і шчыльна акружылі яе.

— Ах ты, душачка мая! — крычыць пярэдні, самы смялейшы.

Яна не ведае, што рабіць. Яна спрабуе ўсміхнуцца, але замест усмешкі выходзіць нешта бездапаможнае, разгубленае.

— А ну, кыш адсюль!

Гэтыя словы ў Монькі вырваліся з такою сілаю, што падшыванцы не на жарты спалохаліся. О, Монька ўмее паказаць фасон.

Хлапчукоў як ветрам змяло. Монька падыходзіць да яе. Вочы яе не то смяюцца, не то плачуць.

Але відаць, што яна ўдзячна яму. Ён падае ёй запісачку:

— Вы ўчора пакінулі на стале.

Як блішчыць сонца ўсімі колерамі вясёлкі перад тым, як патануць у рацэ, гэтак заблішчалі раптам вочы ў Пілінкі.

Толькі каб яны, як сонца, не зайшлі, няхай блішчаць і блішчаць. Але яна захінула белыя фіранкі.

Чаму ж гэта і ён, Монька, апусціў вочы? Можа, ён узіраецца ў дол, ці не адлюстроўваецца ў ім ззянне яе воч?

Яна яму дзякуе. Яна падае яму руку. Яе завуць Пілінка.

Якая прыгожая рука ў яе. Якія завостраныя пальчыкі. Дый уся яна такая прыгожая. Наўрад ці бачыў ён калі-небудзь такую

красуню. І нават брошка, як бы знячэўку прыколатая да блузкі, блішчыць неяк асабліва.

І Монька загаварыў. А калі Монька гаворыць, то ён да чагонебудзь дагаворваецца. Не, яму нельга гаварыць. Трэба перапыніцца на паўслове. Яму нельга ўлазіць у новую гісторыю. Як яны прыліпаюць да яго, гэтыя гісторыі! Яны шкодзяць яго рабоце. Яны не даюць яму давесці да канца вынаходку.

— Да пабачэння! — кажа ён.

— Усяго вам найлепшага! — як птушкі, што сарваліся з галінкі, зляцелі ў яе з губ гэтыя словы.

Дарогаю ў Монькі раптам узнікае дзіўная думка. Гэта, ведама, глупства. Але яму здаецца, што Пілінка знарок пакінула запісачку на стале.

2

Запіскі матылькамі ляцяць у прэзідыум. Адна з іх трапіла ў шклянку з вадою і плавае, як тапелец-матылёк.

Гаворыць загадчык друкарні. У яго доўгія белыя зубы, і словы вырываюцца як бы з-пад клавішаў. Спешчаныя, дагледжаныя словы, круглаватыя гукі «р» і пляскатыя «л».

Урачысты вечар. У зале гарацць агні. І — даруйце мне банальнае параўнанне — агні гарацць і ў сэрцах, агні гарацць і ў вачах, агеньчыкамі пераліваецца званочак на стале, агеньчыкі на гузіках, на жаночых шпільках, агеньчыкі на палітураваных лысінах членаў прэзідыума.

Ад такой бясконцасці агнёў зала разгарачана. І не маракуйце, калі Моня Мінкін у прэзідыуме ўспацеў, ён пацее, і нічога з гэтым не зробіш. Бо калі ты дадумаўся, як самім вырабляць тайную літаграфскую фарбу, не грэх табе і папацець, прымаючы пашану ад сваіх самых лепшых таварышаў — рабочых.

Вось гаворыць лысы карэктар. Ён гаворыць як машына. Ён гэтулькі «вады наліў», што сам пачаў тапіцца ў сваіх словах. Ён ледзьве выбраўся.

Слова бярэ таварыш Метар.

Монька ведае яго, гэтага ціхага сціплага наборшчыка. Ён не надта яму падабаецца, гэты Метар, сваім арыстакратызмам, які выяўляецца галоўным чынам у густых закручаных вусах.

Монька ніяк не чакаў, што гэты чалавек раптам пачне гаварыць пра яго. Гэта зрабіла на яго такое ўражанне, нібы ён пачуў сваё імя ад чужога чалавека ў нейкім невядомым халодным горадзе. І гэтая нечаканасць спарадзіла ў ім нейкія асаблівыя адчуванні да Метара.

Метар гаворыць так, нібы язык у яго падпіхвае кожнае слова, і яно пралазіць праз рэдкія зубы са свістам.

І тым не менш словы як бы заблытваюцца ў густых вусах.

Але Монька чуў усе яго словы. Кожнае слова западала ў сэрца і ўсаджвалася ў ім як глядач. І Монька чуе, як гэтыя чужыя, але родныя словы пляскаюць у ладкі ў яго ўнутры. Пляскаюць, пляскаюць, і якраз таму, што ціхі Метар таксама загаварыў пра карысць вынаходкі таварыша Мінкіна.

Пасля свайго выступлення Метар падышоў да Монькі, і яны моцна паціснулі адзін аднаму рукі.

Монька паглядзеў у залу, знайшоў Пілінку. У яе вочы сёння сталі чамусьці большыя. У ўсіх чамусьці сёння вочы сталі большыя. Ды вунь нават лямпкі і тыя сёння свецяць мацней.

А накладчыцы — з якім дзявочым захапленнем глядзяць яны! Моньку нават крыўда бярэ, што ён не можа ўсіх гэтых паглядаў і ўсмешак пакласці ў кішэню і занесці сабе дадому.

Выходзіш на вуліцу ў першыя вясновыя дні. Зялёны май. Свеціць сонца, прамяні яго скачуць па дахах. Траўка лезе пад ногі. Дрэвы распускаюцца.

І калі Монька Мінкін сустракае на вуліцы Метара і той гаворыць яму на вуха ўрачыста-інтымна «Я збіраюся жаніцца», Монька Мінкін хоча быць яму ўдзячным і таксама ўрачыста-інтымна хваліць нявесту, якой ніколі не ведаў:

— Добрая дзяўчына! Вельмі добрая!

І Монька адчувае, што ён набыў вернага таварыша.

А калі падыходзіць Пілінка, у цэху, пры ўсіх людзях, гэтая новая накладчыца, з свежай друкарскай фарбаю на твары, і кажа: «Я напішу заметку ў насценгазету пра вашу вынаходку», то ён гэтаксама і ёй удзячны.

Ён глядзіць на яе і бачыць, што яна ўжо не гэтак часта мяняецца ў твары, што яна ўжо, мабыць, прывыкла да друкарні.

Але якая яна прыгожая, якія ў яе прыгожыя рукі, якія завостраныя пальчыкі, і нават брошка, як бы незнарок прыколатая да кофтачкі, блішчыць нейкім асаблівым бляскам.

— Вам падабаецца гэтая брошка? Яе падараваў мне адзін хлопчык. Ён быў закаханы ў мяне. Гэта было яшчэ тады, калі я вучылася. Ён быў цудоўны хлопчык! Ён мне потым паказаў свой дзённік. Ён загадзя завучваў словы, якія мне павінен быў сказаць. Але варта яму было падысці да мяне, як ён забываўся на тыя словы...

А яно даволі разумнае, гэтае дзяўчо. І адчувае сябе ўпэўне-

на. Але навошта яна яму гэта расказала? Можа, яна думае, што ён таксама хлопчык, бо ёй нічога не гаворыць!

А можа, яна сказала, што напіша заметку ў газету толькі дзеля таго, каб загаварыць з ім? І ніхто, ніхто можа ўжо і не думае пра яго вынаходку?

Монька крыўдуе? Не, здаецца. Бо ён усё роўна адчувае ўдзячнасць гэтай дзяўчыне. Ён яшчэ не тое вынайдзе! Няхай табе будзе шчасце, дзяўчына, на векі вякоў!

К чорту! Што ж яму толькі тае і работы, што думаць пра новыя вынаходкі? Што, ён павінен удаваць з сябе праведніка?

Дваццаць д'яблаў, дваццаць пальцаў — дзесяць яго і дзесяць яе — сплецены ў адно.

Маўчанне. Паўза.

3

Цёплы веснавы вечар. На тратуарах гуляюць пары. Хлопцы і дзяўчаты туляцца адно да аднаго, як бы ім трэба спіхнуць адно аднаго з тратуара...

На небе бляды месяц, ён, няйначай, натаміўся праставаць за гульцамі і не спаць цэлыя ночы. І тады, калі Монька з Пілінкаю спатыкаюць на вуліцы Метара, то і Метар далучаецца да іх, і яны гуляюць утраіх.

Пра Моньку Мінкіна, гэтага вынаходніка, які робіць у цынкаграфіі і да таго ж яшчэ рысуе як мастак, накладчыцы гавораць, што ён арыгінальны. І Монька аж вылузваецца, каб папраўдзе быць арыгінальным. Ён часамі дурня строіць, але ўвогуле ён добры хлопец. У яго заўсёды ўсмешка на губах пырхае, як матылёк. Гэтая ўсмешка часта лішняя. Паспрабуйце, напрыклад, прызнацца ў каханні з усмешкаю на губах. Ясна, што тут усмешка недарэчы!

Метар, гэты рабочы арыстакрат, які збіраецца ажаніцца з ціхаю, сціплаю дзяўчынкаю, сам таксама ціхі і сціплы.

Пілінка. Яна свежая, як дождж у веснавы дзень, як школьніца, здаўшы шчасліва экзамен.

Яны гуляюць. Яны ідуць па цесным тратуары, і Монька раіць пайсці ў парк.

Пілінка ўсміхаецца, як чысцюткае дзіця. Тысяча малюпасенькіх усмешак у яе ў вачах.

А Монька Мінкін умее рысаваць.

Ён кажа:

— Я мастак, я ашаламіў бы ўвесь свет, калі б нарысаваў

твой партрэт, згадзіся толькі пазіраваць.

А яна глядзіць тысячамі разгубленых усмешак. Што яна? Не ведае, што такое пазіраваць?

— Табе прыйдзецца штодня прыходзіць да мяне.

Яна глядзіць тысячамі спалоханых усмешак.

— І я буду пісаць твой партрэт.

І яна глядзіць тысячамі радасных усмешак. А Метар ціхі і сціплы. Ён ідзе і маўчыць. Наўкола вясновыя дэкарацыі: зоры, дрэвы, трава і млявы месяц.

— Залатая ноч, — кажа Монька.

— Залатая, — пагаджаецца Пілінка.

— І хочацца ўсіх прыціснуць да сэрца і цалаваць.

— І цалаваць, — згаджаецца яна.

— Ну...

І яна згодна.

А ты, неба, знай сваё! Рассыпай зоры. Рэшта цябе не датычыць. Не зазірай. Няхай лепш таварыш Метар на цябе зазірае. У яго ў вачах летуценныя зоры.

І можа стацца, што ён думае цяпер не пра ціхую, сціплую дзяўчыну, з якой збіраецца ажаніцца.

І можа стацца, што ён сам ужо закаханы ў Пілінку. Ведаем мы гэтых ціхенькіх.

Ну, а гэтая Пілінка — што ёй трэба? Чаму яны гэтак затуманьваюцца, яе ясныя вочы?

Чаму яны гэтак цiснуць руку Моньку — яе дужыя рукі?

Няўжо яна закахана ў Моньку?

І Монька адчувае, што яму трэба думаць за траіх: першае, за сябе — ён, здаецца, пра ўсё на свеце забыўся, другое, ён павінен думаць і за яе — хто яна, ён жа, калі сказаць праўду, бадай што нічога не ведае пра яе. Кахае ён яе? Не, ён, здаецца, не кахае яе, дык што ж яму трэба ад яе? І, нарэшце, пра Метара... Дзе гэта яна цяпер — ціхая, сціплая Метарава нявеста? І што яму, Метару, патрэбна ад Пілінкі?

Монька адчувае, што яму трэба падняцца і сказаць: «Ну, хлопцы, пара па хатах».

Але ён падымаецца і гаворыць свайму таварышу жартоўна-загадным тонам:

— У канцы парку прадаюць марожанае. Там, мабыць, вялікая чарга, давядзецца табе пастаяць.

Метар — сюды, Метар — туды, яго пачынае калаціць, ён муляецца, ён вагаецца, але ідзе.

Монька астаецца з Пілінкаю. Ён чуе на сабе яе позірк. І яму здаецца, што калі і далей гэтак пойдзе, то ён ператворыцца ў саляны слуп.

Лісты на дрэвах шэпчуцца.

«К чортавай мацеры, згінь-прападзі!»

4

Быў сход. Гаварылі аб пераходзе на сямігадзінны дзень. І трэба прызнацца, што Метар, гэты ціхі Метар, сказаў не такую і благую прамову, і трэба згадзіцца з Монькам Мінкіным, які пры гэтым падумаў, што ў закаханых асаблівае адчуванне да слова.

Але што ж зрабіў Монька Мінкін? Ён зрабіў глупства. Ён выступіў і сказаў, што не патрэбен сямігадзінны рабочы дзень. Цяпер, калі мы гаворым пра сацыялістычнае спаборніцтва і павелічэнне вытворчасці, гэта дарэмная гаворка...

Глупства, недарэчнае выступленне.

Навошта ён гэта зрабіў, Монька Мінкін? Можа ён хацеў, каб на яго звярнулі ўвагу? Яго, мабыць, крыўдзіла, што загадчык у сваім дакладзе толькі ўпамянуў пра яго, Мінкінаву, вынаходку. А можа, яму хацелася зрабіць гэта наўпярок Метару?

Але калі Метар падыходзіць да яго і кажа: «Ну... Не тое ты сказаў... гэта ўхіл», ён адчувае, што Метар астаўся ранейшым Метарам, што ён нічога не мае супраць яго.

Ах, які чалавек гэты Метар!

Потым яны ідуць дадому, ён, і Метар, і Пілінка таксама. Спачатку ён адчувае сябе як злодзей сярод двух канваіраў.

І калі Монька бачыць, што Метар маўчыць і чакае, каб ён, Монька, загаварыў, а Пілінка глядзіць яму ў рот і чакае яго слова, ён адчувае сябе больш бадзёра, ён адчувае, што гэта ён вядзе іх дваіх і яму аднаму трэба глядзець за абаімі.

Чаравікі на нагах — якія яны разумныя! Чаравікі павярнулі і пайшлі ў парк. Ніхто, здаецца, і не думаў нават, каб пайсці ў парк.

Гэта, здаецца, тая самая лаўка, — і яны садзяцца.

І калі хочаце ведаць, дык сёння зноў цудоўная ноч. Многа цудоўных начэй у вясны! І калі хочаце ведаць, дык я магу пачаць апавяданне спачатку, бо вы толькі зірніце на гэтую ноч — тая самая чароўная ноч, і зірніце вы на Пілінку — яе вочы зноў чакаюць, яе губы зноў завуць.

Але я не буду пачынаць спачатку, бо Моньку Мінкіну не хочацца сядзець, як тады. Бедная Пілінка, чаго яны ад яе хочуць, гэтыя веснавыя вечары?.. Монька зірнуў на Метара, у Метара вочы нічога не гавораць.

Які цудоўны чалавек гэты Метар!

Раптам Монька падымаецца і кажа, што ён зараз прыйдзе.

Ён ідзе і думае, чаму ён пайшоў? Хіба ён у чым вінаваты перад Пілінкаю?

Ён успамінае свае апошнія словы: «Які цудоўны чалавек гэты Метар!»

Яму пачынае здавацца, што ён гэта зрабіў дзеля Метара, каб пакінуць іх адных.

І калі ён варочаецца, ён перш за ўсё ўзіраецца ў вочы Пілінцы і бачыць, што яны ўсё яшчэ чакаюць, а яе губы — усё яшчэ завуць.

А Метар сядзіць у сваёй ранейшай позе. Тады Монька сам сабе прызнаецца: гэта ён рабіў выпрабаванне Пілінцы.

Навошта?

Ды так сабе.

І Монька глядзіць на Пілінку, нібы збіраецца прызнацца ў каханні.

Аднае добрае раніцы ў друкарні хапіліся, што няма Метара. Роспытамі, здагадкамі даведаліся, што ён паехаў недзе далёка. Чаго гэта ён раптам паехаў? Дзіўныя рэчы з гэтымі ціхімі. Усё ў іх робіцца нечакана.

Але пра Метара хутка забылі.

А Монька ўсё яшчэ залётнічае. Пілінка. Толькі крыўда: навошта гэтак доўга ён прыкідваецца дурнем?

А тут раптам арганізавалі на нядзелю вылазку за горад. Іграе аркестр, і ўсе пусціліся ў скокі па зялёнай траве.

А Пілінка? Яна ўвесь час скача з Монькам. І Монька гэтак лёгка сёння скача.

І шмат хто падыходзіць да Монькі і кажа:

— Вы сёння проста як юнак!

Можа, гэта драбяза, а можа, і не, але гэта ўсё ж вынаходка. Ён вынайшаў прыстасаванне да машыны, каб яна, абрэзваючы блакноты, адразу ж прабівала лінію на адрыванне лісткоў. І гэта дае вялікую эканомію. Урачыстага вечара ўжо наладжваць не варта. Мы запалілі вечны агонь, і нам цяпер яго не трэба распальваць кожны раз. Можа, Монька Мінкін за гэта на каго крыўдуе? Ані кропелькі. Уявіце сабе, Монька цяпер думае зусім пра іншае. Ён падбірае словы, новыя словы, якія ён хацеў бы сказаць Пілінцы.

## ТРЫ ПРЫСТУПКІ

Няхай вам будзе вядома, што горад гэты — як сусвет грэка Геракліта, які думаў, што пачатак усіх пачаткаў — агонь.

Няхай вам будзе вядома, што людзям гэтага горада нутраны агонь памагае плавіць сталь, разгрызаць рудныя горы.

І калі нам узяць хоць бы аднаго чалавека з гэтага горада, скажам, паравознага машыніста Дуню Данскую, то яна загарэла не толькі ад сонца. Яе загар, мабыць, сонечна-электрычны. У гэтым горадзе можна загараць нават уночы — да таго многа ў ім усякіх агнёў і пражэктараў.

А экскаватаршчыку Шацу на першым часе ўсё здавалася, што гарыць барак, у якім ён пасяліўся. Неба над баракам гарэла ад агнёў доменных печаў.

Але час ад часу на гэты горад агняных плавільняў находзяць магутныя ліўні, як бы дзеля таго, каб астудзіць яго.

Такімі днямі Шацу цяжка ўзбірацца на рудню гару. Яна мае пяць прыступкаў. Знізу відна толькі першая з іх. Падняўшыся на яе, ты раптам бачыш, што перад табою вырасла другая гара. Узабраўшыся на гэтую гару, ты бачыш новую гару. Потым ідзе чацвёртая, потым — апошняя, пятая.

Усаджваючыся ў кабіну экскаватара, Шац чуе сябе трохі стомленым. Як толькі коўш сваімі жалезнымі зубамі пачынае ўгрызацца ў зямлю, як толькі Шац чуе, што ён сядзіць у кабіне і ўгрызаецца ў магутную гару, яму зноў робіцца лёгка. А калі ён бачыць, што пад’язджае паравоз, яму робіцца зусім лёгка. Яму, дарэчы, трэба нешта сказаць Дуні.

— Трэба было б сабрацца ды з гарнякамі пагаварыць, што праз гэты лівень меншае здабыча.

Сказаў і змоўк. Як спатыкнуўся, як бы нехта перабіў яго на апошнім слове.

— А больш табе няма чаго мне сказаць? — кажа яму Дуня такім тонам, што цяжка зразумець, пра што яна думае.

— Не, — кажа ён і рэзка адварочваецца і гэтым выдае сябе, бо хто гэта раптам праз нішто можа вось гэтак асекчыся, а потым адвярнуцца? Усё ясна, усё ясна. Не той час цяпер. Не тое месца тут. Пнеўматычныя свідры ўгрызаюцца і рашэцяць гару, выбухі аманалу калоцяць яе, экскаватары расцягваюць яе, чыгуначныя саставы развозяць яе — дзе тут думаць бог ведае пра што.

Але вось зноў падплывае дым Дунінага паравоза, ён усё зацягвае празрыстым туманом, і наваколле робіцца няпэўным,

напаўрэальным, напаўказачным, і Шац думае: «Нешта такое ўжо са мною было, але, хоць забі, не памятаю дзе, і тады таксама быў гэтакі ж настрой».

І тут жа само сабою ўсплывае пытанне:

— А можа, ты мне што-небудзь хацела сказаць?

І тут жа на пытанне таксама пытанне:

— А можа, ты мне яшчэ штосьці хацеў сказаць?

Можна было б цэлыя старонкі напісаць гэтакімі фразамі.

У бляклым святле паяўляецца невялікага росту горны інжынер, цягнучы за сабою свой доўгі-доўгі цень, які надае яму нязвыклую велічнасць.

— Таварыш Шац, — кажа ён, — у Ахматава ліўнем заліло ўвесь лом. Ён не можа вас змяніць. А нам жа трэба нагнаць. Праз гэты лівень упала здабыча... Я магу на вас паспадзявацца?

І, не чакаючы адказу, інжынер знікае. Ён, відаць, упэўнены, што Шац не падвядзе яго пад дурнога хату.

«Я магу на вас паспадзявацца?» — з якою ўпэўненасцю ён гэта сказаў. Залатыя, прыемныя словы. Можа яны прагоняць гэтыя неадчэпныя, дурныя фразы: «ты хацеў сказаць... ты хацела сказаць»?

І зноў паказваецца Дунін паравоз: паявіцца і знікне, паявіцца і знікне, як нейкі прывід. Але гэта падахвочвае яго работу. Гэтак можна рабіць і рабіць, горы перавярнуць.

Яму вельмі прыемна, калі Дуня раптам сказала:

— Я, Шац, таксама буду рабіць другую змену. Трэба наганяць.

І ён насмельваецца:

«Хопіць. Сёння я конча павінен пагаварыць з ёю».

Калі не спіш ноч, то як бы заваёўваеш дадатковы, нечарговы ўцінак жыцця, кожнае імгненне — выйгрыш. Калі робіш у гадзіны, што прызначаны да сну, у галаву прыходзяць не абыклыя, не штодзённыя думы, а наплываюць начныя, ярка акрэсленыя, спараджаючы надзеі і мары... А ноч ідзе сабе ціха, і так добра, што ты не адзін, а з гэтымі думамі, і з гэтым паравозам, што зараз пакажацца зноў.

У бачку ад іншых яны сядзяць адны на бярвеннях і чакаюць, што зараз прыйдзе машына і развязе іх па дамах. І ён чуе не стому, а нейкую дзіўную лёгкасць у целе, як бы ён стаў менш важыць. І яму так добра, так добра, і хочацца выказаць усё, што цяпер у яго на сэрцы.

І адкуль у яго такое жаданне гаварыць і гаварыць, калі яна гэтак блізка прытулілася да яго? І раптам яму здаецца, што на светлай гары вялізным натоўпам стаяць металургі і падказваюць яму:

— А ты больш ясна, канкрэтна!

Яму тым часам трэба сказаць ёй простыя, ясныя словы, а ён гародзіць нейкую казку пра закаханую пару, і як яна на хлопцава запрашэнне пайсці ў загс сказала: «Пачакай, міленькі, трошкі, дай дабудаваць горад». І тут ён як бы гаворыць прамову таксама пра тое, што дзеля таго каб пабудаваць сваё сямейнае шчасце, трэба перш за ўсё набудаваць дамоў, набудаваць гарадоў з паркамі, заводамі, падобнымі на сады, з тэатрамі і планетарыямі, каб весела было жыць,— з крэматорыямі, каб можна было спакойна, гаспадарліва пайсці з жыцця.

От жа гэтыя натоўпы металургаў на светлай гары! Зноў яны крычаць падказкі:

— Канкрэтней! Ясней!

«І папраўдзе, — думае ён, — навошта гэтае мітынгаванне, каб прызнацца ў тым, што кахаеш? Гэтая прывычка гаварыць прамовы не дае слова сказаць». І ён гаворыць коратка:

— Дуня, я кахаю цябе!

Дуня маўчыць.

Ён зазірае ёй у вочы. А вочы ў яе заплюшчаны. Яна напрацавалася за дзве змены і заснула, як дзіця.

Як добра, што аўтобус прыйшоў! Жоўтым святлом свеціць месяц. А вось і ганак. А вось тры прыступкі, што вядуць у яе дом.

І ён падымаецца на гэтыя тры прыступкі і бярэцца за ручку дзвярэй. Чаго ж ён раптам падняўся на ганак? Навошта, каб папытацца ў сябе, ён падняўся па прыступках?

Ён, праўда, даволі ясна ўсё сказаў, але ж яна нічога не чула, ні адзінага слоўца.

Дык чаго ж ён раптам падняўся на гэтыя тры прыступкі?

І, трымаючыся за ручку дзвярэй, ён вінавата, разгублена глядзіць ёй у вочы. А яна, быстра зірнуўшы на яго, як бы гаворыць: «Ну ты ж бачыш! Не трэба ніякіх слоў!»

## ЛОКШЫНКА Ў БАРАДЗЕ

Сам я гэтай гісторыі не памятаю, бо была яна сто гадоў таму назад, а можа, і раней. Расказала мне яе прабабка, калі ёй было сто пяць гадоў. І, мабыць, усё гэта праўда. Не магу ўявіць, каб старая бабка перад смерцю пачала нешта выдумляць.

Прычынілася гэтая гісторыя ў мястэчку Бонды, дзе мая прабабка жыла. Тых, хто жыў у Бондах, лічылі дурнямі, бо мястэчка стаіць на гары, а калодзеж выкапалі пад гарою, і жыхары мястэчка хадзілі з пустымі вёдрамі ўніз, а з поўнымі ўгору.

Аднак жа прабабка мая была разумніца. Бо каб пражыць сто пяць гадоў, трэба ў галаве нешта мець.

А ў тым, што ўсе астатнія жыхары Бондаў былі дурнямі, вы пераканаецеся, калі я вам раскажу гэту гісторыю.

У Бондах жыў адзін чалавек, якога звалі Екл-разумнік, бо ён лёгка мог парахаваць, колькі стане, калі памножыць тры ў чатыры. Таму ён ездзіў па вёсках і гандляваў іголкамі, хусткамі, лыжкамі і іншымі ходкімі рэчамі.

Аднаго разу ён пайшоў у вялікі горад па тавар.

— У мяне ёсць, як дзеля вас, такі таварац, што пальчыкі абліжаце, — сказаў Еклу крамнік у вялікім горадзе. — Зірніце.

Екл узяў у рукі нешта шкляное, гладкае, роўнае, блішчастае, зірнуў на яго і з жахам схапіўся за галаву.

— Божачка! Гэта ж мой бацька, — крыкнуў Екл.

Ён папраўдзе ўбачыў на шкле чалавека з доўгаю барадою, вельмі падобнага да яго бацькі. Екл зроду не меў і не бачыў люстэрка, як выглядае, не ведаў, але добра памятаў бацькава аблічча.

— Ой, я вельмі прашу, — сказаў ён крамніку, — напрамілы бог прадайце мне абраз майго таткі. Дзе вы яго ўзялі?

— Гм, — хітра ўсміхнуўся крамнік, памятаючы, што мае інтэрас з бондаўцам. — Ваш татка часта прыязджаў сюды, а ў нас жыў дасціпны хлопец Шмелька, дык ён і намаляваў вашага татку.

— Я даю вам рубля! — крыкнуў расчулена Екл.

— Што мне ваш рубель, Шмелька патраціў на маляванне больш за год часу.

— Даю два!

— Хіба гэта цана?

— Маеце чатыры рублі, хай вам Бог дасць здароўя!

Крамнік строга наказаў, каб Екл не даваў глядзець на абраз нікому другому, дый сам не надта часта пазіраў на яго, бо абраз можа сцерціся. Што люстэрка каштуе тры капейкі, ён, ведама,

сказаць не збіраўся.

Дома Екл схаваў шкелка на самым дне шуфляды стала, прыкрыўшы яго чым толькі мог. Калі нікога не было, ён асцярожна вымаў, глядзеў і дзівіўся на такую здатную здатнасць некага Шмелькі; намаляваў нават локшынку ў барадзе. Ён памятаў, што бацька вельмі любіў локшыну, і кожны раз пасля яды ў барадзе ў яго аставалася локшынка.

Жонка Еклава пачала заўважаць, што муж яе часта нешта хавае ў шуфлядзе, нешта разглядае, тоячыся ад яе. Ведама, яна падцікавала хвіліну, калі ён добра заснуў, улезла ў шуфляду і разгадала ўсю таямніцу. Яна прыкіпела да шкельца.

— Што ты там разглядаеш? — папытаўся, прачнуўшыся, Екл.

— Нішто сабе муж у мяне! — залямантавала жонка. — Прыцягнуў з горада чужую жанчыну і з ранку да вечара глядзіць на яе. Дзеці мае! — усхліпнула яна. — Вы асталіся сіротамі, у вас няма больш бацькі. Глядзіце, якую паскудзіну ён прыцягнуў у дом!

— Што за паскудзіна, што за хвароба? — раскрычаўся Екл. — На шкельцы намаляваны мой бацька!

— Вось гэта твой бацька? — жонка ткнула ў твар яму шкельца і схапіла за валасы. — Без барады, без вусоў, з завушніцамі і ў хустцы на галаве? Здорава ён выглядае, твой бацька. Я гэтага не перажыву!

— Што ты там блюзніш! — схапіў Екл люстэрка. — Вочы ў мяне павылазілі, ці што? Вось жа, глядзі! Нават яго локшынка ў барадзе!

— Локшынка! Цыбуліна! Скавародка! — абурылася жонка і выхапіла ў яго люстэрка. — Што я, здурнела? Зараз жа людзям пакажу, няхай яны скажуць.

Жонка пазвала суседку Злату.

— Няма ў мяне больш мужа, паглядзіце, дарагая Злата, хто тут нарысаваны. Нейкая паршывая жанчына, мой муж знайшоў яе сабе ў горадзе!

Злата зірнула ў люстэрка і расплакалася, бо пазнала сябе. Ва ўсім мястэчку ні ў кога не было такога гуза на галаве, як у яе.

— Я зусім не ведаю, чаго вы ад мяне хочаце, — праз слёзы сказала Злата. — Я ніколі ні ў горадзе, ні дома з вашым мужам не вадзіла ніякіх заляцанак. Гэта здзекі!

— Ах, вось як! Сама сябе пазнала, нідзе не дзенешся! Я табе пакажу, як адбіваць мужоў у сумленных жанчын!

Пачалася калатнеча. Жанкі лупілі адна адну, кусаліся, ірвалі

адна ў адной валасы, клялі адна адну самымі брыдкімі словамі. Пасля бойкі ў Еклавай жонкі асталіся два гузы на лобе, у Екла абадраны нос.

Люстэрка ўпала, разбілася. І калі Еклава жонка падняла кусочак люстэрка, яна адразу пазнала ў ім сябе, бо ў мястэчку цяпер нікога больш не было з двума гузамі на лобе. Екл падняў кусочак люстэрка і таксама пазнаў сябе, бо ў мястэчку нікога цяпер не было з гэтакім абадраным носам.

І тады Екл з жонкаю ўсё зразумелі, парашылі, што ўсё гэта было насланнё, якое не павінна ў іх жыцці паўтарыцца, і жылі шчасліва і мірна.

Праўда, як і ўсе ў мястэчку ў Бондах, яны не паразумнелі. Гэта толькі мая прабабка была разумніца і дажыла да ста пяці гадоў.

## МАЕ МАНЕЎРЫ

Калі я надзеў чырвонаармейскі мундзір і пайшоў на манеўры, я вырас у сваіх уласных вачах, бо не толькі чалавек красіць адзежыну, а бывае і наадварот.

І таму я не разгубіўся, калі ў пункце «Н» у камандзірскай сталоўцы забыў свой чамадан і прыемная дзяўчына ў шынялі Маша Кутузава, кіраўнік лялечнага тэатра пры штабе палка, прынесла мне яго на вакзал. Яна адразу расчаравалася ў мне, як у прадстаўніку вайсковых, але, мабыць, парашыла, што я добры пісьменнік. Ведала яна аднаго добрага пісьменніка, які таксама быў чалавек рассеяны.

Цяпер належыць дапісаць: — Гэтак пачалося наша знаёмства.

У вагон мы селі разам, і настрой у мяне адразу падняўся.

За акном мяняўся пейзаж.

Наш цягнік падпаў пад «варожую» авіяцыю, але наша зенітная артылерыя разбіла яе. Як гэта здарылася, не вазьму да розуму, але калі б нават ведаў, не расказаў бы, бо мо жа гэта ваенная тайна.

Пасля перамогі над авіяцыяй праціўніка цягнік спыніўся па абед. Кацялка ў мяне не было, а ў кацялок мае спадарожніцы ўлазіла дзве порцыі, і мы елі з аднаго кацялка. А таму што нашы лыжкі інтымна сустрэліся, наша зближэнне пабольшала.

Зноў трэба было б напісаць: — Наша знаёмства замацавалася.

У цягніках, як вядома з літаратуры, а бывае і ў жыцці, асабліва замацоўваюцца знаёмствы. А тым больш, мне было вядома, што гэтая дзяўчына будзе адзінай жанчынай на манеўрах.

Маша Кутузава мела ўсе найлепшыя якасці, але на гэтым я падрабязна спыняцца не буду.

Нечакана здарылася, што яна неяк асабліва пяшчотна зірнула на мяне і нават дакранулася да мае рукі. Калі я зрабіў спробу адказаць таксама дакрананнем, яна тут жа адхапіла руку, як бы дзеля таго, каб паправіць пілотку. Але каб не адпужваць і не ахалоджваць мяне, зараз жа завязала размову: яна рада, што я буду пры ёй. Чаму? Ат, драбяза. Ёй бы хацелася, каб я з манеўраў напісаў сцэнкі для яе тэатра лялек.

Па тым, як я спахмурнеў, яна, мабыць, здагадалася, што гэтакія сцэнкі мне напісаць не так і лёгка.

Яна рассмяялася, паказаўшы поўны рот бялюткіх, як на падбор, зубоў.

Я, ведама, падакляраваў, што выканаю яе просьбу.

Яна расказала мне, як яна мяркуе гэта зрабіць. І я пераканаўся, што ўсё жыццё яе ў рабоце, у планах, у ляльках, якія яна сама робіць, у яе ансамблі чырвонаармейцаў-лялечнікаў, якія глядзяць на свайго рэжысёра як на строгага камандзіра, і яе шануюць і паважаюць.

Мы спыніліся на невялікай станцыі. Пайшлі страшэнныя дажджы, ім не было ні канца, ні прасвету. Мы пастроіліся і разам з дажджом патэпалі па палях і лясах.

Не вайна і не гульня. Страляюць не баявымі, а дождж сапраўдашні, ён ідзе несканчона. Я нясу сваё цела пехатою пяцьдзесят кіламетраў за дзень, яно мокне, дубее і нідзе не паспявае адпачнуць.

Але раптам неспадзяванка. У клубным возе, за якім я плёўся, паламалася кола. Фурманка адстала, я пайшоў пехатою, але дагнаць свае часці не мог. Лес, пералескі, поле, я пайшоў, мабыць, не тымі дарогамі, ніяк мне не ўдавалася напасці на след штаба. Не буду гаварыць, колькі і дзе блукаў, дзе і як начаваў. Адным невясёлым ранкам, у адной невядомай хаце разбудзіла мяне Маша Кутузава і тут жа засарамаціла:

— Не шанцуе мне, — сказала яна, — знайшла кампаньёна, меркавала з ім горы звярнуць, а ён заблудзіўся.

— Бывае, — згадзіўся я.

— І яшчэ бывае, — перахапіла яна, — што маеш добрага хлопца камдзіва, дык яго дывізію прызначаюць быць «сіняй», і я яго злавіць не магу.

— Што? — здзівіўся я. Я ж быў упэўнены, што ў яе няма ніякага «добрага хлопца». — Што — ён папраўдзе... — я не мог падабраць далей ніякага слова.

— Папраўдзе, — кажа яна спакойна. — Ён добра піша сцэнкі для маіх лялек і займае вялікае месца ў нашым рэпертуары.

Вось як...

Раптам: — Піф! Паф! — як пішацца ў дзіцячых апавяданнях.

— Вораг у варотах! — як пішацца ў паэмах.

Дым. Пярэпалах. Падаюць.

Падаю і я. А калі падняўся, бачу, што мяне бяруць у палон. Іду.

Уваходжу ў «сінюю» вёску. Тут усё, як пасля бітвы: лазарэты, кухні, рух людзей.

— Пасядзіш цяпер у нас у палоне да канца манеўраў, — кажа нехта.

Гэта мне не падабаецца. Быць часова ў «палоне» — гэта яшчэ паўбяды, але зусім... Ды раптам бачу, што я трапіў да аркестра свайго палка, які ў поўным складзе таксама трапіў у палон. Ад радасці я назваў капельмайстра «маэстра», ён, мабыць, даўно не чуў гэтага грамадзянскага артыстычнага тытула і ахвотна дазволіў мне пабадзяцца па наваколлю. Па дарозе рушылі танкі і гарматы, у небе лёталі самалёты. А калгаснікі між тым спакойна капалі бульбу. Раптам на дарозе я заўважыў фурманку з кульгавым колам. Гэты быў наш агітвоз. Аказваецца, і ён трапіў у «палон» разам з Машай Кутузавай.

Яна дала мне цэлы стос брашур пра маскіроўку і загадала напісаць скетч на гэту тэму. Але азірнула мяне, уздыхнула і сказала:

— Не, бачу, што з маскіроўкаю ў цябе нічога не выйдзе. Пішы лепш пра «палон».

Я ўзяўся за работу. Скетч удаўся як лепш не трэба. Яго ставілі ўсюды: і ў вайсковых часцях, і ў вёсках. Дзіва, дый толькі: лялькі гавораць, як людзі. А як яны агітуюць — любата!

Я быў ужо рады, што ў «палоне» і працую разам з Машаю, але яна ні аднае хвіліны не захацела аставацца ў «палоне».

— Трэба ўцячы! — сказала яна.

І вось мы ўцякаем. Не, мы, ведама, седзімо на возе, а ўцякаюць коні. Мы іх лупцуем, а яны бягуць.

Раптам чуем, нас даганяюць. Крычаць «стойце», а мы гонім.

— Таварышы! — крычыць Маша, — лепш загінуць, чым папасці да ворага!

Я ж тым часам сам сабе мяркую: у чым сэнс таго, што мы ўцякаем? Вораг жа не сапраўдашні, хіба нам не ўсё роўна, дзе даваць лялечныя спектаклі?

Але вось нас дагналі. Маша азірнулася на даганяльшчыка і пачырванела да страхаты.

З каня саскочыў высокі малады камдзіў. Ён перадаў Машы запячатанае пісьмо і паскакаў назад. Чырвань пакрысе сыходзіла з яе твару.

— Што гэта за пісьмо? — папытаўся я, калі сам супакоіўся.

— Гэта падзяка камдзіва за абслугоўванне яго часцей.

Мы паехалі далей. Я сядзеў поруч. Дарога і шматдзённая бессань бралі сваё, Маша задрамала, і пісьмо выпала з рук. Міжволі кінуліся ў вочы першыя словы ў ім: «Мая дарагая Мар’я!»

Я недаўмёна зірнуў на яе. Мне здалося, што да гэтага я зусім яе не бачыў і не ведаў. Яна стала мне куды мілей і харашэй душою, і я аніяк не шкадаваў, што памыліўся ў ёй.

І едучы пасля манеўраў дадому, я думаў, што, памыляючыся, чалавек таксама нешта набывае.

Але я ўсё-такі абавязкова пастараюся больш ніколі не памыляцца.

# АПАВЯДАННЕ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДРУЖНАЯ СЯМЕЙКА

Бацька завецца Зяма, а маці завецца Злата. Калі дзеці хочуць спяваць, яны перакручваюць імёны, і ў іх выходзіць якраз наадварот:

Тата Зяма,
Мама Злата.
Тата Злата,
Мама Зяма.

І дзеці думаюць, што маці трэба было зваць Зяма, бо сапраўдным бацькам у хаце яна. Па-першае, акуляры носіць маці, а па-другое, усе абавязаны яе слухацца, нават бацька яе слухаецца. Бацькава галава занята вынаходніцтвам. Ён працуе на фабрыцы дзіцячых цацак; дык хоча выдумаць такую ляльку, якая б ішла, як чалавек. Калі ён есць, у яго выліваецца суп з лыжкі, бо ён думае пра сваю ляльку. Уночы ён гаворыць праз сон, бо яму сніцца яго лялька. Калі ён ідзе дамоў, дык апыняецца аж на дзесятай вуліцы, бо ён думае пра сваю ляльку. Аднаго разу ён усыпаў тытун у чайнік, а чаем напхаў люльку — бо вечна думае пра сваю ляльку. Вось які бацька. Валасы не трымаюцца на яго галаве ад вечных думак. Маці кажа, што калі ён так будзе думаць яшчэ пару месяцаў, думкі яго пачнуць вылазіць з яго вушэй, з пят і кішэняў.

Маці не хоча, каб ён так многа думаў.

— Задумны чалавек не можа быць ударнікам, — кажа яна.

Шмат рабочых прэміравалі к Першаму мая, а бацьку не, бо ніхто не ведае, аб чым ён думае. Бо каб ведалі, што ён думае аб хадзячай лялыцы, яго напэўна прэміравалі б.

Але ніхто не ведае.

Маці заўсёды гаворыць пра бацьку:

— Чалавек вечна думае і думае, думае і думае.

Яна робіць шум на ўсю хату, бо гаворачы пра бацьку «думае і думае», здаецца, што яна барабаніць языком:

— Дум-дум-дум, дум-дум-дум.

Маці не вельмі шануе бацьку, бо ён вечна думае. Старшая сястра Нюня не вельмі шануе маці, бо тая не вельмі шануе бацьку. Сярэдні брат Сёма не вельмі шануе старшую сястру, бо яна не вельмі шануе маці. Ён упэўнены, што маці правільна кажа пра бацьку. Маленькая сястрычка Мая не вельмі шануе сярэдняга брата, бо ён не вельмі шануе старшую сястру. Маці не слухае, што гаворыць бацька; старшая сястра не слухае, што гаворыць маці; сярэдні брат не слухае, што гаворыць старшая сястра; маленькая сястрычка не слухае, што гаворыць сярэдні брат. Лялька не слухаецца маленькай сястрычкі Маечкі. Маечка хоча, каб яна, лялька, пайшла, а лялька не хоча ісці. І Маечка плача.

Бацька тады кажа:

— Не плач, Маечка. Я хутка прыдумаю такую ляльку, што пойдзе, як чалавек, і расплюшчыць і заплюшчыць вочы, і будзе яна прыгажэйшая за ўсіх лялек на свеце, за ўсіх лялек, якія былі ў розныя часы ў розных краінах.

Маці тады кажа:

— Стопчаш пяць пар чаравікаў, пакуль зробіш такую ляльку; хутчэй неба на зямлю апусціцца, пакуль зробіш такую ляльку. Венік танцуе, качарга кукарэкае, сцяна рухаецца? Вось так будзе рухацца твая лялька. Думаеш і думаеш, думаеш і думаеш, думаеш і думаеш.

Старшая сястра тады кажа:

— Мама, ты пачала ўжо сваё «дум-дум-дум». Калі тата так доўга думае, дык зробіць.

Сярэдні брат тады кажа:

— Не туды заехаў! Калі мама кажа, што тата не зробіць, дык не зробіць.

Малодшая сястра тады кажа:

— Тата ўсё-такі зробіць, каб лялька ўсё ж такі пайшла. Чуеце, хачу, каб лялька пайшла; каб лялька пайшла, хачу. Каб пайшла, хачу, лялька!

А лялька маўчыць, не рухаецца з месца. Не слухаецца.

І Маечка пачынае плакаць.

Тады маці пачынае спяваць песню, каб Маечка не плакала. Як маці спявае, здаецца, што ўсе птушачкі пяюць. Як маці спявае, становіцца светла па ўсіх кутках. Як маці спявае, усе становяцца такія добрыя, і маці пазірае тады на бацьку добрымі вачыма,

старшая сястра — на маці, брат — на сястру, Маечка — на брата, лялька — на Маечку.

Калі яна канчае спяваць, бацька кажа да маці:

— Ты так добра пяеш, аж за сэрца хапае. Ты павінна падацца туды, дзе пяюць, — у кансерваторыю, дык з цябе выйшла б вялікая спявачка, і ўся краіна цябе слухала б па радыё.

Тады маці кажа:

— Зяма, ты так задумаўся аб сваіх ляльках, ажно не ведаеш, на якім ты свеце. Не магу з хаты выходзіць, бо ты вечна нібы сон сніш. На цябе нельга дзяцей пакідаць. Выкінь з галавы лялькі, тады пайду вучыцца спяваць.

Але бацька зноў думае і не адказвае.

Тады маці кажа да старшай сястры:

— Ты малюеш так хораша, ужо некалькі месяцаў ты малюеш карціну зімы ды ўсё не канчаеш, пара канчаць.

Сястра кажа:

— Калі вечна барабаніш: дум-дум-дум… Каб маляваць, трэба каб было ціха. Мне трэба намаляваць ціхі снег і ціхія дрэвы. А ў нас так шумна.

Тады кажа сястра да сярэдняга брата:

— Чаму ў цябе ўсё на «здавальняюча»? Мог бы мець «добра».

Тады сярэдні брат кажа:

— Калі ў хаце вечна «дум-дум-дум», шум. Цяжка рыхтаваць урокі.

Тады сярэдні брат кажа да Маечкі:

— Чаму заўсёды плачаш? Вечна плачаш.

Маечка адказвае:

— Бо хачу, каб лялька пайшла. Каб лялька ішла, хачу я!

І зноў тое самае. Маці злуецца на бацьку за тое, што ён думае аб сваіх ляльках; бацька не здаволен маткай, бо яна не ходзіць вучыцца ў кансерваторыю; маці не здаволена старшай сястрой, бо тая не заканчвае малюнка; старшая сястра не здаволена сярэднім братам, бо ён вучыцца толькі на «здавальняюча»; сярэдні брат не здаволен Маечкай, бо яна часта плача; Маечка не здаволена лялькай, бо тая не ходзіць.

Але суседзі пра гэта не ведаюць. Усе суседзі гаварылі:

— Як весела ў хаце Зямы і Златы!

Бо тыя слухалі, як Злата спявае. А калі Злата пачынае спяваць, тады суседзі тушаць прымусы, перастаюць грукатаць сякерай па паленах, расчыняюць вокны і прыслухоўваюцца.

А пасля яны кажуць:

— Які слаўны чалавек вось гэты Зяма!

— Які прыгожы голас у Златы!

— Якая мілая дзяўчынка Маечка!

Аднаго разу ўсе прачынаюцца раніцой, бачаць, што ў бацькі зусім іншы выгляд. Зусім не ўчарашні і не пазаўчарашні бацька. Нібы навюткі, новы чалавек. Ён падышоў да маці і сказаў:

— Злата, я думаў і думаў, і ўрэшце я дадумаўся да таго, што зусім не магу думаць, дык я рашыў перастаць думаць.

Сказаў ды ўсміхаецца. Ва ўсіх зрабіліся смутныя твары, а маці Злата сказала:

— Зяма, ты думаў і думаў, дык павінен сядзець ды яшчэ думаць. Калі думаюць — дык трэба дадумаць да канца.

А сярэдні брат, які таксама быў упэўнены, што бацька нічога не прыдумае, таксама сказаў:

— Тата, яшчэ крыху падумай. Ты так доўга думаў, дык думай яшчэ дзень, яшчэ тыдзень. Думай, тата, думай!

А Маечка зноў расплакалася:

— Думай, тата, лялька павінна хадзіць, павінна, павінна, павінна!

— Я больш не ў сілах думаць, — сказаў бацька, — усяму бывае канец!

Аднак маці і дзеці якраз цяпер хацелі, каб бацька думаў. Гэтулькі часу думаў, дык трэба яшчэ крыху, нешта выйдзе, нешта павінна выйсці.

Бацька ўсё ўсміхаецца, уводзіць усіх у свой пакой і знімае заслону з лялькі.

— Калі думаюць, дык прыдумваюць, — кажа бацька. — Калі працуюць, дык што-небудзь і выходзіць. Вось яна, мая хадзячая лялька! Вы толькі паглядзіце на прыгажуню, прыгажэйшую за ўсіх лялек на свеце ўсіх часоў і ўсіх краін!

Ён заводзіць ляльку, як заводзяць гадзіннік, і лялька пачынае крочыць. Потым ён расчыняе ляльку — усярэдзіне ёсць шрубачкі, спружыны і калёсікі, цэлая машынерыя ўсярэдзіне. Потым ён яе зноў зачыняе, і лялька крочыць, як чалавек.

У хаце стала весела. Маці напякла бліноў, а Маечка думала, што зноў надышло свята, як на Першае мая. Дык яна начапіла на сябе чырвоны банцік. Маці спявала, і ўсе суседзі збегліся. Маечка думала, што лялька будзе саромецца хадзіць пры суседзях, але тая не саромелася, храбра заспацыравала.

Прыйшлі людзі з цэнтральнай вуліцы паглядзець на ляльку. Нават міліцыянер зышоў з паста паглядзець на ляльку. Потым ён пачаў глядзець за парадкам, каб не набілася ў хату замнога

людзей; потым лялька выйшла на вуліцу, зышла з гары, і Маечка ледзь дагнала яе. Усе людзі на вуліцы спыняліся і ўступалі ёй дарогу. Калі лялька хадзіла па вуліцы, спыняліся ўсе трамваі, каб яе не пераехаць.

Бацька набыў сабе вялікую славу. Прыйшлі таварышы з фабрыкі вітаць бацьку. Прыйшлі фатографы здымаць з яго партрэт. Бацька павінен быў хадзіць у святочным касцюме, бо яго ўвесь час фатаграфавалі.

Пасля фабрыка наладзіла ў клубе вечар, дзе прэміравалі бацьку; усімі творамі Леніна яго прэміравалі, патэфонам і яшчэ дзесяццю добрымі падарункамі. І ў газетах аб ім пісалі, што ён выдумаў хадзячую ляльку, што яго дачушка Маечка ўжо забаўляецца такой лялькай, і партрэт Маечкі разам з лялькай быў таксама надрукаваны ў газеце. Але не ўсе суседзі маглі пазнаць на партрэце, хто тут Маечка і хто тут лялька.

Аднаго разу ўвесь дзіцячы сад разам з настаўніцамі прыйшоў паглядзець ляльку. Маечка паказала яе і сказала, што бацька наробіць для ўсіх дзяцей такіх лялек.

Цяпер бацька ўжо не ходзіць задумны, але ён кажа, што праз месяц ён зноў пачне думаць. «Яшчэ хачу, — кажа ён, — прыдумаць маленькі аўтамабіль для лялькі, каб яна магла катацца, як патрабуецца для такой лялькі».

Маці кажа:

— Калі бацька што-небудзь скажа, дык, напэўна, зробіць гэта. Ён правільна кажа. Не, мне заўсёды казаў, каб я ішла спяваць. Сягоння слухалі мяне, дык сказалі, што ў мяне вельмі добры голас. Дык я-такі буду вучыцца.

Старшая сястра кажа:

— Маці праўду сказала. Трэба скончыць карціну пра зіму.

Яна сапраўды закончыла. А на выстаўцы дзіцячых малюнкаў яна атрымала прэмію за карціну.

— Старшая сястра правільна зрабіла, — кажа сярэдні брат, — я сёння здаў арыфметыку на «добра». Трэба толькі брацца, тады ўсё будзе добра.

Маечка кажа:

— Больш я плакаць не буду. Лялька ўжо ходзіць.

Маці вельмі шануе бацьку. Старшая сястра слухаецца маці. Сярэдні брат разумее, што сястра ведае больш за яго. Малодшая сястра не дражніцца з сярэднім братам. Маечка не сварыцца з братам. Лялька слухае Маечку.

# ЛІСТЫ

*19 сентября 1942 г.*

1. Дорогой т. Лыньков!

В<аше> письмо получил и спешу Вам ответить. У меня ничего нового нет. Готовимся к зиме. В блиндаже ночью стало теплее, чем летом. По-прежнему засекаем цели. Ничем особо не проявил себя, кроме разве тем, что вышел победителем шашечного турнира, да еще выпускаю боевые листки. Даже учимся, когда не заняты боевой работой, и утром производится утренняя зарядка. Вернусь к моей «доистории».

В ночь на 25 июня мы вышли из нашего родного города. Массивные стены переднего корпуса (где я жил) рухнули. Мы дошли до Червеня. Там мы разошлись в разные стороны. Мне много неприятностей приходилось переживать по дороге — и особенно в Могилеве — куда я добрался, — ибо у меня на руках не оказалось документов (бомбежка и пулеметный обстрел с воздуха в счет не идет). Необычайные мытарства в стиле авантюристического романа. Мне в конце концов в Могилеве, в органах, куда я обратился, обещали выдать бумажку на руки, ибо в Могилеве оказалось, конечно, много людей, знающих меня, но редактор евр. газ. Эренгрос[1], который приютил меня, решил 3 июля выехать из Могилева — и мне не хотелось отстать от него. Мы вместе попали в Мордовию. Первое время я с ним переписывался. Теперь потерял с ним связь. О дальнейшем моем продвижении я Вам, кажется, писал.

Из наших писателей на одном фронте со мной оказывается только Шараховский.

Кто, впрочем, из евр. писателей в Москве? Известны ли Вам какие-нибудь подробности о гибели на фронте Гурнштейна[2], Винера[3], Росина[4] с женой, Годинера[5]? (о чем мне в письме написал Кучар[6]).

Хочется верить, что мы все будем жить, будем радоваться победе и, как в былые времена, за «чашкой чая», расскажем всё пережитое. Да и писать будем в сто раз лучше, ибо каждый из нас несет теперь в себе огромный жизненный материал и необычную жадность к жизни и деятельности.

Пока. Жду В<аших> писем.

С тов. приветом *Эля Каган.*

*Сенбярь 1942 г.*

2. Здравствуйте, т. Лыньков!

Очень рад В<ашему> письму.

О себе всё сразу я, конечно, не смогу написать Вам. Уже слишком моя «мирная жизнь» превратилась за этот год с лишним в приключенческий роман с небывалыми трюками. В след<ующих> письмах я постараюсь понемножку рассказать об этом.

Мое теперешнее положение. До мобилизации (в январе э. г.) я жил в Омске — у сестры. Некоторое время работал в колхозе, некоторое время работал на обувной ф<абри>ке, а потом работал в обл<астном> издательстве в к<ачест>ве счетовода и даже выдвинулся — в качестве плановика-экономиста!

Впрочем, пробовал и заниматься лит<ературным> делом, но мне не везло. Написал интермедию для спектакля «Кутузов» для обл<астного> театра, дирекции она очень понравилась, приняли, но она не была поставлена из-за того, что спектакль оказался очень длинным. Написал рассказ, опять он понравился переводчику, но переводчик его потерял.

Полоса неудач!

После мобилизации я попал в Новосибирск. Там мне удалось встретиться на 3 мин. (больше «увольнительная» не позволила) с Головчинером[1]. Он думал привлечь меня для восстановления текстов репертуара театра, но назавтра же я попал в маршевую батарею и отправился на фронт. Но, доехав до фронта, нашу батарею завернули обратно, и до мая месяца я был в тыловых частях — обучался. В конце концов попал в эту часть, где я теперь, в артиллерийскую инструментальную разведку. Я в звуковой разведке. По выстрелам вражеских батарей определяем их координаты. Я являюсь дешифровщиком. Что это такое — объяснять долго, но, как видите, название громкое, звучит даже экстравагантно! Ребята у нас молодые, грамотные, со средним и некоторые даже с высшим образованием. Имею время читать книги, газеты и вести переписку с друзьями. После всего пережитого жизнь в нашей части, на фронте кажется мне сущим раем.

Из наших ребят переписываюсь уже давно с Платнером[2], а

в последнее время с Кучаром. Он был настолько любезен, что прислал мне целую пачку газет «За свободную Белоруссию»[3]. Судьба Аксельрода[4] мне неизвестна, я видел одного минчанина, который видел его по Могилевскому шоссе — до Червеня, дальше след его простыл.

Я тогда встретился с Долгопольским[5], и, как мне писала жена Аксельрода, он был в Тамбове или в Тамбовской обл<асти>. С ней я раньше переписывался. Теперь я уже давно от нее писем не получал. Насчет Березкина[6] я знаю только из письма Кучара, что он был в Казани и встретился там с Добрушиным[7], и что теперь он, вероятно, в армии.

Если Вам известны адреса Мальтинского[8], Телесина[9], напишите мне, и вообще адреса знакомых.

Ну, продолжение следует. Жду писем от Вас.

Желаю здоровья и скорой победы.

В<аш> *Эля.*

*7 октября 1942 г.*

3. Дорогой Михась!

По-прежнему — ничего особенного. Живем текущей боевой работой, надеждами на будущее и письмами друзей. Главное, меня ободряет то, что друзья не забыли меня.

На днях получил письмо от И. Фефера[1], предлагает писать «Веселые рассказы» для газ. «Эйникайт»[2], а также корреспондентскую карточку от этой газеты.

Также получил предложение от Кучара написать для «За св<ободную> Бел<оруссию>». Буду писать.

На днях напишу свой 1-ый фронтовой рассказ. В голове он у меня уже готов.

Известно ли Вам, где В<аш> брат[3]?

Пишете ли Вы? В<аши> статьи в «Известиях» я читал. Но это было давно.

Обратите внимание на новый адрес.

Привет всем знакомым.

В<аш> *Эля.*

*Ноябрь 1942 г.*

4. Дорогой Михась!

Я давно почту не получал, ибо мы совершили поход — перешли в другую армию на том же фронте. Сообщаю Вам свой новый адрес (см. на конверте). Поздравляю Вас и всех друзей и знакомых с 25-летием Окт<ябрьской> революции. Желаю Вам, себе и всем нашим друзьям следующую годовщину праздновать в нашей родной Белоруссии.

Жду весточки от Вас. Как только устроимся на новом месте и получу письмецо от Вас, напишу подробное.

Будьте здоровы.

В<аш> *Эля.*

*27 сентября 1943 г.*

5. Дорогой Михаил Тихонович!

На днях нашел в газетах список награжденных партизан БССР, и в этом списке нашел Ваше имя и имена других т<овари>щей. От всего сердца поздравляю Вас.

Сегодня же узнал о продвижении наших войск в пределы БССР, о занятии первого белорусского центра — Хотимск. Опять поздравляю Вас и себя с этим счастливым началом освобождения нашего любимого края.

Некоторое время тому назад я написал Вам письмецо, но не знаю, дошло ли оно до Вас. В настоящее время выполняю работу инт<ересного> характера, нахожусь при редакции газ<еты> соединения.

Передайте привет всем друзьям.

Жму В<ашу> руку.

*Эля.*

*4 декабря 1943 г.*

6. Дорогой Михась Тихонович!

Вашу открытку получил. Читал на днях В<ашу> статью «Родной Беларуси» в «Правде».

Я уже второй месяц нахожусь на территории нашей родной республики.

Надеюсь, что теперь всё чаще будут встречаться знакомые по дорогам родной республики. Недавно, при форсировании Днепра, я в одном приднепровском селе встретился неожидан-

но с З. Телесиным. Мы, конечно, как следует отпраздновали эту радостную встречу.

Теперь у меня появилась возможность писать — и я пишу понемножку. Послал и вышлю еще рассказик для «Эйникайт».

Рад, что в нашей фронтовой газете появляются произведения наших писателей.

Надеюсь, что вскоре вернемся на свои пепелища и начнем новую, плодотворную жизнь.

Передайте привет всем друзьям-писателям.

В<аш> *Эля.*

*21 января 1944 г.*

7. Дорогой Михаил Тихонович!

В<ашу> открытку получил. Я чуть было не поехал в Гомель, как раз во время празднования годовщины нашей республики. Было бы очень приятно встретиться — но, надеюсь, это мне удастся. Есть принципиальное согласие дать мне отпуск в Москву — и надеюсь раньше или позже увидеться с Вами и со всеми друзьями в Москве.

Читал в газете рецензии о сборнике «Беларусь». Очень хотелось бы увидеть живое белорусское слово. Поддержали бы меня иногда литературой. Только в этом испытываю нужду.

Новый год я встретил как истый белорус, в белорусской семье, с партизанами. Только теперь я по-настоящему познал наш народ. Я родился и жил всё время в городе — и с народом знакомился только по-туристски — наездами.

Горячий привет всем друзьям-писателям. Если А. Кучар в Москве — ему особый привет. Пусть напишет.

В<аш> *Эля.*

# У ВЯНОК ПАМЯЦІ

*Рыгор РЭЛЕС*

## У ПАМЯЦІ СЯБРОЎ І ЧЫТАЧОЎ

У Элі Кагана ёсць апавяданне пра сваё першае знаёмства з творамі Шолама-Алейхема. Гэта было ў 1919 годзе ў Мінску, акупіраваным белапалякамі. Элю было тады дзесяць гадоў, і яму добра запомніўся той кашмарны час. Сям'я хавалася ў цёмным сырым склепе. Хлеба не было. Елі моркву, сырую капусту. Бацька, рызыкуючы жыццём, выбіраўся начамі са склепа, каб папоўніць запасы морквы. Аднойчы яму пашанцавала: дзесьці ён знайшоў тоўсты том Шолама-Алейхема. Пры святле лучыны бацька ўголас чытаў аповесць «Хлопчык Мотл», і ў гэтай сырой магіле ўпершыню пачуўся смех...

Магчыма менавіта тады Эля Каган і пераканаўся, што гумар вельмі патрэбен людзям. Ім не толькі выпраўляюць заганы, але і лечаць засмучаныя сэрцы. Вось чаму, стаўшы пісьменнікам, Каган даў волю пачуццю гумару, якім ён, трэба сказаць, быў надзелены вельмі шчодра.

Эля Каган быў гумарыстам, а не сатырыкам. Гумарыстам і лірыкам. Героі яго твораў — у асноўным дэкласіраваныя элементы, якія ў гады першых пяцігодак уцягваліся ў сацыялістычнае будаўніцтва, станавіліся рабочымі, членамі арцеляў, калгаснікамі. У гэтых людзей заставаліся «перажыткі», і гэта рабіла іх смешнымі. Нямала сярод герояў Кагана і проста дзівакоў, якія, як вядома, упрыгожваюць жыццё.

Здаралася, што год-два нічога не выходзіла з-пад пяра Элі. І тады чытачы злаваліся на яго. А Ізі Харык, рэдактар часопіса «Штэрн», ставіў пытанне аб ім на сходах камсамольскай ячэйкі Саюза пісьменнікаў, гаварыў, што гэты малады чалавек таленавіты, але гультай, чым і губіць свой талент.

— Эля, — гаварылі яму сябры, — Харык мае рацыю. Трэба пісаць.

Аднойчы, выслухаўшы чарговае настаўленне, Эля сказаў:

— Надакучылі вы мне з вашымі прэтэнзіямі. Паеду ад вас. Штосьці ў Магнітагорск пацягнула.

І неўзабаве паехаў. І прывёз цудоўнае апавяданне «Горад без цэркваў», дзе таксама былі і добры гумар, і сардэчная лірыка.

Сяброў Эля меў вельмі шмат. Рэдка яго бачылі аднаго, заўсёды ў акружэнні самых розных людзей. І людзі яго любілі. Пра гэта гавораць франтавыя сябры Элі, якія да гэтага часу перапісваюцца з яго родзічамі і сваякамі. На ўсё жыццё запомніўся ім чарнявы, з вялікімі вачыма юнак, які ў самыя цяжкія хвіліны ўмеў развесяліць і падбадзёрыць жартам.

22 чэрвеня 1944 года каля палескай вёскі Заля Эля быў смяротна паранены. Калі прыйшлі санітары, ён сказаў ім:

— Вывезіце раней цяжка параненых, я яшчэ пацярплю.

Пад раніцу ён памёр ад газавай гангрэны...

Імя Элі Кагана залатымі літарамі высечана на мемарыяльнай дошцы ў Саюзе пісьменнікаў.

Яго не забудуць ні сябры, ні чытачы.

*Мікола ХВЕДАРОВІЧ*

## ЗАГІНУЎ У БАЯХ ЗА РАДЗІМУ

Эля Каган нарадзіўся ў Мінску 10 лютага 1909 года ў беднай сям'і. Скончыўшы пачатковую школу, ён паступае ў прафтэхшколу абутнікоў. Бацьку не вельмі спадабалася гэта, і ён аднойчы сказаў: «У нашай сям'і яшчэ пакуль што шаўцоў не было». На што маці катэгарычна адказала: «Якраз гэта і добра, дзіця хоць босым не будзе хадзіць».

Хлопчык хутка навучыўся цягнуць дратву і забіваць цвічкі, але пакуль была гатова першая пара чаравікаў, у яго з'явілася цэлая галерэя вобразаў, якія хутка сталі героямі першага яго апавядання «Сэрца на вёслах». Крытыкамі гэтага твора сталі яго сябры-шаўцы, і пасля дапрацоўкі апавяданне з'явілася ў друку. Малады аўтар падпісаў яго псеўданімам Элля Йодэр і даслаў у часопіс «Эмэс», дзе яно атрымала станоўчую ацэнку. Маладому аўтару, аднак, параілі, што не варта выдумляць усялякія псеўданімы, лепш так і падпісвай свае творы — Эля Каган.

Апавяданне «Сэрца на вёслах» было надрукавана ў 1928 годзе. Эля Каган у дзевятнаццаць гадоў стаў пісьменнікам і пакінуў прафтэхшколу. Далейшай добрай школай для яго стала жыццё людзей, якія ведалі цану кавалку хлеба. І калі першае апавяданне Кагана было заяўкай, што ў літаратуру ідзе пісьменнік са своеасаблівым гумарам і жыццярадасным светаўспрыняццем, дык другое яго апавяданне «Гліняная нарачоная» стала сур'ёзным крокам наперад.

У хуткім часе часопісы і газеты надрукавалі новыя навелы Элі Кагана «У маім люстэрку», «Няхай усе радуюцца», «Маем

зялёным», «Ад вясны да восені» і цэлы шэраг іншых твораў, якія сведчылі, што ў літаратуру прыйшоў сапраўдны майстар мастацкага слова. У 1932 годзе выйшла з друку новая кніга навел «Горад без цэркваў», якая была напісана пасля творчай камандзіроўкі ў Магнітагорск. Яна была прысвечана людзям на будоўлях першай пяцігодкі. У пісьменніка з'явіліся новыя тэмы і героі.

У канцы 1941 года ў час вайны Каган апынуўся ў Новасібірску, адкуль і пайшоў на фронт. Пачаўся небяспечны шлях салдата, які працягваўся больш чым тры гады. На фронце, як і заўсёды, Эля Каган вёў свой дзённік, у якім занатоўваў уражанні ваенных гадоў. У новай кнізе пісьменнік збіраўся паказаць гераізм савецкага салдата, яго любоў да Радзімы-маці.

Франтавыя сябры Элі Кагана, якія вярнуліся з вайны, расказвалі, што і ў акопах, і зямлянках ён не пакідаў творчай работы. У яго была напісана кніга навел аб шчырым каханні салдата, аб франтавым пабрацімстве ў час ваеннай небяспекі.

Эля Саламонавіч працаваў карэспандэнтам у газеце «Красный артиллерист», удзельнічаў у фарсіраванні Дняпра, за што быў прадстаўлены да высокай узнагароды. Але не суджана было яму вярнуцца з вайны дамоў. У 1944 годзе, ужо на беларускай зямлі, ён не вярнуўся ў часць з небяспечнага задання. Франтавыя сябры ў раёне Зэльвы пахавалі яго на армейскіх могілках. На дошцы напісалі: «22 ліпеня 1944 года загінуў у баях за Радзіму салдат Каган Эля Саламонавіч».

Франтавы друг Элі Роберт Джодзін праз месяц пасля яго гібелі пісаў: «Сёння мы ўжо далёка, за тысячу кіламетраў ад дарагой нам магілы. Мы будзем помсціць ворагу за нашага друга».

# КАМЕНТАР

Творчасць пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны, займае прыкметнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры XX ст. Нямала з гэтых літаратараў зрабіліся досыць вядомымі яшчэ ў даваенны час у Савецкай ці Заходняй Беларусі, яны выдалі ўласныя кнігі, пастаянна выступалі ў друку. Сярод загінуўшых на вайне былі і вельмі маладыя людзі — тыя, хто толькі распачынаў свой творчы шлях, дэбютаваў на старонках тагачаснай перыёдыкі асобнымі творамі.

Першы зборнік твораў палеглых на франтах паэтаў і празаікаў «Мы іх не забудзем» выйшаў у 1949 г. Збіранне літаратурнай спадчыны загінуўшых пісьменнікаў-франтавікоў распачалося ў хуткім часе пасля вайны. У другой палове 50-х — 60-я гг. гэтая справа прыкметна актывізавалася: акурат тады пабачылі свет кнігі З. Астапенкі «Выбранае» (1957), «Вершы і паэмы» (1968), М. Сурначова «Барвовая зара» (1959), А. Жаўрука «Выбранае» (1960), М. Нікановіча «Летнім днём» (1960), Л. Гаўрылава «Вернасць» (1961), А. Ушакова «Наша маладосць» (1962), А. Коршака «Апаленыя пялёсткі» (1963) і некаторыя іншыя. У 1967 г. выйшаў калектыўны зборнік «Крывёю сэрца» (уключаны творы 15-ці аўтараў), аднак, у адрозненне ад папярэдняга выдання «Мы іх не забудзем», у яго не былі ўключаны творы яўрэйскіх пісьменнікаў. Выданне творчай спадчыны загінуўшых беларускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў працягвалася і ў наступныя гады, але асабліва актыўна падрыхтоўка новых выданняў і перавыданняў вялася з сярэдзіны 80-х, калі выйшлі кнігі Х. Шынклера «Апошні рэйс» (1984), М. Сурначова «Акопны спеў» (1986), А. Жаўрука «Крывёю сэрца» (1987), Г. Шведзіка «Матчына сляза» (1989) і інш. У 1985 г. у Маскве быў надрукаваны зборнік «Лира», у які ўключаны творы яўрэйскіх паэтаў Беларусі, што не вярнуліся з вайны.

Пра творчасць пісьменнікаў з былой Заходняй Беларусі, якія загінулі ў ваенны час, даюць пэўнае ўяўленне зборнікі «Сцягі і паходні» (1965) і «Ростані волі» (1990).

Творы беларускіх паэтаў у перакладзе на рускую мову ўключаліся ў зборнікі «Антология белорусской поэзии» (М., 1952), «Советские поэты, павшие на Великой Отечественной войне» (М., 1965), «Чтоб всегда было солнце» (1968), «За тебя, Беларусь!» (1974), «Имена на поверке» (М., 1975), «Кровью сердца» (1985), «Возвра-

щение» (1985), «До последнего дыхания» (М., 1985), «Стихи советских поэтов, павших в Великой Отечественной войне» (М., 1985) і інш. Асобныя з вершаў і празаічных тэкстаў перастворaны таксама на ўкраінскую, польскую, балгарскую, латышскую, малдаўскую, англійскую і іншыя мовы свету.

Памяці беларускіх паэтаў прысвечана кніга В. Бечыка «Радзіме — радок і жыццё» (1986).

Для знаёмства чытача з творчай спадчынай літаратараў, герояў і ахвяраў вайны, вельмі шмат зрабілі А. Вялюгін, С. Александровіч, А. Зарыцкі, К. Кірэенка, М. Аўрамчык, Р. Бярозкін, У. Калеснік, В. Бечык, Р. Рэлес, П. Пруднікаў, Я. Скрыган, А. Лысенка, Г. Юрчанка і інш.

Гэтае выданне нашмат шырэйшае, чым папярэднія аналагічныя калектыўныя зборнікі, упершыню тут засведчана і прэзентавана такая вялікая колькасць імёнаў — *46 пісьменнікаў і журналістаў Беларусі*, якія загінулі ў час вайны 1941–1945 гг. У прадмове ўкладальніка згадваюцца яшчэ некалькі літаратараў, якія належаць да самаахвярнага ваеннага пакалення. У гэты збор творчай спадчыны ўключаны літаратурныя і эпісталярныя матэрыялы, адшуканыя на старонках даваеннай перыёдыкі і ў архівах.

Важна было ўдакладніць даты напісання твораў, праверыць ці аднавіць біяграфічныя звесткі. Так, верш Л. Гаўрылава «Цішыня» датуецца 1939 г., а не 1941-м, як у зборніку «Вернасць» (1961), паколькі ўпершыню быў надрукаваны ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» ў 1939 г. (№ 8). У асобных публікацыях і даведніках гаворыцца, што творы Я. Бобрыка змешчаны ў зборніку «Мы іх не забудзем» (1949), хоць на самай справе іх там няма. Ці яшчэ. Па словах Р. Рэлеса, Эля Каган не друкаваў вершаў, а Рува Рэйзін не пісаў прозу, хаця ў асобных выданнях сцвярджаецца адваротнае. Насамрэч з вершамі выступаў у друку Айзік Каган, а празаічныя творы належаць пяру Абрама Рэйзіна. У выданнях «Мы іх не забудзем» і «Крывёю сэрца» зроблена нямала рэдактарскіх правак, таму крыніцай асноўнага аўтарскага тэксту для большасці вершаў служаць першапублікацыі. Рэдактарскія праўкі ў асобных выпадках агаворваюцца ў каментары. Пераправерцы не падлягалі творы ў зборніках, падрыхтаваных на належным тэксталагічным узроўні. Шэраг літаратурных тэкстаў падаецца скарочана праз іх вялікі аб’ём ці з прычыны тэндэнцыйнага вульгарна-сацыялагічнага падыходу аўтара да рэчаіснасці, з’яў мастацтва (такіх зробленых скарачэнняў вельмі мала, яны пазначаны знакам <…> або шматкроп’ем). Асобныя заўвагі ці тлумачэнні пакінуты ў падрадковых зносках. Храналогія пры размяшчэнні твораў не захоўваецца.

Многія тэксты адаптаваны ў адпаведнасці з нормамі сучаснай арфаграфіі, згодна з усталяванымі правіламі пунктуацыі, але пэўныя

асаблівасці аўтарскай мовы захоўваюцца.

Каментар складаўся з улікам напрацовак Я. Саламевіча, А. Лысенкі, Г. Кісялёва і інш., былі выкарыстаны звесткі з біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» ў 6 т. (1992–1995), а таксама ўлічаны парады і заўвагі Р. Рэлеса, П. Пруднікава, В. Скалабана і інш.

***Алесь Бельскі***
***Загубленыя ў полымі саракавых (с. 3)***

Артыкул напісаны спецыяльна для гэтага выдання.

Упершыню — час. «Роднае слова», 2004, № 7, пад назвай «Скрыжалі памяці».

***Варлен Бечык***
***Усё Радзіме аддалі… (с. 11)***

Друкуецца паводле выд.: Бечык В. Выбранае: Літ.-крытыч. арт. Мінск.: Маст. літ., 1989. С. 84.

З пераліку пісьменнікаў, загінуўшых у гады вайны (пасля Янкі Бобрыка), выключана імя Змітра Віталіна (нар. у 1900). Лічылася, што ён прапаў без вестак на фронце. Пра лёс З. Віталіна распавёў у артыкуле «Уваскрашэнне» пісьменнік П. Пруднікаў (Літ. і мастацтва. 1994. 25 лют. С. 5, 12).

*Змітро Віталін* (*Дзмітрый Рыгоравіч Сергіевіч*) — аўтар кнігі «Будзем жыць!» (1932). Вясной 1932 г. паэт быў рэпрэсаваны, знаходзіўся ў Сіблагу каля г. Марыінска. Пасля вызвалення ў 1935 г. працаваў на будоўлі, затым служыў у арміі, працаваў у газеце «Бальшавік Палесся» (Мазыр). У артыкуле «Другая маладосць паэта» П. Пруднікаў піша:

«У глыбі Палесся Змітра Віталіна і напаткала вайна. Два гады ён ваяваў радавым сувязістам на Волхаўскім і Ленінградскім франтах, потым пачаў супрацоўнічаць у розных армейскіх газетах. Вайну закончыў у чыне маёра. І ў 1952 годзе пасяліўся ў Адэсе, дзе сёння і жыве.

Трошкі больш як за трыццаць гадоў Змітро Віталін напісаў і выдаў 17 арыгінальных кніжак, што адна за адной выходзілі ў выдавецтвах Адэсы, Кіева і Масквы. Я назаву толькі некаторыя. Гэта — раманы «Высокий Остров», «Гроза на рассвете», аповесці «Товарищи огненных лет», «Нет последних рубежей», зборнік апавяданняў «Сосны посреди поля» і інш. Праўда, нікому не прызнаваўся, што аўтар гэтых твораў — не хто іншы, як былы паэт Змітро Віталін. Проста баяўся, што зноў схопяць…» (Першацвет. 1996. № 3. С. 63).

Гл. інтэрв'ю В. Жыбуля з паэтам З. Віталіным: «Ніколі не збочваць са свайго шляху» // Голас Радзімы. 1999. 4 сак.

У 90-я гг. З. Віталін друкаваўся ў беларускіх выданнях (Полымя. 1994. № 12; Беларусь. 1995. № 5; Літ. і мастацтва. 1994. 9 снеж. і інш.).

***Рыгор Барадулін***
***Ранішняй песні заступнікі (с. 19)***

Друкуецца паводле выд.: Барадулін Р. Маўчанне перуна: Новая кн. Мінск: Маст. літ., 1986. С. 15.

Са згоды аўтара верша з пераліку палеглых на франтах вайны выключана імя З. Віталіна.

## *ЗМІТРОК АСТАПЕНКА*

### *Паэзія*

#### *Зімой (с. 23)*

Друкуецца паводле выд.: Астапенка З. Пад шум дажджу: Вершы, паэмы, лісты / Уклад. Л. Балыніна. Мінск: Маст. літ., 1991. С. 16.

Упершыню: Бел. піянер. 1927. № 1–2. Пад вершам пазнака: *15/XII-26 г.* і подпіс: *Зьм. Астапенка.*

#### *Васількі (с. 23)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 17.

Упершыню: Чырв. сейбіт (дадатак да газ. «Бел. вёска»). 1927. № 8–9. Пад вершам пазнака: *В. Сяргееўка. Рослаўск. пав. Пятровіцкай вол., Смаленшчына.*

#### *На смерць Паўлюка Труса (с. 24)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 20.

Упершыню: Маладняк. 1929. № 10.

#### *Гаварылі звонкія цапы… (с. 25)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 34.

Упершыню: З. Астапенка. На ўсход сонца. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1931. С. 22.

#### *З песень пра муляроў (с. 26)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 38.

Упершыню: Полымя. 1930. № 4. У гэтым жа нумары змешчаны ўрывак з паэмы У. Маякоўскага «Хорошо!» у перакладзе З. Астапенкі і Ю. Таўбіна.

#### *У размеранасць строгую слоў… (с. 27)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 40.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

#### **Руменкі з Радзімы**

#### *1. Узорныя ліштвы на доме (с. 28)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 44.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

#### *2. Развітанак (с. 28)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 45.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

#### *3. Выбягала любая з хаты у праводзіны (с. 29)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 46.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

#### *Шырокае поле, буяны разгон (с. 30)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 48.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

***Лірычная зіма (с. 31)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 52.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Добры дзень, мая красуня... (с. 32)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 54.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

***Лес (с. 33)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 56.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

***Па вяршынях шумных сосен (с. 34)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 57.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца». Друкаваўся ў газ. «Магіл. праўда», 1989, 16 снеж.

***Пакідаю, пакідаю... (с. 35)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 58.

Верш уключаны ў зб. «На ўсход сонца».

**З нізкі «Паўдзённае мора»**

***На ўзмор'і вечар… (с. 36)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 59.

Упершыню: Полымя. 1929. № 10.

Нізку апрача гэтага твора складаюць вершы «У порце», «Вецер на моры», «Хвалі сонныя, хвалі дрымотныя мне…», «След херсанісіта», «Палундра». Цалкам змешчана ў зб. «На ўсход сонца». Вершы з нізкі ўвайшлі ў зб. паэта «Краіне» (1931).

***У порце (с. 37)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 60.

Упершыню: Полымя. 1929. № 10.

***Хвалі сонныя, хвалі дрымотныя мне… (с. 38)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 62.

Упершыню: На ўсход сонца.

***Вецер на моры (с. 39)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 63.

Упершыню: На ўсход сонца.

***Стазвоны (с. 39)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 68.

Упершыню: Чырв. сейбіт (дадатак да газ. «Бел. вёска»). 1928. № 10. У зб. «Пад шум дажджу» твор датуецца 1931 г.

***Высокі дом, шчаслівы дом… (с. 40)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 87.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1932. № 4.

Гэты верш адкрывае зб. «Як шум дажджу», машынапіс і гранкі якога з аўтарскай праўкай знаходзяцца ў БДАМЛіМ (Ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1251, 1252).

***На шчасце песень (с. 42)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 95.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1932. № 4.

**З заток экзотыкі**

***Пад знакам сонца (с. 43)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 126.

Упершыню: Узвышша. 1931. № 4.

Паэтычная нізка змешчана пад агульнай назвай «Пад знакам сонца (вянок вершаў)», яна ўключае наступныя творы: «Я плыву на ўсход, дзе сонца…», «З Баку і Грознага бягуць нафтаправоды…», «Позна ноччу з шырокай гавані...», «Малады юнак-персіянін...», «Строгі турак ідзе спакойны...». У канцы нізкі пазнака: *Кіславодск — Тыфліс — Батум — Феадосія. Сакавік, 1931 г.*

***Позна ноччу з шырокай гавані... (с. 43)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 128.

Упершыню: Узвышша. 1931. № 4.

***Выплываю з затокі экзотыкі... (с. 44)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 134, дзе змешчаны ўпершыню.

***На белым пагорку (с. 45)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 136.

Упершыню: З. Астапенка. Выбранае. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1957. С. 93.

Верш друкаваўся ў шматлікіх перыядычных выданнях: Літ. і мастацтва (1964. 6 кастр.), Вяч. Мінск (1969. 8 ліп.); Полымя (1975. № 5), Маладосць (1985. № 5), Роднае слова (1997. № 4), а таксама ўключаўся ў шматлікія зборнікі: «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 2), «Крывёю сэрца» (1967), «На сцягу і ў сэрцы» (1982), «За цябе, Радзіма!» (1984), «Сляза на камень» (1995) і інш.

На рускую мову пераклалі Д. Кавалёў і І. Бурсаў, на ўкраінскую — М. Нагнібеда.

***Русалка (с. 46)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 138.

Упершыню: Выбранае.

Верш на рускую мову пераклаў Я. Хелемскі.

***Спаленая вёска (с. 47)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 144.

Упершыню: Выбранае.

***Не кажы, не абяцай!.. (с. 50)***

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 149.
Упершыню: Выбранае.
Верш друкаваўся ў зб.: «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 2), «Крывёю сэрца» (1967), «Зорка Венера» (1972), «Адданасць» (1978), газ. «Магіл. праўда», 1989, 16 снеж. і інш.
На рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

### *Абяцаўся колькі раз... (с. 51)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 151.
Упершыню: Выбранае.
Верш друкаваўся ў зб.: «Крывёю сэрца» (1967), час. «Маладосць» (1985. № 5), газ. «Бел. нива» (1995. 30 чэрв.) і інш.

### *Паклянёмся любіць наш край!.. (с. 52)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 153.
Упершыню: Выбранае.
Верш друкаваўся ў зб.: «Крывёю сэрца» (1967), «Сэрцам табе прысягаю» (1978), «Такія сэрцы ў нас» (1980), «Дзень паэзіі» (1984), «За цябе, Радзіма!» (1984) і інш., а таксама ў перыядычных выданнях: Маладосць (1985. № 5), Чырв. змена (1985. 30 крас.; 1994. 2 ліп.) і інш.
На рускую мову пераклалі Я. Хелемскі і І. Бурсаў.

### *Эдэм (с. 57)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 156.
Упершыню: Полымя. 1957. № 5.
Урывак з паэмы быў змешчаны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1957, 16 сак.
На рускую мову пераклаў Я. Хелемскі (Нёман. 1961. № 2).

### *Ганна (с. 62)*

Урывак з вершаванай аповесці друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 216.
Упершыню: Выбранае.

## *Творы для дзяцей*

### *Сны зайца (с. 66)*

Друкуецца паводле час. «Бел. піянер», 1928, № 6, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню. Пад творам подпіс: *Астапенка.*

### *Як яны рака злавілі (с. 69)*

Друкуецца паводле час. «Іскры Ільіча», 1930, № 7–8, пад псеўданімам *Клім Качкін,* адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

### *Учора шчэ гулі спраўлялі... (с. 71)*

Друкуецца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 121, дзе змешчаны ўпершыню.

### *Разумны Клім (с. 72)*

Друкуецца паводле час. «Іскры Ільіча», 1930, № 9, пад псеўдані-

мам *Клім Качкін,* адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

### *Алі (с. 73)*

Друкуецца паводле час. «Іскры Ільіча», 1931, № 7, адкуль і перадрукоўваецца ўпершыню.

## *Проза*

### *Вызваленне сіл (с. 76)*

Урыўкі з рамана друкуюцца паводле час. «Маладняк», 1932, № 7, 8, дзе апублікаваны ўпершыню. У № 8 на с. 93 пазнака: *Працяг будзе*.

Урыўкі з рамана друкаваліся ў час. «Чырв. Беларусь», 1932, № 5–6 («Камасацыя»); 1932, № 8 («Арышт»); газ. «Літ. і мастацтва», 1932, 10 ліп.

## **Франтавыя апавяданні**

### *Штраф (с. 96)*

Друкуецца паводле газ. «Чырв. змена», 1964, 6 кастр., дзе апублікавана ўпершыню з прадмовай С. Шушкевіча.

Вядома, што ў ваенны час З. Астапенка пісаў па-беларуску і паруску, перакладаў свае творы на рускую мову. У Архіве літаратуры і мастацтва захоўваецца машынапіс апавяданняў «Штраф», «Карыкатура» на рускай мове, якія былі напісаны ў 1943–1944 гг. (Ф. 128, воп. 1, адз. зах. 13, 16). Асобныя з гэтых твораў друкаваліся ў час. «Нёман» (1965. № 1), сярод іх апавяданні «Бессмертие», «Компас». Хутчэй за ўсё, апавяданні «Штраф» і «Карыкатура» пісаліся пабеларуску. У артыкуле «Паэт і воін» С. Шушкевіч піша: «Сваякі паэта пазнаёмілі мяне з неапублікаванымі творамі З. Астапенкі і з яго нешматлікімі пісьмамі. Знайшліся публіцыстычныя творы паэта, апавяданні, нарысы, вершы, якія паэт сам пераклаў на рускую мову і меркаваў надрукаваць у Маскве, калі жыў там і праходзіў ваенную падрыхтоўку (1943–1944) (Літ. і мастацтва, 1964, 6 кастр.).

### *Карыкатура (с. 97)*

Друкуецца паводле газ. «Чырв. змена», 1964, 6 кастр., дзе апублікавана ўпершыню.

### *Лісты (с. 100)*

Друкуюцца паводле выд.: Пад шум дажджу. С. 268.

Ліст ад 7 кастрычніка 1944 г. друкаваўся ў час. «Беларусь», 1985, № 5 (падборка лістоў часу вайны з асабістых фондаў пісьменнікаў). Лісты пісьменніка выкарыстаў у артыкуле «Лёс паэта» С. Шушкевіч.

## *У вянок памяці*

### *Аркадзь Куляшоў*

### *Маналог (с. 106)*

*Куляшоў Аркадзь Аляксандравіч* (1914–1978) — народны паэт Бе-

ларусі. У канцы 20-х гг. А. Куляшоў разам са З. Астапенкам і Ю. Таўбіным вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме.

Урывак друкуецца паводле выд.: Куляшоў А. Маналог: Вершы, паэмы. Мінск: Маст. літ., 1989.

Упершыню: Літ. і мастацтва. 1966. 8 лют.

***Аляксей Зарыцкі***
***Далёкія маланкі (с. 108)***

*Зарыцкі Аляксей Аляксандравіч* (1911–1987) — беларускі паэт і перакладчык, удзельнік Другой сусветнай вайны.

Друкуецца паводле выд.: Зарыцкі А. Мая асяніна: Новыя вершы. Мінск, Маст. літ., 1973. С. 99–103.

Упершыню: Маладосць. 1973. № 3.

***Ян Скрыган***
***Рэквіем (с. 112)***

*Скрыган Ян* (Іван Аляксеевіч; 1905–1992) — вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця: Апавяданні, успаміны, роздум. Мінск: Маст. літ., 1990. 2-е выд. С. 87.

Упершыню: Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця: Літ. успаміны, сустрэчы, шляхі. Мінск: Маст. літ., 1979.

***Станіслаў Шушкевіч***
***Лёс паэта (с. 116)***

*Шушкевіч Станіслаў Пятровіч* (1908–1991) — вядомы беларускі паэт, дзіцячы пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі.

Успаміны друкуюцца з невялікімі скарачэннямі паводле выд.: Шушкевіч С. Выбр. тв.: У 2 т. Мінск: Маст. літ., 1978. Т. 2. С. 279.

Упершыню: Вяч. Мінск, 1969, 8 ліп., пад назвай «Крок у бессмяротнасць».

***Павел Пруднікаў***
***Паэт-воін (с. 118)***

*Пруднікаў Павел Іванавіч* (1911–2000) — беларускі паэт і празаік.

Успаміны друкуюцца паводле газ.: «Настаўніцкая газета», 1985, 7 лістап., дзе апублікаваны ўпершыню.

## ЗАХАР БАРСУК

### Паэзія

#### Я развітаўся з жыццём... (с. 123)

Пераклад на беларускую мову зроблены Р. Барадуліным спецыяльна для гэтага выдання паводле зб.: Лира: Венок стихов. Москва: Сов. писатель, 1985. С. 54.

Усе падрадковыя пераклады твораў яўрэйскіх паэтаў З. Барсука,

С. Каган, С. Ляльчука, Р. Рэйзіна, Л. Талалая для Р. Барадуліна і А. Вольскага зроблены Р. Рэлесам.

### *Калі падумаеш (с. 124)*

Пераклад на беларускую мову зроблены Р. Барадуліным спецыяльна для гэтага выдання паводле зб.: Лира. С. 52.

## *У вянок памяці*

### *Рыгор Рэлес*
### *Захар Барсук (с. 126)*

*Рэлес Рыгор Львовіч* (1913–2004) — паэт, празаік, драматург, пісаў на яўрэйскай (ідыш) і рускай мовах, аўтар шматлікіх кніг, у тым ліку і ў перакладзе на беларускую і рускую мовы.

Успаміны напісаны спецыяльна для гэтага выдання і друкуюцца паводле аўтарскага рукапісу ў перакладзе з рускай мовы, зробленым А. Бельскім.

У прадмове «Патриарх еврейской литературы в Беларуси» да кнігі Р. Рэлеса «В краю светлых берез» (1997) вучоны-гісторык, прафесар Э. Іофе, апрача іншага, адзначае наступнае:

«Огромная заслуга Григория Релеса перед еврейской литературой Беларуси состоит в том, что он воссоздает, восстанавливает добрую память о еврейских писателях, репрессированных в 30–50-х годах, а также погибших на фронтах Великой Отечественной войны и в многочисленных гетто на территории республики в 1941–1944 годах. Я вижу в этом гражданский подвиг писателя. Уже в 1949 году в сборнике «Мы их не забудем» появляются статьи Релеса «Лев Талалай», «Рува Рейзин», «Геннадий Шведик», «Семен Ляльчук». Не прошла только одна статья — о репрессированном Эле Кагане. В 60–90-е годы в журналах и газетах республики, а также журнале «Советиш Геймланд» были опубликованы статьи Григория Львовича об Эле Кагане, Цодике Долгопольском, Изи Харике, Моисее Кульбаке, Зелике Аксельроде, Рувиме Рейзине, Генрихе Шведике, Семене Лельчуке и др. Реквиемом репрессированным писателям и поэтам, погибшим в годы Великой Отечественной войны, стала статья «Праз скрыжаваны агонь. Аб лёсе яўрэйскай літаратуры ў Беларусі», опубликованная в восьмом номере журнала «Полымя» за 1995-й год» (С. 9–10).

## *ЯНКА БОБРЫК*

### *Паэзія*

### *Пялёсткі сінія (с. 129)*

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 7–8, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***На азёрах... (с. 130)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 9, адкуль передрукоўваецца ўпершыню.

***Прытулі ты мяне, як сыночка... (с. 130)***

Друкуецца паводле газ. «Чырв. змена», 1926, 30 мая, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Шум маліновы... (с. 131)***

Друкуецца паводле газ. «Чырв. змена», 1926, 24 кастр., адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Заспявай мне песню... (с. 132)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 6, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Бацьку (с. 132)***

Друкуецца паводле газ. «Сав. Беларусь», 1926, 26 верас., адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Сасонкі ў шэрані... (с. 133)***

Друкуецца паводле выд.: Сталёвы ўзьлёт (дадатак да газ. «Сав. Беларусь»). Менск, 1926, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

Гэты выпуск дадатку прысвечаны трэцяй гадавіне «Маладняка».

***Ціха, так ціха наўкола (с. 134)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 11, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Агні… Лісцё… (с. 134)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1926, № 12, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Сосны (с. 136)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1927, № 4, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***У дарозе (с. 137)***

Друкуецца паводле выд.: Бобрык Я., Звонак А., Туміловіч Я. Пунсовае ранне: Вершы. Менск: (Кніжніца «Маладняка»), 1926. С. 16.

Упершыню: Маладняк. 1926. № 1.

***Клумнага дню вартаўнік… (с. 137)***

Друкуецца паводле выд.: Бобрык Я., Звонак А., Туміловіч Я. Пунсовае ранне. С. 17, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Прывет табе з Палесся... (с. 138)***

Друкуецца паводле выд.: Анталогія беларускай паэзіі. Мінск: Маст. літ., 1993. Т. 2. С. 193.

Упершыню — зб. «Пунсовае ранне», пад назвай «Ул. Дубоўку».

Аднаўлены эпіграф.

***Люблю я восень (с. 139)***

Друкуецца паводле выд.: Бобрык Я., Звонак А., Туміловіч Я. Пунсовае ранне. С. 10, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Азёры ў цемені драмалі… (с. 139)***

Друкуецца паводле час. «Узвышша», 1927, № 3, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Ноч над Менскам (с. 140)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 11, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***На пажыву (с. 141)***

Друкуецца паводле час. «Маладняк», 1928, № 3, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Як званочкі ў полі... (с. 142)***

Друкуецца паводле час. «Узвышша», 1930, № 1, адкуль перадрукоўваецца ўпершыню.

***Галіна (с. 143)***

Урывак друкуецца паводле час. «Маладняк», 1930, № 10, дзе апублікаваны ўпершыню.

Урывак з паэмы друкаваўся таксама ў час. «Маладосць», 1985, № 5, з прадмовай С. Грахоўскага.

### *У вянок памяці*

***Сяргей Грахоўскі***
***Кветкі і Вечны агонь (с. 145)***

*Грахоўскі Сяргей* Іванавіч (1913–2002) — пісьменнік, заслужаны работнік культуры Беларусі.

Успаміны друкуюцца паводле выд: Дзень паэзіі–71. Мінск: Беларусь, 1971. С. 227, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Сяргей Грахоўскі***
***Спадчына (с. 148)***

Друкуецца паводле выд.: Грахоўскі С. Выбр. тв.: У 2 т. Мінск: Маст. літ, 1983. Т. 2. С. 84.

Упершыню: Дзень паэзіі–80. Мінск: Маст. літ., 1980. С. 56.

## *РАХІЛЬ БРОХЕС*

### *Творы для дзяцей*

***Гелка (с. 153)***

Пераклад з ідыш зроблены Ф. Баторыным спецыяльна для гэтага

тома паводле выд.: Брохес Р. Гелка. Москва: Дэр Эмес, 1937. С. 3 .

Упершыню пераклад гэтага твора быў зроблены Р. Рэлесам і М. Цэлешам у даваенны час, апублікаваны ў газ. «Піянер Беларусі», 1940, 1, 5 мая.

### *Праз сцяну (с. 161)*

Пераклад з ідыш зроблены Ф. Баторыным спецыяльна для гэтага тома паводле выд.: Брохес Р. Гелка. С. 14 .

### *Жэрка (с. 164)*

Пераклад з ідыш зроблены Ф. Баторыным спецыяльна для гэтага тома паводле выд.: Брохес Р. Гелка. С. 32.

## *У вянок памяці*

### *Рыгор Рэлес*

### *Незабыўная сустрэча (с. 169)*

Успаміны былі прачытаны Р. Рэлесам зімою 1998 г. на вечарыне, прысвечанай памяці яўрэйскіх пісьменнікаў, якія загінулі ў гета. Пераклад на беларускую мову зроблены самім аўтарам, друкуецца ўпершыню.

## *ЭДУАРД ГАЛУБОК*

### *Крытыка*

### *Да пытання аб дзіцячай кнізе ў БССР (с. 175)*

Друкуецца са скарачэннямі паводле час. «Узвышша», 1931, № 5, дзе артыкул апублікаваны ўпершыню.

### *Зіна Бандарына. «Веснацвет» (с. 183)*

Друкуецца са скарачэннямі паводле час. «Узвышша», 1931, № 8, дзе рэцэнзія апублікавана ўпершыню.

## *ЛЕАНІД ГАЎРЫЛАЎ*

### *Паэзія*

### *Што ні дзень — мы ўсё больш маладзей… (с. 189)*

Друкуецца паводле выд.: Гаўрылаў Л. Вернасць: Вершы / Склад. К. Кірэенка. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1961. С. 35, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Паэту (с. 188)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 38, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Песня (с. 191)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 52, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Сож (с. 192)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 27.

Упершыню: Мы іх не забудзем.

Верш таксама друкаваўся ў газ. «Чырв. змена», 1964, 30 чэрв.; 1994, 2 ліп.; «Бел. нива», 1995, 29 марта; «Цэнтральная газ.», 1998, 30 студз.

### *Я сяджу ў задуме… (с. 192)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 56, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Зноў вясна (с. 194)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 41, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Не кажы, што я сягоння сумны… (с. 194)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 93, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Журавы (с. 195)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 68, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Зімовым днём (с. 196)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55). Гэты фонд на момант падрыхтоўкі каментара не быў цалкам апрацаваны.

### *Дні цягнуліся пасмай бялявай… (с. 197)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55).

### *Спеў цярэбіць яблыневым раннем… (с. 197)*

Друкуецца паводле выд.: Дзень паэзіі–65. Мінск: Беларусь, 1965. С. 168, дзе апублікаваны ўпершыню, з прадмовай Д. Кавалёва.

### *…Адну ўсяго дзяўчыну… (с. 198)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 79, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Ты такая сур’ёзная стала... (с. 198)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 86, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Акт (с. 199)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 87, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Як румянае сонца на сад усплывае… (с. 199)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 65, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *«Маліры» (с. 199)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 82, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Сталасць (с. 201)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 90, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Другу (с. 202)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 31, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Восеньскі вецер (с. 202)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 74, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Іскраметная квецень зары… (с. 203)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 46, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Маладзік (с. 204)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 25, дзе апублікаваны ўпершыню.

Верш таксама друкаваўся ў зб. «Першацвет адраджэння» (1995), «Цэнтральнай газ.», 1998, 30 студз.

### *Запахнуць ноччу духавітай травы… (с. 205)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 19–20.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1939. № 4.

Верш таксама друкаваўся ў зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 3), «Дзень паэзіі–65» (1965), «Крывёю сэрца» (1967), «Зорка Венера» (1972), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), «Першацвет адраджэння» (1995), «Крыніцы» (1998) і інш.

На рускую мову пераклалі Д. Кавалёў і І. Бурсаў, на ўкраінскую — В. Бойчанка. Рускамоўныя пераклады гэтага верша ўключаны ў шматлікія зборнікі.

### *Радасць (с. 206)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 16–18.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1939. № 7.

### *Цішыня (с. 207)*

Друкуецца паводле выд.: Вернасць. С. 11.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1939. № 8.

Верш таксама друкаваўся ў газ. «Літ. і мастацтва» (1961. 29 жн.),

«Чырв. змена» (1980. 9 верас.), «Бел. нива» (1995. 29 марта), час. «Вясёлка» (1984. № 7), «Першацвет» (2000. № 5); зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 3), «Дзень паэзіі» (1965), «Крывёю сэрца» (1967), «Зорка Венера» (1972), «Сэрцам табе прысягаю» (1978), «На сцягу і ў сэрцы» (1982), «За цябе, Радзіма!» (1984), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), «Першацвет адраджэння» (1995), «Крыніцы» (1998) і інш.

На рускую мову пераклалі Д. Кавалёў і І. Бурсаў, на ўкраінскую — В. Бойчанка. Рускамоўныя пераклады гэтага верша ўключаны ў шматлікія зборнікі.

### *У вянок памяці*

### *Кастусь Кірэенка*
### *Шчырасць юнацкага сэрца (с. 209)*

*Кірэенка Кастусь (Канстанцін Ціханавіч)* (1918–1988) — паэт і перакладчык, аўтар шматлікіх кніг паэзіі, удзельнік Другой сусветнай вайны.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Кірэенка К. Заўсёды з Радзімай. Мінск: Маст. літ., 1980. С. 55. Гэтаму артыкулу папярэднічалі публікацыі К. Кірэенкі «Леанід Гаўрылаў» у зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «У страі з жывымі» ў штогодніку «Дзень паэзіі» (1965).

### *Дзмітрый Кавалёў*
### *Пра таварыша, які не старэе (с. 213)*

*Кавалёў Дзмітрый Міхайлавіч* (1915–1977) — паэт, перакладчык, удзельнік Другой сусветнай вайны.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Дзень паэзіі-65. Мінск: Беларусь, 1965. С. 164, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Кацярына Гарнак*
### *Успамін (с. 215)*

*Гарнак Кацярына* Лаўрэнаўна — жонка паэта.

Успаміны друкуюцца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 55), з невялікімі скарачэннямі і ў перакладзе з рускай мовы, зробленым А. Бельскім.

## *АРКАДЗЬ ГЕЙНЭ*

### *Паэзія*

### *Насустрач сонцу (с. 219)*

Друкуецца паводле выд.: Гейнэ А. Шчаслівая зорка: Зб. вершаў. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1939. С. 28, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Над кнігай (с. 220)*

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 33, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Мара (с. 220)***

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 31, дзе апублікаваны ўпершыню.

***А. С. Пушкіну (с. 221)***

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 30.

Упершыню — газ. «Піянер Беларусі», 1937, 29 студз., пад назвай «Пушкіну».

***Кітайская легенда (с. 222)***

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 49.

Упершыню — час. «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 5–6, пад назвай «Легенда». Агульная назва нізкі — «Вершы аб Кітаі», у якую таксама ўвайшлі творы «Друг» і «Сакрэт».

***Апошняе пісьмо (с. 222)***

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 34, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Балада аб Ліне Одэна (с. 223)***

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 45.

Упершыню: Сталинская молодежь. 1938. 16 апр.

***Песня дзяўчыны (с. 225)***

Друкуецца паводле выд.: Шчаслівая зорка. С. 53–54, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Дождж (с. 226)***

Друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 7, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Верш для дзяцей***

***Слязінка (с. 227)***

Друкуецца паводле час. «Іскры Ільіча», 1939, № 7, дзе апублікаваны ўпершыню.

***У вянок памяці***

***Алег Фомчанка***
***Зорка паэта (с. 228)***

*Фомчанка Алег* Сямёнавіч (нар. у 1932 г.) — журналіст і пісьменнік,

піша на беларускай і рускай мовах.

Артыкул друкуецца з невялікімі скарачэннямі паводле газ. «Вяч. Мінск», 1970, 28 жн., дзе апублікаваны ўпершыню.

## *ІВАН ДЗЕНІСЕНКА*

### *Паэзія*

#### *Сестра (с. 233)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Гладь воды одесского лимана... (с. 233)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Туча (с. 234)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Это не случайное свиданье… (с. 234)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Одиночество (с. 235)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *У меня библейское имя (с. 235)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Ночь светла от луны и снега... (с. 236)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Приход осени (с. 237)*

Друкуецца паводле машынапісу, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1). Першапачатковая назва верша — «Канун осени».

Упершыню: Сталинская молодежь. 1940. 20 авг.

#### *Девочка (с. 237)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 1).

#### *Сосед (с. 238)*

Друкуецца паводле выд.: Чтоб всегда было солнце: Рассказы, стихи, очерки о Сов. Армии. Минск: Беларусь, 1968. С. 254.

Верш таксама друкаваўся ў выд.: Памяць: Чэрыкаўскі раён. Мінск: Вышэйш. шк., 1994. С. 387 (артыкул В. Карамазава «І рэквіем і гімн»).

### *Перадсмяротны ліст (с. 240)*

Ліст І. Дзенісенкі да жонкі Алены Іванаўны друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 10).

На запісцы пазнака: *Денисенко Елене Ивановне. Театральная, 2.*

### *У вянок памяці*

### *Георгий Храмович*
### *Звезда на груди (с. 242)*

*Храмовіч Георгій Антонавіч* (нар. у 1908 г.) — былы сакратар Чэрыкаўскага падпольнага райкама партыі (з 1943 па жнівень 1944 г.), камандзір партызанскай брыгады.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Чтоб всегда было солнце. С. 245, дзе апублікаваны ўпершыню.

[1]Першая старонка перадсмяротнага ліста І. Дзенісенкі выяўлена намі ў БДАМЛіМ, захоўвалася ў іншай папцы (Ф. 16, воп. 1, адз. зах. 3) разам з вершам «Сосед», апісаннем сну 4 ліпеня 1943 г. і вершам «Это снимок — память школьной жизни...».

## *АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ*

### *Паэзія*

### *Мы (с. 249)*

Друкуецца паводле выд.: Ростані волі: З заходнебеларус. паэзіі / Уклад. і прадмова У. Калесніка. Мінск: Маст. літ., 1990. С. 371.

Упершыню: Літаратурная старонка (дадатак да «Бел. газэты»). 1934. № 1.

Выдадзены адзін нумар часопіса на беларускай мове ў студзені 1934 г. Верш друкаваўся ў шматлікіх калектыўных зборніках, газ. «Віцебскі рабочы» (1988, 8 лістап.).

На рускую мову пераклалі І. Бурсаў, І. Васілеўскі, П. Жур.

Некаторыя апублікаваныя пасля смерці паэта вершы былі перапрацаваны, выявіць першапачатковыя варыянты не ўдалося.

### *Усхваляваныя напевы… (с. 249)*

Друкуецца паводле выд.: Ростані волі. С. 371.

Упершыню: Бел. летапіс. 1937. № 6, пад назвай «Грудзей распале-

ных напевы».

***Крапіва (с. 250)***

Друкуецца паводле выд.: Ростані волі. С. 370.

Упершыню: Бел. летапіс. 1937. № 4.

Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў, на ўкраінскую — М. Упенік.

***Зорны край (с. 251)***

Друкуецца паводле выд.: Ростані волі. С. 372.

Упершыню: Бел. летапіс. 1937. № 4, пад назвай «У зорны край».

Верш друкаваўся ў газ. «Віцеб. рабочы», 1988, 8 лістап.

На рускую мову пераклалі І. Бурсаў і П. Жур.

***Калісь любові хмель вясняны (с. 251)***

Друкуецца паводле час. «Першацвет», 1993, № 11 (публікацыя і прадмова С. Чыгрына).

Упершыню: Калосьсе. 1938. № 4.

***Імкненне сілы маладой (с. 252)***

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі (Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 424).

***— Гэй, віхор шыракакрылы… (с. 253)***

Друкуецца паводле час. «Першацвет», 1993, № 11 (публікацыя і прадмова С. Чыгрына).

Упершыню: Калосьсе. 1938. № 4.

***Кіну свае думы (с. 253)***

Друкуецца паводле выд.: Ростані волі. С. 373.

Упершыню: Бел. летапіс. 1938. № 3.

***Пад звон дратоў сумуючы... (с. 254)***

Друкуецца паводле час. «Калосьсе», 1939, № 2, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Вясна! І тысячы сугуччаў... (с. 255)***

Друкуецца паводле час. «Першацвет», 1993, № 11 (публікацыя і прадмова С. Чыгрына).

Упершыню: Калосьсе. 1939. № 2.

***Восень (с. 256)***

Друкуецца паводле выд.: Ростані волі. С. 374.

Упершыню: Летапіс ТБШ. 1936. № 4.

«Летапіс Таварыства беларускай школы» — назва заходнебеларускага часопіса «Беларускі летапіс» у 1933-м і студз.–сакав. 1936 г.

***Ляціць жыццё ў віхры шалёным (с. 257)***

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі (Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 424).

### *Пераклад*

### *А. С. Пушкін*
### *Ці я блуджу ўздоўж вуліц шумных... (с. 258)*

Друкуецца паводле аўтографа, які захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі (Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 424).

У канцы тэксту пазнака: *Пераклаў А. Дубровіч. 1938 год.*

### *У вянок памяці*

### *Мікола Чамеза*
### *Паэт-змагар (с. 260)*

*Чамеза Мікалай* — краязнавец, настаўнічаў у Мінску, аўтар біяграфічнай нататкі пра Алеся Дубровіча ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва» (1985. Т. 2).

Артыкул друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1983, 2 верас., дзе апублікаваны ўпершыню.

### *Алесь Жыгуноў*
### *Вяртанне Алеся Дубровіча (с. 262)*

*Жыгуноў Алесь* (Аляксандр Міхайлавіч; нар. у 1954 г.) — паэт і журналіст, працуе ў рэдакцыі райгазеты «Веснік Глыбоччыны».

Артыкул друкуецца з невялікімі скарачэннямі паводле газ. «Віцеб. рабочы», 1988, 8 лістап., дзе апублікаваны ўпершыню.

## *РЫГОР ЖАЛЯЗНЯК*

### *Паэзія*

### *Будуем дарогу (с. 267)*

Друкуецца паводле выд.: Люгоўскі Б., Жалязняк Р. Першы вытап: Вершы. Віцебск: Выданне Аргкамітэту віцебскага ССП, 1933. С. 46, дзе апублікаваны ўпершыню.

Таксама друкаваўся ў зб. «Крывёю сэрца» (1967).

Верш на рускую мову пераклалі І. Бурсаў, І. Васілеўскі.

### *Па дарозе ў часць (с. 268)*

Друкуецца паводле выд.: Мы іх не забудзем: Зб., прысвечаны памяці пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў баях з нямецкафашысцкімі захопнікамі / Скл. А. Вялюгін. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1949. С. 224.

Верш на рускую мову пераклаў І. Васілеўскі.

### *Літаратуразнаўства*

### *Паэзія М. А. Багдановіча (с. 270)*

Друкуецца ў скароце паводле час. «Нёман», 1966, № 12, дзе апублікаваны ўпершыню ў рубрыцы «К 75-летию со дня рождения Максима Богдановича».

Уступнае слова да публікацыі фрагментаў дысертацыі Р. Жалезняка напісаў М. Смолкін. У сваёй прадмове «Он совершил всё, что мог» даследчык піша:

«Способности Григория Железняка, тогда аспиранта Ленинградского университета, открылись нам однажды на текстологическом семинаре, которым руководил профессор Б. М. Эйхенбаум.

Железняк делал доклад о стихотворении Лермонтова «Сосна». Задача состояла в том, чтобы сравнить оригинал Гейне с переводом Лермонтова. От изолированного стихотворения Железняк перешел к стихотворному циклу, и тема одиночества предстала перед нами как момент в развитии русского общества и внутренней жизни Лермонтова.

Б. М. Эйхенбаум ко всем относился доброжелательно. Никого особенно не хвалил и никого не ругал. На этот раз свое обобщение он начал словами: «В докладе талантливого Железняка…»

Потом мы узнали, что Гриша Железняк из Витебска. До поступления на филфак ЛГУ был рабочим, писал белорусские стихи, был кандидатом в члены Союза писателей.

Мы решили напомнить Грише о его долге перед белорусской литературой. Мы — это группа аспирантов из Белоруссии, поступившая в аспирантуру ЛГУ в конце 1939 года. Из этой группы в живых остался я один. Остальные погибли — кто от голода, как Дмитрий Саванович, кто на Ленинградском фронте, как Кирилл Гончаров, кто на дорогах войны в Белоруссии, как Михась Дешкович, который не выбрался из Баранович, куда накануне войны приехал читать лекции.

Так вот, мы сговорились вернуть белорусской литературе Железняка, переключить его с Лермонтова на белорусскую тему, в частности — на творчество М. Богдановича.

Наши старания увенчались успехом: в 1940 году Железняк защитил диссертацию о Богдановиче. Это была первая белорусская диссертация в старейшем русском университете.

Защитив диссертацию, Железняк получил назначение на Урал. Он мечтал отредактировать свою работу и увидеть её напечатанной. Началась война. У Железняка была отсрочка по состоянию здоровья. Но он был настойчив и упрям. Он добился мобилизации.

Григорий Железняк погиб в бою».

Машынапіс кандыдацкай дысертацыі з аўтарскай праўкай захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1505).

[1] У 1929–1938 гг. газета выходзіла пад назвай «Віцебскі пралетарый». «Віцебскі рабочы» — назва газеты з красавіка 1938 г.

### *У вянок памяці*

### *Рыгор Рэлес*
### *Мы былі сябрамі (с. 290)*

Успаміны напісаны Р. Рэлесам спецыяльна для гэтага выдання і друкуюцца паводле аўтарскага рукапісу ў перакладзе з рускай мовы, зробленым А. Бельскім.

## *АЛЕСЬ ЖАЎРУК*

### *Паэзія*

#### *Гаварылі, часамі увосень... (с. 295)*

Друкуецца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца: Вершы, паэмы, успаміны пра паэта / Уклад. А. Зарыцкі. Мінск: Маст. літ., 1987. С. 10.

Упершыню: Вясна (дадатак да газ. «Камуніст»). 1929. № 1.

Варыянты газетнай публікацыі.

5 І што сэрца ў ветразі стыне
13 Знаю: з часам завяне бадзёрасць

Верш таксама друкаваўся ў час. «Полымя», 1929, № 8–9, пад ім пазнака месца напісання: *Рагачоў*.

#### *Другая песня пра сяброўства (с. 296)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 41; датуецца 1935 г.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1936. № 1, пад назвай «Сяброўства».

5 Па каторым праплываюць
23 Калі нават па дарогах
24 Ў ноч засвецяцца агні
31 Нас не спыняць ні касыя
32 А ні простыя дажджы
39 Мо з атручанай вадой
40 Як параненыя зоры
41 Будуць падаць у траву
55 Флягу лёгкую дасі
57 Хоць як зараз, уначы
58 Па радзімцы на плячы

Варыянт паводле зб. «Ручаіны»:

28 Выраўнаем ураз штыхі

**_Рагачоўскі сшытак (с. 298)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 51.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1936. № 10, пад назвай «Вершы ў гонар сяброўства».

Першапублікацыя істотна розніцца ад тэксту паэмы ў зб. «Дняпро выходзіць з берагоў» (1938). Урыўкі з паэмы друкаваліся ў калектыўных зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967), «Зорка Венера» (1972); час. «Маладосць», 1985, № 5.

Твор пераклаў на рускую мову Д. Кавалёў.

**_Ізноў за акном бліскавіцы мільгаюць (с. 299)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 60.

Упершыню: Чырв. змена. 1936. 8 верас.

**_Песенька (с. 300)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 68.

Упершыню: А. Жаўрук. Дняпро выходзіць з берагоў. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1938.

**_Лівень (с. 302)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 65.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1937. № 6, з пазнакай месца напісання: *Рагачоў*.

6 Піхнуў вакно
33 Навотлю затлую фіранку
45–46 Ён, як жывы.
 Бурболіў жвава
84 У гэты слаўны час

Апошнія 11 радкоў адсутнічаюць.

**_Туга (с. 305)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 70.

Упершыню: Дняпро выходзіць з берагоў.

**_Верасень тонкі. Зыбучая ціш (с. 306)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 72.

Упершыню: Дняпро выходзіць з берагоў.

**_Крывёю сэрца (с. 308)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 83.

Упершыню: Полымя рэвалюцыі. 1937. № 9–10.

Урыўкі з паэмы друкаваліся ў калектыўным зб. «Мы іх не забудзем» (1949), «Анталогія беларускай паэзіі» (1961. Т. 2), «Крывёю сэрца» (1967) і інш.

Паэму на рускую мову пераклаў Ф. Яфімаў, урыўкі з твора на ўкраінскую — Д. Грыгараш і М. Упенік.

**_Дняпро выходзіць з берагоў (с. 319)_**

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 99.
Упершыню: Дняпро выходзіць з берагоў.
Верш на рускую мову пераклаў І. Бурсаў.

***Вясна (с. 320)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 101.
Упершыню: Полымя. 1940. № 6.

5 Шуміць-бяжыць з гары раўчак
6 Грукочыць першы гром
13–14 Не брудны ён,
Не цвілы ён
21 Каб не гара старых, старых

***Сланечнік (с. 322)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 102.
Упершыню: Полымя. 1940. № 6.

***Клопат (с. 322)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 103.
Упершыню: Полымя. 1940. № 6.

***Ты не глядзі, што рана скроні... (с. 322)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 103, дзе апублікаваны ўпершыню.

Аўтограф — у франтавым блакноце, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1).

***Сябры (с. 324)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 107.
Упершыню: Літ. і мастацтва. 1939. 5 лістап.

**З франтавога блакнота (1941–1942)**

***О встрече (с. 326)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 111.
Упершыню: На защиту Родины. 1942.

У лісце да жонкі — Л. М. Сінічкінай ад 17 красавіка 1942 г. паэт прыклаў гэты верш у выглядзе выразкі з армейскай газеты «На защиту Родины», у якой працаваў. Твор таксама друкаваўся ў газ. «Літ. і мастацтва», 1966, 21 чэрв.

Аўтограф гэтага і іншых твораў ваеннага часу — у франтавым блакноце, які захоўваецца ў БДАМЛіМ (Ф. 5, воп. 1, адз. зах. 1).

***Святая месть (с. 326)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 112, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Осень (с. 327)***

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 114, дзе апублікаваны ўпершыню.

### *«Ружа» (с. 328)*

Друкуецца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 127.

Упершыню: Полымя. 1947. № 2.

Верш таксама друкаваўся ў шматлікіх зборніках: «Мы іх не забудзем» (1949), «Крывёю сэрца» (1967), «Адданасць» (1978), «Такія сэрцы ў нас» (1980), «На сцягу і ў сэрцы» (1982), «За цябе, Радзіма!» (1984), «Анталогія беларускай паэзіі» (1993. Т. 2), «Сляза на камень» (1995) і інш., а таксама ў беларускай перыёдыцы: «Чырв. змена» (1965. 18 крас.); «Ніва» (1970. 16 жн.); «Полымя» (1975. № 5); «Звязда» (1986. 9 мая) і інш.

На рускую мову пераклалі І. Бурсаў і Н. Кіслік, на ўкраінскую — А. Жолдак.

## *Творы для дзяцей*

### *Пра майго катка (с. 330)*

Друкуецца паводле выд.: Жаўрук А., Ушакоў А. Пра майго катка. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1950. С. 3.

Упершыню: Іскры Ільіча. 1940. № 2, пад назвай «Пра блазнівага катка», разам з А. Ушаковым.

### *Шпакі (с. 333)*

Друкуецца паводле час.: Бярозка. 1945. № 4.

Упершыню: Іскры Ільіча. 1938. № 9.

### *Лісты (с. 335)*

Лісты Алеся Жаўрука да жонкі — Л. М. Сінічкінай друкуюцца паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў БДАМЛіМ (Ф. 5, воп. 1, адз. зах. 9).

[1] *Ніна* — сваячка жонкі.

[2] *Маці паэта* — Лізавета Сцяпанаўна. Далей згадваецца імя сястры Алеся Жаўрука Святланы.

[3] *Раіса Дзмітрыеўна Хомчанка* — старэйшая сястра паэта.

[4] Сын паэта *Аляксандр Аляксандравіч Жаўрук* (нар. у 1942 г.) жыве ў г. Растове-на-Доне.

У асабістым фондзе паэта захоўваецца 49 лістоў і паштовак. Асобныя з іх выкарыстаны ў публікацыях: «Да штыка прыраўняўшы пяро» // Беларусь. 1985. № 5; Жорова К. Горит над соснами закат...: Фронтовые блокноты и письма А. Жаврука // Знамя юности. 1964. 6 сент.

## *У вянок памяці*

### *Лідзія Сінічкіна*
### *Мой дарагі Алесь (с. 343)*

*Сінічкіна Лідзія* Мікалаеўна — жонка пісьменніка.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца. С. 151, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Аляксей Зарыцкі***
***Голас з далёкіх дзён вясны (с. 349)***

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца. С. 3, з аўтарскімі дапаўненнямі і праўкамі.

Упершыню — газ. «Чырв. змена», 1957, 3 лістап., пад назвай «Ён бараніў Сталінград».

***Васіль Кульнёў***
***Ён з намі назаўсёды... (с. 354)***

*Кульнёў Васіль* Георгіевіч — былы ваенны журналіст, які працаваў разам з паэтам у газ. «На защиту Родины».

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Крывёю сэрца. С. 177.

Упершыню — газ. «Літ. і мастацтва», 1985, 23 жн., у рубрыцы «Падзеі і даты».

***Аляксандр Лазнявы***
***Такім памятаю яго (с. 355)***

*Лазнявы Аляксандр* Нікіціч — рускі пісьменнік, аўтар кніг паэзіі і прозы «Края мои широкие» (1952), «В походе и дома» (1959), «Дорога в горы» (1966), «Жить и любить» (1970) і інш.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца. С. 179, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Наталля Малікава***
***З далёкіх юнацкіх год (с. 357)***

*Малікава Наталля* Іванаўна — да замужжа Халецкая, сяброўка сястры А. Жаўрука Ніны.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца. С. 182, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Міхась Скрыпка***
***Калі расцвіталі не толькі сады (с. 359)***

*Скрыпка Міхась* (Міхаіл Аляксандравіч; 1907–1991) — паэт-сатырык і празаік.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца. С. 179, дзе апублікаваны ўпершыню.

***Мікола Упенік***
***Пра майго беларускага сябра (с. 364)***

*Упенік Мікола* Аляксандравіч — украінскі пісьменнік, аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі. У 1984 г. выдаў кнігу франтавых запісаў і ўспамінаў «Старонкі з блакнота», у якой і змешчаны ўспаміны пра А. Жаўрука.

Успаміны друкуюцца паводле выд.: Жаўрук А. Крывёю сэрца. С. 185.

Упершыню на беларускай мове апублікаваны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1991, 14 чэрв.

## *РАМУАЛЬД ЗЯМКЕВІЧ*

### *Крытыка*

#### *Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX сталецця (с. 369)*

*Баршчэўскі Ян* — беларуска-польскі пісьменнік, фальклaрыст, этнограф, выдавец, штогадовага альманаха «Niezabudka» («Незабудка», 1840–1844), аўтар зборніка «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» і інш.

Пра дату нараджэння, біяграфію пісьменніка, яго літаратурна-творчыя стасункі, паэтыку прозы гл.: Хаўстовіч М. На парозе забытае святыні: Творчасць Яна Баршчэўскага. Мінск: ВТАА «Права і эканоміка», 2002.

Артыкул друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1911, 22 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню.

#### *Адам-Ганоры Кіркор (с. 372)*

*Кіркор Адам-Ганоры* Карлавіч (1818 ці 1819 — 1886) — этнограф, гісторык, археолаг, публіцыст, літаратуразнавец, член-карэспандэнт Імператарскага археалагічнага таварыства ў Пецярбургу (1856), Акадэміі ведаў у Кракаве (1873), аўтар нарысаў гісторыі і культуры Беларусі ў трэцім томе «Живописной России» (1882) і інш.

Артыкул друкуецца паводле газ. «Наша ніва», 1911, 8 снеж., дзе апублікаваны ўпершыню.

Тэкст адаптаваны ў адпаведнасці з сучасным правапісам.

#### *Тарас Шаўчэнка і беларусы (с. 376)*

Артыкул друкуецца паводле выд.: Александровіч С. Х., Александровіч В. С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытыч. матэрыялаў. Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1978. С. 219.

Упершыню: Наша ніва. 1911. 24 лют.

[1] *...напісаны яны былі ў адной супольнай мове...* — У Вялікім княстве Літоўскім, у склад якога ўваходзілі Беларусь і Украіна, дзяржаўнай была старажытная беларуская мова.

[2] *Легатовіч* Ігнат Сымонавіч (1796–1867) — паэт, педагог, бібліяфіл, жыў у Мінску.

[3] *Абрамовіч* Антон Іванавіч (1811(?) — пасля 1854) — кампазітар, піяніст, педагог.

### *Краязнаўства*

#### *Стары Менск у беларускіх успамінах (с. 379)*

Артыкул друкуецца паводле выд.: Пачынальнікі: З гіст.-літ. матэ-

рыялаў / Уклад. Г. В. Кісялёў; рэд В. В. Барысенка, А. І. Мальдзіс. Мінск: Навука і тэхніка, 1977. С. 21.

Упершыню: Беларусь. 1919. 26–27 лістап.; 1920, 3, 13 студз. пад псеўданімам *Юры Алелькавіч*.

Пры каментаванні мы абапіраемся на звесткі з каментара Г. Кісялёва ў кнізе «Пачынальнікі». У прыватнасці, ён адзначае: «Першая частка гэтага артыкула з'яўляецца амаль даслоўным паўтарэннем артыкула А. Слупскага «Стары Мінск», надрукаванага ў газеце «Минский листок», № 35 за 1895 г.

*Слупскі* Аляксандр Іванавіч — гісторык і археолаг, супрацоўнік «Минского листка» і «Минских губернских ведомостей», выдавец «Северо-Западного календаря» на 1892 і 1893 гг. Паводле слоў Слупскага, біяграфічныя звесткі пра В. Дуніна-Марцінкевіча атрыманы ім ад дочак пісьменніка» (с. 35).

У назве і тэксце аднолена аўтарскае напісанне слова «Менск» і вытворных ад яго.

Асобныя недакладнасці ў тэксце былі выпраўлены пры падрыхтоўцы артыкула да друку Г. Кісялёвым.

[1] *...і яго скуткі.* — Тут: вынікі.

[2] *Намітусь праз вуліцу...* — Тут: наўскасяк.

[3] *...у фальварку Панюшкевічах...* — У літаратуры сустракаецца таксама назва Панюшкавічы.

[4] *...сваёй маткі Марыяны...* — Марцыяны.

[5] *...паступіў у Віленскі універсітэт...* — Паводле іншых крыніц, Дунін-Марцінкевіч вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце.

[6] *...невялічкі маёнтак Люцынку...* — У літаратуры сустракаецца таксама іншая форма гэтай назвы: Люцінка.

[7] *...памёр 29–17 снежня 1884 года.* — Датай смерці В. Дуніна Марцінкевіча называецца 17 снежня, пахаваны ў Тупальшчыне (ля шляху з Івянца на Мінск).

[8] *Кукальнік* Павел Васільевіч (1795–1884), прафесар Віленскага універсітэта, цэнзар, брат рускага пісьменніка Нестара Кукальніка.

[9] *Янкоўскі* Плакід (1810–1872), польскі пісьменнік, быў уніяцкім, а затым праваслаўным святаром у Жыровіцах і Вільні.

[10] *Шыдлоўскі* Ігнат (1793–1846), пісьменнік, перакладчык, даследчык беларускага фальклору.

[11] *Сямашка* Іосіф (1798–1868), быў архіепіскапам літоўскім і віленскім, пазней мітрапалітам, паплечнікам Мураўёва-вешальніка.

[12] *«Сялянка» была выстаўлена ў 1855 годзе...* — «Сялянка» («Ідылія») В. Дуніна-Марцінкевіча была пастаўлена ў 1852 г.

[13] *Ляўданскі* працаваў у друкарні, меў выдатныя акцёрскія здольнасці.

[14] *Прушынскі* Конрад (псеўданім Казімеж Промык; 1851–1908), польскі выдавец, рэдактар, педагог, нарадзіўся ў Мінску.

[15] *...дзе цяпер ваенны камендант.* — Маецца на ўвазе 1919 г.

[16] *Дамель* Ян (1780–1840), жывапісец, рысавальшчык.

[17] *Кабылінскі* Юрый, калекцыянер твораў жывапісу, бібліяфіл.

[18] *Манюшка* Станіслаў (1819–1872), кампазітар, дырыжор і педагог.

[19] *Тышынскі* Аляксандр (1811–1880), крытык і гісторык літаратуры, пазней прафесар Галоўнай школы ў Варшаве.

[20] *Тышкевіч* Канстанцін Павіевіч (1806–1868), гісторык, археолаг, краязнавец.

[21] *Валіцкі* Аляксандр (1826–1893), спявак, музычны крытык, біёграф С. Манюшкі, заснавальнік кнігарні ў Мінску.

[22] *...на менскіх кантрактах...* — Штогадовыя з’езды ў некаторых гарадах, на якіх заключаліся гандлёвыя, маёмасныя і іншыя пагадненні.

[23] *Концкі* Апалінарый (1825–1879), польскі кампазітар і скрыпач.

[24] *Сыракомля* Уладзіслаў (Кандратовіч Людвік) (1823–1862), паэт, драматург, крытык, перакладчык, краязнавец.

[25] *...верш, які тутака і прыводзім.* — Далей падаецца тэкст «Верша Навума Прыгаворкі. На прыезд да места Менска Апалінарага Концкага, Уладзіслава Сыракомлі і Станіслава Манюшкі».

[26] *...з яго вершыка «Вясна голад перапала».* — Верш вядомы пад назвай «Вясна гола перапала», адносіцца да твораў ананімнай літаратуры.

[27] *Доўнар-Запольскі* Мітрафан Віктаравіч (1867–1934), гісторык, фалькларыст, этнограф, прыпісваў аўтарства паэмы «Тарас на Парнасе» і верша «Вясна гола перапала» В. Дуніну-Марцінкевічу.

[28] *Раманаў* Еўдакім Раманавіч (1855–1922), беларускі фалькларыст, этнограф, археолаг.

[29] *...і ахронак па вёсках...* — Тут: прытулкаў.

[30] *...паміж абозам Марцінкевіча...* — Тут: лагерам.

[31] *...«штуард» быўшай масонскай ложы...* — Стуарт, у масонаў: апякун бедных.

[32] *...тут жа і злажыў:*

*Божэ Якубув, Божэ Ізаакув,*
*Зродзілэсь тшэх кпув,*
*Вшысткіх тшэх едынакув:*
*Едэн Сангушко, другі Зоранэк,*
*А тшэці слепы пулпанэк.*

У перакладзе з польскай: «Божа Якубаў, Божа Ісаакаў, нарадзіў ты трох дурняў, усіх трох аднолькавых: адзін Сангушка, другі Заранак, а трэці сляпы паўпанак».

[33] *...у часе паўстання, хоць нічым яго не падтрымліваў і не згаджаўся з ім...»* — у сучаснай літаратуры пра В. Дуніна-Марцінкевіча гаворыцца, што ён падтрымліваў паўстанне 1863 г.

[34] *...будзе студыяваць...* — Тут: вывучаць.

[35] *Одпіс гэтага верша...* — Гаворыцца пра копію твора.

[36] *Глогер* Зыгмунт (1845–1910), этнограф, археолаг, гісторык.

[37] *Верш гэты прыводзім тутака цалікам...* — Далей падаецца

тэкст верша «Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу, беларускаму паэту».

[38] *...гнабіцеляў сялян...* — Тут: прыгнятальнікаў.

[39] *Спісам і выдавецтвам прац...* — Тут: выданнем.

[40] *Ляцкі* Яўген Аляксандравіч (1868–1942), этнограф, літаратуразнаўца, прафесар рускай літаратуры ў Празе.

[41] *Завітневіч* Уладзімір Зянонавіч (1853–1927), археолаг, выкладаў у Кіеўскай духоўнай акадэміі.

[42] *Неслухоўскі* Іван Люцыянавіч (1851–1897), вядомы ў беларускай літаратуры як Янка Лучына, паэт, аўтар зборніка «Вязанка» (1903).

[43] *Карскі* Яўхім Фёдаравіч (1861–1931), вядомы філолаг-славіст, этнограф, фалькларыст, акадэмік Пецярбургскай АН (1916), правадзейны член Інстытута беларускай культуры (1922), Чэшскай АН (1929).

[44] *Вольтэр* Эдуард Аляксандравіч (1856–1941), мовазнавец, этнограф, археолаг, прыват-дацэнт Пецярбургскага універсітэта.

[45] *...падаць тутака ў цэласці...* — Далей прыводзіцца тэкст верша Я. Лучыны «Пакуль новы год настане на свеце».

### *У вянок памяці*

#### *Генадзь Кісялёў*
#### *Раскажам пра Рамуальда Зямкевіча (с. 393)*

*Кісялёў Генадзь* Васільевіч (нар. у 1931 г.) — гісторык літаратуры, крытык, доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990).

Артыкул друкуецца паводле газ.: Голас Радзімы. 1996. 21 сак. 28 сак. 4 крас. 11 крас. 18 крас, 25 крас.

#### *Святлана Сяльверстава-Куль*
#### *Два лісты Рамуальда Зямкевіча (с. 410)*

*Сяльверстава-Куль Святлана* Яўгенаўна — доктар гістарычных навук, прафесар, кіраўнік навукова-даследчай лабараторыі праблем рэгіянальнай культуры Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.

Артыкул друкуецца паводле газ.: Голас Радзімы. 1996. 9 мая.

## *МІКОЛА ІЛЬЫНСКІ*

### *Проза*

#### *Тэлефон (с. 415)*

Апавяданне друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1938, № 12, дзе апублікавана ўпершыню.

#### *Паядынак (с. 418)*

Апавяданне друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1941, № 1, дзе апублікавана ўпершыню.

### *Чалавечак у штоніках (с. 423)*

Урыўкі з аповесці друкуюцца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 5–6, дзе твор апублікаваны ўпершыню.

## *Драматычныя творы*

### *Лес цёмны (с. 437)*

Урывак з п'есы друкуецца паводле выд.: Беларуская драматургія. Мінск: Бел. навука, 1997. Вып. 3. С. 129—171, пад рубрыкай «Творы са спадчыны».

Падрыхтоўка тэксту да друку А. Марціновіча.

Упершыню: Ільлінскі М. Лес цёмны: П'еса ў пяці дзеях з жыцьця прырубежнае вёскі. Менск: Белдзяржвыд. БССР, 1930.

Дзейныя асобы: *Цімох Сыч* — заможны селянін; *Кастусь* — яго сын; *Андрэй Залуцкі* — бядняк, *Грыпіна* — яго жонка; *Ганька* — яго дачка; *Юлька* — дачка Ганны; *Аляксей* — сын Андрэя, хлапец 17–18 гадоў; *Сапрон* — вясковы поп; *Мікіта Крук* — палясоўшчык; *Параска* — яго маці; *Кукса* — яго брат, калека — кульгавы, гарбаты, сухотнік; *Міхась Грак* — старшыня сельсавета і іншыя персанажы.

### *Напрадвесні (с. 445)*

Урыўкі з п'есы друкуюцца паводле выд.: Ільлінскі М. На прадвесьні: П'еса на чатыры дзеі і трынаццаць малюнкаў: З рэпертуару БДТ-2. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1932.

Дзейныя асобы: *Платон* — год 25, камуніст, старшыня калгаса і сакратар сельсавета; *Піліп* — серадняк, старшыня сельсавета; *Тэкля* — яго жонка; *Параска* — іх дачка; *Порхаўна* — старая баба, варажэя, бабка, сводня і г. д.; *Мацей Пузан* — кулак; *Антось* — яго сын; *Яўхім Гарбуз* — кулак; *Наста* — дурная; *Рыгор, Арцём, Сяргей Заіка* — хлопцы, калгаснікі, камсамольцы; *Алеся, Ганна* — дзяўчаты-калгасніцы; *Марына Грабянюк* — настаўніца; *дзед Кірык* — вартаўнік пры хаце-чытальні; *Грыпіна* — служка Мацея; *Люба* — вясковая дзяўчына: *Аўген* — вясковы хлопец і іншыя персанажы.

### *Любоў да «бліжняга» (с. 453)*

Урыўкі з п'есы друкуюцца паводле выд.: Ільлінскі М. Любоў да «бліжняга»: Драматычны этуд у 6 малюнках. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1930.

Дзейныя асобы (характарыстыкі аўтара п'есы): «*а. Пётра* — год 50–55. Высокі, сухі, але жылаваты. Цёмны жорсткі волас, падстрыжаны да плечаў. Густая барада і вусы. Твар аскета; пахмурны. Апрануты ў чорнае; *Міна* — год 55. Кражысты. Твар зрэзаны зморшчкамі; кароткая круглая барада. Волас ледзь з сівізнай. Апрануты пагаспадарску; *Адам* — год 30–35. Высокі, гнуткі, але ў касці шырокі. Волас светлы; сярэдняга памеру вусы; барада галёная. Далікатны, лісліві, апрануты з прэтэнзіяй на шляхоцкасць; *Сымон* — год 30—35. Высокі, худы, учарнеўшы, у грудзях вузкі, светлы шатэн, даўно

няголены. Голас сіплы. Апрануты бедна, у лапцях. Жыжка ў кашулі адарвалася, грудзі расхрыстаныя, хаця яшчэ і вельмі ранняя вясна. Задуменны. Калі гаворыць, глядзіць некуды ўсцяж перад сабою; *Цімох* — камсамолец, год 20. На левым воку бяльмо. Волас светлы, падстрыжаны пад машынку, але даўно. У руках нязграбны. Апрануты ў чорныя парцяныя штаны на выпуск. Старая світка расшпіленая, і з-пад яе відаць выцвілая паркалёвая кашуля без пояса. Высокі. На галаве старая кепка; *Луцэя* — жанчына год 40, крыклівая, з'ядлівая. Брудная хустка на галаве, з-пад яе выбіваюцца брудна-папялістыя валасы. Апранута ў стары кажушок, андарак і лапці; *Дарацея* — дачка Луцэі. Дзяўчына год 17—18. Досыць прыгожая. Апранута бедна, але чыста. Спадніца з крамніцы; *Мірон* — год 35–40. Маленькі, суханькі, але жылаваты. Рухавы. Волас мае цёмна-каштанавы; невялікія вусы, барада няголеная з тыдзень. Апрануты бедна, але кожны лапік на месцы, — шматы не матаюцца; іншыя персанажы» (с. 3–4).

### *Камедыя пачуццяў (с. 463)*

Урывак друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1933, 9 ліп., дзе апублікаваны ўпершыню.

## *БАРЫС ІОФЕ*

### *Літаратуразнаўства*

### *Паэма «Тарас на Парнасе» (с. 471)*

Артыкул друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 7, дзе апублікаваны ўпершыню. Перадрукоўваецца ўпершыню.

Асобныя цытаты ўдакладнены паводле выд.: Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя / Склад. і аўт. камент. А. А. Лойка і В. П. Рагойша. Мінск: Выш. шк., 1988.

Вядомы даследчык беларускай літаратуры XIX ст. Г. Кісялёў піша, што «рэдакцыя часопіса, магчыма, нават і не ведала, што аўтару гэтых сталых прац усяго 22 гады. Барыс Іофе быў родам з магілёўскіх Горак, ведаў як свае пяць пальцаў усе куткі і ўсе паданні роднага гарадка, адкуль, па сведчанні Раманава, выпырхнула цудоўная жар-птушка беларускай паэзіі — паэма «Тарас на Парнасе». З гэтага, відаць, і загарэлася ў юнака цікавасць да загадкавай паэмы» (*Кісялёў Г.* Пошукі імя. Мінск, 1978. С. 54). У розны час аўтарства паэмы «Тарас на Парнасе» прыпісвалася розным аўтарам: В. Дуніну-Марцінкевічу, В. Равінскаму, І. Манькоўскаму, А. Вярыгу-Дарэўскаму, студэнтам Горы-Горацкага земляробчага інстытута, Я. Крупеньку, Ф. Тапчэўскаму. Літаратуразнаўца Г. Кісялёў называе найбольш верагодным аўтарам «Тараса на Парнасе» Канстанціна Вераніцына, які ў мінулым быў студэнтам Горы-Горацкага земляробчага інстытута (скончыў у 1859 г.). Яму ж прыпісваюць аўтарства і паэмы «Два д'яблы». У сваіх высновах Г. Кісялёў абапіраецца на матэрыялы А. Рыпінскага, у якіх значыцца прозвішча

К. Вераніцына, а таксама дата і месца напісання твора: *1855, 15 красавіка, Гарадок*. Цяпер існуе новая версія адносна аўтара паэмы: ім называецца Ялегі Вуль, які вучыўся разам з К. Вераніцыным у Віцебскай гімназіі. Аднак праблема аўтарства па-ранейшаму застаецца адкрытай.

Даследчыцкая заслуга Б. Іофе ў тым, што ён, па словах І. Багдановіч, «прыйшоў да важнай высновы аб тым, што рэдакцыя твора, прыведзеная М. Доўнар-Запольскім для абгрунтавання сваіх вывадаў (Доўнар-Запольскі прыпісваў аўтарства паэмы В. Дуніну-Марцінкевічу), аказваецца дрэнным варыянтам «Тараса» і ніяк не можа прэтэндаваць на аўтарскі тэкст» (Багдановіч І. Э. Іофе Барыс // Беларускія пісьменнікі: Біябібліягр. слоўнік: У 6 т. Мінск, 1994. Т. 3. С. 18).

***У истоков белорусской литературы (с. 484)***

Друкуецца паводле выд.: Ліўшыц У. М. Даследчык беларускай літаратуры: Кароткі нарыс аб жыцці і творч. літаратуразнаўца Б. Іофе. Орша, 1999. С. 20, дзе ўпершыню апублікаваны ўрыўкі з гэтай навуковай працы. Рукапіс захоўваецца ў фондах Горацкага гістарычна-этнаграфічнага музея (Кп. 3465. Сп. 372). Варыянт артыкула знаходзіцца ў літаратуразнаўца Г. В. Кісялёва.

***Лірычная паэма Купалы «Яна і я» (с. 489)***

Артыкул друкуецца паводле час. «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 12, дзе апублікаваны ўпершыню.

Працытаваны Б. Іофе тэкст паэмы зверany і ўдакладнены паводле выд.: Купала Я. Поўн. зб. тв.: У 6 т. Мінск: Маст. літ., 1999.

## ***У вянок памяці***

***Уладзімір Ліўшыц***
***Абараняючы Радзіму (с. 495)***

*Ліўшыц Уладзімір* Майсеевіч (нар. у 1946 г.) — краязнавец, даследчык гісторыі літаратуры, педагог, кандыдат філасофскіх навук (1980), дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея.

Друкуецца паводле выд.: Ліўшыц У. М. Даследчык беларускай літаратуры.

## ***САРА КАГАН***

### ***Паэзія***

***Радзіма (с. 501)***

Друкуецца паводле газ. «Звязда», 1938, 12 кастр., дзе апублікаваны ў перакладзе на беларускую мову (пераклад А. Жаўрука).

***Сябе маладзей адчуваю… (с. 503)***

Надрукаваны ў выд.: Каган С. Мая Радзіма / на ідыш. Менск: Дзяржвыд. БССР, 1938. С. 20, адкуль з падрадкоўніка перакладзены на беларускую мову Р. Барадуліным спецыяльна для гэтага выдання.

**Сустрэча (с. 504)**

Надрукаваны ў выд.: Мая Радзіма / на ідыш. С. 18, адкуль з падрадкоўніка перакладзены на беларускую мову Р. Барадуліным спецыяльна для гэтага выдання.

## Проза

**У гасцях (с. 505)**

Друкуецца паводле выд.: Каган С. Апавяданні / Пер. з ідыш З. Бядулі. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1940. С. 3.

Апавяданне друкавалася на беларускай мове ў час. «Работніца і калгасніца Беларусі», 1939, № 18, 19.

## У вянок памяці

**Рыгор Рэлес**
**Сара Каган (с. 521)**

Успаміны друкуюцца паводле аўтарскага рукапісу ў перакладзе з рускай мовы, зробленым А. Бельскім.

Упершыню: Фолкс-Штымэ (Народны голас). 1975. 2 жн., да 80-годдзя з дня нараджэння С. Каган.

# ЭЛЯ КАГАН

## Проза

**Свежае сена (с. 525)**

Друкуецца паводле выд.: Каган Э. Маем зялёным: Апавяданні / Пер. з ідыш Я. Скрыгана. Мінск: Маст. літ., 1979. С. 21.

**Ад вясны да восені (с. 528)**

Друкуецца паводле выд.: Маем зялёным. С. 35.

Апавяданне друкавалася ў перакладзе на рускую мову ў газ. «Рабочий», 1929, 13 жн.

**Маем зялёным (с. 531)**

Друкуецца паводле выд.: Маем зялёным. С. 40.

Упершыню: Штэрн. 1929. № 8–9.

**Тры прыступкі (с. 540)**

Друкуецца паводле выд.: Маем зялёным. С. 72.

Упершыню: Штэрн. 1934. № 12.

**Локшынка ў барадзе (с. 543)**

Друкуецца паводле выд.: Маем зялёным. С. 82.

**Мае манеўры (с. 545)**

Друкуецца паводле выд.: Маем зялёным. С. 86.

### *Апавяданне для дзяцей*

### *Дружная сямейка (с. 549)*

Друкуецца паводле выд.: Каган Э. Дружная сямейка: Апавяданне / Пер. з ідыш З. Бядулі. Мінск: Дзяржвыд. БССР, 1940.

Пераклад гэтага апавядання на беларускую мову ўпершыню быў надрукаваны ў час. «Іскры Ільіча», 1939, № 4.

### *Лісты (с. 554)*

Друкуюцца паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў БДАМЛіМ (Ф. 191, воп. 1, адз. зах. 349).

Адрасаваны М. Лынькову ў перыяд з верасня 1942 па студзень 1944 г.

*Лынькоў Міхась* (Міхаіл Ціханавіч; 1899–1975) — народны пісьменнік БССР (1962), акадэмік АН БССР (1953), лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

1 ліст ад 19 верасня 1942 г.:

[1] *Эрэнгрос* у даваенныя гады быў адказным рэдактарам газеты «Акцябэр» («Кастрычнік»).

Р. Рэлес у кнізе «В краю светлых берез» (1997) піша пра той час і Эрэнгроса, у прыватнасці, наступнае:

«С арестом ведущих еврейских писателей и критиков создалось впечатление, что тут дело не только в ликвидации неугодных кому-то людей, хотя не понятно было, кому они неугодны и за что, но только этим не обойдется. Не является ли это началом ликвидации всей еврейской культуры и ее творцов…

Газета «Октябрь» и журнал «Штерн» продолжали выходить. Правда, назначили главным редактором газеты некого Эренгроса, который не знал языка идиш. Читать, писать на этом языке совершенно не умел. А летучки в редакции он проводил примерно так:

— Товарищес, мы начинаем ды очередная летучке. А слово вет имеен дэр товарищ Бляхер» (с. 326–327).

[2] *Гурнштэйн* Арон Шэфтэлевіч (1895–1945), яўрэйскі крытык і літаратуразнавец.

[3] *Вінер* Меер (1893–1941), гісторык літаратуры, празаік.

[4] *Росін* Самуіл (Шмуэль) Ізраілевіч (1890 ці 1892–1941), яўрэйскі паэт, загінуў у гады вайны, пражыў 51 год, родам з в. Шумячы Клімавіцкага раёна.

[5] *Годзінер* Самуіл (Шмуэль) Давідавіч (1892–1942), яўрэйскі празаік, нарадзіўся ў м. Целяханы былой Мінскай губерні.

[6] *Кучар* Алесь (Айзік Евелевіч; 1910–1996), крытык, драматург.

2 ліст ад верасня 1942 г.:

[1] *Галаўчынер* Віктар Якаўлевіч (1905–1961), рэжысёр, народны артыст БССР і Літоўскай ССР, у 1942–1946 гг. быў мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра БССР.

[2] *Платнер* Ісак (Айзік Хаімавіч; 1895–1961), яўрэйскі пісьменнік.

[3] «*За свабодную Беларусь*» — франтавая газета, якая выдавалася ў 1942 г.

[4] *Аксельрод* Зэлік Майсеевіч (1904–1941), яўрэйскі паэт, быў арыштаваны органамі НКУС 30 мая 1941 г., на пачатку вайны расстраляны.

[5] *Даўгапольскі* Цодзік Львовіч (1879–1959), яўрэйскі пісьменнік, родам з м. Гарадок Віцебскай вобласці.

[6] *Бярозкін* Рыгор Саламонавіч (1918–1981), літаратурны крытык, напярэдадні вайны, у красавіку 1941 г., быў рэпрэсаваны, яму пашчасціла застацца жывым, ўратаваўся тады, калі з набліжэннем гітлераўскіх войскаў калону зняволеных вывелі з турмы на расстрэл. Пайшоў добраахвотна на фронт, быў паранены, у 1949 г. арыштаваны другі раз.

[7] *Дабрушын* Хескель (Іяхескель) Майсеевіч (1883–1953), яўрэйскі літаратурны крытык, драматург, паэт, празаік.

[8] *Мальцінскі* Хаім Ізраілевіч (1910–1986) — яўрэйскі пісьменнік.

[9] *Цялесін* Зяма (Зіновій Львовіч; 1907–1996, Іерусалім), яўрэйскі паэт, родам з г. Калінкавічы.

3 ліст ад 7 кастрычніка 1942 г.:

[1] *Фефер* Ісаак (Іцык) Саламонавіч, яўрэйскі паэт і публіцыст.

[2] «Эйнікайт» («Адзінства») — яўрэйская газета, якая выходзіла ў гады вайны.

[3] *...где В<аш> брат?* — Маецца на ўвазе брат М. Лынькова Рыгор, які выступаў пад псеўданімам Рыгор Суніца (прапаў без вестак на фронце ў 1941 г.).

6 ліст ад 4 снежня 1943 г. мае зваротны адрас: *Полевая почта 70503,* на ім зроблена пазнака: *Просмотрено Военной Цензурой 15277.*

У 7 лісце ад 21 студзеня 1944 г. маецца прыпіска на беларускай мове: *Палкае прывітанне таварышу Міхасю Лынькову ад Кохана Яўхіма. 24.I. 44 г.*

### *У вянок памяці*

### *Рыгор Рэлес*
### *У памяці сяброў і чытачоў (с. 559)*

Успаміны друкуюцца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1969, 7 лют., дзе апублікаваны ўпершыню, да 60-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

***Мікола Хведаровіч***
***Загінуў у баях за Радзіму (с. 560)***

*Хведаровіч Мікола* (Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904–1982) — беларускі пісьменнік.

Артыкул друкуецца паводле газ. «Літ. і мастацтва», 1979, 9 лют., дзе апублікаваны ўпершыню, да 70-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

Змест

C 89 **Скрыжалі памяці:** З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. У 3 кн. Кн. 1 / уклад., уступ. слова, біягр. давед. пра аўт. і камент. А. Бельскага; уступ. арт. В. Бечыка; паэт. сл. Р. Барадуліна. — Мн.: Бел. кнігазбор, 2005. — 608 с.
ISBN 985-504-014-7.

«Скрыжалі памяці» — зборнік твораў пісьменнікаў, чые жыцці забрала Другая сусветная вайна. Вернуты з забыцця асобныя імёны, уключаны многія вершы і апавяданні, расшуканыя ў архівах і на старонках даваеннай перыёдыкі. Змешчаны таксама ўспаміны і вершы, прысвечаныя памяці герояў і ахвяраў вайны. Кожны з пісьменнікаў, хто загінуў у полымі ваеннага ліхалецця, не паспеў да канца рэалізаваць свой талент, здзейсніць творчыя задумы, дапяваць сваю песню. Але і тое, што ацалела з іх творчай спадчыны, вартае, каб застацца ў гісторыі літаратуры і культуры Беларусі.

Выданне прысвячаецца 60-годдзю Вялікай Перамогі над фашызмам.

**УДК 821.161.3.09(092)+821.161.3-8**
**ББК 83.3(4 Беи)+84(4 Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# Скрыжалі памяці

*З творчай спадчыны пісьменнікаў Беларусі,*
*якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны*

*У трох кнігах*

*Кніга першая*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Бельская*
Камп'ютэрны набор *Я. Нікалаенка*
Вёрстка *Т. Вінярская, Л. Ваўчок*
Карэктары *А. Бельская, Н. Давыдзенка*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 17.07.2005.
Ôàðìàò 84õ108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. 31,92 арк. Ул.-выд. 25,8 арк.
Наклад 1000 асоб. Зак. 1758.

МГА «Беларускі кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0056929 ад 1.04.2004 г.
220034, Мінск, вул. Фрунзе, 5.
тэл/факс: (017) 200-70-27,
E-mail: kniha@bk.lingvo.minsk.by
http://knihazbor.cjb.net

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.